# Піліп Пестрак

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

# Піліп Пестрак

ТОМ

2

## СУСТРЭНЕМСЯ НА БАРЫКАДАХ

Раман

КНІГА ПЕРШАЯ

Рэдактар тома
В. А. КАВАЛЕНКА

Падрыхтоўка тэксту і каментарыі
К. В. ПІЛІПОВІЧ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## Раздзел першы

## ПАСЛЯ ЗВАРОТУ

Гэтая самая бяроза, здаецца, амаль не пабольшала за сем год. Цяпер цёмная, ветраная ноч ахінае яе, ноч позняй восені, поўнай глушы і адзіноцтва. Патрэскваюць галіны бярозы ў шумным ветры. Так вось і стаіць яна на жвіровым прыгуменні пры вуліцы, аголеная ад лісцяў, бедная на галіны, нагінаецца ў цемры, а як выпростваецца — тады завострыцца сілуэтам яе верхавіна. Толькі дзве ніжнія галіны значна патаўсцелі, сталі даўжэйшымі: адна з іх звесілася цераз плот на вуліцу, а другая — на прыгуменне.

Андрэй Касцевіч глядзіць праз акно на бярозу, і яму здаецца, што гэтыя дзве галіны, як рукі асілка, выцягнуліся ў роспачы, скіраваныя ў даль цёмнай ветранай ночы. Не спіцца Андрэю. Вось ужо трэці дзень, як ён з сям'ёю вярнуўся з бежанцаў, з Паволжа, дзе яны пражылі сем год, пачынаючы з чатырнаццатага года — з пачатку вайны. Сустрэлі іх на радзіме палеткі, зарослыя густым беразняком, някошаныя, замшэлыя сенажаці, прыдарожныя крыжы на ваенных магілах, пустыя хаты без вокнаў і дзвярэй і дзе-нідзе худыя людзі, заглушаныя адзіноцтвам і немаччу. Людзі таксама вярнуліся з бежанцаў — хто раней, хто пазней...

Не спіцца Андрэю. Жарынкаю бліщчыць у яго руцэ папяроса. Думкі больш ідуць у мінулае, бо наперадзе пакуль

што ноч, глуш і нешта чужое, страшэнна непрыемнае. Яшчэ па дарозе, калі спыніліся ў Баранавічах, Андрэй бачыў, як здаравенны паліцыянт з доўгімі пясчанага колеру вусамі расчышчаў дарогу для праезду прыкладам вінтоўкі. Людзі душыліся ў сціску, уцякаючы. А паліцыянт крычаў над натоўпам:

— Дрога мусі быць тутай до язды!

І Андрэй зразумеў, што гэта — Польшча. І на момант чужою стала свая радзіма, такою беспрасветнай, загнанай і маўклівай. Думаў, ці не можна было б павярнуць назад за мяжу, дзе людзі адзін аднаго называюць таварышамі.

Але пасля перанесенага тыфу ён яшчэ слабы. І ў вагоне бацька, хворыя — сястрычка, два браты і маці. Яны ў дарозе дахаты, едуць з Паволжа, дзе пачаўся голад. Ва ўсіх у душы цікавасць да родных мясцін, так даўно не бачаных. Гэтая цікавасць ёсць і ў Андрэя. Але што будзе з яго пацёртай студэнцкай шапкай з сінім аколышам, што будзе з яго маладых прыгожых мар? Ужо цяпер адчувае Андрэй, што гэтыя мары гінуць, як глухое асенняе рэха ў лесе. Паглядзець родныя мясціны і вярнуцца назад...

Вось з такою думкай і глядзіць Андрэй у цёмную ноч, глядзіць на бярозу, якая выцягвае ў роспачы свае дзве вялікія галіны, як асілак рукі. Значыць, знойдзен пункт апоры — вярнуцца назад. Не думаў Андрэй, што гэты пункт апоры за дваццаць год жыцця пад панскай Польшчай вырасце ў ім у велізарную сілу, як вырастае галінасты дуб, ускормлены сокамі зямлі, якога не адолеюць ні ветры, ні буры.

Папяроса скурылася, і стала сумна. У хаце чулася гарачае дыханне хворых дзяцей. Кашлянуў бацька за печкай і ўрэшце ўстаў і выйшаў на сярэдзіну хаты.

— Ты не спіш, Андрэй?

— Не, штосьці не хочацца...

Прысеў і пачаў круціць папяросу.

— І мне штосьці не хочацца...

Запала доўгая паўза. Бацька пайшоў шукаць агню на прыпеку. Андрэй чуў, як мякка ступалі яго босыя ногі па земляной падлозе хаты, як разгортваў попел, прыкурваў ад вугольчыка,— чакаў, што скажа ён, стары чыгуначнік, які так многа пабудаваў дарог у Расіі, пачынаючы ад Мінска і канчаючы Сібір'ю, Далёкім Усходам. Вяртаючыся з бежанцаў дахаты, ён марыў аб добрай гаспадар-

цы. Жыла ў ім цяга да роднай сялібы. Можа таму яна і паглыблялася, што жыццё сваё бацька правёў на колах, заўсёды ў руху, вечна далёка ад сваёй сялібы і сям'і. Наблізілася старасць — захацелася адпачынку. Дык дзе ж найпэўней адпачыць, як не на тых прасторах, дзе нарадзіўся і вырас? Аднаго бацьку найбольш цягнула дахаты. Маці пратэставала, бунтавалася, не хацела, бо родная сяліба для яе была найбольшым жыццёвым прыгнётам у заўсёднай беднасці і непасільнай працы. Маці была рэалістка, бацька — рамантык. Маці, якая за сваё жыццё на радзіме не была далей свайго валаснога мястэчка, убачыла далёкі свет, пазнала, што ён вельмі шырокі, проста бяскрайні, што на гэтым свеце ёсць іншая зямля, чым дома. На той іншай зямлі ўсё буйна родзіць, не патрабуючы гною. Людзі там ядуць белы пшанічны хлеб, на палях апрача пшаніцы рассцілаюцца цэлыя лясы сланечніку, палеткі кавуноў, дыняў, агуркоў, гарбузоў, памідораў. І гэта ўсё было там, на Паволжы.

— Я ніколі не паеду дахаты,— гаварыла маці.— Нідзе, мусіць, такой нетры няма, як у нас.

І гэта праўда. Пасее там чалавек пуд проса, а збярэ дваццаць пяць. Вядро малака — кожны ўдой у каровы.

— Не, у нас гэтага не было ніколі... і не будзе. Замучыла мяне за жыццё гэтая «свая» хата. Няхай яна там праваліцца...

Так гаварыла маці. Бацька ўсміхаўся ў вусы і думаў сваё. Праўда, і ў яго часам прабягалі цені па твары. Задумваўся перад аргументамі маці. Але потым твар праясняўся, і хвіліна задумы змянялася бадзёрасцю:

— Нічога... яшчэ зажывём і дома... Пчол завядзём... сад...

— Наемся я мёду ад тваіх пчол... якраз... Пакуль дабʼешся тых пчол, ногі выцягнеш...— па-свойму, па-жаночаму гаварыла маці.

Такая гутарка была частай. Але вось насунуўся, як грозная хмара, на Паволжа голад... Бежанцы рушылі на захад. Што ж было рабіць Касцевічам?

Заставалася толькі ехаць. Маці была ў задуме, а бацька рухава клапаціўся па справах адʼезду.

І вось ужо трэці дзень як дома. У хаце няма хлеба. Хворыя дзеці. Пустыннасцю патыхае вёска. І такія незвычайна цёмныя і цяжкія ночы. Нездарма гэтая бяроза такая адзінокая і бедная.

Бацька курыў з прагнасцю і пакашліваў. Нешта кар-

цела яму на душы, бо пакашліваць стаў часцей, як быццам нясмела і з пачуццём нейкай віны збіраўся штосьці сказаць.

— Трэба заўтра пайсці да Мікіты... можа, пазычыць крыху бульбы. Яны ўжо даўно вярнуліся — маюць...

І зноў запала маўчанне. Андрэй глядзеў, як мігцела папяроса ў руцэ бацькі, як паволі яна патухала, а пасля зноў бліскала ў зубах, і адчуваў, што вялікі цяжар ляжыць на сэрцы бацькі. Адчуваў, што яго думкі і пачуцці патухаюць, меркнуць у шуканні невядомай дапамогі, як гэтая папяроса ў цемры,— шукаюць ратунку. Адчуваў, як пасля загараліся гэтыя думкі і пачуцці, калі знаходзілі нешта надзейнае, хоць можа ілюзорнае.

— Дзям'ян казаў учора,— хамут прынясе паладзіць... Дасць якую жменю гароху...

Папяроса бліснула ад зацяжкі, аж іскры пасыпаліся, і Андрэй убачыў апушчаныя вусы бацькі на худым, змучаным твары.

Вецер свістаў ля акна, і чуваць быў шоргат галін бярозы, што з тупым гукам біліся адна аб адну ў цемры.

— Але ж і вецер...— сказаў бацька.— І канца няма гэтай ночы... Хутчэй бы развіднела, а то...

Бацька не скончыў. Што хацеў сказаць пасля «а то», прайшло па хаце стрыманым уздыхам, за якім адчуваўся стогн.

— Сядзі не сядзі, а трэба неяк даспаць да ранку. Кладзіся і ты,— звярнуўся ён да Андрэя,— чаго так марнавацца?..— І, апёршыся аб рог стала рукою, збіраўся ўстаць, каб ісці за печку. Але ў гэты момант загаварыў Андрэй:

— Тата...

— Чаго? — адказаў бацька, сядаючы зноў на лаву.

— Я вось думаю, трэба збірацца назад у Савецкую Расію... Ну, што я тут буду рабіць?.. Вучыцца далей я тут не змагу, а вучыцца трэба...

Бацька адказаў не адразу. Пачухаў за вухам рукою, уздыхнуў цяжка.

— Ну, што я табе, сынку, магу сказаць? Адно мне здаецца, што нялёгкая гэта справа ўцячы назад... А падругое,— нас пакінеш... адных... Яно, вядома, тут не тое... Ого, не... Тут не тое...— закруціў галавою бацька.

Пасля кароткага маўчання працягваў:

— Што ты зробіш... Што ты зробіш... Куды ні кінь, усюды клін... Пачакаем крыху, разгледзімся, як што тут...

Уцячы туды яшчэ паспееш...— Сказаўшы гэта, устаў.— Не мучай сябе думкамі, кладзіся спаць... Хоць бы і можна было ўцячы, ты яшчэ слабы пасля тыфу, трэба паздаравець... Кладзіся...— сказаў урэшце бацька і як здань падаўся за печку.

Андрэй толькі цяпер сапраўды адчуў стому ад бяссоння і, паглядзеўшы хвіліну яшчэ ў акно, лёг тут жа на лаве, на пасланы сяннік.

Лежачы, горка ўсміхаўся пры ўспамінах аб днях, што засталіся там, у мінулым, і якія адгарадзіла ад яго назаўсёды вось гэтая асенняя доўгая ноч.

Ноч... Усякія былі ночы, але там, у мінулым, былі ночы маладосці, незабыўныя ночы. Яны вось хлынулі ў душу цяпер, як знарок, і ўсмешкамі многіх, многіх — тых, якія былі блізкімі, вабяць з далёкай светласці. Горка ўсміхаецца Андрэй, чуючы спеў сярод іншай ночы — ціхай і ласкавай:

Сияла ночь... Луной был полон сад...

Нешта здрыганулася ў грудзях, і ў адказ зноў горкая ўсмешка расплылася грымасай па твары.

— Якое глупства... Пры чым тут гэты сад? Які тут сад?.. Добра ім там смяяцца з мяне...

Дышала ночь восторгом сладострастья...

Ну, так — чуў некалі... Гэта было ў сяле. Яна стаяла пад таполяю на самай высокай жэрдцы плота, калі іменна «дышала ночь», і спявала, трымаючыся за галіну таполі. Яшчэ тады я казаў ёй, як шчасліваму прывіду, зляцеўшаму з неба, што не люблю гэтай песні — вельмі патыхае мяшчанствам. І прасіў праспяваць другую. Вера, дзе ты? Я ведаю дзе... Відаць, сядзіш над кнігай у сваёй маленькай каморцы і пільна ўглядаешся ў літары, у словы. А заўтра, як заўсёды, на вуліцы чакаеш трамвая, каб паспець на лекцыі... Не раз вось так бачыў цябе яшчэ здалёк, як ты стаіш з рыдыкюльчыкам у адной руцэ і з кніжкамі ў другой, у шапачцы курсісткі з карціны Ярашэнкі. Вецер туліў плацце да тваіх ног... Прыйдзі і паглядзі вось на нашу ноч... Можа, прадэкламуем тады разам, як любілі гэта рабіць там:

Ах ты, ночь ли ноченька,
Ах ты, ночь ли бурная,
Отчего ты с вечера
До глубокой полночи...

Вецер свістаў за акном, нешта глуха стукала ў сцяну, з тупым гукам біліся галіны бярозы адна аб адну... Андрэй напаў на мелодыю «ночэньки» і ў думках паўтараў,— гэта здалося яму адпаведным да настрою, да гэтай ночы... Паволі авалодвала супакаенне. Вочы пачалі заплюшчвацца, і толькі абрыўкі слоў даходзілі да свядомасці ў поўнай бязладзіцы. Тут былі і ноч, і павіслыя вусы бацькі на худым змучаным твары, з-пад якіх вылятала і даносілася тужлівым шэптам да вуха: «Мікіта... Дзям'ян... жменя гароху... бульба...»

## ДЗІКАЯ ЦІШЫНЯ

Ціхім крокам ішоў Андрэй праз сваю родную вёску. Быў шэры дзень, ужо напоўнены подыхамі недалёкай зімы. Ступіць Андрэй пару крокаў і спыніцца, каб паглядзець у абодва канцы вёскі, праверыць, ці тыя самыя профілі вуліцы, якія засталіся ў памяці яшчэ з дзяцінства. Здаецца, што тыя самыя,— вунь чарада ліп, там, у аддаленні, дзе вуліца крыху павярнулася ўправа, толькі ліпы значна падраслі. Гэта ліпы таго самага Мікіты, аб якім успамінаў бацька і які мае пазычыць бульбы. А за ліпамі хутка і канец вёскі. Тут вочы ўпіраюцца ў недалёкае ўзвышша, якое градою праходзіць уздоўж балоцістай даліны за выганамі і ахоўвае вёску ад паўночных вятроў. Там, над градою, плывуць беспрытульныя, халодныя хмары. А вось, як глянуць на поўдзень, карціна больш прыемная. Тут жа, за бродам, у канцы вёскі, на высокай гары маячаць старыя гонкія сосны, якія выглядаюць здалёк, як курганная кветка, і, здаецца, затуляюць выхад з вёскі. Туды і ідзе Андрэй павольнай хадою.

Цішыня ў вёсцы. Гэтую цішыню можна было б назваць дзікай. Адсутнасць чалавека доўгі час дала волю сілам прыроды: па-за гумнамі на колішніх палетках сцяною стаяў непралазны, густы бярэзнік, цяпер ужо без лісцяў. Хаты... Дзіўнымі здаюцца Андрэю хаты. Яны асунуліся, паўрасталі ў зямлю без догляду чалавека — без вокнаў, без дзвярэй, з выдранымі дзе-нідзе сценамі, са стрэхаў жмутамі вісіць салома, сарваная нелюдзімымі вятрамі. Свеціць рэбрамі драбёст. Хаты для Андрэя нечакана здаюцца вельмі маленькімі. Вокны... Ну, што гэта за вокны? Андрэй правёў сваю маладосць у памяшканнях з вялікімі вокнамі і ніколі не чакаў, што на свеце могуць быць

у хатах такія малыя вокны. Нават ва ўспамінах там, на Паволжы, вокны родных хат яму здаваліся большымі, бадай нармальнымі. А цяпер вось, убачыўшы іх, ён ніяк не можа сабе паверыць, што гэта вокны, праз якія глядзела на свет яго дзяцінства. Можа, гэта падман зроку? Не, гэта праўда, голая, жывая праўда. Думкі Андрэя пайшлі да шукання абагульненняў. Якім жа можа здавацца чалавеку свет з такога акна?

І Андрэй упершыню адчуў, як у грудзях заварушыўся боль, і здалося, што з гэтым болем ён ужо недзе быў знаёмы.

Паволі прыходзілі ў яснасць, у парадак дагэтуль не асэнсаваныя, бязладныя думкі. Што за хаты? За хатай — сенцы, за сенцамі — хлявы. Усё пабудавана з тонкіх, кароткіх бярвенняў — па сутнасці, налеплена адно на другое і адно да другога, і ўсё схавана пад саломай страхі. Вось вам і быт, над якім (як засталося ў памяці) імжыць асенні дождж з нізкіх цяжкіх хмар. Па спіне Андрэя прабеглі мурашкі — ён адчуў, як невясёлыя думкі з дзяцінства знаёмым пачуццём кранулі сэрца. Стала на момант непрыемна, беспрытульна па-даўняму. Падворкі пустыя, зарослыя травою, садовыя дрэвы паламаны, а дзе павысяканы, толькі тарчаць з травы пянькі — агузкі ад вішань і сліў і тоўстыя пні ад зрэзаных пілою груш. Між падворкамі і вуліцай няма розніцы: усё зарасло травою. Толькі па вуліцы збоку пратаптана сцежка, а пасярэдзіне ледзь прыкметна праезджаны каляіны. Дзіка і дзіўна — нават і варон няма. Праляціць над вёскай адзінокая птушка — павольна, як быццам знясіленая. І не адгадаеш, што гэта за птушка — не то заблудная варона, не то каршун, які прыляцеў сюды здалёку.

Цішыня сапраўды дзікая: не чуваць ні спявання пеўняў, ні бляяння авечак, ні мыкання кароў, ні ржання коней. Толькі ў тым канцы вёскі, дзе стаіць чарада ліп, пачуўся брэх сабакі. «Гэта не іначай сабака Мікіты»,— падумаў Андрэй. І гэты брэх, як прарваўся, так і хутка, раптоўна заціх,— мусіць, і сабака адчувае прыгнёт глушы. На вуліцы — пуста, і толькі ў аддаленні Андрэй убачыў жаночую постаць, якая, трымаючы рэшата перад сабою, ішла яму насустрач. Жанчыне год пяцьдзесят. Андрэй не мог адарваць вачэй ад яе твару з сінімі падцёкамі пад вачыма. Невыразнага колеру вочы схаваліся ў шматлікіх маршчынах. Толькі з глыбіні іх, як з цёмнай студні вада, даходзіў жывы бляск, пакутліва-насцярожаны. У рэшаце

была чорная мука. На запытанне Андрэя: «Што гэта?» — жанчына адказала: «Мука з сушаных картапляных лупін і лебяды... Хадзіла вось да суседкі таўчы ў ступе...» — і нібы спалохана агледзела Андрэя з галавы да ног, Андрэй адчуў, як быццам яго хто мацае пальцамі. Твар жанчыны ажывіўся цікавасцю, і на вуснах з'явілася ўсмешка, а затым зноў зрабіўся востра напружаным, сур'ёзным.

— Чый жа ты? — урэшце не вытрымала жанчына, крыкнуўшы так, як быццам штосьці знайшла.

— Адгадай, цётка...— жартуючы, сказаў Андрэй.

— Вось я і гляджу і ніяк не магу здагадацца... Ці не будзеш сын Сцяпана Касцевіча?

— Так... адгадала, цётка,— усміхнуўся Андрэй.

Цётка паківала крыху галавою ў задуме і прамовіла:

— Божа, божа... як павырасталі людзі... не пазнаць. Помню, хлапчуком бегаў за каровамі, а цяпер...

— Самі даўно прыехалі?..— спытаўся Андрэй.— Вы, мусіць, цётка Таццяна Ціханчук?

— Ага, я, я... Прыехалі мы на месяц раней за вас, ды вось пакутуем — з голаду ніяк не выберамся. Вось і гэта людзі далі,— паказала цётка Таццяна на тоўчаныя лупіны ў рэшаце.

Андрэй сустрэўся з цёткай Таццянай у самым нізкім месцы вёскі, дзе з палёў упоперак вуліцы праходзіла халодная тарфяная даліна — «жыла», як называлі сяляне, і ішла далей праз агароды на лугі, аж да недалёкай рэчкі. Людзі называлі гэтую даліну і «жылай», і «сіповінай», і «нетрай», бо на вуліцы ў гэтым месцы была вечная гразь. Асабліва гэта было ўвосень, калі імжылі штодзённыя дажджы. Людзі помняць усялякія здарэнні, якія адбываліся ў гэтым месцы, як ламаліся колы, трапляючы ў глыбокія западзіны між каменняў на дне разбоўтанай гразі, як коні ламалі ногі, як пераварочваліся вазы з сенам ці збожжам. А было яшчэ і так, што муж Таццяны Ціханчук Дарафей, вяртаючыся некалі ўночы з карчмы п'яны, прамінуў сваю хату і пайшоў на цёмны бляск «жылы». Апіраючыся аб плот, уваліўся ў гразь, мала таго, сеў у ёй і пачаў крычаць: «Людзі, ратуйце, чэрці водзяць!..» Ды ці толькі з Дарафеем гэта было?

Тут жа стаяла хата Дарафея — пярэднімі вугламі ў самым балоце. Яна выглядала як згорбленая, сляпая бабка, якая пахіла стаіць, апёршыся на кій, у нейкай змрочнай задуме. Над хатаю некалі ўзвышаліся старыя грушы — цяпер іх няма. А хата ўсё глядзіць адным акен-

цам, напалову заткнутым анучамі, на халодны, у крывавых водблісках захад сонца. Цяпер у «жыле» гразі няма — «жыла» зарасла зялёнай сакавітай травою, але топкасць усё роўна адчувалася пад нагамі. Гніла даліна вякамі і гнаіла людзей, а цяпер трава заўладала ёю.

— Ці жывы дзядзька Дарафей? — спытаўся Андрэй.

— Няма, саколік, прыехаўшы памёр...— і цётка Тацяна пачала выціраць вочы канцамі хусткі,— пахавала, саколік, нават труны не было з чаго зрабіць... Так вось і паклалі ў магілу, у сырую зямельку.

— А дзеці як?

— Дзякаваць богу, жывыя, але хварэюць... ды есці няма чаго... Бог ведае, што будзе. Самі, мусіць, хварэлі? — спыталася, прыглядаючыся пільна да Андрэя, цётка Тацяна.— Бо выглядаеце белы, як вымачаны...

— Усяго было, цётка,— адказаў Андрэй.

— А што ж... перажылі людзі, зазналі гора... дый канца яму няма... гэтаму гору...

Цётка Тацяна развіталася з Андрэем і накіравалася да сваёй хаты. Андрэй паглядзеў ёй услед, як яна ішла па халоднай зямлі босымі нагамі з парэпанымі пятамі, і падумаў: «Моцныя бываюць людзі на свеце... Пакута сталася тут прывычкай, як быццам звычайнай з'явай... Пражыць жыццё ў балоце, адведаць свету на некалькі год і зноў вярнуцца ў халодную вільготную гразь...»

Хоць невясёлы, цяжкі дзень і час, але Андрэй, сам не ўсведамляючы, адчуваў прыемнасць і лёгкасць у нагах. Ці шарсціць пад ботамі пясок, ці мякка шаргаціць трава, ці сіпіць балотная твань, калі на след прасочваецца вада,— паволі адзначае Андрэй, што нешта некалі вядомае плыве ад зямлі ў ногі і разыходзіцца знаёмым адчуваннем па ўсім целе. І вось гэты вецер... Мяккі, вільготны, ён вее аднекуль з ціхіх палявых дарог, з маўклівых далін, сіратліва закінутых між узгоркамі, з карчыстых тарфяных альшанікаў, з зубчастага бору, што сцяною цямнее далёка за пясчанымі шляхамі. Цікавыя ўспаміны абудзіў вецер. Запахла чорным жытнім хлебам у торбе пастуха, паўстала перад вачыма адзінокая груша ў полі, ударыў у нос пах ядлоўцу на агні, пачуўся скрып колаў у росныя летнія ранкі.

Андрэй сапраўды вяртаўся на радзіму, увязваючы з роднай зямлёю ніці сваіх пачуццяў.

А вось і масток над бродам. Ён ніколі не меў парэнчаў — тут былі кінуты, як быццам выпадкова, некалькі

бярвенняў, пад якімі бруілася тарфяная вада. Плот канцавога гаспадара вёскі, ад якога засталіся дзе-нідзе адны калкі, адбіваўся ў люстры вады, а з ім і пахіленыя старыя вербы. Гэты брод, як прыпамінае Андрэй, быў прыгожы толькі ў светлыя вясеннія ночы, калі лёгкае марыва туману рассцілалася па балоцістай даліне, што ішла ўздоўж броду ўдаль, і адзінокія ціхія вербы, як жывыя, здаецца, харашыліся, углядаючыся ў спакойную плынь вады. Здавалася, вось-вось яны заварушацца, і тады дождж брыльянцістых рос сыпнецца на водную гладзь.

Цяпер вербы выглядалі нелюдзімымі, здзічэлымі, халодна-непрыветлівымі.

На гару Андрэй узышоў пясчанай дарожкай праз малады густы сасоннік, які вырас на схілах за час вайны. Калі ўзабраўся на самую гару, стаў сярод векавых соснаў, што верхавінамі нібы краналіся хмар, і зірнуў уніз, на малады бор, ён не мог не сказаць пушкінскае: «Здравствуй, племя младое, незнакомое».

Перад вайной схілы гары былі голыя, усланыя сівым сухім мохам, а цяпер на іх шуміць малады сасоннік.

Андрэй спакойным позіркам павёў па краявіду, з кожным разам адкрываючы знаёмае, бачанае некалі не то наяву, не то ў сне, і яно трымценнем адзывалася ў грудзях — агортваў такі светлы настрой, які бывае, каліназіраеш, як дзеці на сенажаці рвуць кветкі і ўюць вянкі. Дар дзяцінства — незабыўны дар. Ён трывожыць і радуе. Калі Андрэй глянуў за агароды, на луг, парослы па купінах альховымі дрэвамі і кустамі,— вітаў душою дзіцяці знаёмыя птушыныя гнёзды...

За лугам сіняй стужкай вілася рэчка. У Андрэя адразу паўстаў перад вачыма кожны яе залом, і рыбацкія прыгоды дзяцінства ўсплывалі ў памяці адны за другімі.

За рэчкаю на ўзвышшы доўгай сцяною цямнеў лес. Вострыя зубцы верхавін елак, здаецца, краналіся навіслых хмар. Гэта лес графа Ельскага. Туды нельга было хадзіць. Там пільнавалі леснікі з дубальтоўкамі за плячыма і што горш — з сабакамі. Для пастушкоў пранікнуць у лес было марай. Яны часта, стоячы на беразе, моўчкі глядзелі за рэчку, як быццам там, у лясных таемных сховах, былі нечуваныя скарбы. Але ўсё ж такі ўдавалася часам ускочыць, прайсці крыху ў глыбіню, нарэзаць яловых, арэхавых палак, нарваць арэхаў. Такія дні здаваліся святам. Направа ад лесу бліснуў у вочы Андрэю бляшаны дах царквы, а пры ёй — сяло Буславічы.

Яшчэ правей — новая таямніца. Ад шляху пайшла бярозавая алея і ўпёрлася ў разложысты сад, з якога тарчала белая вежа са шпілем. Гэта палац графа Ельскага. Навокал яго палеткі. Дзяцінства Андрэя нічым па сутнасці не звязана з графам, калі не лічыць таго, што маці «хадзіла жаць і капаць бульбу да пана» і што часам Андрэй бачыў графа, які ехаў у карэце па шляху ці па сваёй палявой дарозе. Пастушкі выбягалі на дарогу паглядзець на пана, бо пан здаваўся ім не толькі казачна багатым, але наогул чымсьці не з гэтага свету. У графа блішчастыя коні, і сам пан граф быў блішчасты. Хлопцы, правёўшы пана вачыма, доўга глядзелі яму ў патыліцу, а потым, як у адзін голас, здзіўляліся: «Але ж і карак. Ну і карак». Гэта ўсяго і было знаёмства ў Андрэя з панам графам.

Яшчэ позірк направа, на поўдзень. Палеткі ў бярэзніку як вокам глянуць, а за імі — пералескі. Далёка на поўдзень выскачыў шлях з гушчару, узнімаючыся на ўзгорак. Гэта шлях у мястэчка Глушэц. Яшчэ правей сямтам відаць хутары. Яны выглядаюць у сваёй нуднай шэрасці адзінокімі, здзічэлымі. Недзе па кропельцы прабіваецца жыццё, ні для каго, здаецца, невідочнае. Калі ж яно будзе хай не ракою, то хоць ручаінкай? Забыўся, здаецца, Андрэй на ўсё, стоячы пад паважным, раўнамерным шумам соснаў. І калі глянуў з вышыні як бы няўзнак на сваю вёску, урослую ў даліну, здаецца, убачыў душу кожнай хаты, яе даўнюю і нядаўнюю гісторыю і той адзіны здабытак усяго жыцця-быцця — беднасць, беднасць і беднасць. Нехта даў трапную назву вёсцы — Запалянка. Ці таму, што яна запала між узвышшаў у халодную даліну, ці таму, што сяляне ад роспачы жыцця не раз казалі, што трэба запаліць гэтае месца, каб па ім і ўспаміну не засталося. Так казалі пра вёску пакаленні з роду ў род, ад самага першага яе жыхара. І аднак вёска стаіць. Засталося апраўданым першае меркаванне — вёска папросту запала, усмакталася ў нетра, абдорваючы людзей хрыпкай і іншымі хваробамі, за якімі і характву чалавечаму не было як па-сапраўднаму разгарнуцца. Адна карчма была месцам, дзе людзі (быў час) забываліся пра холад і голад у хаце і давалі волю і песням, і слязам. Вёска ляжыць у даліне — шэрая, як зношаная да рубцоў сярмяга, свеціць рэбрамі абадраных стрэх. Прабіваецца ў ёй па кропельцы жыццё. Калі ж яно будзе хай не ракою, то хоць ручаінкай?

# ДЗЯМ'ЯН ГАРАГЛЯД

Калі Андрэй, вяртаючыся з прагулкі, спыніўся на сваім падворку, адна рэч прыкавала яго ўвагу — гэта зарослая бур'янам мясцінка ля гумна. Над гэтай мясцінкай некалі стаяў малы Андрэй разам са сваім дзедам у дзень ад'езду ў бежанцы. Усё, што трэба, было ўжо нагружана на воз, запрэжаны коні, толькі дзед з унукам закопвалі ў яму адну рэч, а пасля прытоптвалі зямлю нагамі. Патрулі данскіх казакаў з трывогай гайсалі па вёсцы і прыспешвалі людзей, каб тыя хутчэй выязджалі. З захаду далятаў глухі гарматны грукат. Да вёскі набліжалася вайна.

Андрэй падышоў да мясцінкі і пачаў мацаць яе нагамі. Здаецца, нічога не кранута. Зайшоў у сенцы, каб пашукаць рыдлёўку ці які лом. Рыдлёўку не знайшоў. Хацеў ужо адмовіцца ад свайго намеру, але, глянуўшы пад страху, убачыў нейкі чаранок. Узлезшы па сцяне каморы, ён выцягнуў яго. Гэта была старая рыдлёўка, якой капалі бульбу. З цяжкасцю праравў ён дзярніну гэтай тупой прыладай і пачаў капаць. Рыдлёўка, урэшце, упёрлася ў нешта цвёрдае. Неўзабаве з зямлі вынырнула абгніўшая ручка плуга. Значыць, усё ў парадку. Бацька аб гэтым не ведае. Калі дзед з унукам закопвалі плуг, бацька быў на фронце. Андрэй стаў пасярэдзіне падворка і гэтак жа, як раней з гары, спакойным позіркам агледзеў замшэлыя будынкі. Агарнула жудасць не толькі адтаго, што давялося вярнуцца на знішчаную сялібу, але і адтаго, што і ўсё мінулае жыццё яе гаспадароў прайшло ў такім замшэлым стане. Гэта для Андрэя цяпер было зусім непрымальным. Пачынаць жыццё нанова на такім узроўні... Не, гэта можа задаволіць хіба толькі бацьку. Ні розумам, ні пачуццём не мог успрыняць Андрэй мінулага гэтай сялібы, яе перспектыў. Ішоў па падворку з пачуццём суровай бяздомнасці, як быццам праходзіў міма ўсяго перажытага, каб больш да яго не вярнуцца.

З такімі думкамі Андрэй увайшоў у хату.

Хатняе цяпло прыемна абдало яго твар. Хата была, на шчасце, ужо абжытая — у ёй цэлы год жыла адна бяздомная сям'я, якая пасля прыезду Касцевічаў перабралася да радні ў суседнюю вёску. У хаце было нават шумна ад гутаркі бацькі і нейкага незнаёмага Андрэю чалавека, які сядзеў на калодачцы, прыпёршыся спіною

да печкі. Яго худы, прадаўгаваты твар, аброслы кароткай русай барадою, зліваўся ў адзін колер з брудным кажушком... Асабліва прыкмячаўся нос. Ён быў тонкі і гарбаты. Абапал носа дапытліва і крыху хітравата глядзелі шэрыя вочы з крывавымі жылкамі, а над вачыма нядбала размясціліся цёмна-русыя рухавыя бровы. Зношаная шапка была ссунута на патыліцу і адкрывала лоб з паўкругамі маршчын, якія час ад часу то згушчаліся, то разгладжваліся. «Сапраўдны рымскі нос у гэтага дзядзькі»,— падумаў Андрэй. А наогул гэты чалавек са сваім тварам нагадваў птушку (арла ці іншую), якая, абвеяная вятрамі, сядзіць на дрэве або на скале. Толькі выраз твару і вачэй не быў у гэтага чалавека хцівым, драпежным. Пад тонкімі вусамі блукала ўсмешка, і лагоднасць з гумарам і хітрынкай пералівалася па твары. Голас гучаў моцна, нават бадзёра. Так ён і прывітаў Андрэя:

— Здароў, здароў, маладзец! — крыкнуў і прыязна акінуў Андрэя вокам.— Слаўнага сына выгадаваў, Сцяпан Паўлавіч.

Андрэй, не ведаючы, хто гэта, крыху нясмела прывітаўся з незнаёмым дзядзькам.

— Гэта Дзям'ян Гарагляд,— сказаў Сцяпан Касцевіч.— Аб ім я табе ўжо гаварыў.

«Ага, гэта той,— падумаў Андрэй,— што мае нам даць «жменю гароху». І праўда — на лаве стаяў прыхілены да сцяны хамут.

У хаце была сапраўдная бальніца — за печкай, на палку, ляжала трое хворых дзяцей — два хлопцы і дзяўчына. Гэта малодшыя браты і сястра Андрэя. Маці Андрэя — Кацярына Сямёнаўна,— рослая, прыгожая жанчына з бледным і худым ад голаду тварам, час ад часу схілялася над дзецьмі, папраўляла ім узгалоўі. Нешта вельмі цярплівае было ў гэтай жанчыне — лагодная маўклівасць хавала ў сабе ўсе нягоды і перажыванні. Роўная постаць, яшчэ цёмныя бровы над чорнымі вачыма, яшчэ не збаразнены маршчынамі твар — усё гэта неяк выдзяляла яе на фоне аблепленых глінаю сцен хаты з бруднымі шыбамі вокнаў. У цёмнай суконнай хустцы, якая ёй была да твару, яна павольна праходзіла па хаце. У паходцы яе адчуваўся подых унутранай гордасці.

Андрэй распрануўся і сеў на лаву, прыгладзіўшы рукою цёмна-русыя валасы з залацістым адлівам. Дзядзька Дзям'ян не спускаў з яго вачэй. Усмешка застыла ў яго на вуснах.

— Ну што ж будзем тут рабіць, хлопча? — сказаў ён.— Панам дзяцей калыхаць, ці што? — і засмяяўся. Засмяяўся і бацька.

— Перш за ўсё — хлеба дабыць, а там жывы чалавек нешта сабе знойдзе,— адказаў бацька.

— Го-го, Сцяпан Паўлавіч,— не так ужо лёгка ўсё гэта... Я ўжо жыву паўгода, пакуль прыдбаў коніка, усю адзежу прадаў... Зямля яшчэ зарослая, пад лесам, а за падаткамі ўжо шлюць. Будавацца трэба — дзе ты возьмеш лесу? Людзі пачалі ўжо ездзіць напралом у лес Ельскага — што ж ты зробіш? Няхай судзяць. Ужо дзе хто і навазіў сабе. Нядаўна я быў у воласці. Войта прыслалі з Польшчы — асадніка. Усё крычаў на сходзе — Польшчу адбудоўваць. Я дый кажу: «Як ты яе адбудуеш з голымі рукамі?» Як вызверыўся ён на мяне: «Ты не грамадзянін, ты «выўратовец». Што гэта за выўратовец, ліха яго ведае. Гляджу я на яго, як конь у кнігу, маўчу... Ну, што ты будзеш казаць? Прывялі якраз арыштаваных пяць чалавек — нават не ведаю, за што. «Вось можа і ты хочаш далучыцца да гэтых выўратоўцаў?» Тады і я зразумеў, што гэта значыць... Нашто мы сюды вярнуліся? Чаго нас прыгнала? Дурасць, адна дурасць...

— І я, Дзям'ян, казала і кажу гэта самае...— далучылася маці.

— Ну, Кацярына, ці ж няпраўду я кажу? Але...— Дзям'ян развёў рукамі,— нічога ўжо не зробіш,— і выцягнуў з кішэні капшук з табакай.

Сцяпан Касцевіч сядзеў, звесіўшы вусы над сталом, і шэрымі вачыма сумна пазіраў з-за дыму папяросы.

Дзям'ян Гарагляд, крыху памаўчаўшы, з роздумам прамовіў нібы сабе пад нос:

— Можа, і не ўтрымаецца тут гэтая Польшча... Чуваць, нехта паліць фальваркі, лесапілкі... Ёсць людзі, што не спяць...

Пры гэтых словах Сцяпан Касцевіч заварушыўся на месцы, адчуў, як камень адваліўся ад сэрца.

— Ого, каб гэта сталася... Усе дзверы, што цяпер зачынены, адчыніліся б для нас.

— А можа, прынялі б цябе на чыгунку і тут?

— Трэба паспрабаваць... Хоць нешта няма надзеі.

Дзям'ян Гарагляд устаў, сказаўшы, што трэба ісці дахаты, а нанач ехаць у лес.

— Можа, Сцяпанка, паехалі б разам? Памог бы мне. Дзеці ў мяне... дачка старэйшая, а хлопец яшчэ малы,

Няма з кім. Адзін раз ездзіў з ёю... ды дзе ты з бабамі ўвіхнешся ў лесе...

— Чаму ж, можам паехаць. З ахвотай, Дзям'ян...

— Ну, тады я зайду па цябе... Бывайце здаровы і не тужыце. Ты, Кацярына, падкручвай старога за вусы...— сказаў з усмешкай Дзям'ян і знік за дзвярыма.

## ЛЕС ГРАФА ЕЛЬСКАГА

Здраднік месяц сонна блукаў за хмарамі. А хмары не плылі, а ляцелі па небе, ускудлачаныя, як белагрывыя коні. Гнаў іх халодны пранізлівы вецер.

Месяц здраднікам назваў Дзям'ян. Ён і Сцяпан Касцевіч ехалі за рэчку. Седзячы на возе, прытуліліся адзін да аднаго спінамі, звесіўшы ногі. Хоць у лесе не вельмі пагражала небяспека, усё ж лепш было б, каб ноч была цёмная. А тут гэты месяц. Сапраўды, як здраднік. А што ночы з цёмных перайшлі ў месячныя — гэта была прыкмета, што ўжо зіма вось-вось завітае ў госці. Гняды конік Дзям'яна клыпаў па жорсткай ад замаразі лугавой траве і часам фыркаў. Дзям'ян для засцярогі нават не крычаў на яго, а толькі патузваў лейцамі. Ён быў здаволены, што конь фыркае,— значыць, будзе ўдача.

Калі ж пад'ехалі да рэчкі, да пераезду, і ўбачылі, што не адны яны едуць, а цэлымі амаль абозамі падводы маячаць з розных напрамкаў, Дзям'ян першы раз крыкнуў на каня. Падводы ехалі з розных вёсак па абодвух баках рэчкі.

— Ну, будзе сёння работы — затрашчыць граф Ельскі, хай яму лёгка ікнецца,— сказаў Дзям'ян.

— Ліха яго не ўхопіць,— адказаў Сцяпан і, глянуўшы на лес, дадаў: — Але ўсё ж такі лес парадзеў — шмат высеклі...

— Сякуць штоночы і нават удзень. Леснікі баяцца носа паказаць. Адзін раз атрымалі пачастунак па вушах, і з таго часу — каюк... Уцякалі з лесу, як ганчакі, а людзі ўслед ім крычалі: «Панскія найміты, лізаблюды!» Ого, цяпер народ набраўся сілы, Сцяпан Паўлавіч. Гэта не тое, што некалі: «Паночку, паночку...» Цяпер кожнаму проста гідка глядзець на такую праяву... Ого, не, не тое... Рэвалюцыя!.. Яна... Дай божа людцам на здароўе...— закончыў Дзям'ян і крыкнуў на каня, які баяўся лезці ў ваду.

Процілеглы бераг рэчкі быў вышэйшы — ён быў не лугавы, балотны, а палявы. Крыху воддаль ад берага ўзвышаўся лес.

Сябры прыціхлі, набліжаючыся да лесу. Ён стаяў цёмнай сцяной перад імі, незразумелы, таямнічы, і таму выклікаў пашану да сябе. Цьмянае святло месяца, прабіваючыся праз калматыя хмары, коўзалася па верхавінах дрэў і яшчэ больш адцяняла постаць кожнай сасны і елкі на ўзлессі.

Лес не быў ціхім, застылым у абдымках ночы, як гэта бывае звычайна,— па ім разносілася глухое рэха розных гукаў. Чутны былі пераліўная траскатня колаў, бязладныя ўдары сякер у розных месцах, шорганне піл, і час ад часу там-сям з трэскам валіліся дрэвы і, вухкаючы, са стогнам удараліся аб зямлю. У лесе кішэла. Насцярожанае фырканне коней і нават часам бразганне цугляў даносілася з гушчару.

Дзям'ян са Сцяпанам ехалі моўчкі, ахопленыя — якніяк — пачуццём трывогі. Дарога ў лесе была дзе-нідзе завалена галлём, а дзе і ляжала ўпоперак верхавіна сасны або елкі з неабсечанымі галінамі, якія растапырана тарчалі на фоне дарогі. Навокал такіх месц былі аб'езды.

— Зараз будзе палянка... Там я нагледзеў сасёнку, калі хто яе ўжо не спілаваў,— упаўголаса сказаў Дзям'ян.— Але ж і народу сёння...

Калі выехалі на палянку, стала святлей. Тут ужо выразна можна было ўбачыць падводы і людзей за работай.

Работа Дзям'яна са Сцяпанам цягнулася нядоўга. Сасёнка была парэзана на доўгія кавалкі, і сябры пачалі класці іх на воз.

Раптам недзе на паўднёвай ускраіне лесу пачуўся пранізлівы крык чалавека. Гэта быў крык не ратунку, а пагрозы. Дзям'ян са Сцяпанам спынілі работу і пачалі прыслухоўвацца. Спынілі работу і астатнія людзі.

— Няўжо леснікі зноў прыйшлі? — сказаў Дзям'ян. З суседняй падводы нейкі дзядзька азваўся: «Не, гэта не леснікі... Голас не той... Гэта, мусіць, сам Ельскі...»

— Давайце хутчэй канчаць і ўцякаць з лесу,— прапанаваў Дзям'ян.

Сябры змоўклі і ўзяліся за працу. Воз ужо быў накладзены, увязаны як след. Заставалася толькі ўзяцца за лейцы і рушыць з месца, але з процілеглай ускраіны палянкі шум лесу пранізаў той самы крык, у якім ужо выразна чуліся словы па-польску:

— Не рушыць з месца! Хто рушыць з месца, будзе пакараны...

Людзі не слухаліся, а ўцякалі з нагружанымі падводамі напралом, хто куды. Зрабілі гэта і Дзям'ян са Сцяпанам.

Але вось дзве постаці шпаркім крокам ідуць цераз палянку. Адна постаць у кароткай куртцы, у шапцы з серабрыстымі рубцамі на аколышу і з кукардай. За плячыма ружжо. Гэта сам граф Ельскі. Побач з ім — чалавек у чорным адзенні да пят і зімовай шапцы з шырокім верхам. Людзі заўважылі доўгую бараду. Нягледзячы на некаторы страх, усіх зацікавіла, хто гэта мог быць, бо Ельскага ўсе пазналі па голасу і постаці. Святло месяца слізганула па барадзе незнаёмага, і ўсе ўбачылі, як нешта металічнае бліснула ў яго правай руцэ.

На палянцы сабралася шмат падвод — усе імкнуліся на дарогу. І якраз пры павароце на яе падводы затрымаў не граф Ельскі, а гэты невядомы ў чорным адзенні да пят і з чымсьці бліскучым у правай руцэ. Якое ж было здзіўленне людзей, калі гэтая постаць загаварыла, падымаючы правую руку ўверх:

— Гасподзь з вамі... Куды вы? Вярніцеся... брація ва Хрысце... Пабойцеся бога...

Людзі пазналі свайго папа — айца Івана Шпака. Гэтага не чакаў ніхто. Таму-сяму хацелася пырснуць смехам, дый трэба сказаць, што наогул усім на момант стала весела. Нехта паспеў сказаць упаўголаса:

— Вось гэта дык даўгагрывы...

Некаторыя сяляне ўжо не раз бачылі папа Шпака з такой «зброяй» у лесе, але толькі ў сваім, папоўскім, які цераз дарогу мяжуецца з лесам графа Ельскага. Ці граф сустрэў папа ў лесе, ці знарок запрасіў на такую «аперацыю» — невядома.

Айцец Іван хрысціў усіх крыжам і прасіў:

— Скіньце з вазоў дрэва... Просціць вам вашы грахі гасподзь бог. А каму выбачае бог, таму прабачыць і гаспадар гэтага лесу, пан граф Ельскі...

— У графа многа, а ў нас нічога няма...— сказаў нехта ззаду.

— Маліцеся богу, і вам бог дапаможа ў вашым жыцці... Можна папрасіць пана графа. Ён не пашкадуе вам... Тое, што вы робіце, гэта знішчэнне...

— Чулі мы ўжо такія байкі,— адказаў другі голас.

Граф Ельскі зрабіў пару крокаў туды, адкуль даля-

таў голас, але... на паўдарозе спыніўся і злавесна пагля-дзеў з-пад доўгага з блішчастым бляшаным абадком ка-зырка.

— Скідайце дрэва, брацця,— не сунімаўся поп. І ўрэшце звярнуўся непасрэдна да пярэдняга дзядзькі, які стаяў ля сваёй падводы і маўчаў, як аглушаны.

— Ну, ты першы... пачні... Як тваё прозвішча?

Дзядзька маўчаў, панурыўшы галаву.

— Чаму не адказваеш свайму бацюшку? — па-бела-руску звярнуўся сам граф.

Дзядзька маўчаў. Маўчалі ўсе.

Раптам з сярэдзіны абозу рушыла некалькі падвод, каб аб'ехаць графа і папа з другога боку. Сярод іх былі і Дзям'ян са Сцяпанам. Коні рвалі шпарка, як быццам таксама былі ахоплены небяспекай становішча. Лес, які сціх на момант, затрашчаў зноў.

Поп, хрысцячы крыжам, кінуўся подбегам напя-рэймы, просячы на хаду: «Спыніцеся, спыніцеся, куды вы? Кара божая вас чакае...»

Але падводы, даехаўшы да дарогі, перасеклі яе і па-чалі знікаць у лесе адна за адной. У той час, калі поп бег перапыняць тых, што адарваліся ад агульнага абозу, пярэднія павярнулі коней назад. Граф Ельскі кінуўся да пярэдняга каня, каб схапіць яго за цуглі і спыніць, але гаспадар не шкадаваў каню пугі, і намеры графа не ўдаліся.

І тады вось сталася тое, што надоўга, а можа, і на-заўсёды засталося ў памяці ўсіх. Граф Ельскі выняў з кішэні свісток і... свіснуў. Усе чулі гэты свіст, які паў-тарыўся тры разы. Ён быў пранізлівы, як вастрыё, да-кранаўся да вушэй. Ніхто не ведаў, для чаго гэтыя свісткі. Але кожны адчуваў, што ў гэтым ёсць нешта, чаго яшчэ тут у лесе не было, нешта, зразумела, небяс-печнае.

Падводы, нагружаныя дрэвам, спяшаліся. Людзі ні-чога не бачылі, што магло б ім пагражаць, і думалі, што на гэтым усё скончыцца. Вось ужо ўзлессе, а там блізка і рэчка.

Недзе далёка ззаду пачуўся апантаны крык. Усе, як адзін, азірнуліся. Да вушэй даляцела: «А божа мой... Людзі, ратуйце!»

— Некага б'юць,— сказаў Дзям'ян.

— Але хто б'е? — запыталася некалькі галасоў.— Няўжо сам граф?

Калі абоз пачаў выязджаць з лесу, нечаканыя ўдары прыкладаў вінтовак пасыпаліся на галовы, на плечы падводчыкаў. У вачах людзей толькі замігцелі белыя кукарды на шапках.

— Паліцыя! — крыкнуў нехта.

Чалавек дваццаць паліцыянтаў білі без разбору — па людзях, па конях. Сцяпан Касцевіч ад першага ўдару паваліўся. Дзям'ян, не выпускаючы лейцаў з рук, угінаўся ля воза, намагаючыся схавацца за яго. Удары падалі Дзям'яну проста на спіну, а ён ішоў...

...Сцяпан Касцевіч не ведаў, колькі часу ён ляжаў пры дарозе, аглушаны ўдарам прыклада вінтоўкі. Калі ўстаў, адчуў, што пячэ правая шчака — баліць вострым болем. Ён дакрануўся рукою да яе, і ліпкая, вільготная кроў засталася на пальцах. Няйначай, падаючы, ударыўся аб нешта вострае. Але гэта яшчэ нічога.

Калі ступіў нагою, каб ісці, з кожным крокам глухі боль адбіваўся ў патыліцы і так выразна, што, здавалася, уся галава хацела разваліцца. Сцяпан аберуч памацаў яе. Нават спыніўся. Прыйшло на думку: вецер, здаецца, меншы, лес не так шуміць. І чамусьці ў вачах робіцца то святлей, то цямней. Часам так цёмна, што Сцяпан спыняецца і працірае вочы. На момант святлее, а пасля навалач насоўваецца зноў. «Няўжо не дайду дахаты? — падумаў Сцяпан.— Дзе ж Дзям'ян? Можа, ужо дома?»

Выйшаўшы з лесу, Сцяпан стаў і паглядзеў навокал. Спішыўся боль у патыліцы, і ў вачах стала ясней. А навокал было ціха і бязлюдна, як быццам тут ніхто не бываў. Па полі, парослым дробным сасняком і ельнікам, якое знікала ўдалечыні ў змроку, праплывалі цені: гэта месяц то выглядаў цераз прасветліны паміж хмар, то хаваўся зноў. Месяц — здраднік. Калі б было цёмна, не адважыліся б граф з папом і паліцыяй нападаць на людзей. Сцяпан зрабіў крок, і боль у патыліцы зноў даў сябе адчуць, як быццам хто штурхаў таўкачом знізу ўверх. Калі спыніўся над рэчкай ля пераезду, агляну́ўся на поле, на лес, які вострымі зубцамі верхавін выразна вырысоўваўся на фоне белых плывучых хмар, Сцяпану здалося, што ў цішыні не то хто стогне, не то шэпча. Але нідзе не відаць і не чуваць ніякага руху. «Можа, мне здалося? Пайду дахаты»,— вырашыў Сцяпан і паглядзеў на рэчку. Яна, адзінокая, зіхацела халодным бляскам вады і плыла ў змрок. Сцяпан зняў шапку, нагнуўся да вады

і пачаў ліць яе сабе на галаву. Выпрастаўшыся, адчуў, што стала лягчэй. Вада струменьчыкамі пабегла за каўнер сарочкі, і Сцяпан здрыгануўся. Пасля гэтага здалося, што як быццам ужо і зусім прыйшоў да нормы. Яшчэ раз агледзеўся і палез у ваду.

Вярнуўшыся ў вёску, Сцяпан пайшоў не да сваёй хаты, а проста да Дзям'яна. Калі апынуўся на падворку, пачаў шукаць вачыма воз. Воза не было. Зайшоў пад павець, і там яго не было. Адчыніў нават хлеў. І хлеў быў пусты. Выйшаў на сярэдзіну падворка. Да сэрца пачало падплываць пачуццё роспачы: «Дзе ж Дзям'ян? Няўжо забілі?» Вёска спала, як замораная. Вецер шамацеў па стрэхах, і не было каму што сказаць, да каго пайсці і падняць на ногі. Сцены хаты Дзям'яна былі абабіты кулявой саломай, і маленькія акенцы сярод гэтай саломы выглядалі як зморкі. «Можа, пастукаць у акно, пабудзіць жонку, расказаць аб усім?» Але Сцяпан зараз жа адкінуў гэтую думку. Не варта заўчасна сеяць трывогу. Ён глянуў на хмары, за якімі блукаў месяц, часам паказваючы свой халодны твар, і не ведаў, што рабіць. Вецер зашамацеў саломай страхі, а з хаты пачуўся кашаль.

У памяці Сцяпана ўсплылі іншыя шорахі-шэпты, што знікалі недзе ўначы. «Няўжо?» — мільганула думка. З месца пакрочыў у напрамку рэчкі праз агароды. Не ішоў, а, здавалася, бег.

...І як жа гэта ты, Дзям'ян, не вытрымаў удараў, што сыпаліся на тваю спіну? Ты выпрастаўся, ты знайшоў у сабе сілы выпрастацца, схапіць кол са свайго воза і размахнуцца наўкруг, што аж паветра засвістала. Ты не ведаеш, колькі паліцыянтаў упала ад твайго размаху, і не ведаеш яшчэ і таго, што яны кінулі біць другіх, спалохаліся і ўсю злосць спагналі на табе. Ты мала што помніш, Дзям'ян. Ты помніш толькі адно, што многа ўдараў падала на цябе. Ты закрываў галаву рукамі, і таму пабіты твае пальцы. Ты ўпаў і ўжо не варушыўся. Найміты думалі, што ты ўжо нежывы, і ўцяклі. А ты вось ляжыш у даліне, апрытомнеўшы, і не ведаеш, дзе твой конь і воз. Паўзеш да рэчкі... Прапаўзеш крок і зноў прыпадаеш да зямлі са стогнам. Шэпчаш праклёны. Слухае цябе толькі адзін вецер, ды месяц часам асвеціць твой твар, перакрыўлены ад болю. Клічаш Сцяпана слабым, ахрыплым голасам і паўзеш зноў. Вось ён блукае навокал цябе і не можа знайсці. Чуе твой стогн, ідзе на

яго, але цябе не знаходзіць. Ці вецер тут вінаваты, ці зямля, што разносіць твае стогны аднача́сна ва ўсе бакі? Мацней азавіся, Дзям'ян, ты жывы, ты яшчэ будзеш жыць!

І Сцяпан знайшоў Дзям'яна. Першым яго словам было:

— Дзям'ян, што з табою?

— Што?.. Вось бачыш, далі мне духу, Сцяпанка, далі... няскора выдыхаеш... Я бачыў, як ты ўпаў... Я думаў, цябе забілі... Ох!..

— Дзе конь і воз?..— спытаўся Сцяпан.

— Не ведаю. Як мяне збілі з ног, я ўпаў, а конь пайшоў... Няйначай павалокся за чужымі падводамі па іншай дарозе... Ох!..— і Дзям'ян на момант прыпаў галавою да зямлі.— Добра, што ты на нагах і прыйшоў...

— Ведаеш, Дзям'ян, я цябе перанясу на той бераг рэчкі, а сам пайду шукаць каня...

— Нясі... Што-небудзь рабі...— Дзям'ян заварушыўся і з кожным рухам стагнаў.

Сцяпан апусціўся на адно калена і асцярожна ўзваліў Дзям'яна на плечы.

— От, брат Сцяпанка, якая наша доля...— прамовіў Дзям'ян.— Ну, ужо каго-каго, а папа народ будзе помніць... Гэта — падумаць... Сынка-афіцэра чырвоныя скінулі разам з Урангелем у мора,— вось бацька цяпер і вядзе адну дудку з панамі... Не, брат, адкрылася праўда народу ў Расіі — яе не заб'еш, не, не заб'еш...

Калі пераходзілі рэчку, Дзям'ян сказаў:

— От, каб выкупацца ў гэтай рэчцы, то, здаецца, усе болі прайшлі б, але холадна...

Сцяпан апусціў Дзям'яна на мёрзлую жорсткую траву і прапанаваў:

— Дай, Дзям'ян, спаласну табе твар вадою — можа, палягчэе. Я сабе так зрабіў, і стала лепш...

— Спаласні, спаласні, што хочаш рабі...

Пакінуўшы Дзям'яна на беразе. Сцяпан пайшоў назад шукаць каня з возам. Доўга блукаў па дарогах, бо гэтых дарог шмат выходзіла з лесу і разбягалася ў розных напрамках. Адна ішла, напрыклад, уздоўж рэчкі голым полем, другая побач, а іншыя праз малады сасняк зусім у другі бок. Доўга блукаў Сцяпан без ніякіх вынікаў і хацеў ужо вярнуцца да Дзям'яна. Але яшчэ раз выбраўшы наўгад напрамак, пайшоў не дарогай, а проста полем, праз рэдкі сасняк, і тут хутка знайшоў падводу. Конь аглобляй зачапіўся за сасёнку, гуж упёр-

ся ў ствол, і конь спыніўся. Лейцы закруціліся за кола. Сцяпан агледзеў воз. Убітая збоку ў кругляк сякера была на месцы. Вяроўка, якою быў звязаны воз, таксама цэлая. Сцяпану стала лягчэй на душы. Вызваліўшы каня, ён выехаў на дарогу.

А Дзям'ян гэтым часам ляжаў на мёрзлай зямлі і змагаўся з холадам. Асабліва мерзлі пабітыя да крыві пальцы рук. Часам боль і крыўда падступалі да сэрца, і Дзям'яну хацелася заплакаць, але замест плачу вырываўся толькі стогн.

— Ну, навошта такія пакуты людзям?.. Ах!..— гаварыў сам з сабою Дзям'ян. А потым зноў пабітыя рукі сціскаліся ў кулакі: — Не забуду, не дарую...

## У ДЗЯМ'ЯНА

Пасля здарэння ў лесе графа Ельскага праз два тыдні выпаў снег. Быў якраз сцюдзёны дзень пачатку лістапада. Больш такога нічога не здарылася — хіба толькі тое, што за два дні перад снегападам у пана Івана Шпака згарэлі гумно са збожжам і хлявы. Паліцыя групамі ў чатыры-пяць чалавек шнырыла па вёсках — шукала падпальшчыкаў. Заходзіла да старастаў і ў асобныя хаты. Заходзіла таксама і да Дзям'яна Гарагляда. Дзям'ян увесь час ляжаў на печы. Сцяпан з'ездзіў у суседнюю вёску, прывёз фельчара. Гэта быў флегматычны чалавек, год так пад сорак пяць, з даўгімі рыжаватымі вусамі. За ўвесь час, пакуль быў у хаце Дзям'яна, ён прамовіў з людзьмі толькі пару слоў. Адно слова было, што Дзям'ян выжыве, а другое — што за агляд хворага ён бярэ толькі грошы. А грошай тых якраз і не было. Жонка Дзям'яна — Маланння — прапанавала што мела — бульбу і гарох. Фельчар нічога не сказаў, а толькі закруціў галавою ў знак нязгоды. Не было грошай і ў Сцяпана. Маланння прысела на лаве і пачала ўжо думаць горкую думу. Нават слёзы бліснулі...

— Ёсць жа ў нас адна курыца,— сказаў слабым голасам Дзям'ян,— злаві, Маланння, і аддай... Будзем жывы — нажывём...

Фельчар нічога не сказаў, а толькі паварушыў вусамі. Яго абыякавы, мутны позірк спакойна блукаў па хаце, дзе пахла сырасцю і чадам. Мусіць, фельчару не ўпершы-

ню бываць у такіх хатах, і таму ўсё гэта, можа, і надакучыла.

Маланпя ўрэшце прынесла курыцу. Шукала яе ўсё ж такі доўга. Калі ўвайшла ў хату, яе босыя ногі былі чырвоныя, як у гусі лапы, а на рабой хустцы з латкамі іскрыліся сняжынкі.

— Залезла, каб яе, у самы куток цад страху, ледзь знайшла...

Курыца ўскрыквала, намагаючыся вырвацца з рук Маланні.

— Памажы, Люба,— сказаў Дзям'ян.

Падбегла дачка Дзям'яна — дзяўчына год семнаццаці, рослая, мілавідная, з носам, як у маці,— доўгім і крыху з курносінкай. З-пад хусткі былі відаць хвалістыя цёмныя валасы. Гэта — валасы маці. Перад гэтым дзяўчына сядзела на лаве і прала льняную кудзелю. Устаўшы, падбегла і пачала дапамагаць маці вязаць курыцу. Фельчар сядзеў на лаве, пазіраў на ўсё гэта з тым жа спакоем, скрыжаваўшы пальцы рук на каленях. Сцяпан усё курыў і паглядаў у акно. Трэба ж адвезці фельчара.

Калі курыца была звязана, фельчар пачаў апранацца ў доўгі з карычневага сукна свойскай работы бурнос з башлыком. Курыцу яму перадала Малання ў невялікім дзіравым кошыку, засланым анучкай. Фельчар на развітанне сказаў трэцяе слова — каб праз дзень прыехалі па лякарства. Калі яны са Сцяпанам выйшлі з хаты, Малання прамовіла:

— Ой, божа ж ты, чым жа мы яму заплоцім за лякарства? Другой жа курыцы няма...

Але на гэтае пытанне ніхто не адказаў...

Падзеі ў лесе зрабілі на Андрэя цяжкае ўражанне. Здараліся моманты душэўнага тупіка — не было ніякага выхаду для думкі. Не можа ж быць гутаркі аб апраўданні ўчынкаў графа Ельскага і папа — наадварот, пачуццё справядлівасці дамагалася іх пакарання. Але як жа ты іх пакараеш у панскай дзяржаве? Законы тут іншыя, іншыя... І Андрэй адчуў, як прыгнёт цяжкімі пластамі ўсё кладзецца і кладзецца на душы тых, хто бедны і таму бяспраўны...

Бо ці ж не так?

Адведаць Дзям'яна прыйшла Тацяна Ціханчук. Яна прыбегла ў першы дзень. Склаўшы рукі на жываце, стаяла за печкай, каб быць бліжэй да Дзям'яна, і кляла, бедавала і плакала. Успамінала, як некалі царскія жандары

таксама збілі яе Дарафея. Гэта было даўно — тады, як праходзілі па вёсцы два незнаёмыя і заклікалі ўсіх гнаць статак на панскае поле, займаць панскія лясы, зямлю. Гэта быў 1905 год. Тады бацька Ельскага прывёў на поле цэлы атрад конных жандараў, якія акружылі статак і людзей разам. Вось тады і дасталося Дарафею.

— Ну, у той час быў яшчэ сякі-такі хлеб і кубак малака... Можна было сяк-так папраўляцца... А цяпер? — гаварыла Тацяна.

Шмат аднавяскоўцаў прыходзіла адведаць Дзям'яна. Нават дзе хто ўжо з заможнейшых — прыносіў ці пару яечак, ці жменю жытніх круп, ці нават кавалак халоднай бульбянай кашы, прыпраўленай тоўчаным ільняным насеннем, бо і яго ў Дзям'яна таксама яшчэ не было.

Не прыходзіў адведаць Дзям'яна толькі адзін чалавек. Ён, сустрэўшыся з Маланняй на вуліцы, супраць хаты Дзям'яна, толькі спытаўся: «Ну, як Дзям'ян?», а ў хату не зайшоў. Гэта быў Мікіта Лазун, той Мікіта, у якога Сцяпан Касцевіч прасіў бульбы. З настаўленага каўняра кажуха тарчаў чырвоны мясісты нос і відаць былі такія ж чырвоныя шчокі. Цёмная барада хавалася ў каўняры. З-пад калматай шапкі звісалі бровы над невялічкімі шэрымі вачыма, з якіх адно, правае, было як быццам папярочнае, з маленькім бяльмом. Яно часта моргала, асабліва пры гутарцы. І нельга было прачытаць, што адбівала гэтае вока — які настрой душы ці думку, а яго такое частае морганне перашкаджала разгледзець выраз здаровага вока. Гладка абуты ў новыя ліпавыя лапці з новымі, шчыльна абкручанымі на нагах аборамі, ён ішоў пасярэдзіне вуліцы, падобны на знахара з засценка. Шырока раскідаючы ногі і з развагай іх ставячы, ішоў ён па вуліцы, як па сваім падворку, пазіраючы з-пад броваў наўкол, каб дзе чаго не прапусціць.

Калі Сцяпан Касцевіч прыйшоў да яго прасіць бульбы, ён сядзеў на лаве і плёў саўню з арэхавых лык. Хутка заморгала правае вока, і пасыпаліся ліслівыя словы:

— Ах, Касцевіч, Касцевіч, даўно не бачыліся... Я заўсёды кажу, такі ж бог не без міласці... Сядай, сядай...

У хаце было цёпла. Яшчэ новая падлога і пабеленыя сцены надавалі хаце ўтульнасць. У пярэднім кутку вісела пяць ікон, а ікона бога Саваофа, што вісела пасярэдзіне, была прыбрана ручніком. Гутарка ішла аб падарожжы з Расіі. Сцяпан Касцевіч расказваў аб розных цяжкіх вы-

падках у дарозе, а Лазун час ад часу толькі ўстаўляў адно і тое ж, націскаючы на «а»:

— А што ж... а́ што ж... Зажылі людзі — божа, божа...— і далей калупаў спіцаю ў сяўні.

Гутарка неяк хутка вычарпалася. Сцяпан ціхенька барабаніў па стале пальцамі, паглядаючы па хаце.

— Дзе ж твае сыны, Мікіта? — спытаўся ён.

— Малоцяць жыта ў гумне, нявестка пайшла недзе з кудзеляю, дзеці таксама паразыходзіліся. Вось сяджу адзін і калупаюся. Трэба вось, як падмерзне, сена вазіць... Ах, Касцевіч, Касцевіч, ці думалася гэта, што... Дзякаваць богу, дзякаваць богу, што хоць, як той казаў, жывымі дабраліся.

Сцяпан Касцевіч зразумеў, што гэты чалавек ужо як след «акапаўся». Нездарма людзі ва ўсе званы звоняць, што ён яшчэ тры гады назад, першы вярнуўшыся з беженцаў, столькі набраў людскога дабра, што хопіць яму да смерці. І кадушак, і плугоў, баронаў, косаў, куфраў, старых колаў. Нават закруткі і зашчэпкі ад дзвярэй вырываў у чужых хатах і нёс сабе. Усё гэта прабегла ў Сцяпана ў галаве цяпер. Стала не па сабе — і крыўдна, і злосна. Як тут прыступіцца да яго з гэтай няшчаснай бульбай? Ніяк і рот раскрыцца не хоча на такую гутарку. А ўсё роўна трэба, нідзе не дзенешся. А Мікіта як быццам чытаў яго думкі і, глянуўшы на дзверы, сказаў:

— Хлеба якраз няма ў хаце... Даў бы табе кусочак... Занёс бы дзецям...

Сцяпан прамаўчаў, праглынуў гэтыя словы, як прыкрую слязу.

— Ты лепш дай мне крыху бульбы, пару пудоў... Аб хлебе няма ўжо чаго гаварыць. Трэба пакуль што забывацца аб ім...

— Бульбы? — са здзіўленнем адказаў Мікіта.— Ты думаеш, у мяне яе так многа? Ды не... дзе там... Трэба ж і свінням, і сабе... Сёлета дрэнны год быў на бульбу...— і нагнуў над каробкай сваю галаву з кучмою валасоў.

Запала нялоўкае маўчанне. Каб што-небудзь сказаць, Сцяпан прамовіў, глянуўшы ў акно:

— Ужо вечарэе... Трэба дадому...— і, крыху пачакаўшы, устаў. Мікіта, кінуўшы каробку, хутка падняўся.

— Ты выбачай, Сцяпанка, што так...

— Ды не... я нічога... Кожны жыве і думае, як хоча. Гэта — твая воля.

— Ты не крыўдуй, не крыўдуй...— схапіў са сцяны

кажух і шапку і разам выйшаў у сенцы. Там Мікіта набраў у каморы кошык бульбы і вынес Сцяпану.

— Вось на, вазьмі кошычак... Другому б не даў — табе дам... Бажуся богам... Жывыя будзем — дачакаемся лета, дасць бог, можа, твая Кацярына прыйдзе калі пару дзянькоў пажаць... Мы ж людзі, суседзі...

— Ну, таргавацца, Мікіта, не будзем... Дзякую і за гэта...— адказаў Сцяпан і выйшаў.

Калі Сцяпан прынёс бульбу дахаты і расказаў усю гутарку з Мікітам, гэта выклікала ў Андрэя пачуццё агіды. Кацярына Сямёнаўна казала, што не трэба было браць бульбу, навошта кланяцца гэтаму жываеду... Так і сказала — «жываеду». І папракала Сцяпана за яго слабасць. Сцяпан маўчаў і толькі, цяжка ўздыхнуўшы, махнуў рукою:

— Што ж ты зробіш? Трэба часам і чорту лысаму пакланіцца...

«Так... пакланіцца... Такіх прымавак шмат. Калі ўрэшце пра іх забудуць?» — падумаў Андрэй і хацеў сваё абурэнне выказаць уголас, але... устрымаўся. Пашкадаваў бацьку. Гэта ж ён, бацька, хадзіў уніжацца дзеля іх, дзяцей. Камяк падступіў да горла. Андрэй устаў і выйшаў на вуліцу. Набліжаўся вечар — глухі, цёмны, тужлівы. І здавалася, што ў змроку, які крадком наплываў на вуліцу, паўзе той, каму кланяўся бацька,— паўзе чорны павук.

Вось табе і ціхая глуш...

Андрэй зноў не мог спаць начамі. Грызла яго туга. Адчуў, што ісці цяпер праз жыццё — гэта ўсё роўна, як прарывацца праз лясныя нетры, церабіць дарогу. Рабілася страшна і цяжка. Не загубіць таго, што здабыта,— вось аб чым туга.

Андрэй два разы адведаў Дзям'яна Гарагляда. Калі прыйшоў першы раз, Дзям'ян заварушыўся на печы і, прыўзняўшы галаву, усміхнуўся Андрэю на прывітанне. У гэтай усмешцы было нешта асаблівае. Тут было і любаванне маладосцю Андрэя, і ўцеха з яго адукаванасці, і яшчэ нешта, што рабіла твар Дзям'яна на момант прыгожым. Гэта хвалявалася, можа, не асвядомленая да канца самім Дзям'янам, надзея на сілу моладзі, захапленне яе харcommitted ствам. У гутарцы з Андрэем у Дзям'яна мацнеў голас, вяртаўся яго гумар.

— Эх, студэнт, студэнт,— вось якую мы тут адукацыю праходзім... Выадукуюць нас паны, выадукуюць...

— А хіба ім гэта не адрыгнецца? — глуха сказаў Андрэй.

Дзям'ян змоўк, насупіўся. Маршчыны захадзілі па пукатым ілбе. Думаў. І ўрэшце сказаў:

— Пад ляжачы камень вада не пацячэ. Само нічога не зробіцца, студэнт. Вось як...— І зараз жа звярнуўся да Маланні: — Няхай Люба прынясе пару галовак капусты з расолам. Вось для Андрушы. Няхай занясе дахаты,— і звярнуўся да Андрэя: — Не аднеквайся, не аднеквайся. Я ўсё ведаю...

Гаворачы аб іншых рэчах, ён ужо думаў, якую прыемнасць зрабіць Андрэю. Апрача капусты з расолам нічога лепшага не мог выдумаць, бо яго не было. Сын Дзям'яна Міця, хлопчык гадоў дванаццаці, майстраваў ветраны млынок, седзячы на лаве.

Дзям'ян глянуў на яго і зноў усміхнуўся тою самаю ўсмешкай.

— Што — млын робіш, сынок? Ды бяда, няма чаго малоць... Рабі, рабі, хлопча... І раптам перайшоў на другую тэму: — Не толькі ў нас. Вось папу нехта пастараўся за адзін раз усё змалоць...— і засмяяўся трапяткім зларадным смехам.— Няхай шукаюць ветра ў полі... А народу толькі лягчэй ад гэтага...— і вострым позіркам з хітрынкай бліскаў на Андрэя.

— От, маўчаў бы лепш...— зазначыла Малання.— Яшчэ бакі не адышлі, а ты зноў хочаш...

— Чаму быць, таго не мінаваць...— задзёрыста адказаў Дзям'ян.

Андрэй слухаў і адчуваў, што і ён смяецца ў душы тым самым смехам, што і Дзям'ян.

— Запішы гэта ўсё, студэнт! — засмяяўся Дзям'ян.— Можа, кніжкі маеш, Андруша, прынясі маёй Любе. Яна любіць чытаць. У Расіі працавала ў бібліятэцы — кніжкі выдавала... Цяпер вось другую кніжку чытае — кудзелю смокча.

— Кніжкі ёсць, прынясу. Ды бяда — абставіны цяпер такія, што не да чытання.

— А ты плюнь на абставіны. Ведаю, ведаю, што не тое... Але вы, маладыя, павінны сябе выратаваць ад гэтых, як ты кажаш, абставін. Хлеба няма, нічога няма — ведаю... Трэба запрэгчыся ў якую-небудзь працу для хлеба... Нічога не зробіш... А там будзе відно...

Люба, ціхая, як быццам яе ў хаце не было, пільна вяла нітку і часам кідала нясмелыя позіркі ў бок бацькі

і Андрэя. Андрэй прысеў ля яе кудзелі, каб загаварыць.

— О, гэта так... па-маладому...— сказаў Дзям'ян і зноў усміхнуўся.

— Адно скажу, дзядзька Дзям'ян,— прамовіў Андрэй,— так не будзе, як ёсць. Не можа быць так. Знае гэта ўвесь народ...

Суровая ўцеха была на твары Дзям'яна, калі ён, нічога не сказаўшы, з вышыні печы кіўнуў галавою на словы Андрэя.

Андрэй прыняў гэтую ўцеху сабе ў душу, як нейкую надзею.

## СУСТРЭЧЫ І ПАДАРОЖЖА Ў НЯЗНАНАЕ

Ціхі марозны дзень. Снегу выпала амаль па калені. Ён ляжаў на палях, па зарасніках, па дарогах — свежы, некрануты. І няма каму пратоптваць сцежак, пракладваць каляін.

Толькі сонца адзінока іскрыцца праменнямі на адкрытых, незарослых палянах і губляецца ў густых зарасніках, бліскаючы дзе-нідзе паасобнымі іскаркамі.

Андрэй з клункам за плячыма ідзе разам з бацькам па шляху ў напрамку мястэчка Глушэц. Збоку значыцца сцежка — па ёй прайшло не больш двух пешаходаў. Пасярэдзіне шляху свежыя каляіны. Аглянешся назад — убачыш — пляцецца адна-дзве падводы.

— Няма руху, няма,— кажа Сцяпан і тужліва глядзіць удалечыню. Час ад часу пытаецца ў Андрэя, ці не баляць ногі.

— Не акрэп ты яшчэ, сыне, не ведаю, як табе будзе там. Ісці далёка...

— Ідзецца добра,— адказаў Андрэй.

І сапраўды, ішлося ахвотна і лёгка па сыпкім марозным снезе. На Андрэю стары кажушок, падпяразаны раменным пояском, на нагах старыя боты, крыху няўклюдныя, цяжкаватыя, на галаве вушанка. Не пускалі яшчэ Андрэя з дому, але ўпёрся, паставіў на сваім — не толькі патрэба зарабіць на хлеб штурхала яго ісці ў невядомае, але і імкненне вырвацца з глушы на шырэйшыя прасторы. Прасторай гэтай павінна была быць лесапільня, да якой трэба ісці трыццаць кіламетраў. Вось туды і ідзе Андрэй. Бацька праводзіць яго толькі да мястэчка — гэта значыць, дзесяць кіламетраў. Бацька хоча пашукаць

сабе работы ў мястэчку, бліжэй ад дому,— думае, можа, наняцца малаціць да якога-небудзь мешчаніна ці дзе дроў парэзаць.

Калі выйшлі на апошнюю гару, перад вачыма як на далоні раскінулася ў нізіне мястэчка. Шаўковыя дымы плылі роўнымі слупамі з камінoў. Па ўскраінах — шэрыя хаты мяшчан, а там, далей,— белыя дамы і яўрэйскія крамы. Усё прыкрыта свежым снегам. Тут для сонца была большая прастора. Яно проста палыхала па аснежаных стрэхах, і ад гэтага ярка блішчалі здалёк крыжы на дзвюх вежах — царквы і касцёла, якія маячылі над наваколлем у ранкавай цішыні, над апаўшым у даліну мястэчкам. Цяпер мястэчка было павятовым горадам.

Калі ўвайшлі на ўскраіну, Сцяпан Касцевіч стаў вясялейшым. Тут яму ўсё вядома з даўніх часоў. Хочацца пабачыць знаёмых людзей — краўцоў, кавалёў, хлебаробаў і гандляроў. Так ішлі яны па драўлянаму тратуарчыку ў тры дошчачкі і паглядалі на крамы і дамы з замерзлымі вокнамі. Там-сям снавалі людзі. У цішыні ранку меладычна звінеў молат у чыёйсьці кузні, а недзе далёка на ўсе галасы заліваўся певень. Апетытна пахла селядцамі. Сцяпан не ўцерпеў, каб не сказаць аб гэтым:

— Пахнуць селядцы, ажно нос зрывае... Што ты зробіш — і на гэта грошa няма.

Перш зайшлі да знаёмага каваля Міхала. У кузні палалі чатыры горны. Ля кожнага стаяў малады каваль. Сам Міхал з дабрадушным сімпатычным тварам, з пасівелай шырокай барадой, апрануты ў падношаны кажушок, стаяў пасярэдзіне кузні і курыў скрутку-цыгарку. Міхал шмат год жыў у вёсцы, недалёка ад Запалянкі, працаваў кавалём. І там набыў любоў да кажушка. Ён і стаяў цяпер у ім і ў чорных суконных штанах сялянскага вырабу, запраўленых у халявы рабочых ботаў. Грыбам сядзела на ім шэрая падношаная шапка, якая быццам ніколі не злазіла з яго галавы. Ад вечнага жару горна і дыму глыбока пахаваліся яго чорныя вочы і глядзелі, як прыжмураныя, сярод складак пачырванелых павек. Роўны нос са звілінкай гарманіраваў з барадою. Прыгожым мужчынам быў некалі Міхал. Але цяпер пастарэў ужо, хоць у яго высокай постаці было яшчэ шмат рухавасці, рабочага такту, толку. Упэўнена хадзіў ён па кузні і даваў заўвагі сваім майстрам. Сам Міхал ужо не працуе — працуюць яго чатыры сыны, якія стаяць пры горнах,— кожны ў скураным фартуху, кожны з закасанымі

рукавамі на жылістых руках. Міхаіл часам толькі пададзьме мех і — усяго. Увіхаўся тут яшчэ сялянскі хлопчык год трынаццаці. Гэта — вучань. Калі Андрэй з бацькам увайшлі ў кузню, Міхал якраз нешта гаварыў гэтаму хлопчыку, які трымаў у руцэ молат і наважваўся спляскаць вялікі цвік.

— ...Пакінь, пакінь... Гэта — не работа...

Знарочыстая суровасць была ў тоне і на твары Міхала, але на вуснах блукала ледзь прыкметная ўсмешка. Ён узяў цвік, хвіліну паглядзеў на яго і кінуў у куток.

— Знайдзі другі, таўсцейшы...— буркнуў каваль і, крута адвярнуўшыся, пыхнуў дымам цыгаркі.

Хлопчык правёў сінімі вачыма ў той бок, куды паляцеў цвік, і, паклаўшы молат на кавадла, накіраваўся да зваленага ў кутку кавальскага ламачча.

І тады вось позірк Міхала ўпаў на Сцяпана з Андрэем. Хвіліну стаяў Міхал нерухома, быццам чымсьці нечакана здзіўлены. Стаяў і Сцяпан. Затым вочы Міхала заморгалі хутка-хутка, і вырваўся невыразны гук:

— А... а... Гэта ты, Сцяпан? Як жа гэта?..

— Здароў, Міхал, здароў...

Яны доўга трэслі адзін аднаму рукі.

— А гэта хто? Можа, сын? — спытаўся Міхал.

— Сын.

І Андрэй таксама пацісНуў шорсткую руку Міхала.

— Пагрэйцеся з дарогі,— запрасіў Міхал.

У кузні было цёпла. Стоячы ля горна, Сцяпан з Міхалам вялі ажыўленую гутарку. Чуўся дробны жвавы смех Міхала. Частымі кіўкамі галавы ён сцвярджаў кожнае слова Сцяпана, слухаючы яго з увагай. Калі ж зайшла гутарка аб Дзям'яне, аб здарэнні ў лесе, Міхал на момант як быццам згорбіўся. Твар зрабіўся сур'ёзным, пратэстуючым. Ён як прыўзняў плечы, так і трымаў іх доўга, затаіўшы дыханне.

— Гэта... гэта, Сцяпан, чалавеку нельга вытрымаць... Ах, божа мой... Але... чаго не вытрымае чалавек за сваё жыццё? Да нас дайшла чутка аб гэтым лесе, але добра не ведаем,— і пачаў пытацца пра здароўе Дзям'яна.

Каваля Міхала ведала ўся акруга — можа, увесь павет. І Міхал ведаў усіх сялян: хто багацейшы, хто бяднейшы, які ў каго характар і сямейнае становішча. Карыстаўся Міхал у сялян вялікай пашанай, як ніхто з кавалёў у акрузе. За што? За свой кавальскі спрыт, за сумленную працу. Калі што зробіць Міхал, гэта ўжо не

фальш. І часта гоманам сялянскім гудзе яго падворак вясною, калі пасярэдзіне круга прыехаўшых стаіць, напрыклад, чыйсьці плуг, а пры ім — усім знаёмы Міхал. Ён ходзіць навокал плуга, як чараўнік, які ведае ўсе сакрэты найважнейшай гаспадарчай прылады. Гаспадар скардзіцца, што ён вось нядаўна зрабіў плуг, які так падпірае баразну, што конь ледзь цягне. Міхал пытаецца: «Хто табе рабіў яго?» Даведаўшыся хто, раптам плюне і, узняўшы бараду, азірне ўсіх.

— Гэта паскуднік, я вам скажу... Гэта паскуднік, а не каваль...

І ўсе змаўкаюць. Зараз Міхал выкрые сакрэт. А Міхал толькі палэпае па плячы гаспадара і скажа: «Ідзі, чалавеча, купляй, што табе трэба для дому. Пакуль прыйдзеш, будзе ўсё гатова...» І пры гэтым з трапяткою ўсмешкай на твары нагнецца да вуха гаспадара і загне па адрасу «каваля-паскудніка» нешта такое занадта вольнае (але каб усе чулі), што ўсім аж млосна робіцца ад смеху. І пад агульны рогат Міхал вымае з кішэні сялянскі капшук з махоркай, зроблены з барановай скуры, закурвае сам, частуе другіх. Бываюць цяжкія моманты ў гаспадарцы — трэба паладзіць воз ці плуг, а няма чым заплаціць. Міхал у такіх выпадках гаворыць гаспадару: «Я ў цябе грошай не пытаю...» І дае загад сынам зрабіць, што трэба. Пры развітанні з гаспадаром толькі буркне ў бараду: «Калі будзеш мець, аддасі...» І, крута адвярнуўшыся ад гаспадара, як нічога не было, ідзе ў кузню. Гаспадар нейкі момант глядзіць яму ўслед, як утароплены, і з палёгкай у сэрцы едзе дахаты. Не вёў Міхал ніякіх запісаў, хто яму вінен — ён ведаў сілу сваіх адносін да людзей і таму быў упэўнены, што ніхто не паспрабуе яго ашукаць. Ды так яно і было. Суседзі — гандляры — з некаторай пагардай ставіліся да Міхала, казалі, што ён спрасцеў, змужычэў. Міхал са сваім цвярозым розумам мала дбаў пра гэта — усё роўна ў сінагозе нават не сядзеў, а стаяў у задніх радах. Міхал ганарыўся сваёй працай, сваімі сынамі, якіх у яго было восем (бог пакрыўдзіў яго на дачку). Гонар свой і сілу ён чэрпаў сапраўды непасрэдна з народа. Сыноў сваіх трымаў у дысцыпліне і нават часам жорсткай.

Самому старэйшаму сыну было трыццаць год, а самаму малодшаму — трынаццаць. Старэйшы сын Якаў — нежанаты — быў у Міхала «вучоны» і не хацеў жаніцца. Жанатым быў толькі другі сын, Хаім, самы найлепшы

каваль з сыноў. З ім найбольш і раіўся Міхал заўсёды ў розных справах сваёй гаспадаркі.

І цяпер, скончыўшы гутарку са Сцяпанам, ён падышоў да Хаіма перакінуцца парай слоў. Потым сказаў Сцяпану:

— Калі ўжо так, Сцяпан, застанься ў мяне на некалькі дзён, парэжаш дроў... як хочаш, ці... ці адзін, а не... дык паможа табе вось гэты хлопец...— і паказаў на вучня. Сказаў гэта ён проста, непасрэдна, хоць крыху перажываў нейкую ніякаватасць.

— Я цябе не пакрыўджу, Сцяпан... Калі хочаш яшчэ куды схадзіць, схадзі...

А Андрэй тым часам пазнаёміўся з Якавам. У Якава быў інтэлігентны твар. Ён без засцярогі ўступіў у гутарку з Андрэем, як быццам разумеючы, з кім мае справу. У яго тоне і змесце гутаркі прарывалася прага да спраў, аб якіх, як адчувалася, яму ні з кім не здаралася гаварыць. Мова яго некалькі аддавала кніжнасцю. Гэта зразумела — Якаў чытаў тое-сёе нават з твораў Маркса, быў знаўцам палітычнай эканоміі. Падабалася Андрэю непасрэднасць Якава. Цёмны чуб мяккіх хвалістых валасоў звісаў з-пад казырка кепкі на шырокі спацелы лоб. З-пад чуба шчыра глядзелі вялікія карыя вочы і, здаецца, гаварылі: «Не ідзі, брат, пачакай, мы яшчэ пра многае пагаворым». А Андрэй думаў з болем у душы: «Каб не голад, не гэты клунак за плячыма, узяў бы я гэтага Якава пад руку і пайшлі б недзе, вырашаючы і малыя і вялікія пытанні, якія з кожным днём грузам асядаюць на сэрцы».

— Шкада мне вас,— сказаў Якаў,— многае можа страціцца ў пагоні за кавалкам хлеба...

— А мне шкада і вас,— адказаў Андрэй,— хоць вы ў лепшым становішчы, чым я... Мне здаецца, што вы тут адзінокі са сваімі думкамі...

— Можна сказаць, што так... Часам, скажу вам, неяк і страшна робіцца...

Калі Андрэй збіраўся ісці з бацькам, Якаў паклаў молат на кавадла і з усмешкай працягнуў руку на развітанне.

— Ну, будзем знаёмы. Вельмі рад,— пацiскаючы руку Андрэя, сказаў Якаў.— Будзеце ісці з работы, абавязкова заходзьце.

І Андрэй з бацькам выйшлі з кузні.

Ад гутаркі з Якавам у Андрэя быў такі душэўны стан, як быццам яго напаіў хто гаючай вадой, якая так і ра-

зыходзілася цеплынёй па ўсім целе. «Не, усё ж такі не ўсё страчана. Ёсць пробліскі надзеі. Яны ў людзях»,— падумаў ён і смялей закрочыў па дашчанаму тратуару.

— Людскі чалавек гэты Міхал,— сказаў Сцяпан.— З ім можна жыць і ладзіць. Яшчэ зойдзем у адно месца, і ты, Андрэй, пойдзеш. Да вечара табе трэба прыйсці на месца... Зойдзем адведаць яшчэ аднаго добрага знаёмага.

І яны зайшлі ў старую доўгую, з седлаватай страхой драўляную хату. Калі гэтая хата была новая, яе можна было назваць домам, а цяпер гэтая назва ўжо не падыходзіла. Усё ў хаце было старое, пачынаючы ад гонтавай страхі і пакрыўленых вялікіх вокнаў і канчаючы пахіленымі слупамі ганка, што выходзіў на падворак. Гэта была хата старога, усім вядомага краўца Абрама.

Вялікія сенцы з кладоўкамі падзялялі хату Абрама на дзве палавіны. У пярэдняй палавіне жыла сям'я. У задняй — была кухня і майстэрня. Туды і ўвайшлі Андрэй з бацькам. Пацямнелая ад часу столь была падпёрта пад бэлькі двума слупамі пры сценах. Налева ад парога стаяў доўгі стол. На ім сярод дзвюх швейных машын ляжала і сукно, і нешта танчэйшае, і нават кажухі. Дзе што з гатовай вопраткі — курткі, пінжакі — вісела на сцяне. У пярэднюю сцяну ўпіраліся нары. На іх сядзелі паўкругам, выцягнуўшы ногі і прыпёршыся спінамі да сцяны, майстры, і кожны цыраваў іголкай — хто пінжак, хто шэрую сялянскую куртку. Майстры — гэта тры сыны Абрама і сярэдніх год селянін, які шыў кажух. Гэта быў практыкант. Над адной машынай (меншай) схілілася дачка Абрама — дзяўчына з русымі валасамі і з тонкімі рысамі схуднелага твару. Сам Абрам у доўгім чорным капоце, які блішчаў на грудзях ад заношанасці, стаяў сярод майстэрні і на пальцы сукаў сураную нітку. Высокі, пасівелы, у чорнай шапцы, Абрам на сваім бледным твары заўсёды насіў выраз не то сарказму, не то весялосці. Усё гэта было як быццам спалучана ў адно і прытоенай спружынай жыло ў душы Абрама. З простымі людзьмі ён быў спакойны ў голасе, справы рабіў хутка і дакладна. Раіў, напрыклад, кожнаму селяніну, які прыходзіў да яго з заказам, што́ лепш пашыць з прынесенага матэрыялу — ці доўгую куртку, ці кароткую, ці лепш да святаў, ці да работы. І кожны з ім згаджаўся, а Абрам, усміхаючыся ў бараду, казаў:

— Эх ты... як той, што хоча жаніцца... Бярэ дзеўку, а не знае, якая яна...— І пры гэтым расказваў якую-не-

будзь быль, якая пачыналася амаль заўсёды словамі — «Як жылі мы некалі на вёсцы... Яны...— пры гэтым Абрам ківаў галавою ў бок дзяцей — былі яшчэ бахурамі...» І ў кожным расказаным здарэнні быў схаваны свой мастацкі сакрэт, здабыты назіраннем і жыццёвай мудрасцю.

Абрам быў краўцом-універсалам. Ён шыў і навучыў шыць і дзяцей вопратку не толькі сялянам, гарадскім мяшчанам, дробным гандлярам, купцам, але таксама і панам — пераважна розным чыноўнікам. Толькі вось ужо з панамі Абрам трымаўся іначай. Кожны пан ці падпанак, будучы ў Абрама, лічыў патрэбным паказаць перад ім сваё самадурства. І цяпер не паспеў Абрам распачаць гутарку са Сцяпанам, як у майстэрню з разбегу ўляцеў нейкі шляхтун, год за трыццаць, у кепцы з навушнікамі і куртцы з лісіным каўняром. На нагах — жоўтыя бліשчастыя крагі, а ў руцэ — хлыст. Не вітаючыся, ён крыкнуў:

— Я доўга буду чакаць гарнітура?

Абрам крыху замітусіўся, але авалодаў сабою і сказаў:

— Пан жа толькі тры дні назад як прынёс...

— Цо то за одповедзь? Тры дні — найвысшы час...

Абрам кіўнуў дачцэ, а сам звярнуўся да раз'юшанага пана:

— Прошэ пана... распрануцца... Зараз пану памераем...

На шчасце, касцюм быў пачаты ўжо. Яго і падала Абраму дачка. У майстэрні цемнавата, а зрок у Абрама ўжо быў прытуплены. Дачка запаліла дзесяцілінейную лямпу. І з гэтай лямпай Абрам доўга разглядаў пінжак на пану. Разгладжваў швы, абцягваў, асцярожна дакранаючыся рукою да шырокай спіны пана, здымаў двума пальцамі якую-небудзь смяцінку. Нават дзьмухаў. Разумелася, што гэтага агляду ўжо даволі, але Абрам па некалькі разоў асвятляў пана лямпаю з галавы да ног, кружачыся навокал.

Гэта быў ужо не агляд пінжака, а нешта такое, каб уціхамірыць самадурства пана.

На развітанне пан сказаў:

— Як за два дні не будзе гатовы касцюм, пасаджу пана да цюпы...

Слова «цюпа» — гэта панскі вульгарызм — азначала арышт.

— Пан не такі ўжо сярдзіты...— з вымушанай усмешкай адказаў Абрам.

— Но, но...— прыгразіў пан і, ляснуўшы хлыстом па халяве, вылецеў з майстэрні.

Заўсёды пасля такіх гутарак з панамі Абрам пачынаў цягнуць у нос нейкую невыразную мелодыю. Так было і цяпер. Абрам маўчаў, круцячы цыгарку, і невыразныя гукі прарываліся час ад часу. Урэшце азірнуў усіх і сказаў:

— Тупату, як у пеўня... А хуліганства... на... на цэлы свет...— і звярнуўся да сына, які сядзеў на нарах першым злева: — Гірш, адкінь тое... Трэба скончыць яму...— і кінуў у бок Сцяпана: — Трэба скуле дагадзіць... як ты скажаш, Сцяпан?

— Гэта — скула...— працягнуў Сцяпан.— Хто ж гэта?

Дзьмухнуўшы дымам цыгаркі, Абрам узняў палец і адказаў:

— О, гэта вялікая шышка... Гэта — памочнік палітычнага рэферэнта староства...[1] З ім не зачапляйся... Ты думаеш, Сцяпан, што ён дагаварыўся аб плаце, як прыносіў касцюм? Дзе там. Няма гэтай прывычкі ў паноў. Вось робіш і не ведаеш за што. Як прыйдзе браць касцюм...— і Абрам дакрануўся да пляча Сцяпана,— заплоціць столькі, колькі ён захоча...— і, пацiснуўшы плячыма, закончыў: — Што ты зробіш з ліхам? — і невыразная мелодыя зноў прарвалася з вуснаў. Нарэшце, махнуўшы абыякава рукою, Абрам сказаў: — А... Чорт яго бяры...— І зрабіўся па-свойму сур'ёзным, вясёла-саркастычным. Сказаў дачцэ па-яўрэйску, каб прынесла з кухні дзве талеркі супу і хлеба з цыбуляй. І яшчэ нешта сказаў паўсловам, на што дачка адказала доўгім позіркам...

— Нічога, нясі, нясі...

Гэтае апошняе, што прасіў Абрам у дачкі намёкам, была гарэлка. Абрам любіў часам выпіць адну-дзве чаркі. Навучыўся ён гэта рабіць у час нямецкай акупацыі, калі жудасна жылося ў апусцелым мястэчку і калі немцы адзін раз скатавалі яго старэйшага сына. З таго часу выпіць чарку стала амаль штодзённай слабасцю Абрама. Заўсёды за гэтым заняткам пільнавала яго дачка, якая не давала бацьку больш гэтай нормы і пасля гарэлку хавала.

---

[1] Павятовае ўпраўленне.

Сцяпан сядзеў на ўслоне ля печкі і быў здзіўлены такою гасціннасцю Абрама. Ужо чаго-чаго, а гарэлкі ён не чакаў. І як бы ў адказ яго думкам Абрам сказаў:

— Ты не дзівіся, Сцяпан,— немцы навучылі мяне часта заглядаць у чарку,— і коратка расказаў, як жылося пры немцах у бязлюдным мястэчку, што хацеў уцячы ў вёску, ды бяда — і там людзей не было.

— На, выпі на здароўе, Сцяпан! Твой бацька, кажаш, памёр у дарозе. З тваім бацькам мы некалі сябравалі... Ён шыў толькі ў мяне... Карову некалі я быў купіў у яго... Слаўная была карова... Каня мне ніколі не шкадаваў... Я ўсё помню, Сцяпан... Ну, будзь здароў...—і Абрам апетытна перакуліў чарку.

— Адно ліха збылі — немцаў, другое нажылі — паноў...— жуючы хлеб з цыбуляй, працягваў Абрам.

Дачка моўчкі пазірала на бацьку, і яе твар, схілены над машынай, асвятляўся загадкавай усмешкай... Пазіралі на бацьку і сыны і таксама ўсміхаліся сабе ў нос.

— Трэба ж і сыну твайму даць чарачку, хоць я маладых гарэлкай частаваць не люблю...— гаварыў далей Абрам, наліваючы чарку і з усмешкай паглядаючы на Андрэя, які сядзеў на нарах побач з Гіршам.— Вы там ужо, як бачу, знаёмства завялі з маім Гіршам... Гірш у мяне... ого... гэта... ён больш знае, як рабін...

— Тата...— запратэставала дачка.

— Ты маўчы... Ты ў мяне яшчэ смаркачка...

Дачка і ўсе дружна засмяяліся. У майстэрні стала весела.

Гірш, ці, як называў яго практыкант Пракоп, Грыша, шыў касцюмы толькі для паноў, купцоў — словам, для местачковай арыстакратыі. Бледны, з правільнымі тонкімі рысамі твару, у акулярах, ён выдзяляўся сярод сваіх братоў тым, што можна было б назваць культурнасцю. У гутарцы з Андрэем ён прагна лавіў кожнае слова аб Савецкай Расіі.

— Дык вы вучыліся ва універсітэце? — пытаўся ён, і праз акуляры глядзела з вачэй захапленне з прымешкай не то зайздрасці, не то здзіўлення.— Можа, кніжак прывезлі з сабой?

— Прывёз...

— Ах, ах!..

Андрэй пачаў расказваць аб студэнцкім жыцці, аб удзеле моладзі ў грамадзянскай вайне, аб клубах, тэатрах, аб надзеле сялян зямлёй, аб першых камунах, у ад-

ной з якіх ён настаўнічаў адзін год. Прыслухоўваліся да гутаркі і браты Грышы, якія сядзелі, схіліўшыся над курткамі, прыўзняўшы казыркі сваіх кепак. (У майстэрні адзін Грыша сядзеў без шапкі.)

Успамінаючы падзеі з мінулага, Андрэй як быццам адводзіў душу, перажываў нанова перажытае. У Грышы і ў сына Міхала — Якава — ён адчуў нешта супольнае. Толькі Грыша быў спакайнейшы, удумлівы, больш разважны ў тоне, не такі трапяткі ў гутарцы, як Якаў. Грыша з Андрэем аднолькава смяяліся, гледзячы, як практыкант Пракоп адмаўляўся ад чаркі, якую працягнуў яму Абрам.

— Далібог, Абрамка, не хачу... Навошта мне? Піце на здароўе. Я і так пабуду... Абыдзецца...— і біў сябе ў грудзі кулаком.

— Бяры, Пракоп, калі даю...— цягнуў Абрам.— Пойдзеш па вёсках шыць кажухі, успамінаць будзеш Абрама.

— Я цябе і так помню... Не хачу...

Але адмовіцца было не пад сілу, і Пракоп, уцёршы кулаком направа і налева свае жоўтыя вусы, з урачыстанаіўным, амаль набожным, выразам на твары прыняў чарку.

Абрам не даў гарэлкі толькі сынам і дачцэ, на што яны і не прэтэндавалі. Заткнуў бутэльку і хутка перадаў яе дачцэ, як быццам баяўся ў чым правініцца.

— На, схавай...— сказаў і ўсміхнуўся.

На развітанне Абрам сказаў Сцяпану:

— Як скончыш працу ў Міхала, Сцяпан, прыходзь да мяне. У мяне будзе тое самае... А можа і што іншае...

Грыша выбег правесці Андрэя аж на падворак, доўга паціскаў яму руку. Вочы ўсміхаліся пад акулярамі. Прасіў не мінаць, заходзіць.

— Я вельмі рад, што пазнаёміўся з вамі... Шкада, што так... Ну, але яшчэ ўбачымся...

Дарога ў пушыстым снезе, сонечная, іскрыстая, усё глыбей і глыбей вяла Андрэя ў лес. На здзіўленне самому, ногі ішлі шпарка, цеплыня разлівалася па ўсім целе, недзе выпарылася заўсёды гнятучае пачуццё голаду.

«Што значыць адна талерка супу»,— падумаў Андрэй і ўсміхнуўся.

Спыняўся, закурваў і з таемным захапленнем глядзеў на лес-бор. Даўно так блізка не бачыў бору. На Паволжы найбольш перад вачыма быў стэп. А тут — бяс-

крайні сасновы лес, прыцярушаны марозным снегам, лес, які захапляў сваёй магутнай цішынёй. Супакаенне сплывала на душу Андрэя.

«Не ўсё страчана... Не ўсё... Хутчэй да працы...» І Андрэй адчуў такі прыліў энергіі, што, здаецца, мог бы, як кажуць, варочаць горы. Думаў: «Як толькі будзе магчымасць, пайду назад у Савецкую Расію. Там буду жыць, вучыцца...» А прыдарожныя сосны праводзілі яго сонечнымі позіркамі і, здаецца ўсміхаючыся, казалі: «Наіўны, Андрэй... Ты яшчэ не ведаеш, куды ідзеш...»

Ад такой думкі рабілася няёмка, нават страшнавата. Але, калі ўспомніў, як ездзіў у прамерзлых таварных вагонах і нават на дахах і буферах у час грамадзянскай вайны, як спаў на беразе Волгі з чырвонаармейцамі ля кастра,— усе страхі перад невядомым знікалі, як здань.

— Народ і тут не спіць... Няхай страляюць... Б'юць... Дзям'янаў у народзе многа...

Андрэй успомніў аб расстрэле... Выходзячы з мястэчка, зайшоў для цікавасці ў валасное праўленне (гміну), што стаяла на ўскраіне, і ўбачыў на дзвярах аб'яву староства, надрукаваную па-польску і па-беларуску аб расстрэле пяці чалавек «за бандытызм».

«Дзе яны — гэтыя нязнаныя героі?..»

І новая хваля наплыла на душу Андрэя. Навала пачуцця безвыходнасці і тугі, што так прыгняла Андрэя пасля прыезду, уступіла месца пачуццю гневу. А прыдарожныя сонечныя сосны казалі Андрэю:

«Ты яшчэ мала знаеш... Пабачыш больш...»

Але Андрэй ужо нюхнуў чужога для яго паветра і адчуў, як пратэст заварушыўся ў грудзях. Гвалт над Дзям'янам... Граф Ельскі... бліскучыя халявы-крагі ў пана, што пагражаў пасадзіць Абрама «да цюпы»... аб'ява аб расстрэле пяці. Вось дзе высоўваецца панскі традыцыйны бізун. І ўсплылі ў памяці Андрэя колішнія расказы бабкі аб паншчыне, аб крывавых панах... Той самы пах і колер, той самы дух і выраз. Пан і хлоп. Хлоп і пан. Тая самая прыгонніцкая тэрміналогія. «Хамская юха, хлопская скура»,— так крычалі паліцыянты, калі білі Дзям'яна і другіх у лесе графа Ельскага. Бррр... і Андрэй уздрыгнуў. А сосны праводзілі яго ціхім шумам: «Ідзі, ідзі далей... Гэта толькі пачатак...»

Андрэй не ведаў, колькі кіламетраў ён прайшоў. Дарога ішла проста, адна — нідзе не перакрыжоўвалася з другой. І Андрэй ішоў таксама адзін, нікога не сустра-

каючы з людзей. І таму занепакоіўся нават, калі ўбачыў у аддаленні двух хлопцаў з клункамі за плячыма. Яны сядзелі на берване пры дарозе. Андрэй здзівіўся падышоўшы. Гэта былі сыны Тацяны Ціханчук — Пятрусь і Максім.

— Як жа гэта? Мусіць, рана выйшлі з дому?

— Рана. Нам гэтая дарога ўжо знаёмая. Трэба паспець да вечара дайсці да месца.

— А як далёка яшчэ? — спытаўся Андрэй.

— Яшчэ палавіна.

Пайшлі разам. Пятрусь і Максім былі дробныя хлопцы, схудалыя і спрацаваныя.

— Вы, Андрэй, першы раз ідзяце, а мы ўжо там былі,— сказаў Пятрусь.— Эх, баракі там, баракі... як хлявы.

— Чаго ты хочаш ад баракаў? Абы цёпла...— запярэчыў Максім, хлопец з наіўным жаночым тварам і жаночымі рухамі. Пятрусь быў больш сталы і мужны.

— А есці ўжо хочацца... Аж ногі не хочуць ісці...— прамовіў Пятрусь.

— Дык у мяне ёсць кавалак бульбяной кашы,— сказаў Андрэй.

— А ў нас, Андрэй, і гэтага няма. Ёсць піражкі з молатых сухіх картапляных абіркаў,— і Пятрусь засмяяўся.— От, жытка прыйшла,— і закруціў галавою.

Спыніліся, Андрэй аддаў хлопцам сваю кашу. Яны ўпіраліся, не хацелі, але потым узялі і, разламаўшы на дзве палавіны, пачалі есці з прагнасцю. Павесялелі. Пачалі ўспамінаць Расію.

— От дзе было жыццё... Мусіць, ніколі ўжо такога не будзе... Кабаноў кармілі... Хлеб пшанічны пяклі... У школах вучыліся, у клубы хадзілі... А тут...

Пятрусь быў крыху меланхалічны, і голас яго гучаў, як бзынканне пчалы,— санліва, манатонна. Але частая ўсмешка, што праясняла яго невялікі курносы твар, надавала яму сімпатычнасці і гумару.

— Знаеце, Андрэй...

— Не заві мяне на «вы», Пеця,— сказаў Андрэй,— а проста на «ты»...

— Ну, як жа... Вы ж...

— Не-не, не трэба... Нашто?

— Ну, добра... За што гэта расстралялі пяць чалавек? Мы прачыталі ў гміне на дзвярах...

— Мусіць, паноў вельмі яны не любілі...

— Мусіць, што так,— сказаў Пеця.— Можа, гэта яны спалілі ў нашага папа гумно са збожжам?

— Невядома, брат,— адказаў Андрэй, адчуваючы, як прыплывае ў ім сімпатыя да гэтага хлопца.

— А ты лепш маўчаў бы аб гэтым,— жаночым голасам сказаў Максім,— а то пляцеш ліха ведае што...

— Не бойся, Максім! Нічога тут няма страшнага,— супакоіў Андрэй, а сам падумаў пра іншае: «Якія думкі ў людзей — харошыя, цудоўныя. Усе жывуць у тузе, усе прыслухоўваюцца да кожнага павароту, да кожнага шораху паноў. Недзе ў народных гушчах, прытоеная ў глушы, сочыцца, прабівае сабе дарогу ручаіна свабоды».

— Стойце, хлопцы, нехта вунь выйшаў з лесу на дарогу,— прамовіў Андрэй.

Спыніліся, прыгледзеліся. Чалавек стаяў на дарозе і глядзеў ім насустрач. Наблізіліся да незнаёмага і з цікавасцю сачылі за ім. Панскі, але чамусьці пахудалы твар з апушчанымі вусамі. Футравая вушанка на галаве колеру цёмна-шэрага ката і такая ж куртка. На нагах высокія паляўнічыя боты з сабачай скуры, поўсцю наверх. За плячыма — дубальтоўка і скураны ранец з біклагай. Пан як пан — ва ўсёй форме.

— Дзень добры, хлопакі,— слабым і крыху нават збедненым голасам прамовіў пан.

— Дзень добры...

Пан адкашляўся і загаварыў:

— Куды вядзе гэтая дарога?

— Да Залатой гары — на лесапільню,— адказаў Пеця.

— Гм... Цьфу, пся крэў... А як далёка да Злотай гуры?

— Адгэтуль кіламетраў пяць...

— Ах, ах, мой божа!.. Бог мне вас наслаў... Я пайшоў са сваімі калегамі на паляванне — трох нас было — два дні таму назад. Мы разышліся. І вось ужо трэці дзень, як я блукаю па лесе і не магу знайсці дарогу на лесапільню... Толькі пачую гудок лесапільні — іду на яго, а як гудок сціхне — я зноў заблуджуся... Думаў, што загіну ад роспачы і голаду... Можа, хлопакі, маеце што з'есці?

— Мы маем, пане,— адказаў сваім насавым цягучым голасам Пеця,— але пан гэтага не будзе есці...

— Чаму не буду? Я зараз д'ябла з'ем... Узычце, як маеце... Вы ідзяце па лесапільню — дык я вам там адплачу...

— У нас ёсць толькі піражкі такія з картапляных абіркаў... яны чорныя...

— Вшыстко едно — што б ні было... Я тры дні нічога не меў у роце, апрача гожэлкі з біклагі... Ды яна пустая ўжо...

Пеця дастаў з торбы «піражкі» і працягнуў пану. Пан з хцівасцю схапіў іх. Вочы яго навыкаце, разгарэліся, забегалі ў арбітах.

— О, нават ладне выглядаюць,— сказаў і так хутка пачаў есці, працаваць сківіцамі, як галодная жывёліна, што дарвалася да яды.

Пах гэтых «піражкоў» быў пахам свінога цеста ў карыце, а пан нічога на адчуваў і глытаў адзін «піражок» за другім.

— Слова да́е, смачныя... Бардзо смачныя... Бардзо... Дзенькуе вам, хлопцы... Накармілі... Дай божэ вам здароўя...

Андрэй сачыў за панам і ўсміхаўся, думаючы, якое ж кволае і бездапаможнае стварэнне гэты пан. А Пеця і Максім глядзелі пану часам проста ў рот і здушвалі ў сабе смех.

— А кім вы, пане, працуеце на лесапільні? — спытаў Пеця.

— Я? Я на лесапільні не працую. Я — лясны інжынер, служу ляснічым у Злотай гуры. Ужо два месяцы.

...Пяць кіламетраў мінула хутка. Пан усю дарогу бедаваў аб сабе і шкадаваў, што нічога не давялося ўпаляваць:

— Цо тэраз мы́слі мо́я жона? Мой божа... Дзякаваць богу, што вы надышлі...

Урэшце дарога выйшла на шырокую, як вокам глянуць, паляну, над якой маячыў комін лесапільні. З яго клубіўся чорны дым і расплываўся над лесам. Шэрыя дашчаныя будынкі ліпелі там і сям. Уздоўж вузкакалейкі ляжалі ярусы бярвенняў — доўгіх і кароткіх. Пры самай лесапільні ўзвышаліся ярусы шпал і дошак — свежых, толькі з-пад станка.

Андрэй спыніўся і азірнуў паляну. Слухаючы чахканне лесапільнага станка, падумаў: «Вось і адкрылася новая нечаканая старонка кнігі майго маладога жыцця... Пойдзем яму насустрач, што б там ні было...»

## Раздзел другі

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

«Колькі ж разоў я сягоння падаў?» — думаў Андрэй, лежачы ўвечары ў бараку на нарах. І пачаў лічыць. Налічыў — пяць. Два разы пакаўзнуўся на штабелі і ўдарыўся локцем. Баліць, немалая драпіна. Трэба было б зняць сарочку — паглядзець. Але Андрэй саромеецца напарнікаў: могуць палічыць гэта за слабасць. Вось каля печкі гатуе вячэру той, які яго, Андрэя, падняў сягоння, калі ён упаў другі раз і пабіў локаць. Здаецца, добры, сардэчны хлопец гэты Сава. Андрэю хацелася б яму падзякаваць, але... чамусьці сорамна, вельмі сорамна. «Мусіць, ён думае... беларучка я, пан».

Або яшчэ... Падымалі ўтрох са снегу бервяно і неслі да ваганеткі. «Мяне ж наўмысна паставілі пасярэдзіне, каб мне лягчэй было, а я, апускаючы бервяно на ваганетку, усё роўна пабіў сабе пальцы, і цяпер яны баляць, калі згінаеш іх і разгінаеш...» Але самае страшнае здарылася пасля — з гэтым, як назваў яго Андрэй, праклятым бервяном. Яго падымалі са схілу канавы — таксама ўтрох. Ногі слізгалі па мокрым снезе. Андрэй падаў двойчы. А вось Сава спачатку ўтаптаў снег, каб мець упор для ног. Тое самае зрабіў і трэці грузчык — Захар. А ён, Андрэй, адразу ўхапіўся за бервяно і, зразумела, выйшаў канфуз — паехаў уніз пад агульны рогат сваіх напарнікаў. Праўда, і ў яго мільганула думка, што спачатку трэба ўтаптаць снег, але яму здалося, што гэта палічаць за маладушша. І вось — паспяшаўся... Потым неслі гэтае праклятае бервяно па схіле канавы ўверх. Неслі не спяшаючыся, асцярожна. Здаецца, усё было добра — хоць павольна, але падымаліся ўверх. І раптам — як жа гэта здарылася? Абедзве нагі... Хоць бы адна, а то абедзве слізганулі ўніз. Андрэй пацягнуў за сабою бервяно, і яно выпала з рук Савы і Захара. Нехта крыкнуў: «Адыдзі!» І Андрэй, нічога не бачачы, клубком пакаціўся ўніз, уцякаючы ад бервяна, а яно, перакруціўшыся некалькі разоў, застрагла ў снезе, узрыхленым нагамі грузчыкаў...

...Андрэй устаў. У вушах яго гучаў крыўдны вокрык: «Адыдзі!» Ці не было ў ім намёку на тое, каб ён зусім пайшоў адгэтуль? Ён жа для іх толькі замінка, клопат. Дый як ім ставіцца да яго, такога нерастаропнага? І вось ён ля-

жыць на нарах і ў соты раз вырашае ўсё адно і тое пытанне — пайсці адгэтуль ці застацца? Застацца — гэта значыць аддаць сябе справядлівым насмешкам, адчуць сябе непатрэбным, лішнім... А ён думаў — паступіць на завод... І мары здзейсняцца — ён будзе роўны сярод рабочых... «Не... Трэба пайсці... Заўтра ж...»

Добра было б зарабіць грошай і ўцячы туды — за мяжу, да сваіх. Андрэй думае, думае... Але так ужо адразу і ўцякаць? — загаварыла амбіцыя.

І Андрэй зразумеў, што адгэтуль ён нікуды не пойдзе. Не пойдзе ў імя чагосьці важнага...

Яму ўспомніўся адзін выпадак на Паволжы — як насмешліва гутарыў з ім адзін стары з тых «былых», калі даведаўся, што Андрэй, сын чыгуначніка, будзе вучыцца на гістарычным факультэце. Пры сустрэчы з Андрэем ён сказаў: «А, філосаф без агуркоў».

Андрэй тады нават узлаваўся. Ну а цяпер?

У бараку рабілася горача. Вочы зліпаліся. І ўжо праз сон пачуў Андрэй, як гэты высокі, моцны чалавек, Сава, сказаў Захару:

— Стаміўся хлопец... Што ты хочаш — без прывычкі...

* * *

Зіма 1921 года была пераменнай — маразы змянялі адлігі і наадварот.

Пяць чалавек з каламі ў руках стаялі на высокім ярусе бярвенняў пры вузкакалейцы. Сярод іх быў і Андрэй. Такіх ярусаў была незлічоная колькасць. Хаваліся яны ўжо ў лесе, за паваротам вузкакалейкі. Амаль на кожным ярусе былі рабочыя. Ішла пагрузка на ваганеткі. Пыхкаў паравозік «кукушка», які падвозіў нагружаныя дрэвам ваганеткі да лесапільнага завода. Усе рабочыя на пагрузцы працавалі падзённа. Заробку хапала на кілаграм хлеба і адзін селядзец, што і бралі рабочыя кожны дзень на рахунак сваёй зарплаты ў прадуктовым складзе. Лесапільны завод быў дзяржаўным.

Ішоў мокры снег. Цягнуўся, як немач, адзін з тых характэрных дзён беларускай зімы, калі ўсё прасякаецца золкім холадам, вільгаццю, што чалавеку вельмі не хочацца дакранацца да рэчаў. Усё прамакае наскрозь — абутак, адзежа, дрэва і, бадай, жалеза. Бярвенні не каціліся па легах, а коўзаліся, з'язджалі назад, упарта не паддаваліся намаганням рабочых. Але як-ніяк бервяно за бервяном

клалася на ваганеткі. Ля камля стаяла трое, а ля верхавіны — двое. У пары з плячыстым Савам Супруном стаяў Андрэй ля верхавіны.

— Паднаціснем, таварыш Андрэй,— час ад часу пагукваў Сава, і яго вялікія каравыя рукі сціскалі мокры кол, а твар чырванеў ад натугі.

— Ты, Сава, цішэй са словам «таварыш», а то вунь гэты пан мае вушы! — паказаў Андрэй кіўком галавы ў напрамку вузкакалейкі.

Там, уздоўж ваганетак, пахаджваў наглядчык, ці, як яго звалі, «пан пляцовы». У стаўбунаватай сівой шапцы, у такога ж колеру бекешы, пашытай па старашляхецкай модзе з узорыстымі вензелямі — засцёжкамі на грудзях, гэты «пан пляцовы», засунуўшы рукі ў кішэні, час ад часу пакрыкваў на рабочых задзірыстым голасам, поўным зняваі і здзеку. Не варушыліся, а проста скакалі разам з губамі яго чорныя вусікі пад доўгім мясістым носам, калі ён крычаў на каго-небудзь: «Цо, я за вас буду працаваць, пся крэў?» Выляталі і такія словы, як «хам», «чубарык», «быдла». За мясісты, доўгі нос рабочыя празвалі пана пляцовага «Глюгам». «Цішэй, Глюга ідзе, дасць перцу...» Або: «Вунь Глюга папаўзла»,— гаварылі рабочыя. Гэты «пан пляцовы» нездарма так бестурботна трымаў рукі ў кішэнях і, закідваючы галаву назад, крычаў, як панскі аканом у маёнтку,— ён быў не толькі наглядчык пляцу, ён быў панам жыцця, заробку кожнага рабочага. Калі што не так, знімаў грузчыка з работы, і не было каму паскардзіцца на гэтага пана.

Побач з групай грузчыкаў, сярод якіх быў Андрэй, на суседнім ярусе працавалі дзед з жанчынай. Яны грузілі не доўгія бярвенні, а кароткія — для шпал. У сухое надвор'е пагрузка такіх шпал — не такая ўжо цяжкая праца ў параўнанні з іншай, нават і для дзеда з жанчынай, але ў такі мокры студзень, як гэта было цяпер, праца вымагала падвойнага напружання і спрыту. Прычым дзед выглядаў худым. Можа, быў нават і хворы. Маладзіца, як выявілася, была яго дачка. Андрэй з Савам бачылі, як канец шпалы, дзе стаяў дзед, слізгануў па схіле назад ад ваганеткі, і шпала з лёгаў паляцела на зямлю. Тое самае сталася і з другой шпалай. Відаць, дзед ужо зусім знясілеў. Ён дакранаўся да шпалы скарчанелымі пальцамі, як граблямі, і час ад часу выціраў свае вочы, якія ад ветру заплывалі слязьмі. Калі ўпала другая шпала, падскочыў Глюга.

— Цо то за работа?! — крыкнуў ён і загадаў дзеду злезці з яруса. Дзед неахвотна злез і пакорліва стаў перад Глюгам.

— Цо то за работа, пытаюся? — крыкнуў у самы нос дзеду Глюга, пачырванеўшы ад злосці.

Дзед нічога не адказаў.

— Падняць гэта! — крыкнуў Глюга, паказваючы пальцам на шпалы, якія зваліліся на зямлю. Дачка адазвалася з яруса: «Зараз, пане, падымем» — і намерылася злазіць з яруса. Але Глюга спыніў яе:

— Не твая справа. Няхай ён адзін падыме!..

— Паночку, ці ж я адзін...

— Прэч з работы! — крыкнуў пляцовы і штурхнуў дзеда пад локаць.

Дзед паслізнуўся адной нагой і ўпаў у канаўку пры вузкакалейцы з ледзянітаю снежнаю вадой. Брохаючы лапцямі ў вадзе, ён пялёхаўся, намагаўся ўстаць. Пяць хлопцаў, сярод якіх быў Андрэй, стаялі, апёршыся на калы, і глядзелі на гэтую карціну. Было ў ёй нешта трагікамічнае, паднявольнае. Вочы ўсіх расшырыліся. У некаторых з'явілася маршчынка між брывамі. Андрэй стаяў момант анямеўшы, а потым, не памятаючы, як гэта сталася, саскочыў з яруса і стаў над дзедам. Рвануў яго за руку, каб выцягнуць з канавы, і крыкнуў: «Хлопцы, сюды!» Хлопцы з разбегу саскаквалі адзін за адным. Злезла і дачка плачучы. Глюга стаяў аслупянелы, азадачаны.

— Халера б яго ўзяла... Я ж яго не чапаў...

Хлопцы з Андрэем выцягнулі дзеда з канавы і паставілі на ногі.

— От стой, дзедку, і больш не падай, калі хто штурхне,— сказаў Сава Супрун.

Андрэй запытаўся ў дачкі, што прымусіла хворага дзеда ісці на работу. Дачка адказала:

— Ой божа мой... сям'я ўся перамерла... Толькі вось мы двое засталіся на ліхую бяду. Дома няма нідзе нічога... Вось і пайшлі...

Хлопцы пагрузілі дзве ўпаўшыя шпалы на ваганетку, а дачка павяла бацьку пад руку ў барак.

Пасля гэтага выпадку Сава Супрун яшчэ больш пасябраваў з Андрэем. Ды так пасябраваў, што не даваў Андрэю нават прынесці вады ці дроў у барак, калі трэба было гатаваць агульную вячэру.

— Ты, брат, сядзі, адпачывай... Я прынясу сам...

Хлопцы спалі на нарах у кутку ўпокат і трымаліся адной сям'ёй у працы і ў барачным жыцці.

Сава спаў у самым кутку, ля яго — Андрэй, ля Андрэя — высокі стройны дзяцюк са смуглявым тварам і беласнежным аскалам прыгожых зубоў — Іван Падаляка, далей Марцін Шапко, смуглы з адкрытым тварам, якога Андрэй празваў «сялянскім філосафам», і апошні — Захар Зубец, танклявы, з мецінкамі на твары пасля воспы, з русымі, як лён, валасамі.

Усе гэтыя людзі па паходжанню былі сялянамі, але рознымі па свайму жыццёваму шляху, па асвеце. Найбольш адукаваным з іх выдзяляўся Андрэй, былы студэнт універсітэта гістарычнага факультэта. Другім па ўзроўню развіцця ішоў Іван Падаляка — прапаршчык з часоў кераншчыны, аб чым часта любіў успамінаць. Сваю ваенную «кар'еру» ён закончыў ротным пісарам у Чырвонай Арміі. У яго постаці было сапраўды штосьці з ваеннага, вытрэніраванага. Высокі, статны, ён трымаў галаву проста, узнята. Устаўшы рана, памыўшыся, доўга ўглядаўся ў абломак люстэрка, старанна прычэсваючы грабеньчыкам свае чорныя як смоль валасы. Скончыўшы «туалет», яшчэ раз аглядаў сябе ў люстэрка і салідна пакашліваў у нос. За яго «туалетам» часам сачыў з вострай хітрынкай у вачах і лёгкай насмешкай Захар Зубец.

— І куды гэта ён збіраецца? Можа, на які баль? Навучыўся афіцэрнічаць, навучыўся...

А Іван Падаляка адварочваўся ад люстэрка, выпростваўся ў струнку і, шчоўкнуўшы абцасамі, гаварыў густым барытонам:

— А... гм... так, каб ты ведаў... Так, так, брат...

— Дык ідзі, налью табе шампанскага, а то астыне, цябе чакаючы,— гаварыў Зубец і наліваў з закуранага чыгунка ў заржавелую бляшанку з-пад кансерваў заварaны на хлебнай скарынцы чай.— Нічога, брат, не зробіш — вып'ем і гэта.

Марцін Шапко — хлебароб, любіў коней, кароў і ўсякую іншую хатнюю жывёлу, зямлю, прыроду. Сентыментальнай слязінкай прарывалася ў яго размовах туга па грамадскай справядлівасці. Гэтая жаданая справядлівасць не была ў яго выразнай, яснай да канца — яна неакрэслена расплывалася ў сялянскай абмежаванасці. Марцін Шапко быў начытаны. Чытаў шмат, пачынаючы ад «Жития святых», якія перабраў кніжку за кніжкай яшчэ на школьнай лаве, і канчаючы камуністычнымі брашурамі.

У свой час ён захапляўся Талстым, яго евангельскім вучэннем. Чытанне брашур разбіла гэтае захапленне, але нешта такі засталося ў Марціна з талстоўства.

— Ну, чаму людзі не могуць стаць брацццямі? Што гэта ім перашкаджае? Чаму багатыя дзеля гэтай любві не могуць адрачыся ад сваіх багаццяў?

У адказ Андрэй выкладаў вучэнне Маркса аб дадатковай вартасці, высвятляў сакрэт накаплення багаццяў у буржуазіі, а гэтым самым і самую прыроду капіталізму.

— Вось у гэтым і ўся закавыка,— гаварыў Андрэй.— Вось чаму мы ляжым тут у закураным бараку, працуем за кілаграм хлеба і пераносім здзекі розных паноў глюгаў...

— Божа мой, якая ж цудоўная рэч — гэтая навука!..— захапляўся Марцін.

Усе ў такі час, амаль заўсёды, ляжалі жыватамі на нарах, наблізіўшыся галовамі адзін да аднаго, як змоўшчыкі. Уважлівей за ўсіх, здаецца, слухаў Захар Зубец. Гэты салдат Чырвонай Арміі, які з першага і да апошняга дня грамадзянскай вайны ваяваў на фронце, быў чалавекам сялянскай дабраты і бунтарскай непрымірымасці да паноў і да ўсёй панска-буржуазнай дзяржаўнасці. Класавы інстынкт гарачым вастрыём прарываўся ў ім і выразна вызначаў, дзе сваё, а дзе варожае. Захар хварэў на хрыпку, набытую ім яшчэ ў акопах. У грудзях Захара заўсёды дыхала і глухая нянавісць. І часам нельга было адрозніць, што душыла грудзі Захара, калі ён гаварыў і кашляў,— ці хрыпка, ці нянавісць. Прыслухоўваючыся да талстоўскіх разважанняў Марціна, ён гаварыў дакараючым тонам:

— Пасядзеў бы ты ў варонцы ад снарада, у бруднай вадзе па вушы, як гэта здаралася мне, думаў бы іначай...— а пасля ва ўпор пытаўся па-суседску: — Колькі ж у цябе зямлі?

— Што з яе, калі яна яшчэ ўся пад лесам,— ухіляючыся ад адказу, гаварыў Марцін. А Захар не супакойваўся:

— Ну, то колькі ўсё ж такі?..

— Ат... прычапіўся... Дзевяць дзесяцін... ды што з яе.

— Ну вось, бачыш... Адзін, нябось, не ўправішся з ёю, будзеш наймаць людзей... Вось ты ўжо і капіталіст,— смяяўся Захар.

Марціну рабілася крыху ніякавата.

— Абы, брат, новы лад прыйшоў — не пашкадую я гэтай зямлі. Не тое ў мяне ў думках.

— Ну, калі так, дык дай руку,— і Захар лавіў руку Марціна.

— Ты не сярдуй, я гэта так сабе... Хе-хе-хе!..

Сава Супрун заўсёды дапамагаў Захару ў такіх выпадках.

— Здорава ты падчапіў Марціна, Захар... Так яно, брат, і ёсць...— разгладжваў пяцярнёй свае непаслухмяныя валасы, якія каронай уздыбляліся над ілбом.

Сава Супрун па свайму складу думак мала чым адрозніваўся ад Захара Зубца. Толькі ў той час, як Сава быў дужым, здаровым і энергічным, у Захара выяўлялася павольнасць і фізічная кволасць. Здароўе Захара было падарвана гадамі вайны і голадам. Сава рэзка адрозніваўся ад усіх сваім тварам. Левая палавіна яго твару была апалена і нагадвала спечаны грыб. Паводле слоў Савы, гэтае няшчасце здарылася яшчэ ў дзяцінстве, калі яму ішоў першы год жыцця. Маці, капаючы бульбу, павесіла калыску з Савам на трыножнік, ахутаўшы яе радзюгай. А каб дзіцяці было цяплей, расклала ля калыскі агонь, сама ж пайшла працаваць. Праз некаторы час ад кастра загарэлася калыска. І толькі калі маленькі Сава прачнуўся ў полымі і закрычаў, прыбегла маці. Палавіна твару дзіцяці была апалена. Ад гэтага крыху прыўзнятай выглядала верхняя губа, агаляючы моцныя роўныя зубы, і крыху прыжмурылася левае вока. Затое правая палавіна твару была поўная, і здаровае вока глядзела смела і шчыра. Сава, калі сядзеў у кутку на нарах з уздыбленай каронай валасоў, быў падобны здалёк на нейкую заморскую птушку, а калі ранкам саскакваў з нар, гэта быў скок спартсмена.

Сава па сваёй прыродзе быў «бязлітасным» аптымістам — не прызнаваў ніякіх стогнаў, бедаванняў. Усякія перашкоды ён браў напорам, хваткай. Калі падбіралі людзей на пагрузку, ён, перакінуўшыся выпадкова з Андрэем толькі парай слоў пры першай сустрэчы, стаў побач з імі і сказаў:

— Будзем трымацца разам...

Пачуццё дружбы і тая самая непрымірымасць да паноў, якая заўважалася і ў Захара Зубца, дамінавала над усім у Савы. Імкненне да подзвігу жыло ў душы Савы, і таму ён так высока ацаніў Андрэя за яго ўчынак з дзедам. Нават калі ён рабіў нязначныя бытавыя рэчы, гэта вы-

глядала ў яго, як подзвіг. Да чаго ж ён заўсёды рад быў услужыць сябрам.

...Скончыўся рабочы дзень — ля будынка дырэкцыі завода пачуўся свісток, і адначасова загуў гудок на заводзе. Свісток паўтарыў пан Глюга. Усе рабочыя сцежкамі накіраваліся да баракаў.

Барак, у якім жыў Андрэй з сябрамі, быў доўгай будынінай, пабудаванай напалавіну ў зямлі. Па баках стаялі нары з негаблёваных дошак, аполкаў, выгладжаных спінамі рабочых. На нарах ва ўзгалоўях ляжалі клункі, заношаная вопратка рабочых, а дзе ў каго і куфэрчык. Невялікая печка, на якой замест пліты ляжалі кавалкі чыгуначных рэек, дыхала жарам. Па бараку плыў смурод паленага, і ад цеплыні аж шапацелі на закураных сценах цэлыя карагоды прусакоў. З такой жа закуранай столі звісалі дзве электрычныя лямпачкі на ўвесь барак.

Калі сябры прыйшлі, памыліся, Сава ўзяўся гатаваць вячэру. Чарга выпадала Андрэю на гэты раз быць кулінарам, але Сава не даваў яму дакрануцца да гаршка. Сава быў сакун, родам з-пад Картуз-Бярозы, і на дамаганні Андрэя гаварыў:

— Ты сягоння не дакранайся... Ты сягоння зарабіў у мяне на гэта,— і, махаючы пальцам над галавой, дадаваў: — Мы ўсе гэта бачылі, усе глядзелі, але ніхто з нас не здагадаўся, што рабіць... Ого, гэта не так сабе...

Аднак Андрэй, жартуючы, не ўступіў Саву і кулінарыў сам. А Сава сядзеў побач і з прыемнасцю гутарыў аб тым, аб сім, намагаўся хоць чым-небудзь дапамагчы Андрэю ў кулінарстве.

Здаецца, нічога асаблівага не было ва ўчынку Андрэя — гэта была звычайная праява чалавечнасці, але ўвесь барак загаварыў аб здарэнні. Той-сёй прыходзіў падзяліцца думкамі да групы пяці. Кожны адчуваў ва ўчынку Андрэя маральнае паражэнне пана Глюгі і таму цешыўся. Хлопцы ўжо селі вячэраць, як да іх падышоў Вацлаў Санкоўскі — польскі рабочы, таксама грузчык, сталы субяседнік пяцёркі, весяльчак, тварыская душа, чалавек у самай сіле — год трыццаці, а можа, крыху і больш. У расхрыстанай карычневай камізэльцы, падкручваючы малады русы вус, спыніўся ён ля групы пяці з урачыстай усмешкай на твары.

— Ну, што, каханы Анджэю, каханы мае хлопцы, палажылі сягоння Глюгу на лапаткі? Брава, брава! Мы яго яшчэ і не так навучым! Ха-ха-ха!..

Хоць дырэкцыя завода плаціла польскім рабочым больш, чым беларускім, Санкоўскі не траціў пачуцця рабочай салідарнасці, як гэта часам бывала сярод некаторых іншых рабочых-палякаў. Дзякуючы большай зарплаце, ён меў магчымасць набыць іншы раз пляшку гарэлкі ці што іншае.

— Што, селі вячэраць?.. Ну, і я да вас...— і з нутранай кішэні камізэлькі ён выняў паўлітра гарэлкі пад назваю «Войт». (На бутэльцы красавалася наклейка-малюнак — п'яны войт у кракаўскім сукмане гуляе па вуліцы з бутэлькай у руцэ). З другой кішэні дастаў кавалак сала.

Трымаючы чарку ў руцэ, Санкоўскі сказаў так, як благаславіў:

— Я вас люблю, хлопцы, за вашу дружбу, за вашу пісьменнасць, за ваш гумар... Больш бы нас такіх... Гм... псяюхі...— і азірнуўся назад, ківаючы ў бок дырэкцыі.— Я ўсё бачу і ўсё ў сваёй персі нашу...

Адказ даў Іван Падаляка:

— Я вельмі... і мы ўсе ў захапленні ад цябе, Санкоўскі, і пойдзем разам, куды б ні давялося...

Санкоўскі пачаў гаварыць, што за шэсць кіламетраў адгэтуль, у купецкай лясной суполцы, за такую самую нагрузку плацяць на сто марак больш. І што варта было б падумаць аб тым, каб дамагчыся павышэння зарплаты.

Раптам у другой палавіне барака ўзняўся шум. Туды збеглася шмат рабочых.

— Пачакайце, пагляджу, што там такое,— сказаў Санкоўскі і пайшоў.

Следам за ім, аднак, рушылі астатнія. Аказалася, гэта прыйшоў усім знаёмы шавец пан Чарапіцкі і прынёс аднаму рабочаму-беларусу папраўленыя боты. Патрабаваў за працу тысячу марак.

Андрэй глядзеў на пана Чарапіцкага ў профіль. Мускулісты смуглы твар з простым кароткім носам, кепка ссунута на патыліцу, вочы, як у п'янага, глядзяць нахабна, і жаўлакі ўвесь час варушацца ад сціскання зубоў. З каўняра курткі тарчала тоўстая жылістая шыя. «Профіль, як у караля Яна Сабескага на партрэце. Асабліва шыя»,— падумаў Андрэй.

Спрэчка разгаралася. Рабочы трымаў свае боты ў руках і глядзеў на тонецькія падноскі, за якія шавец пан Чарапіцкі патрабаваў такую небывалую плату.

— Ну, за што ты просіш, Чарапіцкі, тысячу марак? —

крыўдзіўся рабочы.— Уся цана — трыста марак. Гэта ж глупства, а не падноскі... Што ты — дурня знайшоў?

Язык у пана Чарапіцкага працуе як падвешаны. Ён гаворыць, як сячэ,— з прыціскам, з прэтэнзіямі на віртуозную элегантнасць.

Твар яго наліўся крывёй ад абурэння — вось-вось лопне жыла на «расавай» шыі караля Сабескага.

— Цо, чубарыку, глупства?.. Мая праца ерунда? Та-ак? — уставіўся вачыма пан Чарапіцкі.— Ух ты, хаме!..

Ну, вядома, такому шаўцу ды з такой каралеўскай шыяй можна бліснуць і шляхецкім гонарам... І пан Чарапіцкі перад вачыма змоўкшых рабочых размашыста вымае з кішэні нож і нервова адразае ад ботаў падноскі...

— Маеш... Маеш... хаме!.. Мне не шкада сваёй працы... Бачыш, хаме! — Скончыўшы адразаць, ён з размаху ўдарыў рабочага па шчацэ.

— Ото, маеш заплату, хаме...

Рабочы, ускіпеўшы, рвануўся з нар, але... тут з натоўпу рабочых выскачыў Санкоўскі.

— Ты ќого біеш? Ты — хам, а не ён... Ты брата свайго б'еш, пся крэў!.. Хто табе даў права здзекавацца з рабочага?

— А тобе цо за інтэрас? Ты што — адвакат? — спахапіўся Чарапіцкі.— Одэйдзь, а то і ты достанеш...

— Хто — я дастану? Ад цябе? Ты — смярдзючы шавец, дзе ж ты набраў у нос шляхецкіх мух? Можа, начныя гаршкі выносіў панам?

— Ты не маеш права так гаварыць... Я таксама рабочы, як і ты, я кілька год належаў да ППС...

— Я тваю ППС маю вось дзе...— і Санкоўскі паказаў на адпаведнае месца.— Такія сацыялісты, як ты, замардавалі Карла Лібкнехта і Розу Люксембург у Берліне. Чым ты тут хвалішся?

— То і добра зр... што...— замяўся Чарапіцкі.

— Так? Добра зрабілі?.. Як ты сказаў? Добра зрабілі? — наступаў Санкоўскі. Ён быў бялейшы за палатно, і валасы яго шорстка ўзняліся на галаве.— Ах ты, смярдзючая скура! Панскі байструк! Прэч адгэтуль! — і, як кляшчамі, схапіў пана Чарапіцкага за каўнер курткі на карку. А як схапіў, то не вёў, а нёс перад сабою. І ногі пана Чарапіцкага не паспявалі ўпірацца ў падлогу. Санкоўскі не выпусціў Чарапіцкага, а выкінуў за дзверы. Гром апладысментаў заглушыў стук дзвярэй. Санкоўскі

ішоў назад, аддыхваючыся і паўтараючы: — Я табе дам — добра зрабілі...— Затым ён стаў перад усімі і, узяўшыся ў бокі, прамовіў: — От, таважышэ, колькі яшчэ свінства водзіцца на свеце... Ён цяпер пойдзе скардзіцца на мяне ў дырэкцыю... Я знаю такіх... Але як паскардзіцца, яшчэ дастане... Трымайцеся дружна. А цяпер — па месцах. Усё скончана...

Група пяці і Санкоўскі пайшлі канчаць вячэру.

Шум, гоман перакочваўся з аднаго канца барака ў другі. У далёкім кутку спявалі песню. Выбухі смеху заглушалі яе і наадварот,— песня заглушала смех. Праз паўгадзіны пасярэдзіне барачнага прахода ішоў Вацлаў Санкоўскі і, як нічога не было, зухавата ўзяўшыся ў бокі, прытанцоўваў і спяваў польскія прыпеўкі:

Ой, да́на, да́на,
Батэ́рыя коха́на...

Ён ішоў у самы канец барака, дзе за перагародкай жылі польскія рабочыя.

Андрэй з застыўшай усмешкай увесь час сачыў, як аддалялася ў танцы плячыстая постаць Санкоўскага, з прыемнасцю слухаючы яго бравурную песню.

Дзевчы́на мо́я лю́ба,
Ты жэсь мо́я згуба,
Ой, дана, дана,
Батэрыя кохана...

Паволі заціхаў шум у бараку, як заціхаюць скаламучаныя хвалі ракі, пераходзячы ў ціхую дрымотную плынь. Над рабочымі, якія покатам ляжалі на нарах, навісаў сон. Дзе-нідзе яшчэ чуліся асобныя галасы. Моладзь таміла адна думка — уцячы ў Расію. Аб гэтым і ішлі размовы да позняга часу. Голад, бясхлебіца, хваробы сагналі сюды розных людзей. Душны, закураны барак і штодзённае тузанне са шпаламі, бярвеннямі сталі лячэбніцай ад усіх знямог. У далёкім кутку не сціхала песня — толькі яна стала больш напеўнай, лірычнай. А над галовамі рабочых, на чорных, блішчастых ад сажы сценах шапацелі прусакі.

З пяцёркі першым заўсёды засынаў Захар Зубец. Сон яго быў цяжкі, глыбокі, як і яго дума.

Затым дрэма авалодвала астатнімі. Соннасць рассявала цьмянае святло дзвюх адзінокіх лямпачак, якія здалёк, здавалася, прыглядаліся адна да адной. І ці то яшчэ наяву, ці то ўжо ў сне залятала ў душу Андрэя так патрэб-

ная цяпер уцешная мелодыя песні. Яе недзе здалёк-здалёк зацягваў чысты малады тэнар, выліваючы захапленне і тугу сваёй маладой душы аб тым, чаго пакуль не было, але адчувалася, што павінна быць.

Звенит звонок насчет поверки.
Ланцов задумал убежать...—

раставала песня ў душы Андрэя і абуджала нешта вядомае, быццам перажытае. Можа, таму, што цесна тут і цесна будзе заўтра?

Не стал он зорьки дожидаться,—
Проворно печь он стал ломать.

«Так, ламаць. Іменна ламаць,— шэпча Андрэй.— Але наперадзе яшчэ сцяна і вартавыя». І цяжка Андрэю, цяжка за Ланцова, за сябе, за ўсіх. І хочацца песні, як салодкага сну.

...Но часовой был парень славный —
На вольный воздух выстрел дал...

«Ці сон, ці ява? Адкуль жа гэты ветрык з салодкім халадком дыхнуў у грудзі? Гэта даль, сіняя даль шырокіх палёў зямлі, знаёмай, любімай... Малайчына «часовой»,— адзначае ў глыбіні душы Андрэй, засынаючы моцным сном.

Снілася Андрэю вялікая Русь. І плакала і любіла душа, калі ён ішоў па ёй, гледзячы на неабсяжныя магутныя прасторы.

...Але дзе прападае Сава? Андрэй ужо недзе за поўнач узняў галаву і ўбачыў пустое месца ў кутку — Савы і сёння няма. Заўсёды гаварыў, што едзе дахаты, што вернецца да ранку, да пачатку работы.

Калі вяртаўся з падарожжа, прасветлены і парывісты ў рухах, прывозіў іншы раз буханку хлеба або кавалак сала.

Часам жа Сава пасля прыезду быў увесь дзень задуманы, маўклівы. На запытанне Андрэя адказваў:

— Ат... нічога, адна няўдача была... раскажу пасля...

Але ніколі не расказваў. І сённяшняй ноччу ва ўсёй яснасці паўстала перад Андрэем пытанне: «Дзе ж Сава?» Але ў адказ толькі вецер свістаў у дзіравую шыбіну акна пры самай зямлі і зліваўся ў адзін хор з храпам заснуўшых людзей.

## «ПАСТАНОВЫ»

Санкоўскі сур'ёзны і задуменны сягоння. Гаворыць Андрэю і Падаляку, што трэба выдзеліць дэлегацыю ад рабочых — ісці ў дырэкцыю дамагацца павышэння зарплаты. У лад думкам і настрою Санкоўскага сур'ёзнасць разліта на тварах і Андрэя і Падалякі. Яны слухаюць Санкоўскага, і кожны па-свойму ўспрымае яго прапанову. Андрэй думае аб гэтай справе, як аб праблеме. Яго мучыць адно — як жа гэта ўсё зрабіць? Упершыню рэальна стала пытанне аб суадносінах тэорыі і практыкі тут, у гэтым вось бараку, запоўненым людзьмі, якія прыйшлі сюды ратавацца ад голаду. На дне душы была няяснасць.

— Не ўсё зразу, не ўсё зразу,— гаварыў Санкоўскі.— Ты хочаш, Андрэй, вырашыць адразу пытанне да канца. Гэта не заўсёды ўдаецца... Усё вырашае ход справы на практыцы...

— Мне здаецца, што мы не толькі... гм... можам дамагацца павышэння зарплаты... Калі мы яе не атрымаем, можам усім натоўпам рабочых ісці ў дырэкцыю... І калі што, пусціць у ход нават і калы...— гаварыў Падаляка.

Санкоўскі і Андрэй адначасова глянулі на Падаляку, Санкоўскі ледзь усміхнуўся пад вусам і зрабіў кіславатую міну.

— Так-то яно так... але адразу ў неба не скочыш...

Андрэй прамаўчаў. Нешта так і не так.

— Адно з двух — або рабіць рэвалюцыю тут, на заводзе, а калі не, то што іншае...— сказаў урэшце Андрэй, не ведаючы, што можа быць канкрэтнае ў гэтым «іншым».

Яны сядзелі ля печкі. Ужо было пазнавата. Рабочыя даўно скончылі гатаваць вячэру, ля печкі нікога не было — можна, грэючыся, гутарыць і думаць. Усе ўтрох сядзелі на нізкай лавачцы перад пелюсцю, адкуль полымя асвятляла іх твары, загрубелыя на марозе. Кожны глядзеў на полымя, песцячы свае пакуль нікому не адкрытыя думкі. Перад вачыма Андрэя стаяў дырэктар завода Пшэборскі ў шапцы-мацяёўцы. Ён заўсёды хадзіў з палкай і заўсёды быў п'яны. Твар сухі, рыжаватыя доўгія напамаджаныя вусы падкручаны ў кольцы. Вочы шклянога колеру ў вялікіх арбітах, акаймаваныя зверху бровамі, як сярпамі. Заўсёды пан дырэктар каго-небудзь «распякаў», стукаючы палкай па бервяну. Вось да гэтага пана і трэба будзе ісці дамагацца павышэння зарплаты. Простай неда-

рэчнасцю лёсу здавалася Андрэю залежнасць сотняў рабочых ад такога суб'екта.

— Я гатоў на ўсё, хоць зараз,— нарэшце прамовіў ён.

— Я таксама,— згадзіўся Падаляка, бліскаючы перад полымем аскалам зубоў.

Санкоўскі хвіліну памаўчаў, а пасля, глянуўшы на абодвух, засведчыў:

— Гэта азначае, што вы асвоіліся са справай.

— Знаеш, гэты пан дырэктар, як папугай, харахорыцца, ходзячы між ярусаў... Вось пер'е на ім растапырыцца, а потым зноў асядзе... Цікава, як ён будзе выглядаць пры гутарцы з дэлегацыяй? Можа, згубіць сваё пер'е?..— падумаў услых Андрэй.

— Э, ты не бачыў, як ён гнаўся па пляцы без шапкі за сваёй служанкай... Быў не папугаем, а сапраўдным індыком... І ўсё крычаў: «Вярніся, вярніся, да ста д'яблаў!»

— І п'е — кожны дзень, кожны дзень,— дадаў Падаляка.

— Такая ўжо натура ў пана Стахуры,— сказаў пагаворкай Санкоўскі.— Я баюся, каб яму вочы не вылезлі на лоб, калі прыйдзе да яго дэлегацыя.

— Да гэтага ім не прывыкаць,— уставіў Андрэй.

— Што ж... вайна скончылася. Яны пры ўладзе. Што зробіш? Народ змагаўся, а хто — жне... Айчына — для іх... А ты вось гібей у гэтым бараку... пся крэў! — працягваў Санкоўскі.— Я думаю, не доўга так будзе... ППС — пся крэў!..— сказаў ён як быццам сам сабе.— Пілсудскі... таксама належаў да ППС, а што з гэтага стала? Адны словы і... шыбеніцы на Беларусі ды ў Польшчы таксама... Крук круку вока не выкале... Не! Панская натура — адна скура... Мой бацька загінуў у лесе, працуючы на памешчыка — яшчэ пры цары... Ну, і сын далей бацькі не пайшоў...

Твар Санкоўскага спахмурнеў. Ён змоўк, паглядаючы на полымя і думаючы сваю думу. Андрэй і Падаляка не хацелі парушаць цішыні — таксама маўчалі.

— Колькі я перагрузіў ужо гэтага лесу! — уздыхнуў Санкоўскі.— Можна было б цэлы горад пабудаваць...

— Добра гэта ўсё, калі б праца пайшла для дабра ўсіх... А то...— сказаў Андрэй.

— У гэтым жа, можа, і ўвесь смутак, Андрэй,— адказаў Санкоўскі.

— Але ты і ўвесь рабочы люд павінны ганарыцца тым,

што без іх працы наогул не было б ніякага дабра,— запярэчыў Андрэй.

— О, гэта праўда,— як быццам прачнуўшыся ад задумы, згадзіўся Санкоўскі і ажывіўся.— Гэта праўда.

Падаляка качаргою падварушваў дровы ў печцы і скаліў зубы, крывячыся ад гарачыні.

— А ў чэсць мудрасці заспявай, Андрэй, якую-небудзь расійскую... Люблю расійскія песні... Яны такія напеўныя і шырокія, — папрасіў Санкоўскі. — Заспявай, знаеш, якую... гэтую... Волга, Волга... Пра Разіна.

Андрэй заспяваў. Падаляка падхопліваў баском. Далучаўся і Санкоўскі. Спявалі. Песня набірала размах. І на душы ўсіх рабілася прыемна і прыгожа.

Тады прыйшлі Сава, Зубец, Шапко і далучылі свае галасы. Людзей прыбывала ўсё больш і больш.

Усе ведалі гэтую песню, і ўсе любілі яе. Чаму? Можа, расло жаданне мець свайго Сцяньку Разіна і плыць з ім у шырокія прасторы?

## АБ САМЫМ ГАЛОЎНЫМ

Андрэй сапраўды адчуваў сябе ўзмужнелым, не «лішнім чалавекам» у гэтым свеце. Гэта можна было заўважыць не толькі па выразу твару, які стаў больш засяроджаным. Цёмныя вочы глядзелі на ўсё — на людзей, на з'явы і рэчы больш удумліва і пэўна. І між броваў паглыбела маршчынка, а на верхняй губе прабіваліся сапраўдныя вусы. Андрэй рэдка калі заглядаў у люстэрка — настолькі суровасць абстаноўкі спарадзіла рэакцыю абыякавых адносін да такіх дробязей, як свой выгляд. Прыхарошванне Падалякі кожны ранак перад абломкам люстэрка лічыў слабасцю. Андрэй наскора прычэсваў свае цёмна-русыя валасы і хутчэй надзяваў шапку. Уся ўвага была аддадзена ўзбраенню самога сябе на тое, каб перамагчы прыгнёт абстаноўкі, каб яна не надарвала душы. Ён разумеў, што, калі не будзе гэтага пачуцця самаўзбраення, можна страціць здольнасць да жыцця. Чалавек стане лішнім, нікому не патрэбным і непазбежна скоціцца ў балота — загіне. І таму важна падважыць калом канец бервяна і падняць яго на ўсю сілу — спрытна і бойка. Гэта зразумеў Андрэй, здаецца, першы раз у жыцці, і гэтае разуменне, як першаасnова, легла на душы і не пакідала яго ўжо ніколі.

Будучы ў Расіі, больш захапляўся кніжкамі, прагна перачытваючы іх «цэлыя горы» ў бібліятэцы ці аўдыторыі. Ад недаядання худзеў твар, але вочы гарэлі прамяністым бляскам — юнак ішоў па храму навукі, штораз знаходзячы ўсё новыя і новыя ключы ад «загадак быцця», скідаючы з п'едэстала адны велічыні і ўзнімаючы другія. Андрэй правёў свае студэнцтва ў шуканні трывалага светапогляду. Бацька не разумеў ці не хацеў разумець яго захапленняў, яго навукі. Бацька быў чалавекам кіркі, молата — словам, тэхнікі.

— Ну, што ты, сыне, будзеш мець з гэтай сваёй філасофіі? Які з яе хлеб? Я разумею — інжынер-будаўнік, інжынер чыгунак, а гэта...— гаварыў бацька і паціскаў плячыма.

— Не, бацька, ты памыляешся... Жыць і думаць, як ты,— значыць, хадзіць у цемры.

Але праз некаторы час зноў адчуваўся недахоп чагосьці, што б гаварыла непасрэдна аб гэтай вось зямлі, з якой людзі працай здабываюць хлеб і ўсё, чым багата культура чалавека. І тады зноў прыходзіў на думку бацька са сваімі довадамі.

Андрэй хацеў паступіць на завод рабочым, каб запоўніць гэты недахоп у працэсе «простай» працы. Але гэта аказалася непасільным. Тады Андрэй вырашыў на наступны год перайсці з гістарычнага факультэта на аграномічны. Бацька крыху прымірыўся з гэтай думкай, але... зноў даў свае заўвагі:

— Эх, хлопча, я сам дваццаць пяць разоў аграном. Якая ж гэта навука? Араць, садзіць, сеяць... на гэта навукі многа не трэба. Ты мне вось мост пабудуй над бурліваю ракою або чыгунку правядзі цераз балота — вось гэта работа... А гэта — што! Дай гною ў зямлю — усё вырасце, абы дождж... А тут вось, на Паволжы, бачыш, і гною не трэба, сама зямля родзіць...

Словам, бацька не бачыў у аграноміі тэхнікі, а таму і ніякіх перспектыў. Калі ж Андрэй гаварыў бацьку аб канавах, аб асушцы балот, аб барацьбе з засухай, ён крыху згаджаўся, але... усё роўна адносна аграноміі заставаўся песімістам. Андрэй, каб усё-такі захапіць бацьку, кінуўся ў «філасофію», пачаў гаварыць аб «харастве тайны жыцця», аб тым, як расце расліна, і што гэта працэс не абыякі... Гэта — дзіўны працэс... Задача чалавека — аблегчыць рост патрэбнай расліне, каб яна больш прынесла яму карысці:

— Без хлеба, бацька, ніякага маста не пабудуеш... Больш будзе хлеба — хутчэй будуць будавацца масты і ўсё, што трэба чалавеку,— скончыў Андрэй.

— Ну, яно вядома, што так...— згаджаўся бацька, але для таго толькі, каб не спрачацца.

Са зваротам у Беларусь было скончана з такімі меркаваннямі. Трэба было пачынаць жыць нанова. Падзеі выкінулі Андрэя з шырокага прывольнага шляху на вузкую цярністую сцежку, ідучы якою трэба было прарывацца праз нетры, каб выйсці зноў на шлях.

Крок за крокам, павольна пасоўваўся Андрэй па бараку, з нейкай новай увагай разглядаючы рабочых. У вушах яшчэ звінела песня аб Сценьку Разіне...

Пад цьмяным святлом дзвюх адзінокіх лямпачак варушыліся на нарах людзі з загрубелымі тварамі, у брудных кашулях, дзе ў каго дзіравых, у лапцях з тоўстым навоем ануч на лытках, у велізарных ботах з падковамі. Андрэю зручна было назіраць увесь гэты збор абутку, бо большасць рабочых ляжала на нарах, выцягнуўшы ногі, так што Андрэю, праходзячы, часта даводзілася кранацца сваімі штанамі аб падэшвы ці ботаў, ці лапцей. Ён ішоў павольна, улаўліваючы вухам тое-сёе з гутаркі, углядаўся ў твары. З розных твараў, усмешак адно асядала на душу, як нешта агульнае для ўсіх,— у кожным твары свяцілася бадзёрасць ад супольнасці жыцця. Нідзе не відаць задуменнага, тужлівага твару. Усё было ў руху, гаманіла. А калі каму і хацелася паляжаць ціха, гэта не ўдавалася. Андрэй бачыў, як адзін пажылы дзядзька з доўгімі вусамі на паважным твары ляжаў, падклаўшы рукі пад галаву. Відаць было, што яго думкі плылі недзе далёка, бо вочы глядзелі нерухома ў столь. Але «бяда» дзядзькі заключалася, аказваецца, у тым, што ў яго над галавою вісеў стары, выцвілы капялюш. Ніхто ў бараку не насіў капелюша, і таму ён амаль заўсёды пасля вячэры быў прынадаю для маладых хлопцаў-жартаўнікоў. Андрэй бачыў, як адзін з хлопцаў зняў капялюш і, надзеўшы, пачаў разыгрываць сабою дырэктара Пшэборскага.

— Цо, гультаю, хцэш працоваць? — стоячы над ляжачым дзядзькам, узяўшыся ў бокі, выкрыкваў жартаўнік. Дзядзька ляжаў, варушыў вусамі, гледзячы знізу на «грознага дырэктара». Не то яму хацелася зарагатаць, не то зазлавацца — невядома. Перамагло апошняе. Пад агульны рогат, урэшце, дзядзька парывіста адарваўся ад нар і накінуўся на жартаўніка:

— Аддай капялюш!.. Я табе кажу — аддай, не рві...

Нічога не дапамагала. Тады дзядзька вымушаны быў стаць на нарах на ўвесь рост. Капялюш быў сарваны з галавы жартаўніка.

— Збыткі знайшоў... Я яго аж з самай Амерыкі прывёз, а ён...

І звярнуўся вінавата да Андрэя:

— От, таварыш, хуліганяць... Ну, што ты з імі...

— Сіл не маюць куды дзець, дзядзька... маладыя.

— А, мусіць што так...— адказаў дзядзька і ўжо лагоднымі вачыма паглядзеў услед Андрэю.

У двух месцах ігралі ў шашкі, а навокал ігракоў сядзела і стаяла цэлая гурба гледачоў. Усе, упёрыўшы вочы ў шашачную дошку, напружана перажывалі працэс ігры. Самыя заднія падымаліся на пальчыках, каб бачыць шашкі. Час ад часу кідаліся заўвагі. Андрэй пры гэтым мімаходзь падумаў:

«Колькі сілы і ахвоты ў людзей, нягледзячы ні на што. Сілы і здольнасцей нераскрытых...»

Андрэй знарок ішоў павольна. Да гэтага часу гэты свет ён назіраў толькі павярхоўна. Жыццё замыкалася ў групе пяці. Цяпер ён увайшоў у дэталі і крок за крокам адчуваў, як радство, ці адзінства, востра ажывала, яднала яго з гэтымі людзьмі.

Вось малады, плячысты, з густымі брывамі хлапец ue абору. Яго ўмельству трэба падзівіцца — гэта мастацтва. Плюне ў жорсткую далонь, сукане адну столку і тут жа — другую. Абора, здаецца, свішча ў яго руках. А робіць ён сваю работу без ніякага высілку. Другі з вяршынкі маладой сасны зрабіў жалейку. Выкруціць сэрцавіну зімой цяжка — ён раскалоў сасонку на дзве палавіны, зрабіў два жалабкі. Але верх мастацтва ў абручыках. Яны, беленькія, арэхавыя, па-мастацку звязаныя ў вузел-замок, шчыльна сціснулі два жалабкі ў дудку. Русавалосы мужчына з наіўнымі блакітнымі вачыма якраз канчаў жалейку, калі падышоў Андрэй. Навокал стоўпілася шмат цікаўных, якія прагна глядзелі, дзівіліся з майстэрства дзядзькі, дакраналіся пальцамі да жалейкі. Кожнаму хацелася патрымаць яе ў руках. Але жалейка не была яшчэ гатова, і дзядзька раўніва бараніў яе ад дотыку чужых рук.

— Ну пачакай, не лезь, ты ж бачыш — яшчэ не гатова...

А хтосьці спытаўся:

— Ці зайграе яна зімою?

На гэта адказала гучна некалькі галасоў:

— Зайграе, чаму не!.. На тое яна жалейка!..

І зноў усе сачылі прагна за шорсткімі пальцамі дзядзькі. Праходзячы далей, Андрэй заўважыў на паліцы, над узгалоўем, цудоўнай работы паравозік. Папрасіў паказаць. Крыху збянтэжаны, рабочы ўсхапіўся на ногі і падаў яго Андрэю. У шэрых вачах застыла ўсмешка — рабочы чакаў ацэнкі. Паравозік быў зроблены з бярозы-чачоткі, бліш чаў, як шкло. Андрэй не мог знайсці слоў пахвалы, а дзядзька адказаў:

— Завязу дзецям... Хлеба няма, хай хоць гэтым пацешацца...

Андрэй паважна зірнуў на рабочага і не мог далей глядзець — адышоў з хваляваннем.

Яго ўвагу прыцягнуў мутны агеньчык у самым канцы барака, у кутку. Туды ўжо не дасягала святло электрычнай лямпачкі. Там быў прыцемак. І ў гэтым прыцемку працавалі два рабочыя. Пры агарку свечкі адзін, разлажыўшы шавецкія прылады на куфэрачку, выстукваў малатком — падбіваў боты. Калі чорная чупрына схілялася над свечкай, тады цямнела ўсё навокал, а як падымалася, асвятляўся спацелы твар з чорнымі вусамі. Рукавы сарочкі былі закасаныя, і ў святле свечкі мільгалі голыя локці. Другі рабочы тут жа, сагнуўшыся ў дугу, амаль што датыкаючыся носам да века новага куфэрачка, тонкім ножыкам вырэзваў на ім узоры. Кожны ў перапынках, адпачываючы, любаваўся сваёй працай. Андрэй хацеў уступіць з імі ў гутарку, але тут недалёка пачаліся спрэчкі і прыцягнулі яго ўвагу. Даляцела слова — «Перакоп». Пачаў прыслухоўвацца. Адзін даводзіў, што Перакоп — ля Чорнага мора, а другі — што ля Каспійскага. Андрэй усміхнуўся і падышоў да іх.

— Ну, што ты мне гаворыш? Мой жа брат загінуў пад Перакопам. І Перакоп знаходзіцца ля Чорнага мора... спытайся ў каго хочаш,— абурана гучаў прыцемкам нечы густы барытон.

— А я табе кажу, што не... ён ля Каспійскага мора.

Тыя, што спрачаліся, заўважылі Андрэя і, перабіваючы адзін аднаго, запыталіся, дзе Перакоп. Андрэй вырашыў іх спрэчку. І неяк дзіўна і разам з тым прыемна зрабілася Андрэю, калі людзі лёгка і ахвотна паслухаліся яго. Прыхільнік Каспійскага мора толькі пачухаў патыліцу і сказаў:

— Што ж ты зробіш з нашай ненісьменнасцю? Жывеш на свеце, як слуп.

...Андрэй з пачуццём замілавання, узбагачаны ўражаннямі, вярнуўся ў свой куток.

Хлопцы ўжо спалі. Правая рука Савы легла ўпоперак месца Андрэя. Ён ціха адсунуў яе і лёг. Калі заплюшчваў вочы, розныя твары ўзнікалі прад вачыма. І ў гэтым калейдаскопе панавала адно — непераможны настрой гумару, бадзёрасці, смеху, нягледзячы ні на што. Андрэй да яснасці ўсведамляў сабе, што гэта і ёсць тое важнае, асноўнае, што называецца непераадольнай сілай жыцця. Носьбіт яго — народ.

— Так, так... гэта і ёсць ён — народ...— паўтараў сам сабе Андрэй і адчуваў, як у душы раслі крылы.

...Калі па звычцы прачнуўся апоўначы і мацнуў рукой налева, то адчуў пустату.

Савы Супруна зноў не было.

## ПАД ЗОРАМІ

Сава Супрун ужо быў ступіў адзін крок ад стала ў напрамку дзвярэй, каб выйсці з хаты, як крыху ссутулены чалавек затрымаў яго на хвіліну. Гэтаму чалавеку было год за сорак. Гладка паголены бязвусы твар, злёгку зямлістага колеру, выглядаў абветраным, здарожаным. З-пад казырка карычневай суконнай кепкі востра глядзелі шэрыя са стальным бляскам вочы. Сціскание сківаіц пры гутарцы і вымахванне кулаком гаварылі аб упартасці. Здавалася, што ён толькі вось нядаўна ўвайшоў у хату, бо стаяў пры стале, апрануты ў падношанае цёмна-карычневае паліто з футравым, крыху аблезлым каўняром.

— Пакажы яшчэ, як схаваў...— звярнуўся ён да Савы і пачаў мацаць яго па баках.— Глядзі, будзь асцярожны...

— Гэтаму ўжо мяне вучыць не трэба... А калі што і здарыцца, вінтовачка паможа,— адказаў Сава.

— Тсс... паменш з гэтым...— адказаў чалавек у паліто і глянуў на акно, праз якое відаць быў кавалак зорнага неба. Лямпа з заржаўленым кругам курэла над сталом. Ён зняў яе з драціны, кажучы «асвятляе ўсё, як на далоні», і павесіў пад бэлькай пры сцяне.

— Ты ведаеш, што нанясеш з сабой? — спытаўся ён, гледзячы ва ўпор на здаровае вока Савы, амаль датыкаю-

чыся да яго твару сваім крыху кірпатым носам, а затым прыцішаным голасам, з рэзкасцю пачаў гаварыць, як агітатар на трыбуне, пацвярджаючы кожнае слова ўзмахам кулака: — Ты нясеш дарагую вестку для народа аб тым, што, нягледзячы на тое, што скончылася вайна, мы будзем тут прадаўжаць Кастрычніцкую рэвалюцыю... У мястэчку Глушэц яшчэ расстраляна пяць чалавек, адбылося пабоішча сялян у лесе графа Ельскага, жандарскія легіёны Пілсудскага аблавай пайшлі на Палессе — там жыве партызанскі рух. Пружаншчына, Брэстчына ахоплены партызанствам, Ружанская пушча таксама. Ёсць весткі і са Слонімшчыны. Ваенна-палявыя суды яшчэ дзейнічаюць ваўсю. Нам трэба стрымаць наезд акупантаў на нашы землі... Вось гэтыя лозунгі ты і вывесь сягоння... Я буду чакаць тут, пакуль ты вернешся... Ідзі...

— Ты не сумнявайся, таварыш Паддубны,— як салдат свайму начальніку, адказаў Сава, увесь разгарачаны, гатовы на ўсё. Сказаў цяпер «таварыш Паддубны», хоць звычайна называў яго проста «Іван». Што ж, свой чалавек, знаёмы і дарагі. Але цяпер у тоне Паддубнага ён адчуў сілу наказу і стаў «ва фронт». Крутнуўся на адной назе і знік за дзвярыма.

Паддубны з момант стаяў, як быццам да чаго прыслухоўваючыся, а потым дастаў з кішэні партабак і пачаў круціць цыгарку. Неўзабаве на панадворку пачуўся тупат конскіх капытоў, і за акном прамільгнула верхам на кані постаць Савы з вінтоўкай за плячыма. Паддубны высунуў галаву ў цёмны чатырохкутнік невялічкага акна і доўга глядзеў на вуліцу.

Хата, у якой спыніўся Паддубны, не была хатай Савы. Тут жыла маладая ўдава Ганна з сынам гадоў дзесяці. Муж Ганны, былы таварыш Паддубнага, загінуў на калчакоўскім фронце.

Паддубны пабудзіў Ганну, якая спала з сынам за печкай, папрасіў паслаць яму ложак і замкнуць дзверы.

* * *

Конь спорнаю хадой ішоў па праезджанай санямі дарозе, асцярожна пазіраў у бакі, стрыгучы вушамі. А па баках глухою сцяной да зор цягнуўся лес. Неба цёмнае, усё ў зорах; знізу здавалася Саву, што верхавіны лесу ўсыпаны імі. Месяца не відаць, чым Сава быў здаволены. А над дарогай, якая, як прасека, вяла Саву ўсё далей і далей, зі-

хацеў, як знарок, усыпаны зорамі шлях. Не спускаючы позірку, Сава адчуваў часамі, гледзячы на зоры, прыліў то спачування да некага, то нянавісці.

— Не панаваць вам тут, панскае насенне... Не я адзін еду цяпер... не... наша права будзе нашым...

Конь раптам кінуўся ўбок і захроп. Няйначай прабег заяц у прыдарожных кустах ці, можа, і воўк...

— Ну, чаго ты? — упаўголаса і, як здавалася самому, замоцна прамовіў Сава і з месца пагнаў каня рыссю. Вецер свістаў каля вушэй, насустрач праплывалі гонкія сосны і елкі, абсыпаныя снегам, падобныя на волатаў-прывідаў. А з вока не гублялася зара. Узняўшыся над усходнім небасхілам, яна палыхала ўжо амаль над лесам. Плыла між зорак, адзінокая і ўрачыстая. Калі дарога збочвала ўправа або ўлева, Сава губляў зару, але потым зноў знаходзіў на зорным шляху між зубчастымі верхавінамі лесу.

«Зара ўзнялася ўжо высока...— падумаў Сава,— поўнач ужо... Каб паспець зацемна вярнуцца назад». Ён пагнаў каня галопам. Дарога віляла то ўправа, то ўлева, і Сава доўга не мог схапіць на вока зару. А калі пазнаваў, супакойваўся.

— Вось яна... свеціць... — гаварыў тады ён і яшчэ шпарчэй падганяў каня. Адчуўшы пад сваімі нагамі яго спацелыя бакі, падумаў, што трэба было б даць каню перадышку, але... зара прысяшае... нельга. «Адпачнеш, конік, пад бярозай...» I гнаў далей.

А вось і жаданы шлях — шырокі і малапраезджаны. Тут Сава на момант спыніўся, глянуў направа і налева. Ні гуку навокал — цішыня. Толькі зоры ажыўляюць далягляд, які застыў у зімняй дрымоце. Куды ехаць? Направа да чыгункі — два кіламетры, налева да бліжэйшай вёскі — тры. Сава, доўга не думаючы, звярнуў налева і, як птушка, знік на шляху. Праз кіламетр скончыўся лес, і мёртвае, ахутанае прыцемкам поле дыхнула ў твар Савы.

I тут вось замаячыла ўдалечыні чорная кропка. Яна штораз рабілася выразнейшай і большай. Што гэта — можа, хата ці прыдарожная каплічка? Але не — нешта яшчэ невыразнае плыве якраз пасярэдзіне шляху. Сава сцішыў каня на мерную рысь. Аказалася, ехала падвода, запрэжаная ў пару коней. На шырокіх санях сядзела некалькі чалавек. Першае, што кінулася ў вочы адразу,— гэта кракаўскія хамуты на конях, характэрныя сваімі трыма шпяямі над грывай. Кракаўскія хамуты для тутэйшай мясцовасці — з'ява незвычайная.

«Нейкія паны»,— прамільгнула ў галаве. Параўняўшыся з Савам, падвода адразу спынілася. У вачах Савы бліснулі кукарды паліцыянтаў і некалькі ваенных шапак-канфедэратак. Адзін з месца крыкнуў: «Стой!»

Але гэты крык паспеў толькі дагнаць Саву. Сава, прыгнуўшыся да грывы каня, віхрам ляцеў па шляху. І тут жа мёртвую цішыню поля парушылі бязладныя вінтовачныя стрэлы. Сава пачуў іх і чакаў. Але больш нічога не адбылося. Даехаўшы да палявой дарогі, што перасякала шлях, спыніўся. Агледнуўся назад. Ціха. Прыдарожныя бярозы ў інеі нерухома звешваліся над шляхам. Сава злез з каня, прывязаў яго да бярозы. Не здымаючы вінтоўкі, палез уверх па ствалу. За поясам тарчалі два дрэўкі, а за пазухай ляжалі два сцягі. Адзін з іх хутка замаячыць тут. Калі, дабраўшыся да верхавіны, пaглядзеў навокал, адчуў, што зоры сталі бліжэй і ярчэй. Яны рассыпаліся па шырокім нябесным купале і залатым пырскам гінулі ў цёмных верхавінах далёкага лесу. А зара палыхала ўжо бледнаватым святлом. Хутка світанне. Прывязаўшы дрэўка да вяршыні бярозы, Сава разгарнуў сцяг. Свецячы белымі літарамі слоў-заклікаў, ён таямніча павіс над шляхам, як прывітанне надыходзячаму дню.

«Ганіце акупантаў з беларускай зямлі! Не давайце нішчыць лясоў! Паліце маёнткі памешчыкаў! Уступайце ў рады партызан! Няхай жыве камуністычная партыя!»

Сава злез з бярозы.

Недзе з далёкай вёскі даляцела тоненькай мелодыяй соннае спяванне пеўня, а потым пачуўся адзінокі брэх сабакі. Сава, доўга не чакаючы, крыху з трывогай у душы, сеў на каня і галопам памчаўся назад да чыгункі. Там без перашкод вывесіў такі самы сцяг на крайняй высокай сасне, непадалёку ад вартавой будкі шлагбаума, каб бачылі яго не толькі тыя, што будуць ехаць і ісці па шляху, але і пасажыры ў праходзячых паяздах.

Яшчэ прыцемкам Сава паспеў вярнуцца ў вёску. Ехаў ужо не вуліцай, а загуменнем. Дзе-ні-дзе з каміноў хат віліся дымы. Ранак абяцаў быць сонечным.

Дзверы адчыніла Ганна, румяная, рослая жанчына. З-пад белай хусткі, відаць, завязанай наспех, буйнымі хвалямі звісалі на плечы цёмныя валасы. Іван Паддубны ўжо сядзеў на лаве ў аранжавым світары, прычэсаны «пад польку» і курыў. Доўга ўглядаўся ў стомленага Саву.

— Пазнавата выехаў... Трэба было раней... Навука на другі раз...

Ганна, апрануўшыся, выйшла з хаты. Сава хутка расказаў аб усім.

— Гм... Лазяць па начах... Ну, зразумела... Патрулі,— сказаў Паддубны і, падумаўшы, дадаў: — Ты зараз паедзеш на лесапільню. Я прыйшоў да рашэння... Зрабі вось што. Увядзі ў курс спраў пакуль што аднаго са сваіх новых таварышаў, каго лічыш найлепшым. А там будзе відаць... Хутка адбудуцца, можа, і не малыя падзеі. Трэба ўцягваць людзей больш і больш... Але, вядома, з разборам...

— Чаму толькі аднаго? — спытаўся Сава.

— Чаму? — задумаўся Паддубны.— Для асцярожнасці, для праверкі...

— Па-мойму, можна ўцягнуць усіх... Хлопцы добрыя.

Паддубны маўчаў, як быццам нешта перажоўваў, а потым сказаў:

— Што значыць — добрыя? — прыўзняў бровы Паддубны.

— Ну... нашы людзі, рэвалюцыйныя... Бадай усе яны былі ў Расіі, перажылі рэвалюцыю. Прымалі ўдзел у грамадзянскай вайне. Я табе ўжо казаў...

Паддубны ціхенька пасвістваў, боўтаючы нагамі пад лавай. Ценем прабегла па твары затоеная ўсмешка.

— Гэта добра, калі так...— Устаў, лянiва пацягнуўся, ступіўшы пару крокаў па хаце. Пасля раптам павярнуўся і стукнуў па стале кулаком:

— Ну, глядзі, на тваю адказнасць... Тады трэба стварыць ячэйку. І не забыць таго польскага рабочага... як яго?

— Санкоўскага,— падказаў Сава.

— Гэта важна, гэта вельмі важна... «Пралетарыі ўсіх краін...» Абавязкова... Гэта, відаць, з вопытам чалавечына. Проста хочацца з ім пабачыцца...

— Будзе час,— сказаў Сава.

— Так, будзе час... Я пайду сягоння... Мяне не будзе тыдні два, а можа, і больш. Калі што трэба будзе, прышлю чалавека. Забастоўка ў вас, кажаш, наспявае... Праўдзіце яе ўмела. Гэта будзе непрывычнай з'явай для паноў у такой глушы... Сустрэнецеся з вострай адмовай, безумоўна... Прафсаюза ж няма...

— Вось у тым і справа...

Паддубны задумаўся і пакруціў галавой.

— Цяжка...— нарэшце прамовіў ён,— нам увесь час будзе цяжка, але затое ясна. Як бы ні скончылася заба-

стоўка, трэба ўзяць курс на стварэнне прафсаюза. Забастоўка павінна паказаць панам, што рабочы клас — ёсць сіла, з якою трэба лічыцца. Выберыце забастовачны камітэт не больш як з пяці чалавек. Пасля — дэлегацыю... Умейце добра адстойваць свае дамаганні...

Сава, аблакаціўшыся на стол і падпёршы шчаку рукой, прыціх.

— Ну, што задумаўся? — стукнуў яго па плячы Паддубны.

— А так... Пара мне ўжо ісці... Трэба яшчэ забегчы дахаты на хвіліну.— Сава ўстаў. Паддубны пацiснуў яму руку і сказаў:

— Ідзі і мацуйся. Мы хутка прыйдзем да вас з прывітаннем.

Сава цяжка падняўся і ціха адышоў.

## ЗАБАСТОЎКА

Як толькі загуў заводскі гудок к выхаду на працу, да будынка дырэкцыі завода накіраваліся дваццаць чалавек рабочых. На чале ішлі члены забастовачнага камітэта — Вацлаў Санкоўскі, Андрэй Касцевіч, Сава Супрун, Захар Зубец і Іван Падаляка. Гудок гуў доўга, пераходзячы з высокіх нотаў на злавесны роў, пранікаў, здаецца, ва ўсе куткі і шчыліны баракаў і затым гінуў у навакольным лесе, асядаў у душах людзей трывогай. Урэшце рыкнуў і — змоўк. І стала на момант незвычайна ціха. Усе, дзе хто ішоў, здаецца, у напружанні чакалі канца гэтага рову і па інерцыі на міг застылі на месцах.

Ранак быў сонечны і марозны. Рабочыя спыніліся ля парога — намерваліся ўсім натоўпам увайсці ў дырэкцыю. Усе былі апрануты ў паднашаныя, палапленыя — хто ў куртку, хто ў кажушок, і таму незвычайна было б для яснавяльможнай дырэкцыі бачыць у сябе ў памяшканні такое зборышча. Але вось па аднаму з дзвярэй дырэкцыі пачалі выходзіць наглядчыкі, «паны пляцовыя». Атрымаўшы ўказанні на цэлы дзень, яны ішлі кожны на свой участак. Сярод іх выйшаў і пан Глюга.

— А вы чаго тут? — насупіўся ён.— Час быць ужо на пагрузцы.

— Мы маем пільны інтарэс да пана дырэктара, пане Капапацкі,— адказаў па ўсіх правілах, у міралюбівым тоне, Санкоўскі.

— Які інтарэс?

— Мы можам аб гэтым сказаць толькі пану дырэктару. Просім далажыць, каб пан дырэктар нас прыняў.

Глюга змераў усіх вачыма і, як быццам аб чым здагадаўшыся, хутка нырнуў у дзверы.

Дэлегацыя чакала нядоўга. Недзе ў глыбіні рыпнулі дзверы і, апіраючыся на палку, няўпэўненай хадою выйшаў дырэктар Пшэборскі. Усе заўважылі, што ён выпіўшы.

У капелюшы і шэрай суконнай куртцы з лісіным каўняром ён стаў перад дэлегацыяй рабочых, напалавіну ядбала апусціўшы павекі на свае выпуклыя, п'яныя вочы. Гэта была насцярожанасць. З-пад павек ён непрыкметна агледзеў усіх.

— Ну, з чым прыйшлі? Слухаю!..— прамовіў ён і, ускінуўшы вочы, застыў у такой паставе, апёршыся абедзвюма рукамі на палку. Побач на паўкроку ззаду стаяў пан Глюга, засунуўшы рукі ў кішэні сваёй шляхецкай бекешы.

— Пане дырэктар,— распачаў Санкоўскі,— мы прыйшлі да пана, як дэлегацыя рабочых-грузчыкаў, адносна падвышэння заробку... Мы зарабляем у дзень, як пану вядома, на кілаграм хлеба і адзін следзь. Пры такой працы, як пагрузка, на такім пайку чалавек доўга трываць не можа...

Дырэктар слухаў, то апускаў павекі, то зноў узнімаў. Калі Санкоўскі скончыў, абыякава, як быццам нічога не было, сказаў:

— Хто не вытрымае... што ж... няхай ідзе пашукае сабе другой працы... Я не затрымліваю...— і кашлянуў няўзнак, заварушыўся на месцы.

— Так могуць пайсці не адзін, не два, а ўсе рабочыя, калі пан так раіць...— адказаў у сваю чаргу Санкоўскі.

Дырэктар крыху зморшчыўся.

— А чым ты пакрыўджаны, пане Санкоўскі? Ты маеш не адзін следзь і не адзін кілаграм хлеба, як мне вядома, а значна больш...

— Так, гэта праўда,— я маю крыху больш, а не «значна больш». Але і гэтага хапае з бядою толькі на сякую-такую ежу... Але я маю яшчэ нешта, больш важнейшае...

— Што? Напрыклад? — перабіў Пшэборскі.

— Я маю таварышаў — рабочых, з якімі працую, жыву, і гэта мне не абы-што...

— Гэта... твае таварышы? Гм...

Па групе прабегла хвалякванне. У Андрэя, які стаяў побач з Санкоўскім, мімаволі насупіліся бровы.

— Што, і гэта твой таварыш? — ткнуў бесцырымонна палкай проста ў жывот Захара Зубца дырэктар. Захар Зубец стаяў у густа палапленай саматканай куртцы, падпяразаны вузенькім раменным поясам. Ад такога нечаканага штуршка крыху хіснуўся наперад, і злосная чырвань раптам заліла яго твар.

— Прашу не піхацца, пане дырэктар... Я вам не ваша служанка...— ледзь стрымліваючыся, адпаліў Захар.

На твар пана Пшэборскага ў момант набегла кроў, і агеньчыкам бліснулі вочы. Але... стрымаўся ад адказу. Толькі глуха хрукнуў адкашліваючыся.

Рухам важнай персоны павярнуў галаву ўлева да Глюгі, гледзячы нядбала зверху ўніз.

— Ну, што, пане Канапацкі, уважым просьбу такой паважанай дэлегацыі? — пад закуранымі напамаджанымі вусамі варухнулася зняважлівая ўсмешка. Санкоўскі і ўсе рабочыя сачылі за кожным рухам гэтага пана-самадура. Глюга ў адказ, выхапіўшы рукі з кішэні, пацiснуў плячыма і ўрэшце адказаў:

— Воля пана, пане дырэктар, але... я не даў бы... Дрэнна спраўляюцца...

Вочы ўсіх пранізалі Глюгу, як стрэламі, так што ён вымушаны быў апусціць павекі. Санкоўскі не змоўчаў:

— Я раіў бы пану не займацца хлуснёй...— і звярнуўся да дырэктара: — Пане дырэктар, нашы жаданні слушныя... Бярозаўская суполка плоціць за пагрузку дзённа чатырыста марак, а пан плоціць трыста...

— Бжозовска спулка мне не ўказ! — завішчаў дырэктар.— Гаспадаром тут я... Прашу ісці зараз на працу. А хто не хоча, няхай ідзе да ста́д'яблаў. Няма вам ніякага падвышэння!..

— Мы патрабуем! — загулі ўсе ў адзін голас.

— Цыц!..— стукнуў палкай дырэктар.

Усе сціхлі.

— А з табою, Сасноўскі, будзе асобная гутарка. Нядобра сябе паводзіш!

— Аб маіх паводзінах прашу не турбавацца, пане дырэктар... Дам сабе рады сам...

— Камітэты... Дэлегацыі. Тут вам не саўдэпія!..— дырэктар ткнуў палкай на лес.— Там можаце мітынгаваць. Не хачу вас бачыць! Пане Канапацкі, запісаць ім сягоння палавіну днёўкі!

Глюга, прыклаўшы нагу да нагі, адказаў:
— Слухаю...
А пан Пшэборскі вымахваў палкай і крычаў:
— Я вам дам падвышэнне! Я вас правучу!
Атмасфера накалялася. Узбуджэнне ахапіла ўсю групу. Яно прарвалася ў адзіны крык:
— Вы нас не правучыце!.. У іншых скаціна лепш жыве, чым у вас людзі!..
— Цыц, быдла! — даў сабе волю дырэктар, і сліна запырскала з-пад яго вусоў.
— Ты сам бугай! — у агульным крыку гаркнуў Захар Зубец. Андрэй тузануў яго за куртку ззаду для засцярогі.
Санкоўскі выступіў крыху наперад і сказаў ва ўпор дырэктару:
— Мы не чакалі ад пана такога глумлення... Гэта вам пойдзе не на карысць. Калі мы, рабочыя, грузчыкі, для пана быдла, то няхай пан будзе здароў — нам больш няма аб чым гаварыць...— і ён звярнуўся да ўсіх: — Пойдзем, таварышы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра ўсе грузчыкі ў ліку трыста чалавек не выйшлі на працу.
Па ўсёй вузкакалейцы, як глянуць удаль, было пуста. «Кукушка» пад'ехала да ярусаў і чакала рабочых, але ніхто не з'яўляўся. Глюга пахаджваў ля ваганетак, перакідваўся словамі з машыністам і не ведаў, што рабіць. Урэшце ён накіраваўся ў барак. Там якраз канчаўся сход, на якім былі прыняты пастановы, як напрыклад: ніхто з барака не павінен выходзіць без дазволу камітэта, запасы ежы, якая ў каго ёсць, расходаваць эканомна, дзяліцца з тымі, у каго няма зусім,— пасля можна будзе ўпарадкаваць, калі хто захоча. Хтосьці з рабочых унёс прапанову зрабіць падлік усяго запасу ежы, але яна была адхілена. Настрой ва ўсіх быў узняты, і гэта цешыла членаў камітэта. Камітэт пасля сходу намерваўся ісці ў куток на нараду, і тут якраз увайшоў пан Глюга. З прыўзнятай галавой у сівой каракулевай шапцы і з рукамі ў кішэнях бекешы, ён павольна ішоў па бараку, паглядаючы па баках, і ўрэшце крыкнуў:
— Чаму не ідзяце на пагрузку? Што, адпачываць захацелі? Свята ў вас?
Усе ў бараку сціхлі. Да Глюгі падышоў Санкоўскі і адказаў, што за такую зарплату рабочыя не згаджаюцца

працаваць і выйдуць на працу, калі будзе падвышана зарплата.

— Вы чулі ўчора, што сказаў пан дырэктар? Ну вось... Нават і не думайце аб якой-небудзь падвышцы...

— Мы гэта чулі,— адказаў Санкоўскі,— і таму не выйшлі сёння на працу.

— Значыць, бастуеце?

— Так,— адказаў Санкоўскі.

— А вы знаеце, хто не працуе, той не мае права жыць у бараку?

— Такога права нідзе на свеце няма. Толькі ў вас...

— Ну, глядзіце, каб не каяліся,— сказаў Глюга і раптам, фанабэрыста адвярнуўшыся ад Санкоўскага, крыкнуў на ўвесь барак: — Выходзіць на працу!

Ніхто не зварухнуўся з месца.

— Што, доўга буду чакаць?!

Усе панура маўчалі.

Санкоўскі, урэшце не вытрымаўшы, тонам здзіўлення прамовіў:

— Пане Канапацкі! Чаго пан крычыць? Тут жа не дом вар'ятаў.

Выбух смеху пракаціўся па бараку.

Пан Глюга, як апечаны, рушыў да дзвярэй, насупіўшыся.

Камітэт добра ведаў, што завод не зможа доўга працаваць на тым запасе матэрыялаў, які падвезены да завода. Запасу хопіць на два-тры дні, і таму забастоўка мае ўсе шансы на выйгрыш. Наняць новых трыста рабочых — гэта не хуткая справа. Якія могуць быць яшчэ непрадбачаныя выпадкі? Камітэт абмеркаваў і прыйшоў да вываду, што дырэкцыя нічога не можа выдумаць, што б магло замяніць лік бастуючых рабочых. У канцы нарады Падаляка выказаў сумненне, што дырэкцыя можа разаслаць сваіх агентаў па вёсках і за два-тры дні сабраць патрэбную колькасць рабочых.

Андрэй на гэта адказаў:

— Так разважаючы, можам і да самага Марса дайсці. А ну тое, а ну другое...

Санкоўскі ўсміхнуўся ў вус і паляпаў Андрэя па плячы.

Вырашылі ўрэшце паслаць Марціна Шапко ў разведку, каб даведацца, што робіцца на пляцы, як паводзіць сябе дырэкцыя. Але гэта было ўжо не патрэбна.

Як толькі Марцін Шапко выйшаў з барака, тут жа, размінаючыся з ім у дзвярах, увайшоў Пеця Ціханчук. У па-

дранай куртцы з настаўленым каўняром, з-за якога галава выглядала, як з-за плота, падпяразаны вяроўчынай, гэты хлапчук нервова аглядаў барак, шукаючы вачыма Андрэя. Андрэй ужо забыў пра яго, але калі ўбачыў, крыкнуў:

— Пеця!..

Пеця подбегам накіраваўся да Андрэя і тут жа, задыхаючыся, паведаміў:

— Вось нядаўна... прыехала многа казакаў-балахоўцаў, і дырэктар павёў іх на вашу вузкакалейку...

У Андрэя вочы расшырыліся. Далажыў Санкоўскаму.

— Што, балахоўцы? Так, так... Чуваць было, што мае прыехаць цэлы транспарт... Якраз дагадзілі... пся крэў! Трэба сабраць камітэт на нараду.

Сава Супрун прапанаваў адразу ісці ўсім рабочым і разагнаць балахоўцаў, калі тыя не паслухаюцца добрага слова.

Тут жа ўбег у барак Марцін Шапко і далажыў тое самае, што і Пеця.

— Многа іх? — спытаўся Санкоўскі.

— Многа... Чалавек сто...

Члены камітэта на момант змоўклі, глянулі адзін на аднаго.

— Дырэктар ім надбавіў пяцьдзесят марак у дзень,— дадаў Шапко.

— Ах, вось як! — сказаў Санкоўскі.— Ну, хлопцы, трэба прымаць меры. Маючы сто чалавек, яны могуць за некалькі дзён набраць больш, могуць манеўраваць...

— Я настойваю ісці і прагнаць балахоўцаў, наша сіла большая,— паўтараў сваё Сава.

— Я тое самае думаю,— далучыўся Захар Зубец.

— Іншага выхаду няма, здаецца,— сказаў Андрэй,— народ нас падтрымае, калі мы прапануем.

Падаляка хвіліну думаў.

— Уся справа ў тым, каб нашы трымаліся.

— Аб гэтым не бядуй,— амаль у адзін голас адказалі Санкоўскі і Сава.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пачаўся агульны сход. Усе ўбачылі, што Санкоўскі не толькі добры танцор, але і добры прамоўца. Усе адчулі, што Андрэй не толькі грамацей, але і рабочы — ён выступаў пасля Санкоўскага і гаварыў з сапраўдным запалам. За імі выступіла з прамовамі некалькі рабочых, і Андрэй пазнаваў у іх прамоўцаў часоў грамадзянскай вайны.

Барак зашумеў, забурліў. Сава махаў кулаком над галовамі ўсіх і крычаў: «Бярыце калы па дарозе!» Лавінай хлынулі з барака ўсе, як адзін. Ішлі доўгім сабраным натоўпам, плылі адзінай хваляй — напружанай, кіпучай. Наперадзе Санкоўскі, па баках другія члены камітэта.

З вузкакалейкі далятаў грукат шпал. На ярусах увіхаліся людзі ў зялянковага колеру пакамечаных шапках, хто ў шынялі, а хто ў звычайнай куртцы. Гэта былі дзянікінцы і пятлюраўцы, якія закончылі сваю бясслаўную вайну ў арміі Булак-Балаховіча, апошняга стаўленіка Пілсудскага на беларускіх землях. У «аплату» за верную службу ўрад Пілсудскага даў ім работу — разаслаў па лесапільнях. І вось яны грукацяць шпаламі, стоячы на ярусах,— падрываюць забастоўку. Застаюцца ранейшай зброяй у руках капіталістаў — ваююць далей. Дзянікінцаў можна было адрозніць ад пятлюраўцаў не толькі па вопратцы, але і па казацкіх чубах.

Як толькі грамада бастуючых наблізілася да вузкакалейкі, Санкоўскі, падняўшы руку, крыкнуў:

— Просім спыніць працу! Гэта наш участак працы, а мы бастуем. Не шкодзьце нам. Не адбірайце кавалка хлеба!

На момант на ўсім участку стала ціха. Заціхлі балахоўцы, сталі, апёршыся на калы, заціхлі і забастоўшчыкі. Толькі паравозік ціхенька сіпеў, і здавалася, што кожны прыслухоўваўся да гэтага сіпення.

Маўчанне парушыў вусаты казак. Ён усміхнуўся, як быццам здагадаўшыся, у чым справа, і гаркнуў на ўсю глотку:

— А гэта што! Вы нас тут не ставілі на работу, вы і не знімеце. Таварышаў знайшоў. Шэры воўк у лесе табе таварыш. Знаем такіх — бачылі...

І ў доказ сваіх слоў падсадзіў кол пад шпалу, каб кацíць яе на ваганетку. Яго напарнік па працы, малады казак, здзіўлена паглядаў на натоўп бастуючых. Вусач крыкнуў на яго:

— Чаго сліну распусціў? Бяры... Няхай яны сабе бастуюць. У нас свая справа...

Пачалі брацца за працу і іншыя.

На другім ярусе пятлюравец з шырокім мясістым тварам сказаў да свайго калегі:

— О, лыха ж його матэры... Куды ж мы попалы? Забастівка, бачыш...— і, азірнуўшыся наўкола, нясмела ўзяўся за працу.

Шпалы зноў загрукаталі на ўсім участку. Другі ўкраінец з другога яруса ўжо крычаў: «Вы собі бастуйтэ, а мы будэмо за сэбэ і за вас...» Дзе-нідзе пачуўся смех. І шпалы, як знарок, загрукаталі заўзята.

Пан Глюга стаяў ля паравозіка і ўвесь час маўчаў, хмурачы бровы. Ён хацеў бы разагнаць гэтых трыста забастоўшчыкаў, як падказвала яму яго лакейскае сумленне, але... бяда ў тым, што пад шляхецкую бекешу запаўзло пачуццё страху ад свядомасці таго, што трыста чалавек прыйшлі сюды не для жартаў. Калі ж грузчыкі-балахоўцы пасля перапалкі з забастоўшчыкамі загрукаталі шпаламі, твар пана Глюгі заззяў так раптоўна, што ён узняў галаву да машыніста і сказаў:

— Не на такіх напалі... Гузік будзе з іх забастоўкі...

Сава Супрун, апіраючыся на кол, стаяў пярэднім якраз супроць таго вусатага казака, які першы выскачыў для адказу забастоўшчыкам. Вочы Савы бліскалі, прабягаючы па ўсёй лініі ярусаў направа і налева. Здавалася, ён выбіраў месца для атакі. І ўрэшце, уставіўшыся на вусатага казака, Сава крыкнуў:

— Гэй, ты, вусач! Злазь са шпалаў!..

— Што? Гэта чаму? Ты мяне тут не паставіў... Ідзі сваёй дарогай...

— Я табе кажу — злазь!

«Вусач» працягваў сваю работу, ужо нічога не адказваючы... Тады Сава агляпуўся на сваіх, якія насупленым натоўпам чакалі знаку, і крыкнуў:

— Усе на шпалы! Скінуць штрэйкбрэхераў! — і сам палез на ярус вусача.

Пан Глюга збялеў. Крутнуўся на адной назе і подбегам накіраваўся ў бок дырэкцыі.

А на ярусах закіпела ўжо сапраўдная бітва...

Сава з налёту ўдарыў вусача па нагах. Той упаў назад, спіной на шпалы. Галава павісла з яруса. Гэта адно і заўважыў ясна Андрэй. А далей было ўражанне павальнай мітусні. Разам з Захарам Зубцом яны тузаліся з невялічкім дзёрзкім казачком з малпінымі губамі пад кірпатым носам. Ён увіваўся ў руках Андрэя і Захара, як уюн, намагаючыся галавою ўдарыць у жывот таго або другога.

— Ах ты, праяўка! — крычаў Захар.— І што тут цябе ёсць — жменя... А бачыш ты, як увіваецца... Я вас яшчэ з Дона ведаю... дзянікінцаў... Паглушылі мы вас там, паглушым і тут...

Урэшце Андрэй схапіў казачка за нагу, і той з распасцёртымі рукамі паляцеў з яруса.

Барацьба з ярусаў перайшла на зямлю. Штрэйкбрэхеры з гарачкі кінуліся з каламі на забастоўшчыкаў, але тут атрымалі такі адпор, што, паўгінаўшы галовы, пачалі ўцякаць хто куды. Беглі, хаваючыся за ярусы, некаторыя паспелі апынуцца ўжо ў лесе. Машыніст, убачыўшы, што пагрузкі больш не будзе, даў пары сваёй «кукушцы», і яна, тоненька прагуўшы, рушыла свой паяздок ваганетак, нагружаных да палавіны кругляками на шпалы. Пасля ад'езду поезда навокал стала пуста і ціха. Забастоўшчыкі збіраліся ў адно месца. Вацлаў Санкоўскі, дагэтуль непрыкметны, стаяў пасярэдзіне натоўпу ў падранай на грудзях кашулі і з падрапаным тварам. Аддыхваючыся, гаварыў:

— Далі мы ім, далі... будуць помніць...

Шум, гоман, смех, выбухі бадзёрасці, задаваленне — усё гэта злівалася ў адну кіпучую і, здавалася, непераможную стыхію. Перадавалі адзін аднаму ўражанні барацьбы. Марцін Шапко гаварыў Андрэю:

— І шкада мне было яго спіхваць... Такі нейкі худы, можа, і хворы... Калі я дакрануўся да яго рукою, ён сказаў: «Пусці, я сам сыду...»

Амаль гордым поступам праціскаўся праз натоўп Іван Падаляка. Яго твар свяціўся такім задаваленнем, як быццам ён адзін перамог штрэйкбрэхераў. Сціскаючы губы ва ўмільнай усмешцы, нібыта перад ім стаяць дзяўчаты, а не Андрэй з Савам і Шапко, ён гаварыў:

— Ну, я ж казаў, што без калоў не абыдзецца... Так яно і выйшла.

Андрэй слухаў гэтыя прызнанні і ў думках прыкідваў — што ж далей? Не выцерпеў — убачыўшы Санкоўскага, прабраўся да яго і прапанаваў сабраць камітэт для нарады.

— Так, трэба сабраць,— таксама заняты нейкай думкай, адказаў Санкоўскі. Ён паглядаў на натоўп, як быццам каго шукаючы, і ўсё паўтараў Андрэю: «Зараз, зараз...» Потым, нешта ўбачыўшы, раптам прамовіў: «Ах, ёсць... вось яны... Ну, усё ў парадку...» Санкоўскі шукаў сваіх...

Камітэт тут жа на месцы вырашыў — пяць чалавек для варты пакінуць пры ярусах на чале з Марцінам Шапко, а ўсім ісці ў барак і чакаць далейшых падзей — павінен жа хто-небудзь прыйсці з дырэкцыі, і тады відаць бу-

дзе, што рабіць. Падалі каманду — у барак! — ды і людзям рабілася холадна.

Чорны прастакутнік барачных дзвярэй павольна ўбіраў у сябе хвост шэрага натоўпу, аж пакуль у ім не знік апошні чалавек, які зачыніў дашчаныя дзверы з такімі шчылінамі, што праз іх можна прасунуць два пальцы. Стала зноў ціха і нават звычайна, як у кожны рабочы дзень. Рытмічна чахкаў рухавік на заводзе; чорны, як сажа, дым роўна плыў у вышыні з высокага жалезнага коміна, завершанага драцяной сеткай, як глобусам. Блізка пры заводзе варушыліся рабочыя, якія працавалі на падкатцы дрэва. Спецыяльная група рабочых нагружала на вагоны-платформы даўжэзныя бярвенні. Ля дырэкцыі — ні душы, як знарок. Часам выйдзе хтосьці, гляне навокал і зноў знікне за дзвярыма. Балахоўцы і пятлюраўцы недзе таксама адпачываюць у бараку — «бастуюць» прымусова. Іхні барак новы і не ў зямлі, як вось гэтых забастоўшчыкаў, а на паверхні, на роўнядзі, прытуліўся да самага лесу, што нават купчастыя галіны сосен звісаюць над страхою, пакрытай чорнай толлю. Дырэкцыя будавала гэты барак спецыяльна для іх...

Пяць вартавых на чале з Марцінам Шапко стаялі, прытуліўшыся спінамі да яруса (не трэба было ўжо вельмі паказвацца). Адгэтуль можна ўпотай назіраць за ўсім, дзе што робіцца. Курылі адну папяросу на ўсіх, гаварылі аб сваёй бітве, пераступалі часамі з нагі на нагу. Было крыху холадна, але — нічога — праз дзве гадзіны прыйдуць ім на змену другія. Часам каторы-небудзь выходзіў за ярусы да лесу праверыць, каб не было чаго неспадзяванага. За ярусамі праз разрэджаны лес віднелася дарога — яна вяла ў павятовы горад, да якога было пятнаццаць кіламетраў. Ранкамі па гэтай дарозе едуць возчыкі тралявацъ дрэва да вузкакалейкі. Часам можна было бачыць і самога пана дырэктара Пшэборскага, які ехаў у размаляваных санках у горад або з горада. Тады чуваць было вызваньванне званочкаў, якімі былі абвешаны грывастыя шыі чорных коней, запрэжаных у дышла. Цяпер па гэтай дарозе ніхто не ехаў. Было ціха і нават нудна. Хлопцы стаялі і пазіралі наўкола на ўсю паляну і спецыяльна на дом дырэктара Пшэборскага, які вастрыём квадратнай гонтавай страхі тарчаў непадалёку з-за высокага шчыльнага плота, што акружаў дом квадратам. Дом быў двухпавярховы. Над плотам глядзеў вялікімі вокнамі ўдаль — на завод, на лес — толькі верхні паверх. Ніжні хаваўся за плотам. Балкон быў занесены

снегам, і ледзяшы, быццам знарок павешаныя гірлянды, звісалі, як з якога балдахіна. На падворку з-за плота відаць былі толькі грабяні стрэх іншых будынкаў.

Хлопцы-вартавыя ўжо былі вырашылі паслаць па змену, як да іх даляцеў скрып брамы, і з падворка шугануў на паляну меладычны перазвон званочкаў. Спярша вынырнула з брамы пара чорных адкормленых коней, пасля фурман у кепцы з футровымі навушнічкамі і ўрэшце сам пан Пшэборскі ў лісінай шапцы. Побач з ім сядзеў яшчэ нехта ў шэрай каракулевай шапцы — хлопцы пазналі ў ім Глюгу. Ногі абодвух — пана і падпапка — былі пакрыты дыванам.

Санкі павярнулі направа за дом, на дарогу ў горад. Хлопцы праводзілі іх вачыма ўслед, аж пакуль фурман не страсянуў лейцамі, і санкі памчаліся віхрам, мільгаючы між сосен і заліваючыся на ўвесь лес званочкамі. Тады Марцін Шапко сказаў аднаму з хлопцаў:

— Ідзі далажы... І няхай прышлюць змену, а то мы змерзлі ўжо.

Пасланец пайшоў. А хлопцы з трывогаю слухалі перазвон званочкаў, які аддаляўся ў лясной глушы, пакуль не пераходзіў у тоненькае, ледзь чутнае трымценне, але ўсё не сціхаў.

— Як доўга чутна...— сказаў хтосьці з хлопцаў.

Званочкі звінелі ў вушах доўга, і нельга было ўжо адрозніць, чутны яны яшчэ на самай справе ці гэта толькі ўжо адно ўражанне.

— Не... усё яшчэ не сціхаюць,— прамовіў Шапко і пачаў пытацца ў другіх, ці ім таксама звініць у вушах. Усе адказвалі, што звініць. І ўжо знарок напружана прыслухоўваліся.

— Што за ліха? Звініць... І як быццам стала чутней, чым было... як па-вашаму? — пытаўся Шапко.

Пераглядваліся між сабою ў здзіўленні і трывозе. Урэшце стала ясна для ўсіх, што званочкі ўжо не аддаляюцца, а набліжаюцца.

— Няўжо назад едуць? — сказаў Марцін.

А пан Пшэборскі з Глюгам і сапраўды ехалі назад, бо звон быў чуваць ужо недалёка. Вартавыя заварушыліся. Двое пайшлі за ярусы, каб паглядзець на дарогу. Да іх далучыліся і астатнія. Званочкі шуганулі густа ўжо недзе на павароце, і вартавыя ўбачылі неўзабаве нечаканае відовішча. Убачылі перш не санкі пана Пшэборскага, а цэлы атрад коннай паліцыі. Чалавек дваццаць паліцыянтаў ска-

кала на конях шпаркай рыссю. За імі беглі чорныя коні пана дырэктара, узначальваючы некалькі паракопных падвод з паліцыянтамі. Яны цесна сядзелі на санках. У іх руках вінтоўкі тарчалі ўверх блішчастымі штыкамі-нажамі.

Вартавыя, не дачакаўшыся змены, пакінулі аднаго ля ярусаў, а самі вярнуліся ў барак.

— Сустрэліся, значыць, на дарозе...— гаварыў Марцін.— Справы разгараюцца...

## ЦЫРЫМОНІЯ СТРАХУ І ДЫПЛАМАТЫЯ ДЫРЭКТАРА

Конная паліцыя, не спыняючыся ля дырэкцыі, з ходу рушыла да барака і акружыла яго. Перад дзвярыма сталі чатыры конныя паліцыянты на чале з пшадоўнікам [1]. Ваяўніча-напружаныя твары гаварылі аб тым, што ўсе былі загадзя падрыхтаваны да ўсякіх неспадзяванасцей. Чорныя пасачкі шапак сціскалі падбародкі паліцыянтаў і, здавалася, замкнулі ім губы, бо ўсе маўчалі, стуліўшы іх. Пшадоўнік аддзяліўся ад чацвёркі, аб'ехаў для праверкі барак наўкола, вярнуўся і стаў на сваё месца, папраўляючы пасачак пад барадою, пасля чаго рука ў чорнай пальчатцы легла на луку сядла і болей не падымалася. У барак ніхто не ўваходзіў. Чакалі афіцэра і начальства завода.

Тыя затрымаліся ў дырэкцыі, дзе была нарада, і цяпер ішлі ў барак. Наперадзе маршыравалі паліцыянты двойкамі, ззаду ішоў афіцэр паліцыі, а з ім дырэктар Пшэборскі са сваёй світай. Падышоўшы да барака, афіцэр аддзяліўся ад дырэктара і выйшаў наперад. Пшадоўнік заёрзаў у сядле, падцягнуў павадкі і гучна скамандаваў: «Шаблі ў далонь!» Стальныя клінкі бліснулі з чорных похваў і тупым рубам леглі пры плячах. Афіцэр знакам рукі спыніў паліцыянтаў, адлічыў чатыры двойкі і кіўнуў: «За мной!» Прыглядаючыся сабе пад ногі, яны пачалі спускацца ўніз да дзвярэй. Следам ішоў дырэктар са сваімі чыноўнікамі. Ішлі, як навобмацак, аж пакуль цёмнае сутарэнне не праглынула іх.

Перад вачыма афіцэра была цемра, злёгку праразджаная святлом, якое плыло невядома адкуль. Ён маргаў вачыма, намагаючыся разгледзець абстаноўку. Раптам палі-

[1] Ніжэйшы чын паліцыі.

цыянт, які ішоў побач, гаркнуў на ўсё горла: «Стаць!» Афіцэр пасоўваўся на сярэдзіну барака, і вочы яго ўжо пачалі распазнаваць людзей і рэчы. Паліцыянты сталі шпалерам уздоўж нараў. Афіцэр, трымаючы пальчаткі ў правай руцэ, павольна ішоў праходам. За ім — дырэктар са сваімі падпанкамі. Большасць рабочых сядзела на нарах, а некаторыя стаялі ў праходзе. Начальства разглядала людзей, як быццам вывучаючы кожнага. Урэшце афіцэр ткнуў пальцам у аднаго рабочага ў падранай шапцы-вушанцы, ссунутай на правае вуха. Гэты рабочы быў худы з твару, абраслы шчаціністай барадой. Афіцэр запытаўся ў яго:

— Ты, дзікус, таксама бастуеш?

Але, сказаўшы «дзікус», афіцэр не заўважыў, што з-пад навіслых броваў гэтага «дзікуса» вострым бляскам свідравалі шэрыя вочы, з іх прамянела насмешка з панскай нікчэмнасці і з усёй гэтай цырымоніі страху. «Дзікус», перш чым адказаць, не спяшаючыся выцер далоняй вусы і тады прамовіў:

— Ага, бастую...

— Хто ж цябе намовіў да забастоўкі?

— Хто намовіў? Следзь...

— Як то? Хто такі Следзь?

— Следзь... Следзь і ёсць следзь...

— Пакажыце, дзе ён? — спытаўся афіцэр і павёў навокал вачыма, прычым вочы заблішчалі надзеяй. Вось зараз ён убачыць таго віноўніка — Следзя.

— Дзе ты яго пакажаш, калі мы яго ўжо з'елі,— спакойна, як нічога не было, адказаў рабочы і зноў выцер нос далоняй.

— Цо то есть?.. З'елі... Пане дырэктар, як то...

Але афіцэру скончыць не давялося: напружаная цішыня парушылася гучным смехам, што, здавалася, аж барак затросся ад яго. З усіх рабочых не смяяўся толькі адзін «дзікус». Але затое вочы яго засвідравалі афіцэра яшчэ мацней.

Афіцэр на хвіліну збянтэжыўся. Але раптам узняў галаву і крыкнуў на ўвесь барак:

— Ціха! Глядзіце, каб вам не захацелася плакаць!

— Да плачу мы не надта...— сказаў нехта з кутка.

Усё начальства павярнула галовы ў бок смельчака. Але заўважыць яго ім так і не ўдалося.

— Ну, што ж, пане дырэктар, будзем дзейнічаць? — упаўголаса сказаў афіцэр дырэктару.

Дырэктар у адказ кіўнуў носам.

Пан афіцэр дастаў з кішэні запісную кніжачку і, перш чым яе разгарнуць, азірнуў усіх рабочых налева і направа, прайшоў пару крокаў наперад і сказаў:

— Папярэджваю, калі хто будзе супраціўляцца, паліцыя мае загад страляць,— ён азірнуў яшчэ раз усіх і спытаўся: — Чулі ўсе?

Дырэктар Пшэборскі стаяў з палкай у левай руцэ і, чаго не заўважалася дагэтуль, правую руку трымаў у кішэні. Ён увесь час маўчаў, глядзеў спадылба панура і баязліва. Здаваўся нават крыху згорбленым, і вусы не выглядалі так папамаджанымі, як іншы раз,— канцы іх апускаліся ўніз. Пан Глюга не адыходзіў ад дырэктара. На цёмным твары застыла чаканне нечага, чаго ён баяўся.

Члены забастовачнага камітэта стаялі разам у другой палавіне барака, чакалі фіналу. Фінал набліжаўся... Пан афіцэр разгарнуў запісную кніжачку. Але не паспеў прамовіць слова, як да яго з другой палавіны барака накіраваўся Санкоўскі. Паліцыянты затрымалі яго, загадаўшы стаць на месца і не варушыцца.

— Што там такое? — крыкнуў афіцэр.

— Пусціце мяне да пана каменданта,— выгукнуў Санкоўскі.

— А ну... няхай ідзе...— дазволіў афіцэр.

Санкоўскі падышоў і адразу загаварыў спакойным голасам:

— Што, уласна, хочаце, панове, з намі рабіць? Акружылі барак, увайшлі ўзброеныя... Што гэта? Для чаго? Чым мы правініліся? Змагацца за кавалак хлеба законам паложана... Гэтага ў нас адняць нельга...

— Працуйце... Хто ж вам не дае працаваць? Вы ж самі не хочаце і, апрача таго, выrabляеце розныя «бучы».

— Гэта, перапрашаю, не буча, а абарона свайго варштата.

— Варштат не ваш! Гаспадаром тут пан дырэктар.

— Можа, нам пан дырэктар загадае зусім галоднымі працаваць? Ён і імкнецца да гэтага... Працуем на пагрузцы дрэва і атрымліваем толькі кілаграм хлеба і адзін следзь... Доўга можна працаваць пры такім пайку?

— Аднак працавалі,— значыць, можна...— не маючы чаго адказаць, сказаў афіцэр. Відаць было, што ён больш не хоча гаварыць, каб часам не трапіць у новы тупік.

— Каб можна было, мы б не падымалі голасу...

Афіцэр ужо нахмурыў бровы.

— Маўчаць! — крыкнуў ён.— За ваш бандытызм адкажаце! Як прозвішча?

— Санкоўскі...

Афіцэр глянуў у кніжачку:

— Ага, гэта і ёсць самы завадыяка... Стаяць тут!

Афіцэр пачаў выклікаць па прозвішчах іншых і ставіць у рад. Трапілі ў спіс і Андрэй Касцевіч, і Сава Супрун, і Іван Падаляка, і Захар Зубец, і Марцін Шапко, і шэраг іншых — да дваццаці чалавек — словам, уся дэлегацыя.

— Адвесці да дырэкцыі! — загадаў двум паліцыянтам афіцэр.

Павялі. За імі пайшло і ўсё начальства. Калі адчынялі дзверы, рабочыя, як адзін, крычалі ўслед:

— Бярыце і нас! Усіх бярыце!

— Прыйдзе чарга і да вас,— адказаў пан Глюга.

Усе пешыя паліцыянты акружылі кардонам затрыманых і павялі ў дырэкцыю. Конныя засталіся на месцы.

Затрыманыя пад аховай паліцыі некаторы час стаялі ў калідоры дырэкцыі.

А ў кабінеце дырэктара за сталом селі сам дырэктар Пшэборскі і пан афіцэр. На іх з вышыні сцяны пазіраў з партрэта Пілсудскі ў легіёнскай шапцы-мацяёўцы.

— Ну, пане дырэктар, рашайце, што будзем рабіць далей? Згодны пан падаць у суд на гэтых завадыякаў? Воля пана... Усё залежыць ад пана...

Пан Пшэборскі ламаў сухарлявыя пальцы, націскаў далонь аб далонь, паглядаў між іншым у акно і зварухнуў плячыма:

— Халера іх знае, што з імі рабіць! Падаць у суд — спаляць мне лесапільню, тады што? Пан жа сам гаварыў, што нядаўна былі вывешаны дзве чырвоныя анучы... Значыць, камуністы дзейнічаюць...

— А значыць?

— Трэба дзейнічаць асцярожна... Разумее, пан... асцярожна.

— Значыць, пан дырэктар, згодны дабавіць зарплату, што значыць выканаць іх патрабаванні? Мм...— і афіцэр закруціў галавою.

— Аб павышэнні зарплаты не можа быць гутаркі... Што пан выдумаў? Я аб гэтым зусім не думаю... Падвысь ім зарплату — ого! — яны тады на карак залезуць. Ні ў якім разе...

— Урэшце можна паспрабаваць дабавіць гэтым зава-

дыякам...— дырэктар кіўнуў у бок калідора.— А як не згодзяцца — звольніць з працы.

Афіцэр крыху падумаў і сказаў:

— Ну, і то праўда...— устаў і, адчыніўшы дзверы на калідор, крыкнуў: — Заходзьце!

Хлопцы гуртам не ўвайшлі, а, здаецца, уламаліся ў кабінет. Пакуль станавіліся ля сцяны, пан Пшэборскі абводзіў усіх вачыма, як быццам хацеў адгадаць, ці ўдасца яму ажыццявіць свой намер. Разам з дырэктарам абводзіў усіх вачыма і Пілсудскі з партрэта. Здавалася, вось зараз скажа: «Пасадзіць у «казу» і даць «хлосты»!» [1] Стала ціха. Рабочыя стаялі, трымаючы ў руках свае заношаныя шапкі. Паны для стварэння павагі вытрымлівалі паўзу.

Першым пачаў гаварыць дырэктар:

— Ну, вось што... Зарабілі вы для сябе многа... Магу вас аддаць пад суд..: Але гэтага рабіць не буду... Для вашага ж дабра...— тут пан дырэктар спыніўся і спадылба акінуў усіх насцярожаным позіркам. А пасля абыякава пачаў глядзець у акно, ламаючы пальцы.

— Ну, дык вось я вырашыў... даць вам жаданую падвышку...

І тут раптам узняў галаву і паглядзеў ва ўпор на ўсіх... Санкоўскі, стоячы наперадзе, нахмурыў бровы ад здзіўлення. Што гэта значыць? Што гэта за манеўр?

— Як-то, пане дырэктар?.. Не разумею... Падвышку ўсім?

Тонкі манеўр Пшэборскага не ўдаўся. Ён думаў, што Санкоўскі скажа: згода,— і на гэтым усё скончыцца. А каму дакладна падвышка, так бы засталося невядомым. Пшэборскі хацеў збіць з толку рабочых нечаканасцю прапановы, але яму гэта не ўдалося. Ён крыху збянтэжыўся і, тыкаючы пальцам перад сабою, гаварыў з надсадай, з прыціскам:

— Так, так... вам, усім вам,— яшчэ да канца не дагаварваючы каму — «усім».

Санкоўскі ўжо цяпер ясна зразумеў, у чым справа.

— Я разумею так, што пан дырэктар са сваёй ласкі дае падвышку толькі нам, тут прысутным? Так я зразумеў?

— Мм... так...— больш адказаў кіўком галавы, чым словамі Пшэборскі, і з твару зnікла ўпэўненасць у сваёй дыпламатыі. Твар стаў злосным, расчараваным. Ён зра-

---

[1] «Хлосты» — польскае. Значыць адхвастаць розгамі. «Каза» — памяшканне, у якім трымаюць арыштаваных.

зумеў, што не дасягнуў мэты. Выняў з кішэні партсігар, запрапанаваў папяросу афіцэру і закурыў сам. Ён ужо нагатоў быў зусім не заўважаць вось гэтых прысутных, ненавісных яму абадранцаў.

— Не, пане дырэктар, на гэта мы не згодзімся,— адказаў Санкоўскі.— Калі ўсім, дык усім,— выбару быць не можа.

Пшэборскі страсянуў папяросай над попельніцай, накураны попел шэрым кругляччком лёг на дно попельніцы. Дырэктар глянуў на яго і зусім раўнадушна адказаў:

— Воля ваша... Калі так, будзеце звольнены з працы. Завесці іх у бухгалтэрыю, хай бяруць разлік,— прамовіў ён з'едліва і адвярнуўся тварам да афіцэра, які сядзеў у канцы стала.

— Ну, гэта адразу ясна...— сказаў Санкоўскі.

Пан Пшэборскі ўжо вёў гутарку з афіцэрам і быццам не чуў адказу Санкоўскага.

Групу рабочых пад канвоем прывялі назад у барак. Неўзабаве туды зноў прыйшлі дырэктар, афіцэр і Глюга з паперамі ў руках.

— Хто хоча працаваць? — пытаўся Глюга.— Падыміце руку.

Рукі ніхто не падняў. Глюга павярнуўся да дырэктара.

— Выклікаць кожнага па спісу і пытацца! — загадаў дырэктар.

Пачалася пераклічка. З трохсот чалавек толькі дзесяць згадзіліся працаваць.

— Вось хоць дзесяць разумнікаў знайшлося,— сказаў афіцэр.

Дырэктар дадаў:

— Зараз жа забраць іх і перавесці ў другі барак... А астатнія каб ні хвіліны не былі мне тут, у бараку! — крыкнуў ён.— Вымятайцеся, каб я вас ні аднаго не бачыў!

— Час ужо ідзе к вечару, мы нікуды з барака не пойдзем, на дварэ, як пану вядома, яшчэ зіма,— адказаў Санкоўскі.

— Нічога не знаю, хто ў мяне не працуе, той не павінен і жыць тут. Чулі? Збірайце свае манаткі і на ўсе чатыры бакі. Не выйдзеце — прымусім сілай!

Паны выйшлі.

Забастовачны камітэт прыняў рашэнне, каб кожны на ўсякі выпадак падрыхтаваў свае рэчы. З барака вырашылі не выходзіць.

Прыйшоў бухгалтар у акулярах, з чорнымі вусікамі

пад крыху дзюбатым носам. Ён не быў па-панску суровым, нават усміхаўся і жвава прывітаў усіх словамі: «Дзень добры, панове!» За ім цюпала ў боціках пульхная дзяўчына з напудраным носам. Гэта — касір. Яны прыйшлі выдаць рабочым разлік. У той час, калі бухгалтар сеў на нары і скінуў кепку, кладучы яе побач з сабою, дзяўчына нясмела азіралася і баялася датыкацца да нар. Аднак пасля села асцярожна па самы краёчак.

— Вось дачакаліся выгоды! — сказаў хтосьці з рабочых.— Як той вінаград — сам рвецца і ў рот кладзецца.

Бухгалтар усміхнуўся і паправіў акуляры. Пачалася выплата. Яна цягнулася доўга. Цёмная ноч навісла над баракам, а бухгалтар з дзяўчынай усё паўтаралі — то «тшыста», то «шэсцьсот». Калі рабочыя непрыкметна для сябе абступалі іх паўкругам для цікавасці, бухгалтар казаў: «Не цясніцеся, не спяшайцеся, яшчэ маем час, за ноч выплацім».

Усе зразумелі, што выплата перашкодзіць начальству выгнаць людзей з барака.

— Як не спяшацца? — сказаў Санкоўскі.— Дырэктар выганяе з барака. Трэба спяшацца.

— Ніхто вас з барака выганяць не будзе,— сказаў бухгалтар.

Пасля выплаты ён устаў, надзеўшы кепку, азірнуў усіх. Нешта прасілася яму на вусны, бо ўсмешка, змешаная са здзіўленнем, блукала па твары. У вачах пад акулярамі можна было заўважыць бляск ледзь схаванага захаплення. Нарэшце ён сказаў:

— А дзёрзкія з вас малойцы... казакі! Ну, ну,— і накіраваўся да выхада, ківаючы галавой на развітанне.

Твар Санкоўскага асвятліла ўсмешка. Ён крыкнуў услед бухгалтару:

— Дзякуем пану! —і, павярнуўшыся да Андрэя, дадаў: — То добры хлоп... Ён спрыяе нам...

* * *

Камітэт сабраўся на нараду. Трэба было падвесці вынікі барацьбы і падумаць аб заўтрашнім дні.

Увайшоў пан Глюга ў суправаджэнні паліцыянта. Рабочыя ўбачылі яго, але ніхто не спыніў размовы, ніхто не зацікавіўся ім. Глюга паглядзеў навокал і ўзняў руку.

— Увага, панове! — крыкнуў ён.

Захар Зубец хрыпла засмяяўся:

— О, цяпер панамі ўжо заве... Калі гэта было? Ну, дачакаліся славы... Што гэты чмут скажа?

Рабочыя не адразу, а паволі пачалі сціхаць. Глюга чакаў, не спяшаўся — відаць, хацеў, каб яго словы ўсім дайшлі ў вушы. Гэта павінны быць словы, сказаныя з вышыні маестату, як, скажам, з ксяндзоўскай вышкі. Глюга накашліваў і, відаць, нават хваляваўся.

— Панове! — крыкнуў ён і зноў змоўк, чакаючы абсалютнай цішыні.

— Нешта ён нам сёння вельмі казырае,— не сунімаўся Захар.

Глюга, дачакаўшыся цішыні, набраў духу, выпрастаўся і яшчэ раз кашлянуў. Пачаў гаварыць паважным, амаль набожным тонам.

— Пан дырэктар са сваёй ласкі злітаваўся над вамі і дазволіў пераначаваць у бараку... Вы павінны дзякаваць пану дырэктару за яго ласку. Можаце спаць, ніхто вас не кране. Толькі спакой, толькі спакой... Няхай вас бог бароніць... Да пабачэння,— і накіраваўся да выхада.

У кожнага на вуснах блукала ўсмешка. А Сава Супрун крыкнуў услед Глюгу:

— Перадайце пану дырэктару, што мы яму нізка кланяемся і цалуем яго ў рукі, а ён нас няхай...

Невядома, ці чуў Глюга апошнія словы, але не аглядаўся. Па бараку перакочваліся выбухі смеху.

На нарадзе камітэта былі некаторыя разыходжанні па ацэнцы забастоўкі, а таксама далейшых перспектыў. Напрыклад, Падаляка казаў, што трэба было прыняць прапанову дырэктара. А гэта для таго, каб застацца працаваць тут, быць з масамі, і ў далейшым, на яго погляд, удалося б дабіцца павышэння зарплаты ўсім, што цяпер ёсць небяспека, што ўсіх баставаўшых нідзе не прымуць на працу.

Аспрэчвалі Падаляку Захар Зубец і Сава Супрун, даводзячы, што «мы панам нагналі страху, чаго не адчувае Падаляка, што, калі да гэтых паноў калі-небудзь прыйдзе другая дэлегацыя, яны ўжо так ставіцца не будуць, як паставіліся да нас...»

— Не, я не згаджаюся з вашымі меркаваннямі,— насупіўся пагардліва Падаляка,— што з таго, што панам нагналі страху, калі нам ад гэтага толькі адна хвіга...

— А хіба гэта не будзе мець уплыву на рабочых іншых заводаў? — спытаў Андрэй.— Хіба мы ізаляваны ад свету? Я лічу, што перамога ў гэтай забастоўцы ўсё ж такі наша... маральная перамога, я сказаў бы...

— Фю-ю... маральная...— працягнуў Падаляка.— Для рабочага важны кавалак хлеба... Маралі не пад'ясі...

Захар Зубец пачухаў патыліцу і сказаў:

— Я маланісьменны чалавек, але адчуваю, Іван, што ты тут нешта закручваеш.

— І здорава закручваеш,— дадаў Сава.— Што такое мараль? Скажы? Па-мойму, гэта вось што...— і Сава стукнуў сабе кулаком у грудзі.— Вось тут мараль... Я ведаю, што наша забастоўка, наша барацьба не застанецца без следу. І ад гэтага аднаго ў мяне сілы прыбывае. Ды не толькі ў мяне, але ва ўсіх іх,— ён паказаў на рабочых.

— Аднак...— сказаў Падаляка.

— Правільна, Сава,— падтрымаў Андрэй,— вельмі правільна.

— Калі так будзем гаварыць, як ты, Падаляка,— урэшце азваўся Санкоўскі,— страцім грунт і перспектывы. Я лічу, што мы не мелі іншага выхаду, як пайсці з калямі і прагнаць балахоўцаў.

— Дык гэта ж была і мая прапанова,— хіснуўся ў другі бок Падаляка.

— Ну, дык чаго ж ты хочаш? — дакорліва кінуў Захар.

Па прапанове Санкоўскага вырашылі ісці заўтра ўсім у бярозаўскую суполку. «Калі там не прымуць на лесапільню, пойдзем на лесараспрацоўкі — туды прымуць з ахвотай. Што ж, папрацуем там... А далей відаць будзе... Згодны?»

— Згодны,— адказалі ўсе. І камітэт пайшоў да рабочых.

Члены камітэта ішлі павольна, прыглядаліся да людзей. На душы ў Андрэя было адчуванне цяжару. Гэта ж гняла яна, адказнасць за людзей, ён абавязаны ведаць аб іх усё — іх думкі, жаданні. Пачуццё адказнасці расло з кожным днём жыцця ў бараку. «Так... нельга жыць сярод людзей, не несучы адказнасці за іх, на якой бы ступеньцы ты ні стаяў,— рабіў сабе вывад Андрэй.— У гэтым уся соль — нельга жыць у грамадстве без грамадства». А калі так, усё павінна быць падпарадкавана гэтаму грамадству. Абыякавыя адносіны да людзей, да чалавека працы — страшэнны эгаізм.

Члены камітэта ішлі сур'ёзныя і як быццам нават крыху задуманыя. Так, прынамсі, здавалася Андрэю. Трэба было б, ідучы, кінуць якое запытанне, які-небудзь жарт, але зрабіць гэта чамусьці было цяжка. Можа, таму, што рабочыя сядзелі пры сваіх клунках, апранутыя, гатовыя ў

дарогу, што і вячэры не давялося зварыць, што і махоркі няма ўдосталь, і адна цыгарка вандруе праз некалькі рук.

— Ну, як, хлопцы, чуемся? — спытаўся ўрэшце Санкоўскі.

— Добра,— быў адказ.— Паны ж злітаваліся сёння, дык чаго ж нам гараваць?

— Наша справа — кулак пад галаву і ногі ўверх.

— Заўтра — бог бацька...

— Сёння злітаваўся адзін пан, заўтра другі...

— Але Глюга... ён, мусіць, ксяндзом быў некалі...

— Афіцэр жа пакаштаваў нашага следзя... Ну і разагнаўся — пакажы яму следзя... Ха-ха-ха...

— А вунь паглядзіце на святую літасць на нарах...

— Дзе? Якую літасць? — спытаўся Санкоўскі.

— А вунь, вунь...

Камітэтчыкі прайшлі крыху і спыніліся як укапаныя перад нечаканым відовішчам. Захар Зубец адразу пачаў згінацца ў крук ад смеху. На нарах стаяў чалавек у доўгай палескай сярмязе цёмна-карычневага колеру, парыжэлай ад часу. На галаве ў яго было нешта накшталт не то вянка, не то цюрбана, зробленага са зрэбнага бруднага ручніка. Чалавек у пакоры схіліў галаву на правае плячо і падвёў вочы пад лоб. Правая рука ляжала на сэрцы, а левая... Глянуўшы на левую руку, камітэтчыкі не ўтрымаліся ад смеху. Левая рука ў чалавека была апушчана, і мазолістыя парэпаныя пальцы паказвалі некуды ўбок вялікую хвігу. Чалавек стаяў замёршы. На твары сажай былі намаляваны вусы, закручаныя ў кольцы. Ад вачэй да шчок цямнелі тонкія лініі. Гэта цяклі слёзы... Ну, вядома, усе пазналі ў чалавеку ўвасабленне літасці — дырэктара Пшэборскага. Направа ад чалавека, ля самай хвігі, стаяў на каленях нехта мурзаты ў шэрай салдацкай шапцы і, склаўшы далоні ў лешчаткі, глядзеў на іх з пакорай. Ну, вядома, гэта стаяў Глюга. Налева таксама стаяў чалавек на каленях у старой лесніковай шапцы з зялёным выцвілым аколышам. (Лепшай для інсцэніроўкі не было.) Спружына ў шапцы праела сукно, вылезла і была густа абкручана суравымі ніткамі. Замест кукарды цямнеў вялікі кружок, які сваімі абрысамі напамінаў, што некалі тут красаваўся над казырком двухгаловы царскі арол. Цераз плячо замест партупеі перацінаў грудзі звычайны раменны пояс. Гэтая постаць таксама склала далоні ў лешчаткі і глядзела з пакорай. Ну, вядома, гэта — пан афіцэр паліцыі.

Ажыўлены шэпт пракаціўся па бараку. Рабочыя, тоўпячыся, ішлі з самых далёкіх куткоў, лезлі адзін аднаму на плечы, каб паглядзець на панскую літасць. Не ставала месца, грамаздзіліся на нары, збіваючы адзін аднаго з ног. Недзе нешта з трэскам ламалася, правальвалася. Усе, застыўшы, глядзелі на панскую літасць і смяяліся. Так бы маглі глядзець бясконца, але «літасць» заварушылася і сказала:

— Хлопцы, то, можа, даволі... Я ўжо стаміўся стаяць...

— Пастой, Краўчук, яшчэ трошкі...

— Ну, пастой, брат, што табе ўжо так цяжка...

Гэты мастак Краўчук зноў набыў позу літасці, але хвігу падсунуў ужо Глюгу пад самы нос. Ад рогату, здавалася, аж захісталася электрычная лямпачка. Глюга не сцярпеў такой знявагі і выйшаў са строю. Устаўшы з каленяў, ён сарваў з галавы ў «літасці» «цярновы вянок». На гэтым прадстаўленне і скончылася.

Пад такі настрой камітэт адкрыў сход. З членаў камітэта гаварыў толькі адзін Санкоўскі. Рабочыя, якія выступалі з прамовамі, гаварылі ў тоне прыўзнятым, бадзёрым, што «мы пераможам, што пачатак зроблены. Пасля прыйдуць другія і ўспомняць пра нас у цяжкую хвіліну. Не прыме бярозаўская суполка,— пойдзем далей. Будзем ісці — край вялікі. І — знойдзем».

Назаўтра рабочыя ўсталі рана, яшчэ прыцемкам. На распаленай пліце гатаваўся чай у казанках. Усе спяшаліся сяк-так паснедаць. Паліцыянты, пакідаючы варту, зайшлі ў барак і яшчэ раз напомнілі — «ачысціць барак».

На абавязку Савы было дагледзець, каб усе былі гатовы, і ён цяпер ужо з клункам за плячамі пахаджваў ля нар і прыспяшаў зборы. Калі ўсе былі гатовы, узняў руку і крыкнуў:

— Ну... трымацца парадку ў дарозе, ісці ўсім разам... За мной...

Пачалі выходзіць з барака. Андрэй агледзеўся на свой куток і адчуў, што забірае адсюль з сабою часціну нейкага жыццёвага вопыту. У гэтым кутку ён атрымаў як бы першае жыццёвае хрышчэнне і штосьці сам даў другім. Выйшаўшы на двор, Андрэй, Санкоўскі, Зубец, як і ўсе, глянулі ў бок дырэкцыі. На платформе пры чыгунцы, тут жа, побач з дырэкцыяй, стаяў на падкладах таварны вагон. Там жыў машыніст «кукушкі». Адны паліцыянты нешта адтуль выносілі, а другія заносілі.

— Вось вам, сказаў Санкоўскі,— замест прафсаюза

будзе пастарунак, пся крэў... Ну, і то дасягненне, дзякуй богу...

З дырэкцыі пачалі выходзіць усе служачыя і нарэшце сам пан Пшэборскі ў суправаджэнні — на здзіўленне ўсім — паручыка жандармерыі.

— Як хутка разнеслася... Падняло ўсіх на ногі,— мармытаў Санкоўскі,— у страха вочы вялікія...

Паручык тым часам узброіўся біноклем. Рабочыя ішлі да вузкакалейкі, каб, перайшоўшы яе, выйсці на дарогу.

Лес дыхнуў у твар свежасцю, урачыстым спакоем соснаў. Недзе за лесам з туманнай імглы прабівалася сонца. Рабочыя выраўняліся, самкнуўшыся ў стройную калону. Нехта пранізліва залётна свіснуў. Нехта кінуў палку ў галіну сасны, каб паглядзець, як пасыплецца серабрысты іней. Нехта сказаў: «Заспявалі б, ці што». Апошняе прыйшло само сабою. Бліжэй да пярэдніх радоў даляцела высокае, тэнаровае:

Шел солдат с похода,
Зашел солдат в кабак,
Сел солдат на бочку,
Давай курить табак.

І тады ўсе падхапілі поўным голасам знаёмую, віртуозную, шпаркую, прынесеную з далёкіх салдацкіх дарог песню:

Трай-ляй-ляй,
Тра-ля-ля-ля...
Сел солдат на бочку,
Давай курить табак.

Твар Захара Зубца, які ішоў побач з Андрэем, імгненна прасвятлеў:

— Якраз патрапілі, што заспяваць. Гэта ж была наша любімая на Чэлябінскім фронце. Наш камандзір вельмі любіў яе. Бывала, скуль ні ідзём, зараз просіць: «Ну, хлопцы, «Трубачку».

Калона ішла, шэрая, з клункамі за плячыма, урывалася з салдацкай песняй у магутны ціхі бор, дзе прыдарожныя сосны праводзілі ўсіх нібы позіркам недаўмення, затаіўшы дыханне.

## Раздзел трэці

# ДНІ І НОЧЫ

Вясна была ўжо ва ўсёй поўні. Андрэю здавалася, што такой вясны яшчэ ні разу не было ў яго жыцці. Навокал столькі ласкавага сонца, празрыстага неба, ветру і адвечнага шуму бору. Якая ж сіла ў шуме баравым! Ці не народная быль векавая гаворыць аб сабе ў гэтым шуме — быль многатанальная і, аднак, адзіная? Яна калыша, супакойвае, навявае песню аб тым, што радасць і гора ходзяць па зямлі сваімі дарогамі і часам сустракаюцца. Тады бор шуміць трывожна, бурна, заракоча магутны з краю ў край. Многа з трэскам упадзе дрэў пад налётам віхру. А пасля ўсё роўна бор стаіць, магутны, бяскрайні, калыша, навявае песні аб сіле, і радасць квітнее навокал.

Андрэй прачнуўся пасля доўгага сну. Церпкі водар імху казытаў у носе. Так пахнуць грыбы. Навокал звешваліся на некранутую траву, квітнелі блакітныя званочкі, як дзіцячыя празрыстыя вочы, ласкавыя і наіўныя. Карункавыя лісці папараці, зялёныя, сакавітыя, слаліся над травою. Кусты арэшніку кідалі цень навокал сябе. А над галавой гонкія ў два абхваты сосны спляталіся кронамі пад небам. Удала выбраны ўзгорачак для адпачынку. Лясная гушчыня і мерны паважны шум, да якога трэба прыслухацца. Усё радуецца вясне, асабліва птушкі. Тут выразна чуцен іх залівісты шчэбет і трапятанне крыльцаў у кустах. Красою жыцця павеп лес у кожнай сцяблінцы, ва ўсім яго магутным подыху. Вясна!

Андрэй ляжыць на спіне, падклаўшы рукі пад галаву. Помніць, як у салодкай стоме пераварочваўся з боку на бок, схаваўшы галаву ў цень, а спіну аддаўшы цеплыні ласкавага сонца. Побач храпе Санкоўскі, зарыўшыся носам у падасланы скамечаны каптан. Адзін вус падагнуўся і тырчком прынік да шчакі. На твары, здаецца, разгладзіліся маршчыны. Твар Санкоўскага — твар спрацаванага рабочага, які набыў характэрны зямлісты колер, адбітак колеру барачных сцен, нар і драўлянага пылу. Толькі валасы яшчэ русыя, хоць ужо на скронях прабіваюцца адзінокія серабрыстыя ніцінкі. Гэта спіць чалавек, з якім у Андрэя ўзнікла сувязь незвычайная і пры гэтым такая натуральная, як натуральны сплёт вяршынь вось гэтых дзвюх сосенаў, якія ў сваім росце імкнуцца ўсё вышэй і вышэй да сонца. Але гэта не толькі сувязь на глебе сусед-

ства. Яна, галоўным чынам, узнікла на глебе народных праблем. Андрэй не ведаў нават, адкуль гэты Санкоўскі, з якога ваяводства Польшчы, і дзіўна — не было ніякай ахвоты і патрэбы пытацца пра гэта... Перад Андрэем паўставаў чалавек — плячысты, прысадзісты, адкрыта чалавечны, спрытны і наступальны. Здавалася, што ў яго не было ніякай радні. Але гэта не рабіла яго адзінокім. Ішоў гэты чалавек праз жыццё з клункам за плячыма, не маючы сталага аселішча. Ён прынёс са свайго польскага народа яго песні, гумар, тую народную мудрасць, якая так збліжае, родніць народы. Ці адукаваны Санкоўскі? Не. Ці начытаны? Не, вельмі мала. У чым жа яго сіла? Сіла яго ў вопыце. Усё вандроўнае, працоўнае жыццё Санкоўскага — гэта вопыт. Таму ў яго стаўленні да асвечаных, «пісьменных» людзей было нават крыху налёту падкрэсленай пашаны. У ім жыла вялікая прага да ведаў, але... праца, цяжкая, паднявольная, легла на плечы з ранніх дзён і закрыла шляхі да асветы. Яна паклала на твар Санкоўскага той няўлоўны след крыўды за сябе, за другіх. Тэарэтычным выхавальцам яго была найбольш газета, брашура і жывое слова рабочых. Але пры ўсім гэтым галоўнай зброяй Санкоўскага быў класавы інстынкт. Гэта быў важак маштабу калі не завода, то цэха на заводзе.

Андрэй яшчэ раз глянуў на твар Санкоўскага і нахмурыўся. Высмактанасць у твары — вось што... Высмактанасць... Нехта смокча кожны дзень, кожную хвіліну... Гэтую высмактанасць пачаў адчуваць на сабе і Андрэй...

....Ужо трэці месяц працуе Андрэй у гэтай самай «Бярозаўскай суполцы» разам з Санкоўскім на цыркулярцы. Апошні тыдзень працуюць у начную змену. А сягоння — нядзеля, дзень адпачынку, што і завяло іх у лес, каб тут на поўныя грудзі падыхаць вясною. Сава Супрун з Марцінам Шапко працуюць пры станку «на закрутках», а Захар Зубец з Іванам Падалякам — ля рухавіка. Захар працуе качагарам, а Іван — змазчыкам. «Бярозаўская суполка» ўсіх «забастоўшчыкаў» прыняла на працу — ёй спешна трэба было пракладаць вузкакалейку ў глыбіню лесу. І таму сябры некаторы час працавалі на пабудове вузкакалейкі. Кіраўнікі завода не пыталіся аб забастоўцы, дамагаліся толькі працы і не былі такімі скупымі на зарплату, як пан Пшэборскі. Тут адчуваўся іншы стыль — тут была канкурэнцыйная гарачка, і таму гаспадары, каб выйграць час, манеўравалі якімі-колечы надбаўкамі, здзельшчынай, заахвочваннем і нават пахвалой. Гаспада-

роў у суполцы было два — адзін кіраваў вытворчасцю на заводзе, а другі шукаў рынкаў збыту — увесь час ездзіў на краі і за граніцу. А вытворчасць суполкі — гэта было страшнае нішчэнне лесу. Месцы, дзе шумеў некрануты, магутны, адвечны бор, на вачах ператвараліся ў паляны. Покатам ляжалі гонкія сосны, ляжалі ўздоўж і накрыж, як пасля якой буры. Вузкакалейка паглыблялася ўсё далей і далей у таемныя лясныя сховы, а за ёй ішлі з піламі, сякерамі і са склютамі гаманлівыя раці сярмяжнікаў-лесарубаў нішчыць па загаду каланізатараў сваё ўласнае дабро. Не цярпела бунтарскае сэрца Захара Зубца. Гледзячы на пусташы, не раз скрыгатаў ён зубамі: «Эх... наша доля кладзецца, як снапы тыя... А я вось і хаты не маю... Калі яе буду мець?» Не цярпела гаспадарскае сэрца і Марціна Шапко. Ён хоць цешыў сябе тым, што пры працы, калі з Захарам спускалі сосны, любоўна, пагаспадарску, гладка, чыста абсякаў галіны, не пакідаў ніводнага сучка, гладзіў смалістыя ствалы рукою, біў у іх абухом сякеры, каб пачуць іх голас, і любаваўся гонкасцю, гладзінёй. «Гэта ж трэба вырасці такой... Вось зямля — сіла...»

А Захар Зубец часта пратэставаў:

— Ну, чаго ты там корпаешся? Прычапіўся да гэтых сукоў... Халера іх бяры... Няхай самі адгрызаюць...

А Марцін адказваў:

— Нялоўка, трэба ж такі да ладу давесці...

Сава Супрун, калі глядзеў на спустошаныя паляны, доўга маўчаў панура і, урэшце, кідаў:

— Не спіліце ўсяго... не... давайце, хлопцы, не спяшацца,— і пачынаў распальваць вогнішча.

Іван Падаляка, які працаваў з Савам, здавалася, менш адчуваў гэткую страту лесу, але і яму рабілася не па сабе. Пабліскваючы белізной зубоў, прыкладаў руку казырком над вачыма і доўга азіраў паляну. Работа з Савам у яго штосьці не ладзілася — розніца характараў і тут дала сябе адчуць. Калі працаваць дык працаваць — такі быў лозунг Савы. Ён, стаўшы на калені пры сасне, хутка расчышчаў месца навокал сваімі загрубелымі пальцамі, як граблямі. А Іван Падаляка ўсё ніяк не мог уладзіцца — то ў калена яму замуляе які сучок, то не на месцы нага, то не так узяўся за ручку пілы, то раптам шчака засвярбіць — і піла тут жа вылятала з рук.

Сава спачатку цярпліва зносіў гэтыя перашкоды, а пасля пачаў хмурыцца.

— Я табе, брат, раю яшчэ ў люстэрка заглянуць,— вырвалася ў яго напаўсур'ёзна, напаўжартам.

— Ну, ну, ты ўжо...— адказваў Падаляка.— Давай, давай...

У Андрэя з Санкоўскім праца ішла гладка, хоць таксама спачатку была нязграбнасць з боку Андрэя. Але Андрэй працаваў з майстрам лесу. Гэты майстар адной заўвагай, кінутай у адпаведны момант, выпраўляў недахопы. Піла была па-майстэрску навострана і зіхацела вастрыём зубоў.

— Лёгка, лёгка, Анджэю, і спакойна,— павучаў Санкоўскі.— Трэба, каб сілы хапіла на ўвесь дзень... Не налягаць на пілу... лёгкае чуццё ў руках... раўнамернасць у рухах...

І для дэманстрацыі адзін раз запрасіў рабочага са сваёй групы, таксама кваліфікаванага лесавіка, па прозвішчу Станіслаў Барвіна.

— Хадзі, Стась, зайграем...

І сапраўды зайгралі. У іх руках піла звінела, здаецца, не датыкалася зубамі да дрэва, а рэз імкліва паглыбляўся. Але ўжо праз тры дні Санкоўскі пераканаўся, што ў асобе Андрэя мае добрага вучня.

— Будуць з цябе людзі, будуць...— усміхаўся ён.— Давай адпачнём... Слаўным у капіталістаў усё роўна не будзеш...

Садзіліся на бервяне, выціраючы пот з ілба, і закурвалі.

— Гэтай вось сасне,— гаварыў Андрэй, паказваючы на даўжэзнае роўнае дрэва, якое легла ўпоперак на рад такіх жа дрэў,— гэтай сасне год дзевяноста, калі не больш, а мы з табою, Санкоўскі, за пяць хвілін яе чахнулі — і няма. Дзіўна... Вельмі дзіўна... Да чаго хуткая, дынамічная сіла знішчэння... За пяць хвілін можна знішчыць тое, што расло сто год... Дыспрапорцыя паміж ростам і знішчэннем жахлівая...

— Э, капіталісты аб гэтым не думаюць, мой дарагі,— адказаў Санкоўскі.— З другога боку, нам трэба цаніць сілу знішчэння. Яна нам, Андрэй, патрэбна, ой, як патрэбна...

— Як што знішчаць...— сказаў Андрэй.

— Ну, зразумела... Нам вядома, што трэба знішчаць... Нам трэба знішчаць нішчыцеляў...

— Вось палавіна Беларусі апынулася пад акупацыяй польскай буржуазіі. Хіба такое свавольнае, неразборлівае нішчэнне лесу не ёсць праява каланізацыі?

Сказаўшы так, Андрэй у напружанні чакаў адказу, недзе ў тайніках душы баючыся, каб сказанае ўсё ж такі не выклікала ў Санкоўскага нежаданай рэакцыі. Санкоўскі адказаў хутка, так, як быццам адказ быў у яго ўжо даўно гатовы:

— Аб гэтым не можа быць двух поглядаў... Каб я быў нацыяналістам — гэта значыць прыяцелем сваёй буржуазіі, я ў лепшым бы выпадку сказаў, што мне ад гэтага ніштчэння беларускага лесу ні горача ні холадна. Але я так сказаць не магу... Я знаю адно, што капітал перамагчы можна толькі агульнымі сіламі пралетарыяў і працоўнага сялянства...

— А нацыянальны рух? — спытаўся Андрэй.

— Нацыянальны рух прыгнечаных краін павінен быць нам памочнікам. Ужо каму-каму, а нам, палякам, трэба ведаць аб гэтым найлепш. Каланізавалі Польшчу ўсякія... са згоды нашых вялікіх паноў.

— Так... на буржуазію спадзявацца няма чаго...— працягнуў Андрэй.— Яна і тады, калі Польшча знаходзілася ў няволі, была расаднікам здрады... Важна, каб пралетарыят быў на вышыні...

— Тут, Андрэй, таксама можа быць часам усяк... ППС, пся крэў... Ох, Андрэй, да чаго я не люблю ППС... Яна разам з ксяндзамі крычыць цяпер на ўсіх дарогах аб пакутах Польшчы, а на практыцы гэта азначае нацкоўванне аднаго народа на другі. Так прадаваць інтарэсы пралетарыяту, як робіць ППС, гэта... гэта, Андрэй, лакейства і здрада, нават нічым не прыкрытая... Што ж атрымліваецца?

Санкоўскі змоўк і, скрывіўшыся ад сонца, глядзеў на паляну, на ўвесь агромністы павал, як быццам шукаючы там доказу сваім думкам.

— Яшчэ многа будзем мець ліха ад ППС...— нарэшце сказаў ён.

Андрэй прыпамінае, што ў гэты момант падышоў наглядчык Сяргей Селядцоў, белагвардзеец, капітан з арміі Дзянікіна, і падышоў так раптоўна, што Андрэй з Санкоўскім аж усхапіліся з месца. Разгледзеўшыся, што гэта Селядцоў, усміхнуліся і селі зноў. У Селядцова ў руках быў блакнот з алоўкам — ён запісваў днёўкі, бо час ужо быў пасляабедзенны. Хілілася к вечару. Аб Селядцове гаварылі, што ён сын палкоўніка, але хадзіла і другая версія, супроць якой Селядцоў пратэставаў. Аднаго разу, прысеўшы на куртачкі ля агню, грэў рукі над полымем і, адва-

рочваючы твар ад дыму, гаварыў прапітым гарлавым голасам:

— І які гэта чорт выдумаў, што я сын папа?..

У Селядцова вечна вісела кропля пад носам. Бледны, змяты твар, рэдка калі паголены, на плячах падраны, невыразнага колеру каптан, падпяразаны вяроўчынай,— усё сведчыла аб тым, што Селядцоў расчараваўся ў жыцці і часта ў задуме цынічна паўтараў пры хлопцах: «Мда... не течет река обратно — что прошло, того не будет». Толькі боты і заношаныя галіфэ зеленаватага колеру гаварылі аб яго мінулым. Селядцоў, здаецца, ненавідзеў усё на свеце. Служыў у польскіх прамыслоўцаў і таксама і іх ненавідзеў. Уступаў у гутарку толькі з рабочымі і тут даваў волю свайму цынізму. Селядцоў за суткі прапіваў свой дэкадны заробак і пасля выпрошваў махорку ў рабочых, а ежу браў з магазіна на рахунак заробку. За працай рабочых наогул не вельмі сачыў. А калі хацелася яму пагутарыць, «адвесці душу», прыходзіў да вогнішча, да групы Андрэя і гаварыў:

— Адпачніце. Паны паехалі ў горад, душа з іх вон... Я вам днёўкі і так запішу...— і пачынаў расказваць свае непрыстойныя анекдоты.

Ужо раставаў снег. Лужы навокал пнёў не давалі магчымасці валіць сосны, стоячы на каленях. Даводзілася стаяць на нагах па костачкі ў вадзе і гнуцца да карнявішча сасны.

Селядцоў, брохаючы па лужах і талым снезе, прыйшоў закурыць, плюючыся і кідаючы праклёны ўсяму свету.

— Гэта пекла... За грахі нейкія...— і, з задавальненнем зацягваючыся дымам з папяросы, звярнуўся да хлопцаў: — Можа, хочаце перайсці на працу да станка? Ёсць свабодныя вакансіі...— І пачаў пералічваць па пальцах: качагара, змазчыка, двух на закруткі пры станку і двух на цыркулярку. Хлопцы глядзелі на «арыстакратычны» нос Селядцова, на тую вісячую кроплю пад ім і не верылі сваім вушам.

— А дзе тыя, што працавалі дагэтуль? — запытаўся Андрэй.

— Качагар напіўся п'яны і пасварыўся спярша з машыністам, а пасля з дырэктарам. Качагара прагналі. Змазчыка наогул не было — усё рабіў качагар. На закруткі трэба спрытных хлопцаў, таксама і на цыркулярку. Ну, вось і ўсё... Жадаеце? Мне даручана падшукаць рабочых...

Такім чынам сябры апынуліся пры станку. Гэта дапа-

магло ім хутчэй, чым яны думалі, ажыццявіць свой «партызанскі план».

...Вялікія змены адбыліся ў жыцці сяброў. Гэта і не дзіва. На заводзе створаны дзве камуністычныя ячэйкі. Сакратаром адной ячэйкі стаў Андрэй, а другой — з польскіх рабочых — Санкоўскі. Андрэй прыпамінае, як слухаў Саву Супруна, калі той прапанаваў «залажыць» ячэйкі, і адразу здагадаўся аб прычынах яго начных знікненняў. Вестка аб чырвоных сцягах, вывешаных Савам, стала здабыткам усіх рабочых. Гэта ўзняло настрой ва ўсіх і пасеяла надзею на недаўгавечнасць панскай улады... Недзе цякуць, цурчаць ручаіны з далёкіх і блізкіх куткоў краю, цякуць у меншыя і большыя рэкі. А там далей — мора... І так пацяклі іншыя дні і ночы... Андрэй з Санкоўскім наведалі вёску Савы і гутарылі з Паддубным. Усё было авеяна таямнічасцю абстаноўкі — Сава патурбаваўся наконт вартавых, прыгожая маўклівая Ганна завесіла вокны і пайшла з хлопцам да суседзяў, замкнуўшы дзверы на вісячы замок. І ўмоўлена было, на выпадак небяспекі, што каму гаварыць... Усё гэта было дзіўным і захапляючым для Андрэя. Тут рабілася вялікая, святая справа — што рвалася з душы на волю ў словах, песнях, скаргах і жаданнях, тут ператваралася ў акт рашэння, ад якога трэба было пераходзіць ужо да дзейнасці. Ціхая ноч навісала над вёскай, і здавалася, што хата Ганны Каравáй была спецыяльна пад яе дазорам. Пільна прыглядаўся Андрэй да Паддубнага, як і Паддубны да Андрэя. Седзячы на лаве, Паддубны прыглядаўся спадылба, і затоеная ўсмешка свяцілася ў вачах. Андрэй спачатку больш маўчаў, устаўляючы час ад часу пару слоў, затое ў сваёй стыхіі адчуваў сябе Санкоўскі. Балагурыў, шпаркімі крокамі хадзіў па хаце, з павагай і адначасова з фамільярнасцю звяртаючыся да Паддубнага. Выпадковая гутарка была як сродак знаёмства.

— Ну, нашай сілы, як бачу, прыбывае...— сказаў Паддубны.— Прашу садзіцца, пагутарым.— Голас у Паддубнага быў памяркоўны, толькі раз-пораз клапатліва паглыблялася ад сціскання маршчынка над брывамі.— Наш абавязак настолькі вялікі і пачэсны, што мы самі нават не ўяўляем сабе гэтай велічыні... Працаваць для вызвалення народа — гэта...— Паддубны спыніўся і ўзняў кулак, шукаючы больш адпаведных слоў. Ён азірнуў усіх пранізлівым, гарачым позіркам: —...гэта ідзе ў глыбіню гісторыі...

гэта шлях герояў рускага рэвалюцыйнага руху, на чале якіх стаў Ленін...

Пад насупленымі бровамі вочы Паддубнага зрабіліся маленькімі, але яшчэ вастрэйшым бляскам пранізвалі прысутных.

Калі Паддубны апускаў кулак і зніжаў тон часам да шэпту, углядаючыся па чарзе ў твар Андрэя, Санкоўскага і Савы, тады ён рабіўся лагодным. Пачынаў гаварыць аб знаёмым праз усё жыццё — аб беспрасветнай беднасці і адсталасці...

... Недзе шумеў бор. Таямнічымі звівамі беглі дарожкі праз гушчары да вёсак, да сляпых, прыглушаных хат,— беглі да шляхоў у мястэчкі і гарады.

Але бор шуміць... і бягуць дарожкі праз гушчары, як ручаіны з крыніцы... Многа яшчэ раскажуць яны, гэтыя дарожкі...

Паддубны чыркнуў запалку, прыкурыў і задумлівым позіркам азірнуў усіх...

Слухачы застылі ў задуме, прыцішаныя, насцярожаныя. Думкі паплылі ў прасторы, на ўскраіну лесу, дзе, можа, стаяў, апёршыся на вінтоўку, паўстанец-партызан. А калі загаварыў пра польскі пралетарыят, пра яго гегемонію ў краіне, у Санкоўскага загарэліся вочы, і ён, не вытрымаўшы, перабіў Паддубнага, спатыкаючыся на першым слове.

— Я... Я заўсёды пайду ў першым шэрагу біцца за сацыялістычную рэвалюцыю... І тут, на нашай лесапільні, мы, польскія рабочыя,— я даю гарантыю...

— Вось зараз пагаворым пра вашу лесапільню,— перабіў Санкоўскага Паддубны.

І ён паставіў перад сябрамі канкрэтную задачу: узяць курс на стварэнне партызанскага атрада...

Паддубны кінуў гэтыя словы, як якую бомбу, і чакаў выбуху — глядзеў на ўсіх запытальным позіркам.

Кожны паставіўся да гэтага па-свойму. Андрэй устаў і перасеў на другую лаву. Сава стукнуў кулаком па стале. Санкоўскі ліхаманкава круціў цыгарку, уперыўшы ў яе вочы, і соп у нос. Андрэй папрасіў слова.

— Ну?..— кінуў Паддубны.

— Для мяне становішча яснае...

Паддубны ўсміхнуўся, захістаўшыся на месцы. А Сава сказаў коратка і проста: «Для мяне, хоць зараз...»

— Нічога...— перабіў Паддубны.— Толькі канспірацыя...

...Праводзячы сяброў, Паддубны сказаў, што гутарка аб далейшым будзе пасля. Важна ў першую чаргу даведацца, як адгукнуцца на гэта ўсе члены ячэек.

Набліжалася світанне — трэба было спяшацца на станцыю. Ішлі ў перадранкавай цішыні. Над балотамі мяккай нерухомай шэрапню рассцілаўся туман. Адчуваўся востры подых роснай вільгаці. Буйная раса вісела на травах і на дрэвах. Невідочнай імжой асядала па вопратцы сяброў. Твары асунуліся пасля ночы, праведзенай без сну. Ішлі моўчкі, баючыся парушыць цішыню, якая лашчылася ў хвалях туману. З-за недалёкага лесу веерам ужо шыбалі праменна-мутныя стрэлы — вешчуны сонца. Патухалі зоры ў спакойным небе. Недзе на палавіне дарогі пачуліся ў кустах галасы начлежнікаў. Галасы былі да таго яснымі і чыстымі, як гэты ранак, што выразна чулася кожнае слова. Фыркалі коні і бразгалі цуглі — начлежнікі збіраліся дахаты.

Цеплынёй дзяцінства і роднай страхі павеяла ў душу Андрэя, і на нейкі момант ён адчуў сябе маленькім, убачыў самога сябе жывым пастушком — босага, у старой сярмяжцы, наіўнага, які ішоў па пашы насустрач сонцу, скупанаму ў расе. Благаславёны настрой, непарушная, безмяцежная радасць!

А цяпер... наадварот, у душы мяцежнасць...

Санкоўскі ў лад сваім думкам з тужлівым уздыхам сказаў:

— Ох, як ладне на свеце, Анджэю... Спынімся, закурым, станцыя ўжо недалёка...

Сталі на драўляным старым мосціку. Невядомая рэчка-ручаіна пятляла між кустоў, абмываючы старыя карчастыя пні вольхаў. Некранутыя кветкі розных колераў глядзеліся ў празрыстую ваду, адбіваючыся, як у люстры. Кусты лазняку, пераплёўшыся з травой, здаецца, маладзелі.

— Заўтра ў перапынку між зменамі збяром пасяджэнне ячэек,— сказаў Андрэй,— справы сур'ёзныя... Як твае хлопцы, Санкоўскі?

— На ячэйку я спадзяюся, а што да рэшты... пабачым... Ёсць адсталыя... Але — пабачым... Боязна аднаго, каб хто збоку не ўварваўся ў нашу сям'ю і чаго не паблытаў. Нашым «святым патрыятызмам»,— іранізаваў Санкоўскі,— лёгка зблытаць мазгі... Асабліва яшчэ цяпер. Дух можа падняць толькі вестка аб неспакоі ў Лодзі, у Кракаве. На гэта я і буду напіраць.

Гутарку спыніла зязюля. Недзе над ручаінкай у гушчары вольхаў яна пачала сваю пераклічку з прамяністым ранкам, які шумам птаства засвергатаў на розныя лады. Сябры міжвольна ўсміхнуліся, пачуўшы зязюлю, як быццам яна сваім куваннем адкрывала ім нешта найпрыемнейшае, але забытае, што адышло ў далеч жыцця. Сябры спусціліся да ручаіны памыцца.

— Эх, вадзічка...— працягнуў Сава, выціраючы твар крысом курткі,— кветкамі пахне...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо будучы ў поездзе, калі праходзілі па калідоры вагона, шукаючы месца, у адной бакоўцы ўбачылі пана Чарапіцкага, які размаўляў з паліцыянтам. Чарапіцкі дыміў папяросай, сядзеў, закруціўшы ногі, насупраць паліцыянта і «хлястаў» языком, лісліва пазіраючы ў вочы субяседніку. Зірнуў на праходзячых Саву і Андрэя, і буркалывочы з жаўтаватым адценнем хутка-хутка забегалі ў арбітах, як у злоўленага злачынцы. Адвярнуў галаву, авалодаў сабою, і папяроса з аднаго кутка губ хвацка перакінулася ў другі.

Сябры, знайшоўшы месца, селі. У гэтай бакоўцы сядзеў толькі адзін пасажыр-селянін, апёршыся локцем на свой клунак, з якога выглядала сякера. Ля яго ног, пад лаўкай, сябры заўважылі пілу. Нічога падазронага — едзе дзядзька, як звычайна, у лес на працу.

— Штосьці не падабаецца мне гэтая сустрэча,— ціха сказаў Санкоўскі, ківаючы галавой у суседнюю бакоўку.

— А што ён для нас? — адказаў Андрэй.— З намі ён не жыве, на нашым заводзе не працуе...— і Андрэй паціснуў плячыма.

— Так-то яно так...— працягнуў Санкоўскі.— Але гэта ж... ты павінен зразумець, гэта ж дрэнь...

— А душа з яго вон,— прамовіў, прыгнуўшыся да сяброў, Сава.— Мы яго, калі што...— і Сава высунуў наперад сціснуты кулак.

Поезд імчаўся насустрач сонцу ўсё лесам і лесам. Да сваёй станцыі сябрам трэба было ехаць толькі два перагоны. Недзе на палавіне дарогі на парозе бакоўкі з'явіўся Чарапіцкі.

Сябры яго заўважылі, але зрабілі выгляд, што не бачаць. Чарапіцкі, пачакаўшы крыху, крыкнуў:

— Дзень добры! Можна да вас?

— Мы ж усіх месц не закупілі...— адказаў Санкоўскі і нахмурыўся, думаючы: «Які яго чорт сюды прэ...»

Чарапіцкі сеў побач з Савам — насупраць Санкоўскага і Андрэя. Было прыкметна, што ён хвалюецца, і, каб супакоіцца, з шыкам адвярнуў крысо курткі і выняў з кішэні штаноў партсігар.

— Прашу,— прапанаваў Саву. Сава адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што толькі што курылі. Андрэй адказаў — «дзякую», а Санкоўскі, стрымліваючы гнеў, прамовіў нават з лёгкім паклонам: «дзякую наймоцней»... Чарапіцкі закурыў адзін.

— Хутка буду вашым суседам,— замянціў языком Чарапіцкі.— Пасварыўся з панам Пшэборскім... Ото халера, а не чалавек...

— За што ж пан пасварыўся? — спытаўся Сава.

— Гм... Як бы вам гэта сказаць. Абвінавачвае мяне, што я падбухторваю людзей да бунту...— і, пачакаўшы, дадаў: — А... выйшла там адна справа...— І Чарапіцкі махнуў рукою, намякаючы, што аб гэтым не варта нават гаварыць.— Перайду да вас,— працягваў Чарапіцкі,— няхай цешыцца апантаны бык...

— Што, можа, служанкі не падзялілі? — сыкнуў Санкоўскі.

Чарапіцкі ў адказ кінуў на Санкоўскага злосны позірк і, як нічога не было, нават з грымасай абыякавасці, адказаў:

— Мне яго служанка, як... як для свінні цыліндр...

Сябры ў адказ зарагаталі.

— Параўнанне трапнае, няма чаго гаварыць,— сказаў Санкоўскі.

— Перайду да вас, будзем працаваць і жыць у згодзе... Я чуў, што ў Кракаве і Лодзі штосьці неспакойна... Невядома, як Варшава... На Палессі і на Украіне хлопскія бунты...

Сябры непрыкметна пераглянуліся.

Запала маўчанне. Чарапіцкі, закруціўшы ногі, чамусьці ўперыў вочы ў насок свайго бота.

Загуў паравоз, і поезд, прамінуўшы дырэктарскі будынак пана Пшэборскага, з шыпеннем спыніўся.

Пры развітанні Чарапіцкі галантна раскланяўся і знік між ярусаў бярвенняў на платформе.

Думка аб стварэнні атрада была прынята ячэйкай Андрэя з вялікім уздымам. Было вырашана ісці «ў масы», праверыць у гутарцы кожнага з рабочых, але гаварыць

асцярожна, умела, не раскрываючы сваіх намераў. Найбольш, здаецца, прымаў да сэрца гэтую вестку Захар Зубец. Яго твар прамянеў, на вуснах блукала радасная ўсмешка.

— Успышкі там... успышкі тут! — гаварыў ён.— О, вось гэта работа!.. Такі ж наша дарма не прападае... Закасвай, хлопцы, рукавы... Хе-хе-хе...— і смяяўся ўдешным грудным смехам.

Падаляка час ад часу прыгладжваў рукою свае чорныя валасы і пакашліваў у нос.

— Гэта... гм... справы... Чым хутчэй, тым лепш...

Марцін Шапко выглядаў задуменна ціхім. Ён нешта ўзважваў сам сабе, думаючы, каб не атрымалася з гэтага толькі пшыку, як са снапа саломы... Трэба ж будзе біцца з ворагам — гэта ж не жарты. Галоўнае, што так усё адразу...

Але ж гэта ўсё за той новы лад, які ў Расіі і аб якім ён так любіў гаварыць. Хіба ж беларусам можна жыць без Расіі? Не, ніяк не ўкладаецца ў галаву.

— Не спяць людзі, робяць жа для нас,— сказаў Шапко,— што ж мы будзем стаяць убаку, склаўшы рукі? Не, гэта грэх...

А Захар Зубец у адказ:

— Ну, калі ўжо наш апостал загаварыў, значыць, усё... Падымайся, хлопцы... Пройдзем па лясах і вёсках, мы такое дакажам...— і Захар замахаў кулаком.

— Ты, Захар, не смейся з апостала... Ён яшчэ сваё дакажа...— падтрымаў Марціна Андрэй і падзяліў людзей паміж сябрамі для ахопу, як ён сказаў, агітацыяй.

Праз чатыры дні ад Паддубнага прыехаў пасланец да Савы. Паддубны выклікаў да сябе Андрэя...

Андрэй з Савам прыехалі ў вёску Навасады яшчэ зацемна. Не ішлі, а ляцелі са станцыі, як кажуць, «на ўсіх нагах». У хату Ганны Каравай не пайшлі, а павярнулі на падворак Савы. Маленькая хатка з замшэлай страхою. Адно акенца пазірала на вуліцу з-пад насупленага прычолка. Куст расцвіўшай каліны прытуліўся да шэрай сцяны і пахам напаўняў сабою ўвесь падворак і вуліцу. Уся вёска патанула ў сне пад павіслымі вербамі і бярозамі. Андрэй з Савам пастаялі моўчкі, як зачараваныя гэтай цішынёю.

— Знаеш, Андрэй,— сказаў Сава,— усе спяць. Усё роўна цяпер ніякіх гутарак не можа быць. Пойдзем у гумно і храпанём гадзіну, другую.

Так і зрабілі. Пакрыўленае гуменца свяціла прарэхамі ў страсе, праз якія відаць было, як дрыжалі зоры на сінім пагодным небе. Сябры зарыліся ў леташняе сена і заснулі. Невядома, як доўга яны спалі б, каб не свіння, якая, па свайму звычаю, рохкала ля гумна, чухалася аб вугал, а потым зарыпела варотамі. Першым прачнуўся Сава і зараз жа штурхнуў у бок Андрэя. Ластаўкі шыбалі пад падстрэшшам з бесклапотным шчабятаннем, праз шчыліны сцен палосамі ляглі вясёлыя сонечныя праменні. На таку рохкала свіння.

— Мы, мусіць, доўга спалі,— занепакоіўся Андрэй.

— Не турбуйся, усё ў парадку,— сказаў Сава.— Толькі ўзыходзіць сонца,— і, глянуўшы ў шчыліны сцяны, дадаў: — Дымы, брат, валяць з каміноў... яшчэ рана.

Снедалі ў Савы. Старэнькая згораная маці пякла жытнія аладкі з прымешкай сушанай лебяды. Бедавала, звяртаючыся да Андрэя:

— Хлеба яшчэ не нарабілі... Усё збіралі на коніка... Што ж, адзін працуе,— кіўнула па Саву,— бацька ўжо хваравіты, нядужы... Зімою, што зарабіў Сава, то было трохі, пяклі часам і хлеб, а цяпер вясна.... няма... Пакуль дачакаем новага, на зеллі прыйдзецца жыць... Ох, ох...

— А дзе бацька? — спытаўся Сава.

— Пайшоў лазу драць на лапці... Паабтопталіся ўсе. Вось і табе трэба было б ботаў не насіць — хай надаўжэй былі б...

— Даволі, мама,— сказаў Сава,— усёй бяды не перакажаш... Абуем і лапці — нам не прывыкаць...

Андрэй, слухаючы матку Савы, успомніў пра сваю сям'ю. Як яны там жывуць? Два разы пасылаў ён крыху ад свайго заробку праз Пецю Ціханчука. А цяпер іншыя справы адвярнулі ўвагу ад дому, ад сям'і, што, здавалася, інакай і не павінна быць. Наспяваюць вялікія справы — і ўсё для таго, каб у гэтыя цёмныя хаты заглянула надзея на збаўленне ад усякай бяды.

— Дзякую, цётка,— сказаў Андрэй, устаючы з-за стала,— мы гэтую ўсю бяду, цётка, вось так — у крук сагнём... Мы яе задушым... Народ цяпер ужо не такі, як бывала... Ведае, што яму трэба...

— Каб то ж яно так сталася... Ды бяда, што... народ яшчэ ў голадзе...— і нагнулася да печы старая.

Калі ішлі да Паддубнага, у Андрэя не выходзілі з галавы апошнія словы маці Савы — «народ яшчэ ў голадзе».

Недзе ў падсвядомасці гэтыя словы выказвалі пачуццё нейкай небяспекі. Нашто такія думкі?

Паддубны сустрэў Андрэя вясёлым позіркам, доўга трос руку і ўглядаўся ў твар. Потым адвёў Саву ўбок, нешта яму сказаў, пасля чаго Сава выйшаў.

— Ну, ты, напэўна, дзівішся, што я цябе так хутка выклікаў? — звярнуўся Паддубны да Андрэя.— Так... справы не чакаюць. Трэба нам пагаварыць аб важных рэчах...

Андрэй, унутрана зацікаўлены, асцярожна глянуў на Паддубнага. «Што за важныя рэчы?»

Паддубны сеў насупраць Андрэя, выняў з кішэні партабак, паклаў на стол.

— Закурым для храбрасці...

Закурылі. Паддубны, здаецца, не спяшаўся. Зацягнуўся дымам пару раз, адкашляўся.

— Справы такія,— распачаў ён,— нам трэба пагаварыць аб наяўных сілах рэвалюцыі — тут, на нашым групе... Інакш кажучы, нам трэба ведаць, хто наш прыяцель, а хто наш вораг.

— Ну, вядома,— сказаў Андрэй, адчуваючы, што гутарка будзе сапраўды важная.

— Мне хацелася б пачуць, якія твае думкі па гэтаму пытанню, малады чалавек? — спытаўся Паддубны, і вочы яго сталі жартаўліва-вясёлымі. Нават табурэтку падсунуў бліжэй да стала.

Андрэй маўчаў. Сядзеў за сталом, апёршыся шчакою на далонь, адчуваў сябе, як школьнік, не ведаючы, што адказаць на пытанне такога настаўніка.

— Доўга думаеш, хлопча... Так і ўсе падзеі пройдуць міма цябе, а ты ўсё будзеш думаць.

Андрэй нахмурыўся.

Але, глянуўшы на гэтага злёгку ссутуленага чалавека, адчуў сур'ёзнасць гутаркі.

— Што ж...— прамовіў ён урэшце.— Сіл для рэвалюцыі ў нас нямала... На заводах... А заводаў у нас многа...

— Мгм... та-ак... Заводаў многа — гэта праўда,— сказаў Паддубны.— А ворагаў, па-твойму, многа ў нас?

— Вось... паны...

— Чуў я, што ты ў палітэканоміі сёе-тое разумееш, а вось што дома робіцца, у цябе штосьці не...

Андрэй зноў нахмурыўся: «Відаць, Сава нагаварыў...»

— Нельга сказаць, што я нічога не разумею...

— Правільна... Ты разумееш. Ты павінен разумець. Але вось не заўважаеш, што трэба заўважаць. Гаворыш,

што людзі, якія працуюць на заводзе, хоць бы на вашым, усе пойдуць за рэвалюцыю? А як з тымі, хто не працуе на заводзе, а працуе на зямлі, жыве ў вёсцы?

— Яны таксама пойдуць...

— Пойдуць? Гм... Усе пойдуць?

— Не. Толькі бедныя.

— А па-мойму, усе,— катэгарычна, як здалося Андрэю, сказаў Паддубны.

— Як — усе?

— Ды так...

— Што? І кулакі пойдуць? — нават крыху павысіў голас Андрэй.

Паддубны паклаў локці на стол.

— Могуць пайсці і кулакі, але толькі дзеля адной мэты — мэты, безумоўна, контррэвалюцыйнай. Будуць імкнуцца пралезці ў камандзіры і, зразумела, як толькі ўдасца, шкодзіць. Грамадзянская вайна ў Расіі дала нямала такіх прыкладаў. Вось табе хоць бы адзін... Помню, мы на Чэлябінскім фронце ўночы вызвалілі адно сяло ад калчакоўцаў. Камандзір адной роты, як толькі ўвайшоў у хату, дзе павінен быў начаваць, перш-наперш расстраляў з нагана ўсе іконы на покуце...

— Неабдумана зрабіў камандзір...

— Наадварот, абдумана. Гэта была хітрая правакацыя. Такімі мерамі можна было адштурхнуць народ ад рэвалюцыі, ад бальшавікоў... Камандзіра ў тую ж ноч расстралялі. Як выявілася, ён быў сынам буйнога кулака.

— Та-ак... Цікава,— сказаў Андрэй,— я таксама сёетое чуў аб такіх справах.

— Вось — чуў, а маўчыш, як вады ў рот набраўшы. Думаць трэба, аналізаваць...— Паддубны ўстаў, чыркнуў запалкай і прыкурыў пагаслую цыгарку.

Андрэй ужо сур'ёзна хацеў пакрыўдзіцца. Але Паддубны быццам сачыў за ходам яго думак — падышоў і, усміхаючыся, па-сяброўску паляпаў яго па плячы.

— Нічога... Усё адолеем. Не багі гаршкі лепяць.

— Усё ж такі я не разумею...— пачаў Андрэй.

— Усё зразумееш...— перабіў яго Паддубны.— Паласа барацьбы цяпер вельмі адказная, і яна багата, як ні цяжка гаварыць пра гэта, правакацыямі. Ты гаворыш пра лесапільню? Сялянства... Вось куды трэба ісці.

— Камуністычная партыя папулярна ў народзе, так што цяжкасцей можа...

— Ты хочаш сказаць, калі партыя папулярна, то ўсё

пойдзе само сабою, як кажуць, на маслу. Зусім не так, хлопча... Пад ляжачы камень...

— Вядома...— ледзь не ў роспачы сказаў Андрэй і падумаў: «І я таксама мог бы сказаць. Ну, што тут такога?»

І тут Паддубны падышоў як быццам да галоўнага. Пачаў гаварыць пра эсэраў, пра тое, што яму, як селяніну, свярбела на душы.

— А што робіць ксяндзоўская партыя — Беларуская хрысціянская дэмакратыя, ці БХД, як яе называюць?!

Потым успомніў пра БРА — Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю — прадаўжальніцу Беларускай рэвалюцыйнай грамады. Яны не спяць, яны спекулююць на нацыянальным пачуцці...

Андрэй слухаў, а Паддубны гаварыў далей аб правакацыях, аб тым, што ў Баранавіцкай акрузе арыштавана пяцьсот чалавек. Пытаўся:

— Што гэта такое?

І сам адказваў:

— Хочуць справакаваць заўчаснае паўстанне. Арганізатары правакацый — эсэры. Нават гавораць, што адзін дэпутат сейма замешаны ў гэтай кампаніі. Вось табе і відочна іх барацьба за сваю кулацкую гегемонію ў вёсцы.

Паддубны змоўк, задуменна схіліўшы галаву. Маўчаў і Андрэй. У сэрца закралася пачуццё трывогі. «Як усё гэта складана! Колькі можа быць усякіх пераплётаў...»

Паддубны, зацягваючыся дымам з папяросы, употай сачыў за Андрэем і пасля сказаў:

— Так... так, брат...

За акном трапятала ў праменнях сонца маладая вішня. Андрэй утаропіў вочы ў яе зялёныя цені і там нібы пачуў тое самае: «Так, так... не іначай...»

— Вядома,— глуха азваўся ён,— у адкрытай барацьбе лягчэй... ясней...

— Га!.. мінулі тыя часы... Цяпер змагар той, хто ў мазгах другога чытаць умее, хто ўмее адрозніць праўду ад фальшу, якімі б словамі гэты фальш ні маскіраваўся.

— Псіхалогію я вывучаў,— адказаў, усміхнуўшыся, Андрэй,— але бачу, што тут псіхалогія іншая.

— Вывучаць трэба ўсё... але аснова ўсяму — на які лад усё разумець... Тут патрэбны крытэрый... які?

— Крытэрый марксісцкі...— падхапіў Андрэй.

— Так... Авалодаць марксізмам — гэта не толькі здабыць перакананне, светапогляд, але і адчуванне, чуццё, калі хочаш...

— Я гэтых дыверсантаў... калі б мне давялося іх выкрыць, я іх...— Андрэй сціснуў кулак,— я іх... Гэта ж так несумленна, подла... гэта ж... я не знаходжу слоў...

— А ты як думаў? Яшчэ не раз давядзецца сціскаць кулакі. Нічога. Канчатковае слова за намі.

— Вось іменна,— узрадавана падхапіў Андрэй,— за намі права гісторыі... Мы выйшлі з нізоў, падняліся да інтэлектуальных вышынь, мы — творцы гісторыі...

Паддубны нічога не адказаў на гэтую «творчасць» гісторыі. Злёгку нахмурыўшыся, сказаў:

— У атрад ты не пойдзеш...

— Чаму? — аж зжахнуўся Андрэй.

— А таму, што трэба будаваць партыю ў народзе, інакшай ворагі перахопяць ініцыятыву. Мову беларускую ведаеш выдатна?

— Ведаю. Нарадзіўся ж з гэтай мовай...

— Умець гаварыць — гэта яшчэ не ўсё... Трэба ўмець чытаць, пісаць...

— Думаю, што і гэта патраплю.

— Польскую мову таксама трэба ведаць...

Паддубны прайшоўся па хаце раз і другі. За печкай нехта захроп, уздыхнуў, і зноў стала ціха. Андрэй насцярожыўся, глянуўшы скоса на печ,— можа, хто са знаёмых Ганны? Цэлая хваля думак, пачуццяў хлынула ў душу. Думаючы, не мог пагадзіцца з тым, што ён не будзе непасрэдна ўдзельнічаць ва ўзброенай барацьбе. Не вытрымаў, сказаў:

— Я ўсё-такі настойваю на сваім удзеле ва ўзброенай барацьбе... Як жа так? Будзе адбывацца самае галоўнае, а я... як быццам не варты нічога...

Паддубны спыніўся і зверху ўніз паглядзеў на Андрэя з усмешкай.

— Што, Сашка Жогулеў сніцца? Пялёнкі гімназіста? Не... гэтага нам не трэба. Нам трэба, каб партызаны і народ былі адно цэлае... Хто будзе арганізоўваць народ на ўсямерную падтрымку партызан? Рамантыка Сашкі Жогулева — гэта забава анархіста... Гэта — поза... У лепшым выпадку — гэта мяшчанская сляпявасць... Словам, гэта — нічога рэальнага...

Андрэй у адказ толькі прастагнаў.

А Паддубны дадаў, каб зайграць на амбіцыі Андрэя:

— А яшчэ марксіст...— і, каб не выклікаць крыўды з боку Андрэя, паляпаў яго па плячы.— Нічога, усё будзе

добра. Працуючы сярод сялян, ты будзеш большай сілай, чым у атрадзе.

— Хоць цяжка мне сказаць, але скажу — амінь.

І Андрэй звесіў галаву над сталом. Пачаў думаць у нейкім іншым напрамку. Тут зжыўся і раптам — на табе...

І прад вачыма сталі пралягаць шляхі да вёсак, да ўсякіх нечаканых новых абставін, да новых людзей... Да вушэй даляцела недзе з глыбінь мінулага знаёмая песенька Дзям'яна Беднага:

> ...Приюти меня,
> Приголубь, родная Русь...

А Паддубны ўсё клапаціўся:

— Азнаёмішся — палюбіш... Чытаў Леніна «Што рабіць?»?

— Не...

— Прачытаеш — зразумееш... Зразумееш, што такое прафесіянальны рэвалюцыянер.

Андрэй зноў пачуў уздых за печкай, але не звяртаў увагі. Толькі хацеў узняць галаву і сказаць нешта Паддубнаму, як адчуў, што нехта ззаду крануў яго за плечы. Андрэй аж падскочыў ад гэтага дотыку. Азірнуўся і ўбачыў над сабою вясёлы вусаты твар. Пасівелыя валасы, асабліва на скронях, былі раскудлачаны пасля сну, і такія ж пасівелыя вусы нязграбна звісалі аж на ніжнюю губу. Мужчына меў год сорак. Загартаваны сонцам і вятрамі твар выглядаў жорсткім. Шэрыя вочы з-пад русых броваў смяяліся жартаўліва. Каўнер салдацкай гімнасцёркі быў расшпілены і агаляў кароткую жылістую шыю.

— Што ты, Іван, наваліўся на гэтага хлопца? — звярнуўся незнаёмы да Паддубнага, не выпускаючы Андрэя з рук.— Ты ж яго, небараку, укапец сатрэш... га?

— Ён вытрымае... вытрымае...— усміхнуўся Паддубны.

— Ну, давай, брат, пазнаёмімся,— і незнаёмы падаў Андрэю вялікую жорсткую руку, не сказаўшы свайго ні імя, ні прозвішча.

— Ты ж яго прымушаеш адступаць,— гаварыў незнаёмы не то сур'ёзна, не то жартам.— Адступаць, брат, цяжка... Калі нам здаралася адступаць на калчакоўскім фронце,— ой... сэрца балела, і ногі не хацелі ісці...— Незнаёмы доўгім позіркам спыніўся на Андрэю, узяўся ў бокі.— Ганарыся, брат, што маеш такіх хлопцаў... Можа, аддасі яго мне?

— Ты такі прагны, што ўсё забраў бы сабе. Хопіць табе і без яго...

Андрэй слухаў гэтую гутарку і намагаўся зразумець. Падабалася яму ў гэтым назнаёмым тое, што можна было б назваць «народнай хітрынкай». Жартуе, жартуе, а ўсё сабе наўме... Дзядзька бывалы. Але хто гэта? — пацумаў Андрэй і тут жа адкінуў гэтае пытанне, як недарэчнае.

— Ну, пакуль ёсць час, пяройдзем да канкрэтнай справы,— сказаў Паддубны.

— Пачакай, я вады нап'юся,— сказаў незнаёмы і накіраваўся да вядра,— хачу тваю абедню чуць спачатку.

Ваду піў доўга, вялікімі глыткамі з бляшанага кубка. Напіўшыся, крэкнуў і размашыста выцер вусы рукавом, а потым разгладзіў іх далоняй. Падышоў да стала і, прыгнуўшыся, глянуў у вокны — на падворак і на вуліцу — і тады сказаў: — Ну, пачынай...

Паддубны крыху памаўчаў, а потым пачаў ціха і павольна:

— Задача такая... Па-першае, зрабіць масоўку недалёка ад завода ў лесе... І гэта трэба абавязкова... Па-другое, узарваць завод... І гэта трэба абавязкова...

Паддубны заціх. Незнаёмы зычліва глядзеў на Андрэя, пасля стукнуў кулаком па стале.

— Калашмаціць будзем гэтых паноў, аж вантробы пасыплюцца...— І, пачакаўшы хвіліну, спытаўся: — Ну, як, сынок?

— Што за пытанне? — адказаў Андрэй.— Справа толькі ў тым, каб гэта правесці як найлепш.

— Вось аб гэтым і пагаворым,— сказаў Паддубны.

Увайшоў Сава. Паддубны прыўзняў галаву і толькі спытаўся:

— Ну, як?

— Усё ў парадку.

— Сядай і слухай,— паказаў ён рукой на лаву.

План масоўкі быў распрацаваны дакладна. Быў вызначаны дзень, час і месца. Месца для масоўкі параіў Сава.

— Хто з вас возьмецца ўзарваць завод? — спытаў Паддубны.— Патрэбен чалавек, які ведае ваенную справу, а таксама абстаноўку на заводзе — дакладней, у машынным аддзяленні.

Андрэй з Савам пераглянуліся.

— Хто ж,— сказаў Андрэй,— толькі Падаляка.

— Так, Падаляка,— адказаў Сава.

— Ёсць такі чалавек у нас, працуе змазчыкам пры рухавіку.

— Не здрэйфіць ён?

— Думаем, што не...— адказалі разам Андрэй і Сава.

— У якую змену ён працуе?

— У дзённую.

— Тады, Сава, прыедзеш з ім сюды пасля масоўкі,— сказаў Паддубны,— ён будзе мець гутарку вось з гэтым дзядзькам,— і Паддубны ляпнуў па плячы незнаёмага.

— Ты мне яго пакажаш, Сава, здалёк. Я хачу на яго збоку падзівіцца,— сказаў незнаёмы.

На пытанне Андрэя аб польскіх рабочых Паддубны сказаў:

— Няхай далучаюцца да атрада. Пасля мы іх накіруем за Буг... Жаданне іх, бадай, трэба прызнаць слушным. Паколькі польскі пралетарыят дае аб сабе знаць, іх паход за Буг толькі ўзмоцніць барацьбу.

— Дзе ж тая Ганна? — спытаўся незнаёмы.

— Калі трэба, я пайду пашукаю,— сказаў Сава.

— Ідзі, брат, пашукай...

Сава выйшаў. За ім выйшаў і незнаёмы.

Паддубны тут жа звярнуўся да Андрэя:

— Пасля масоўкі ты пойдзеш у сваю хату, у мястэчка Глушэц. Наперад табе скажу, куды і да каго. Гэта на ўсякі выпадак. Бо могуць быць нечаканасці... Пойдзеш у вёску Забалоцце, знойдзеш там Апанаса Хмеля. Гэта член акруткома. Пароль будзе такі: «Прывітанне ад Старога з Баранавіч». Адказ павінен быць: «Дзякую, сядайце». Ён цябе ўвядзе ў курс спраў. У мястэчку Глушэц яшчэ няма ячэйкі — трэба стварыць яе, падабраць людзей...

— У Глушцы я маю людзей — харошых...

— Я гэта кажу таму, што на заводзе доўга працаваць не прыйдзецца. Сувязь з атрадам ва ўсякім выпадку будзеце мець цераз Саву...

Вярнуўся незнаёмы. Паддубны пачаў дакараць яго:

— Ты, брат, доўга ходзіш па двары... Асцярожна. Жартаваць нельга...

— Пасядзеў трохі пад павеццю, на вішанькі паглядзеў... А то ўсё — то за печчу, то ў гумне... От, жыццё настала... Уцяку я ад цябе. Хай мне лепш сосны шумяць над галавою...

Увайшлі Сава з Ганнай.

— Прабачце, я забавілася на агародзе... Людзі ўсе даўно паабедалі...

І пачала ўвіхацца ля печы.

Незнаёмы не ведаў, куды сябе дзець. Грузны, прысадзісты, асцярожна ўзнімаў ногі ў вялікіх ботах з доўгімі халявамі, асеўшымі ў гармонік,— баяўся, каб аб што-небудзь не зачапіцца нагою. З гаршка, які паставіла Ганна на лаву, запахла заскварапым шчаўевым баршчом. Незнаёмы і туды заглянуў.

— А... нос зрывае...— І раптам: — Давай пажэнімся, Ганна!.. А то сокі высахнуць,— забалагурыў ён і не стрымаўся, каб не ўшчыпнуць Ганну за руку...

— Жартаўнік, дзядзька,— усміхнулася Ганна,— гаспадарка ў мяне малая, не захочаце...

— Затое ў мяне вялікая... Ой, вялікая... ад краю да краю... Слухай, Сава, карнікаў не бачыў?

— Ды не... Можа, яшчэ прыйдуць.

— А то яны мне ўсё сняцца. Вельмі хочацца з імі пазнаёміцца...— і ён выйшаў у сенцы. Вярнуўся тут жа з бутэлькай самагону ў руцэ.

Паддубны запратэставаў:

— Не трэба. Не рабі глупства.

— Чаму? — спыніўся сярод хаты незнаёмы.

— Проста таму, што не час для гэтага...

— Па маленькай. Ну, што там... Хлопцы весялейшымі пойдуць на станцыю,— упёрся ён і грукнуў бутэлькай па стале. Ганна прынесла з агароду зялёнай цыбулі і паставіла на стол чарку. Паддубны безнадзейна махнуў рукою і адвярнуўся да акна. Трымаючы чарку ў левай, а бутэльку ў правай руцэ, незнаёмы азірнуў усіх вясёлым позіркам і з яго вуснаў вырвалася: «Эх!..» І раптам паціху ён заспяваў, махаючы ў такт бутэлькай і чаркай:

Смело, товарищи, в ногу!..

— Эх, было, было... Ну, хлопчыкі, вып'ем за тое, каб і далей было.

Пасля абеду Паддубны сказаў Саву: «Пара вам у дарогу... Прынясі...»

Сава скокнуў у сені і прынёс пачак літаратуры. Там былі адозвы, брашуры, беларускія газеты і кнігі. Сава схаваў літаратуру пад сарочку, і сябры, развітаўшыся, рушылі ў дарогу.

Пачынала ўжо цямнець, калі выйшлі за вёску. Тут Андрэй спытаўся: «Хто гэты незнаёмы дзядзька?»

— Не знаю, брат... Далібог, не знаю. Пытаўся я ў Паддубнага — не сказаў. Сказаў толькі — даведаешся пасля. Я гэтага дзядзьку бачу другі раз.

* * *

Ціхая, цёплая ноч павісла над лесам, над будынкам завода. Дым з высокага чорнага коміна плыў роўна і знікаў пад зорным небам. На пляцы сілуэтамі маячаць ярусы — вышэйшыя і ніжэйшыя. У мяккай цемры там-сям варушацца людзі, як невыразныя цені. Прыцішаны грукат бярвенняў далятае здалёку і зблізку. Калі здалёку глядзець на завод, адкуль праз шырокія проймы варот сочацца на двор, у цемру, снапы электрычнага святла, то здаецца, што гэта не завод, а адмысловы палац, у якім адбываецца нейкая ўрачыстасць. Чахканне станка спалоханым рэхам растае ў навакольным лесе. Рэзка ўрываецца ў ноч звон пілы-цыркуляркі.

Першая палавіна ночы. Санкоўскі з Андрэем на сваім месцы пры цыркулярцы абразаюць дошкі. Дошка за дошкай кладзецца на стол і плыве пад бліскучыя зубы круглай пілы, якая коціцца насустрач. Санкоўскі — наперадзе, а Андрэй ззаду — усё ідуць і ідуць, плывуць з дошкай, упіраючыся рукамі і нагамі. Направа ад іх станкавы, апёршыся на рычаг, задуменна глядзіць на мітуслівыя пілы станка, праз якія плыве бервяно. З машыннага цэха выйшаў механік Слабодка — невялікі, таўставаты, у замасленай кепцы з доўгім казырком. Трымаючы ў апушчанай руцэ французскі ключ, ён застыў перад станком — сочыць за рухам піл. За цыркулярным столікам сярод кучы абрэзкаў стаіць Пеця Ціханчук і змагаецца з вялікай, як кола, круглай пілой — рэжа штакеціны. Пеця ўцёк ад пана Пшэборскага ўслед за забастоўшчыкамі, пакінуўшы брата. Андрэй з ім часта гутарыць, мае на мэце ўцягнуць яго ў камсамол. Пеця ўвесь абсыпаны пілавіннем і драўляным пылам, як быццам скупаны ў ім. Пад яго ўвішнай рукой, як вузкія палосы паперы, выплываюць з пілы штакеціны і кладуцца набок. Здаецца, што кола пілы ўвесь час наступае на Пецю, а ён не паддаецца.

З-пад падлогі ў дзверную пройму насустрач цемры дзяўчаты па насілках-скрынках выносяць пілавінне, а дзве дзяўчыны падбіраюць абрэзкі каля Пеці і Санкоўскага з Андрэем. У мерны манатонны грукат завода часам урываецца з-пад падлогі песня. Яна зліваецца з галасамі дзяў-

чат, якія сядзяць на дварэ ля вогнішча. Гэта — змена насільшчыц пілавіння.

Мутнае ад драўлянага пылу святло электрычных лямпачак, як у сонным мроіве, навявае сцішанасць, утульнасць. Свежасцю ночы патыхае з шырокіх адчыненых варот, адкуль з мяккім грукатам коцяцца бярвенні і кладуцца на ваганетку, каб пасля над'ехаць да станка. З варот відаць, як недалёка цёмнаю сцяною да зор цягнецца лес.

Ціха на душы ў Андрэя. У працэсе працы ўсё ўлягаецца, асядаюць усе турботы дня. Яны плывуць у душы роўнай плынню, як празрыстая ручаіна пад сонцам, плывуць некуды далёка ў нязведаныя прасторы, усё глыбей выжалабляючы сваё рэчышча. Дні праходзяць у назіранні, у чуйнасці, у гутарках і ў кароткім сне. А ночы — у працы.

Плывучы за дошкай, услед за Санкоўскім, Андрэй можа іменна тут, у плыні працы, адчувае, як ён сапраўды любіць вось гэтых людзей, як адчувае іхнюю вартасць. У яго няма супярэчнасцей з імі. Адно часам засмучае, што нехта сее плёткі, поіць іх гарэлкай і часам прымушае згінацца перад панам, каб здабыць сабе лепшую ўвагу і ласку. У такім выпадку той-сёй перарабляецца ў нявольніка, адрываецца ад калектыву. Усё — для кавалка хлеба. А за працай — усе рыцары, узброены ўвагай і ўмельствам. Забываюцца на момант аб тым, што ў канцы дэкады атрымаюць нікчэмную плату, якую той-сёй прап'е ў той жа вечар. Санкоўскі рэагуе на гэта словамі: «Прафсаюз трэба, прафсаюз, іначай адміністрацыя разаб'е адзінства рабочых, здэмаралізуе іх». Так, Санкоўскі праўду кажа, бо па плошчы завода ўжо цэлы дзень пакрыквае пан Чарапіцкі. Працуе не шаўцом, а наглядчыкам па ўкладцы дошак. За вухам у яго нязменна, трэба ці не трэба, увесь дзень тарчыць аловак. Вельмі ж ужо заняты пан Чарапіцкі. Не адыходзіць ад людзей, вісіць над каркам, як назола. І ўсё нешта піша, і ўсё нешта піша ў блакнот, наморшчыўшы лоб.

— Гэтыя дошкі класці сюды... а ні руш... Ладна мне ўкладаць... а ні руш... а то пойдзеце да пана бога спяваць горкія жалі...— паўтарае пан Чарапіцкі.

І вось адна дошка, лёгшы на край яруса, спаўзла і ўпала на зямлю. Чарапіцкі, як наравісты бык, узнімаецца на дыбкі, тупае нагамі. Твар чырванее, і вочы вылазяць наверх.

— Як кладзеш, чубарыку, пся крэў! — пырскае слінаю, як апантаны, пан Чарапіцкі. Падаўшыся наперад, як знак запытання, заклаўшы рукі з блакнотам назад, Чарапіцкі

доўга есць вачыма рабочага, выцягнуўшы набрынялую ў жылах шыю.

— Пане... Я ж...— хоча апраўдацца рабочы.

— Мільч, чубарыку, а то вазьму за файданы і зараз тут цябе не будзе!

А калі Чарапіцкі заўважае, што набліжаецца дырэктар, пачынае крычаць без патрэбы і мітусліва запісвае нешта ў блакнот. Тады слова «чубарык» рэхам разлягаецца між ярусаў. Але вось падыходзіць дырэктар. Пан Чарапіцкі становіцца смірна, вітаецца лісліва, а потым не ведае, як скакаць вакол дырэктара. Пачынае нешта тлумачыць, торкаючы алоўкам у блакнот. І ўсё жангліруе словамі, як юла: «Пане дырэктар! Власне, вылічылэм матэматычне...» Яму падабаецца гэтае слова «матэматычне». І на розныя лады ўсё ўплятае з высвістам: «матэматычне... матэматычне... матэматычне...», робячы націск на літару «ч». Калі дырэктар выходзіць, Чарапіцкі адразу ж пачынае крычаць на рабочых: «Працаваць! Працаваць!» І пахаджвае здаволены тым, што, напэўна, удалося пераканаць дырэктара, што ён — пан Чарапіцкі — можа смела быць залічаны да гербавай шляхты. Што яны значаць — гэтыя чубарыкі ў сярмяжках? Гэта ж быдла, дзікусы. Ну, і з палякаў знаходзяцца хамы, накшталт Санкоўскага, якія нават сябруюць з імі. Гэта — здрада айчызне. І ноздры Чарапіцкага ходзяць, як у ганчака. Ну, з Санкоўскім мы яшчэ... Не раз Андрэй з Санкоўскім назіралі карціну сустрэчы Чарапіцкага з дырэктарам, і Санкоўскі заўсёды паўтараў: «Куе сабе кар'еру, асёл... Вось бачыш, Андрэй, гэта — выхаванец ППС. Пойдзе далёка ў сваёй кваліфікацыі лакейства...»

Андрэй прапанаваў паставіць на ячэйках пытанне аб тым, як ставіцца да Чарапіцкага.

— Слушна,— адказаў Санкоўскі.

Пасля нарады Чарапіцкі быў акружаны напаўбайкотам. Але ў выніку нарады адбылося і яшчэ адно здарэнне. Чарапіцкі прыйшоў у барак да групы польскіх рабочых «пад хмяльком» і пачаў хваліцца, што выпіў, сустрэўшыся з камендантам пастарунка з лесапільні Пшэборскага Качурам і што хутка дырэктар прызначыць яго самым старшым наглядчыкам. Рабочыя адказалі: «О, о... герой, герой... Пан хутка здабывае сабе кар'еру...»

— Што значыць, умеючы...— адказаў самаздаволены Чарапіцкі і пачаў спяваць нейкую вульгарную прыпеўку.

Санкоўскі сядзеў ля акна, адвярнуўшыся ад усіх, і глядзеў, курачы цыгарку, на пляц. Чарапіцкі пачаў запра-

шаць рабочых пайсці выпіць. Ніхто на запрашэнне не адказваў.

— Ходзьмы... па кілішку...— не адставаў Чарапіцкі і крануў за нагу рабочага Станіслава Барвіну, які ляжаў на нарах.

Барвіна падняўся і сваім крыху сіпаватым павольным голасам адказаў:

— Ідзі пашукай сабе такіх самых псоў, як сам...

— Цо-о-о? — вытрашчыў вочы Чарапіцкі.

— Так,— пацвердзіў Барвіна.

— Не чакаў ад цябе гэтага... А яшчэ ваяваў у легіёнах,— сказаў Чарапіцкі.

— Не твой замазаны інтарэс у гэтым... Так, ваяваў і раны маю, нават узнагароды... Але я ваяваў не для таго, каб раслі такія смярдзючыя псы, як ты, і каб жыравалі твае гаспадары... Ну, што ж — ашукаўся... другі раз не ашукаюць.

Чарапіцкі з месца кінуўся да Барвіны, увесь чырвоны ад злосці, але той ужо стаяў на нагах, гатовы адбіць удары. Астатнія рабочыя ўсхапіліся на ногі разам з Санкоўскім і заслонай сталі між Барвінам і Чарапіцкім.

— Выйдзі, Чарапіцкі! — гукнулі ўсе, нахмурыўшы бровы.

— Цо, цо, цо...— гаварыў Чарапіцкі, адступаючы да дзвярэй.

У наплыўшых кроўю вачах агонь пагас, і самлелы язык не мог больш вымавіць ні слова. Чарапіцкі ў роспачы павярнуўся да дзвярэй, але, агляну ўшыся, прыгразіў Барвіну, махаючы пальцам:

— Я яшчэ з табою пагутару...— і бразнуў дзвярыма.

Усе здзівіліся з учынку Барвіны. Гэты ціхі, маўклівы чалавек, цягавіты, трывалы ў працы, як бык, мала калі выказваў свае думкі. Прастадушны, высокага росту, грузны, з шэрымі з усмешкай вачыма на бледным высмактаным твары, з чупрынай русых валасоў часам здаваўся наіўным, як дзіця. Толькі нязменная люлька ў зубах надавала яму паважны выраз. Ён не расставаўся з ёю — нават шпалы грузіў з люлькай у зубах.

І вось у гэтага чалавека раптам вырвалася з душы накіпеўшае, яшчэ нікому не сказанае.

— Здзівіў ты нас, Стасю,— сказаў Санкоўскі, калі Чарапіцкі выйшаў.— Каб гэтая дрэнь чаго-небудзь не прыдумала.

— Вацэк,— сказаў, нібы просячы, Барвіна,— не вытрымаў... Раз ужо на тое... Досыць!

Санкоўскі з усмешкай, як бацька на дзіця, паглядзеў на Барвіну. Санкоўскі любіў яго за сумленную душу, за таварыскую выручку, за цягавітасць у працы.

І вось цяпер, калі Андрэй з Санкоўскім плывуць за дошкай да віруючай пілы, у варотах з цемры ночы час ад часу паказваецца Барвіна з калом у руках. У перапынках пасля разгрузкі ён стаіць, апёршыся на кол, пыхкаючы люлькай. Сустрэўшыся позіркам з Санкоўскім і Андрэем, кіўне галавой і ўсміхнецца з-пад навіслага на вочы казырка кепкі. І ад гэтага нават прыемна робіцца Андрэю. Адчуваецца, што як быццам усё новыя і новыя сілы напаўняюць яго істоту. Святлейшым і больш пэўным робіцца позірк.

Нарэшце пілы ў станку спішылі тэмп і, разануўшы раз-два, сталі. Дванаццаць гадзін ночы — перастаноўка піл. І стала раптам ціха на хвіліну, а пасля — гаманліва.

Для перакуру ўсе збіраюцца да цыркуляркі — Зубец з Падалякам, якія па прапанове Андрэя перайшлі на начную змену, з машыннага аддзялення, Сава з Марцінам ад закрутак, затым — Барвіна з калом.

...Перастаноўка піл скончана. Рухавік дае гудок, і пілы ў рамах станка зноў пачалі свае скокі. Завірыла цыркулярка, загрукалі бярвенні. Кожны стаў на сваё месца. І так будзе да зары, калі яна сваёй бялявай павалокай ляжа на бяссонныя стомленыя твары рабочых.

А пакуль што Андрэй з Санкоўскім усё плывуць і плывуць, песцячы свае думы.

Няхай сабе Захар Зубец ломіць галаву над загадкай, нашто гэта Андрэй перавёў яго з Падалякам на начную змену.

— Так трэба,— адказаў Андрэй. І ў такт яго думкам аб заўтрашнім дні ўторыць голас станка сваім рытмам: «Так трэба... Так трэба... Так трэба...»

Яго падхоплівае і паўтарае на тысячы ладоў многагалосае рэха ў навакольным лесе. Так трэба... Так трэба...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Андрэй глянуў на Санкоўскага і пачаў яго будзіць:

— Уставай, сягоння ў нас яшчэ многа работы.

Недалёка ад завода праходзіць шырокі лясны шлях. Каржакаватыя сосны пазвешваліся над ім і кідаюць на

сыпкі пясок свае ціхія, мяккія цені. Пад навесам галін плыве лёгкі, як марыва, струмень ветрыку з подыхам лясных глыбінь. Ціха і пуста на шляху. Праходжваюцца па ім толькі гаспадары завода. Адзін у клятчатай кепцы з блішчастым казырком, у касцюме зеленаватага колеру, у галіфэ — гэта дырэктар. Другі ў шэрым капелюшы з пушыстым пяром, у цёмна-шэрым касцюме і таксама ў галіфэ, на нагах жоўтыя блішчастыя крагі, ад якіх пры кожным кроку чутно парыпванне. Гэта — супольнік. Ён прыехаў ці з Варшавы, ці з-за граніцы. У яго ў правым кутку рота пад закручастым вусам звісае адмысловая люлька. Абодва апіраюцца па блішчастыя сукаватыя палкі, у абодвух плашчы па руках. Ціха вядуць гутарку. Відаць, што гутарка задушэўная. Андрэй з Санкоўскім абміпулі іх, ідучы ў лес па адпачынак. Прайшоўшы крыху далей, Андрэй сказаў:

— Сапраўдныя каланізатары... бляск буржуазіі. Па гэтым шляху некалі польская шляхта галапавала, пабразгваючы шаблямі, а цяпер... буржуазія прагульваецца...

— Пакуль што так, Андрэй...

— Але — ненадоўга...

Калі Андрэй з Санкоўскім падышлі да завода, то ўбачылі, што рабочыя па-святочнаму групамі сядзелі ля сцен баракаў, на навакольных бярвеннях, курылі, перакідаючыся жартамі. Некаторыя дужаліся, некаторыя выпрабоўвалі сілу, падымаючы па чарзе камель таўшчэзнай сасны. Там, дзе заўсёды раскладалася вогнішча, на якім варылі ежу, цяпер навокал на лаўках сядзелі дзяўчаты з хлопцамі і час ад часу спявалі. Некаторыя з рабочых былі выпіўшы. У такой групе было найгаманлівей. Гэта, між іншым, назіралася і сярод групы польскіх рабочых. Яны пасля нейкіх гарачых спрэчак пачалі спяваць. Андрэй не раз чуў ад іх гэтую песню, калі польскія рабочыя, седзячы на нарах, пазвешваўшы ногі, латаючы сваю адзежу, упаўголаса цягнулі яе мелодыю. Яна падабалася Андрэю. Лілася з гэтай песні задушэўная лірычная скарга на бяздолле працоўнага чалавека. Напэўна, у кожнага з іх пры гэтай песні ўзнікалі перад вачыма свае родныя прасторы, свае дарогі ў вербах і таполях, свае пясчаныя палі, заняволеныя магнацкімі латыфундыямі, свая быстрацечная, імклівая Вісла, бадзяжная беднасць і ў сіняй дымцы горы Татры. Вось аб іх і спяваецца гэтая горкая песня:

Гуралю, чы ці не жаль
Отходзіць от сторон ойчыстых,

Сверковых лясув ї галѣ
І тых потокув срэбжыстых?

Галасы ўздымаліся на вышэйшыя ноты, паўтараючы:

Гура-а-а-лю, чы ці не жа-а-аль.
Гуралю, врацай до галь.

Санкоўскі з ходу далучыўся да песні, і можа ад таго яна загучала яшчэ больш энергічна:

Гураль па гуры спозера
І лзы рэнкавэм оцера,
Бо гуры пожуціць тшэба
Для хлеба, пане, для хлеба [1].

Пасля песні кожнаму зробіцца і сумна і лёгка. На момант прыціхнуць, і ў гэтай цішыні з вуснаў каго-небудзь вырвецца слова, сказанае як бы самому сабе: «Гм... пся крэў...» Так было і цяпер, калі падышоў Санкоўскі. Адзін горача звярнуўся да яго:

— Колькі ж будзе нашай цярплівасці, Санкоўскі?.. Пры выплаце ашукваюць лотры... Бачылі іх, як пайшлі на шлях?

— Бачылі,— адказаў Санкоўскі,— запрашалі нас на гарбату, але мы «далікатна» адмовіліся... Аб гэтым пасля і не тут... Што я хачу сказаць, товажышэ?..— задумаўся Санкоўскі, як быццам што прыпамінаючы. А пасля вымавіў:— Ага... праз два дні святы Антоні. Тут у лесе ёсць касцёл святога Антонія. Будзе фэст. Ці не варта б нам прагуляцца? Пойдзем, нарвём кветак. Усё роўна свята...

— Пойдзем... а як жа! — гукнулі ўсе ў адзін голас. Андрэй у гэты час разам са сваімі сябрамі хадзіў па бараках і агітаваў сярод рабочых за «фэст» у гонар «святога Антонія».

---

[1] Даслоўна:
Горац, ці табе не шкода
Адыходзіць ад краёў бацькоўскіх.
Яловых лясоў і палян (прастораў)
І тых патокаў серабрыстых?
Горац, ці табе не шкода.
Горац, вяртайся да прастораў.
Горац на горы пазірае
І слёзы рукавом выцірае,
Бо горы пакінуць трэба
Для хлеба, пане, для хлеба.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Раздзел першы

## НАЧНЫЯ ГОСЦІ

Іван Паддубны толькі што прыехаў з Баранавіч. Канферэнцыя акругкома выпрацоўвала план партызанскіх дзеянняў. Аснова ўсяму — падарваць эканамічную моц памешчыкаў, купцоў-прамыслоўцаў, інакш кажучы, з дымам пажараў пускаць іхнія маёнткі, лесапільні каланізатараў.

Другая задача — дэзарганізаваць чыноўніцкі і паліцэйскі апарат акупантаў,— граміць пастарункі, трымаць у страху старостовы (павятовыя ўпраўленні), ваяводствы. Чыноўнікаў знішчаць толькі ў выпадках неабходных — ва ўзброенай барацьбе ці ў іншых падобных выпадках. Паколькі паўстанцкі рух не набыў яшчэ масавага характару, знішчэнне чыноўнікаў выклікала б з боку акупантаў жорсткія рэпрэсіі...

Каб узняць народ на барацьбу, трэба ўцягваць у атрады масу моладзі. Тады кожная сям'я, сын якой пойдзе ў партызаны, будзе базай, апорай ва ўсіх дзеяннях. У працэсе барацьбы можам хутка прыйсці да лозунга: «Уся ўлада — Саветам!»

Тады настане дзень уз'яднання заходняй часткі Беларусі з усходняй у адно адзінае цэлае. Безумоўна,— гаварылася далей,— што наша барацьба пры такім размаху стане аб'ектам міжнароднай увагі,— у першую чаргу пралетарыяту і, з другога боку, будзе аб'ектам трывогі для буржуазіі. На варце рэвалюцыі — Савецкая Расія, бацькаўшчына ўсіх працоўных... Для нас з-за мяжы свецяць ясныя агні Савецкай Беларусі. На акупанта!

Але не ўсё гладка ішло на канферэнцыі. Палажэнні, якія выказваў Паддубны, як сакратар акругкома, не ўсім падабаліся. Былі выказванні, што няма чаго аглядацца на Польшчу, на польскі пралетарыят, трэба спадзявацца толькі на свае сілы, незалежна ні ад каго ўзняць паўстанне. Колькі Паддубны ні даводзіў, што такія метады авантурыстычныя, што гэта метады былых нарадавольцаў,— усё роўна некалькі чалавек паехала з канферэнцыі незда-

воленымі. Сярод іх быў Апанас Хмель, чалавек нецярплівы, словам,— іскра, порах.

Перабіраючы ў памяці ход канферэнцыі, Паддубны пачаў думаць пра Апанаса. Што тут кіравала Хмелем — ці свае погляды на тактыку, у якія ён верыць, хоць памыляецца, ці кар'ерызм?

...Ноч за акном цёмная і ветраная. Лямпу зусім не запальвалі сягоння. У прыцемку Паддубны нават павячэраў і лёг. І вось не спіцца. За акном шалешча вішня — яна ад ветру то залапоча лісцямі, то прытуліцца да шыбаў і на момант сціхне, як быццам углядаецца ў хату. І думкі плывуць далёка. Ужо адзінаццаты год Паддубны ў рэвалюцыйным руху. Распачаў свой удзел у ім юнаком у 1911 годзе, калі працаваў на папяровай фабрыцы ў Пецярбургу. Належаў да сацыял-дэмакратычнага гуртка. Адбыў два гады ссылкі ў Сібіры за ўдзел у стачках. Пасля ссылкі вярнуўся ў сваю вёску на Пружанскім Палессі і за месяц да пачатку вайны з Германіяй паехаў у Амерыку. Там быў адным з арганізатараў сацыял-дэмакратычных гурткоў сярод беларускіх і ўкраінскіх эмігрантаў.

Калі ў Расіі пачалася рэвалюцыя, тысячы эмігрантаў — беларусаў і ўкраінцаў — рушылі да нью-йоркскага порта. Параход адчальваў, а на палубе грымела песня. Пад хвалюючым чырвоным сцягам стаяў натоўп эмігрантаў і спяваў сваю песню аб Расіі:

Привет тебе, Россия,
Свободная страна...

Незабыўныя часы...

Ну, а потым камуніст Іван Паддубны — батальённы камісар — ваяваў на фронце супроць Калчака.

Калі ж пачуў, што частка Беларусі пасля заканчэння вайны падпала пад акупацыю Польшчы, выехаў на радзіму.

Працуючы старшынёю валаснога выканкома ў адным з сёл Паволжа, ён паставіў пытанне аб сваім ад'ездзе перад павятовым камітэтам партыі. Яго выклікалі ў губком і сказалі: «Шчаслівай дарогі і дзейнасці...» Едучы на радзіму, не раз з пафасам гаварыў сваім спадарожнікам у вагоне: «Што яны думаюць... паны... мы з імі за тыдзень разлічымся...»

Прыпамінаючы гэта, цяпер Паддубны ўсміхаецца ў цемру хаты — смяецца сам з сябе. Добра, што сам узброены. Гэта — адно. А другое, што наладзіў сувязь з Віль-

няй і, атрымаўшы адтуль указанні, пачаў арганізоўваць камуністычныя ячэйкі ў сваёй палескай глушы. Але што за ліха — не спіцца... Няўжо Апанас Хмель не дае мне спаць сваім авантурызмам?

Ці можна яго вінаваціць? А можа, і не. Не, трэба, каб ён змяніў свае погляды. Калі будзе ўпірацца, нягледзячы ні па што, небяспека ў перспектыве відавочная...

...Ці то лес трашчыць... Ці колы поезда грукаюць на стыках рэек?.. Цёпла і мякка шчацэ... Вецер калыша...

Нейкі гоман... Сноп святла пырснуў Паддубнаму проста ў вочы, якія ўжо зліпліся ад сну. Паддубны лыпнуў вачыма, і святло знікла. Нехта пачаў стукаць у акно. Промні святла з ліхтарыкаў уздоўж і ўпоперак вуліцы праціналі цемру. Паддубны ўсхапіўся і, прытуліўшыся да сцяны, крыкнуў:

— Хто там?

Адказ пачуўся па-польску:

— Гдзе ту ест солтыс?

— Ад таго канца трэцяя хата.

Цень адышоў ад акна. І з месца зацокалі капыты коней цэлага атрада, шугануўшы ў канец вёскі.

Паддубны пабудзіў Ганну і папрасіў, каб яна разведала, хто гэта і куды едзе, хоць сам здагадваўся, што ўварваўся, не іначай, карны атрад. Ён апрануўся, узяў рэвальвер і выйшаў на двор. Стаў пад страхою і прыслухаўся... Нічога не чуваць, калі не лічыць залівістага брэху сабак у канцы вёскі. Чакаць прыйшлося нядоўга. Раптам цемру ночы прарэзаў дзікі жаночы крык. Паддубны ўздрыгнуў і нахмурыў бровы, сціскаючы ручку рэвальвера.

«Што яны робяць?»

Ледзь пераводзячы дых, прыбегла Ганна. Паддубны аклікнуў яе з-пад страхі.

— Ой, божа ж мой... Што там робіцца... Б'юць...— спалоханым шэптам, у якім чуліся слёзы, загаварыла Ганна.

— Каго?

— Сястру... Тацяну...

— Тацяну? За што? — спытаўся, хоць самога секанула здагадка: «Няўжо?»

У Тацяны начаваў пядаўна той, якога Андрэй называў Незнаёмым. Аднаго дня на світанні ён і Паддубны выходзілі з хаты Тацяны. Няўжо хто, заўважыўшы, падказаў? Ды гэтага мала, што выходзілі з хаты. У гумне Тацяны пад сенам стаіць кулямёт. Гэта ўсё маланкай прамільгнула ў галаве Паддубнага. Што рабіць?

— Ганна, вынесі мне тую мужыцкую шэрую куртку, паліто на, вазьмі сабе... Я пайду.

Слова «тую» азначала, што куртка была ўжо знаёмая Паддубнаму і, відаць, выкарыстоўвалася не раз.

Ганна, усхліпваючы, адказала:

— А куды ж вы пойдзеце такой ноччу? Невядома, дзе што можа вас спаткаць...

— Давай не будзем траціць часу... Час дарагі... Ідзі ясі...

Ганна вынесла куртку і, даючы Паддубнаму, прыняла ад яго цёмна-карычневае паліто з працёртымі сям-там шэрымі лапінамі, з паўторнымі швамі ля кішэняў, ля гузікавых дзірак.

Апрануўшы куртку і памацаўшы бакавыя кішэні касцюма, сказаў:

— Усё пры мне... Пайду... Ты, Ганна, пабудзі хлопца, замкні хату і ідзі схавайся дзе да суседзяў... На ўсякі выпадак... Глядзі, зрабі гэта... Бывай...

І знік у цемры. Калі дайшоў да сярэдзіны вуліцы, каб не перайсці, пачуў зноў такі самы дзікі крык. Заўважыў, як па вуліцы прабягалі цені. Абуджалася ўся вёска,— людзі выбягалі з хат, пыталіся адзін у аднаго са спалохам у голасе аб прычынах крыку і, даведаўшыся, хто крычыць, глядзелі, анямеўшы, туды, у канец вёскі, дзе палосы святла мігалі па вуліцы, па сценах хат, дзе нехта крычаў, стагнаў і заціхаў.

Людзі паволька, непрыкметна для сябе, пачалі пасоўвацца ўсё бліжэй і бліжэй да злавесных агнёў.

Паддубны таксама падаўся туды, але не вуліцай, а загуменнем. Мала яшчэ палосак было выцераблена ад бярэзніку, якім зарасло поле за час вайны і адсутнасці гаспадароў. Бярэзнік густа і панура шумеў за гумнамі, калыхаўся хвалямі ад ветру,— цёмны, непранікальны. Паддубны спяшаўся.

Падышоўшы да гумна Тацяны, глянуў на падворак. Перад вокнамі хаты мігцеў ліхтар, які трымаў солтыс Калодзіч, прыкрываючы яго ад ветру крысом курткі. Пад галінай старой грушы, што звешвалася цераз плот, ляжала тварам уніз, прывязаная да ўслона, Тацяна.

Бялела нацельная сарочка і ясна адцяняліся чорныя валасы Тацяны, якія доўгімі пасмамі звісалі з услона.

— Ну, як, скажаш,— хто пачаваў у цябе? — крыху нагнуўшыся, грозна пытаўся паручык, камандзір атрада,

ляскаючы час ад часу нагайкай па халяве бота. Тацяна маўчала.

— Далей! — кіўнуў паручык на жаўнераў. У святле ліхтара мітусліва трапяталі, як вячэрнія матылі ў бляску, лісці на галіне грушы. Часам на галіну падаў цень галавы паручыка, які пахаджваў узад і ўперад уздоўж услона, і тады чатырохрогая шапка рабілася пачварным ценем.

Па камандзе «далей» два жаўнеры высунуліся з цемры з нагайкамі ў руках. Паддубны, пазіраючы з-за вугла гумна, прыкрыў вочы і адчуў, як сэрца сціснулася ад жалю і нянавісці. Крык, такі ўжо блізкі, яшчэ раз прарэзаў ветраную цёмную ноч і заціх. Жаўнеры білі — Тацяна ўжо маўчала.

— Досыць! — сказаў паручык. І стала ціха. Здавалася, што і вецер на момант прыціх. Да вушэй Паддубнага даляцела толькі выразнае фырканне коней.

Паддубны думаў: «Калі стрэліць зараз, безумоўна, разбягуцца ўсе карнікі, і Тацяна будзе выратавана. Але заўтра яны прыйдуць з большымі сіламі і ўчыняць расправу над усім насельніцтвам вёскі. Эх, Сцяпан, Сцяпан, называеш сябе Прайдзісветам, а тут якраз цябе і няма з тваімі малайцамі,— успомніў Паддубны пра таго, з кім Андрэй так цікава сустрэўся ў хаце Ганны.— А калі прыйдуць у гумно ды знойдуць кулямёт, што тады? Таксама могуць спаліць вёску». Нейкі час Паддубны вагаўся. Страшэнна хацелася пусціць кулю ў тую вунь постаць у растапыранай шапцы, якая пасля каманды «досыць» падала каманду — «вешаць».

— Солтыс, давай вяроўку! — крыкнуў паручык.

Солтыс хацеў нешта адказаць, прамовіў толькі «пане...» — паручык з-за пляча аперазаў яго па галаве нагайкай.

— Давай вяроўку, пся крэў!..

Солтыс, перадаўшы ліхтар свайму намесніку, знік у цемры.

«...А можа, яны ўжо знайшлі кулямёт? — жахнуўся Паддубны.— Тады можа быць усё».

Тым часам жаўнеры мітусіліся вакол услона, прывязваючы вяроўку да галіны грушы.

Паддубны, вобмацкам пасоўваючыся паўз сцяну, прайшоў да падворка. Гумно стаяла ад хаты крокаў за сорак. Каб толькі не зарыпелі вароты. Агледзеўся — каты адвязвалі Тацяну ад услона. Паддубны дайшоў да варот і пацягнуў іх да сябе. Яны трошачкі рыпнулі, асцярожна і карат-

ка, як быццам баяліся яго выдаць. Увайсці самому — дастаткова невялікай праймы ў варотах, а вось выцягнуць кулямёт — трэба адчыняць шырэй. Але можа яго няма? Паддубны ліхаманкава пачаў адкідваць сена. Добра, што яго было нямнога. Разграбаючы, намацаў халодны ствол «максіма». Ёсць. Цяпер выцягнуць і схаваць пакуль што ў бярэзніку за гумном. Дзве ленты патронаў віселі на кулямёце. Паддубны глянуў праз шчыліну варот на двор — белая сарочка Тацяны замігала перад вачыма пад галінай грушы. Паддубны пхнуў рукою адну палавіну варот. Яна адчынілася павольна і не зарыпела — даволі моцны быў шturшок,— не паспела. Калі перакочваў кулямёт цераз парожак гумна, толькі бразнула лента аб ствол, а далей колы пакаціліся лёгка па прыгуменнай траве.

Прайшоўшы па бярэзніку пару крокаў, Паддубны павярнуўся і паглядзеў на падворак. Цела Тацяны гойдалася на галіне грушы пад парывамі ветру.

— Бывай, Тацяна, я адпомшчу за цябе... Бачу, бачу тваіх двое дзетак, якія выбеглі з цемры і цягнуцца да тваіх ног з плачам. Нехта добры быў, схаваў іх на час, каб яны не бачылі мук маткі... Чуеш, Тацяна, я пайду збіраць вялікую народную сілу на паноў... Мы знойдзем і таго, хто цябе выдаў... Мы ўсё знойдзем, Тацяна... Бывай...

І Паддубны пакрочыў у гушчыню бярэзніку. Вецер данёс яму ўслед плач дзяцей і дарослых. А карнікі ўжо з гікам скакалі па вуліцы, разганяючы натоўп, б'ючы нагайкамі направа і налева.

Тацяна павінна вісець тры дні на страх вёсцы і ўсёй ваколіцы. Так грозна загадаў паручык, памахаўшы нагайкай каля носа солтыса.

Ён цяпер гарцаваў у сядле на чале атрада, ведучы яго назад — да станцыі.

Услед за імі падаўся і Паддубны.

Ідучы па цёмнай дарозе, ён чуў, як тупат капытоў усё аддаляўся і аддаляўся, пакуль зусім не заціх.

«Ці гэты кат мае спецыяльныя паўнамоцтвы, ці ўведзена асаднае становішча. Адно з двух. Бо як жа — без суда, без следства...» — думаў Паддубны ідучы.

Але, як бы яно там ні было — сталася... Крывавая расправа сталася фактам. Дзе тут вока варожай разведкі? Усё дагэтуль было ціха. Ніхто, здаецца, не выклікаў падазрэння. Можа, солтыс? Ці не аслабілі мы пільнасці?

Але як дабрацца да Савы? Як папярэдзіць? Ён жа будзе ехаць па мяне...

Была другая палавіна ночы, калі Паддубны наблізіўся да прыстанцыйнага пасёлка. Скупа мільгалі ўдалечыні агні,— здавалася, што вецер тушыў іх, але яны ў той жа момант з'яўляліся зноў. Гаслі і загараліся... Паддубны спыніўся на скрыжаванні дарог. Не пачуў ніякіх гукаў, толькі вецер шамацеў недзе ў балотным лазняку. Слухаў далей. Злева пачуўся нібы грукат колаў. Ён то прападаў, глушыўся ў цемры, то з ветрам далятаў зноў. Паддубны ўпэўніўся, што нехта едзе, і вырашыў пачакаць, бо ісці на станцыю цяпер небяспечна. Як быццам пацвярджаючы яго думкі, з пасёлка даляцеў стрэл. Паддубны не паспеў нават падумаць аб гэтым, як за першым стрэлам грымнуў залп. Праз нейкі час залп паўтарыўся. Потым узнялася бязладная страляніна. Што гэта можа быць? Паддубны думаў і так і гэтак і ні да чаго пэўнага не прыйшоў. Можа, завітаў які іншы атрад? Хто яго ведае! Паддубны вырашыў усё ж такі пачакаць падвод, грукат якіх быў чуваць ужо недалёка. Зайшоў за прыдарожны альховы куст і лёг. Лавіў вухам ужо адзіночныя стрэлы з пасёлка.

Чакаць давялося нядоўга. Калі сціхла страляніна, Паддубны для праверкі прыклаў вуха да зямлі. Зямля не ашукала — стаў больш выразны грукат колаў і, апрача гэтага, даляцеў глухі, як з-пад зямлі, тупат.

— Ну, вядома,— едуць карнікі зноў... Можа, уцякаюць?

Тупат рабіўся ўсё больш чутны.

Паддубны на ўсякі выпадак устаў, перайшоў у кусты далей ад дарогі і лёг зноў, прыпаўшы вухам да зямлі.

Тупат і скрып набліжаліся. Колы загрукаталі ўжо зусім блізка. Іх было шмат.

Паддубны не заўважыў, як гэта хутка сталася: калі падводы звярнулі на дарогу, што вяла да станцыі, на іх у цемры ночы зверху абрушыўся нечы голас: «Стой, хто едзе?»

Паддубны, пачуўшы гэты голас, не паверыў сваім вушам. Стаў на ногі і, схаваўшыся за куст, чакаў.

Падводы адна за другой спыняліся са скрыпам.

— Хто едзе? — паўтарыў голас.

— Вазакі,— адказаў адзін.— Вязём гонты на станцыю.

— Гонты — сконд ты...[1] — паўтарыў той самы голас.

---

[1] З беларускага анекдота. Ехаў пан і сустрэў вазакоў з гонтамі. Спытаўся ў першага: «Сконд ты (адкуль?)». Вазак, не ведаючы па-польску, сказаў: «Гонты, паночку, гонты...»

Паддубны ўжо не сумняваўся, што гэта гаварыў Сцяпан.

— Многа вас?

— Дзесяць падвод.

— Праязджайце... і панам паклон перадавайце.

Калі ўсе падводы выехалі на дарогу і пачалі аддаляцца, Паддубны выйшаў з кустоў і накіраваўся проста да Сцяпана. Каб звярнуць на сябе ўвагу, крыкнуў:

— Сцяпан, здароў!..

— Хто гэта? — пад'язджаючы бліжэй да Паддубнага, спытаў Сцяпан.

— Хто? Я...

— Іван?

— Ён самы...

— Хіба ж ты чорт, што ў балота ўбіўся? Чаго цябе сюды занесла? Я якраз еду да яго, а ён сядзіць у балоце...

— Гэта ты там арудаваў?

— А хто ж? Мы...

— Як ты напаў на іх?

— Гэ... мая разведка лепшая за тваю... Я ведаў, што яны накіраваліся ў Навасады... Вось і спяшаўся... Па дарозе заехаў на станцыю, каб разграміць пастарунак... Зрабілі і тое і другое...

— Вы камандзіра іхняга, паручыка, не ўхлопалі?

А чорт яго душу знае... Паразбягаліся хто куды... Знаем, што ёсць забітыя... Толькі вось набралі коней, рэвальвераў і шабель...

Паддубны глянуў на верхавых і сапраўды ўбачыў, што кожны меў пры баку аднаго каня, а некаторыя па два...

— Спатрэбяцца...— сказаў Каваль.

— Знаеш, Сцяпан,— бяда... Тацяну Бандарчык павесілі карнікі...

— Ну-у-у! — зжахнуўся Каваль.— Калі?

— Сягоння ўночы... Вось чаму і я тут...

Запала маўчанне...

— Запалі цябе агонь...— працягнуў Сцяпан.— Ты бачыш?.. Значыць, мы не паспелі...

Чалавек пятнаццаць верхавых, пачуўшы гэтую вестку, скрануліся з месцаў і цясней акружылі камандзіра.

— Ай-яй-яй...— гараваў Сцяпан,— ну, а кулямёт не знайшлі?..

— Я вывалак яго з гумна ў іх пад самым носам і схаваў...

— Ну, то няма чаго цяпер ехаць у Навасады,— са

злосцю ў голасе сказаў Сцяпан і спытаўся ў Паддубнага:

— А ты куды ідзеш?

— Мне трэба да Савы...

— Я яго ўжо бачыў... Быў у гасцях... Мая разведка, брат, лепшая за тваю... Сядай на панскага каня, паедзем на маю маёўку... Я табе прывяду Саву...

Паддубны, доўга не думаючы, узлез на першага з краю каня, і атрад накіраваўся не на станцыю, а ўздоўж чыгункі на ўсход — па зыбкай балотнай дарозе. Два разведчыкі памчаліся наперад.

## НА ЛЯСНОЙ ТРЫБУНЕ

Дырэкцыя завода не хацела святкаваць дзень св. Антонія, але, убачыўшы, што шмат рабочых пайшло «на фэст», вымушана была згадзіцца з гэтым. Завод не працаваў.

Масоўка была прызначана на 12 гадзін дня на лясной паляне, за 3—4 кіламетры ад завода і за два кіламетры ад дарогі, што вяла да царквы св. Антонія.

Выйшлі а дзесятай гадзіне. Дзень быў сонечны. Ісці лесам было прыемна і весела. Ішлі хутка. Кожны, хто ведаў, а хто і не ведаў пра мэту падарожжа, пранікаўся пачуццём невядомага, чагосьці незвычайнага.

Нават мала гаварылі.

Толькі Сава амаль увесь час паўнамёкамі гаварыў Івану Падаляку аб тым, што мае яго сустрэць.

— Пакажу цябе аднаму чалавеку, з якім ты павінен пазнаёміцца... Пойдзе ў нас, брат, работа, а твая работа будзе хвацкая...

— Якая работа? — стараўся даведацца Іван.

— Не спяшайся... Усё ў свой час...

У Івана Падалякі ад слоў Савы нешта гарачае заварушылася ў грудзях. Замуцілася нават крыху ў галаве. Нарэшце прыйшло тое, аб чым ён марыў, у душы звысака пазіраючы на другіх. Падаляка скардзіўся на свой лёс, хоць аб гэтым мала каму гаварыў. Захапіў крыху камандзірскага шчасця, будучы прапаршчыкам пры кераншчыне, і яшчэ яго не выдыхаў. Часта любіў уяўляць сябе ў мундзіры з пагонамі, з партупеямі — высокі, статны, прыгожы. Мундзір у абцяжку, яму казыраюць салдаты і заглядаюцца гарадскія красуні. Гэта нічога, што вылез на свет з маленькай хаты беларускай. Гэта нічога, што ў зрэб-

ных рубцах, пашытых маткай, з нагамі, парэпанымі ад балотнай руды, ганяўся за каровамі па сваіх выганах, часам плачучы і выціраючы «бульбу» пад носам. Не, Падаляка не любіць нават і думаць аб гэтым, не толькі гаварыць, наадварот, гатоў часам пахваліцца, што ён з заможнай сям'і, што дапушчан жыццём, як выбраннік, да тайнікоў адукацыі, да «вышэйшых» кругоў.

Служба ў Чырвонай Арміі не зрабіла яго камандзірам,— нейкая млявасць авалодала ім, штосьці выбіла яго з правільнай каляіны, не мог на паўнату душы ўспрыняць энтузіязму паўстаўшых народных мас. І ўсё гэта ад таго «звысака», што прывілося яму мундзірам прапаршчыка. Меў прыгожы почырк — пайшоў працаваць ротным пісарам.

І вось цяпер, нарэшце, яго заўважылі, вядуць у «святая святых». І Іван Падаляка ідзе з узнятай галавой, поўны радасных прадчуванняў і надзей.

...І вось Паддубны ўзняў нагу, каб стаць на трыбуну. Трыбунай быў стары шырокі сасновы пень сярод парослай навокал папараці і іншай травы, цяпер памятай натоўпам. Партызан не было відаць у натоўпе, не сустракалі іх рабочыя і калі ішлі на паляну. Ва ўмоўленым месцы стаялі незнаёмыя людзі без зброі і паказвалі напрамак,— куды ісці. І ўсё.

Ціхі сонечны лес акружаў невялікую паляну. Ранішнія вільготныя цені дрэў падалі на траву, на людзей, ад чаго стваралася яшчэ большае ўражанне цішыні. Спяванне птушак далятала часам з гушчару выразным шчэбетам, ад чаго пасля рабілася яшчэ цішэй і, галоўнае,— насцярожаней.

Штосьці зараз будзе такое, чаго не было ніколі. Андрэй ■ Санкоўскім стаялі ў самай гушчы народу, паслаўшы на сувязь Саву.

Яны ўзрадавана пераглянуліся, калі ўбачылі на паляне Паддубнага. Шырокім крокам выйшаў ён на сярэдзіну, стаў на пень-трыбуну — нахмураны, суровы. У той шэрай куртцы, перацягнуты раменным поясам, з вінтоўкай за плячыма, Паддубны выглядаў як салдат народных сіл, як сімвал паўстання.

Прывычны рух — узняты кулак павіс над галавой: Паддубны пачаў гаварыць.

Кастрычніцкая рэвалюцыя нарадзіла палымяных прамоўцаў. Што накіпала вякамі ад крыўд, ад патаптання чалавека чалавекам — хлынула шырокім бурлівым пато-

кам, цэлым сугуччам многагалосай гамы. Такім прамоўцам быў Паддубны.

Натоўп стаяў як зачараваны. Не блукалі ўсмешкі — наадварот, на кожным твары была суровасць, напружанасць, адчуванне сур'ёзнасці моманту, нават трагізму. Нялёгкім жа было жыццё чалавека працы, такім крыўдным, што даволі даткнуцца да струн яго душы, каб усё тое, што асядала днямі і гадамі ў сэрцах, узнялося да пратэсту, да непрымірымасці, да помсты...

І робіцца зразумелым тое, што іншай дарогі да вызвалення няма, як толькі барацьба да канца з тымі, хто з'яўляецца віноўнікам такога жыцця.

Іван Падаляка стаяў побач з Андрэем, быў на галаву вышэйшы за навакольных, выглядаў таксама засяроджаным, нахмураным. Маршчынка над пераноссем як з'явілася, так і не знікала. Але, калі на тварах рабочых, што былі тут, пад сур'ёзнасцю адчувалася тая «наіўнасць» простых людзей, у якой свеціцца вернасць справе, у Падалякі прабіваўся роздум, нібы ў ім адбывалася ўнутраная спрэчка між самім сабою. Скарыцца перад лёсам, прыняць яго ці не? Аддаць сябе ўсяго да канца ці якую частку сваёй асобы пакінуць для сябе, толькі для свайго «я»?.. Ці дамагацца той ці іншай платы за кожны свой учынак у гэтай арміі «цёмных» людзей, да якіх ён адчувае нейкую нават долю пагарды?

Вось ён — прамоўца — стаіць на пні-трыбуне і пафасам сваёй душы запальвае сэрца слухачоў.

А Паддубны гаварыў аб векавым прыгнёце, успомніў тыя часы, калі паны мянялі людзей на сабак, калі пан беспакарана мог застрэліць хлопа, і што цяперашнія часы мала чым адрозніваюцца ад тых мінулых і ўжо далёкіх. Ён расказаў, як карнікі замучылі сялянку, як знішчаецца беларускі лес рабаўнікамі-каланізатарамі.

Гаварыў пра голад і галечу пад саламянымі стрэхамі беларускіх хат, пра савецкую ўладу, якую трэба вярнуць на землі Заходняй Беларусі, заклікаў уступаць у партызанскія атрады...

І Падаляка супакойваецца на адным — «мне таксама трэба ўзначаліць людзей, тады да мяне прыйдзе тое, што мне належыць па праву... Аднак мне Сава на штосьці намякаў... Дзе ж той Сава?»

А Сава паціху праціскаўся праз натоўп да Захара Зубца, які, узняўшы свой змяты худы твар, з усмешкай і за-

хапленнем не спускаў вачэй з прамоўцы. Побач стаяў Марціп Шапко з выразам твару, як пры пабажэнстве.

Падаляка пачаў ужо азірацца наўкол, шукаючы Саву, бо прамоўца канчаў гаварыць. І тут нешта зашапацела, фыркнула ўверх феерверкам. Як белыя птушкі, узвіліся лістоўкі над натоўпам і паціху пачалі ападаць на галовы. Людзі хапалі іх на ляту.

Сава тузануў ззаду Падаляку за руку і, калі той агляпуўся, кіўком галавы паклікаў за сабою.

Апошнія заключныя словы Паддубнага пакрыла нястрымнае «ўра». Узмахам рукі Паддубны сцішаў натоўп і даў знак разыходзіцца. Людзі шугнулі ў напрамку дарогі, а Паддубны стаяў «на трыбуне», аж пакуль не знік з паляны апошні чалавек, аж пакуль не заціхлі крокі людзей — патрэскванне сухога галля пад нагамі.

І ўрэшце стала зусім ціха. Паддубны скруціў цыгарку, зняў вінтоўку з пляча і сышоў з «трыбуны», але з паляны пе пайшоў — чакаў.

На ўскраіне з'явіўся Сава і даў знак Паддубпаму ісці за ім.

## НАРАДА

Адкуль прыбыў гэты чалавек — невядома. Ён быў нейкі не падобны на другіх. Высокі, плячысты, русавалосы, з вялікімі блакітнымі вачыма. Лёгкая, ледзь прыкметная ўсмешка іскаркамі бліскала ў вачах. І што асабліва спадабалася ў ім Андрэю,— унутраная сабранасць, пэўнасць. Пільным спакоем павявала ад гэтага чалавека. Буйны, моцны і разам з тым маладжавы твар насіў адбітак працы інтэлекту. Нельга было падумаць, што ён селянін. У чорным падношаным лёгкім паліто, у чорпай кепцы, з засунутымі ў кішэні рукамі, ён рабіў уражанне рабочага, які пасля працы ідзе дахаты з завода.

У той час калі нават у самога Паддубнага часам гарачка і ўзняты сціснуты кулак, які, нібы спяшаючыся, узмахамі падкрэсліваў кожнае слова,— у гэтага чалавека, здаецца, ужо былі гатовы рашэнні наперад. Сюды ў лес яго паслала партыя, паслала са свайго цэнтра, партыя — рэвалюцыйны штаб народнага руху, які на сваёй стратэгічнай карце адзначае настроі, імкненні мас, суадносіны сіл у штодзённай, непрымірымай барацьбе. Яна пасылае

сваіх ганцоў на месца падзей... Партыя — кіраўнік класавых баёў...

І вось ён — пасланец партыі — стаіць пад разложыстым старым дубам у глыбокім лясным рове, дзе на дне ў ценю навіслых дрэў і кустоў іскрыцца ручаінка.

Тут, недалёка ад рова, стаўка Сцяпана Каваля, пра якую ведае толькі ён сам і яго атрад. Не хоча Сцяпан паказваць месца стаўкі нават вось гэтаму пасланцу з цэнтра. Не ведаюць аб ёй і Паддубны, і Сава. Хітры і чуйны Сцяпан Каваль, як той сокал на верхавіне сасны. Ніколі, здаецца, не бывае па-сапраўднаму сур'ёзны. Усё балагурыць, усё страляе ўдальствам, і не згадаеш, аб чым ён думае цяпер. Сур'ёзнасць прыходзіць да Сцяпана, калі ён бывае ў поўнай адзіноце, сам-насам са сваімі непрымірымымі думамі. Тады ён звычайна прымае найбольш важныя рашэнні, седзячы дзе-небудзь пад маладой сасёнкай, апёршыся падбародкам на ручку нагайкі. Непрапікальная лясная ноч навокал, агні распальваць забаронена, малойцы Сцяпана адпачываюць на пасцелях з імху і сена, а Сцяпан сядзіць і думае...

Цяпер ён стаіць побач з пасланцом пад дубам без зброі — рэвальвер схаваны ў кішэню. Толькі неразлучная нагайка на «казінай ножцы» тарчыць за поясам.

Шыракаплечы, пасівелы, ён у вачах пасланца вырастаў у волата, якога яму нават хочацца памацаць рукою за грудзі. Стаяць побач — ну, хто ж з іх мацнейшы? Здаецца, ніхто не можа перахітрыць Сцяпана,— так ён пра многае маўчыць, часам кіне жартаўлівую фразу і насцярожана чакае — што ж далей? У пасланца ж толькі іскаркі ў вачах яшчэ жвавей скачуць — то загараюцца, то цямнеюць, і ўсё гэта ў куточках вуснаў застывае ўсмешкай уцехі. Вось тут і хаваецца сакрэт перавагі пасланца над Сцяпанам. Так і здаецца, што пасланец вось зараз паляпае па плячы гэтага волата — Сцяпана. Наскрозь бачыць яго пасланец...

Калі паўстала пытанне, ці паклікаць на параду Падаляку, якога Сава пакінуў недалёка «пачакаць», узніклі некаторыя разыходжанні. Андрэй заявіў, што клікаць Падаляку не трэба. Усе глянулі на Андрэя з нямым пытаннем — чаму? Запала паўза, і Сцяпан нават спытаўся:

— А чаму, сынок? Дзяціна ён высокі... бачыў... Толькі невядома, як у яго з мазгамі?.. Бо ад мазгоў залежыць і моц спіны.

Андрэй не мог акрэслена выказаць свае пярэчанні —

ён толькі адчуў, як зерне засцярогі заварушылася ў ім. Яно ішло ад таго, што ён разумеў Падаляку як чалавека. Санкоўскі ўважліва паглядзеў на Андрэя і толькі заварушыўся на месцы. Ён зразумеў, здаецца, у чым сакрэт. З-за пляча Санкоўскага пільна глядзела вока Савы — ён таксама адчуў, што Андрэй зрабіў заўвагу своечасова. І як ён сам аб гэтым не падумаў? Малайчына, Андрэй.

Паддубны, пасланец і Сцяпан чакалі адказу.

— Я лічу, што для вырашэння пытанняў хопіць таго складу людзей, якія ёсць,— дыпламатычна заявіў Андрэй.

Пасланец з Паддубным пераглянуліся.

— Я лічу таксама, што хопіць, — сказаў з-за пляча Санкоўскага Сава.

— Я далучаюся да іх,— дадаў Санкоўскі.

Пасланец з Паддубным зразумелі адразу, што Андрэй у чымсьці праў, але пытанне вымагала якога-небудзь лагічнага заканчэння, і яны чакалі. Калі ж да заявы Андрэя далучыліся Сава з Санкоўскім, пытанне палічылі вырашаным, і Сава шмыгнуў у кусты. Ён сказаў Падаляку, што нарада сягоння не адбудзецца, што яму, Падаляку, Андрэй даў даручэнне, каб ішоў да царквы св. Антонія і пасля далажыў, што там будзе бачыць і чуць. І зазначыў, як казаў Саву Андрэй, што гэта — важнае даручэнне. Падаляка крыху паморшчыўся ад слоў Савы і нейкі час стаяў у задуме, а пасля сказаў:

— Ну, што ж... пайду... дысцыпліна, брат, для мяне рэч вядомая...— і, пацiснуўшы руку Савы, накіраваўся нацянькі на дарогу. Калі Сава вярнуўся, сябры змянілі месца нарады, на ўсякі выпадак,— адышліся з кіламетр па рове.

— Сюды ніякі сабака не загляне,— сказаў Сцяпан,— але... чорт ёсць чорт — жартаваць умее...

Пазнаёміўшыся з абстаноўкай, пасланец сказаў:

— Узрываць завод не трэба... Яго трэба спаліць... Трэба, у даным выпадку, ісці па лініі традыцый народных паўстанняў, дзе народ у барацьбе з феадаламі, памешчыкамі карыстаўся агнём... Агонь — найбольш папулярны сродак барацьбы...

Усе заварушыліся. Паддубны ўсміхнуўся — да яго дайшла правільнасць думкі пасланца, думкі, якая недзе дагэтуль тлела ў ім, але не даходзіла да свядомасці.

— Запалі цябе агонь! — вымавіў Сцяпан.— І як жа я дагэтуль не дагадаўся? Гм...— і ўжо паважнымі вачыма, па-сур'ёзнаму змераў пасланца, як быццам сцвярджаючы:

«О, гэты хлопец з глуздам... Паслухаем, што далей скажа...»

А «хлопец з глуздам» гаварыў далей:

— Па сутнасці, што ж адбываецца ў Заходняй Беларусі — так, як і ў Заходняй Украіне? Ідзе вайна з акупантамі, якая з'яўляецца працягам грамадзянскай вайны, што прашумела ў Расіі. Дзейнічаюць узброеныя атрады. Уся наша бяда пакуль што ў тым, што мы яшчэ не згуртавалі гэтых сіл. А калі вайна, то трэба рабіць, як на вайне: паліць маёнткі, знішчаць лесапільні — гэтыя стойбішчы каланізатараў, не толькі польскіх, але і амерыканскіх, англійскіх, французскіх і іншых, якія прыйшлі рабаваць нацыянальнае багацце Беларусі.

Пасланец адкашляўся, выцер хустачкай лоб і гаварыў далей:

— Не толькі неабходна мець апору ў народзе, але трэба, каб у барацьбе непасрэдна ўдзельнічаў сам народ... Вось да чаго трэба імкнуцца... Спаліць завод ці маёнтак могуць пару чалавек, але без удзелу, без падтрымкі народа, мас — гэта будзе голым авантурызмам. Гэта можа прывесці да адмоўных вынікаў... Другая задача — знішчаць карныя атрады, паколькі ёсць узброеныя сілы з народа, ратаваць насельніцтва ад тэрору, рабунку — гэта будзе зарукай падтрымкі нас з боку народа. Трэцяя задача — пабудова разведчай сеткі,— кіўнуў у бок Сцяпана пасланец,— каб мы мелі ўсюды і вочы, і вушы...

Правільна, партыя бярэ курс на ўзброенае паўстанне, але не спускае з вачэй і тых фактараў, якія не спрыяюць паўстанню. І нам, камуністам, трэба аб гэтым ведаць, каб дарма не кідаць на злом лепшыя сілы народа.

— А які ж гэта той фактар? — дапытваўся Сцяпан.— Можа, мы дарма турбуемся?

— Турбуецеся вы недарма... І трэба як мага больш турбавацца... Справа ў тым, што ў народзе змагаюцца дзве сілы. Адна — гэта імкненне да спакою. Людзі стаміліся ад вайны. Гэта галоўным чынам датычыць дарослых, пажылых. Яно і зразумела. Людзі вярнуліся з бежанцаў на свае зруйнаваныя гнёзды... Гэтых людзей, нашых сялян, мы можам назваць сілай пакуль што патэнцыяльнай. Яны прыйдуць у рух пазней. Другая сіла — гэта моладзь і ўсе ўдзельнікі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны ў Расіі. Яны хочуць біцца з ворагамі. Гэта актыўная, вырашальная сіла. Яна ўрэшце павінна пацягнуць і пацягне ўсю масу працоўных. Нам толькі трэба апераджаць, выкрываць во-

рагаў — розных эсэраў, самазваных апекуноў над народнай нядоляй, каб яны не падрывалі саюзу сялян з рабочымі. Яны ж дзейнічаюць іменна ў гэтым напрамку...

Паддубны, слухаючы пасланца, сцвярджаў сам сабе з задаваленнем, што яго даклад на акруговай канферэнцыі ў Баранавічах быў правільны. Аднак для поўнай яснасці, калі пасланец скончыў, запытаўся:

— Ці існуюць у партыі імкненні да адкрытага ўзброенага паўстання зараз жа, не аглядаючыся ні на што — ні на суадносіны сіл, ні на настроі, ні на ўдзел польскага пралетарыяту?

— Такія настроі існуюць... Больш скажу, існуе небяспека апазіцыі па гэтым пытанні... Некаторымі членамі партыі авалодалі эсэраўска-тэрарыстычныя настроі... Зразумела, гэта антымарксісцкі, антыленінскі падыход да пытання... Такія настроі трэба папярэджваць, перамагаць...

Паддубны толькі адказаў: «Усё ясна...» Сцяпан Каваль — ён жа Прайдзісвет — чамусьці выняў нагайку з-за пояса і, размахваючы ёю на вышыні вуха, сказаў, звяртаючыся да пасланца:

— Добра ты спяваў... Харошая твая песенька... Будзем жа і мы яе спяваць... Гэ... спевакоў у нас многа, як вось гэтых соснаў... У лес мы прыходзім і шукаем лепшыя дрэвы,— таксама і ў народзе шукаем лепшых спевакоў, каб яны ігралі і скакалі, каб на панах скура гарэла... Ёсць у нас такія, ёсць... Добра, дзякую за навуку... Хлопец ты з вялікім глуздам... Як паедзеш у горад, перадай таварышам, што лес — шуміць...

А потым Сцяпан нахмурыў свае пасівелыя бровы, з-пад якіх вочы неяк па-бацькоўску засвяціліся іскаркамі гумару.

— А вы там таксама гэтую буржуазію таўчыце пад бокі, не давайце ёй спакою... А мы з панамі тут парадачак зробім...

Усе засмяяліся.

— Я за Леніным іпоў, за Леніна і памру... Вось як! — страсянуўшы нагайкай, закончыў Сцяпан.

Пасланец, Паддубны і Сцяпан адышліся ад астатніх крыху ўбок на асобную нараду. Яна ішла нядоўга. У канцы яе паклікалі Санкоўскага.

Пасланец сказаў:

— Вось што, таварыш, мы думаем накіраваць цябе на адказную работу туды, на Буг, сакратаром акругкома...

Якая твая думка? — ва ўпор глядзеў на Санкоўскага пасланец.

— Воля партыі, таварышы, куды скажуць — туды пайду...

— Ну, і добра... Пароль і месца яўкі атрымаеш ад мяне. Забірай сваю групу таварышаў, няхай стануць на працу там на адной з лесапільняў... Насельніцтва там мяшанае — і польскае і беларускае, але больш польскае...

— Я ведаю,— адказаў Санкоўскі.

— Пакуль усё... — сказаў пасланец. Санкоўскі адышоў.

Пасланец даваў інструкцыі Паддубнаму, называючы яго псеўданімам:

— Слухай, Стары, хлопцаў не марынуй на адным месцы. На заводзе яны ўжо сваё зрабілі, пасылай іх у раёны, няхай арганізуюць ячэйкі...

Тройка вярнулася. Пасланец паклікаў Санкоўскага на асобную гутарку, перадаў яму месца яўкі і пароль. Потым асобна паклікаў Андрэя. Доўга глядзеў яму ў вочы, як быццам стараючыся ўведаць яго адразу, а потым з прыхільнасцю паклаў яму руку на плячо.

— Здаецца, недзе я цябе бачыў... Можа, так толькі здаецца. Вось што, малады чалавек... У знішчэнні завода ты ўдзельнічаць павінен... І павінен будзеш непасрэдна кіраваць... Потым пойдзеш у вёску Дзяды, там сустрэнеш дзяўчыну і перадасі ёй вось гэтую запіску...— І пасланец падаў Андрэю невялічкі кавалачак паперы, скручаны ў цыдулку.— Зашый яе ў рубец сарочкі... Дзяўчына гэтая — работнік ЦК камсамола. З ёю ты пойдзеш, куды цябе накіраваў Стары,— пойдзеш у Глушэц і далей. Зразумеў? Вазьмі сабе псеўданім...

— Я хачу называцца «Анатоль».

— Ну і добра... Пра цябе я ўжо ведаю крыху ад Старога... Я называюся «Васіль».

Пасланец вярнуўся з Андрэем да сяброў. Акінуў усіх вачыма, на кожным крыху спыніўся, як быццам хочучы перадаць на развітанне свой імпэт, свае пачуцці да рэшты. Была ў гэтым патайная засцярога: «Глядзіце пільна, вораг здрадлівы і хітры, каб ён вас не ашукаў...»

І пасланец пачаў развітвацца з Санкоўскім, Андрэем і Савам. Кожнага абняў, пацалаваў, і пасля агульнага для ўсіх паклону Андрэй упершыню пачуў тыя словы, якія пасля спадарожнічалі яму праз многа год. Пасланец, узняўшы правую руку, сказаў: «Сустрэнемся на барыкадах».

І, звярнуўшыся да Паддубнага і Сцяпана, прамовіў, ківаючы ўбок галавою: «Пайшлі».

Санкоўскі, Андрэй і Сава накіраваліся ў процілеглы бок.

## «ХАЦІНАМ — МІР, ВАЙНА — ПАЛАЦАМ!»

Рукі не хацелі брацца за працу. Навокал такая цеплыня, што толькі бору і расці і пахнуць жывіцай, што толькі кветкам харашыцца на лясных палянах у росныя ранкі. Ды і сапраўды была пагода на свеце — сонечныя дні і ціхія, цёплыя ночы. Але не таму асела цішыня ў душы Андрэя. Ён глыбока задумаўся над тым, што было і што мае быць: у душы адбывалася асваенне даручанага задання. Ды хіба можна наогул назваць такое заданне заданнем? Гэта нешта непараўнальна большае. Гэта мае быць падзеяй, якая стане ў ланцуг іншых падобных падзей і звяжа цяперашняе з мінулым і дасць напрамак для будучага. Андрэй адмахваўся ад такіх думак. «Навошта мне яны? Я выканаю заданне і — усё. Навошта яны лезуць да мяне, гэтыя думкі? Без іх, здаецца, было б лягчэй...» Але другі ўнутраны голас казаў: «Правільна, было б лягчэй, але гэта азначала б, што і пачуццё адказнасці было б павярхоўным... Гэта і добра, што ты хочаш бачыць вобраз падзеі, наперад адчуваеш на сабе, як ні хочаш, нават павеў гісторыі... Гісторыя... Гэта яна — партыя — дакранулася сваім пярстом да твайго чала, і вось ты ўжо гарыш...» Андрэй уздыхаў і клаўся на нары жыватом, хаваючы твар у сваю куртку-падушку, каб засяродзіцца... пасля заснуць... Але — не спіцца.

Усю ноч, як і заўсёды, ішлі з Санкоўскім за дошкай — плылі насустрач цыркулярцы. Рукі неахвотна бралі дошкі, ногі неахвотна ўпіраліся. І канец працы быў такой палёгкай, як ніколі. Аднак не спіцца. Адным вокам з-пад локця Андрэй глядзіць у акенца барака — туды, на пляц, дзе чорны дым з высокага коміна спакойна кладзе сцежку ў блакіце. А ля акна збоку стаіць маладая бярозка і ўсё дрыжыць і дрыжыць лісцямі, кідае на зямлю ля самага акенца свае кучаравыя цені.

«Можа, цяжка яшчэ і таму, што хутка расстануся з Санкоўскім, не пачую яго думак, поўных сакавітага гумару, што расстануся і з такім адданым вартавым — Савам... Не пачую задушэўнага смеху Захара Зубца і «бажэственых»

маралізатарскіх выказванняў «сялянскага філосафа» Марціна Шапко і нават крыху нелюбімага Падалякі з яго позай і грымасай «высшасці».

Так, ёсць нешта і ад гэтага, але яно — не галоўнае. Галоўнае, відаць, заключаецца ў тым, каб заданне «выканалася» ва мне самім перш, чым будзе выканана на самай справе...»

А бярозка ўсё дрыжыць і дрыжыць...

Па бараку між нараў прасунулася постаць Чараніцкага з папяросай у зубах. Дайшоў амаль да акна, спыніўся, глянуў на рабочых, якія спалі, глянуў на Захара Зубца, які, па свайму звычаю, хроп на ўвесь барак. Потым выняў папяросу з зубоў, абтрос попел, пакруціўся туды-сюды, як быццам хацеў каго будзіць, але не адважыўся і пайшоў да выхада. Андрэй правёў яго позіркам і, калі Чараніцкі знік за дзвярыма, усхапіўся на ногі.

Прыгладжваючы валасы, казаў сам сабе:

«Тут прафіласофствуеш царства нябеснае... Тут нешта ёсць...»

І адчуў, як цяжар адлёг ад сэрца. Хочацца хутчэй дзейнічаць. Пабег будзіць Санкоўскага. Санкоўскі быццам спаў, але на самай справе толькі драмаў. Яму таксама было неяк не па сабе. Спаважнеў, задумаўся. Скончыцца яго бадзячае жыццё па бараках, пачнецца нешта новае. Пакрэхтваў, устаўшы, шукаючы партабак у кішэні пасцеленага пад бок каптана. Вельмі ўсцешыўся, што ўбачыў Андрэя.

— Штосьці не спіцца, Анджэю, хацеў ужо ўставаць і выйсці на пляц — праветрыцца... Добра, што ты прыйшоў...

Калі ж Андрэй расказаў, што ў барак нядаўна заходзіў Чараніцкі і што яго паводзіны выклікаюць падазрэнне, Санкоўскі нахмурыўся.

— Гм... пся крэў... Стась Барвіна казаў, што ўчора прыходзіў сюды камендант пастарунка з дырэкцыі Пшэборскага — Качура і з Чараніцкім пілі ўвесь вечар. Каб яны чаго не пранюхалі...

— А Падаляка казаў, што ля царквы св. Антонія на фэсце таксама былі Чараніцкі і Качура...

— Дзіўна... Пойдзем паглядзім на пляц,— сказаў Санкоўскі,— калі што, дык трэба збіраць манаткі зараз жа... Заўтра выплата...

Праходзячы між нараў, Андрэй заўважыў, што недалёка ад яго месца ляжыць згорнутая паперка, як быццам

кім згубленая. Андрэй узяў яе ў рукі, разгарнуў,— гэта была лістоўка, адна з тых, якія раскідаліся на масоўцы. Сябры глянулі адзін аднаму ў вочы. Здагадка прыйшла зараз жа: гэта работа Чарапіцкага.

Цень закрыў акенца — мільганулі боты. Андрэй нагнуўся і паспеў заўважыць серабрыстую нашыўку на рукаве. У барак ішоў Качура.

— Качура ідзе...— спахапіўся Андрэй.

— Бяжым на свае месцы і кладземся,— сказаў Санкоўскі. Андрэй, бегучы, сунуў лістоўку ў рот і пачаў яе бязлітасна жаваць. Бухнуў на сваё месца і ўткнуўся тварам у куртку.

Качура ўвайшоў у барак не адзін. Следам усунуўся Чарапіцкі. Уся начная змена рабочых спала. У бараку вісела тая сонная цішыня, калі, здаецца, кожны стук з'явіўся б злачынствам. Качура з Чарапіцкім павольна ішлі ля нар, прыглядаліся. Прайшлі раз і другі. Качура спыняўся, дзе ў каго прыўзнімаў крысо рассцеленай курткі. Ля таго месца, дзе Андрэй узяў лістоўку, Чарапіцкі стаў і паказаў вачыма Качуры на нары. На тым месцы ўжо ляжалі ногі Савы. Качура іх нават адсунуў убок. Але там нічога не было. Качура і Чарапіцкі пераглянуліся, як быццам пытаючыся,— што рабіць? Пастаялі і выйшлі.

— Можам чакаць масавага вобыску,— сказаў шэптам, падышоўшы да Андрэя, Санкоўскі,— трэба папярэдзіць усіх...

Санкоўскі не памыляўся — Качура з Чарапіцкім іменна вырашылі зрабіць масавы вобыск, але на гэта трэба многа паліцыі, трэба ехаць у павет. А да таго — заўтра нядзеля, выплата — нязручна. Адлажылі на панядзелак,— начную змену абшукаць удзень, а дзённую ўначы. Але паны... пралічыліся.

Выплата павінна была распачацца, як заўсёды, у дзевяць гадзін ранку. Андрэй прачнуўся а восьмай гадзіне. Ну што ж — спаў амаль дзве гадзіны пасля начной змены. Перш-наперш пабудзіў сваіх хлопцаў, пасля пайшоў да Санкоўскага. Ідучы па бараку, бачыў, што рабочыя з начной змены спалі, хоць дзённая шумела, не зважаючы ні на што. Барак тут, як і на заводзе Пшэборскага, быў пабудаваны таксама амаль напалавіну ў зямлі, толькі меншых памераў. Рабочыя праводзілі Андрэя вачыма, усміхаліся, ківалі галовамі на прывітанне, як свайму. І Андрэй адчуваў, што гэтыя загрубелыя ў працы людзі, пазіраючы на

яго, насілі ў сабе ўцеху, як дзеці, якія пры небяспецы маюць за каго затуліцца.

Не раз неяк прыходзіла Андрэю ў душу такое адчуванне і ўзнікала вось такое акрэсленне, ад якога нешта харашэла на сэрцы... А цяпер Андрэй, ідучы па бараку, адчуў «гэтае хараство» так адразу і так выразна, што, здавалася, яно ішло з позіркам людзей следам за ім.

Польскія рабочыя не спалі. Прывіталі Андрэя бадзёрымі позіркамі, нейкімі, як здалося Андрэю, мнагазначнымі і таксама блізкімі, амаль роднымі. Паціскалі руку энергічна, з таварыскай ветлівасцю, пашанай, як быццам ціхенька заглядаючы Андрэю ў душу. Санкоўскі правёў з імі яшчэ ўчора апошнюю гутарку. Цяпер ён, толькі што памыўшыся, стаяў і павольна прычэсваў загладухай свае мокрыя валасы. Твар яго, крыху пастарэлы, быў ясны, як у гаспадара ў святочны ранак. Станіслаў Барвіна, пры сваёй некаторай няўклюднасці, быў рухавым. Высокі, шыракаплечы, ён хадзіў бадзёра, выпрастана, як салдат, які ўжо гатовы да далёкага маршу. Запрасіў Андрэя сесці, адкідаючы ўбок крысо нечай курткі, а сам пачаў абходзіць таварышаў сваёй групы, нешта ўпаўголаса гаворачы з кожным. Пасля паклікаў Санкоўскага і яму штосьці сказаў. Санкоўскі толькі прамовіў: «Зараз» і падышоў да Андрэя. Андрэй, не даючы яму сказаць, прамовіў: «Выйдзем крыху на пляц, там скажаш, дапаможаш мне ў апошні раз...» Санкоўскі, ні хвіліны не марудзячы, надзеў сваю шэрую заношаную кепку, у якой ён выглядаў як быццам меншы ростам, сказаў, як адсек: «Пойдзем». Павярнуўся да сваіх, кінуў: «Зараз вернемся».

Выйшлі. Сонца залівала пляц, запоўнены ярусамі бярвенняў — доўгіх і кароткіх, сярод якіх, здавалася, напалавіну хаваўся сам будынак завода з высокім чорным комінам. Навакольны лес дыхаў роснай вільгаццю. У яго густую засень стрэламі прабіваліся сонечныя прамені, ад чаго пад галінамі дрэў утвараліся ўтульна асветленыя сховы. Налева ад завода, амаль пры самым лесе, стаяў невялікі пасёлачак, сярод якога вылучаўся двухпавярховы дом дырэктара, пабудаваны са свежай сасны, на габляваных сценах якога застыглая струменьчыкамі смала блішчала на сонцы. Побач — будынак самой дырэкцыі, доўгі, нізкі і асадзісты. А далей раскіданы домікі службы — пляцовых, работнікаў канцылярыі і гаспадарчыя будынкі. Усё пакрыта адборнымі, дабротнымі гонтамі. З дырэктарскага дома даляцелі гукі музыкі — нехта іграў па піяніна. Гукі

плылі — меладычныя, мяккія, па-над ярусамі, лесам і яшчэ больш падкрэслівалі кантраст між хараством прыроды і навакольным жыццём сотняў людзей.

Андрэй з Санкоўскім накіраваліся да завода. Ён стаяў ціхі, мёртвы. Усе вароты, дзверы былі шчыльна зачынены. Толькі ластаўкі шыбалі пад падстрэшшам з бесклапотным шчабятаннем. А побач за пару крокаў ад сцяны завода, як курганы, узвышаліся кучы пілавіння, пабраклага ранняй вільгаццю. Такіх «курганоў» было аж тры. «Гэта — добра...» — сцвердзілі Андрэй з Санкоўскім.

Сягоння нядзеля, усе будуць заняты выплатай. Ніхто сюды не прыйдзе — той-сёй будзе п'яны, будуць спяваць і скакаць пад губны гармонік Краўчука Макара, таго, што разыгрываў «панскую літасць» у бараку дырэкцыі Пшэборскага. Гэта хлопец — краменьчык, якіх няма. Задзёрысты, спрытны, насмешнік удалы. Яму ніколі не сядзіцца на месцы,— то ён іграе ў шашкі, то дужаецца з кім. А калі ўжо стоміцца «бушаваць», возьме свой губны гармонік і пачне выводзіць такія лірычныя, задушэўныя мелодыі — вальсы, песні, што кожны падумае — і дзе ён так навучыўся? Цесна хлопцу, цесна — няйначай... Ён уяўляецца Андрэю перад вачыма — заўсёды смяецца ва ўвесь свой пуцалаваты, жвавы твар з моцнымі зубамі. Андрэй учора гутарыў з ім,— Макар Краўчук завярбаваны Савам у атрад Сцяпана. Андрэй даў яму загад — іграць у нядзелю як мага больш, і Макар Краўчук будзе іграць.

Агледзеўшы завод, Андрэй з Санкоўскім накіраваліся да пасёлачка.

— Што ж казаў табе Барвіна? — спытаўся Андрэй.

— Барвіна? Клапаціўся аб тым, каб з табою на развітанне чаркай чокнуцца... О, Барвіна — гэта такая апора, што дай божа...

Санкоўскі засмяяўся і працягваў:

— Учора прапанаваў на адходную адлупіць Чарапіцкага... Я адгаварыў Барвіну. Чарапіцкі з часам знойдзе свой ганебны канец... Але баюся, каб Барвіна, падвыпіўшы, не зрабіў гэтага...

Сябры, паволына прабіраючыся паміж ярусаў, пачулі ў аддаленні гоман. Да вушэй асобнымі фразамі пачала далятаць гутарка па-польску са шляхецкім акцэнтам. Гоман набліжаўся. Андрэй з Санкоўскім прыселі на бервяно ля павароту на пасёлак. На скрыжаванне дарог выйшла чалавек пятнаццаць, наперадзе ішоў дырэктар. Усе былі ў каштоўных убраннях — хто ў шэрым касцюме, хто ў цёмным,

у каго гузікі цёмныя, у каго пазалочаныя, у некаторых карычневыя штаны з цёмнымі лампасамі. На нагах то бацінкі-лакіроўкі, то жоўтыя бліскучыя крагі. Усе ў капелюшах, у большасці капелюшы з пушыстымі пер'ямі, як шышакі над шлемамі ў колішніх рыцараў. Твары з вусамі і без вусоў, паголеныя, напамаджаныя. Кожны апіраўся на адмысловую палку. Двое неслі на руках для забаўкі па маленькім шэрым пакаёвым сабачку і песцілі іх, гладзячы асцярожна вольнай рукой. Некаторыя курылі папяросы, у дваіх тарчалі ў зубах па-мастацку аздобленыя люлькі. Пах парфумы з пахам табакі лепшага гатунку абдаў Андрэя і Санкоўскага. У групе ішлі і дзве жанчыны. Адна маладая ў саламяным капелюшы з дзівацкім заломам наперадзе і ў блакітным плацці — жонка дырэктара. Яна ішла з адным панам і час ад часу залётна смяялася. Другая жанчына была старая, пасівелая, з адкрытай галавой, у чорным доўгім убранні з насавой хустачкай у руцэ. Гэта — маці дырэктара. Сам дырэктар — яшчэ малады, у шэрым капелюшы без пер'яў, павольна крочыў наперадзе, апіраючыся на палку, крыху апусціўшы галаву. Брунет, гладка паголены, ён час ад часу нагінаўся да маці, якая ішла побач, і тады відаць быў яго касцісты профіль з простым носам. Гэта ішлі сапраўдныя польскія паны — госці дырэктара, познанскага лесапрамыслоўца пана Зарэмбскага. Госці, усе пад хмяльком, ішлі аглядаць яго ўладанні, якія так лёгка здабываюцца на «крэсах усходніх».

Агледзеўшы багацці, яны пойдуць на той старадаўні шлях, дзе столькі застыла рамантыкі,— і ў старых, навіслых над ім соснах, і ў каляінах, што пабеглі па жоўтаму сыпкаму пяску ў бясконцыя лясныя прасторы...

Можа, хто з іх з фантазіяй і скажа:

— Шлях... Ну, дакладнютка, як апісаны ў трылогіі Генрыха Сянкевіча... [1]

І ўсе спыняцца і, сціхнуўшы, загледзяцца ў тую далячынь, куды бяжыць гэты бясконцы шлях. Шмат што заварушыцца ў іхнім уяўленні, пакуль хто-небудзь тонам «дзелавога чалавека» скажа «канфідэнцыяльна», махнуўшы палкаю ўдаль: «Вось гэта шлях нашай экспансіі на ўсход...»

...Не, дарма, паны. Не вярнуць вам старой шляхецкай рамантыкі — цяпер гэты шлях ахоўваюць іншыя людзі, і вы, паны, жывяце на «ўсходніх крэсах», як на вулкане.

---

[1] «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыеўскі».

Вы не ведаеце Сцяпана Каваля, які нездарма назваў сябе Прайдзісветам. Ён сягоння прыйдзе сюды ўначы са сваімі малойцамі...

Ён ахоўвае шлях...

Калі Андрэй з Санкоўскім вярнуліся з пасёлачка, выдача зарплаты была ў поўным разгары. Сталі ў чаргу і хутка атрымалі свой невялікі заробак. Рабочыя групамі разыходзіліся — хто ў барак, хто падаўся шукаць чаркі хмельнай... На пляцы, на ярусе, на самым высокім бервяне сядзеў ужо Макар Краўчук і іграў. Навокал тоўпіліся рабочыя — хлопцы і дзяўчаты. Некалькі пар танцавала вальс. Сярод іх з чупрынай, вышэйшы за ўсіх, Станіслаў Барвіна. Далікатна абняўшы сваёй вялікай моцнай рукой за стан дзяўчыну, ён паказваў цуды гібкасці ў кожным руху. У гэтым не было ніякай штучнасці — была толькі непасрэднасць і лёгкасць. Спакоем, нават урачыстасцю, свяціўся яго твар. Дзяўчына прыпала да гэтага «асілка» і плыла, як пярынка, а Барвіна то ішоў наперад, то адступаў назад перад ёю, то рабіў некалькі плаўных віхраватых абаротаў, і здавалася, што ўсе, хто стаяў навокал, прыталі дыханне.

Андрэй з Санкоўскім ужо доўга назіралі за танцамі, стоячы ў натоўпе, чакалі, пакуль Барвіна не скончыць. Санкоўскі толькі прамовіў раз:

— У гумары сягоння Барвіна... я думаю, што мог бы ў танцы даць ціць тым, што пайшлі ў шышаках... Пся крэў, не магу глядзець на гэтых пёсікаў, агіда мяне бярэ... Гэтымі днямі дырэктар запрашаў доктара з горада — лячыць аднаго пёсіка...

Андрэй зарагатаў:

— А як жа ты думаў? Гэта ж і ёсць тое, што можна назваць спусташэннем буржуазіі...

— Так, іменна спусташэннем,— пацвердзіў Санкоўскі,— а вось калі рабочы захварэе, то ніякі сабака не загляне, хоць здыхай... Ну, Барвіна ўжо скончыў... Выглядае, як на вяселлі.

Барвіна праціснуўся цераз натоўп да Андрэя і Санкоўскага і з ходу сказаў: «Пойдзем».

Размясціўшыся ў кутку амаль пустога барака, выпілі, як кажуць, на развітанне. Барвіна быў сапраўды ў настроі. Гаварыў, звяртаючыся да Андрэя:

— Дрогі таважышу... Тое, што я адчуў, зразумеў тут, панясу праз усё жыццё... Нічога, яшчэ зажыве ваша Беларусь у адзінай згодзе, у адзінай дружбе з Польшчай, бо

мы ўсе за адно... За адзінства ўсіх народаў... Так я гавару?

— Так, вось за гэта і вып'ем...— адказаў Андрэй.

— Але гэтаму Чарапіцкаму мне хочацца адкруціць галаву на развітанне... Гэта ж ка́пусь [1], гэта шпіцаль, пся крэў...

— Не рабі глупства, Стасю, можаш пашкодзіць цяпер усёй справе,— сказаў Санкоўскі.

Уся астатняя група — восем чалавек — трымалася чыппа, не выскаквала з гутаркамі. Той-сёй дадаваў — то слова абурэння, то жарт. Гэтыя спрацаваныя людзі з цікай сімпатыяй глядзелі на Андрэя, поўныя давер'я і прыхільнасці. Андрэй, у сваю чаргу, не шкадаваў ім харошых слоў.

— Помніце,— сказаў на развітанне Андрэй,— дружба — гэта вялікая сіла... Вып'ем за тое, каб мы ніколі не сышлі з гэтага слаўнага шляху — шляху барацьбы за вызваленне польскага, беларускага, украінскага і іншых народаў ад гідры капіталізму, каб мы дачакаліся гэтага вызвалення і сваімі рукамі будавалі сацыялізм...

— Дай божа... На здароўе...— з шумам адказалі ўсе, і чарка пайшла ўкругавую.

Скончылі. Хтосьці глянуў на гадзіннік. Было ўжо за дванаццаць.

— Пара ў дарогу,— сказаў Санкоўскі, і ўсе пачалі збірацца. Было вырашана раней, каб група польскіх рабочых выехала ўдзень. На ўсякі выпадак трэба было збіць з тропу тых, хто сачыў за рухам на заводзе, за дружбай беларускіх рабочых з польскімі. Калі здарыцца правал, дык не для ўсіх. Большасць усё роўна застанецца для далейшай работы. І таму вырашылі, што Андрэй праводзіць іх на станцыю не пойдзе.

Развіталіся, абняліся. Санкоўскі спыніўся на момант і паглядзеў на Андрэя:

— А шкада... Прывыклі... Дрогі Анджэю, дзе б мы ні былі, будзем шукаць адны другіх... Скажу і я на развітанне, як сказаў той — разумееш...— «Сустрэнемся на барыкадах».

Андрэй правёў іх толькі да парога барака.

Калі дзверы зачыніліся за апошнім, ён адвярнуўся і важкаю хадою пайшоў між нар, глыбока задумаўшыся. У бараку не было ўжо ніводнага чалавека. Андрэй хацеў

[1] Даносчык, шаптун.

навaт крыху прылегчы, каб сабрацца з думкамі, як уляцелі ў барак Сава з Захарам Зубцом.

— Дык яны пайшлі ўжо? — спытаўся Сава.

— Пайшлі...

— Трэба было б іх папярэдзіць, каб не ішлі міма людзей, што на гулянцы...

— Яны і не пойдуць... Яны не дурныя...

— Бо бачыш,— паспешліва працягваў Сава,— наш Падаляка задраўся з Чарапіцкім у танцах... Хацелі пабіцца — ледзь развялі... Калі б убачыў Санкоўскі, мог бы зноў...

— Не, яны не пойдуць... А што Падаляка задраўся, гэта дрэнна... За Чарапіцкім трэба сачыць, куды ён пойдзе, з кім будзе мець гутарку і гэтак далей... Не шкодзіла б сягоння ўначы аддаць яго ў навуку Прайдзісвету. Разумееце?

Захар Зубец пацярусіў смяшком. Вочы бліснулі ад задавальнення.

— Дык гэта мы зробім...— працягнуў.

— Ідзіце і скажыце Падаляку ад майго імя, каб больш не задзіраўся... А дзе наш апостал? Нешта ён спахмурнеў за апошнія часы... Па-мойму, гэта к лепшаму...

— Шапко сядзіць на гулянцы, курыць...

— Перадайце яму, каб не забыўся пра сваё заданне. Хай сочыць за тымі панамі— гасцямі, дзе яны будуць паварочвацца... Асабліва калі зойдуць на завод, і што будзе пасля... Вы там залішне наклалі стружак у адным месцы...— гаварыў стомленым голасам Андрэй, а потым, уздыхнуўшы, сказаў: — Ох, хлопцы, як я хачу спаць...

— Бяры каптан і ідзі ў ярус аж пад лес, туды, дзе мы адзін раз спалі... Я цябе пабуджу,— сказаў Сава.

— Добра,— прамовіў, падумаўшы, Андрэй. Узяў каптан і, сказаўшы: «Пабудзіш праз дзве-тры гадзіны, калі не здарыцца што надзвычайнае»,— выйшаў [redacted] барака.

* * *

Ноч надышла духмяная, цёплая. Увесь пляц з ярусамі пачаў ахінаць густы змрок. Лёгкая дымка туману непрыкметна выпаўзала [redacted] лесу і ахутвала ярусы і цёмны завод з высокім чорным комінам. Тонкім, цьмяным промнем падала святло з маленькіх акенцаў, якіх у бараках было толькі па аднаму. Затое палалі вокны там, у пасёлку, асабліва ў доме дырэктара, які ўзвышаўся над пасёлкам. Ад-

туль час ад часу далятала музыка, і ў вокнах мільгалі цені.

У дырэктара — баль. Гуляюць госці і, можа, маюць намер гуляць усю ноч. Урэшце бліснуў адзін-адзіны ліхтар на пляцы. У яго бляску вобмацкам насоўваецца шэрая чалавечая постаць без шапкі. Вось-вось, здаецца, упадзе, але, ухапіўшыся за бервяно ў ярусе, спыняецца, адпачывае, а потым зноў цягнецца наперад. Валасы ў гэтага чалавека ўскудлачаны, вочы змярцвелыя, заплыўшыя панурай беллю. Гэта ідзе Селядцоў, былы капітан дзянікінскай арміі, п'яны да знямогі. Нешта злавесна мармыча і сыпле «маты» направа і налева. Інстынктыўна імкнецца, відаць, да барака. Але дарогі яшчэ яму, п'янаму, добры кавалак. Калі дойдзе — невядома. А як дойдзе, будзе доўга, як заўсёды, шукаць дзверы.

А ў бараку шум. Некаторыя спяць, але такіх мала. Увесь час не перастае іграць Макар Краўчук. Уся пяцёрка — Андрэй, Сава, Захар, Марцін Шапко і Іван Падаляка — выйшлі з барака і ўтульна размясціліся пад ярусам, блізка ля завода. Нават торбаў з сабою не ўзялі, каб гэта не кідалася ў вочы пры выхадзе з барака. Сядзелі моўчкі. Праходзіць гадзіна, другая. За лесам недзе блукае месяц — ён зараз вырвецца з лясных нетраў і выплыве на шырокія нябесныя прасторы. Не трэба гэтага чакаць. І таму Сава пайшоў у напрамку пасёлка — сустрэць Сцяпана Каваля. Пара ўжо быць яму тут.

Чакалі нядоўга. Сава прыбег засопшыся і сказаў, што Сцяпан з атрадам стаіць за сценамі пасёлка...

— Сава, Захар, Падаляка — за справу,— сказаў Андрэй,— у імя народа няхай... Ты, Марцін, ідзі пашукай вартаўніка...

А вартаўнік, дзед Пятро, які кожны ранак ля агню перасцерагаў «сцеражыцеся з агнём», цяпер спаў у сваёй будцы з аполкаў ля ярусаў дошак недалёка ад завода.

Андрэй убачыў, як чырвоным полымем нешта ўспыхнула на тычцы — гэта Захар Зубец падпаліў анучу, намочаную ў змазачным масле, і кінуў за вароты, дзе стаяў рухавік. Полымя шуганула ўнутры, як ад пораху, і адначасова з двара на ўсе чатыры сцяны палезлі вогненныя языкі ад стружак. Пачуўся трэск — полымя імкліва, з прагнасцю пачало лізаць сухія дашчаныя сцены.

Густы дым паваліў з-пад страхі і ахутаў, схаваў у сваіх клубках высокі комін завода.

Сцяпан Каваль са сваімі малойцамі тым часам наля-

цеў на пасёлак, спыніў дынама-машыну, што стаяла збоку ў невялікім асобным будыначку, і акружыў дырэктарскі дом. Партызаны рассыпаліся па пасёлку, у той жа час кулі саломы запалалі пры смалістых сасновых сценах.

Свіснуў Сцяпан Каваль, як той Салавей-разбойнік у лесе, і малойцы пабеглі на яго свіст, аж тупат паплыў па зямлі. Рухавай чарадой памкнуліся да завода, увіхаліся зігзагамі між ярусаў. Сталі на дарозе, па камандзе павярнуліся тварамі да пасёлка.

— Па панах — агонь! — ужо крыкнуў Сцяпан Каваль, і залп за залпам наляцелі ў дом дырэктара, а пасля па ўсім пасёлку.

Пажар заўважылі як з баракаў, так і з пасёлка толькі тады, калі пагасла электрычнае святло. Але цяпер яно і так было не патрэбна. Усё наваколле азарала полымя. Яно шугала ў цёмнае начное неба, асвятляючы ўвесь пляц і дрэвы на ўзлессі. Рабочыя спыніліся ля завода. Наперадзе стаў узброены атрад Каваля. Побач з Кавалём стаяў Андрэй са сваёй групай.

З пасёлка даляталі крыкі. Захар з Савам нідзе не знайшлі Чарапіцкага — чулі ад другіх, што ён бег праз пляц без шапкі ў напрамку лесу. Няйначай уцёк. Толькі бачылі, ідучы з пасёлка, як на адчыненых дзвярах бліжэйшага барака павесіўся Селядцоў. Ён напэўна першы начуў стрэлы, у час свайго «падарожжа» да барака заўважыў пажар і пакончыў з сабою. Рабочыя, выбягаючы з барака, не звярнулі на яго ўвагі, і Селядцоў быў відаць цяпер, як удзень,— вісеў, укленчыўшы на зямлю, на сваім раменным пояску, зачэпленым за дзверы.

Усе адступілі на большую адлегласць ад завода, бо ведалі, што павінна ўзарвацца кацельня. Узрыў кацельні быў раптоўны і такі моцны, што некаторыя аж прыселі. Вогненным слупам узнялося полымя ў вышыню і асела. І тады Сцяпан Каваль зняў шапку, знялі шапкі і ўсе. Ён пачаў, а за ім з усіх грудзей вырвалася і панеслася ў гушчыню навакольнага лесу:

Вставай, проклятьем заклейменный,
Весь мир голодных и рабов...

Пасля гімна Сцяпан падаў каманду: «Разыдзіся!» І ўсе рушылі...

Андрэй крыкнуў услед адыходзячым на ўвесь свой зычны голас: «Хацінам — мір, вайна — палацам!»

Раздзел другі

## ЛЯСНЫЯ СЦЕЖКІ

Непраходныя і неабсяжныя лясы беларускія! Цякуць па іх нязведаныя ручаіны, скрытна і ўпарта прабіваючыся праз нетры, пад аховаю то гонкіх соснаў, то грузных вольхаў, то дубоў і клёнаў, якія ўзвышаюцца над асіннікам і арэшнікам, то непранікальных чаротаў, паніклых у задуме і цішыні лозаў на балотнай нізіне. Зацякае ручаіна ў такія месцы, дзе, здаецца, не ступала нага чалавека, у такія хмызнякі і нетры, дзе толькі прабіваюцца адны звярыныя сцежкі. Па іх прыходзяць да вадапою ласі, чародкі бесклапотных сарнаў з дзіцячымі яснымі вачыма, часам крадзецца хітрая ліса, часам адзінокі воўк, азіраючыся на ўсе бакі, прыбягае пахлябтаць сцюдзёнай вады. Дзікія кабаны гуртамі прыходзяць не толькі напіцца, але і пакупацца. І мядзведзь, даўні ўладар пушчаў, таксама прабівае сабе сцежку, прыходзячы з далёкіх, нязведаных сховаў...

Багатыя лясы беларускія... Ды не толькі звярынымі сцежкамі — багаты яны шляхамі і дарогамі. Імкнуць шляхі-дарогі з краю ў край, што, здаецца, не аббегаць іх ваўкам шпарканогім, не абляцець і сівым арлам, што тояцца ў лясных верхавінах. Ходзяць і ездзяць па іх людзі ў шэрых світках і лазовых лапцях — адвечныя жыхары лясоў, задуманыя, недаверлівыя. Мацаюць свежага чалавека вачыма — хто ён, адкуль, чый — чужы ці свой? А ў вачах на засмяглым твары тоіцца сваё — чаканне і чаканне... Калі ж пазбудземся гэтых апекуноў, што лыкамі здзіраюць скуру з цела? А з чаканнем жыве гатоўнасць: калі ж прыйдуць свае? Няхай толькі паклічуць...

Рознае бачылі на сваім вяку шляхі-дарогі, розныя чулі песні... І ўдалую песню сялянскага дзецюка, які ішоў з касавіцы да сваёй вёскі, і залётную песню дзяўчыны з вачыма, як у сарны... І тыя, нямірныя, песні, як гурмам неслася калісьці з бразгатам шабель каралеўская шляхецкая конніца і дашчэнту выпальвала вёскі і вёсачкі... Так загадвалі гетманы — князі Ярэма Вішнявецкі, Патоцкі, Радзівіл і іншыя, так загадвалі каралі з Варшавы. А насустрач ім па тых жа шляхах і дарогах плылі іншыя песні — у звоне лір і бандур на чале казакаў запарожскіх у славе народнай ехаў ён — гетман і бацька, дужы і разумны Багдан

Хмяльніцкі. І пад яго штандары ўставалі курані — ад Магілёва і Мінска па Брэст і Гродна — біцца за вёскі і вёсачкі, за мястэчкі і гарады, за айчыну сваю, за Русь вялікую. Іржалі коні, ламаліся шаблі і пікі, клаліся галовы... У дыме пажараў стогнам стагнала ўкраінская і беларуская зямля!

З той пары параслі ўжо курганы лясамі дрымучымі — вось яны мільгаюць зданямі пад аховай соснаў, уздоўж шляху стаяць чарадою.

Ішлі часы... Каваліся народныя сілы для вялікіх падзей... Праз напластаванне вякоў прабівалася ручаіна свабоды, пакуль не стала шырокай бурлівай ракою, якая прарвала ўсе запоры.

І вось так прыйшло тое вялікае, вызваленчае, што напісаў на чырвоных сцягах Ленін. Сакаліным лётам імчалася па гэтых шляхах і дарогах легендарная конніца Будзённага... Імчалася на захад, туды — да гнёзд магнацкіх і шляхецкіх, каб назаўсёды расквітацца з навалай, вызваліць і народ польскі. Мільгалі шлемы рыцараў народных з чырвонымі зоркамі, шамацелі сцяжкі на піках... З гары ў даліну, з даліны на гару, пакідаючы за сабою песню:

И мы беззаветно любили
Тебя, угнетенная страна...

Прайшло, прагудзела... Антанта раскалола надвае краіну беларускую і краіну ўкраінскую. Пілсудскі пакручваў вус ужо ў Бельведэры. Хлусіў. Іграў у дэмагогію і ўсміхаўся, што ўдалося ашукаць польскага рабочага і селяніна. Для беларусаў і ўкраінцаў рыхтаваў легіёны асаднікаў і заключаў змовы з езуітамі. Трэба ж абрабаваць зямлю і душу. Рым, вечны Рым... Экспансія на ўсход... Вось што... Дэвідэ эт імпэра[1]. Пасылай узброеныя легіёны да «варвараў» на «крэсы» і шукай апоры ў мясцовых «гаспадароў». Няхай памагаюць будаваць магутную Польшчу «ад мора да мора». І тады ўрэшце прыйдзе пагібель адвечнаму ворагу — Маскве, што цяпер у дадатак стала бальшавіцкай...

Думае, думае Пілсудскі...

На крэсах, вядома, неспакойна... Гэта — нічога... Вылавім... Нават некаторых прымусім служыць сабе.

А можа ўтварыць сейм Сярэдняй Літвы? — па-старому,

---

[1] Дзялі і ўладай — з лацінскай.

па-шляхецку гаворыць Пілсудскі, называючы і Беларусь Літвою. Сярэдняя Літва — значыць без Палесся... Трэба супрацьставіць палескіх беларусаў палянскім. «Дэвідэ эт імпэра». На Палессі лягчэй правесці паланізацыю... Можа, вярнуць мошчы якога езуіта ў Пінск? Трэба параіцца з епіскапатам... А карныя экспедыцыі няхай дзейнічаюць. Гэта адно другому не перашкаджае. Наадварот, дапамагае. Ваяводам на Палессе трэба паслаць пана Даўнаровіча. Гэты зробіць усё. Ён мясцовы, мае там дзедаўскія маёнткі.

Сейма Сярэдняй Літвы (без самой Літвы і Палесся) Пілсудскі ўтварыць не адважыўся — пабаяўся сепаратыстычнага руху. Утварыў толькі адзін сейм — сейм польскі.

А другім сказаў тонам знявагі: «Раўняць культурнага паляка з сівалапым беларусам... Гэта рэч лішняя... Ім трэба кій. І я ім гэты кій дам. Бог мяне ўсцярог для айчыны. Хацелі мяне забіць у Львове. Не ўдалося і не ўдасца... Затое я іх пачастую экспедыцыямі... Ага, там нешта Літва Ковенская варушыцца... Я яе з часам праглыну... Зямельны закон 1920 года перакрэсліць... Зямля наша... Я ім дам зямлю,— пагразіў Пілсудскі.— Польшча для бальшавіцкіх эксперыментаў не падыходзіць...»

Так думаў Пілсудскі ў Бельведэры, а карныя экспедыцыі на «крэсах» рабілі сваю крывавую справу.

Карны атрад паручыка Ельскага ўжо баяўся прасоўвацца шляхамі — шукаў абходных лясных дарог і часам сыходзіў нават на лясныя звярыныя сцежкі. Асабліва пачаў гэта практыкаваць пасля таго, як быў спалены завод бярозаўскай суполкі.

Здавалася б, чаго лепшага,— адбылася такая падзея, і трэба было б спяшацца на месца антыдзяржаўнага, на яго думку, злачынства, можа, удалося б натрапіць на якія сляды, дапамагчы паліцыі. Але паручык Ельскі, наадварот, паспяшаўся абмінуць гэтую, як ён называў, нешчаслівую суполку. Разгарнуў тапаграфічную карту і пашукаў абходных дарог. Вырашыў прайсці правей і бярозаўскай суполкі і завода пана Пшэборскага. Галоўнае — быць бліжэй да чыгункі, каб у выпадку якой небяспекі можна было прасоўвацца далей на ўсход поездам. Паручыку Ельскаму здавалася, што ім па яго карнаму шляху ўжо знішчаны гнёзды бунту — на рахунку ёсць некалькі павешаных, нямала закатаваных, а яшчэ больш арыштаваных. Нямала забралі ў сялян апошніх кароў, свіней, нямала разбілі вокнаў прыкладамі вінтовак, разбурылі печаў, пасдзіралі стрэх...

Усё для дабра айчыны — святой Польшчы. Калі пройдзем так далей, думаў Ельскі, папярэдзім усякі бунт, выкарчуем бальшавіцкую заразу. Хай ім не падумаецца, хамам, аб якой-небудзь вольнасці. Але тут замінка... Вось гэты завод. Усё ж такі спалілі. Удалося разведаць, што дзейнічаюць узброеныя сілы і недзе тут, блізка... Гэта насцярожвае. Каб не трапіць у пастку. Да маёнтка бацькі яшчэ далёка. А трэба туды дайсці, трэба ратаваць бацьку, свой маёнтак. Бацька піша, што навокал неспакойна, што хлопы расцягалі лес і, больш таго, забаўляюцца з агнём. Нядаўна спалілі фальварак паноў Палубінскіх. А гэта ж не так ужо і далёка... Таксама чуваць — дзейнічаюць узброеныя сілы, хаваюцца па лясах. Вось і прайдзі тут, калі хочаш. А прайсці трэба. Узброеныя сілы...

Давялося ўжо раз з імі сустрэцца. Гэта каштавала жыцця многім жаўнерам, ды і сам ледзь не налажыў галавою... Тут паручык Ельскі зрабіў горкую грымасу.

Уратаваўся ён, на яго думку, толькі тым, што выбег з кватэры і схаваўся на падворку ў куратніку. Няважна, што адна нага была ў боце, а другая босая і што на галаве не было шапкі. Няважна, што праседзеў там амаль за поўнач і дзяншчык думаў, што пан паручык загінуў. Шкада толькі аднаго — бандыты забралі цудоўную шаблю, падарунак бацькі яшчэ ў той час, калі на чале з «камендантам» Пілсудскім ішлі, як казалі тады, шляхамі Баляслава Харобрага на Кіеў. Тады шмат хто атрымаў узнагароду з рук «каменданта», і ў маладога паручыка Ельскага на грудзях таксама з'явіўся «крыж храбрых». Добрыя гэта былі часы...

Але... пасля... Ды што пасля? Не мая справа займацца палітыкай. Я — жаўнер! Буду вешаць гэтых драбаў — і ўсё...

Так думаў паручык Ельскі, седзячы ў чыгуначнай будцы і аплятаючы смажаную курыцу.

На стале побач ляжала чатырохрогая шапка, накрыж вышытая серабрыстымі шнуркамі, а на шапцы — пагайка. Будачнік — беларус, стары чыгуначнік — сядзеў ля сцяны на табурэтцы і чамусьці ўхіляўся глянуць не толькі ў вочы паручыка, але нават і на стол. Апусціў ускудлачаную галаву, трымаючы на каленях салдацкую шапку, і намерваўся скруціць з газетнай паперы цыгарку з самасаду. У паручыка раздзьмуліся ноздры, і голас грымнуў, як стрэл:

— А табе хто дазволіў закурваць?!

Будачнік, нічога не сказаўшы, схаваў паперку ў кішэню. Жонка яго сядзела ля печы і прала воўну. Ля яе туліліся двое дзетак — хлопчык і дзяўчынка па год — адно пяць, другое — шэсць. Яны з-за прасніцы баязліва пагля-далі на злоснага пана, на плячах у якога на дзве сярэбраныя зорачкі, залацістыя гузікі, з-за стала тарчыць, таксама пазалочаная, ручка шаблі, бліскучы рамень перацінае грудзі з правага пляча. Валасы ў пана чорныя, бліщчастыя. Жонка будачніка, сярэдніх год, бледная, сцішаная ў сабе, утаропілася ў бараду кудзелі. А дзецям не сядзіцца. Прыціхлі на момант, як мышаняты, калі пан паручык гаркнуў на бацьку, а потым зноў пачалі варушыцца, абдымаць маці за шыю і нешта шаптаць ёй на вуха. Паручык Ельскі жаваў курыцу і, здаецца, нічога не бачыў у хаце, вочы глядзелі кудысьці перад сабой. А калі зашапталі дзеці, абдымаючы маці за шыю, раптам узняў нагайку і з усёй сілы ляснуў па стале. Усе аж падскочылі. Будачнік яшчэ ніжэй апусціў галаву. Дзеці зашыліся ў куток і ўпершыню вачаняты ў пачырванелага пана, які скончыў есці і, як даючы каманду, крыкнуў:

— Забраць!

Жонка ўсхапілася і забрала з-пад панскага носа паручыка патэльню з аб'едкамі і анучкаю выцерла стол. Адзін кавалак на патэльні быў цэлы, некрануты.

Дзеці не вытрымалі і сказалі нясмела:

— Мама... дай...

Маці крыху нават задумалася — што рабіць? А потым разламала гэты кавалачак надвае і дала дзецям. Дзеці сквапна панеслі кавалачкі ў рот. Паручык Ельскі збялеў, вочы яго зазыркалі, захадзілі ноздры.

— Кінь! — крыкнуў ён.

Але дзеці елі.

— Пане...— памкнулася прасіць маці.

— Кінь, кажу! — кіпеў зноў паручык і, падскочыўшы да кутка, вырваў з дзіцячых рук недаедзеныя кавалачкі курацiны. Кінуўшы іх к парогу, пачаў злосна таптаць нагамі, аж зазвінелі шпоры. Будачнік з жонкаю з жудасцю і ўжо яўна з пагардай глядзелі на гэты дзікі «танец» пана паручыка. Жонка села за прасніцу і выцерла далоняй слёзы...

А паручык тым часам сеў, як нічога не было, разгарнуў карту і паглыбіўся ў яе, зморшчыўшы лоб. Стратэгічная задача была даволі-такі складаная. Яе можна было б акрэсліць двума словамі — «хавайся, уцякай...» Вось табе

і чыгунка, думаў пан паручык, меркавалася, што ўздоўж чыгункі будзе ўвесь час добрая дарога, а тут зайшлі ў такую нетру, што ні ўзад ні ўперад. Што з таго, што шаша праходзіць побач, уздоўж чыгункі, калі навокал глуш, непраходныя балоты, хмызнякі, дзе, здаецца, толькі адным чарцям жыць. Мне патрэбны вёскі, патрэбны крамольнікі, якіх я магу схапіць няўзброеных. Схіліўшыся над картай, паручык спадылба глянуў на будачніка. Гэты таксама крамольнік. Ды яны ўсе... і паручык махнуў рукою.

— Бандыты да вас не заходзяць? — спытаўся ён.

Будачнік схамянуўся.

— Не... Чаго яны сюды пойдуць? У нас няма чаго красці...

— Красці, красці...— з прыціскам адказаў паручык.— Мне патрэбны тыя бандыты, якія супроць улады, супроць Польшчы, супроць нашай дзяржавы выступаюць... Разумееш?

— Не... не чуваць было...— адказаў, пацісн уўшы плячыма, будачнік.

— Не чуваць, не чуваць...— перакрывіў будачніка паручык.— Вось як уздзену на галіну, то скажаш... Усе вы такія... А няхай з'явяцца, схаваеце, укрыеце,— знаю я вас...

Паручык змоўк і зноў пачаў вадзіць алоўкам па карце. Няйначай, трэба накіравацца на поўнач... Аловак упёрся ў тлустую лінію на карце. Цьфу, пся крэў... Зноў той самы шлях... Ніяк яго не абмінеш...

Нічога не зробіш. Гэта найкарацейшы шлях да бацькі... Але як цяпер прабрацца да гэтага шляху? Наперад ісці няма сэнсу — на працягу дваццаці кіламетраў, калі не больш, пры чыгунцы няма ніводнай вёскі, калі не лічыць станцый. На гэтым шляху нават сабаку не накорміш. А галоўнае — глуш, прастор для нечаканасцей. Назад ісці не выпадае, шкада траціць лішні час. Галоўнакамандуючы «камендант» Пілсудскі заўсёды казаў ісці толькі наперад. Божа, памажы. І паручык Ельскі ўстаў.

Толькі прабівацца да шляху.

Павесіў паходную сумку цераз галаву на плячо, рамень якой скрыжаваўся з партупеяй, і паклаў у яе карту. Потым павесіў бінокль у скураным чахле і надзеў шапку. Махаючы нагайкай у гэтай цеснай чыгуначнай будцы, гаварыў да будачніка, як быццам у трыбунале:

— Калі даведаемся, што памагаеш бандытам, вернемся і павесім... Чуеш?

— Навошта яны мне, пане... Я іх і ў вочы не бачыў...

— Ну, то глядзі...

І паручык Ельскі, звонячы шпорамі, выйшаў з будкі. Будачнік з жонкай пераглянуліся і з палёгкай уздыхнулі.

Будка сапраўды стаяла сярод глухога балота, параслага асакой, лазнякамі і дзе-нідзе на купінках карлікавымі бярозкамі. Удалечыні, як ахапіць вокам, на ўзвышшах, направа і налева нізіны, цямнелі палоскі лесу, паступова пераходзячы ў суцэльную пушчу. Гэта была шырокая, кіламетраў на пяць, і, здавалася, недаступная нізіна, якую пераразала чыгунка. Між хмызнякоў і траў паблісквала ржавая балотная вада, над якою застыла парпасць. Звон аваднёў, камароў і іншай заедзі вісеў у паветры. Стракозы шмыгалі над прасторай балота, трапяталі блiскучымі крыльцамі. Толькі вось тут пры самай чыгунцы выдаўся невялічкі майданчык, на якім і стала будка. Пры будцы цвітуць тры карлікавыя вішні ды на кавалачку зямлі расце бульба, дзве градкі пасаджаны капустай і яшчэ сім-тым з гародніны. Градкі ўпіраюцца ў балотны хмызняк. Бадылле бульбы тонкае, як ніцінкі. Але цяпер, якая б ні была гэтая гародніна, усё роўна гаспадар спажывы мець не будзе — коні атрада паручыка Ельскага пагрызлі бульбоўнік, расаду капусты, якая пачала толькі завязвацца.

— Як быццам ім тут травы не хапала,— скардзілася гаспадыня свайму мужу-будачніку,— каб яны не даехалі туды, куды едуць... Апошнюю курачку зжор... Каб яму яе бокам выперла, божа міленькі, дай... Можа, будуць дарогі куды пытаць, то ўмей, як казаць,— з гарачкі наказвала мужу гаспадыня.

— От, маўчы, а то яшчэ горшую бяду наклічаш,— адказаў будачнік і асцярожна паглядзеў у акно.

— Мусіць, будуць збірацца ў дарогу... Нешта ўсе паўставалі...

Атрад, прыбыўшы сюды на світанні, размясціўся ўздоўж чыгункі, на сушэйшым месцы. Салдаты папускалі коні, не рассядлоўваючы іх. Цяпер усе былі ў зборы, ляжалі на чыгуначным насыпе, і кожны трымаў свайго каня на павадку.

Паручык Ельскі, выйшаўшы з будкі, паклікаў свайго ад'ютанта. Сержант, яшчэ малады, падскочыў і застыў на месцы.

— Разведчык вярнуўся? — спытаўся Ельскі.

— Яшчэ не, пане паручык,— адказаў сержант.

Ельскі, адсунуўшы рукаў мундзіра на левай руцэ, паглядзеў на гадзіннік.

— Калі праз паўгадзіны не вернецца, едзем... Час, каб ужо быў... Няхай тады нас пашукае... Паклікаць мне будачніка...

— Слухаю...— сказаў сержант.

Будачнік выйшаў і стаў у пакоры перад паручыкам.

— Скажы, як нам праехаць на поўнач да шляху, што ідзе ад бярозаўскай суполкі? — махнуўшы нагайкай за чыгунку, спытаўся паручык.

— Ведаю, ведаю гэты шлях,— пераступаючы з нагі на нагу, адказаў будачнік.— Дарога тут ёсць, толькі цяпер яна мокрая... Але на конях можна праехаць...

— Дзе?

— З кіламетр трэба праехаць і тады звярнуць улева. Яна вас завядзе да гэтага шляху...

Паручык выняў карту. Калі разгарнуў, сержант падхапіў канцы карты і так трымаў увесь час, пакуль паручык шукаў на ёй дарогу.

Дарога на карце не значылася. Паручык нахмурыў бровы.

— Хлусіш?! — крыкнуў, звяртаючыся да будачніка.

— Калі ласка, праверце... Тут недалёка...

Ельскі кіўнуў сержанту:

— Паслаць...

— Слухаю,— адказаў сержант і тут жа адразу паслаў аднаго конніка.

— Можаш ісці,— сказаў будачніку нейкім панурым голасам паручык, стоячы за яго спіной.

Коннік хутка вярнуўся і далажыў, што дарога ёсць, але яна зарасла травою і мокрая...

— Вады многа? — спытаўся Ельскі.

— Не так, каб многа, але ёсць.

Ельскі задумаўся. Праз хвіліну кіўнуў сержанту: «Едзем». Накіраваўся да салдат і з ходу падаў каманду: «На коней!» Дзяншчык падводзіў і яму каня. Атрад рушыў па шашы на ўсход.

Будачнік доўга не спускаў вачэй з атрада, пазіраючы ў акно сваёй будкі. Пасля асцярожна выйшаў на шашу, паглядзеў удаль. Ужо нікога не ўбачыў. Толькі парная цішыня застыла над балотам і павявала стомленасць. Сонца пякло неміласэрна. На небе дзе-нідзе паволына па адным плылі белыя воблакі. Здавалася, што ім зусім не хацелася расставацца з балотамі, але трэба, бо з захаду

наплывалі другія. На небасхіле над лесам яны клубіліся гусцей, выплываючы, як з невядомага краю. Будачнік адчуваў ламату ў нагах і падумаў:

«Напэўна, будзе дождж...»

Ён вярнуўся ў будку і сказаў жонцы:

— Ужо не відаць. Звярнулі на дарогу. На вось табе ўсе прылады... Прапускай поязды сама, а я пайду,— і наклаў сцяжкі ў чахлах на стол.

— Раз так, то і мы нешта патрапім зрабіць. Яны і палавіну дарогі не праедуць, як я ўжо буду ў Дзядах. А можа, бог дасць, дзе-небудзь паграznуць. Тады яшчэ лепш,— сказаў будачнік.

— Глядзі, толькі не пападзіся, Пятрусь... Бо, не дай бог чаго, загінем...— перасцерагала жонка.

— У лесе мяне ніякі сабака не зловіць...

І будачнік праз чыгуначны насып пайшоў толькі яму вядомай сцежкай.

Безумоўна, будачнік нічога не ведаў, бо, каб ведаў, мог бы і не ісці.

Разведчык паручыка Ельскага трапіў у рукі Сцяпана Каваля.

## ДЗЯДЫ

Андрэй доўга блукаў па лесе, развітаўшыся са сваімі хлопцамі. А Сцяпан Каваль са сваімі (з імі пайшоў і Сава) недзе зніклі тады ў лясным гушчары і падаліся толькі ім адным вядомымі сцежкамі. У Андрэя цяпер была ўжо іншая турбота — знайсці вёску Дзяды.

...Ішлі тым жа шырокім пясчаным шляхам сярод лясной прытоенай цішыні. Месяц, здавалася, у здзіўленні спыніўся і глядзеў на іх з цёмна-сіняга неба, увесь час свецячы ім пад ногі. А даль па шляху засцілалася туманнай смугою. Ішлі хутка і маўчалі, кожны думаючы сваю думу. Шарсцеў вільготны пясок пад нагамі.

Да світання было яшчэ далёка. Усім хлопцам — і Захару Зубцу, і Марціну Шапко, і Івану Падаляку — недзе трэба было звярнуць улева.

Марцін Шапко даводзіў, што гэтай дарогай ім можна найкарацей дабрацца да сваіх вёсак, бо ўсе яны жылі ў адной акрузе. Марцін Шапко — добры знаўца дарог — сваёй гаспадарскай «стратэгіяй» адгадваў напрамак, няглядзячы на лясныя гушчары. Гэтую дарогу Марцін

Шапко прыкмеціў, распазнаў, для пэўнасці сказаў усім пачакаць, а сам паглыбіўся ў лес, прайшоў каля сотні метраў для праверкі. Вярнуўся і сказаў: «Яна...» І ўсе пайшлі і адчулі сябе смялей.

Каб дачакацца світання, звярнулі пасля ўбок і ў зацішным ляшчынніку (гэта ўжо было далёка ад шляху) расклалі агонь. Седзячы пры агні, курылі, гутарылі ўпаўголаса. Спакайнелі нервы, авалодвала дрымота. Але вырашылі не спаць. Не вытрымаў толькі Марцін Шапко, бо непрыкметна для ўсіх так гучна і смачна захроп, што аж астатнія пераглянуліся і пырснулі смехам. Захар штурхнуў Марціна пад бок і сказаў:

— Хіба табе тут печ? Да печы, брат, яшчэ далёка...

Марцін прадраў вочы, усміхнуўся і адказаў:

— От, соладка... І нават сон прысніўся... Нейкі незнаёмы дзядзька прыйшоў і дае мне мае два кавалкі скуры з трансмісійнага паса... гэта, што я прыдбаў сабе на падэшвы... Засталіся ў клунку ў бараку... Гэта ж нязносныя былі б падэшвы...

— Ха-ха-ха...

Марцін нават агледзеўся. Думаў, што кусты зарагаталі так выразна. Глянуў на хлопцаў і апусціў вочы. Ва ўсіх пачырванелі твары ад натугі — раты былі поўныя смеху.

— Памінай, як звалі, Марцін,— гаварыў Захар,— знайшоў аб чым сніць... Тут, брат, не такія рэчы... га, што там казаць.

— Што ж... і гэта трэба...— адказаў Марцін, сарамліва апусціўшы вочы.

Відаць было, што Марцін звязваў з гэтымі падэшвамі нейкія мары, і вельмі яму шкада было іх. Ну, што ты зробіш — засталіся ў бараку.

— Ты вось глядзі, Марцін,— сказаў Андрэй,— як заўтра падымуцца на ногі паны, паліцэйскія атрады паскачуць па дарогах нас шукаць, усіх, хто жыў у бараку, як гэты шлях, якім мы ішлі, будзе галоўным месцам нагляду... Бачыў Сцяпана? Ну, вось... Ён аб падэшвах напэўна не думае...

— Праўда, праўда, Андрэй, што ты зробіш з нашай чалавечай слабасцю? Цьфу!.. І трэба ж гэта было мне?..

— Ідучы, лазы надзяром,— сказаў Захар.

Марцін ужо як быццам і не чуў слоў Захара, а, пазіраючы ў агонь, гаварыў:

— Але ж і гарэў завод... Гму... Каб гэта ж так усюды, тады за месяцаў пару гэтых паноў тут і на панюх не

было б... Хіба мы самі не маглі б будаваць заводы для сябе? Гэта ж не жарты... Лес расце, а нейкі чужынец прыходзіць і ў цябе з-пад носа забірае, ды яшчэ ты на яго працуй...

— Мала таго, яшчэ і падэшвы пакідай у бараку,— сыкнуў Падаляка.

— Ну, ты ўжо...— нахмурыўся Марцін.

Недзе ўводдалі працягла закрычаў сыч. Усе агляпуліся. Стала крыху не па сабе. Тайна ляснога жыцця — невядомая, свая, дыхнула, як перасцярога. Усе апусцілі вочы ў полымя, якое бяздымна і роўна трапятала над вогнішчам.

— Гу-у, гу-у-у!..— пракрычаў яшчэ раз сыч. Андрэй глянуў навокал па асветленых кустах і спыніў позірк на Падаляку, які ляжаў насупраць.

— Падыдзі, Падаляка, да дарогі,— сказаў,— і паогул прыслухайся навокал.— Андрэй устаў, а за ім астатнія.

— Гэты сыч бяду заўсёды чуе...— сказаў Марцін.

Падаляка пайшоў. Астатнія маўчалі, стоячы, і чакалі. Праз хвілін пяць Марцін зноў пачаў:

— Мой бацька некалі расказваў...

Але дакончыць яму не ўдалося. Падаляка вырваўся з кустоў да агню так раптоўна, што аж усе ўздрыгнулі. Загаварыў, засопшыся, шэптам:

— Па дарозе едуць коннікі... Уцякайма...

Усе шугнулі ад агню, каб далей адысціся ад дарогі. Пусцілі наперад Марціна. Ішлі, спатыкаліся, вобмацкам прадзіраліся праз гушчары, аж пакуль не спыніліся ля нейкай ручаіны. Марцін пайшоў шукаць броду, а Андрэй пытаўся ў Падалякі:

— Ты бачыў гэтых коннікаў? Можа, табе толькі здалося?

— Не, не здалося. Я чуў тупанне капытоў і бразгат цугляў. Чуў, як паскрыпваюць сёдлы...

Вярнуўся Марцін і сказаў, што брод знойдзены. Толькі хацелі крануцца з месца, як лясную цішыню парушылі стрэлы. Іх было некалькі адразу. А пасля залп за залпам усё часцей і часцей. Рэха перакочвалася па дрымучым лесе з краю ў край. Марцін уважліва прыслухаўся і потым сказаў:

— Ну, так. Гэта і ёсць на той дарозе, адкуль мы ўцяклі... Яна там далей,— Марцін паказаў рукою направа,— выходзіць на паляну... Вось, няйначай там...

А Андрэй думаў сваё. Ясна, што гэта паліцэйскі атрад

пайшоў у начную разведку наўздагон падпольшчыкам завода. Але ясна і другое, што Сцяпан Каваль не спіць, бачыць яго вока і чуе яго вуха ўначы таксама, як і ўдзень. Чуйны Сцяпан, як сокал на верхавіне сасны. Лес належыць яму.

Андрэй развітаўся з хлопцамі на світанні. Развітваючыся, адвёў убок Захара Зубца і сказаў:

— Калі можаш што арганізаваць у сваёй вёсцы, арганізоўвай і чакай, пакуль я цябе не паклічу або не прыйду да цябе. Скажы гэта самае Марціну Шапко і Івану Падаляку. Прыслухоўвайцеся навокал, асцерагайцеся шпіцляў. Пасля здарэння на заводзе, безумоўна, будуць шукаць...

— Добра, Андрэй, добра,— казаў, ківаючы носам, Захар.— А як з Іванам?

— Няхай працуе. Няхай пакажа, што ён можа. Падтрымлівайце з ім сувязь, давайце яму заданні. Правярайце... Ён жыў сярод нас. Няўжо ў яго нічога не засталося за душою? Марцін таксама няхай арганізуе ячэйку. Калі я прыйду, будзе відней... Ну бывай, Захар. Я пайду ў другі бок па заданню. Глядзі... Калі трапіце па дарозе ў бліжэйшую вёску, не затрымлівайцеся, бо могуць быць розныя неспадзяванкі. Можа быць і пагоня і што другое. Солтысы... праверка дакументаў... Разумееш? Ну, кіруйцеся так, каб было як найлепш...— Андрэй паціснуў руку Захару яшчэ раз, і яны разышліся.

Андрэю трэба выйсці на шлях зноў, каб дабрацца да вёскі Дзяды. Але як ты тут пойдзеш — ні дарогі, ні сцежкі. Адышліся ад шляху ліха ведае колькі. Прыйдзецца ісці напрасткі, чуццём шукаць шляху. І Андрэй пайшоў. Доўга блукаў па лесе, а шляху ўсё не было. Лес непралазны, некрануты, якому, здавалася, і канца няма, прыгнятаў Андрэя. Андрэй спыняўся і, узняўшы галаву, аглядаў ствалы дрэў, каб па амшэлых баках вызначыць, дзе поўнач. У адзіноце і глушы і сам лес здаваўся адзінокім. Андрэю здавалася, што нехта сочыць за ім і вось зараз крыкне або засмяецца. Нават даляцеў да вушэй нібы нечы рогат. Азірнуўся насцярожана. Няма нікога. Толькі вавёрка неяк ціха скрадаецца, каб пераскочыць з сасны на сасну. Стуканне дзятла яшчэ больш навявала адзіноту.

Толькі пасля абеду Андрэй нечакана выйшаў на вузкакалейку і пайшоў па ёй.

Павінна ж яна некуды прывесці. Яна і прывяла пад вечар на невялічкую лесапільню, размешчаную ў сырым куп'істым месцы сярод ляснога гушчару. Лесапільня яшчэ



За работай у кабінеце.
*1959 г.*



Піліп Пестрак сярод беларускіх пісьменнікаў.
*1950 г.*

не працавала,— вяліся толькі падрыхтоўчыя работы. Як лесапільню, так і вузкакалейку пабудавалі немцы ў 1918 годзе. Цяпер яе арандаваў у дзяржавы нейкі купецяўрэй. Замест баракаў тут былі адны зямлянкі. Палавіна з іх выглядала непрыдатнай да жылля — без нар, з праваламі ў стрэхах-насыпах, з плесенню і смуродам. Рабочымі было занята не больш чатырох зямлянак. Але Андрэй не хацеў у іх спыняцца, хоць бы там і знайшлося месца для адпачынку. Трапіў на цэлую, неразбураную зямлянку з нарамі, але запоўненую амаль па калені вадою. Ну што ж, абы нары. Праспім да світання. Па дзвюх шпалах, што ляжалі ў вадзе накрыж, Андрэй увайшоў у зямлянку і скочыў на нары. На іх сядзелі два хлопцы — адзін у салдацкай гімнасцёрцы і такога ж зеленаватага колеру шапцы, ссунутай на правае вуха. Русы чуб звесіўся з-пад казырка на лоб. Нос курносінкай. Сялянскія шэрыя вочы з іскаркамі зухаватасці. Толькі цяпер да яго прымяшалася вострая насцярожанасць. А ў дадатак — у руках балалайка-трохструнка. Андрэй заглядзеўся на гэтага хлопца — хоць малюй з яго карціну,— сапраўдны балалаечнік. Другі хлопец быў маладзейшы — у пакамечанай кепцы з надламаным казырком і ў падраным каптане. Яны сядзелі побач на нарах, пазвешваўшы ногі,— балалаечнік у салдацкіх чаравіках, а яго сябар — босы.

— Можна перапачаваць? — спытаўся Андрэй, уваходзячы.

— Чаму не? Вось нары, кладзіся,— адказаў балалаечнік.

...Ужо зусім сцямнела. Андрэй ляжаў на нарах і слухаў ігру на балалайцы. З балалайкай у Андрэя заўсёды спалучалася ўяўленне шырокай вуліцы рускага сяла, хвацкай прыпеўкі. Хлопцы ў чырвоных кашулях пад балалайку выбіваюць «барыню». Недаацэньваў, мусіць, Андрэй балалайку да канца. Бо тут... льецца такая ціхая, задушэўная лірыка! Пальцы, здаецца, ледзь-ледзь дакранаюцца да струн і так гібка і лёгка, што атрымліваюцца нейкія шаўковыя тоны, ад якіх лёгка і хораша робіцца на душы. Мілы хлопча, адкуль ты прыйшоў! Штосьці далёкае, знаёмае, недзе бачанае. Мелодыі адна за адной свабодна плылі з-пад пальцаў гэтага балалаечніка.

Вось і месяц ужо ўзняўся над лесам, зазірнуў у акенца зямлянкі і сваім святлом лёг на жоўтую, глiністую ваду, якая чамусьці неспакойная,— дробныя хвалькі ўвесь час

набягаюць адна на адну. Відаць, грунтовыя воды яшчэ не супакоіліся.

А балалайка ўсё аб нечым думае-сумуе. Два цені сядзяць, звернутыя спінамі да Андрэя, часам нахіляюцца адзін да аднаго і шэпчуцца. А балалайка ад вальсаў, рускіх песень пераходзіць на гуллівыя прыпеўкі, але таксама ціха, без надрыву.

Андрэй пазнаў волжскія прыпеўкі і насцярожыўся. Захацелася запытацца ў хлопцаў, адкуль яны, але іхняя насцярожанасць і замкнутасць перашкодзілі гэтаму. Андрэй не помніў, калі заснуў...

...Прачнуўся ён рана. Балалаечнік ужо не спаў. Толькі яго сябар, уткнуўшыся носам у дошку нар і падкурчыўшы босыя ногі, спаў нявінным сном юнака, якому патрэбна было б яшчэ ласкавае вока маці.

Андрэй выняў з кішэні кавалак хлеба, што яшчэ застаўся з падарожжа, і пачаў есці. Балалаечнік змераў яго ўпотай вачыма. Андрэй прыкмеціў гэта і вырашыў распачаць гутарку.

— Адкуль вы, хлопцы? — спытаўся ён.

— Здалёк...— адказаў балалаечнік сур'ёзным тонам. І дзіўна, за ўвесь час знаходжання ў гэтай зямлянцы Андрэй не заўважыў у хлопцаў ніводнай усмешкі. У іх гутарцы і выглядзе панавала суровасць, прытоеная заклапочанасць.

— Усё ж такі, адкуль? — паўтарыў пытанне Андрэй.

Балалаечнік вытрымаў паўзу і працадзіў праз зубы, як быццам у лёт:

— Мы — праслаўскія...

— Праслаўскія? Як жа вы сюды трапілі?

— А вось, трапілі... Нас польскія салдаты забралі пад Мінскам яшчэ ў дваццатым годзе, як бяздомных, і аддалі ксяндзу...

У Андрэя твар выцягваўся ад здзіўлення і цікавасці.

— Ксяндзу? Гм... І што далей? — дапытваўся Андрэй.

— А далей што? — гаварыў балалаечнік, перавярнуўшыся на жывот.— А тое, што прабылі ў Чанстахове, у дзіцячым доме езуітаў, а зараз уцякаем адтуль...

— А цяпер куды? — спытаўся Андрэй.

— Куды? На ўсход... дахаты прабрацца хочам... ды, мусіць, цяжка гэта зрабіць...

— Есці хочаш? — спытаўся Андрэй.— Чым жа вы карміліся ўсю дарогу?

Андрэй разламаў напалам недаедзены кавалак хлеба і перадаў балалаечніку.

— Карміліся мы вось чым,— адказаў балалаечнік і паказаў на балалайку, якая стаяла ў кутку, прыпёртая да сцяны.— Ішлі па вёсках, я іграў, людзі давалі і хлеб і начлег. Балалайку, сваю ўласную, мы сцягнулі з дзіцячага дома...

Андрэй дажоўваў хлеб і думаў, як памагчы гэтым хлопцам. І ўрэшце сказаў:

— М-м... Так... Справа, зразумела, нялёгкая... Але паспрабаваць можна. Ідзіце праз Палессе, лясамі. Не заходзьце ў гарады, а толькі ў вёскі. Людзі вам пакажуць дарогу і пакормяць. Папрацуеце дзе пару дзён у якога гаспадара, а там — далей... Да граніцы адгэтуль яшчэ далёка... Не заседжвайцеся на адным месцы... Пару дзён — і далей... Вось так...

— Мы і самі так думаем... Чуваць было ўчора, што нейкія паўстанцы спалілі лесапільню недзе тут недалёка... Учора была тут паліцыя, правярала дакументы. Мы шмыгнулі ў лес, бо ў нас няма ніякіх дакументаў...

Андрэй слухаў і як быццам не верыў сваім вушам.

— Аб пажары на лесапільні першы раз чую...— сказаў ён.

— Эх, каб сустрэць гэтых паўстанцаў,— уздыхнуў балалаечнік.— Учора ўначы страляніна была чутна...

Андрэй захваляваўся.

Андрэй пачаў спяшацца ў дарогу. Заварушылася пачуццё трывогі — ліха ведае што можа здарыцца...

— Вось так, хлопцы, не заседжвайцеся... На, закуры, падстаў жменю, дам яшчэ на пару папярос. Мне трэба хутчэй дахаты, хадзіў у адну вёску, хацеў купіць каня, ды не ўдалося.

Андрэй ішоў па вузкакалейцы да шляху задуманы, і час ад часу ціхі ўздых вырываўся з яго грудзей.

— Эх, хлопцы, мае вы мілыя, дарагія хлопцы. Няхай прытуляць вас шляхі-дарогі...

Нарэшце вось і гэты жаданы шлях. Аж ногі забалелі, ідучы па насыпе вузкакалейкі, дзе шпалы ляжаць так блізка адна ад другой, што нельга ступаць на ўсю шырыню кроку — трапляеш у прамежкі, спатыкаешся. Але вось і шлях. І Андрэй уздыхнуў з палёгкай, выпрастаўся, разгледзеўся і, доўга не чакаючы, павярнуў налева, пайшоў на ўсю шырыню кроку. Ціха, бязлюдна на шляху. Калі б Андрэй каго сустрэў, з ахвотай спытаўся б, ці далёка да

Дзядоў, але, на жаль, нікога няма. Ідзеш, як у невядомае,— то па раўніне, то ўзнімаючыся на ўзгорак, то спускаючыся ў даліну.

Недзе толькі пасля абеду мільганула на левым баку шляху нейкая белая будыніна з чырвоным дахам. Але направа і далей сцяною ўзвышаўся лес.

Набліжаючыся, Андрэй пазнаў у будыніне невялічкую царкву. Яна стаяла ў глухім лясным зацішку, адна, у акружэнні карлікавых бяроз і вішань.

Ціхая дрымота панавала навокал. Андрэй спыніўся. Царква не царква — ніякіх купалаў. Толькі адзін крыж тарчыць над пярэдняй сцяной, якая канчаецца трохкутнікам са звілінамі па баках. На франтоне ледзь прыкметна прасвечваліся, выцвілыя ад часу, сіняй фарбай напісаныя лацінскія літары і арабскія лічбы; Anno 1772 [1].

Андрэй яшчэ пільней пачаў прыглядацца да царквы. Падумаў: «Яна такой архітэктуры, што можна з яе зрабіць касцёл ці царкву, а нават і сінагогу. Дзіўнае дастасаванне — выдумка папскага Рыма для насаджэння уніяцтва, увасабленне здрадлівасці езуітаў. Сівая даўнасць — Anno 1772 — сведка барацьбы за душы па шляху наступлення Рыма на ўсход».

Андрэй абышоў навокал гэтай дрымотнай, абшарпанай lяснымі вятрамі, царквы св. Антонія (гэта была яна), якая, можа, заўтра стане касцёлам таго ж св. Антонія.

Пры самым шляху перад царквою стаяць два драўляныя крыжы з металічнымі заржавелымі распяццямі. Хрыстосы схілілі галовы ў адзін бок і глядзяць цераз шлях на вузкую дарожку, амаль схаваную ў навіслых вербах і старых бярозах, якія абапал прытуліліся да магутнага бору. Гэтая дарожка і вяла ў вёску Дзяды. Так тлумачыў Андрэю дарогу пасланец з цэнтра...

Вёска з'явілася неўзабаве. Яна іменна не паказалася, а з'явілася, як нешта нечаканае. Гэта была не вёска, а вёсачка — шэрая, застылая, якую наўкола шчыльна абступіў стромкі бор, як быццам хаваючы яе ад рознага ліха і напасці. Яна так раптам стала перад вачыма, як з'ява, што Андрэй аж спыніўся і адкрыў рот ад здзіўлення.

Хіба можна пазнаць, ідучы па шляху, што тут хаваецца вёска? Хаты старыя, урослыя ў зямлю, пабудаваныя з шырокіх плашак старадрэўя. У большасці амшэлыя стрэхі, з-пад якіх цьмяна выглядалі невялічкія вокны. Прызбы

[1] Лацінскае — значыць — год 1772.

насыпаны высока. Квітнелі вішнёвыя садочкі. На двух гумнах і на адной зламанай верхавіне старой ліпы, якая маячыла ў канцы вёскі, размясціліся гламаздаватыя буславы гнёзды. Але што асабліва ўразіла Андрэя — налева за невялікімі агародамі праз рады соснаў віднелася ляснсе возера. Працілеглы бераг яго ўпіраўся ў цёмную сцяну высокага лесу.

Дрымучая прырода. Дрымучыя людзі...

Сустракаюцца з Андрэем на вуліцы і насцярожана мацаюць вачыма і ўсё для таго, каб даведацца — свой ці чужы.

Вёска канчалася, а возера паплыло некуды далей у лясныя гушчары,— цёмна-сіняе, спакойнае, у вянку лозаў і чаротаў, схаванае цёмным борам, які стромка адбіваўся ў гладкай плыні, як у люстры. Ява гэта ці казка? Ява, бо Андрэю трэба зайсці ў трэцюю хату з краю. У ёй пад навіслай страхою адчынены вокны, з якіх льецца спеў некалькіх дзявочых галасоў. У гародчыку вішнёвы садок і кветкі захінулі хату ад вуліцы. Гукі песні зліваліся са звонам пчол, камароў і танулі ў белай мяккай гушчы квітнеючых вішань.

Дзяўчынка год сямі якраз выскачыла з сенцаў на падворак і спыніла на Андрэю свае чорныя вачаняты.

— Бацька дома? — спытаўся Андрэй.

— Дома,— адказала дзяўчынка.

— Пакліч яго сюды, я пачакаю на прызбе.— І Андрэй сеў, з прыемнасцю прыпаў да сцяны. Чакаў і слухаў спевы, дзявочы смех.

Тым часам дзяўчаты заспявалі другую песню, у якой Андрэй адчуў мясцовы каларыт:

Вецер все, падвявае,
Хвалю паганяе,
А дзяўчына ў лесе
Ходзіць ды гукае,
Ходзіць ды гукае,
Сваёй долі шукае...

Андрэй не паспеў скруціць цыгарку і прыслухацца да апошніх слоў песні, як з хаты выйшаў гаспадар. Яшчэ малады, каржакаваты, вышэй сярэдняга росту, з кучмою русых валасоў, якія ў беспарадку спадалі на лоб, ён востра і разам з тым спакойна глянуў на Андрэя чорнымі вачыма. Ступіў энергічна на крок бліжэй, так, што нават рыпнулі новыя лазовыя лапці на нагах. Адказаўшы на прывітанне Андрэя, спытаўся:

— Хто вы будзеце і што вам трэба?

— Мне трэба ўбачыць дзяўчыну, якая павінна быць у вас.

— Дзяўчыну? Ды дзяўчат у нас многа ў хаце. Невядома, хто вам трэба?

Андрэй упаўголаса перадаў пароль.

Гаспадар, здавалася, прагна ўслухаўся ў словы пароля, наставіўшы вуха. Адразу схамянуўся:

— Ага... Добра... Зараз...

Павярнуўся і знік у сенцах. Андрэй толькі ўбачыў яго шырокую спіну ў белай зрэбнай сарочцы, падпяразанай раменьчыкам.

І вось на парог выйшла яна. У Андрэя адразу прамільгнула ў галаве тое гогалеўскае: «и девушка на поре семнадцатой весны, обвитая сумерками, переступила через порог...» Але не — гэта ўжо не гогалеўская дзяўчына, хоць нешта няўлоўнае, бясспрэчна, ідзе ад яе. Яна здавалася Андрэю высокай, ростам з яго, з цёмна-русымі з залацістым адлівам валасамі, якія кучараваліся над белым, крыху пукатым ілбом і над скронямі. Тапклявы нос — палазком. З-пад тонкіх дзявочых броваў, якія сышліся цяпер ля маршчынкі на пераноссі, глянулі сурова і насцярожана цёмна-шэрыя вочы. Яны зірнулі, як быццам мінаючы позірк Андрэя. Штосьці асаністае было ў яе постаці з крамянымі маладымі грудзьмі пад чорным нагрудным фартухом на цёмна-чырвонай кофце. Калі сказала першае слова, бліснуў рад белых прыгожых зубоў. У гутарцы час ад часу правай рукой закідвала валасы за вуха і ўстрасала галавой, узнімаючы свой твар да Андрэя.

У гэтым руху галавы Андрэй адчуў тую ўнутраную сілу, ад якой у чалавека звычайна загараюцца вочы. І яны ў такі момант загараліся ў яе і мянялі колер. Пачыналі бліпчаць зеленаватым адлівам, гледзячы аднекуль з дна ў душу чалавека. Пад іх позіркам Андрэй адчуваў, як нейкія гарачыя кроплі падалі на душу і прымушалі падысці бліжэй да гэтай незвычайнай, як яму здавалася, дзяўчыны. Знікала непасрэдна дзявочасць, якая спачатку дыхнула Андрэю з яе твару, калі яна з'явілася на парозе і выклікала ў памяці гогалеўскія цудоўныя словы. А цяпер... суровасць і настойлівасць захапілі Андрэя і павялі за сабою. Хоць бы засмяялася, а то стаіць, як вартавая, як пасланніца лёсу, і, здаецца, непрыкметна позіркам правярае кожны рух чалавека.

— Ты доўга ішоў з лесапільні? — спыталася нечакана.

— Двое сутак...

— Чаму так доўга? — І ў яе вачах на секунду бліснула трывога.

— Доўга? За гэтыя двое сутак ледзь не зрабіўся Рабінзонам Круза...

Адрывіста засмяялася і змоўкла. Пасля смеху стала вальней. Узаемнае давер'е ўваходзіла ў сілу. Цяпер, у сваю чаргу, павёў на яе «наступление» Андрэй.

— А ты даўно тут жывеш, у гэтым казачным закутку, дзе можна лёгка перарабіцца ў русалку?

— Ужо даўнавата. Ды я і сапраўды адчуваю сябе тут, як русалка. Варажу... Ваджу карагоды... І мая варажба не без поспеху... Пабудзем тут яшчэ пару дзён, не больш,— убачыш. Хадзем у хату.

— У хату? Як жа гэта? Можа, трэба было б, каб мяне ніхто не бачыў?

— Тут народ харошы. Дый пара такая, што трэба больш-менш у адкрытую ісці да народа. Трэба ўзнімаць, сеяць настроі, каб людзі ведалі, што рэвалюцыя мае сваіх пасланцоў. Жывое слова — самы лепшы агітатар...

Андрэй задумаўся. Яны стаялі ўвесь час ля сцяны пад страхою, і яна зусім не трывожылася, што хто-небудзь убачыць іх з вуліцы або зойдзе на падворак.

— Так, дарагі таварыш, няйначай...— ускінуўшы галаву, пацвердзіла яна і, як настаўніца, засунула сваю руку пад нагруднік. Глядзела нейкі момант на Андрэя з турботай, а пасля раптам ціха і ласкава сказала, як свая, узяўшы яго за руку:

— Хадзем...

Цеплынёй павеяла на Андрэя ад такога яе звароту. Ішоў услед і думаў: «Многа праўды і хараства ў тваіх словах, але... мы яшчэ пагаворым...» Яны прайшлі не ў хату, а ў невялічкую кухню, якую Андрэй спачатку быў палічыў каморай.

На Андрэю была лёгкая вопратка — куртка з чорнага дыягапалю, страшэнна заношаная і дзе-ні-дзе запэцканая ў смалу, з шэрымі латкамі на локцях. Гэта данашваўся астатак студэнцтва, якое цяпер адышло так далёка, што здавалася, яго і не было ніколі. Не хапала ў курткі і гузікаў (кажух і шапку Андрэй пакінуў у бараку). На галаве была чорная кепка, якую купіў яму ў свой час Сава, калі ездзіў па даручэнню Паддубнага ў горад. Яна —

гэтая дарослая дзяўчына — з цікавасцю агледзела Андрэя з галавы да ног і сказала:

— Мяне будзеш называць Вольгай або Оляй... А цябе як?

— А ты мяне называй Анатолем.

— Дык вось, таварыш Анатоль, абшарпаны ты зусім, скідай каптан, кепку, памыйся...

Паліла яму на рукі, пасля паднесла ручнік. Калі Андрэй зашпіліў сваю суконную цёмна-карычневую «касаваротку» і прычасаўся, сказала:

— Ну вось, ты цяпер харошы...

Андрэй усміхнуўся і падумаў: «Ну, што ж, для настрою крыху і пустых слоў не зашкодзіць».

— Вымі з кішэняў, што маеш у каптане, зараз табе яго паладзяць...

Андрэй выканаў і гэты «загад».

Вольга ўзяла куртку і панесла ў хату. Вярнулася з прыгожай белатварай маладзіцай. Пад белай хусткай цёмныя валасы прычэсаны ў так добра знаёмы просты радок. Сцішанасць у рухах. Глянула на Андрэя цёмнымі вачыма і адразу, не саромеючыся, спыталася, як быццам ведаючы ўсё:

— Мусіць, есці хочаце? А як жа... Чалавек з дарогі заўсёды есці хоча... Волечка, дастань там міску з паліцы...— Сказаўшы так, палезла «вілкамі» ў печ.

Па такіх адносінах гаспадыні да Олі Андрэй зразумеў, што Оля тут як свая, што яе тут паважаюць, любяць. Гм... справы нішто сабе...

Гаспадыня, даўшы Андрэю есці, выйшла. Вольга неяк клапатліва прысела ля невялічкага століка насупраць Андрэя і, крыху пачакаўшы, сказала:

— Учора тут была паліцыя... Дзесяць чалавек... конна... Абшуквалі ўсе хаты... Ты па дарозе мог бы лёгка трапіць ёй у рукі...

Андрэй цяпер ясна зразумеў яе трывогу...

— Каб я ішоў шляхам увесь час, тады мог бы... Я шляхам ішоў толькі сёння, а так — блукаў па лесе...

— Сёння ты правядзеш гутарку з дарослымі... Даніла, гаспадар гэтай хаты, збярэ табе іх. Напрамак гутаркі ведаеш?

— Здаецца, ведаю...— адказаў Андрэй, адчуваючы, як гэтая Оля ўжо звыклася з падполлем. Хоць Андрэй і сказаў — «здаецца, ведаю», Оля, адкінуўшы прывычным рухам правай рукі валасы за вуха, працягвала:

— Трэба гаварыць аб Кастрычніцкай рэвалюцыі, аб Савецкай Расіі і заклікаць народ да паўстання...

Андрэй зразумеў, што яна сказала гэта на ўсякі выпадак — а што, калі Андрэй недастаткова кампетэнтны ў справах? Ён еў забелены малаком крупнік і думаў: «Гавары, гавары больш, я цябе з задавальненнем слухаю. Твая турбота аба мне не абмяжоўваецца звычайнай прыхільнасцю. Твая турбота такая багатая, што яе трэба ўмець адчуць і ацаніць. Не бойся, гавары...»

— Яшчэ... Мэта нашай агітацыі заключаецца ў тым, каб людзі падтрымлівалі нашы ўзброеныя сілы... Гэтая вёска — наша база. Невялікая, непрыкметная і прытым пры шляху... Адсюль ніці ідуць далёка...

Яна аглянулася і дадала:

— Даніла — тут галоўны разведчык, мае вялікую разведчую сетку...

Цяпер Андрэю ўсё стала ясна. Ён услухоўваўся ў тон яе голасу — нейкі турботлівы, з ноткамі захаплення. У час гутаркі Оля то набліжалася тварам да Андрэя, то аддалялася, а вочы глядзелі ўсё больш адкрыта, непасрэдна.

Так праясняецца ўсхваляваная азёрная тонь, і тады спакойнымі іскрамі паблісквае яе залацістае дно. Андрэй глянуў на рукі Вольгі, схаваныя ў цёмна-чырвоных рукавах, на рухавы твар, які то суравеў, то праясняўся ласкай, што міжвольна прыкоўвала Андрэя.

Скончыў есці, устаў. Хацелася сказаць нешта моцнае. Перастаравіў табурэтку і сеў насупраць Вольгі твар у твар. Аблакаціўшыся на стол, апёрся шчакою на руку і з момант глядзеў у яе вочы. Даўно не глядзеў ён у твар жанчыны і, можа, упершыню адчуў, што ў гэтым ёсць тайна вялікага шчасця.

— А ты ведаеш, куды мы павінны з табою ісці?

— Ведаю. Прачытала ў запісцы ўсё. З таварышам Васілём мы яшчэ сустрэнемся.

Андрэй цяпер, ужо без пачуцця засцярогі, урэшце сказаў:

— Ну... цяпер вядзі ў хату.

На лавах, пры адчыненых вокнах сядзелі дзяўчаты. Адны з іх пралі, хто лён, хто каноплі, а другія шылі сарочкі. У руках адной дзяўчыны Андрэй убачыў сваю куртку. Пахла аерам і чаромхай — пучкі таго і другога, ужо засохлыя, тарчалі пад бэлькамі і за іконамі ў пярэднім кутку. Аказваецца, нядаўна мінула сёмуха, і гэта яе падарункі яшчэ напаўнялі хату сваім пахам.

Каля пячной перагародкі на счарнелай ад часу жэрдцы вісела па такім жа счарнелым драўляным круку калыска, сплеценая з ракітавых дубцоў. У ёй ляжаў хлопчык з чорнымі вачанятамі і лавіў ручкамі чырвоную хусціну, што вісела над ім на шнурку. За калыскай на драўляным шырокім тапчане сядзела яго маці, жонка Данілы, Мар'яна. Апусціўшы доўгія цёмныя вейкі, утаропілася ў зрэбную тканіну, з якой нешта шыла. Ля калыскі застаяў сам Даніла, амаль упіраўся ў столь галавою і засланяў сабою ўсю сярэдзіну хаты. Якраз, калі ўвайшлі Андрэй з Вольгай, ён нагнуўся над калыскай, цмокнуў языком і прамовіў:

— Ну, як справы, хлопча?.. Гэй ты, грамадзянін Савецкай рэспублікі!

Нечаканай прыемнасцю аселі гэтыя словы ў душы Андрэя. Як гэта добра і ўцешна.

Андрэй вітаўся з дзяўчатамі па парадку, як яны сядзелі. Вольга ішла за ім. Дзяўчаты крыху нясмела, з цікавасцю ўзнімалі свае вочы на Андрэя і хутка іх апускалі. Андрэй скончыў вітацца і сеў на лаве, пры адчыненым акне. Тут жа стаяла, прыпёртая да сцяны, прасніца з капаплянай кудзеляй... За яе села Вольга і ўзяла верацяно ў руку. Памачыла нітку слінаю і суканула верацяно. Яно тонка зашамацела, і нітка паплыла з пальцаў. Андрэй здзівіўся і сказаў:

— Усе робяць. Дай, гаспадар, і мне якую работу ў рукі.

Усе голасна засмяяліся. Адна Вольга з-за прасніцы смяялася толькі вачыма. Страсянула галавой, як быццам што перамогшы ў сабе. Тады на момант крыху пабляднеў яе твар, ад чаго яна пахарашэла.

Андрэй рабіў цыгарку і частаваў Данілу, які падышоў і сеў побач. Вольга агледзелася да дзяўчат і сказала:

— Заспявайце, дзяўчаты, што-небудзь.

Адна дзяўчына пачала, а ўсе падхапілі:

А ў тым бары грыбы зарадзілі...

Андрэй слухаў песню і міжволі хваляваўся. Пачынаў любіць гэтых людзей нейкай новай любоўю, шмат глыбейшай і непасрэднай. Няўжо толькі цяпер я ўваходжу ў народ, у народ, які абуджае ў душы столькі знаёмага, бясконца дарагога, недзе бачанага? Дзе? І сам не ведаю дзе. Недзе быццам там, пад блакітам, на палях у ветранай плыні ці ў цёмных асенніх начах у хатняй тузе, калі шум

соснаў плыў над адзінокімі прасторамі. Дзе гэта было і калі — не ведаю... Але... было.

Нездарма дзяўчаты так даверліва глядзяць на Вольгу, адна з іх падыдзе і, прытуліўшыся, зашэпча нешта ёй на вуха і засмяецца. Вольга выйшла з імі з аднаго гнязда і ўзляцела высока, і вось яны цягнуцца за ёю. Вольга — дачка народа.

## РАЗВЕДЧЫКІ

Калі Андрэй канчаў гутарку з групай сялян у кухні Данілы Перагуда, над вёсачкай Дзяды, над борам і возерам ужо гарэлі буйныя зоры. Яны дрыжалі, пераліваліся ў нябеснай тоні, як застыўшыя глыбакаводныя кветкі, танулі ў возеры. Тут, у вёсцы, Андрэю ўпершыню давялося стварыць ячэйку. Сцяпан Каваль, які часта бываў у гэтай вёсцы, стварэннем ячэек не займаўся — ён вёў толькі разведку. Сцяпан Каваль — ураджэнец вёскі Дзяды — застаўся без радні, сам нежанаты, той-сёй са сваякоў застаўся ў Расіі. Толькі адзін Даніла Перагуд яму радня — сын малодшай сястры мацеры Сцяпана. Гэтай сястры ўжо няма на свеце. А Даніла Перагуд, ажаніўшыся з Мар'янай яшчэ ў бежанцах, вярнуўся дахаты і са згоды Сцяпана Каваля прадаў яго надзел зямлі — дзве дзесяціны — мясцоваму кулаку Хведару Дудзько, які не выязджаў у бежанцы. І тады Даніла купіў сабе каня і карову. Малады яшчэ Даніла Перагуд, але ведае лясныя сцежкі, як стары. Часта на чаўне адпраўляецца ў начное падарожжа па возеры невядома куды.

Даніла Перагуд — галоўны разведчык Сцяпана Каваля. Развітаецца са сваёй Мар'янай, з дачушкай Мальвінай, з сыночкам Сцёпам (названы ў чэсць Сцяпана Каваля) і адплыве па возеры ў цёмную ноч. Часам праводзіць яго цемнавокая Мар'яна і доўга стаіць на беразе пад сасною, пакуль не страціць з вачэй чоўна, пакуль той не нырне ў густыя, стромкія цені соснаў, што акунулі свае верхавіны ў азёрную тонь і нібы дакрануліся дна. Верыць Сцяпан Каваль у пільнасць Данілы, але часам намахае яму нагайкай пад носам за якую-небудзь недакладнасць.

— Каб пазнаць сляды ворага, трэба мець востры нюх — след нячыстага смярдзець табе павінен...

Слухаў Даніла, апусціўшы валасатую галаву, непрыкметна для сябе пакручваючы малады вус. Дакараў сябе,

правяраў у галаве ўсю сваю працу. За сваю вёску быў спакойны... Але вось яна якраз і прыспала Данілу, гэтая свая, непрыкметная для людзей, вёсачка. Недасачыў Даніла Хведара Дудзько. У час фэсту ў царкве св. Антонія знюхаўся ён з паліцыяй.

Дудзько — царкоўны стараста, ды як жа тады не пасябраваць з панамі? Рука руку мые. І запрасіў ён у госці каменданта Качуру, пана Чарапіцкага і трэцяга, які быў з імі, ляснічага лясніцтва Залатой гары. Ну, тады вось і пайшло. Церабілі за сталом «камуністычную заразу», хвалілі Пілсудскага, абяцалі рай для гаспадароў і пагібель для «лодараў, бандытаў». Дудзько са шчаслівістай чорнай барадой, з маслянымі валасамі, падстрыжанымі «пад гаршчок», як лесавік, сядзеў у канцы стала пад іконамі і стараўся дагадзіць панам. Будавацца трэба, дык трэба дагадзіць лясвічаму. Можа, сына куды ўдасца «ўпхнуць» на службу ў лес. Толькі адно перашкаджае — гэтыя ўзброеныя ходзяць па лесе. Небяспечна. І вось тады Качура выклікаў Дудзько ў сенцы і разам з Чарапіцкім «апрацавалі» сабе яго. Дудзько доўга і не ўпіраўся. Калі паабяцалі яму ўладзіць з сынам ды з лесам на пабудову, Дудзько згадзіўся і сказаў:

— Я і без вашай намовы, панове, сачу за ўсім, але не было каму аб гэтым сказаць. А бандыты сюды часта прыходзяць...

Не прасачыў Даніла Хведара Дудзько, а ён часам і пад вокны ўначы падкрадаўся і ўдзень пытаўся на вуліцы ў Мар'яны, ці дома Даніла.

Ужо забрала б Данілу паліцыя, ды вось Сцяпан Каваль са сваімі малойцамі пасля таго, як была спалена лесапільня ў бярозаўскай суполцы, разграміў пастарунак у дырэкцыі Пшэборскага, і сам Качура быў паранены.

* * *

Ужо некалькі дзён пражыў Андрэй у гэтым, як ён казаў, лясным царстве, дзе ўпершыню ў сваім жыцці апынуўся на становішчы падпольшчыка. Хоць, праўду кажучы, якое тут было падполле? Збіраюцца людзі амаль што адкрыта, часта прыходзяць сюды партызаны Каваля. Таму і няцяжка было Андрэю арганізаваць тут ячэйку.

— На днях збяром тут сход і пасля гэтага пойдзем,— адказала Вольга Андрэю, калі той сказаў, што ён засеўдзеўся ў Дзядах.

— Тут могуць абысціся без нас. Апрача гэтага, надакучылі мы, відаць, гаспадарам. Амаль што цэлыя дні з хаты не вылазім.

І на самай справе, толькі вечарамі яны выходзілі часам пасядзець на прызбе або тады, калі збіраліся ячэйкі, заходзілі ў другую хату. Далёка адыходзіць ад вёскі асцерагаліся.

Даніла гэта як быццам зразумеў. І аднаго разу, калі Андрэй з Вольгай вярнуліся з маладзёжнага сходу, ён сказаў:

— Цёпла на дварэ... Ідзіце к возеру, прайдзіцеся. Абрыдла сядзець у хаце... Заўтра паеду венцяры вымаць, наварым рыбы.

І Андрэй з Вольгай выйшлі ў цішыню ночы, дзе кожны гук і нават шорах з-пад ног ляцелі да зор. Ішлі сцежкаю па беразе возера, аддаляючыся ад вёскі. Вольга была апранута ў нешта падобнае на чорны жакецік, які адцяняў яе стройную постаць. Галаву Вольгі акаймляў чорны шаль, ад чаго твар яе выглядаў, як у рамцы карціны, свяціў спакойнай белізной.

Пасмы месячнага святла леглі між соснаў на сцежку зеленаватымі адценнямі. А там па шырыні возера палыхаў агністы клубок, то звужаўся, то расшыраўся, як гармонік, пад тонкаю дымкай туману.

Андрэй з Вольгай ішлі павольна, ледзь пераступаючы з нагі на нагу, і маўчалі. Усё, што выступала перад імі навокал — і зоры, і лес, і азёрная гладзь у месячным бляску,— усё наказвала маўчаць. Ціхая стома закрадалася ў душу Андрэя. Пазіраў на бялявы профіль Вольгі. Яго локаць часам дакранаўся да яе локця, і гэта ўжо было здарэннем, парушаючым адчуванне навакольнага хараства.

Андрэй, не гледзячы, адчуваў, як яе позірк часта спыняўся на ім. Ішла яна — чуйная, і ў задуме, здавалася, кіравала плынню думак сваіх і Андрэя. Андрэю ўсплылі на розум два словы — гордасць і пяшчотнасць. Вось гэта яна, Вольга. Гордасць і пяшчотнасць спляліся ў ёй у адно адзінае цэлае, імя чаму — вернасць.

Так і хацелася сказаць:

«Дарагая жанчына, якая ж ты моцная! Такая моцная, што хочацца ўзяць цябе на рукі і несці, як найдаражэйшы скарб, сабраць для цябе ўсе зоры, бляскі вод і шэпты бору...»

— Знаеш, гэта такое ачараванне... Мы так зойдзем

невядома куды,— сказала Вольга крыху стомленым голасам.

Спыніўшыся, яна глянула Андрэю ў вочы і гэтым прыкавала яго позірк да сябе. Так прайшлі секунды, а можа, і мінуты. Дакранулася лёгкім і такім цёплым рухам да пляча Андрэя і ціха сказала: «Хадзем...» Па яе твары прабегла ўсмешка, якая хавала ў сабе нейкі ёй вядомы сакрэт. Лёгка страсянула галавой і папраўліла шаль, падбіраючы валасы са шчок. Андрэй узяў яе пад руку і сказаў:

— Пойдзем з краіны мараў у рэчаіснасць...

— Трэба рэчаіснасць адзяваць у мары... Я іначай не разумею жыцця і разумець не хачу...

— Ты забіраеш у мяне гэтыя словы з вуснаў. Але я думаю, каб за гэтым не згубіць пачуцця рэчаіснасці.

Вольга неяк парывіста зірнула на Андрэя, як уражаная нечым, і сказала з адценнем жарту:

— Хораша гаворыш, хораша...

Вузкая палоска зубоў бліснула Андрэю ў вочы — трапяткая ўсмешка на момант застыла на твары Вольгі.

Калі падышлі да хаты Данілы, пачулі па падворку гоман. Чуўся толькі голас Данілы, але ў такой цішыні ночы ён здаваўся гоманам. Андрэй з Вольгай насцярожыліся, спыніўшыся на вуліцы ля вішнёвага агародчыка. Гаварыў Даніла:

— Ну, чаго ты, як якое ліха, лазіш пад вокнамі? Усе людзі як людзі, леглі адпачываць, а ты...

Другі голас гаварыў цішэй — тонам вінаватага:

— Няўжо нельга прайсці праз твой падворак? Ты толькі не крычы, а то на ўсю вёску...

— А чаго ты за тою сцяною лазіў. Там жа не падворак...— адказаў Даніла і, памаўчаўшы хвіліну, дадаў: — Знаеш, Хведар, калі яшчэ раз заўважу такую работу, бажуся,— прывяжу камень да ног і пойдзеш дыбам у возера... Ідзі...

Царкоўны стараста Хведар Дудзько лыпаў вачыма, хацеў нешта адказаць, але павярнуўся і пайшоў. Андрэй з Вольгай прытуліліся да плота ў засені вішань, каб быць незаўважанымі. Чорная постаць Хведара Дудзько панура паплялася па вуліцы, Даніла выйшаў, паглядзеў яму ўслед, узяўшыся ў бокі. Пасля плюнуў са злосці і сказаў:

— Чортава насенне... Бачыў ты яго...

Андрэй з Вольгай аддзяліліся ад плота.

— Ён вас не бачыў? — запытаўся Даніла.

— Не...— адказала Вольга.

Начавалі не ў Данілы, а ў аднаго з членаў ячэйкі. Калі Даніла развітаўся з імі, Андрэй з Вольгай пайшлі на кухню вячэраць. У час вячэры Андрэй сказаў:

— Вось гэта яна і ёсць самая рэчаіснасць.

— Так, яна... Якой я не баюся... Рэчаіснасць не зацемніць мне тых зораў, пад якімі мы ішлі і пад якімі пойдзем далей...

— Скажу ў сваю чаргу і я,— адказаў Андрэй,— хораша гаворыш. Так, так... У нашай рэчаіснасці павінна быць месца і зорам.

— Яны павінны свяціць перад вачыма наперадзе... Бездапаможны той, хто не бачыць зор,— як быццам адрэзала Вольга.

Абое ўсталі, скончыўшы вячэру, і яшчэ раз паглядзелі адзін аднаму ў вочы, як быццам да нечага прыслухоўваючыся.

А за акном і далей падалі зоры...

* * *

Назаўтра, недзе блізка к абеду, у вёску заявіўся конны разведчык Сцяпана Каваля Макар Краўчук.

Сцяпан Каваль, разбіўшы ў некалькіх сутычках паліцэйскія атрады, выйшаў са сваіх лясных сховаў і падышоў да шляху. Разумеў, што варожыя сілы будуць збірацца супроць яго. Сцяпан чакаў нават рэгулярных войск. Шлях павінен быць пад наглядам. Выпраўляючы Макара, наказваў:

— Глядзі, цвыркунок, цвырыкай добра... Патрап надзець шапку-невідзімку, калі трэба. Мы хутка заявімся ў Дзяды... Калі здабычу якую зловіш, давай сюды...

Нельга было падумаць, што Макар — разведчык. От, ехаў сабе пуцалаваты хлопец на добрым гнядым кані, і ўсё. Рэвальвер быў схаваны за поясам пад курткай.

Калі заехаў на падворак Данілы, запытаўся дарогі ў суседнюю вёску, а затым злез з каня, закурыў і папрасіў напіцца. Даніла вынес яму вады, адвёў каня ў хлеў, а пасля сеў з хлопцам побач на прызбе. Расказваў аб паводзінах Хведара Дудзько і ўжо намерваўся пайсці ў хату і напісаць запіску Сцяпану, як на вуліцы з'явіўся салдат у пілотцы з арлом. Ён ішоў з лесу, з боку возера. Па калені ў балотнай гразі, пакусаны камарамі, ён меў змучаны выгляд. Убачыўшы на падворку двух мужчын, якія ся-

дзелі на прызбе, спыніўся. Хвіліну падумаўшы, няўпэўнена завярнуў на падворак. Даніла з Макарам сядзелі не зварухнуўшыся. Сказаўшы «дзень добры», салдат спытаўся, як завецца гэтая вёска і ці далёка ад яе да шляху. Адказваў Даніла:

— Вёска завецца Дзяды, а да шляху ад яе будзе кіламетраў дваццаць.

— Дваццаць? — працягнуў салдат.— Не можа быць...

— А вы адкуль ідзяце і куды? — спытаўся Макар.

— Я з атрада асобага прызначэння. Нам трэба дабрацца аж да Баранавіч... І вось тут мы крыху заблудзілі...

Салдат, пазіраючы на Данілу і Макара, што мірна сядзелі на прызбе з цыгаркамі ў зубах, падумаў, што ў гэтых людзях няма нічога небяспечнага, і рызыкнуў запытацца:

— А бандытаў у вас тут не чуваць?

— Якіх бандытаў? — перапытаў Даніла.

— Ну, што страляюць з-за куста...

Даніла абыякава махнуў рукою і адказаў:

— Які бандыт пойдзе сюды ў гэтую глуш? Няма ў нас такіх.

— Кажыце, калі што ведаеце, дастанеце ад нашага камандзіра ўзнагароду...

— Няма, няма ў нас такіх,— адмахнуўся Даніла.

— Ну, то бывайце,— адказаў салдат.— Але ж і парнасць, пся крэў... Напэўна, будзе дождж...

Салдат толькі ступіў два крокі, каб адысці, як Макар Краўчук цтрыкнуў слінаю праз зубы, а потым крыкнуў:

— Гэй, салдат, пачакай мінутку...

Салдат спыніўся, павярнуўшы да Макара толькі галаву. Макар скочыў, і дула яго рэвальвера ўткнулася між вачэй салдата.

— Рукі ўгору!

Салдат рук не падняў, з месца кінуўся бегчы па вуліцу, але, спаткнуўшыся аб нешта, расцягнуўся пластам ля веснічак, а ў гэты самы момант прагучаў стрэл Макара. Салдат не паспеў устаць, як яго ўжо трымаў ззаду за рукі Даніла.

На стрэл з хат пачалі выбягаць на вуліцу людзі. Іх ужо выбегла многа, а каля іх галопам імчаўся Макар з прывязаным да сядла салдатам.

На стрэл выбегла збялелая ад трывогі Мар'яна і, убачыўшы, як увіхаюцца Даніла з Макарам над салдатам, замахала рукамі:

— Ой, што вы робіце... Бяду наклічаце...

На вуліцы людзі сабраліся ў натоўп і глядзелі ўслед клубкам пылу, які курыўся з-пад капытоў Макаравага каня.

Выйшлі на вуліцу і Андрэй з Вольгай.

Вольга адразу сказала па свайму звычаю:

— Хадзем к пароду...

І пайшлі. Ішлі хутка, як быццам спяшаліся. Іх ужо здалёк сустракалі цікаўныя позіркі. Падышлі да людзей, прывіталіся. Вольга і пачала гаварыць, павольна, крок за крокам прасоўваючыся ў натоўп. Не заўважала, як людзі ціха расступаліся і давалі ёй дарогу, праводзячы поўнымі прыхільнасці вачыма. А яна ішла і гаварыла, раз-пораз устрасаючы галавой, абдымаючы ўсіх агністым, спакойным позіркам.

— Карнікі не ўцякуць ад рук народа... Не стрымаць панам рэвалюцыі!..

Яна як быццам праклала дарогу і для Андрэя. Ён пачаў, на здзіўленне сабе, гаварыць спакойна. Вылятаді словы і пра партызан і пра народныя сілы, абуджаныя Кастрычнікам, і пра партыю...

Калі вярнуліся з «мітынгу», радасныя, узрушаныя, у хаце Данілы сядзеў чалавек, трымаючы салдацкую шапку на каленях. Гэта быў будачнік, адзін з разведчыкаў Данілы.

— А, Пятрусь, здароў,— прывітаўся Даніла.— Ну, расказвай, як жывеш.

— Няма, брат, часу аб гэтым гаварыць.— Падмаргнуўшы, ён кіўнуў галавою ў бок сенцаў і ўстаў. Яны выйшлі. Гутарка іх працягвалася некалькі хвілін. Даніла замітусіўся, вочы бліскалі агнём трывогі.

— Дай, Мар'яна, што перакусіць... Да вечара трэба паспець...

— Куды? — утаропіла позірк у Данілу Мар'яна.

— Пасля скажу... Хутчэй...

Мар'яна пайшла на кухню, а Даніла сказаў Андрэю і Вользе:

— Трэба вам, як паабедаеце, ісці адгэтуль.

— Мы думалі зрабіць гэта заўтра,— сказала Вольга.

— Не, сягоння... Сюды набліжаецца карны атрад... Я зараз памчуся туды, да сваіх... Але перш перавязу вас цераз возера, пакажу дарогу...

...Пачынала ўжо хіліцца к вечару, калі Даніла і Андрэй з Вольгай селі ў човен. Садзіліся далёка ад вёскі, у

глухім зацішным месцы. Возера па дзіва было спакойнае, гладкае як шкло. Часам толькі плёскалася рыба. Прыбярэжныя сосны, адбітыя ў вадзе, застылі ў празрыстай яснасці і здзіўлялі сваёй нерухомасцю. Толькі на захадзе з-за лесу клубіліся белыя воблакі і відаць было, што далей за лесам яны ўжо цямнелі. Ластаўкі ў лёце прыпадалі да вады.

— Будзе навальніца, не іначай,— сказаў Даніла.

Штосьці ўстрывожаны і пануры быў Даніла. Ён гроб вяслом і думаў. Знікла яго ўсмешка пад вусамі. Азіраўся навокал, наглядаў па неба і яшчэ больш энергічна налягаў на весло. Спяшаўся Даніла, бо вось-вось на конях могуць паляцець ліхадзеі з шаблямі. Нават з Андрэем і Вольгай развітаўся як найхутчэй, сказаўшы:

— Выбачайце, калі што...

І нават не хацеў даслухаць да канца адказу Андрэя — нырнуў уніз па сцежцы між кустоў, толькі яго і бачылі.

Андрэй з Вольгай, прайшоўшы прыазёрнай нізінай, пачалі ўзнімацца на парослае лесам узвышша, якое градою праходзіла воддаль ад возера. Там яны павінны выйсці на дарогу, якая завядзе іх далёка — аж у мястэчка Глушэц. А ўслед ім усё плылі і плылі белыя, клубкаватыя хмары — прадвеснікі навальніцы.

## ANNO 1772

Карны атрад паручыка Ельскага з вялікімі цяжкасцямі прасоўваўся па балотнай нізіне. Людзі і коні абліваліся потам. З-пад ног коней хмарамі ўзнімалася машкара і ўміг пакрывала, як густою сеткай, і коней і людзей. Вельмі цяжка было бараніцца ад машкары — яна проста прыліпала да коней, да твараў, да адзежы салдат. І, каб пазбыцца гэтай навалы, трэба было расціраць яе па твары рукою. Так і рабілі салдаты, так рабіў і сам паручык Ельскі. Ад гэтага твары салдат і паручыка Ельскага былі вымазаны крывёю. Аб конях перасталі ўжо дбаць — трэба было пільна сачыць за дарогай, каб не трапіць у дрыгву. А дрыгвяных месц тут было нямала. Ратавала атрад усё ж такі дарога. Мясцовыя навакольныя жыхары з году ў год, а можа і з веку ў век, вобмацкам пратапталі яе, абмінаючы дрыгвяныя мясціны і бяздонныя «вокны», схаваныя ў высокай траве. Таму дарога не ішла проста, а збочвала то ўправа, то ўлева. Атрад выцягнуўся

«ў нітку» па дарозе — конь ступаў за канём след у след.

Паручык Ельскі, выслаўшы двух разведчыкаў наперад, ехаў па чале атрада. Насунуўшы на вочы акаваны бліщчастым абадком казырок шапкі, увесь запэцканы, панура пазіраў навокал. Калі ж будзе канец гэтай праклятай дарозе? І наогул куды яна завядзе? Можа, у такія непралазныя нетры, што давядзецца вяртацца назад. Пся крэў... Горш тое, што неба ўсё больш і больш засцілаецца хмарамі і ноч можа застаць тут, бо дзень ужо хіліцца к вечару. Чаму не вярнуўся разведчык? Няўжо дзе трапіў у якую бандыцкую пастку? Не можа быць. Гэтага яшчэ не здаралася.

Ельскі нават агледзеўся. Салдаты ехалі адзін за другім з расшпіленымі каўнярамі гімнасцёрак, з пасохлымі ад смагі губамі. Самым заднім ішоў конь без ездака, прывязаны да сядла папярэдняга,— конь разведчыка, які не вярнуўся.

Пізіна ўсё яшчэ не канчалася. Далёка цямнела паласа лесу, і на першы погляд здавалася, што да яе рукой падаць, але на самай справе яна быццам і не хацела набліжацца. Усё роўна, як міраж. Тое, што набліжалася, сапраўды была толькі градка лесу на «востраве» — невялічкім узвышшы сярод балота, а за ёй зноў распасціраліся асокі, лазнякі і дзе-нідзе адзінока тарчалі карлікавыя бярозкі.

Зноў пякло сонца, камарыны звон стаяў над глухімі прасторамі, мігатліва блісткалі трапяткія крыльцы гуллівых стракоз. Ад балотнай іржавай вады патыхала парнасцю.

А цёмная паласа лесу ў сонечным марыве і далей стаяла прад вачыма далёка пад небасхілам і вабіла прытулкам, адпачынкам, абяцала канец гэтай пакутлівай дарогі. Паручык Ельскі запіша гэты рэйд сабе ў памяць, як «храбры пераход». Няважна, што ён быў прадыктаваны няхрабрымі пачуццямі.

Але вось чамусьці адзін з разведчыкаў едзе насустрач Ельскаму. Што здарылася? Можа, якая небяспека? Паручык Ельскі падцягнуў павадкі каня і сам падцягнуўся ў сядле. Павярнуў галаву да салдат і крыкнуў: «Увага!» Разведчык пад'ехаў і далажыў, што далей ехаць нельга — дарога пайшла праз дрыгву, коні гразнуць з першых крокаў. Конь разведчыка сапраўды быў у балотнай гразі па самы жывот. Пасля данясення разведчыка навакольная глухамань, як здавалася Ельскаму,

яшчэ больш анямела. Ён на момант апусціў галаву, утаропіўшы вочы ў луку сядла, а потым безнадзейна павёў вачыма па краявіду, як быццам шукаючы ратунку там, дзе захмараны небасхіл апускаўся на беспрытульныя асокі, хмызнякі, на цёмную паласу лесу. Урэшце выпрастаўся ў сядле, як быццам абудзіўшыся ад зморы, і спытаўся ў разведчыка:

— Што, думаеш, можна было б зрабіць?

Разведчык доўга не думаў. Адказ у яго як быццам ужо быў падрыхтаваны.

— Я думаю, што трэба сячы лазняк, пане паручык, і ўсцілаць дарогу.

— Думаеш так?.. Гм.. А многа гэта зойме часу? Як думаеш?

— Думаю, што няшмнога, пане паручык...

— Ну, што ж... тады будзем сячы,— адказаў Ельскі і павярнуў каня да салдат. Пачаў загадваць:

— Палавіна атрада — з коней! Кожны перадасць каня свайму калегу. Шаблі ў далоні і сячы лазняк, усцілаць ім дарогу вунь там...— Паручык паказаў вялікім пальцам цераз плячо.— Дарога падышла да тванiстага балота, нельга ехаць далей... Зразумела?

Пятнаццаць салдат, узброеных шаблямі, рассыпаліся па лазняках, якія размясціліся групкамі сям-там бліжэй і далей ад дарогі.

Салдаты, хоць каторы і груз у балотнай твані, усё ж такі секлі, перастаўшы звяртаць увагу на машкару, якая неадчэпна вісела над іх галовамі.

Праўда, адзін салдат уваліўся быў у тое патайное «акно» і нарабіў крыку. Каб не падбеглі іншыя на дапамогу, можна было б лічыць, што Ельскі страціў яшчэ аднаго жаўнера. І тут у паручыка Ельскага прабегла ў галаве так нечакана для яго самога: «Пся крэў... нават тутэйшая прырода супроць нас...» Але потым спалохаўся гэтай думкі і накіраваў каня на салдат, якія ўсцілалі дарогу.

Пад'ехаўшы да іх, паглядзеў удалячынь. Дарога вілася, губляючыся паміж асокаў і чаротаў, дзе-нідзе залітая вадою. Толькі далёкі хмызняк нагадваў, што там, мусіць, канец дрыгвянай даліне. Паручык з трывогаю паглядаў на сонца, якое ўжо апускалася над лесам, і падганяў салдат: «Хутчэй, хутчэй...» Пальчаткаю выціраў сабе твар, бо хустачка была ўжо непрыгодная да ўжытку, і ўсё падганяў салдат.

Рушылі ў дарогу ўжо тады, калі сонца схавалася за лесам і над балотамі леглі тонкія змрокі, якія з кожнай хвілінай усё гусцелі і гусцелі. І, урэшце, калі пад'ехалі да лесу, балота ахутала цёмная таямнічая ноч. А над лесам павісла чорная, як сопуха, хмара. Яна, здаецца, застыла на месцы, грозная, насупленая, усё больш і больш набірала чарнаты. Таму ў лесе стала так цёмна, што за крок нельга было разглядзець дарогі. Паручык Ельскі выслаў разведчыкаў, сказаўшы: «Галопам, разведаць, якая вёска перад намі», і зрабіў кароткі прывал.

Хвіліны ў чаканні цягнуліся павольна, як плыла тая хмара, ад якой лес патануў у непрагляднай цемры. Хмара насоўвалася ўжо і над балотам. Усё прытаілася, прыціхла пад яе покрывам. Ні гукаў, ні ветру. Нават коні не фыркалі. Салдаты Ельскага прыпалі да зямлі, трымаючы кожны свайго каня на павадку. Некаторыя паспелі задрамаць — так хіліла да сну пасля дзённай стомы. Хоць у кожнага ў сумцы было па кавалку хлеба, але нікому не хацелася есці. Хацелася толькі ляжаць, не падымацца.

Для Ельскага дзяншчык вобмацкам знайшоў пень, на які і сеў паручык. У цішыні лавіў вухам перашэпты салдат. Часта далятаі словы «пся крэў», «спаць». Ельскі разумеў, што ў салдат не можа быць вясёлага настрою пасля такой дарогі, і таму палічыў патрэбным падбадзёрыць. Знізіў тон да фамільярнасці:

— Не засніце, хлопакі, хутка будзем у вёсцы, адпачнем як належыць... Трэба пацярпець... Усё для айчыны...

Голас Ельскага спалохаў прытоеную цішыню і, здавалася, быў чуваць усяму лесу, чым напалохаў і самога. Ён зноў сеў на пень і азірнуўся навокал. Пачуўся трэск галля ў аддаленні і тут жа голас вартавога: «Хто едзе?» Аказалася, вярнуліся разведчыкі. Далажылі Ельскаму, што вёска недалёка і што завецца яна Дзяды.

— Як? — перапытаў паручык.

— Дзяды,— адказаў разведчык.

— Дзяды? Гм... Ну, добра, паедзем...

Пачуўшы назву Дзяды, Ельскі яўна ажывіўся. Усё вымаўляў сам сабе, робячы націск у польскай вымове на першы склад: — Дзя́ды... Дзя́ды...

І рабіў чамусьці з гэтага яшчэ раз свой вывад, што Польшча тут на крэсах непарушная, што «хлопства» трэба навучыць паслухмянасці крывёй і жалезам, што тут спрадвечна панская спадчына і што яе трэба бараніць ад бандыцкага хлопства, выкарчоўваць бальшавіцкую заразу.

Атрад, зноў выцягнуўшыся «ў нітку», вобмацкам пасоўваўся па лясной дарозе.

Калі наблізіліся да вёскі, на захадзе за лесам бліснула маланка і пачуўся глухі грукат грому. Вёска Дзяды ўся тапула ў цемры і цішыні — не відаць было ні агеньчыку, не чуваць і чалавечага голасу.

Як высветлілася, усё насельніцтва вёскі пасля ад'езду разведчыкаў Ельскага ўцякло ў лес. Большасць, хто меў, паспела ўзяць з сабою коней і кароў. Засталіся ў вёсцы толькі два чалавекі — намеснік солтыса (сам солтыс быў у суседняй вёсцы) і Хведар Дудзько. Праўда, Хведар быў уцёк разам з усімі, але толькі для віду, бо потым, пакінуўшы сям'ю ў лесе, пракраўся ціха назад у вёску, сеў ля хаты Данілы Перагуда, каб сустрэць атрад.

Прыбег яшчэ адзін чалавек з лесу — той, што папярэдзіў насельніцтва аб набліжэнні карнага атрада, той, што паспеў пабываць у Сцяпана Каваля і перадаць усё і аб атрадзе і аб Хведару Дудзько,— прыбег сам Даніла, каб забраць карову. Нёс на руках у лес сопную Мальвінку і таму не мог гэтага зрабіць раней. І вось вярнуўся. Калі заскрыпелі вароты хлява, Хведар Дудзько прыслухаўся і прыўзняўся з месца. «Ага, ты тут,— падумаў,— добра...»

Бліснула маланка, і далёка глуха загрымела, і ў гэты момант затупалі капыты коней на вуліцы.

Перад разведчыкамі вырас у цемры Хведар Дудзько і сказаў, што насельніцтва ўцякло ў лес, што ў вёсцы застаўся толькі ён і вось прыбег з лесу яшчэ адзін.

— Затрымаць яго,— з месца сказаў разведчык, асвятляючы ліхтарыкам чорную, як смоль, бараду Дудзько. Маланка пачала бліскаць ужо беспярэпынна, і грымоты разлягаліся адны за другімі ўсё бліжэй і бліжэй. Возера пахмурылася, і цяжкія хвалі плёскаліся аб бераг.

Даніла якраз вывеў карову з хлява, і тут жа прамень ліхтарыка слізгануў па ім з галавы да ног.

— Куды вядзеш карову? — крыкнуў разведчык.

— Нікуды,— адказаў Даніла.

У гэты час з тупатам і шумам уехаў у вёску ўвесь атрад.

Хведар Дудзько стаяў ля каня разведчыка, не заўважаны Данілам.

— Сцерагчы яго,— сказаў разведчык, а сам накіраваўся на вуліцу, каб далажыць паручыку.

Даніла прыглядзеўся, хто мае яго спераглы, і пазнаў Хведара.

— А, бадзяга, і ты тут?

Першай думкай было збіць Хведара з ног і ўцячы, але Хведар разумеў, што можа так быць, і зараз жа першы схапіў Данілу за руку.

— Не ўцякай,— сказаў ён.

Даніла хацеў вырвацца, тады Дудзько схапіў яго за другую руку. Пачалася барацьба. Хруснулі косці Хведара ад натугі.

Даніла ўсё ж такі схапіў Дудзько за грудзі, падняў і бразнуў аб зямлю, але па інерцыі і сам паваліўся на яго. Адзін момант,— толькі падняцца і знікнуць у цемры. Але... як толькі падняўся, некалькі праменняў накрыж асвятлілі яго, задыханага, без шапкі, з ускудлачанымі валасамі.

— Стой! — крыкнулі легіянеры (яны паспелі злезці з коней), і некалькі рэвальвераў накіравалася на Данілу.

Хведар Дудзько са стогнам устаў з зямлі і, атрасаючы пясок, падаўся туды, дзе, заўважыў, мігцелі ў цемры дзве белыя зорачкі на шапцы,— падышоў да паручыка Ельскага.

— Пане...— раскрыў рот Дудзько.

— Ну, што? — перабіў яго Ельскі.— Гавары хутчэй!

— Гэты вось хавае камуністаў, ён мае сувязь з бандытамі ў лесе...

Даніла, які стаяў у акружэнні легіянераў, ірвануўся з месца і яшчэ раз збіў з ног Хведара. Але некалькі салдат навалілся на яго, і ў гэтай мітусні пачуўся голас Ельскага: «Вязаць яго, вязаць!» Яшчэ здолеў Даніла ўстаць з-пад навалы салдат. Але, па загаду паручыка, яшчэ падышлі з арламі на шапках. І звязалі Данілу па руках і па нагах і паклалі ля плота супроць парога пад вішанькай, там, дзе ў пагодны вечар ён любіў часам адпачыць на лавачцы, пасадзіўшы дачушку Мальву на калені.

Салдатня Ельскага рассыпалася па вёсцы. Сям-там па вуліцы і на падворках праціналі цемру палосы святла ліхтарыкаў — бліскалі і знікалі, зноў бліскалі. А побач панура, злавесна шумела возера, і маланка час ад часу асвятляла яго цяжкія хвалі. Гром магутнеў, і, калі ён наблізіўся зусім, павевы ветрыку дыхнулі ў прытоеную цішыню.

Да паручыка Ельскага падскочыў ад'ютант:

— Пане паручык, дазвольце далажыць,— шлях, які нам патрэбны, знаходзіцца паўкіламетра ад вёскі, варта ў вёсцы забяспечана, заставы пастаўлены ля касцёла і далёка па шляху...

— Добра,— адказаў паручык і злез з каня, перадаўшы яго ардынарцу.

— А гэта вось, пане паручык, намеснік солтыса,— паказаў на маленькага чалавека ад'ютант.— Ледзь знайшлі разам з гэтым гаспадаром.

Побач стаяў Хведар Дудзько, на якога і ткнуў пальцам ад'ютант.

— Вядзіце яго ў хату,— буркнуў паручык.

У хаце Данілы ўжо арудавалі салдаты. Гарэла лямпа. На кухні ў печы палалі дровы. Салдаты паспелі пералавіць сонных курэй і зарэзаць Данілавага падсвінка. Усё гэта варылася ў чыгунах і гаршках. Тое самае рабілася і па іншых хатах.

Ельскі ў суправаджэнні ад'ютанта ўвайшоў у хату, расшпіліў сваю плашч-накідку і сеў за стол, паклаўшы на яго нагайку. Да паручыка падвялі невялікага росту чалавека ў доўгай старой сярмязе і вялікай (яшчэ старой моды) з прапацелым кружком на галаве шапцы, якая асядала яму на самыя вушы. З-пад доўгай світкі віднеліся босыя ногі. Ён плюшчыў ад святла лямпы свае маленькія спалоханыя вочы, што нават забыўся зняць шапку.

— Зніміі шапку! — грымнуў паручык.

Маленькі чалавечак зняў брыль, і валасы кучмою ўзняліся на галаве.

— Ты намеснік солтыса, так? — пытаўся Ельскі.

— Ага, я...— квола адказаў намеснік солтыса і пераступіў з нагі на нагу.

— Чаму так распускаеш насельніцтва? Дзе твае людзі?

— Паўцякалі ў лес, пане... Што я зраблю?

— Бальшавікоў многа ў вёсцы?

Маленькі чалавечак паціснуў плячыма.

— А хто іх, пане, ведае.

— А хто павінен ведаць? Чаму гэты гаспадар ведае? — паказаў Ельскі на Хведара Дудзько, які стаяў побач у позе «свяшчэннай» прыстойнасці.

Намеснік солтыса зірнуў малымі вочкамі на Хведара і, апусціўшы галаву, змоўк.

— Ну? — буркнуў паручык.

Маленькі чалавек на нешта адважыўся. Глянуў на

бліскучы абадок казырка паручыка, перавёў вочы на арла і, як быццам цераз сілу, прамовіў:

— Ды яны, пане, цянер... гэтыя бальшавікі, усюды ёсць...

Што хацеў далей сказаць намеснік солтыса, невядома, бо словы яго перарвала грознае:

— Цо-о-о?! — І нагайка з рукі паручыка паласнула намесніка па галаве. Паласнула раз, другі, трэці... Удары сыпаліся адзін за другім. Чалавечак закрычаў не сваім голасам, яшчэ раз узняў галаву, прыкрытую ўжо да вачэй валасамі, з-пад якіх пацёк гарачы крывавы струмень. А пасля сагнуўся ў крук, і ўдары пасыпаліся па спіне.

— Арыштаваць! Адвесці! — раўнуў урэшце паручык і, кінуўшы нагайку на стол, стомлены сеў на лаву... Пачарнелы ад дзённай спякоты твар абліўся потам.

За акном зашумеў вішняк. Голле скрабанула па шыбах, і бляск маланкі ўварваўся ў хату. Пракаціўся гром магутным покатам, здавалася, над самай страхою.

Паручык запрасіў Хведара Дудзько сесці.

— Сядай, гаспадар, пагаворым...

Дзяншчык паставіў на стол патэльню са смажанай курыцай і парасяцінай, пасля прынёс талерку з нарэзаным хлебам. Паклаў відэлец, нож і стаў, чакаючы далейшага распараджэння.

— Прынясі з саквы[1] бутэльку каньяку,— загадаў Ельскі,— і пастаў ежу вось гэтаму гаспадару,— ткнуў ён пальцам у Хведара Дудзько.

Усё было прынесена, і паручык Ельскі з «гаспадаром» Дудзько распачалі гутарку.

Нямнога паспелі яны з'есці, не ўсё давялося даведацца паручыку. Грымоты ўвесь час пракочваліся над хатай, скроб шыбы вішняк, і з ветрам далятаў шум возера. Вецер стаў парывістым, вострым.

Уляцеў задыханы начальнік вартавой службы, з ходу стаў на «смірна» і далажыў:

— Пане паручык, на шляху страляніна, нашы заставы вядуць перастрэлку з бандытамі...

Відэлец выпаў з рукі паручыка Ельскага. Імгненна надзеў ён шапку і крыкнуў:

— На конь! Узмацніць заставы! — загадаў начальніку вартавой службы.

---

[1] Торба пры сядле.

— Бочэк! — клікнуў Ельскі свайго ад'ютанта, які сілкаваўся на кухні смажанай курацінай.

Сержант Бочэк хутка выцер губы і стаў перад Ельскім.

— Звязанага камуніста забраць з сабой... І зрабіць з ім належны парадак... Разумееце?

Сержант Бочэк добра разумеў, што гэта значыць.

— Слухаю,— адказаў ён,— будзе выканана, пане паручык.

— Яшчэ адно... Правучыць бандыцкую вёску, каб памятала... Разумееце?

Сержант і гэта разумеў.

Уміг апусцела хата. Загады пайшлі, як па дроце, да камандзіраў груп, і калі паручык Ельскі выехаў на вуліцу, то пачуў, як звон шыбаў, трэск разносіўся па ўсёй вёсцы.

Салдаты прыкладамі кавалерыйскіх вінтовак выбівалі вокны ў хатах. Вецер узнімаў пясок на вуліцы, і маланка час ад часу асвятляла яе з краю ў край. Ракатаў цёмны бор, нагінаючы свае верхавіны пад парывамі ветру. Ракатала таксама і возера.

Кудлатыя чорныя хмары ляцелі над лесам, апускаліся над возерам. Вось-вось хлыне дождж... Але ён яшчэ недзе шумеў над лесам — там, адкуль даносіліся грымоты. Толькі зрэдку буйныя кроплі падалі на пясок.

Звон шкла ўсё яшчэ далятаў да паручыка Ельскага, але ясна далятала ўжо і страляніна. Ад'ютант падскочыў на кані і далажыў, што страляніна набліжаецца.

— Досыць! — сказаў Ельскі і загадаў падпаліць хату Данілы.

Даніла ляжаў ля плота, а над ім стаяў вартавы і час ад часу для пэўнасці — ці не ўцёк — асвятляў яго ліхтарыкам. Думкі віхрам праносіліся ў галаве Данілы. Часам ён уставаў і садзіўся — вартавы загадваў ляжаць. О, каб не гэты вартавы — даў бы сабе рады Даніла. Спазмы сціскалі сэрца — Мар'яна, Мальвінка, Сцёпачка... «Ах, нашто мне было вяртацца па гэтую карову? Дурасць, адна дурасць... Што скажа Сцяпан? Што скажуць, як пачуюць, Вольга і той такі харошы таварыш? Але я перад імі не вінаваты,— я ўсё зрабіў для справы...»

Стрэлы даляцелі і да вушэй Данілы... Сэрца ўздрыгнула ад непамернай радасці. «Ідзе Сцяпан, ён ідзе... Ах, як добра... Можа, паспее вырваць з кіпцюроў катаў? Ой, расплоціцца Сцяпан з Хведарам... І чаму я яго тады... у возера... Слабасць яшчэ нашая, маладосць... Жыцця

чалавечага шкада... Так... А хіба ж гэта чалавек? Яму, бачыш, не шкада нашага жыцця... Дзетак маіх не шкада...» І сціскае ў кулакі звязаныя рукі Даніла і скрыгоча зубамі... Трэба быць бязлітасным, бязлітасным, іначай не пераможаш...

Стрэлы даляталі чутней, вішанька нагіналася ад ветру над галавой Данілы. Так знаёмыя сэрцу ўсплескі возера аддаваліся ў вушах, клікалі да сябе свайго адважнага плыўца. «Можа, паспее Сцяпан?.. Можа, паспее?..» — як малаточкам, стукалі гэтыя словы ў галаве Данілы.

Але вось падыходзяць яны — жаўнеры, развязваюць яму ногі. «Няўжо выпусцяць?» — сама сабою мільганула думка. Але рук не развязваюць, загадваюць — ідзі... І пайшлі па вуліцы. І вецер падганяў іх. Ідзе Даніла ў акружэнні легіянераў. Адзін трымае яго на прывязі. «Якая чэсць! Якія провады!» А ўслед ім задыміла хатка Данілы. Ён і не бачыць гэтага. Толькі пачуў пасля пах дыму... Хацеў агледзецца... Ды дзе там — штурханцы прыкладаў вінтовак пасыпаліся з усіх бакоў. А буйныя кроплі падаюць усё часцей і часцей.

— Хутчэй! — падганяюць жаўнеры. Бо атрад ужо выехаў з вёскі, падпаліўшы крайнюю хату. Калі ад'ютант запытаўся ў Ельскага, што рабіць з арыштаваным намеснікам солтыса, паручык толькі махнуў рукою і, прышпорыўшы каня, памчаўся рыссю ў канец вёскі. Спяшаліся карнікі.

Ужо вось і дарога ў вербах і бярозах, якія цяпер хаваюцца ў цемры. І дзе б тут зрабіць, як казаў паручык, належны парадак з гэтым камуністам? Блізкая страляніна і боязь адстаць ад атрада ўсё гнала канваіраў наперад. Страшна рабілася ад гулу бору і патрэсквання бяроз і вербаў. Кроплі дажджу капалі ўсё часцей — дождж шумеў ужо недзе над вёскай. Баяцца легіянеры саступіць у бок з дарогі, каб намацаць ніжэйшую галіну на бярозе ці вярбе. Цемра і хмызняк. А тут свае ўцякаюць. Так і ідуць далей. Ідуць подбегам. Даніла не хоча ісці подбегам. Легіянеры б'юць яго прыкладамі, цягнуць пад рукі. «Можа, паспее?.. Можа, паспее?» — не выходзіць з галавы Данілы. Але вось і шлях, вось і дождж нагнаў — ударыў моцнымі кроплямі, як бобам.

Прагучалі стрэлы злева, ім у адказ прагучалі справа. Бліснула маланка, і перад вачыма мільганула яна, выдумка езуітаў, царква-уніятка — Anno 1772. Ударыў гром

так, як быццам раскалоліся нябёсы, і заглушыў гук стрэлаў. Шумны лівень паласнуў над лесам, над шляхам, забубніў па бляшанаму даху царквы. Зноў вогненныя крылы затрапяталі па сцяне царквы, па літарах — Anno 1772 — і асвятлілі панурыя фігуры двух крыжоў. Нічога лепшага не можа быць пад рукой, каб пазбавіцца ад камуніста. І адным узмахам вяроўка з пятлёй закідваецца на плячо крыжа. Карнікі Пілсудскага ставяць Данілу пад крыжам. Бачыць Даніла — канец. «Бывайце, таварышы, бывайце, людзі добрыя, бывай, Мар'яна, Мальвінка, сынок мой — грамадзянін Савецкай рэспублікі, бывай, мой лес любімы, возера, край наш пакутны, стаптаны... Не ўбачу вас болей... Але нас многа, многа...» І вырвалася з грудзей Данілы ў шум пушчы і навальніцы: «Смерць панам! Не быць вам тут! Не быць!» Крыж заскрыпеў, і Даніла павіс, змоўк... Канец вяроўкі вужакай абвіўся па ствалу крыжа. Грукнулі яшчэ раз стрэлы злева, і нехта з вешальнікаў, што ўцякаў па шляху, асунуўся ў лужыну. Маланка сполахам асвяціла: Anno 1772.

## НАЎЗДАГОН

«...Ціха, сыночак, ціха. Ты чуеш, як шуміць лес? Гэта ідзе твой тата. Ты чуеш, як шуміць возера? Гэта плыве твой тата. Ён возьме сыночка, пасадзіць у човен, пакажа, дзе рыбак многа, многа плавае маленькіх, дзе птушачкі шчабечуць і клічуць сыночка да сябе. Тата насыпле табе рыбак маленькіх, і ты будзеш ручкамі забаўляцца, губкамі смяяцца. Птушачкі прыляцяць, у човен сядуць, будуць цешыцца табою, маленькім. І тата паплыве з табою далёка, закалыша на хвалі сыночка, і ты заснеш, і сонейка цябе будзе лашчыць, і зязюлька закукуе ў лесе... Ціха, ціха, сынку, тата не аддасць цябе панам, не аддасць...»

Пасля доўгага плачу, пад дажджом, пад мокраю дзяругай, прытулены да грудзей Мар'яны, заснуў «грамадзянін Савецкай рэспублікі».

Густы арэхавы куст прыкрываў іх, як страхою, а ў вышыні шумелі сосны, біліся адна аб адну, і працяглым гулам гудзеў бор.

Мальвінка спала, паклаўшы галаву на калена маці, у якой з вачэй час ад часу разам з кроплямі дажджу падалі ціхія слёзы.

Няйначай схапілі Данілу...

Вёсачка Дзяды, здавалася, зусім схавалася ў зямлю пад дажджом. Падпаленыя хаты патухлі. Паспеў толькі асмаліцца драбёст. Прытуліўшыся да сцяны гуменца, стаяла пад страхою кароўка Данілы і жавала жвачку.

* * *

Ранак сонечны, умыты росамі. Сонца толькі што ўзбіраецца на верхавіны лесу. Хаты, абмытыя дажджом, глядзяць цёмнымі павыбіванымі вокнамі. Возера ў мірыядах іскраў злёгку хвалюецца, белыя грыўкі набягаюць адна на адну. На двух услонах, выстаўленых на вуліцу, у белай сасновай труне, у белай вышытай кашулі ляжыць Даніла Перагуд, галоўны разведчык Сцяпана Каваля. На ганаровай варце стаяць два партызаны — адзін у галаве, другі ў нагах. Збоку на табурэтцы сядзіць Мар'яна са Сцяпанкам на руках, а побач стаіць Мальвінка і кулачкамі выцірае вочы. Пры іх, як застыўшы, стаіць сам Сцяпан — без шапкі, глядзіць некуды паверх галоў людзей, што ўсёй вёскай сабраліся аддаць апошнюю пашану Данілу. Грозны твар Сцяпана закамянеў у напружанні. За поясам тая ж нязменная нагайка на казінай ножцы, але пры баку цяпер вісіць кольт у вялікай кабуры, з жоўтай скуры. На ботах — шпоры. Так і стаіць ён, нерухома, з апушчанымі вусамі, акамянелы, спакойны. Ветрык злёгку варушыць яго пасівелы чуб. Калі Мар'яна зойдзецца плачам, тады Сцяпан кладзе ёй на галаву сваю вялікую далонь і кажа: «Сціхні... сціхні...» А белая хустка, з-пад якой ільсняцца цёмныя шаўкавістыя валасы, прычэсаныя ў просты радок, усё час ад часу прыпадае да труны, дзе на белым пакрывале раскіданы жмутамі баравыя кветкі.

З правага боку над галавой Данілы звісае чырвоны сцяг, які трымае Сава Супрун. Калі вецер ускалыхвае сцяг, тады адкрываюцца вачам людзей і сонцу белыя літары-словы:

«На акупанта!»

Іх вышывалі дзяўчаты ў хаце Данілы пад кіраўніцтвам Вольгі. Сава Супрун стаіць, падцягнуты ў струнку, з вінтоўкай за плячыма. Дзве кулямётныя ленты крыжуюцца на грудзях. Вецер часам прыгладжвае яго ўздыбленыя валасы. А ён стаіць з узнятай галавой, з тварам, які пахарашэў ад хвалявання, і глядзіць, не змаргне, сваім крыштальна-чыстым вокам некуды ў азёрную даль.

Людзі ціха шчыльным натоўпам стаяць навокала, размаўляюць шэптам. Твары жанчын заплаканыя.

Неслі Данілу на сваіх моцных плячах партызаны. Напорадзе ішоў Сава са сцягам, а перад ім дзяўчаты і хлопцы неслі дзеразовыя вянкі. Партызаны з непакрытымі галовамі цесным колам акружылі труну. Мігцелі ствалы іх вінтовак. За труною першай ішла Мар'яна, а за ёю Сцяпан Каваль, несучы на руках Мальвінку. Свяціла сонца ў твар Данілы, ветрык кратаў яго русыя мяккія валасы. А хвалі возера ўсё набягалі адна за другой, сваімі ўсплёскамі суправаджаючы паход. Як з-пад зямлі, недзе з партызанскіх радоў пачулася павольна: «Вы жертвою пали в борьбе роковой...» Зяленелі кучаравыя сосны-асілкі паабапал дарогі, вербы і бярозы расступаліся перад партызанамі.

Дол ужо быў гатовы пры шляху на высокім месцы, недалёка ад царквы-уніяткі, пастаўлена нават і агарожа з габляваных сасновых штакецін. Туды і ўнеслі Данілу партызаны.

Запанавала цішыня. Над труной стаў Сцяпан і выняў кольт з кабуры. Гаварыў ціха, стрымана, кароткімі, адрывістымі сказамі...

Калі зараўнялі магілу жоўтым пяском, паставілі дубовы крыж і ўсклалі вянкі, Макар Краўчук прымацаваў да агарожы чорны сцяг жалобы, звесіўшы яго над шляхам.

...Гэты сцяг і праводзіў людзей, аж пакуль не апусцела наваколле.

Як ні шукалі партызаны Хведара Дудзько, нідзе не знайшлі. Жонка казала, што не прыходзіў да сям'і ў лес. Сцяпан Каваль паклікаў Саву Супруна і Макара Краўчука і сказаў: «Задача будзе ляжаць на вас, хлопцы. Гэты вядзьмар можа прывесці сюды паліцэйскі атрад. Зрабіце засаду пры шляху за царквою. Адтуль можна біць, адкуль бы яны ні ішлі — справа ці злева. Важна мець перад вачыма дарогу ў вёску... Арганізуйце назіранне за хатай Дудзько, а я вазьму конную групу і пайду наўздагон панам».

Сцяпан Каваль сеў на прызбе Даніладай хаты і чакаў разведчыкаў. Яны павінны былі хутка вярнуцца, бо выехалі ранкам, яшчэ прыцемкам.

Калі разведчыкі вярнуліся, Сцяпан, выслухаўшы іх, не чакаў ні хвіліны. Макар Краўчук падвёў яму гнядога каня. Сцяпан забег яшчэ ў хату, прытуліў да сваіх грудзей заплаканы твар Мар'яны, падняў Мальвінку высока, на ўзровень сваёй галавы, сказаўшы: «Расці, дочачка...»

А гушкаючы Сцяпанку, прамовіў: «Расці, сынок, на пагібель панам». І тады са звонам шнор хутка выйшаў з хаты, згінаючы сваю шырокую спіну ў дзвярах.

Ужо было пасля паўдня. Дарога наперадзе немалая. Трэба дагнаць карнікаў хоць бы ля Глушца. «Знаю, знаю,— да бацькі напёр пан Ельскі, графскі сынок... Ведаем, усё ведаем...— гаварыў сам сабе Сцяпан.— Накажам і сыну і бацьку, пачым фунт ліха...»

Конь борзда перабіраў нагамі, калі Сцяпан аб'язджаў сваю групу. Потым Сцяпан пацягнуў павадкі і стаў. Азірнуў усіх сваіх малойцаў і запытаўся:

— Вінтоўкі ёсць?

— Ёсць! — адказалі хлопцы.

— Патронаў і гранат хопіць?

— Хопіць...

— А калі паны паляцяць з шаблямі на нас, што тады?

— Мы і шаблі ўзялі, таварыш камандзір.

— Бачу, бачу, што ўзялі... А ці вы не бачыце, што ў мяне няма шаблі?

Сапраўды, толькі ў аднаго Сцяпана — камандзіра — не было шаблі. Не любіў з ёю займацца, адвык. Вінтоўка, рэвальвер, граната — вось сапраўдная зброя. Ды яе і хапала ў Сцяпана. Толькі пры апошнім разгроме пастарунка ў дырэкцыі пана Пшэборскага захоплена больш трыццаці кавалерыйскіх вінтовак, шмат патронаў і гранат. Умацоўваліся паны добра, але ўсё пайшло на пшык. А цяпер спатрэбілася, на ўсякі выпадак, шабля. Ёсць і шаблі ў Сцяпана, розныя, усякія — афіцэрскія і салдацкія.

Кіўнуў на крайняга хлапца: «Падскоч да Савы, няхай дасць шаблю, тую панскую...»

Гэта была крывая шабля ў чорным бліскучым чахле з залацістым наканечнікам. Ручка шаблі з чыстага золата. Цямляк, сатканы таксама з залацістых нітак, махрыстымі кутасамі звісаў з ручкі. Ведаў Сцяпан, нашто браў іменна гэтую шаблю.

— Эх, каб убачыў яе пан паручык Мечыслаў Ельскі! Хіба не самлеў бы ён?

«На тое ж яна і бярэцца»,— падумаў Сцяпан Каваль, падвешваючы шаблю. І хітрая ўсмешка слізганула пад яго пасівелымі вусамі.

...Конны атрад з трыццаці чалавек рыссю імчаўся паляснову шляху, пераходзячы часам у галоп. А рэха ад тупату капытоў гналася за імі ўслед і гаварыла:

«Гэй, хлопцы-малойцы, сыны зямлі беларускай! Пры-

шпорце сваіх коней мацней! Гаротныя маткі вас парадзілі на тое, каб вы няшчасце стрэламі забілі, шаблямі парубалі. Гэй, патомкі тых, каго буйныя, вольныя ветры куранямі занеслі калісьці ў шабельную Сеч Запарожскую, не забудзьце продкаў, што славаю народнай шумелі пад сцягамі Хмяльніцкага. А таксама і іншых і іншых, што паклалі галовы ў бітвах з панамі. А вы цяпер, байцы чырвоныя, што ішлі ад Масквы, Волгі, Кіева і Мінска да Варшавы пад сцягам Леніна, накіруйце свае трапныя стрэлы ў патомкаў вішнявецкіх, патоцкіх, радзівілаў, скірмунтаў, замойскіх і іншых і іншых, што пошасцю ўеліся ў матку-зямлю. Гэта іхнія коні топчуць наш край, гэта іхнія рукі будуюць шыбеніцы, гэта іхнія павучыныя ніці аблыталі і народ польскі і ўвагналі крыўду клінам між ім і намі... Біце па крыўдзе, біце з размаху, каб рэхам аддалося ў Львове, Лодзі, Кракаве, Варшаве. У полымі паўстанняў Валынь, уся братняя Заходняя Украіна, роўная з намі ў нядолі. Польскі рабочы са зброяй у руках на вуліцы... Яшчэ не скончана гэтая старая гісторыя, яшчэ не скончана... Але канец відаць. Пачатак новай гісторыі свеціць маяком з Усходу...

Дык прыгнём свае галовы к грывам! Наўздагон!»

## Раздзел трэці

# ЛІСТЫ

Многа сонца над Глушцом — яно, здаецца, асвятляе ўсе яго куткі-завулкі з амшэлымі платамі, іскрыцца ў пясчынках на бруку плошчы, агніста блішчыць у залацістых кульках — падставах крыжоў — царквы і касцёла, якія вежамі ўзвышаюцца над мястэчкам.

Ды толькі, здаецца, усё жывое патанула ў цішыні. Часам хто за плотам закашляе або крыкне на свінню ці на каня, запрэжанага ў калёсы, часам бразне жалеза ў краме, недзе загяргечуць гусі, празвініць званочак веласіпеда...

Ціха і ў хаце Абрама. Сыны выйшлі з працай на падворак, на сонца, сам Абрам таксама не ўседзіць у хаце, пастаіць на пахіленым ганку, выйдзе, гляне на вуліцу. А па ёй там-сям снуюць паліцыянты. Вось адзін з іх на-



Пiлiп Пестрак у Доме творчасцi
ўкраiнскiх пiсьменнiкаў.
*Адэса, 1951 г.*



Піліп Пестрак
з жонкай Анастасіяй Сцяпанаўнай.
*1953 г.*

бліжаецца. Абрам лічыць патрэбным не мець сустрэчы з чалавекам у паліцэйскім мундзіры і вяртаецца ў хату.

Калі ж увайшлі ў майстэрню Андрэй з Вольгай, Абрам толькі сказаў — «о-о!..». Прывітаўшыся, пастукаў у шыбіну акна (за акном сядзелі сыны) і пальцам паклікаў Грышу. Грыша ўваўшоў. Забегалі яго вочы пад акулярамі, і тонкія рысы твару затрапяталі ўсмешкай. Захваляваўся, пачырванеў.

— А я ўжо думаў, што вы... і не зойдзеце...

Вольга, сеўшы на зэдлік, спакойна аглядала майстэрню, як быццам да чаго прыслухоўваючыся. Стомлена паварочвала галаву, накіроўваючы позірк на дзверы ў кухню, на вокны, што глядзелі на падворак. Прывычным рухам рукі, які так падабаўся Андрэю, папраўляла цёмны шаль на галаве і чакала канца гутаркі Андрэя з Грышам.

Паслалі да каваля Міхала па Якава. Ён прыйшоў без кепкі, проста ад горна, нават у сваім кавальскім фартуху. Рукавы сарочкі закасаны за локці. Трапяткі, паціскаў рукі Андрэю і Вользе, бліскаючы белымі моцнымі зубамі. Дамовіліся, каб Якаў прыйшоў, калі сцямнее.

Увайшла гаспадыня, маці Грышы. Смуглавата-пажоўклы твар у маршчынах. У чорных вачах, зацягнутых тугою, свяціў унутраны пратэст, накоплены за жыццё. І дзіўна, як увайшла, то, здаецца, і не звярнула ўвагі на «гасцей», толькі ледзь прыкметна кіўнула галавой — у знак прывітання. Самастойнасцю веяла ад гэтай жанчыны. Так і стала яна ля парога ў рабой хустцы, завязанай, як у сялянак, склаўшы на жываце сухаватыя рукі ў сініх жылках. Абрам стаяў, адвярнуўшыся спіною да парога і, пыхкаючы цыгаркай, глядзеў як быццам у засветы,— туды, за акно.

Андрэй з Грышам сядзелі за рабочым сталом і, наблізіўшыся тварамі адзін да аднаго, гаварылі ўпаўголаса, часам пераходзячы ў шэпт. Абрам усё глядзеў у акно.

Гаспадыня ўрэшце падышла да Вольгі і запыталася:

— Адкуль вы?

Вольга са спакойнай усмешкай, як быццам чакала такога запытання, адказала па-яўрэйску:

— Адгэтуль, з Глушца...

Ці ветрык уварваўся ў майстэрню, ці праменні забегалі,— вочы ўсіх глянулі на Вольгу, і твары застылі ў здзіўленні. Усмешкай, прыплыўшай з нейкіх душэўных глыбінь, асвяціўся твар гаспадыні. Абрам пакінуў сузіранне, падышоў і стаў над Вольгай, гледзячы зверху на яе хвалі-

стыя валасы над белым ілбом, акаймаваныя цёмным шалем. Спынілі гутарку і Андрэй з Грышам.

— Вы з Глушца? — перапытаў Абрам.

— Вы яўрэйка? — спыталася гаспадыня.

— Не... беларуска...

Абрам і Рахіль пераглянуліся, штосьці зразумелі, і гаспадыня запрасіла Вольгу ў другую палавіну хаты. Абрам таксама выйшаў з майстэрні.

Андрэй з Грышам, застаўшыся адны, пачалі гутарыць смялей.

— Я думаю...— сказаў Грыша і спыніўся,— я думаю, што ў нашым мястэчку праца наша не будзе мець вялікіх поспехаў... Пераважаюць тут дробныя гандляры і мяшчане-земляробы... Цяжкі гэта элемент на пад'ём... Ну, рамеснікі яшчэ так-сяк, але іх меншасць...

— Гэта няважна,— адказаў Андрэй,— дзе ж ты возьмеш гатовых ідэальных людзей? У тым жа і павінна заключацца наша праца, каб людзей зрабіць свядомымі...

— Гм... Так... Яно так...— пасля роздуму адказаў Грыша, і Андрэй заўважыў, як у яго сціснуліся сківіцы. Змоўк Грыша. А потым, уцягнуўшы ў сябе паветра ад хвалявання, загаварыў:

— Калі з аднаго боку... наша актыўнасць, а з другога — апора на наш актыў, то... вядома...

Нешта глыбейшае хацеў выказаць Грыша. Але думка па дарозе да абагульнення недзе абрывалася, і ён змаўкаў у задуме... Чорныя вочы пад акулярамі засцілаліся імглой, ён глядзеў на печку, якая бялела насупраць, і бледныя шчокі яго то загараліся, то патухалі. Андрэй адчуў, што гэты хлопец, засядзеўшыся ў майстэрні, як нечым уражаны, аб чым можа марыў у адзіноце, цяпер хацеў бы зразумець усё адразу ад малога да вялікага. Адна-адзіная маршчынка над пераноссем ужо цяпер паглыбела. Падабалася Андрэю разважлівасць Грышы, імкненне вычарпаць думку да канца.

За вокнамі шыбалі ластаўкі, шумелі вераб'і, сонца схілілася к захаду і ўжо наўскос кідала прамені ў вокны.

Андрэй устаў і выйшаў з-за стала. Выйшаў і Грыша. Схапіў Андрэя за рукі вышэй локцяў і,назіраючы ў вочы па-таварыску, сказаў:

— Зараз... пааб...цаем...

Увайшла маці. З незвычайнай для яе сарамлівасцю, у якой адчувалася жаданне зрабіць як найлепш, запрасіла Андрэя ў кухню.

Там ужо сядзела Вольга — умытая, прычэсаная. На стале дыміліся талеркі з супам. Усе трое елі, а маці стаяла побач, застыла ў маўчанні, склаўшы рукі на жываце. Не то любавалася, не то гаравала, гледзячы на маладых людзей, не то думала, што небяспека заўсёды вісіць над людзьмі і, хто ведае, можа, ужо блізкі яе час.

Увечары разам з Якавам прыйшоў і яшчэ адзін хлопец. Называўся ён Максім Рунда. Гэта быў невялічкі танклявы хлапчына з кірпатым носам. Чорныя валасы, вялікія, крыху навыкат шэрыя вочы, мышыны хвосцік вусікаў пад носам — усё гэта гаварыла аб тым, што перад вамі чуйны, вяртлявы «падшывалец». Андрэй нават усміхнуўся сам сабе, назіраючы за гэтым хлопцам у шэрай кепцы, ссунутай на патыліцу. Але з першых яго слоў, сказаных крыху з заіканнем, Андрэй адчуў дыханне ўласнай годнасці і насцярожыўся. Максім Рунда — сын глушэцкага мешчаніна, па прафесіі быў печнікам, атынкоўшчыкам. Ён адзін у сям'і ўзбунтаваўся супроць царквы, не хадзіў па нядзелях «чынна» прастойваць абедні і ставіць свечкі, у той час як старэйшы брат (сямейны), таксама атынкоўшчык, аддаваў дань, як казаў Максім, гэтым ідалам. Пра бацьку ўжо няма чаго казаць. Максім Рунда любіў успамінаць сваю старэйшую сястру, якая жыла далёка, у краіне, што сніцца тут кожнаму прыгнечанаму,— у Краіне Саветаў, працавала настаўніцай у Крыме і адтуль прысылала лісты. Кожны ліст быў святам у першую чаргу для Максіма. Аб кожным такім лісце ведалі шмат хто з мястэчка. Здзіўляліся і зайздросцілі. Уражаннямі з лістоў, больш чым хто, жыў увішны атынкоўшчык Максім Рунда. Вось і ён прыйшоў у майстэрню Абрама, прадчуваючы, што тут адбудзецца нешта такое, што наблізіць яго, як і ўсіх, да той шчаслівай краіны, адкуль сястра прысылае лісты.

У час расказу Андрэя аб паўстанчых падзеях у слухачоў так узнімаліся пачуцці, што паміж Якавам і Грышам стыхійна ўзнікала мітуслівая спрэчка. Адзін аднаму наперабой перадавалі па-яўрэйску яшчэ раз тое, што чулі з вуснаў Андрэя. Спрэчка ўласна ішла аб удакладненні таго ці іншага здарэння, факта. Мірыла іх Вольга. Гэта дзейнічала магічна. Яны заціхалі на паўслове і ў трапяткім чаканні напружвалі ўвагу. Максім Рунда ціха смяяўся пры гэтым, курачы цыгарку.

Сакратаром ячэйкі выбралі Грышу.

Калі прабыванне ў лесе настройвала на супакаенне, ча-

лавек непрыкметна неяк сцішаўся,— поле, наадварот, нервавала Андрэя, хацелася ісці хутчэй. Ідучы па шляху дахаты, Андрэй бачыў, што многа палосак было ўжо вычараблена ад бярэзніку, але яшчэ больш засталося. Тамсям, дзе людзі церабілі яго, чулася частае панукание па коней. Часам кідалася ў вочы палоска зялёнага жыта. Андрэй не вытрымліваў, падыходзіў да яго і гладзіў рукою па яшчэ кволых каласках.

* * *

Вёска Запалянка як быццам адпачывала ў даліне, адкрыўшы сонцу ўсе свае раны. Свіціўся мясцінамі драбёст на многіх хатах, звісала жмутамі салома са стрэх. Амаль у кожнай хаце па аднаму акну глядзела сляпым вокам на вуліцу (другія былі забіты дошкамі). Садкі без агарожы выглядалі, як чужыя. Але людзі былі рады сонцу, мяккаму ветрыку, зелені дрэваў, травы і жвавей варушыліся ля сваіх разбураных гнёздаў. У работу ішла часцей рыдлёўка, сякера,— карчавалі, церабілі, кідалі ў зямлю, што было. Ці бульбіну, ці гарох, ці фасоліну — усё ў зямлю. Зямля — уся надзея. Яна родзіць не толькі панам. На ёй жа расце многа траў, кветак, зелля рознага, шмат і крапівы пад платамі — сакавітай, пякучай. Яна цяпер стала патрэбнай для кожнага. Яе рвуць, мыюць, крышаць і вараць у вялікіх гаршках. І жанчыны-суседкі ў гутарках між сабою нават адкрываюць сакрэты, як яе варыць, каб была смачнай. Тое самае аб маладой лебядзе, аб нейкім лапушыстым зеллі пад назваю «падбел». Абы толькі была ў хаце соль — можна сабе даць рады. Прапакутаваць трэба адзін год, два, сабрацца на коніка, на сякі-такі воз,— дзе што прадаць, а рэшту зарабіць у лесе, ці ў пана-памешчыка, ці ў кулака.

Усё тады пойдзе добра, будуць жыць людзі, як даўней жылі дзяды, калі было, хоць не заўсёды даволі, і хлеба, а часам і да хлеба. Думаюць: «Будзем спраўляць вяселлі, убірацца ў багацце. Дабываць больш зямліцы, расшыраць свой загон, бо ён з кожным годам усё рабіўся вузейшым і вузейшым, так што хутка сыйдзе на нітку. Дзеці падрастуць, заробяць. Няўжо ж тут не будзе ніякага парадку з зямлёю, можа, прыйдзе людзям якая палёгка?»

Так марылі сяляне, цярэбячы свае палоскі. Але нярэдка ў сваіх думках адчувалі тупік, вочы заплывалі імглою, рукі апускаліся ад пачуцця бяссілля, роспачы. Усе гэтыя

мары маглі б лёгка стацца рэчаіснасцю, каб... не было вунь той мяжы, граніцы, што ўзяла ды аддзяліла нас ад бязмежных прастораў Расіі, дзе народ атрымаў зямлю, дзе столькі багацця, столькі заробку, дзе людзі харошыя, дзе няма чыноўнікаў, паліцыянтаў, дзе не гуляе нагайка па спінах нашага брата... Эх... Вось ужо лісты шлюць адтуль — хто з Сібіры, хто з Самары, хто з Мінска — браты, сёстры, дзядзькі. Хто вучыцца там на настаўніка, хто на доктара, на інжынера, хто на аграпома... На каго ж і дзе будуць вучыцца дзеці тут? Парастуць пастухамі, пастухамі і застануцца. Э-х-х-х... Чужое ўсё, чужое тут, нямілае... Зойдзеш у валасць — ні табе мовы чалавечай, знаёмай, ні табе слова добрага, ветлівага — усё зыркаюць ды зыркаюць, колюць цябе вачыма, усё страшаць і страшаць. Наязджаюць вось асаднікі, зямлю забіраюць. Яны, бач, ваявалі за Польшчу,— ну, дык няхай ім і давалі б зямлі ў Польшчы, а то не... лезуць сюды, бяруць дзесяткі, сотні гектараў. Ім хапае. А тутэйшым хто дасць? Грызуць яны гэты бярэзнік, апухлыя ад голаду, поўзаюць каленямі па ялавіне і няма ніадкуль ні дапамогі, ніякага ратунку.

— Хвігу табе пад нос дадуць і ражна ў бок, а не зямлі тут ці дапамогі,— гаворыць Дзям'ян Гарагляд.— Пакуль самі не возьмем, нічога не будзе... Падушаць тут нас, як мышэй рудых...

— Як ты сам возьмеш, калі ледзь трымаеш рыдлёўку ў руках, калі ты сціснуты, без голасу і бяспраўны. Хай бы прыйшла Чырвоная Армія адтуль, з усходу, ды памагла нам, ну, тады, вядома, узялі б зямлю і ўладу, усё... А так — ну, як ты ўправішся?

— А мусіш управіцца,— адказваў Дзям'ян,— само нічога не прыйдзе...

Сяляне стаялі навокал Дзям'яна,— хто з рыдлёўкай, хто з сякерай,— апусціўшы вочы ў зямлю, і думалі... Так-то яно так... вядома, што само не прыйдзе, але хто табе дасць накірунак?

— Толькі ахвоту мей — дадуць,— бурчаў Дзям'ян і змаўкаў, адварочваючы твар убок, баючыся, каб слухачы не западозрылі ў ім чаго-небудзь.

Такія гутаркі ў вёсцы вяліся часта.

...Эх, Дзям'ян, Дзям'ян... не выбілі з цябе сілы паны. Наадварот, людзі заўважаюць, што яе ў цябе яшчэ больш прыбавілася. Вылежаўся на печы,— скажа, напрыклад, Мікіта Лазун і крутне галавою не то ад здзіўлення, не то ад зайздрасці. Думаў Мікіта дый гаварыў нават, што

Дзям'ян не выжыве. Чаму так хацелася Мікіту, каб Дзям'ян не выжыў,— невядома. Дзям'ян з ім не сварыўся, не пераараў яму мяжы, не перакасіў.

Аднак непрыязныя думкі родзяцца ў Мікіты. Шмат у яго намераў. Два сыны жанатыя, сямейныя. Трэба старэйшага сына аддзяліць, застацца з меншым. Жонка Мікіты ўжо гады два, як памерла. Добрай была нябожчыца, ды вось узяла надарвалася. Успамінаючы пра яе, Мікіта гаварыў: «На халеру гэта было? Гэта ж не жарты — сем вёрст ды яшчэ па такім холадзе». Аказваецца, нябожчыца Тэкля несла ў свой час з чужога сяла ўжо халоднай восенню тры вялікія іконы, як скрыні, калаўрот і яшчэ нейкае чужое дабро, пакінутае людзьмі пры ад'ездзе ў бежанцы. Як прыйшла, легла і ўжо не ўстала.

Трэба аддзяліць сына, тады паглядзім, што і як — можа, самому яшчэ прыйдзецца «ачапіцца», што на жаргоне Мікіты азначала — ажаніцца. Аддзяліць-то аддзяліць, але бяда ў тым, што сяліба малая, уся забудаваная. Дзе сыну паставіць хату? І вочы Мікіты часта-часта глядзелі пры гэтым праз акно — туды, у канец вуліцы, дзе сосны на гары ўзвышаліся над вёскай. Там шуміць сасоннік, з двух бакоў гару абдымае ручаіна. Вось дзе прастор! І скаціне, і курыцы. Гусей, качак можна гадаваць. Што гара ёсць «абчэсцвенны» выган, гэта няважна. Гарэлка ўсё зробіць. Але тут урываўся ў плынь думкі, як якая тычка, Дзям'ян Гарагляд, і неспакой авалодаў Мікітам. На сходах востры язык мае. І гарэлкаю яго не купіш. «Выжыў-такі, а я бо думаў, што... Можа, паперці на Сцяпана Касцевіча,— гэты падатнейшы, дружыць з Дзям'янам, можа ён яго...»

А Дзям'ян Гарагляд, як быццам насуперак жаданням Мікіты, выжыў і ў цёплы, сонечны дзень канца красавіка выйшаў на падворак і сеў на прызбе. Усміхаўся ўсім сваім схуднелым тварам і сонцу і людзям. Адна з вельмі важных прычын дадала яму сілы. Аб гэтай прычыне ніхто не ведаў у вёсцы, толькі ён адзін.

Яшчэ задоўга перад тым, як быў спалены лесапільны завод бярозаўскай суполкі, хадзіў дахаты Пеця Ціханчук і па загаду Андрэя перадаў Дзям'яну, што да яго з'явіцца чалавек, які назаве сябе Прайдзісветам.

Не падазраваў Дзям'ян Гарагляд, што нехта дбае аб людзях, нехта запісвае падзеі ў вялікую кнігу жыцця народа і што сапраўды нідзе нічога дарма не прападае. Думаў, лежачы на печы днямі і начамі, і, прадчуванне чагосьці радаснага напаўняла яго душу. Такі няпраўда —

недзе нешта робіцца. Не пакіне нас Савецкая Расія. Яна чуе і ведае, як тут нам даводзіцца...

Пабачым, што гэта будзе за Прайдзісвет.

«Прайдзісвет... ха-ха-ха...— смяяўся сам сабе.— Трэба ж выдумаць такое». І Прайдзісвет часам уяўляўся яму як нешта страшнае, што выпаўзае з лесу, а другім разам — як мудры чалавек, што ходзіць па свеце і людзям праўду разносіць. Ва ўсякім разе, таямнічым павінен быць гэты чалавек, які ведае, што дзе робіцца ў нашым краі.

Так, Сцяпан Каваль — ён жа Прайдзісвет,— абмеркаваўшы з Іванам Паддубным падзеі, якія адбыліся ў лесе графа Ельскага, вырашыў наведацца ў тыя краі. Меў ён і там недалёка свайго друга Данілу Перагуда, але той (галоўны разведчык) жыў далекавата, не змог выканаць задання. Дый Сцяпану Кавалю трэба было расшырыць сваю зону дзейнасці — грунт для гэтага ўжо быў. У такіх выпадках ішоў сам, каб засадзіць новы «куст». Апранаўся ў сялянскую вопратку, абуваўся ў лапці, закідваў на плячо ўздзетую на кій торбачку з хлебам — і так ішоў ад сяла да сяла. Адведваў сваіх разведчыкаў, верных таварышаў, начаваў у іх і потым ішоў далей. А разведчыкі ўсё пыталіся: «Ну, калі ты прыйдзеш са сваім войскам? Многія ўжо гатовы хоць зараз ісці на паноў...» «На ўсё свой час...» — адказваў ён.

Так адной ночы пастукаўся Сцяпан у акенца хаты Дзям'яна Гарагляда. Маланні думала, што, можа, гэта паліцыя — не адчыняла, углядалася ў акно. Пасля разбудзіла Дзям'яна.

— Стукае, кажаш? Не ўсё з ліхам па начах прыходзіць, можа, хто і з добрай весткай? Адчыняй...

Сцяпан упоцемку пераступіў парог і, крэкчучы, уздыхнуў па ўсю хату. Загаварыў:

— Здаецца, трапіў да Дзям'яна Гарагляда.

— Трапіў правільна, чалавеча,— адказаў з печы Дзям'ян.— Запалі газнічку, Маланні.

— Перш чым запальваць, завесьце свае два акны... Я хачу, каб Прайдзісвета ніхто з двара не бачыў...

На момант у хаце стала ціха, хоць мак сей. Урэшце закрактаў на печы Дзям'ян, заварушыўся; лучынкі, што ляжалі на печы для падпалу дроў, зашапацелі пад яго нагамі.

— Ах... божа мой... Хутчэй, Маланні, завесь...

Газнічка бліснула на парожку коміна якраз у твар Дзям'яна. Сцяпан падышоў і працягнуў яму руку на печ.

— Прывітанне табе, Дзям'ян, ад барацьбітоў за свабоду...

Ажывіліся маршчыны на лбе Дзям'яна, забілася сэрца, і ён не ведаў на момант, што адказаць, толькі плюшчыў вочы і ўсміхаўся. Авалодаўшы сабою, прамовіў: «Пачакай, чалавеча, злезу з гэтай ляжанкі... Сядзьце, нябось, за дарогу падбіліся... Я ж кажу жонцы — адчыняй, не ўсё з ліхам прыходзіць па начах... Хто б мог думаць, што нехта ведае аб нас і клапоціцца?..»

— Добра цябе пачаставалі паны, Дзям'ян? — пытаўся Сцяпан, ужо седзячы на лаве.

— Пачаставалі, чалавеча, ды яшчэ як...

— Вось і пагаворым, Дзям'ян, як ім адплаціць за гэта...

Так у тую ноч Дзям'ян Гарагляд стаў чарговым галоўным разведчыкам Сцяпана Каваля — Прайдзісвета.

— Абрастай кустам, Дзям'ян,— былі апошнія словы Сцяпана. І Дзям'ян стаў абрастаць. Умела павёў справу. Па звычцы хадзіў з узнятай галавой, са спакоем і пільнасцю азіраючы наваколле. Выжыў Дзям'ян, вітаў вясну, поўны надзей на лепшае. Запрагаў свайго коніка ў плуг у пару з такім жа канём Сцяпана Касцевіча і араў сваю палоску (Сцяпан Касцевіч прадаў хлеў, трохі з адзежы і купіў каня).

За плугам, побач з Дзям'янам, ішоў яго сынок Міця. Любіў Дзям'ян, каб сынок быў пры баку. Пакрыкваў на коней і гутарыў з хлопцам.

— Вучыся, сынок, як здабываць хлеб. Цяжка ён нам дастаецца... Нічога, ты дачакаеш лепшага... Но-о-о... гнядыя!..

Сустрэўшыся з Андрэем, Дзям'ян застыў ва ўсмешцы, хутка заморгаў вачыма,— здавалася, вось-вось засмяецца ад радасці.

— Выадукаваўся ўжо, выадукаваўся... Вось тут табе добры будзе універсітэт... Ха-ха-ха...

Ва ўсім позірку, паводзінах Дзям'яна было відаць, што ён шмат чаго ведае, што ён у курсе спраў. Але нічога адкрыта не выказваў, толькі накіроўваў увагу Андрэя на свае вясковыя справы. Андрэй у сваю чаргу разумеў, адчуваў Дзям'яна, нешта вылічваў сабе на будучыню...

Сцяпан Касцевіч, расказваючы Андрэю аб тым, як купілі каня, што дзе пасадзілі, пасеялі, адчыніў куфэрачак з кніжкамі, які стаяў на лаве, і працягнуў ліст у белым пакамечаным канверце. Бацька яшчэ нешта расказваў, але

Андрэй ужо не чуў. Літары знаёмага почырку замітусіліся перад вачыма. Дыхнула з далёкіх прастораў знаёмым ветрам, смехам, раздоллем Волгі.

Ліст быў ад Веры.

«Дарагі Андруша!

Ты цяпер недзе далёка, далёка. Шлю гэтыя радкі і не ведаю, ці яны дойдуць да цябе. Як добра, што ты пакінуў мне адрас сваёй радзімы ў той неспакойны час, калі я цябе праводзіла на станцыю. Адзінай сувяззю між табой і мною застаўся вось гэты адрас. Пасля разлукі з табой я ў той жа вечар паехала аж за Чэлябінск за мукою. Была нас цэлая група. Везлі назад з вялікімі цяжкасцямі. Але прывезлі.

Цяпер ужо я педагог — паеду выкладаць літаратуру на бібліятэчных курсах. Стала шмат лепш цяпер. Збіраемся сваёй групай, ходзім у тэатр, на сходы. Ах, Андрэй, якая цяпер прыгожая Волга! Ездзілі нядаўна на лодцы ў Жыгулёўскія горы. Спявалі «сугубую хімію». Было весела. Успаміналі пра цябе. Прызнаюся, Андруша, што мне было не па сабе.

Ты намерваўся па дарозе застацца ў Мінску і зараз жа напісаць мне. Штосьці табе, мусіць, перашкодзіла гэта зрабіць. Бо столькі ўжо мінула часу, а ад цябе — ні слова. Я так і падумала, што ты, напэўна, за мяжой. Калі атрымаеш мой ліст, абавязкова адкажы. Клічу цябе сюды. Ты абавязкова павінен быць тут, сярод нас. Гэта ніяк не ўкладаецца ў галаве, каб ты быў з намі ў разлуцы.

Хутка паеду ў сяло да сваёй мамы на які тыдзень часу. Пасяджу пад знаёмай табе таполяй, успомню пра цябе. Не, Андруша, ты павінен быць тут.

Калі мы былі ў Жыгулёўскіх горах, Коля Тубараў і Федзя Лупёў ледзь не пабіліся за Таню. Смеху было, смеху. Тубараў па-старому непапраўны анархіст, медыцынскага, здаецца, не скончыць, зусім раз'ехаўся, хлопцы ўсё больш адварочваюцца ад яго.

Калі ж ты ў безвыходным становішчы і суджана не пабачыцца нам, не памінай ліхам, Андруша. Я аб табе захаваю самыя лепшыя ўспаміны і буду верыць, што мы сустрэнемся. Махні мне рукою здалёк,— падай пару слоў аб сабе, як бы гэта ні было табе цяжка. На ўсякі выпадак, пішу асобную пісульку твайму бацьку, каб паведаміў, жывы ты ці не...

Канчаю і чакаю тваіх пару слоў. Бывай.

*Твая Вера*».

Нешта гарачае напльіло па ўсім целе. Здаецца, ледзь устояў на нагах. Правёў рукою па валасах і адчуў кроплі поту на лбе. Глянуў на бацьку, які стаяў, узяўшыся ў бокі, намагаючыся не заўважаць хвалявання сына. Бацька для адводу вачэй зірнуў у акно, у гародчык, дзе была пасаджана цыбуля, і сказаў:

— Адгону няма ад гэтых курэй... Акыш! Акыш!..

Але цень трывогі так і не сходзіў з яго твару. Добры бацька. Пасівелыя цёмныя валасы, пасівелыя вусы і той лагодны, цярплівы позірк шэрых вачэй, у якім затоена столькі турботы і любві. Многа вынеслі за жыццё гэтыя шырокія плечы. Яны рады прыняць на сябе і цяжар сына, гэтага няўрымслівага хлопца, які, як стаў на ногі, бывае дома толькі як напаказ,— усё ў дарозе, усё недзе спяшаецца... Многа, мусіць, трэба сыну, шмат больш, чым бацьку, які зведаў самыя далёкія куткі вялікай Расіі — ад Мінска да Архангельска, ад Мурманска да Камчаткі. І, нягледзячы на розныя вятры, на розныя леты і зімы, бацька пранёс праз жыццё гэты свой лагодны, цярплівы позірк, захаваўшы яго для сына, для гэтай вось дзедаўскай хаты, дзе ён нарадзіўся і вырас.

Андрэй яшчэ раз перачытаў ліст. Быў ужо спакайнейшы. Працягнуў пісульку бацьку:

— Тата, гэта вось табе...

Сцяпан узяў пісульку, нахіліў да святла акна. Прачытаўшы, узняў вочы на Андрэя і хутка адвярнуў галаву да акна. Маўчаў. Акно глядзела на ўсход. Туды і паплылі думкі старога Сцяпана — за агароды, за луг, за далёкі лес — на ўсход, на ўсход, за мяжу...

Уздыхнуў.

— Што ж, сынку, не вернеш ужо... Трэба ўжо думаць па-інакшаму... Нікуды не дзенешся... Што ж яна піша табе?

— Піша, каб вяртаўся да іх...

— Лёгка гэта сказаць... А паспрабуй... Ах, ах, вось нарабілася на свеце... Божа мой...

Сцяпан прайшоўся па хаце, глянуў на Андрэя, які ўжо сядзеў за сталом, апёршыся шчакою на руку, і сказаў:

— Не сумуй, сынку... Што ты зробіш? Выйдзі на агарод, паглядзі на гарох, на фасолю... Паглядзі на свет... Скора пойдзем касіць. Трэба ўжо кляпаць касу...

Андрэй выйшаў. Абышоў і агарод і садок, прабраўся за гумно ў бярэзнік і ўсё не знаходзіў сабе спакою. «...буду верыць, што мы сустрэнемся...» Так піша яна, Вера. І гор-

кая балючая ўсмешка прабягае па твары. Ты марыш, дарагая, аб спакойнай сустрэчы, а мне вось трэба сустрэцца на барыкадах. Як я табе аб гэтым скажу?.. Мары мае, дарагая Вера, з якіх мы плялі вянкі з табою, ужо не здзейсняцца. Не буду я ўжо аграномам, якім так хацелася быць, каб на вялікай вызваленай зямлі сеяць зярняты ўраджаю на ўцеху людзям і сонцу. Буду я іншым ужо аграномам, дарагая, буду сеяць на народнай глебе, узоранай ад векавога застою плугамі вялікай рэвалюцыі. Знаю, не папракнеш мяне за гэта,— ты сціплая, працавітая, трывалая, адданая народу.

Універсітэт... alma mater... Вобразы адны за другімі з'яўляліся перад вачыма, авеяныя юнацкімі парываннямі і ласкаю таварышаў. І шумныя гутаркі і песні... І самаахвярнасць для народа, што жывілася ўзлётамі Пушкіна, нянавісцю Лермантава, народнасцю Някрасава, вялікімі творчымі пакутамі Льва Талстога, Максіма Горкага, беспрыкладным у гісторыі гераізмам рускіх рэвалюцыянераў... Засваенне хараства чалавечай думкі, якая знайшла сваё непераможнае ўвасабленне ў прыгожа рускай, набатнай душы вялікага Леніна...

І Андрэю захацелася мець крылы, узляцець па-над лясамі, апынуцца там, глянуць у вочы Веры, стоячы на беразе Волгі. Забыўся на ўсё Андрэй, ідучы бярэзнікам. А недзе насуперак варушылася ў душы другая думка: «А ці не прылячу я назад? Ці ў маіх сілах пакінуць вось гэтыя заняволеныя палі, дзе народ змагаецца за зруйнаванне прыгнёту мяжы, за ўз'яднанне? Іменна ж гэта і наблізіць шчаслівы час для народа, «час самой сустрэчы».

Недалёка чулася панукание на коней. Нехта араў. Андрэй наблізіўся да аратага і пачуў словы: «Не так, сынок!» Прыгледзеўся праз бярэзнік. Коні адпачывалі, а пры разоры стаяў Дзям'ян Гарагляд і, гледзячы ўздоўж загона, пакрыкваў: «Не так, сынок!» Андрэя заінтрыгаваў гэты вокрык. Падышоўшы да палоскі Дзям'яна, убачыў, як хлопчык Міця, ідучы разораю, кідаў нейкі скрутак паперы ў кусты. Пасля выкрыку Дзям'яна — «не так, сынок», Міця браў скрутак назад з кустоў і, ідучы ўжо насустрач Дзям'яну, кідаў зноў. Дзям'ян не вытрымаў, ступіў пару крокаў і пачаў кідаць скрутак так, як быццам не ён рабіў гэта, а нехта іншы. Крочачы хутка, кідаў і, як нічога не было, тым самым тэмпам ішоў далей. Хлопчык сачыў за рухамі бацькі і браўся за «работу» нанава.

Андрэй крыкнуў проста на вуха Дзям'яну:

— Добры дзень! Што гэта за рэпетыцыя ў вас?

— Што? Вучу сына, як раскідаць ліха на паноў...

Андрэй здагадваўся, але для пэўнага спытаўся:

— Якое ліха?

— Папяровае... лістоўкі... Няхай вучыцца... Спатрэбіцца...— і ўсмешка хітрынкай зайграла на твары Дзям'яна. А Андрэй раптам апусціў галаву ў глыбокай задуме. Нешта кальнула ў сэрца раз і другі раз... А пасля палёгка ад радасці, якая хлынула невядома адкуль, вызваліла душу ад супярэчнасцей. «Дык вось яно як... Вось дзе ключ да ўсіх пытанняў...»

Дзям'ян не заўважыў задумы Андрэя, балагурыў, працягнуў скрутак. Гэта была газета «Сын беларуса».

Селі пад бярозкай, скруцілі цыгаркі.

— Чаму ж нічога не раскажаш пра лесапільню? — пытаўся Дзям'ян.— Ведаем сёе-тое аб гэтым. Не выкруціцца і Ельскі ад гэтага.

— Я знаю, што вы ведаеце,— у сваю чаргу адказаў Андрэй.

— Нашы сяляне падымаюць вушы... Дай божа... каб як хутчэй гэтага хлеба наеліся, падужэлі б... Ха-ха-ха...

У выніку гутаркі вырашылі сабраць з моладзі па колькі грошай і выпісаць беларускую газету і беларускіх кніжак, спіс якіх Андрэй прачытаў у «Сыне беларуса». Збор грошай вырашылі даручыць Пецю Ціханчуку.

Андрэй ішоў дахаты з палёгкай у душы...

Прыйшоўшы, сеў пісаць адказ.

«Дарагая Вера!

Ты адгадала — пішу табе з-за мяжы. Так сталася памімо маёй волі. У вагоне я захварэў на тыф і апынуўся за мяжою. Ты сваім лістом усхвалявала мяне да апошняга, адрадзіла ўсё, што было між намі. Вярнуўся б да цябе, але дарогі непраходныя. Нідзе я не вучуся, працаваў рабочым на лесапільным заводзе, цяпер сяджу дома. А чорныя хмары ўсё плывуць і плывуць па небе. А ўслед ім плывуць і мае цяжкія думкі. Не ўспамінай, дарагая, мне аб таполі,— гэта ўжо не для мяне. Прабач, што так гавару, але гэта — так. Вазьмі, прачытай яшчэ раз эпілог тургенеўскага Рудзіна, можа, ты адкрыеш там што-небудзь новае? Калі здарыцца сустрэцца калі-небудзь, гэта будзе вялікім шчасцем, але мы ўжо станем напэўна больш сталымі, а значыць, інакшымі. Твой цёплы ласкавы вобраз заўсёды будзе жыць ва мне, як сімвал чыстаты і хараства.

Напісаў бы больш і больш, але што з гэтага — словы так і застануцца словамі. Ідзі ўраз жыццё смела. Я знаю, ты мужная, трывалая, а гэта ёсць зарука перамогі. Нам многае трэба перамагчы. Скажу, як і ты сказала,— не памінай ліхам. Прыслухвайся да нашых галасоў тут,— чытай газеты. Дай пацалую цябе і скажу старое, студэнцкае:

Настало нам разлуки время,
И на измученную грудь
Тяжелой жизни пало бремя,
Но все ж скажу вам: «Добрый путь!»

*Твой Андрэй».*

Так — іменна — «добрый путь». Пойдзем па ім не аглядаючыся...

## ДАЗОР

Як жа ўзрадаваўся Захар Зубец, убачыўшы Андрэя.

— Добра, Андрэй, добра...— гаварыў ён.— Усё ідзе на лад... Чакалі мы цябе, чакалі і думалі, што, можа, ужо і не прыйдзеш... Аж прыйшоў... Ну, хадзем у хату, пакажу табе сваю Насцю і двух малых...

— Як... Іван Падаляка трымаецца?

— Нават добра, Андрэй... Узяўся за працу. І выходзіць у яго, здаецца, нішто сабе... Быў трохі нібы пакрыўдзіўся, што не выбралі яго сакратаром раёна...

— А Марцін? — далей пытаўся Андрэй усміхаючыся.

— О, гэты не толькі што... Камуну прапаведуе ў сваёй вёсцы... Кажа: давайце разам, калектыўна, значыць, араць, сеяць...

Андрэй засмяяўся.

— Усё па-свойму, па-талстоўскаму гне... А сяляне напэўна думаюць — хітрыць нешта Марцін.

— І на бога наваліўся... хі-хі-хі...

— На бога? Вось гэта ўжо нейкі паварот...— раздумліва сказаў Андрэй.

— Бо, бачыш...— спяшаўся расказаць Захар,— трапіў недзе кніжку «Рэлігійная язва»... І я прачытаў яе... Да чаго ж там усё дакладна расказана, як нашага брата ашукваюць... Вось ён носіцца з ёю, як кот з салам...

— Ну, для Марціна гэта крок наперад,— адказаў Андрэй... Але вось гэтыя камуны... тут нешта не так... Дарэмна... Каб з гэтага не выйшла чаго дрэннага... Ведаю —

Марцін усё хоча святое сямейства пабудаваць, ну, і самому быць патрыярхам...

— Ага, ага,— падтакваў Захар.

— Патрыярхам — без бога... Ха-ха-ха... Дзіўны Марцін... Тут зброю трэба браць у рукі, уладу здабыць... Тады...

Захар Зубец прапапаваў паклікаць Марціна Шапко і Івана Падаляку для гутаркі, але Андрэй адмовіўся:

— Зараз няма часу... Пасля... Будзьце напагатове. Быў у мяне ганец з Глушца, перадаў, што набліжаецца карны атрад. У выпадку чаго насельніцтва павінна пайсці ў лес, забраць з сабою коней і кароў... А нам трэба будзе арганізаваць узброеную абарону. Дзе ў каго ёсць якія абрэзы, вінтоўкі, няхай бяруць з сабою ў лес...

— Гэтага трошкі ў нас ёсць...— сказаў Захар.

— Вось тут няхай пакажа сябе Марцін, а асабліва Іван Падаляка... Калі не зможаш сам прыйсці да мяне, мей сталага ганца, добрага, рухавага хлопца, каб у кожны момант можна было паслаць... Калі мяне не будзе дома, даю табе накіраванне да аднаго дзядзькі, у яго будуць усе загады...— І Андрэй даў Захару адрас Дзям'яна Гарагляда.

Развітаўшыся з Захарам, Андрэй палявымі дарогамі пайшоў, накіроўваючыся да Апанаса Хмеля. Дарога была няблізкая, але дня яшчэ хопіць, дый надвор'е спрые.

* * *

Сцяпан Каваль, спяшаючыся са сваімі хлопцамі наўздагон за атрадам паручыка Ельскага, па дарозе абрастаў людзьмі. Па меры таго як спыняўся дзе ў вёсцы Ельскі са сваім атрадам, спыняўся і Сцяпан. Не хацеў навязваць бою на паўдарозе. Хацеў ісці ўслед ворагу аж да яго гнязда, хацеў сваім паходам узварушыць народ, падняць на ногі, уліць упэўненасць у душы людзей. Не вельмі быў спрытным Сцяпан на мітынгі, але тут нават размітынгаваўся. І людзі плылі і плылі да яго. Садзіліся на сваіх коней са сваімі вінтоўкамі, абрэзамі і далучаліся да атрада.

Сцяпан прымаў толькі тых, хто прыходзіў са зброяй і каго раілі разведчыкі.

Так крок за крокам ён праследаваў пана паручыка Ельскага, рассылаў разведку ва ўсе бакі, фармаваў групы з навапрыбыўшых. Уваходзіў у сілу Сцяпан Каваль. Асцерагаўся толькі, каб не наляцелі ворагі ззаду. Да таго ж

разведка данесла, што спраўдзілася так, як Сцяпан думаў,— Хведар Дудзько прывёў конны паліцэйскі атрад, але засада за царквою св. Антонія рассеяла яго. Аднак небяспека не мінула. Хведар Дудзько зноў уцёк ад партызан. Сцяпану хацелася пабачыць Паддубнага, параіцца з ім. Але Паддубны быў у Вільні. Толькі адзін Апанас Хмель, член акругкома, атрымлівае інфармацыі. Сядзіць недзе ў сваёй вёсцы сярод балот і сам чакае загадаў. Ведае і ён Сцяпана Каваля. Нават Сцяпан аб ім у свой час прымірэнча адазваўся:

— Хлопец, як казак, хоць... жулікаваты. Сачыць трэба за ім, як за іскрой...— гаварыў ён Івану Паддубнаму,— не любіць ён цябе.

* * *

У той час, калі Сцяпан Каваль прасоўваўся ўслед за атрадам Ельскага, Іван Паддубны ехаў з Вільні. Чакаў паведамлення, як было дамоўлена, ад таго ж самага Апанаса Хмеля, але паведамлення не было. Яно прыйшло з іншых крыніц таварышу Васілю, і вось Паддубны едзе. Калі б мог, то гнаў бы поезд шпарчэй — так неспакойна было ў яго на душы. Уткнуўшы нос у газету, сядзеў у кутку, каб быць непрыкметным. Часам чытаў і не разумеў, што чытае.

Цюкнула яму яшчэ пры пасадцы ў вагон, што па ім прабеглі падазроныя вочы. Гэта было пры выхадзе з вакзала, калі ў дзвярах стаяў паліцыянт і правяраў дакументы. Нейкі падазроны чалавек у кепцы з доўгім казырком спрачаўся з паліцыянтам. І вось тады... Вочы крыху навыкат, шырокі твар з простым абкарнаным носам. Паддубны адчуў, як гэтыя вочы правялі яго з-пад казырка. Праўда, было ўжо цёмна, але бляск ліхтара падаў на людзей, што выходзілі з вакзала. Гэта б яшчэ нічога. Поезд імчаў у цёмную ноч, так што Паддубны не заўважыў, калі праехалі праз тунель Панар, а гэты падазроны ўжо два разы прайшоўся па вагону.

«Тут нешта ёсць...» — мільганула думка. Не задавальняла Паддубнага і прабыванне ў Вільні.

Незразумелыя подыхі плывуць з Варшавы, з КПП... Апазіцыя...

Прагучала Кракаўскае паўстанне рабочых, і КПП апынулася ў хвасце падзей. У КПП нарадзілася апартуністычная тэорыя «двух этапаў рэвалюцыі ў Польшчы», дзе

дробнай буржуазіі адводзіцца самастойная палітычная роля... Іменна, самастойная...

«Гэтая рэч вельмі небяспечная,— думае Паддубны.— Няма тут пралетарскага ні на панюх табакі... Здорава!.. Выходзіць так, што кулацтва, скажам, на вёсцы ставіцца ў авангард нейкага «першага этапа» рэвалюцыі. Ну, а потым, значыць, будзе пралетарыят рабіць сваю рэвалюцыю... Гэта не толькі грубы апартунізм, але самая чыстая замаскаваная эсэраўшчына... Цьфу! Эсэраўшчына на польскі лад... так, так... Не хочуць прызнацца паны апартуністы, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Польшчы ўжо прайшла... Канчаць яе будзе пралетарыят...»

Паддубны ніяк не мог супакоіцца... Абурэнне новай хваляй агортвала яго. Прадчуваў, што ў перспектыве будуць неймаверныя цяжкасці і небяспекі.

«...Гэта ж толькі такая тэорыя змагла спарадзіць сэцэсію [1] ў нас — плынь чорнага беларускага нацыяналізму, які ўвесь польскі народ аб'явіў прыгнятальнікам Заходняй Беларусі. Значыць, і польскі рабочы і селянін таксама прыгнятаюць Заходнюю Беларусь... Ну што ж, трэба ж нешта выдумаць для барацьбы з марксізмам-ленінізмам...»

Думкі скакалі, як у гарачцы.

«А дзе гегемонія пралетарыяту? — у думках задаваў пытанне ворагам-апартуністам Паддубны.— Не, не дапаможа ваша выстаўленне «спецыфікі» Польшчы... Такая «спецыфіка» ёсць не што іншае, як маска...»

І Паддубнаму не раз хацелася ўзняцца з месца і захадзіць па вагону туды і назад, як часам бывала ў хаце. Ён толькі прыўставаў, папраўляў плашч і насоўваў ніжэй на вочы кепку.

Нейкі падазроны з вачыма-буркаламі зноў прайшоўся па вагону. Ліхаманкавыя думкі яшчэ і яшчэ падказвалі Паддубнаму: «Калі так, то мы сваіх пазіцый не ўступім, мы нагалаву разаб'ём сэцэсію...» І пасля такога заключэння пачаў думаць аб сваім становішчы. Што за ліха? Што рабіць? І Паддубны ўрэшце вырашыў сысці з поезда на чарговым прыпынку.

Так і зрабіў. Стаянка поезда — тры хвіліны. Выскачыў і знік у цемры. Пад высокімі, разложыстымі ліпамі і каштанамі тулілася драўляная станцыйка. Паабапал —

---

[1] Сэцэсія — значыць раскол, адыход (з лацінскай).

агародчыкі ў бэзавых кустах. Ціха і пуста. Дрэмле ліхтар, льючы цьмянае святло на жвіровы перон.

Поезд пайшоў, і на пероне застаўся толькі начальнік станцыі, які, адсалютаваўшы апошняму кандуктару, нейкі час глядзеў услед апошняму вагону з чырвоным вочкам, а затым пайшоў на станцыю. Па дарозе яго перапыніў Паддубны і запытаўся пра наступны поезд. Услед за начальнікам падаўся на станцыю. Тут убачыў высокага паліцыянта і вяртлявага чалавека ў шэрай кепцы. Яны вадзілі пальцамі па карце Польшчы, што вісела на сцяне, аб чымсьці спрачаліся. Даляцела да вушэй фраза паліцыянта:

— Ты, браце, напхайся саломай і не круці мне галавы... Што ты знаеш? Твая справа сцежкі нюхаць... Поезд пайшоў ужо, і ты і не выйшаў...

Паддубны, усунуўшы якраз галаву ў акенца касы, пры апошніх словах паліцыянта насцярожыў вушы. «Няўжо аблава якая па ўсёй дарозе?..» — падумаў ён.

* * *

Паручык Мечыслаў Ельскі, выбраўшыся са сваім атрадам з пушчаў на палявыя дарогі, уздыхнуў лягчэй. Тут ён меў ужо больш прасторы для ініцыятывы. Па вёсках тэрарызаваў солтысаў, гнаў сваіх ганцоў наперад у пастарункі паліцыі, патрабуючы дапамогі і ў першую чаргу ўзброенай. Староства Глушэцкага павета стала на ногі. З ваяводства плылі загады за загадамі — узмацніць варты над банкамі, над маёнткамі, над касцёламі, расшырыць і ўзмацніць разведку. Аб апошнім гаварылася, што пры вярбоўцы разведчыкаў з мясцовага насельніцтва трэба захоўваць найвялікшую пільнасць і асцярожнасць, нельга верыць нікому — хіба толькі ў выключных выпадках. Трэба шукаць мясцовых палякаў, а сярод беларусаў больш звяртаць увагу на католікаў — толькі сярод іх можна знайсці апору. Апошні пункт загаду гаварыў аб яўрэях — у выпадку чаго пан паручык Мечыслаў Ельскі мае ўсе паўнамоцтвы на тое, каб правучыць яўрэяў. На чыгунках арганізаваць строгую праверку дакументаў — усіх падазроных затрымліваць.

На ўсіх загадах у правым куточку значылася: «Абсалютна сакрэтна». І дзіўна,— сярод усіх ваяводстваў Віленскае асабліва не спала. Начамі адбываліся таямнічыя аўдыенцыі, нарады. Апрача чыноўнікаў паліцэйскай

службы і невядомых людзей у цывільным прыходзілі на нарады, звонячы шпорамі, і афіцэры камандавання ваеннай акругі. Вільня стала самым адказным месцам на прасторах Заходняй Беларусі і Літвы. Тут канцэнтраваліся ніці паўстанцкіх сіл, паўстанцкай думкі, лепшыя сілы народу сцякаліся сюды. Традыцыі?.. Так, ёсць і гэта. Але ніхто з паноў і думаць не хоча, што толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі Польшча здабыла сабе незалежнасць. О не! Дзе там! Яны, бачыце, самі здабылі сабе незалежнасць уланскімі атакамі супроць салдат арміі рэвалюцыі, здабылі яе шляхецкай шабелькай, якою кічліва выхвалі некалі на прасторах сваёй шляхецкай Рэчы Паспалітай, высмеянай яшчэ Багданам Хмяльніцкім. Ён казаў: «Рэч Паспалітая — гэта рэч для ўсіх, а на самай справе належыць толькі панам. Як гэта можна выдумаць для ашуканства?»

Навыкі феадальнага быту, традыцыі радзівілаў, патоцкіх, тышкевічаў, любамірскіх, замойскіх і іншых і іншых упарта хочуць жыць далей, хочуць, як даўней, будаваць на касцях беларускага і ўкраінскага народаў ідылію раскошы і бізуна. І не хочуць бачыць паны, што не тыя ўжо часы. Яшчэ, бачыце, многа лясоў на Беларусі, а ў памешчыцкіх узаконеных сабакарнях шмат сабак. Можна паляваць, рабіць аблавы на дзікоў, на ласёў, сыпнуць загоншчыкам пару манет на далонь, з пенай на вуснах вылаяць хлопа, фанабэрыста падставіць руку для цалавання сагнутаму ў крук, абадранаму, забітаму селяніну... Мілыя, добрыя часы! Няхай шыпіць віно ў крышталe! Няхай утульна вісяць на сцяне яшчэ прадзедаўскія пісталеты, шаблі, няхай глядзяць з партрэтаў продкі ў вышываных золатам жупанах, у шапках-канфедэратках. Польшча, аказваецца, адрадзілася для таго, каб жылі толькі паны. Польшча — гэта паны. Пілсудскі ведае, што робіць. На ваяводаў і старостаў на землях Заходняй Беларусі, ды наогул ва ўсёй Польшчы, падбіраюцца асобы з памешчыцкіх радавітых сем'яў. На іх апора, як на патрыцыяў, якія толькі з пагардай глядзяць на плебеяў.

Народ для іх — быдла.

Вось і топчуцца на начных нарадах, іграючы ў розных Катонаў, Цыцэронаў. Але кожны рэзкі стук на двары, асабліва ў староствах, прымушае паноў змоўкнуць на хвіліну. Кожнаму закрадаецца ў душу страх за сябе, нейкая няўпэўненасць у трываласці грунту, на якім яны стаяць. Вельмі ўжо страшныя ім бальшавікі. Гэта не жарты —

яны на бязмежных прасторах Расіі змялі ўсіх дваран-памешчыкаў, усю буржуазію, і што ты ім скажаш? Змялі, і ўсё. Заўтра можа стацца гэта і тут. Да граніцы ж недалёка. Мясцовае хлопства ненавідзіць польскую панскую дзяржаўнасць. Занатавана ўжо не адно вогнішча бунту... Узброеныя атрады па лясах. Агітацыя... Паліцыя не спраўляецца... Без рэгулярных войск тут не абыдзецца. Патапіць у крыві... зламаць, сагнуць да зямлі, наказаць хлопу яго месца — плуг і касу. Але там... Кракаў, Лодзь, Варшава... нават... Валынь, Львоў — бунты... бунты... Не, бальшавізм апаноўвае ўсю Польшчу... Гэта ніяк не ўкладаецца ў галаву... Назалежнасць пад пагрозай...

Так думалі паны, хапаліся за галовы з вокрыкам: «Гіне Польшча!» Не спалі па начах і снавалі свае ваенныя і разведчыя сеці.

* * *

На лесапільні, дзе неабмежаваным у сваёй уладзе быў пан Пшэборскі, усё выглядала, як пасля вялікай буры. Чыноўнікі хадзілі, апусціўшы вочы ў зямлю, як самі не свае. Пазіралі навокал неяк употай і часта азіраліся. Асунуўся з твару, схуднеў і сам пан Пшэборскі. Стаў ціхім, замкнутым у сабе. Не чуваць было на пляцы яго задзёрыстага п'янага крыку, ляскату яго палкі аб бервяно. Праўда, лесапільня працавала, як і раней, толькі ўсім здавалася, што нават дым з высокага заводскага коміна ўецца неяк няўпэўнена, нібы крадучыся, каб не вельмі звяртаць на сябе ўвагу.

Стаялі тыя самыя баракі, напалавіну закапаныя ў зямлю. Але іх не так даўно вымярала нейкая інспекцыя. На пытанне рабочых, нашто гэта ўсё робіцца, інспектары сквапна адказвалі: «На тое, каб даведацца, колькі кубічных метраў паветра прыпадае на чалавека». І хоць рабочыя ад такога адказу пачыналі рагатаць, інспектары з павагай рабілі сваю «дабрачынную» справу далей. Нават прыходзіў сам пан Пшэборскі папрысутнічаць пры абмеры. З рукамі ў кішэнях, як заўсёды, задзіраў нос, углядаючыся на закураную столь, нібы мяркуючы, як яе падняць вышэй.

«Чакайце, хлопцы, палацаў,— смяяліся рабочыя,— канец прусакам і блыхам».

Пана Канапацкага (Глюгі) ужо не відаць і не чуваць было на вузкакалейцы пры грузчыках — яго замяніў іншы,

нейкі пан Янкоўскі, больш памяркоўны ў абыходжанні з рабочымі.

Глюга працаваў наглядчыкам пры падкатцы дрэва, меў справу з дванаццаці-пятнаццацігадовымі хлопцамі і дзяўчатамі.

Пан Пшэборскі праходзіў па пляцы так ціха, непрыкметна, што не толькі рабочыя, але нават паны наглядчыкі часам у пару не заўважалі яго, за што Пшэборскі і не крыўдзіўся. Але пан Пшэборскі таксама ціха і непрыкметна заклікаў да сябе ўвечары каменданта пастарунка Качуру, былога казацкага сотніка-балахоўца Нянашава, паручыка пятлюраўскай арміі пана Підгарадзецкага і ў кабінеце з зачыненымі аканіцамі доўга з імі аб чымсьці раіўся. У выніку адной такой нарады рухавік і ўвесь механічны цэх на заводзе пачалі абслугоўваць балахоўцы. Тое самае адбылося і са станкамі.

Быў час пасля поўдня. Качура сядзеў у шапцы з апушчаным пад падбародак пасачкам, як у час дзяжурства. Забінтаваная левая рука вісела на павязцы. Правая ўвесь час здымала тэлефонную трубку. Пот сцякаў па яго белым вялікім твары. Тут жа сядзеў, дымячы папяросай, Ян Чарапіцкі. Схуднелы, непаголены, ён стомлена плюшчыў вочы пад доўгім казырком кепкі. Хацелася спаць. І нездарма. Чарапіцкі вось толькі нядаўна сышоў з поезда, збіты з толку і з тропу сваім падарожжам. Расчараваны і злосны, ён дакладваў Качуру аб сваіх няўдачах:

— Увесь час сачыў... І дзе ён знік у дарозе, зразумець не магу... Абышоў усе вагоны поезда і не знайшоў... Пся крэў... Шукай цяпер ветру ў полі...

— Так... І мусіш шукаць,— адказаў злосна сваім траскучым голасам Качура.— Меў птушку ў руках і выпусціў. Табе не разведчыкам быць, а каровам пад хвасты заглядваць...

— Ну, ну ты... Замнога на сябе бярэш...— пакрыўдзіўся Чарапіцкі.

Качура ўстаў. Выціраючы хустачкай пот з твару, гаварыў ужо салідным пастаўніцкім тонам, пастукваючы алоўкам па стале:

— Запомні сабе... Тады толькі паедзеш на курсы ў Варшаву, калі зловіш гэтую птушку. Разумееш?

Чарапіцкі заварушыўся ў крэсле, горкая ўсмешка прамільгнула на засмяглых тоўстых губах. Муштук папяросы ўвесь зжаваны. Чарапіцкі нервова адгрызаў яго па кавалачку і выплёўваў. Белая паперынка мецінкай прыля-

пілася да губы, ад чаго Чарапіцкі ў вачах Качуры выглядаў яшчэ большым няўдачнікам. Ах, як цяжка і горка Чарапіцкаму!

— Ну, што ж...— загаварыў ён,— яшчэ раз прыйдзецца наведаць Навасады...

— Адзін раз — гэтага мала... Табе далі ўсе карты ў рукі, а ты правароніў. Як я цябе пасля гэтага буду адстойваць у камендатуры?

Чарапіцкі змоўк, задумаўся. Урэшце сказаў тонам грэшніка, які каецца:

— Ведаеш, Стэфан, даю слова гонару, што давяду справу да канца... Я гэтую птушку злаўлю... Калі я мог сачыць за ім з самай Вільні, то тут я маю большыя магчымасці...

— Рабі чым найхутчэй, каб я меў падставы ў камендатуры...

Качура не дагаварыў. У кабінет увайшоў увесь спацелы, з падрапаным тварам, паліцыянт з кавалерыйскай вінтоўкай за плячыма. Шчоўкнуўшы абцасамі, адрапартаваў:

— Пане каменданце, атрад у Дзядах рассеяны бандытамі з засады... Пяць параненых прыбыло...

Качура хацеў даць загад, куды адвесці параненых, як зазвінеў тэлефон. Прыклаўшы трубку да вуха, Качура слухаў, стоячы «смірна» і час ад часу паўтараючы: «Слу-слухам... Слухам...» Скончыўшы, кіўнуў Чарапіцкаму, спешна загадваючы:

— Ляці ў казарму, скажы, каб у сталовай варылі яшчэ на пяцьдзесят чалавек... Едзе паліцэйская школа з ваяводства нам у дапамогу... Хуценька, бо скора будуць тут...

Чарапіцкі выйшаў. Качура, паглядзеўшы на паліцыянта, які чакаў загаду, сказаў уздыхнуўшы:

— Пся крэў... Дрэнна мы ваюем...

## АПАНАС ХМЕЛЬ

Дарога ішла праз Глушэц, і таму Андрэй не мог не зайсці да Грышы. Вольга затрымала яго перапачаваць.

Калі ішоў праз мястэчка, бачыў, што ў ім цяпер не так ціха, як бывала звычайна. Заўважалася яўна, што паліцэйскія пасты на вуліцах былі падвоены ці, можа, патроены. Ля камендатуры — рух. Узброеныя паліцыянты ўваходзілі і выходзілі. Стаяла пяць асядланых коней, прывяза-

ных да плота. На падворку ішла вучоба — група паліцыянтаў па камандзе «страляла» з калена, потым «страляла» лежачы, пасля паўзла. Перад ганкам камендатуры спынілася карэта, запрэжаная парай коней. З яе выскачыў высокі, каранастага складу чалавек у мундзіры афіцэра паліцыі, з пенснэ на вялікім носе. Гэта — камендант Шчансновіч, перад якім дрыжала ўсё мястэчка. Наганяючы страх рознымі штрафамі, ён намёкамі даваў зразумець мяшчанам і гандлярам, як яго залагодзіць, і тады тэрор раптам на некаторы час спыняўся, і ў рукі каменданта пейкімі патайнымі сцежкамі трапляў хабар. Калі ж камендант зноў праязджаў па галоўнай вуліцы і пачынаў распякаць каго-небудзь за тое, што «брудна» каля крамы, усе разумелі, што «бог патрабуе чарговай ахвяры».

Цяпер, саскочыўшы з карэты, ён накінуўся на групу паліцыянтаў, што стаяла ля ганка. Яму не спадабалася, што паліцыянты курылі.

— Што за курэнне?..— ашчэрыўся ён.— Не маеце што рабіць?

Паліцыянты пакідалі папяросы і сталі «смірна». Камендант, бразгаючы шабляй па сходках, пайшоў нахмураны ў камендатуру. Ён толькі што вярнуўся са староства з пане́мецкай нарады, дзе атрымаў шмат папрокаў, што паліцыя, вывучаная і добра ўзброеная, не можа даць рады хлопскім бандытам, што дзяржава дарма траціць сродкі на ўтрыманне паліцыі. Едучы са староства і ўспамінаючы гэтыя папрокі, ён дрыжаў за сваю кар'еру.

«Пся крэў... Добра ім гаварыць... Я павінен выратаваць увесь павет... Чаму ж яго не выратуе Ельскі са сваім атрадам? Вось жа... Яны добра ведаюць, што за дваццаць кіламетраў ад Глупца ў першай сур'ёзнай сутычцы з бандытамі Ельскі пацярпеў паражэнне і панічна ўцякае... А колькі ж дапамогі паслалі... А яны шукаюць «ахвярнага казла». Не, гэта не ўдасца...»

А весткі сапраўды плылі трывожныя. Аб гэтым расказала Андрэю і Вольга.

Аказваецца, у мястэчку аб'яўлена асадпае становішча — пасля дзевяці гадзін вечара нельга нікому выходзіць на вуліцу.

Для гутаркі Андрэй з Вольгай выйшлі з хаты Абрама на падворак, прайшлі за дрывотню ў невялічкі агарод, дзе раслі два кусты парэчак, зелянелі чатыры градкі гародніны — цыбулі, рэдзькі — і стаяла маладая таполя.

Вольга ўзяла з сабою недавязаную панчоху. Селі на

круглячку дрэва пад таполяй. Вольга спрытна запрацавала пруткамі, нанізваючы па іх петлі пражы.

— Ну, расказвай, як у цябе дома? — запыталася лагодным голасам, як быццам на свеце нічога не адбывалася.

Пыталася пра сям'ю Андрэя. Андрэй расказваў усё. Толькі змоўчаў аб адным,— аб тым трывожным лісце, які прыляцеў з яго маладосці. Яшчэ раз перажываў гэты ўспамін і ціха глядзеў на Вольгу — на яе засяроджаны твар у вянку злёгку хвалістых валасоў, на прыгожыя рукі, што так энергічна працавалі над панчохай. Адчуваў у ёй тую насцярожанасць, пры якой чалавек слухае і тут жа нешта вырашае.

Вольга глянула раз у твар Андрэя, і іх позіркі на нейкі момант спыніліся адзін на адным. Яна лёгка страсянула галавой, папpавіла валасы. Цёплы струмень пранізаў Андрэя, і сэрца злёгку забілася прыхільнасцю да гэтай дзяўчыны, якую часам нельга было так назваць — сур'ёзнасць і заклапочанасць рабілі яе ўзмужнелай, сталай. «Свая, бязмерна свая...— думаў Андрэй.— І суровая і нежная...»

Пачала расказваць аб сабе — што яна заваявала сімпатыі сям'і Абрама, што ўсе хацелі б з ёю не расставацца. Гаварыла пра Грышу і прарочыла яму добрую будучыню.

Пасля кароткага маўчання сказала, што абышла некалькі навакольных вёсак, гутарыла з людзьмі. Пасля гутаркі жанчыны запрашалі яе на абед.

— А я ім казала, што іду працы шукаць, што ў мяне няма ні бацькі, ні маці. Адна пажылая цётка, частуючы мяне бульбай з малаком, не адыходзіла ад стала, усё на мяне глядзела і ківала галавою, прыгаворваючы: «Такая маладая і харошая... сіратанка... без бацькі, без маткі... туляецца па свеце... Божа, божа...» І настойвала, каб засталася ў іх. Я ёй адказала, што яшчэ вярнуся і тады можа застануся.

— Я многа ўведала — думкі, настроі людзей... Колькі гора ў народзе, Анатоль...

— Настроі... настроі,— сказаў у роздуме Андрэй.— Мы... павінны працаваць няспынна... нястомна... Бунт супроць гора сягоння мацнейшы, чым учора, а заўтра будзе яшчэ мацнейшы, чым сягоння... Што думаеш аб асадным становішчы? — спытаў ён.

— Што? Зразумела... Быў ганец ад Апанаса Хмеля...— Вольга глянула на Андрэя і ўсміхнулася, а потым працягвала:

— Я пасылала Максіма Рунду да Апанаса з даручэннем, каб Апанас быў напагатове, каб выслаў на час у дапамогу людзей. Атрымала ад яго недарэчную запіску, што я не маю права даваць яму загадаў... Гэты чалавек звар'яцеў ад амбіцыі... Так, фармальна я не маю права... Але лішняя заўвага ў пару ніколі не шкодзіць. Прыслаў план мястэчка Глушэц і загадаў зараз жа даставіць Сцяпану... Учора пайшоў Максім Рунда з планам да Сцяпана, і яшчэ яго няма... Невядома як... Харошы хлапчына гэты Рунда...

Вольга задумалася, паклаўшы рукі на калені. Потым лёгка ўздыхнула і пачала зноў працаваць пруткамі. Маўчаў і Андрэй, слухаў шчэбет ластавак, што шыбалі над дахамі навакольных будынкаў, чуў над сабою лёгкае трапятанне лісцяў таполі, адчуваў прыхільнасць Вольгі. А маладая таполя нагадвала яму іншую таполю — высокую, галіністую. Глянуў нават уверх пад галлё і сказаў як быццам сам сабе:

— Таполя... яшчэ маладая...

Вольга з адценнем гуллівасці ўсміхнулася, а потым сказала, мімалётна глянуўшы на Андрэя:

— Маладая... як мы з табою...

Андрэй нават крыху спалохаўся яе слоў...

«Сказаць ёй ці не сказаць пра тую іншую таполю? Быў востры момант вагання. Так хочацца нічога не ўтойваць ад гэтай блізкай, невядомай. Але, можа, таму я і не скажу, што так хочацца сказаць...»

Вольга вывела яго з задумы:

— Чаго задумаўся?.. Пад гэтую таполю штодня прыходзіць Грыша з Якавам вучыцца палітычнай эканоміі. Настаўнікам — Якаў... Я слухала раз. Начытаны Якаў, але іменна толькі начытаны. Расплываецца часта ў няясных фармулёўках... Ухіл у тое, што завецца інтэлігентшчынай... Але... з часам будзе і з квасам...

— Пакінь ты гэтую панчоху! Вось не люблю... іменна панчох... Чалавек пры гэтым неяк драбнее, застывае...— як быццам не вытрымаўшы, сказаў Андрэй.

— Ха-ха-ха!..— пырснула смехам Вольга.— Баішся за мяне, каб я не застыла, не здрабнела... Не бойся, хіба ж панчоха такая дужая, дужэй за нас? О не...

— Яна-то, можа, дужая, калі ёй сваёй сілы не супроцьстаўляць.

— Усё ўзводзіш у сімвал... Ну, кіну...

Вечарэла. На вуліцы тарахцелі калёсы, даносіліся пасобныя крыкі па-польску. Пасля зноў наставала цішыня.

Паклаўшы клубок побач, Вольга нават крыху пацягнулася, выпростваючы рукі.

— Сапраўды можна застыць у гэтай рабоце,— сказала яна,— стомленасць прыходзіць сама сабою.

Андрэй маўчаў. Локці адпачывалі на каленях, а падбародак на далонях.

— Ну, чаго маўчыш? — злёгку штурхнула яго Вольга за плячо.— Таксама застыў, ці што?

— Песню спяваю,— адказаў Андрэй.

— Якую?

І Андрэй упаўголаса пачаў:

Горные вершины
Спят во тьме ночной,
Тихие долины
Полны свежей мглой.

З другой страфы падхапіла і Вольга:

Не пылит дорога...

Спяваў пад настрой Андрэй. Настрой перадаваўся Вользе. А перад вачыма ляжалі пройдзеныя шляхі і тыя, якія яшчэ трэба прайсці.

Погоди немного,—
Отдохнешь и ты.

Таполя... Таполя... абуджае знаёмы матыў. Хочацца прытуліць да сябе вось гэтую блізкую і невядомую, хоць па сутнасці вядомую да канца, да астатку.

Вольга пад песню прыпала шчакою да пляча Андрэя, і ў гэтым Андрэй адчуў, што яна сапраўды стамілася, што і ёй уласціва ўсё зямное, чалавечае. Глянуў у твар — вочы яе былі заплюшчаны. Адвёў сваю руку назад і пасля злёгку правёў далоняй па яе прыгожых валасах.

— Оля, ужо вечарэе...— сказаў.

Яна абудзілася, як ад сну. Страсянула, як заўсёды, галавой, папраўіла валасы.

— Мне здалося, што я зусім заснула пад твае горныя вяршыні... Вось грэшнікі з нас...

Глянула на Андрэя і паправіла яму каўнер пінжака.

— Вось што...— сказала, падумаўшы,— з часам пакажаш мне свайго Дзям'яна Гарагляда... Пайшлі...

Яна энергічна ўстала і першая пакрочыла з агародчыка. І Андрэй яшчэ ясней убачыў свой заўтрашні дзень і постаць той, якая цяпер ішла перад ім.

Размясціўшыся з Грышам і Якавам на вышках хле-

вушка па сене, Андрэй прагутарыў з імі да поўначы. Нават экзаменаваў Грышу і Якава (па іх просьбе) па палітычнай эканоміі... Прыслухоўваліся да руху на вуліцы — чулі, як часта цокалі капыты коней, прарывалася гутарка па польскай мове. Коні патрулёў цокалі па мястэчку ўсю ноч.

Выбрацца з мястэчка было ўжо не так лёгка, нават небяспечна. Таму Вольга хацела правесці Андрэя. І ўжо была накінула на сябе шаль, каб ісці, як тут запратэставала цётка Рахіль:

— Не, вы не пойдзеце... Я не дазволю гэтага... Я пайду сама... Я старая, на мяне менш увагі...

Так і вырашылі. Цётка Рахіль узяла на руку кошык, паклала ў яго тры пучкі цыбулі — так і пайшлі. Конныя патрулі паліцыі раз'язджалі і ўдзень. Праўда, пры сустрэчы праводзілі вачыма старую Рахіль і Андрэя, але, убачыўшы ў кошыку цыбулю, не затрымлівалі. Так дайшлі яны аж да касцёла, які ўзвышаўся вострай вежай пры ўскраіне мястэчка, і тут разышліся. Рахіль звярнула ўлева ў завулачак, а Андрэй пайшоў прама.

Пятнаццаць кіламетраў прайшоў Андрэй пясчаным шляхам да чыгункі, а потым, перасекшы яе, апынуўся ў глухім Палессі. Задаваў сабе пытанне — уласна кажучы, чаго ён ідзе да Апанаса Хмеля? Ну, вядома, выконвае загад Паддубнага. «Іду для таго, каб яшчэ адна галіна вырасла на нашым дубе». За Глушэцкім раёнам мае нагляд Апанас Хмель, як член акругкома. Што яму скажа гэты Апанас? Трэба паставіць перад ім пытанне аб стварэнні раённага камітэта. Ужо час. Сілы ёсць. І дзе цяпер Паддубны? Добра было б, каб ён быў тут цяпер.

Вёска Забалоцце стаяла на ўзгорку сярод лясоў і балот. Пры канцы вёскі кучаравілася група старых соснаў. Нават утульнасцю павеяла ад наваколля і ад самой невялікай вёскі, якая, размясціўшыся на ўзгорку, нібы грэлася пад сонцам.

Калі Андрэй увайшоў у старую ўжо хату з драўлянай падлогаю і нізкай столлю, Апанас Хмель сядзеў у канцы стала на покуце, апрануты, у кепцы і еў хлеб з салам. Кроячы яго вялікім кухонным нажом з драўлянай ручкай, якія робяць вясковыя кавалі, ён, кладучы ў рот кавалачак хлеба з салам, кожны раз прыстукваў тронкамі нажа па стале, як быццам гэтым пацвярджаючы нейкую думку за думкай. Апанас еў з апетытам — зубы жавалі энергічна, а цёмныя вочы, як свярдзёлкі, свідравалі перад сабою.

Яшчэ малады, смуглявы твар з крыху дзюбатым носам выяўляў нецярплівасць, ноздры часта раздзімаліся, і з носа чулася сапенне.

З-пад кепкі, як воранава крыло, звісала над скроню чорная пасма валасоў. Старая рабочая куртка без гузікаў была падпяразана вяроўчынай. На нагах — лазовыя лапці з раменнымі аборамі. Ногі былі мокрыя амаль да каленяў. Відаць, Апанас пядаўна аднекуль прыйшоў.

Ля печы вісела калыска, у якой сядзела і бавілася дзіця. Жонка, у белай хустцы, седзячы на палку, перад калыскай, нешта шыла. Апанас Хмель еў, прыстукваў тропкамі нажа па стале і не бачыў ні калыскі, ні жонкі, якая час ад часу пaглядала на Апанаса, намагалася нешта сказаць, але не адважвалася. І толькі часам уздыхала.

Калі за вокнамі мільганула постаць Андрэя, жонка ўсхапілася, падбегла нават да акна і сказала: «Нехта ідзе...»

— Няхай ідзе,— буркнуў Апанас,— прыйдзе і пойдзе...

Калі Андрэй увайшоў у хату і, прывітаўшыся, сеў на лаву, Апанас Хмель палуднаваў і далей, маўчаў, як быццам нічога не было.

Андрэй урэшце, каб вывесці Апанаса з хаты, папрасіў паказаць яму дарогу на станцыю. Яны выйшлі. Андрэй сказаў пароль, Апанас ажывіўся, хутка-хутка затараторыў:

— Ты Старога бачыў? Як даўно? Што ён табе казаў? Можа, ведаеш, хутка ён будзе тут? Ага, ага... гм... Ну, хадзем у хату. А я думаў, хто гэта да мяне...

Вочы пранізліва глядзелі на Андрэя, нават залішне пранізліва. Гэта неяк карожыла Андрэя. Ён адчуў у лішняй пранізлівасці Апанаса штосьці з позы канспіратара. «Рысуецца»,— падумаў.

Пераступіўшы парог у хату, Апанас на хаду загаварыў, як быццам знарок, на ўвесь голас:

— У нас тут справы немалыя. Разадзьмем кадзіла... Хопіць у нас сіл у адной Заходняй Беларусі... Важна — момант... Раптоўнасць... Ашарашыць паноў і тады — пойдзе само сабой...

Гаворачы так, мацаў Андрэя вачыма, як быццам жадаючы выклікаць на гутарку. Андрэй лічыў, што тут не месца такім размовам, і таму больш маўчаў.

Апанас закурыў тоўстую цыгарку і, пыхнуўшы дымам, сказаў:

— Ну, нічога, яшчэ пагаворым... Ты, вядома, пойдзеш у камсастаў... Я ад ЦК прызначан для праверкі сіл ворага

і для вярбоўкі нашых сіл... Адным словам, ваенныя справы...

Дым густа паваліў з ноздраў Апанаса. Ён абабіў попел з папяросы і скрывіўся ад дыму. Пры апошніх яго словах жонка пасцярожана ўзняла свае шэрыя вочы і апусціла зноў. Быў момант, калі Андрэю хацелася засмяяцца ад слоў Апанаса. А ён сядзеў, адну нагу схаваўшы пад лаву, а другую выцягнуўшы наперад.

— Ну, як табе Стары? — зноў забубніў Апанас.— Бядовы мужык — га?

— Ды не... нічога такога я не заўважыў... Здаецца, усё ў парадку.

— Слаб, слаб Стары... Яшчэ ўбачыш...

Жонка зноў узняла вочы і ўжо не вытрымала:

— От, не малоў бы языком, чаго не след...— І залілася чырванню.

— Твая справа...— знаеш — з лыжкі ды ў рот... Што ты разумееш?

Апанас глянуў на стол і кіўнуў галавою:

— Прыбяры са стала...

— Ты за мяне не прыбіраў і прыбіраць не будзеш,— адказала жонка і пачала завіхацца ля стала.

— От, кажу, кажу — хлеў накрыць... Так яно, мусіць, і застанецца,— працягвала жонка.

— Так і застанецца... Будзеш крыць сама, раз ты такая разумная...

Ноздры ў Апанаса раздзімаліся... Вочы-свярдзёлкі ўтаропіліся ў жонку. Ён павысіў голас:

— Прынёс дубцоў ці не? Бачыш, мокры па калені... Ну, вось, ідзі бяры і крый...

Жонка прашаптала нейкія словы абурэння і села зноў за калыскай.

Андрэй палічыў патрэбным як-небудзь перарваць іхнюю гутарку. Сказаў:

— Ну, нашто вам сварыцца? Хіба ж нельга без гэтага?

Словы Андрэя падзейнічалі. Апанас пачаў гаварыць такім тонам, як быццам прасіў прабачэння. Відаць, спалохаўся, каб аб ім дрэнна не падумаў Андрэй.

— І што ты з дурною бабай...— працягнуў ён ніякавата, разводзячы рукамі.

— А ты дарма, таварыш... Я тут не бачу ніякай дурасці....— ускінуўшы вочы на Апанаса, сказаў Андрэй.

Жонка ажывілася, адчуваючы заступніцтва.

— Ой, дарагі таварыш, ён мяне мае за той лапаць,

што на пазе,— сказала з плачам жонка.— Ой, божухна! Ніякага спасу ад яго!

— Маўчы! — успыхнуў Апанас і заварушыўся на месцы.— Ну, што ты з ёю зробіш? Маўчы, табе кажу!..— і зноў прыкрыкнуў на жонку.

Захлынуўшыся ад хвалявання, засоп носам.

Апанасу ўжо хацелася, каб жонка змоўкла. Ён быў бы здаволены, каб яна маўчала, пакуль ён будзе гутарыць з Андрэем.

Апанас гатоў быў выказваць свае фантазіі нават у прысутнасці слупа, уяўляючы, што і слуп будзе здзіўляцца і захапляцца яго ўзлётам. А тут — жонка, жывы чалавек, і раптам — не мае ніякай ахвоты захапляцца ім. Наадварот, супярэчыць ды яшчэ пры староннім чалавеку, які першы раз у хаце. Канфуз, адзін канфуз. Ніякай кашы не зварыш з гэтай бабай. Замест таго каб біць у адно, яна табе ўсё насуперак.

• Жонка ўжо маўчала. Маўчаў і Апанас, час ад часу злосна пазіраючы на яе. У адносінах да Андрэя трымаўся стрымана. Заступніцтва Андрэя за жонку некалькі збіла яго з тропу. Яшчэ не ведаў, як на гэта рэагаваць. Але яму ўсё ж такі было балюча за такі «правал» перад Андрэем, які, як яму здавалася, падрыхтавала яго «дурная» жонка. І Апанас, звяртаючыся да Андрэя, кінуў «трагічным» голасам:

— Гэта, разумееш.... у мяне не жонка, а цэлая контррэвалюцыя ў хаце.

Апанас усхапіўся з лавы і пачаў зноў круціць цыгарку.

Тут Андрэй не вытрымаў і зарагатаў.

— Я проста не бачу ў вашай спрэчцы ніякага сапраўднага сэнсу,— сказаў ён.

— Смейцеся, таварыш, з гэтага дурня,— у сваю чаргу сказала жонка.— От, заўсёды так...

І яна коратка засмяялася.

— Я табе раз сказаў!..— зноў крыкнуў Апанас.

— А ўсё ж такі, таварыш Апанас, хлеў трэба накрыць,— ціха, каб не асабліва зачапіць самалюбства Апанаса, сказаў Андрэй.

— Ды там работы, таварыш, усяго на якую гадзіну, не больш,— падхапіла жонка.

Апанас маўчаў, як быццам вагаўся, як лепш будзе для яго пакрыўджанага гонару аднесціся да такой, на яго думку, нікчэмнай справы.

— Не, крыць не буду! — сказаў ён як адрэзаў.

Аднак Андрэй прапанаваў выйсці з хаты.

Ля хлява ляжалі падрыхтаваныя кулі саломы і вялікая вязанка лазовых дубцоў для пярэвязі.

— Давай я табе памагу, і за гадзіну будзе дзірка залатана,— прапанаваў Андрэй.

Апанас паскроб патыліцу і нічога не адказаў. Потым, усміхнуўшыся, прамовіў:

— Нашто мне гэта рабіць? Гэ...— Апанас кіўнуў галавой па вёску,— скажу хлопцам — прыйдуць і зробяць. Раз-два...

Андрэй, здзіўлены, пільна паглядзеў у вочы Апанаса і сказаў:

— Рабіць гэтага не трэба. Камуністу трэба спалучаць падпольную рэвалюцыйную работу з добрым вядзеннем гаспадаркі. Іначай мы не будзем мець аўтарытэту ў шырокіх сялянскіх мас...

Апанас махнуў рукою, лічачы, што гэтае пытанне наогул не павінна стаяць на парадку дня.

— Гэта, брат, е-руп-да-а,— прамовіў ён з прыціскам і такім тонам, як быццам паляпаў Андрэя па плячы. «Ты, моў, яшчэ зялёны...»

І працягваў далей:

— Тут так нагаспадарышся, што... Аўтарытэт у рэвалюцыйнай працы здабываецца баявым словам...

І Апанас паказаў сціснуты кулак.

— Аднаго гэтага мала... Гэта нешта не тое, таварыш Апанас. Па-мойму, рэвалюцыя гэта ўжо выкрыла, як нерэальнае і шкоднае. І таму рэальным будзе тое, каб ты зараз палез на страху,— усміхаючыся, сказаў Андрэй.

Гэта пакаробіла Апанаса. Ён гатоў быў сказаць: «Ты мне не загадвай», але стрымаўся. Вырашыў гутарку перавесці на іншую тэму. Запытаўся са шматзначным позіркам:

— Ты якую маеш асвету?

Відаць, гэтае пытанне даўно ўжо карцела яму, бо чакаў адказу неяк насцярожана, стаіўшыся, каб, чаго добрага, не сустрэць сабе і ў гэтым хлопцы канкурэнта.

Андрэй адказаў на пытанне і дадаў:

— Пры чым тут асвета ў даным выпадку?.. Я хачу цябе бачыць на страсе...

Апанас уздыхнуў і развёў рукамі.

— Ну, што ж з табой зробіш? Сагітаваў...— сказаў ён і пайшоў пад павець па драбіны. Андрэй з усмешкай прасачыў за ім.

Пасля таго як дзірку на страсе залаталі, Апанас быў нават у вясёлым настроі. Са здавальненнем глядзеў з зямлі на белую лапіну новай страхі.

— А то, разумееш, дождж заліваў карову... Ну, а цяпер...— цешыўся Апанас.

Калі ўвайшлі ў хату, нават сказаў жонцы:

— Ідзі, палюбуйся страхою...

— То дзіва — столькі было крыку праз яе...— адказала жонка і кінулася да печы, каб па заслугах пачаставаць «работнікаў».

Пасля абеду Апанас абуў боты, апрануў чорную куртку, нават мала папошаную, і паклікаў Андрэя ў сенцы. Там дастаў з кішэні некалькі спісаных лістоў паперы і пачаў тлумачыць:

— Вось глядзі... Спіс нашых сіл... Вось гэта камсастаў... Сюды я ўпішу і цябе... А гэта — радавыя...

Спіс быў сапраўды вялікі. На прадапошняй старонцы спіса Андрэй убачыў, што цыфры перавалілі ўжо за трыста.

Гэта была «армія» Апанаса Хмеля, якую ён рыхтаваў да агульнага паўстання.

Потым паказаў другі спіс, сказаўшы:

— А гэта вось спіс сіл ворага...

У ім значылася ўся паліцыя раёна, чыноўнікі, памешчыкі, лесапрамыслоўцы, асаднікі і іншыя, як сказаў Апанас, прыхвасні-лізаблюды. Спіс быў даволі цікавы і важны. У яго былі занесены ўсе важнейшыя прадстаўнікі акупантаў у раёне. У спісе Андрэй знайшоў і графа Ельскага.

— Гэты спіс,— сказаў Андрэй,— вельмі каштоўная рэч, ва ўсякім выпадку. Ворага трэба ведаць падрабязна...

Апанас нават урачыста ўсміхнуўся. Вось тут ён можа паказаць сваю перавагу над кім хочаш.

— Вось табе, брат, і ўсё... Усё як на далоні... Толькі накрыць паноў, і ўсё... Гэта ж так проста і лёгка. Я не разумею, чаму яны не згаджаюцца і ў першую чаргу Стары — Паддубны. Гэта не што іншае, як палітычная баязлівасць, якая раўняецца контррэвалюцыі...

— Бачыш, Апанас, гэта не так проста, як ты гаворыш... З сур'ёзнымі справамі трэба рабіць па-сур'ёзнаму. Тут ва ўлік уваходзіць народ...

— Ты толькі клікні гэты народ, зараз збяжыцца...— узрушаным голасам сказаў Апанас.

— Ведаю, што так. Ты ўлічваеш варожыя сілы адна-

го, двух раёнаў, а не ведаеш варожых сіл усёй Польшчы. І як стаіць справа з арганізацыяй нашых сіл...

— Нам паможа міжнародны пралетарыят...— сказаў Апанас тонам прамоўцы.

— Нешта авантурнае,— адказаў, усміхнуўшыся, Андрэй.

— Што тут авантурнага? Бяры з брою ў рукі і ідзі...

Андрэй засмяяўся і сказаў:

Я не думаю, Апанас, каб ты быў наіўны. Матэрыял у цябе каштоўны, вельмі каштоўны. Беражы яго. Дарэчы, дзе ты яго хаваеш?

— Дзе? Вось тут ляжаў, у кішэні,— бесклапотна адказаў Апанас.

— Гэта не работа, Апанас. Можаш усё правaліць. Я хачу, каб ты зараз жа схаваў гэтыя спісы ў надзейнае месца.

Апанас пачаў гаварыць ціха і нават ласкава, нараспеў:

— У нас тут ціш ды гладзь... Рэдка калі які сабака заглядае...

— Гэта няважна. Траціць пільнасці ніколі не трэба... Ты ж сам гэта ведаеш...

Апанасу не хацелася хаваць гэтых спісаў. Наадварот, ён гатоў быў бы паказваць іх усім, каб ведалі, якімі справамі «заварочвае» ён, Апанас Хмель.

— А скажы, Апанас, як ты глядзіш на работу Сцяпана Каваля?

— Што-о-о? Гэта толькі пачатак,— зняважліва працягнуў Апанас,— калі мы выступім, ён будзе падпарадкавацца мне.

Гэтае «мне» кальнула Андрэя. Хацеў пачаць сварку з гэтым «забубённым» Апанасам Хмелем, але ў пару стрымаўся. Толькі падумаў — «будзе яшчэ з ім работы».

— Вольгу знаеш? — спытаўся Андрэй.

— Знаю, як не знаць? Яна мяне гэтымі днямі надумала вучыць — фінціклюшка. Была ў свой час тут. Праходзіла цераз балота ў другую вёску. Утапілася б, каб не выратаваў...

— І добра зрабіў, што выратаваў. Яна — разумная, палітычна пісьменная дзяўчына...

— Балбатуха,— буркнуў Апанас.

Андрэя зачапіла за жывое не на жарты. Сціснуў зубы і змоўк. А потым, пазіраючы спадылба на Апанаса, павольна сказаў:

— Ты, Апанас, хворы на дзікія ўяўленні, зарубі гэта сабе на носе. Так адзывацца аб людзях — барацьбітах...

Апанас перасмыкнуў плячыма і заюліў языком:

— Ну... пу... можа, можа... я грэшны, як і ўсе...

А потым дадаў смялей:

— Я — не пябесны, а зямны чалавек... Што зробіш?

З гэтымі словамі яны ўвайшлі ў хату.

Апанас адразу накінуўся на жонку, патрабуючы нейкіх адозваў.

— Я іх не брала і пе бачыла. Ты мне іх не даваў...— баранілася жонка.

— Як не даваў? Даў жа табе схаваць... Ты знаеш, што гэта за адозвы? — павёў наступленне на жонку Апанас, сагнуўшыся ў знак пытання.— Гэта адозвы... знаеш якія? Дурніца ты...

— Ой, адчапіся ад мяне са сваімі адозвамі, паглядзі на паліцу, ты часта туды кладзеш паперы,— з тугою адказала жонка.

Паліца пад самай столлю была завалена рознай, найбольш жалезнай, драбязой. Пад рукою Апанаса звінелі нейкія бляшкі, высунулася ручка малатка, з грукатам упалі абцугі на падлогу. Апанас адкінуў іх нагой, і чыгунок зазвінеў пад лавай. Урэшце, засопшыся, Апанас сказаў: «Вось яны». І з-пад заржаўленых бляшак, цвічкоў, замочкаў выцягнуў дзве лістоўкі.

Андрэю хацелася заплюшчыць вочы, каб не бачыць усёй гэтай «работы» Апанаса Хмеля. Думаў — няўжо гэты чалавек знарок стварае для сябе небяспеку? Гэта яму нібы даспадобы.

Відаць, што Апанас Хмель хацеў «ашарашыць» Андрэя чым іншым. Але Андрэй, прабегшы па адозвах ЦК вачыма, перадаў іх жонцы Апанаса, просячы схаваць як найлепш.

Апанас толькі правёў позіркам за рукамі Андрэя і нічога не сказаў. Лыпаў вачыма з-пад казырка кепкі не то як збіты з тропу, не то як знянацку злоўлены.

Урэшце не вытрымаў:

— Хто ў мяне ні быў, яшчэ не рабіў так... Ты што — мне не давяраеш? Гэта таксама можна палічыць контррэвалюцыяй...

— Я думаю, што гэтага ніхто не палічыць за контррэвалюцыю...— стрымана адказаў Андрэй і, глянуўшы ў акно, дадаў: — Па-мойму, нам пара ў дарогу.

Шырокія цёмныя бровы Андрэя ўвесь час былі насуп-

лены, калі ён ішоў побач з Апанасам. Хацелася «высцебаць» гэтага Хмеля, але за ім была пекаторая даўнасць у падпольнай працы, а значыць, і... вядомасць, якую так адкрыта раздуваў ён, сам Апанас. І гэта стрымлівала Андрэя. Усё ж такі сказаў:

— З канспірацыяй, Апанас, ты павінен абавязкова паправіцца... гэта ж немагчыма так...

— Го-о, чым чорт не жартуе,— весела адказаў Апанас.— Мы патранім пад носам ворага хадзіць і рабіць свае справы...

Пры гэтым ён выняў з кішэні нешта круглае, прадаўгаватае і паказаў Андрэю:

— Бачыш? Адной гэтай штучкай знаеш, што можна зрабіць? — У руках Апанаса была граната.

— Гэтай штучкай,— працягваў ён,— можна цэлы поезд зваліць з рэек...

З другой кішэні Апанас выняў і паказаў наган.

— Хочаш — зараз выстралю?

Андрэй сказаў:

— Выклікаць ваўка з лесу — на гэта, брат, многа розуму не трэба. Нельга ж забаўляцца зброяй, якая прызначана для вялікай справы.

Андрэй думаў, насупіўшы бровы: «З гэтым Апанасам трэба нешта зрабіць. Нельга даручаць яму такіх спраў. Па сутнасці ён бескантрольны... Хутчэй бы ўбачыць Паддубнага... А каб сустрэцца з таварышам Васілём, было б яшчэ лепш...»

Калі ўвайшлі ў апошнюю паласу лесу, ужо была ноч. Лес густым змрокам зацямняў дарогу. Апанас выняў рэвальвер і трымаў яго напагатове, наклаўшы палец на курок. Ён ішоў, утуліўшы галаву ў каўнер курткі, крыху раскрыўшы рот. Вочы бліскалі з-пад казырка кепкі, як у лазутчыка. Здавалася, быццам ён чакаў, што з кустоў вось-вось выскачыць які-небудзь вораг.

Цемра ўсё больш і больш згушчалася... І вось у адным месцы Апанас схапіў Андрэя за рукаў і сказаў: «Стой!» Ён глядзеў, прыгнуўшыся, наперад. Глядзеў і Андрэй. Бачыў толькі таямнічае мігценне вады пад высачэзнымі стромкімі вольхамі. Што бачыў Апанас, невядома. Усё стаяў, прыглядаўся, нават ступіў крок наперад. Урэшце шапнуў Андрэю: «Кладзіся!» і сам прыпаў да дарогі. Лёг і Андрэй. Так праляжалі яны хвілін пяць. Нідзе ніякага гуку, ні руху. Калі ўсталі і прайшлі пару крокаў, паткнуліся на стары альховы пень вышынёю ў пояс, увесь

абрoслы белым мохам (альху, відаць, у свой час зламала бура). Вось гэты пень і замуціў уяўленні Апанаса.

— Ну, брат, здалося, што стаіць сапраўдны чалавек з барадою... А халера б яго ўзяла...— ціха сказаў Апанас і нават злёгку стукнуў ручкай рэвальвера ў трухлявы пень. Нечаканае рэха, як з кадушкі, адклікнулася на ўдар і замерла ў глыбіні цёмнага лесу.

— Табе ж гэтая дарога знаёмая,— сказаў Андрэй,— хіба ж ты, ходзячы, ніколі не заўважаў гэтага пня?

— Ведаю я яго як аблупленага... Але сягоння — проста выпаў з галавы, халера б яго ўзяла... Ну, думаў,— камусьці прыйдзецца развітацца з гэтым светам, а тут...

— Канфуз,— падхапіў Андрэй і засмяяўся.

Альховую нізіну змяніла ўзвышша. Ціхі, густы шумок соснаў стаяў у паветры. Глуха даляцеў паравозны гудок. Хутка будзе чыгунка.

Калі ўрэшце выйшлі з лесу, вачам падарожных адкрылася незвычайная карціна. Як вокам глянуць, па ўсім небасхіле зрэдку палалі пажары. Адны бліжэй, другія далей. Яны шугалі полымем у цёмнае неба. Трывога адчувалася ў паветры.

Цьмяныя агні станцыі слепа мігалі налева ўдалечыні, як спалоханыя, устрывожаныя.

Андрэй з Апанасам доўга стаялі на ўзлессі і, пазіраючы навокал, маўчалі. У Андрэя глуха стукала сэрца.

— Работа Сцяпана! — сказаў Андрэй.

Апанас прамаўчаў.

— Ну што ж, пойдзем...

Хутка прыйшлі да чыгуначнага насыпу. Далёка направа то мігалі, то знікалі агні. Апанас прыгледзеўся і сказаў:

— Ідзе поезд...

Андрэй узлез на насып і, лёгшы на палатно чыгункі, прыклаў вуха да рэйкі. Цягучы, тонкі звон плыў па зямлі, і глуха, глуха, з грукатам стукалі колы на стыках рэек. Хто спяшаецца і куды? Здавалася, гул тэлеграфных правадоў нёс у свет трывогу.

Андрэй сышоў з насыпу. Апанас прылёг ля тэлеграфнага слупа. Прылёг і Андрэй, сказаўшы: «Так, правільна, ідзе поезд...»

Прытуліўшыся да жыта, Андрэй з Апанасам ляжалі і чакалі поезда.

Калі фары паравоза сталі ўжо добра відаць, Апанас заварушыўся, прыўстаў.

— Ты куды? — спытаўся Андрэй.

— Тое, што я зараз зраблю, узніме ўвесь навакольны народ па ногі...

— Ты што хочаш рабіць? — устрывожыўся Андрэй і таксама прыўстаў.

Апанас наблізіў свой твар да твару Андрэя і, бліскаючы вачыма, сказаў з прыціскам:

— Узарваць поезд...

— По-езд?..— працягнуў Андрэй.— Не смей гэтага рабіць! Ты не ведаеш, хто едзе ў поездзе, можаш папсаваць усю справу... Народ і так ужо ўзнімаецца...

Апанас надзьмуўся.

— Тады я не знаю, хто ты...— злосна загаварыў ён.

— Я знаю, хто я... І, здаецца, ужо ведаю, хто ты... Не смей гэтага рабіць!.. Ты далёкі ад рэвалюцыі з такімі імкненнямі... Гэта твая чарговая выдумка,— успыхнуў урэшце Андрэй і тонам загаду сказаў: — Дай гранату сюды!..

Поезд быў ужо на адлегласці не больш як паўкіламетра. Апанас, адмахнуўшыся рукою і зняважліва кракнуўшы «а-а-а...», крута павярнуўся і палез на насып.

Андрэй глядзеў услед і не ведаў, што рабіць. Потым кінуўся наўздагон і схапіў Апанаса за куртку.

— Я не дапушчу гэтага... Разумееш?

Апанас агрызнуўся:

— Ты што хочаш? Ты думаеш, рэвалюцыю ў пальчатках робяць?

— Я табе кажу, злазь з насыпу! — крыкнуў Андрэй і схапіў Апанаса за каўнер курткі.

Поезд прагрукатаў, бліскаючы святлом вокнаў, якое на момант асвяціла двух чалавек, што, схапіўшы адзін аднаго загрудкі, каціліся з насыпу.

Грукат заціх. У аддаленні толькі мільгала чырвонае вочка ліхтара апошняга вагона.

Апанас з Андрэем урэшце расчапіліся і, засопшыся, сталі на ногі.

— Так...— задыхаўся Апанас,— я цяпер зразумеў цябе.

— Ну і добра, што зразумеў... Ты думаў, што я буду з табою гуляць у рэвалюцыю... Рэвалюцыя — не забава...

— Ты яшчэ зялёны...

— Практыка пакажа, хто зялёны, хто чырвоны.

— Яна паказала ўжо...— скванна падхапіў Апанас.

— Так, яна іменна паказала... Але дзе мая шапка? — сказаў Андрэй і пайшоў да насыпу.

Калі ён вярнуўся, Апанас заявіў яму:

— У Глушэц я не пайду...
— Скінь з сябе паўнамоцтвы члена акругкома і тады можаш не ісці... А так — павінен. Там яшчэ няма кіраўніцтва...
— Ты мяне не прымусіш...
— Партыя прымусіць... Пайшлі...
Апанас доўга вагаўся, потым рушыў услед за Андрэем, апусціўшы галаву.
...З поезда на перон станцыі разам з іншымі пасажырамі выйшаў крыху ссутулены чалавек з паднятым каўняром плашча. У руцэ нёс невялічкі чамаданчык.
Гэта быў Іван Паддубны. Ён накіроўваўся ў Глушэц, дзе яшчэ не было партыйнага кіраўніцтва. Падзеі ў лесе графа Ельскага прымушалі яго спяшацца.

## АГНІ

Сцяпан Каваль раптам у адну ноч знік са сваім атрадам. Як ні шукала яго разведка паручыка Ельскага, не магла знайсці. Ельскі думаў: гэта манеўр ці адступленне ў лясы? Прыйшоў да вываду, што можа быць і тое і другое. Пайсці на гэты манеўр Сцяпана прымусілі даволі сур'ёзныя прычыны. Сцяпан разумеў, што на палявых прасторах карнікі маюць большыя магчымасці для аператыўнасці. Гэта адно. А другое, і самае галоўнае, тое, што паны ўсталі на ногі і збіраюць тут супроць Сцяпана моцны ўзброены кулак. Сцягваюцца значныя сілы паліцыі, асаднікаў, розных «патрыётаў». І маглі быць пушчаны ў рух рэгулярныя часці. Небяспека заключалася іменна ў апошнім. Можа быць перавага сіл з боку паноў не толькі ва ўзбраенні, але і ў колькасці людзей. І таму Сцяпан вырашыў, што становішча можа змяніць на яго карысць толькі раптоўнасць.
Дык вось, Сцяпан раптам знік, паставіўшы ў няпэўнасць «стратэга» паручыка Ельскага.
Ельскі вырашыў спешным маршам дасягнуць Глушца. Ніякіх прывалаў, ніякага адпачынку ні ўдзень, ні ўначы. Але не ведаў да канца паручык Ельскі разам са сваімі «высокімі» апекунамі, што ночы стаяць у дазоры, што ночы ў змове са Сцяпанам, з Дзям'янам Гараглядам — з усімі, што ўсталі на абарону краіны.
Сцяпан Каваль раптоўна напаў на атрад Ельскага ў час яго начнога марша за дваццаць кіламетраў ад Глуш-

ца. Адным налётам змёў атрад са шляху, не даўшы яму магчымасці нават заняць абарону. Вось тут упершыню і былі пушчаны ў ход шаблі, калі адна група карнікаў з ар'ергарда адважылася атакаваць партызан. Іржанне коней, бразгат зброі, крыкі, стогны людзей, стрэлы — усё на нейкі момант змяшалася ў штосьці злавесна-трывожнае. А потым усё сціхла і знікла са шляху, засталіся забітыя і параненыя. У рукі партызан трапілі два кулямёты.

Тупат капытоў наперадзе па шляху сведчыў, што паручык Ельскі са сваім авангардам галопам уцякае ў напрамку Глушца. Не лічыў Сцяпан ахвяр ворага — памчаўся таксама галопам услед за Ельскім.

Але з ходу ў Глушэц не пайшоў. Падзяліў атрад на дзве групы — адну паслаў налева ў абход Глушца, а сам з групай пайшоў направа, каб такім абходным манеўрам узяць мястэчка ў клешчы.

Да староства дайшлі весткі, што ў павеце «хлопамі падпалена некалькі памешчыцкіх маёнткаў і асадніцкіх фальваркаў, што ёсць ахвяры сярод асаднікаў...» Памешчыкі, якія знаходзіліся ўвесь час у старостве на нарадах, завылі. Патрабавалі ад старосты паслаць усе сілы, якія ёсць, на ратаванне маёнткаў, і таму атраду Ельскага не было чаго спыняцца ў Глушцы — бараніць яўрэйскія крамы,— ён павінен быў узначаліць барацьбу з паўстаўшым хлопствам.

Першая паліцэйская застава, якая сустрэла Ельскага, перадала загад старосты — не чакаючы ні хвіліны, спяшацца ратаваць маёнткі і як след пакараць узбунтаванае хлопства. Апрача загаду быў ліст ад бацькі. Паручык Ельскі загарэўся гневам. «Ну, з хлопамі я ўжо спраўлюся, я іх правучу... наперад, за мной!» — крыкнуў ён сваім салдатам, і коні зацокалі капытамі па бруку замёршага мястэчка.

Памешчыкі пасля нарады падаліся пад ахову пана бога — больш шасцідзесяці «дзедзіцаў» сабраліся ў касцёле і замкнуліся. Ксёндз распачаў імшу за «памысльнасць» збаўчай барацьбы паручыка Ельскага. Усе «зямельныя тузы» павета, у большасці з паважнымі брухамі, з вусамі, з пародзістымі тварамі, многія ў афіцэрскіх мундзірах розных рангаў укленчылі і застылі ў малітве. Сярод іншых стаяў на каленях цёмнавалосы, з пасівелымі скронямі, у мундзіры ротмістра блакітных уланаў сам граф Браніслаў Ельскі.

Загад старосты выратаваў паручыка Ельскага — Сця-

пан Каваль не паспеў спыніць яго ў мястэчку Глушэц і акружыць. Калі групы сустрэліся на базарнай плошчы, асветленай адзіным ліхтаром, мястэчка было пустым, як вымершае. Уся паліцыя паехала з Ельскім. Засталася толькі варта для староства, якое размяшчалася ў сярэдневяковым былым княжаскім палацы за кіламетр ад мястэчка. Туды днямі перайшла і камендатура паліцыі. Сцяпан думаў: што за ліха — няўжо Ельскі яшчэ не прыбыў? Не можа быць. На адлегласці не больш пяці кіламетраў ад Глушца ён адарваўся ад Ельскага — проста на парозе мястэчка.

Хоць бы каго ўбачыць. Але на вуліцах ні душы. Хацеў, па свайму даўняму плану, накіравацца да маёнтка Ельскага, думаючы, што карнікі памчаліся няйначай туды.

Але ў мястэчку не ўсё замерла. Сцяпан і не згледзеў, як з ценю ад сцяны крамы аддзяліўся хлопец у кепцы. Гэта быў Максім Рунда.

Ён упаўголаса далажыў Сцяпану, што карны атрад не затрымліваўся ў мястэчку, паехаў галоўнай вуліцай на шлях і што паны моляцца, замкнуўшыся ў касцёле.

— То ж бо бачу,— светла ў вокнах, як праязджалі міма,— сказаў Сцяпан.— Ну, ідзі, хлопча, спаць, ты заслужыў адпачынак.

Максім Рунда шмыгнуў у цень. Прайшоўся між крамаў, асцярожна агледзеў вуліцу і, прыгінаючыся, перабег на другі бок. Насупраць за акном, прыўзняўшы край фіранкі, стаяла Вольга.

Маёнтак графа Ельскага гарэў... Не было ўжо тут ні паліцыі, ні «ўзбунтаванага хлопства». Паручык Ельскі спыніўся супроць алеі, якая зварочвала ў маёнтак. Спешаны атрад на конях застыў на месцы. Усе загледзеліся на полымя. Бронзавыя твары замерлі ў нерухомасці і прытоеным жаху. Не далятала адтуль ні крыку, ні шуму. Толькі — трэск. А там далей, на небасхіле, асядала злавеснае зарыва. Недзе гарэла яшчэ. Паручык Ельскі ачнуўся, як ад гіпнозу, і ўпаўголаса, амаль адным кіўком галавы, выслаў двух разведчыкаў у абход маёнтка. Атраду ж загадаў рассыпацца ланцугом уздоўж шляху. У аддаленні наўскос за шляхам чарнела паласа невялікага лесу, які нядаўна мінулі.

Цёмнае неба яшчэ ніколі не было для паручыка Ельскага такім цёмным, як цяпер. Ніводнай зорачкі. А колькі іх здаралася бачыць тут, асабліва там, у садзе над сажалкай, дзе схіляюцца стогадовыя вербы і ліпы, дзе хаваюцца

статуі грэчаскіх багінь, ля якіх «хлопкі», сагнуўшыся, капалі, палолі, граблі з дня ў дзень, з дня ў дзень пад наглядам крыклівага аканома... Няўжо канец? Хлопы падпалілі і, відаць, пайшлі далей рабіць тое самае — паліць. Няўжо канец?

І на момант аслупенне авалодала Ельскім, пачуццё безвыходнасці запоўніла душу. Але, выхаваны ў сляпой дысцыпліне ў імя «святой гістарычнай Польшчы», ён папракнуў сябе, што нельга яму так мысліць, і падцягнуўся ў сядле. Разведчыкі, вярнуўшыся, далажылі, што ў маёнтку нікога няма, што гумно і аборы дагараюць, толькі палац яшчэ доўга будзе гарэць. Значыць, няма ўжо сэнсу ехаць у вёску і гнаць сялян тушыць пажар. Ельскі скрыгануў зубамі і падумаў: «Няма Ярэмаў Вішнявецкіх, а то пажараў пабольшала б у сто разоў...» І тут жа саслоўная амбіцыя загаварыла ў графскім сыне: «А мы хто? Хіба не нашчадкі іх?» І хацеў рушыць з атрадам у бліжэйшую вёску з факелам пажару. Але што за шум пачуўся? Ці то зашумеў той невялікі лес, што наўскос у аддаленні чарнее паласою за шляхам?

Нічога не разумее графскі сын. Але на ўсякі выпадак адышоў з атрадам у поле, бліжэй да маёнтка.

Адыход Ельскага падказаў Сцяпану, што сілы ў ворага немалыя. Таму ён паслаў Дзям'яна з яго групай у тыл карнікам, а сам ударыў з боку шляху.

Бой разыграўся на шырокім полі, асветленым высокім полымем ад палаца, які гарэў. Сцяпан вырашыў знішчыць атрад Ельскага дашчэнту. Ельскі ж хацеў спаліць да дня некалькі вёсак і біцца з «бандытамі» толькі ўдзень. Укалола яго графская пыха, што не можа дыктаваць бою ён, афіцэр, пан, шляхціц, што вымушаны, наадварот, падпарадкавацца якімсьці ўзброеным хамам. А потым раптам набягала думка: «А яны ж у свой час даходзілі да Варшавы...» І рука хапалася за ручку шаблі.

Група Дзям'яна, зайшоўшы ў тыл, ударыла залпам. Коні павярнулі назад, і тут карнікі былі атакаваны атрадам Сцяпана.

Паручык Ельскі з узнятай шабляй стаў у сядле і крыкнуў: «За мной!»

Голас Сцяпана пакрыў яго голас: «Смерць панам! Смерць акупантам!» І залацістая шабля бліснула ў руцэ Сцяпана. Узняў каня на дыбкі і ўварваўся ў гушчу карнікаў. Справа застракатаў кулямёт. Карнікі адхлынулі да маёнтка. Але Ельскі яшчэ раз павярнуў іх і павёў у ата-

ку. І тут сустрэўся са Сцяпанам. На момант нібы зжахнуўся ад яго фігуры волата, а потым уздыбіў каня. Зноў бліснула залацістая шабля ў руцэ Сцяпана.

Паручык Ельскі вырачыў вочы, замёр на хвіліну. Потым, нібы што ўспомніўшы, крыкнуў: «Ах!..», і ў гэты ж час маланкавы ўдар аглушыў яго. Ельскі зваліўся з каня. Карнікі кінуліся ў паніцы хто куды і тут пад ударамі партызанскіх шабель падалі з коней.

...Стракатаў кулямёт, а з тылу чуліся залпы за залпамі.

Поле апусцела ад варожых сіл. Сцяпан падаў каманду збірацца.

...Яшчэ не ўсё. Сцяпан, пакінуўшы некалькі раненых і забітых пад апеку Дзям'яна, памчаўся назад у Глушэц.

У касцёле ўсё яшчэ свяціліся вокны, яшчэ правілася імша і маліліся паны.

— Яшчэ не ўсё,— гаварыў Сцяпан.

З ляскатам праляцелі партызаны па мястэчку і з ходу атакавалі касцёл.

Вось тады нават і староства з павятовай камендатурай паліцыі пакінулі палац і выехалі ў невядомым напрамку.

Нягледзячы на стрэлы, паны касцёла не адчынялі.

Калі партызаны прыгразілі падпалам касцёла, дзверы скрыганулі і адчыніліся.

Партызаны натоўпам уварваліся ў дзверы, і густыя залпы разляглbackslashіся пад скляпеннем касцёла...

Андрэй з Апанасам якраз паспелі да штурму касцёла. Партызаны іх затрымалі, падвялі да Сцяпана. Сцяпан, пазнаўшы іх, ускрыкнуў:

— Го! І вам не спіцца? Ну, што ж, далучайцеся. Тут мы з панамі цацкаемся. Замкнуліся, бачыш...

Андрэй тузануў Апанаса за руку і сказаў:

— Вось тут можаш выкарыстаць сваю гранату.

Апанас схамянуўся і згадзіўся:

— І то праўда...

І выняў гранату з кішэні.

Але Сцяпан сказаў:

— Аддай гранату мне. Мы яе пазней выкарыстаем. А тут хлопцы зробяць без яе.

Апанас аддаў гранату.

— Ты, Апанас, пераходзіў бы да мяне,— працягваў Сцяпан.

— Я ўсё думаю, каб ты да мяне...

— Віхраватая ў цябе галава... Яна табе некалі бяды наробіць.— А потым звярнуўся да Андрэя:

— Ну, а ты, сынок? Усё адукуеш і адукуеш... Адукуй...— і, ткнуўшы пальцам на Апанаса, працягваў: — Вось гэтага віхраватага выадукуй...

І засмяяўся.

Тут упершыню Андрэй даведаўся ад Сцяпана аб смерці Данілы Перагуда і злосна паглядзеў на касцёл, адкуль усё яшчэ былі чуваць стрэлы і крыкі.

— Сюды мала адной гранаты,— сказаў ён, развітваючыся са Сцяпанам.

* * *

Іван Паддубны прыйшоў у хату Абрама на світанні. Адрас трапіў яму ў рукі па дарозе ў Баранавічах ад другога члена акругкома, які трымаў сувязь з Вольгай.

Падняўшыся па скрыпучых сходках крывога ганачка, Паддубны асцярожна пастукаў у дзверы. У ранкавай цішыні стук здаваўся такім гучным, што Стары нават азірнуўся. Пастукаў яшчэ раз, і адразу ж за дзвярыма пачуліся таропкія крокі, а затым голас:

— Хто?

Гэта быў Грыша. Вольга яшчэ ўчора папярэдзіла яго, што магчыма заўтра прыедзе сакратар акругкома, і Грыша лёг спаць у майстэрні на лаўцы ля акна, недалёка ад дзвярэй, каб адразу, пачуўшы стук, іх адчыніць.

Паддубны сказаў пароль соннаму і ўстрывожанаму Грышу і, атрымаўшы адказ, увайшоў у майстэрню. Грыша ад хвалявання так разгубіўся, што не мог знайсці месца, дзе пасадзіць госця. Чамусьці выцягнуў з кутка стары трохногі зэдлік. Ён пахіснуўся, як толькі госць прысеў на яго. Глянуўшы на пачырванелага Грышу, Паддубны махнуў рукою і сказаў:

— Нічога, месца знойдзем.

І, перасеўшы на нары, скруціў цыгарку, закурыў. Потым папрасіў вады. Грыша з хваляваннем чакаў, пакуль Паддубны nап'ецца, і думаў, з чаго ён пачне з ім гутарку.

— Ну, брат, сядай бліжэй. Вось тут, побач, і давай пагаворым.

Грыша паслухмяна сеў і пачаў хутка расказваць пра ячэйку. Гаварыў ён блытана:

— У нас ёсць толькі адна ячэйка... Але... але... Мы хочам... Хутка зробім другую з хлебаробаў...

Заікнуўся і запытальна глянуў на Паддубнага. Але сакратара акругкома цяпер цікавіла не ячэйка, аб якой ён ужо сёе-тое ведаў, а наогул становішча ў мястэчку. Як, напрыклад, ставіцца насельніцтва да партызан? Якія цэны на рынку на хлеб? Ці прывозяць сяляне хлеб на рынак, а калі прывозяць, то ці многа?

Грышу здзівілі пытанні Паддубнага. Ну што з таго, што Грыша будзе ведаць, якія цэны на хлеб? Толькі тое, што хлеб дарагі або танны. Не можа ж ячэйка рабіць уплыў на цэны... Грыша не вытрымаў і, сумеўшыся, запытаўся імена пра гэта. У адказ ён пачуў, што камуністаў павінна цікавіць усё, чым жыве народ. Безумоўна, Грышу здзівілі пытанні Паддубнага, калі ён, сакратар мясцовай ячэйкі, не ведаў нават таго, колькі насельніцтва ў мястэчку, які працэнт рабочых, рамеснікаў, гандляроў, земляробаў і іншых...

— Т-а-а-к...— працягнуў Паддубны,— гэта добра, што ў вас ёсць ячэйка і хочаце стварыць другую. Ну, а як ты думаеш, нашто патрэбны ячэйкі? Адзін другога агітаваць?

— Не, не... Трэба больш... Трэба ведаць, хто вораг...

Грыша даволі талкова расказаў аб саюзе асаднікаў — гэтай новай каланізатарскай шляхце, аб саюзе памешчыкаў.

— Пахвальна, што ты гэта ведаеш,— сказаў Паддубны,— але гэта яшчэ не ўсё. Гэта ўсё роўна, што хадзіць па гары і сонца не бачыць. Камуністы павінны быць у народзе. Ворагаў вы вывучылі, а вось народ, свае сілы... не ведаеце. Хто тут у старостве старшыня сейміка?

— Граф Ельскі.

— Так... Фігура...

— Яны хочуць стварыць арганізацыю моладзі, нейкі «Стралец». Нешта ваеннае.

— А сярод яўрэяў ёсць што-небудзь? — запытаўся Паддубны.

— Сярод яўрэяў самая моцная арганізацыя — гэта сінагога. Акрамя сіяністаў і бундаўцаў. Але ўсё роўна іх усіх яднае сінагога.

Паддубны весела глянуў на Грышу: «Добра гаворыць хлопец...»

— Так, саюз асаднікаў, «Стралец»... А адзіная партыя, якая бароніць інтарэсы народа,— у падполлі,— сказаў Паддубны тонам, як быццам кагосьці дакараў, і дадаў: — Дрэнна. Трэба стварыць саюз рамеснікаў...

Паддубны глянуў на вокны, якія пачыналі ўсё больш і больш віднець.

— Відаць, пара ўжо будзіць Вольгу. А нараду трэба правесці ў другім месцы. Сюды ж хутка прыйдуць працаваць.

— Хадземце, я правяду вас у адрынку,— сказаў Грыша.

Усхваляваны гутаркай, ён забыўся нават папярэдзіць, што ў другой палавіне адрынкі спяць Андрэй з Апанасам Хмелем.

Не мог ведаць Паддубны, ідучы ў адрынку, што Апанас у гэтую хвіліну глядзеў праз шчыліну дзвярэй на двор. Убачыўшы Паддубнага, ён агледзеўся на Андрэя, які спаў: ці не заўважыў той яго страху. Першай думкай Хмеля было — уцякаць. «Учапіўся гэты інтэлігенцік на маю галаву. Ён жа ўсё раскажа... І пра поезд, і пра гранату...» Апанас нават засоп ад хвалявання. Могуць быць непрыемнасці. Старому карты самі ішлі ў рукі.

Хмель павёў вачыма па ўсіх кутках адрынкі, шукаючы ці то дзіркі, праз якую можна было б прашмыгнуць, ці надзейнага месца, дзе можна было б схавацца. Дзіркі не было. Апанас пасунуўся ў самы далёкі куток і там сеў, прытаіўся. Тут можна спакойна і далей думаць пра «стратэгію і тактыку».

Хвіліны плылі. Світанне няўмольна пераходзіла ў ранак. Дзесьці спявалі пеўні. Андрэй прачнуўся, нацягнуў кепку на галаву і, праціраючы вочы, паглядзеў навокал, быццам раздумваючы, куды ж занесла яго начное падарожжа з Хмелем. Убачыўшы, што Апанаса няма, ён хутка, як па трывозе, усхапіўся на ногі і, прыгнуўшыся, пагледзеў у шчыліну дзвярэй. Няма нікога. Выйшаў і накіраваўся ў хату. Раптам хтосьці яго паклікаў:

— Андрэй... Андрэй...

Спыніўшыся пасярэдзіне падворка, ён пачуў ціхі скрып і, глянуўшы ў бок адрынкі, убачыў Паддубнага.

Прыйшла Вольга. Андрэй ужо гаварыў упаўголаса:

— Апанаса пакуль што клікаць не трэба. Я хачу сёе-тое пра яго расказаць.

І ён расказаў пра гранату, пра поезд, наогул пра яго паводзіны. Прамаўчаў толькі пра Вольгу, сам нават не ведаючы чаму.

— Мярзотнік! — вырвалася ў Вольгі.

Паддубны задумаўся.

Вольга і Андрэй былі ўпэўнены, што ён скажа: «Выключыць з партыі». І Паддубны пачаў гаварыць іменна пра гэта:

— Выключыць яго з партыі мы не маем права. Гэта трэба рабіць са згоды ЦК. Можна ўзяць на сябе адказнасць адхіліць яго ад работы, часова, да рашэння ЦК. Але, можа, варта было б не спяшацца, яшчэ раз яго праверыць?..

Андрэй з Вольгай пераглянуліся з расчараваннем. З вуліцы далятаў стук колаў па бруку, звон молата ў кузні, гоман людзей, што праходзілі ля плота.

Скруціўся клубком на сене Апанас, апусціў свае крыльцы, падняў каўнер курткі і нацягнуў яго на вушы, быццам хацеў разам з тварам схаваць ад ганьбы сваю амбіцыю...

А тройка раілася, думала, што з ім рабіць. Убіўся ў палескія масы гэты Хмель і корміць іх дэмагогіяй. І яму яшчэ вераць.

— Не,— сказаў Паддубны,— нельга, таварышы... З другога боку трэба брацца за яго. Толькі адно, што мы зробім,— не будзем пры ім вырашаць важных пытанняў, як, напрыклад, аб'яднанне ўзброеных сіл усёй акругі ці, скажам, арганізацыя ячэек камсамола. Трэба адвесці ад яго моладзь. І давайце паклічам яго сюды...

Апанас праціснуўся праз вузкі праход у дзвярах і, не вымаючы рук з кішэняў курткі, спыніўся. Паддубны змераў яго дапытлівым позіркам.

Апанас запытаўся:

— Ты якім поездам ехаў?

Даведаўшыся, калі прыбыў поезд, бліснуў вачыма на Андрэя і неяк увесь згорбіўся, збялеў.

— Сядай,— кінуў Паддубны.— Поезд ужо далёка. Пераехаў па тваёй гранаце і пайшоў.

Апанас, заікаючыся, запытаўся:

— Што ты... Што ты гэтым хочаш сказаць?

— А тое, што ты сваімі паводзінамі толькі дапамагаеш ворагам,— рэзка прамовіў Паддубны.

— Калі ты так лічыш, я магу пайсці.

— Не. Спачатку выслухай, а потым ідзі. Наша рашэнне такое. Ты павінен збіраць зброю, захоўваючы пры гэтым самую строгую канспірацыю. Калі ты яе парушыш, будзеш адхілены ад работы...

— Не ты мяне ставіў на работу, не ты мяне будзеш і здымаць. А калі да мяне такое недавер'е, я сам адмаўляюся ад работы.

— Гэта лягчэй за ўсё,— вырвалася ў Андрэя.— Хочаш, каб цябе прасілі?

— Я ад цябе нічога не хачу, я наогул цябе першы раз бачу,— агрызнуўся Апанас.

— Гэта няважна, бачыў ты мяне ці не бачыў. Важна тое, што ты не хочаш прызнацца ў сваіх грахах...

— Ты праваліш усю нашу работу на Палессі, работу партыі! — выпаліла Вольга.

Апанас змоўк.

— Ідзі і выконвай! — тонам, які не церпіць пярэчання, сказаў Паддубны.

Зразумеўшы, што справы набываюць сур'ёзны паварот, Апанас парывіста падняўся з месца і выйшаў, не развітаўшыся.

Вольга прывяла Грышу. Слухалі Паддубнага. Ён гаварыў пра Савецкі Саюз. Аб тым, што перамаглі разруху, аб творчых сілах мільённых мас, якія сталі гаспадарамі зямлі...

— Там — перамога. І ва ўсім свеце ідзе барацьба за такую ж перамогу. Барацьба ідзе гіганцкая...

Затым расказаў аб КПЗБ, пра апазіцыю, пра небяспеку, якую яна ў сабе тоіць.

— Эсэраўская стыхія імкнецца аслабіць партыю... Яна хоча пракласці дарогу балбатунам, фразёрам, якія скончаць сваю кар'еру правакатарамі. Гэта — кар'ерысцкія, палітычныя гастралёры...

У заключэнне Паддубны паведаміў, што Андрэй кааптуецца ў члены акругкома.

Увечары таго ж дня Паддубны правёў гутарку з ячэйкай Грышы, якога і выбралі сакратаром гаркома.

Справы ў Глушцы закончаны. Заўтра на світанні — у дарогу. Трэба, каб у кожнай вёсцы была камячэйка — дарослых і маладых, каб расшырыліся сцежкі да партызан, каб было каму ісці на кліч, на сігнал і ўрэшце — на штурм.

Не адно заданне паставіў перад сваімі сябрамі Паддубны. А яму самому трэба дагнаць Сцяпана Каваля. І ён пойдзе, а дзе ўслед за ім і пад'едзе. А дагнаўшы, скажа: «Разбіў ты Ельскага — добра. Але гэтага мала. Гэта толькі пачатак. Трэба сабраць усе ўзброеныя сілы акругі ў адны рукі. Трэба разбіць усіх ельскіх».

Раздзел чацвёрты

# ДУМКІ НАД ВІСЛАЙ

Мінула чатыры гады. Польская Рэч Паспалітая, якая не з'яўлялася «паспалітай» [1], а была толькі рэччу для паноў-памешчыкаў і капіталістаў, перажывала вялікія турботы з «усходнімі крэсамі». Турботы ўрада павялічваліся не толькі нарастаннем паўстанцкага нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, але і барацьбой, якую вёў польскі пралетарыят. Верны сваім рэвалюцыйным традыцыям, польскі пралетарыят яшчэ ў 1919 годзе выходзіў на вуліцы гарадоў пад чырвонымі сцягамі створанай тады Камуністычнай партыі Польшчы, ствараў свае Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў, пратэставаў супроць вайны з Савецкай Расіяй. А ў 1923 годзе выбухнула ўзброенае паўстанне пралетарыяту ў Кракаве. 1923 год можна лічыць кульмінацыйным пунктам першага этапа рэвалюцыйна-паўстанцкай барацьбы Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Польшчы за заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Калі ўрадавая польская прэса адзначала, што ў гэтыя гады (1921—1926) у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне адбылося ў розных месцах 878 узброеных паўстанняў, то ў адным 1923 годзе іх было 503.

Імкненне беларускага народа да ўз'яднання са сваімі братамі на ўсходзе памнажала рады партызан. Ворагі выкарыстоўвалі гэтае непераможнае пачуццё народа ў сваіх сектанцка-дэмагагічных мэтах. Гэта асабліва выявілася ў выбарах у першы польскі сейм у 1922 годзе. Каб адняць галасы ад камуністычнага спіса (№ 5), нацыяналістычныя лідэры блоку нацыянальных меншасцей (№ 16) пускалі чутку: «хто будзе галасаваць за «шаснаццатку», той будзе далучаны да Савецкай Беларусі...»

Пілсудчына і ўсе буржуазна-шляхецкія «апазіцыі» ў сваю чаргу дэманстравалі вернасць яснавяльможным каралеўскім, магнацкім і езуіцкім традыцыям, бо ў доказ гэтага адкрыццё сейма адбылося ў езуіцкім касцёле св. Яна ў Варшаве.

У прагрэсіўнай газеце таго часу можна было прачытаць такое паведамленне:

---

[1] Паспаліты — агульнанародны.

«Яшчэ задоўга да адкрыцця ўсе ложы і хоры ў касцёле былі перапоўнены. І каго-каго толькі там не было! Паслы чужаземных дзяржаў у парадных, шытых золатам, мундзірах з медалямі і ў звёздах з дарагіх дыяментаў, расфуфыранае варшаўскае «грамадства», ксяндзы ў шаўковых сутанах, дыпламаваныя какоткі, ад якіх пахла дарагою французскай парфумай, пара-другая мяшчан — гэтых заўзятых прадстаўнікоў «дэмакратыі», вайсковыя, палітычныя дзеячы, прафесары і, нарэшце, паслы сейма і сената, якія важна расселіся ў крэслах, чакаючы пана начальніка панства[1]. Польскія газеты са смакам апісалі гэтую цырымонію ўрачыстага адкрыцця сейма, звярнулі ўвагу на ўсё і нават на дэпутатаў беларусаў, для якіх чамусьці не хапіла крэслаў і якім прыйшлося чамусьці стаяць каля сценкі і ў праходах па левы бок...

Нарэшце прыехаў Пілсудскі, і пачалося набажэнства. Трэба думаць, што набажэнства было першага гатунку, бо яго рабіў сам супэрыёр[2] езуітаў ксёндз Павэльскі, які пасля набажэнства выступіў з прывітальнай прамовай да дэпутатаў сейма ад самога бога айца і маткі боскай. Спявалі: «Boże, coś Polskę».

Выйшаў Пілсудскі. Яго воплескамі сустрэла «лявіца» сейма. Генерал Галер[3] нахмурыў бровы...

Як бачыце, стыль урачыстасці самы што ні на ёсць «дэмакратычны».

Вось яна, белая Польшча з яе новым, белым, буржуазным сеймам».

Так закладаліся першыя асновы для барацьбы з рэвалюцыйным рухам.

У абдымкі пілсудчыны кінулася польская шэйдэманаўшчына (ППС і іншыя), якая сваімі ашуканскімі манеўрамі загубіла кракаўскае паўстанне.

* * *

Андрэй у мундзіры польскага салдата артылерыі стаіць на мосце і глядзіць на шырокую бурлівую Віслу. Жоўтыя хвалі з белым накіпам імкнуць і імкнуць удалячынь. Андрэй шукае больш яснага акрэслення гэтай раней не бачанай ім ракі. І ўрэшце знаходзіць слова: «тэмперамент».

---

[1] У сэнсе — дзяржавы. Дзяржава па-польску — панства.

[2] Супэрыёр — найвышэйшы, найстарэйшы.

[3] Галер — эндэк, праціўнік Пілсудскага, прэтэндэнт на маршальскі жэзл.

Так, згаджаецца Андрэй, Вісла тэмпераментная, як самі палякі. Любоў да Віслы ў некаторых з іх даходзіць да экзальтацыі, да абсурду, робіцца позай, модай. Андрэй думае аб гэтым і кажа сам сабе: «Шавінізм, шавінізм, што ты робіш з народам?» Калі год таму назад ехаў з дому на самы захад Польшчы, каб адслужыць ваенную службу, то бачыў у вагоне аднаго вусатага пасажыра ў мацяёўцы, шаўца па прафесіі, які ўвесь час трымаў сваю дачку год пяці ля акна. І калі па дарозе паказвалася азярцо ці нават лужа, ён абавязкова пытаўся ў дачкі, што гэта такое.

Дзяўчынка адказвала: «То ест Вісла...»

Узрадаваны бацька сквапна падхопліваў: «Так, цурэчко, то ест Вісла...»

І вось яна перад вачыма Андрэя — шырокая, тэмпераментная — бурліва спяшаецца ўжо ў недалёкае мора. З вышыні моста відаць амаль увесь гэты сярэдневяковы горад — горад з чырвонай цэглы, з вострымі вежамі касцёлаў. Адчуваецца ў ім нейкі змрочны подых «культуры» нямецкіх крыжаносцаў. На левым беразе Віслы стаяць сівыя руіны іхняга колішняга за́мка, парослыя бур'янам. Направа стаяць два параходы і ціхенька дымяць. Па брукаваным беразе ўздоўж гарадской сцяны парамі ідуць матросы.

Андрэю захацелася б даўжэй пастаяць на мосце, але частае аддаванне чэсці афіцэрам і ніжэйшым чынам адрывала яго ад краявіду. Сышоў на левы бераг у невялічкі парк і сеў на лавачцы тварам да Віслы. Апёршыся на шаблю, міжволі задумаўся, пазіраючы на імклівы бег жоўтых глiністых хваль.

Андрэю здавалася, што ён ужо даўно-даўно як з дому. Там нешта робіцца цяпер без яго. А робіцца напэўна, бо нават у тутэйшых газетах прабіваюцца інфармацыі «аб барацьбе з бандытамі на «ўсходніх крэсах». Тут, у горадзе, адчуваецца мяшчанская задаволенасць, душэўная абмежаванасць. Горад пераважна эндэцка-клерыкальных уплываў. Сярод чыгуначнікаў пануе ППС. Сюды прыязджае выступаць на мітынгах мяшчан супроць Пілсудскага маршал сейма эндэк Трампчынскі — стары, вусаты, з абвіслымі шчокамі. У прамовах аддае сябе апецы боскай, скардзячыся на Пілсудскага, што той, мала таго, што назваў яго папугаем, але пагражаў нават застрэліць.

Пілсудскі адмовіўся ад удзелу ва ўрадзе Хіенапяста [1],

---

[1] Кааліцыйны ўрад — хрысціянская дэмакратыя, нацыянальная дэмакратыя (эндэкі) і кулацкая партыя.— *Пест.*

замкнуўся пад Варшавай у Сулеюўку і нешта думае, цынічна высмейваючы ўрад нават за тое, што ён прысвоіў яму званне маршала. Затое генеральны інспектар артылерыі ўсёй Польшчы генерал Галер часта аб'язджае палкі, робіць агляды. Андрэй бачыў яго ўжо тры разы. Паручык Стэцкевіч, праходзячы ўчора па калідоры батарэі, паглядзеў на партрэт Галера, а потым спытаўся ў дзяжурнага, чаму няма на сцяне партрэта Пілсудскага, і загадаў, каб знайшлі партрэт. Яго знайшлі ў батарэйным магазіне вопраткі. Ён быў запылены, невялікіх памераў. На партрэце адна галава з валасамі вожыкам і з доўгімі маржовымі вусамі. Калі ж пасля праходзіў камандзір батарэі капітан Вірскі і заўважыў партрэт Пілсудскага на сцяне, спытаўся, адкуль яго ўзялі, і загадаў зняць.

Адышоўшыся ад дзяжурнага пару крокаў, вярнуўся і загадаў іншае — пакінуць.

Аналізуючы гэтыя факты, Андрэй насцярожваецца. Адарваны ад палітыкі, больш чуццём адгадвае, што нешта наспявае ў пануючым лагеры Польшчы. Нездарма нядаўна пісала яму Вольга, каб ён прыслухаўся да навакольнага паветра. Вось яно і ёсць гэтае паветра.

Вольга хоць не так часта прысылае лісты, але часцей піша, чым Андрэй ёй, бо ў Вольгі няма сталага адраса. Пісала, што хутка яны пакінуць Вільню і расквартаруюцца ў Варшаве.

Цяпер нядзеля — вольны час. Андрэй доўга хадзіў па горадзе, амаль з самага ранняя, пабываў у гарадскім парку (таксама на беразе Віслы), паглядзеў на абломак пастамента, дзе ў нямецкія часы стаяў помнік Бісмарку, а потым, праходзячы сцежкай між кустоў, нечакана натрапіў на помнік Манюшкі яшчэ свежай, нядаўняй работы, ля якога крыху пасядзеў на лавачцы. Яго ўвагу прыцягнулі фальклорныя малюнкі-барэльефы на матывы оперы «Галька», вылепленыя на шырокім пастаменце помніка. І дзіўна, ішоў па вуліцы, як чужы ўсяму наваколлю, не жадаючы адкрыць сябе гэтаму чужому, закаванаму ў сярэдневяковыя формы, гораду. Але ў душы прыглушанай, нават часам калючай, тугою ўзнікала імкненне знайсці сябра — супакоіцца. Калі глянуў на барэльефы на пастаменце, усміхнуўся і зараз жа сеў на лавачку. Нават чамусьці зняў на момант з галавы сваю канфедэратку, прыгладзіў валасы. Навокал квітнелі густыя кусты бэзу і ціха шумелі сосны. Знаёмым і блізкім павеяла Андрэю ад гэтых малюнкаў.

Каласістыя снапы жыта з сярпамі на іх, а побач жы-

выя, па-сапраўднаму мастацка адбітыя, постаці дзяўчат — жней у карсетах, у стужках, у пацерках. І дзіўна — стала на душы спакойна. Прыйшла палёгка, у якой абудзіліся свае далёкія і блізкія ўспаміны.

Успомніліся дрымучыя Дзяды з песнямі дзяўчат у нізкай хаце Данілы Перагуда, вішнёвыя садкі і бор, магутны бор, дзе схавалася люстранае возера. І пры ўсім гэтым яна — Вольга... Думка міжвольна паплыла далей і далей — аж да Волгі — да карагоднай песні ў оперы «Яўгені Анегін». А потым вярнулася назад у Дзяды. І тут Андрэй убачыў смерць Данілы на крыжы... А перад ім у такім жа ўбранні на свой лад, як у дзяўчат вось на гэтых барэльефах, стаіць цёмнавокая ў слязах Мар'яна... Каму гэта патрэбна? Ці яно патрэбна вось гэтым прыгожым, што схіляюць свае цудоўныя галоўкі над снапамі, а імя якім — польскі народ? Ды не, яны нічога не маюць да заплаканай Мар'яны, яны ёй усміхаюцца, як родныя па долі, па працы, па духу,— як сёстры. Яны засмуцяцца адным смуткам аб нядолі Мар'яны. Ды бяда — вал крывавы насыпаюць паны між народамі... Хто павесіў Данілу на крыжы? Павесіў граф Ельскі, павесілі ўсе тыя, хто за ім стаяць чарадою ў мундзірах, фраках, капелюшах, цыліндрах, за імі ідуць дзікія кулакі...

Андрэй, сціснуўшы ручку шаблі, устаў. Адышоўшыся, агледзеўся. Здавалася, што тыя прыгожыя ў карсетах, стужках і пацерках праводзілі яго ўсмешкамі і ўзмахамі рук.

...Няспынны паток войск плыве і плыве па галоўнай вуліцы. Войскі накіроўваюцца ў касцёл. Пяхотныя часці, сапёрныя, артылерысты, уланы... Цёмна-сінімі шарэнгамі ідуць матросы. Толькі стужкі на плячах мільгаюць якарамі. Праваслаўных сягоння штосьці не павялі ў царкву. Вось чаму Андрэй мае магчымасць так рана пахадзіць па горадзе адзін. Войскі праходзяць па базарнай плошчы міма пачарнелай ад вякоў ратушы. Там раз-пораз чуецца каманда: «Бачнасць! Налева глянь!»

Праходзячыя войскі камусьці аддаюць чэсць. Там-сям на вуліцы грымяць аркестры на чале часцей.

Туды накіроўваецца і Андрэй. Ён бачыць — на плошчы стаяць два генералы: адзін польскі — камандзір акругі, сівы, смуглы з твару, другі — французскі генерал. Апошні карцінна, з усмешкай салютуе праходзячым войскам. Побач з імі стаіць група афіцэраў. На тратуарах ціснуцца мяшчане з выцягнутымі шыямі — пачцівыя бацьк-

кі пачцівых сямействаў. Кожны паголены, кожны з вусамі, кожны апіраецца на палку. Выразы твараў, як на набажэнстве. Ранняя смуга над горадам не хоча рассейвацца, нягледзячы на сонца. І таму глухавата плыве гул ад касцельных званоў. А ля ратушы на высокім пастаменце стаіць вялікі астраном Мікалай Капернік. Як быццам кідаючы выклік наваколышым касцёлам, ён на выцягнутай далоні трымае зямную кулю. Ён тут найвышэйшы за ўсіх — за генералаў, за ксяндзоў, за мяшчан.

Войскі прайшлі, але мяшчане не разыходзяцца, чагосьці чакаюць. У аддаленні ад генералаў у другім канцы плошчы стаіць група афіцэраў у мундзірах шэрага колеру. Сярод іх два ветэраны народных паўстанняў у рангу паручыкаў. На іх — цёмна-сінія шынялі з белымі кантамі. Гэта — сівыя старыя, пастаўленыя як для дэкарацыі.

Натоўп мяшчан заварушыўся. Праехала машына і спынілася ля помніка. З машыны выйшаў генерал Галер. Камандзір акругі падцягнуўся. Група афіцэраў («галерчыкі») пастроілася ў шарэнгу. На правым фланзе сталі два ветэраны народных паўстанняў. Камандзір акругі падаў каманду: «Бачнасць!» Генерал Галер, апіраючыся на палку, кульгаючы, прайшоў пару крокаў насустрач камандзіру акругі і прыняў рапарт.

Аркестр, які стаяў побач, зайграў польскі нацыянальны гімн. Усе мяшчане знялі шапкі. Андрэй, як салдат, узяў пад казырок.

Генерал Галер, трымаючы два пальцы ля казырка генеральскай шапкі з серабрыстымі зігзагамі на аколышы, абышоў сваіх «галерчыкаў», паціснуў рукі абодвум ветэранам народных паўстанняў, адсалютаваў мяшчанам, сеў у машыну і знік за паваротам. Уся ўрачыстасць працягвалася не больш паўгадзіны.

Андрэй ішоў да моста на Віслу і думаў: «Што гэта такое? Нейкія сучасныя магнаты збіраюцца біцца за ўплывы ў Польшчы. Ну, што ж, адзін прэзідэнт [1] ужо забіты... Давай далей...»

І, седзячы ўжо на лаўцы перад Віслай, успомніў словы Вольгі і яшчэ раз паўтарыў:

«Вось яно і ёсць гэтае самае паветра... Чым жа ўсё скончыцца?»

Андрэй у вольны ад заняткаў час чытаў гісторыю

---

[1] Першы прэзідэнт Польшчы Габрыель Нарутовіч быў забіты эндэкамі.

Польшчы. Звярнуў на гэта ўвагу падпаручык Куцы — скнара і садыст. Пры агульным вобыску перад Першым маем ён, як быццам спецыяльна, стаў ля шафы Андрэя, калі падафіцэры ператрасалі ўсе рэчы, і гартаў тоўсты том гісторыі Польшчы праф. Лявіцкага. Прыўзняўшы адно брыво, глянуў на Андрэя і сказаў, як заўсёды:

— Што, палескі бандыт, прафесарам быць хочаш?

Усе людзі з крэсаў, не толькі з Палесся, былі для яго бандытамі.

За некалькі дзён да Першага мая падпаручык Куцы чытаў лекцыю на тэму: «Як павінен трымацца салдат у час вулічных завірух». Ходзячы ў лекцыйнай зале між сталамі, як пан жыцця і смерці ўсіх прысутных, запытаў:

— Калі вас, пяздар, павядуць на разгон натоўпу, які з чырвонымі анучамі ў руках пачне вырабляць свінствы на вуліцы, што вы павінны рабіць?

Куцы змоўк, водзячы вачыма па салдатах, у большасці сынах сялян і рабочых.

Наперадзе сядзеў сын польскага гандляра з адкормленым тварам. Куцы звярнуўся да яго:

— Ну, скажы, Менсікоўскі, гэтым аслам...

Менсікоўскі ўсхапіўся з месца. Твар яго пачырванеў ад здаволенай амбіцыі.

— Салдаты павінны дакладна выконваць загады камандзіраў,— адказаў Менсікоўскі.

Куцы ўзняў палец на ўзровень галавы і з надзьмутым тварам звярнуўся да ўсіх:

— Чуеце, аслы? Чуеце?

«Аслы» сядзелі стаіўшыся. Усе глядзелі больш у стол, перад сабою.

Куцы працягваў:

— Калі зайграе ражок для папярэджання, каб натоўп разышоўся... Але ён, падгавораны бандытамі-выўратоўцамі, разыходзіцца не хоча... Ражок іграе другі раз... Іграе трэці раз... І тады...

Куцы зрабіў круты паварот на месцы і раптам тыкнуў пальцам у Андрэя:

— І тады што робіцца, Касцевіч?

Андрэй ужо добра зведаў на сваёй скуры правакацыйныя «штучкі» Куцага, таму, устаўшы, адказаў:

— Паводле рэгламенту падаецца каманда — страляць!..

Куцаму не спадабаўся адказ. Ён пачаў перакрыўляць Андрэя:

— Паводле рэгламенту... Паводле рэгламенту... Вучоны мне знайшоўся... Куды страляць? Пану богу ў акно? [1]

Андрэй маўчаў.

— Дык вось... Заўтра пасля абеду накладзіце сабе поўны ранец цэглы і прастаіце на бачнасць пад вінтоўкай дзве гадзіны на калідоры... Разумееце? — з падкрэсленай ветлівасцю садыста сказаў Куцы і загадаў паклікаць дзяжурнага з калідора, каб перадаць загад.

Андрэй, успомніўшы цяпер правакацыі Куцага, падумаў: «У польскай мове ёсць два трапныя словы для акрэслення такіх людзей. Першае слова: «жолдацтво» — гэта значыць ваенныя наёмнікі, людзі, зброяй якіх з'яўляецца грубасць, садызм, хуліганства... Другое слова — «тлушча». Гэта надкормленая маса разбойнікаў для спецыяльных даручэнняў, людзей, зведзеных на ўзровень звера, жывёлы. Гэта — пагромшчыкі, штрэйкбрэхеры. За імі ў хвасце плятуцца лідэры ППС».

З Куцага можа вырасці і ўжо расце пачвара. Ён з асалодай дае пстрычкі салдатам у насы, дае доўга, аж пакуль не стомяцца пальцы. Няважна, што ў салдата ўжо цякуць слёзы, ад гэтага Куцаму робіцца яшчэ лепш. У Куцага свярбяць рукі да бойкі, але ён ведае рэгламент, дзе сказана, што біць нельга. Замест мардабіцця Куцы выдумляе больш «далікатныя» сродкі здзеку...

Нешта чорнае, яшчэ невыразнае, вылазіць з-за небасхілу... Яно, як цень зморы, часам звісне над душою Андрэя або ледзь чутнымі крокамі, як шорах звера ў кустах, крадзецца ўслед за ім. І заўсёды перад вачыма стане Куцы, шыракаморды, з нізкім ілбом, з доўгім кірпатым носам твар, перакрыўлены грымасай здзеку, засліненыя ў кутках губы... Ён глядзіць на Андрэя, прыплюшчыўшы адно вока, як быццам бярэ на прыцэл.

І з вачэй у Андрэя знікаюць серабрыстыя зорачкі на пагонах Куцага. Перад зрокам паўстае небасхіл з насупленай хмарай. І там, над хмарай, варушыцца нешта чорнае, валасатае. Гэта яно шлапае малпінымі крокамі ўслед за Андрэем у цішыні ночы па змрочных вуліцах сярэдневяковага горада, дзе дрэмлюць ліхтарыкі ля парогаў позніх кафэ і публічных дамоў. Гэта яно спыняецца над ложкам Андрэя з выцягнутай мордай, бліскае зубамі, сапе, хрыпіць над тварам.

Змора... згінь, згінь.

[1] Значыць — у неба.

З'явіўся сержант Стахура з устрывожаным тварам, і чорны прывід знік. З журботай у вачах заглянуў у твар Андрэю і запытаў:

— Гэта ён цябе... з цэглай на дзве гадзіны? Гм... Пся крэў... Не бойся, усякаму бывае канец... На, закуры папяросу... Ты чуў аб Багінскім і Вечаркевічу? Зухі хлопцы — га? Якаясь халерская Мурашка, шпіцаль, забіў іх [1]. Яшчэ многа рознай халеры на свеце, пся крэў... Але — ша...

Сержант Стахура — стары служака, але не страціў класавага пачуцця. Ён з рабочай сям'і... Усю сваю маладосць вырабляў з бацькам скуры на заводзе. Па-салдацку бывае жорсткі і па-народнаму чалавечны, ласкавы. Палюбіў Андрэя. Рэкамендаваў яго ў школу падафіцэраў, куды і сам трапіў інструктарам.

І вось Андрэй — вучань школы — сядзіць на беразе Віслы ўжо з адной пашыўкай на пагонах — бамбардзір.

Сустрэўшы ў горадзе, Стахура запрасіў Андрэя ў непрыкметнае кафэ — «пакрапіць першы ранг салдата».

Стахура расчараваўся ў «адроджанай» Польшчы, аж вар'яваўся ад нездаволення, што «хлоп зямлі не атрымаў, што рабочыя жывуць у сутарэннях, што расце жабрацтва, што ў турмы саджаюць змагароў за лепшае заўтра...»

— А ў іх... брухі растуць, пся крэў... Эх, не за тое мы ваявалі, мой дрогі Касцевіч. Але што зробіш — прапала... Ты мусіш скончыць школу, будзеш капралам, менш здзеку будзеш мець... Ну, вып'ем за шчаслівае заўтра... Яшчэ раз мне раскажаш калі-небудзь пра парыжскіх камунараў, пра генерала Яраслава Дамброўскага. Га... гэта быў хлоп-зух... Нам аб ім ніхто ніколі нічога не гаварыў... Хто — Куцы табе скажа? Або які растлусцеўшы ксянжулька? Халера б іх пабрала... Пся крэў... Лотры!..

Андрэй загледзеўся на Віслу і не заўважыў, як нейкі салдат у летняй гімнасцёрцы з бруднымі плямамі стаў перад ім. Пілотка ў салдата была схілена на правую скронь, твар паголены. Нешта знаёмае мільганула ў памяці, але Андрэй ніяк не мог здагадацца. Салдат глядзеў на Андрэя і ўсміхаўся, нічога не кажучы. Глядзеў і Андрэй, зморшчыўшы лоб ад намагання, прыпамінаючы, дзе ён бачыў гэтага чалавека. На нейкі момант яго вочы бліснулі — Андрэй стукнуў шабляю аб зямлю і, усхапіўшыся, ускрыкнуў:

---

[1] Мурашка — агент дэфензівы — забойца афіцэраў Багінскага і Вечаркевіча, якія хацелі падарваць цытадэль.

— Санкоўскі!.. Ах ты...

Яны, прывітаўшыся, абняліся.

— Я доўга хадзіў навокал цябе, усё гадаючы, ты ці не ты... Я цябе бачыў, як ты стаяў на мосце, і пайшоў услед за табою...

— Цябе цяжка пазнаць, Санкоўскі, пагаліў вусы... Ну, сядай...

Яны селі, закурылі, і Санкоўскі пачаў расказваць аб сабе:

— Бачыш, забралі мяне на паўтарэнне. Маршырую, падаю, устаю па камандзе... Усяго дастаецца...

Санкоўскі насцярожана аглянуўся і сказаў:

— Многа давялося перажыць, Анджэю, ад часу нашага расстання... Але над Бугам наша праца не прапала дарма... Шмат пасля сябе пакінулі харошых хлопцаў... Толькі адзін там выклікае ў мяне падазрэнне... Карэльчук прозвішча... Сакратар акругкома камсамола... Не ведаю, як ён там цяпер. Ты служыш ужо больш года і напэўна мала што ведаеш аб Беларусі... Узброеная барацьба там працягваецца. Па лясах з аблавамі ходзіць паліцыя... Але яна мае вельмі малы поспех... Проста — ніякага...

— Часам і тут прарываюцца ў газетах паведамленні,— сказаў Андрэй.

Санкоўскі ўдарыў сябе па кішэні і прамовіў:

— Ах, так... Я і забыўся...

І ён выняў з кішэні газету.

— Разгарні, тут знойдзеш...— сказаў ён.

Андрэй разгарнуў газету і знайшоў загаловак:

«На Палессі ёсць яшчэ дзікуны»

Пачаў чытаць. Там пісалася, што паліцыя ў час аблавы на бандытаў выгнала з пушчы голага чалавека... Далей ішло падрабязнае апісанне яго выгляду: на галаве доўгія валасы, барада па пояс, цела аброслае шчацінай...

Андрэй скончыў чытаць і зразумеў, у чым мэта такой фабрыкацыі. Глянуў у вочы Санкоўскаму і сказаў:

— Гэта — страва для мяшчан... Мешчанін не можа жыць без сенсацыі... Вось яна яму і падносіцца на талерцы, каб на самай справе адцягнуць увагу чытача ад той сапраўднай барацьбы, якая там вядзецца. Паказытаць самалюбства асвечанага мяшчанства — вось што... Там, значыць, дзікунства, а тут — культура. Цешцеся з сябе, мяшчане... Вось гэта дзікунства... мяшчан...

— Слушна, слушна, Андрэй. Як ты трапна...

Санкоўскі глянуў на Андрэя і дадаў:

— Ты той самы, які і быў... Ну, пройдземся... Ёсць у мяне пара злотых — зойдзем дзе-небудзь на кілішак...

Яны ўсталі і пайшлі на мост...

— Барвіна цяпер пад Беластокам — працуе на лесапільні,— працягваў Санкоўскі,— гэта нястомны хлоп. А як ён вырас палітычна!..

— Мінула больш як тры гады, Вацлаў, як мы не бачыліся...

Андрэй знаходзіўся ў такім стане, калі хочацца сказаць многа, а словы ніяк не могуць укласціся — тоўпяцца, перашкаджаюць адно другому.

— Дзіўным ты выглядаеш, Вацлаў, без вусоў, усё ніяк не магу прывыкнуць,— гаварыў Андрэй, а сам думаў зусім пра другое.

— А вусы мне нямала дапамаглі. Калі працаваў над Бугам, мне два разы даводзілася ездзіць у Варшаву, у ЦК. Гляне шпік на мае вусы і падумае: «Едзе сабе нейкі дзядзька-лесаруб ці батрак з маёнтка». Ну, а ты як, Андрэй? Сумуеш, відаць?

— Нялёгка мне тут, Вацлаў. Быццам я на другім канцы свету. Сумнавата... Хамства многа, салдафонства, а паспрабуй пярэчыць — зжывуць са свету. Я ж з крэсаў. Знаеш, як прыглядаюцца.

Санкоўскі запытаўся са спачуваннем:

— Многа яшчэ табе засталося?

— Месяцаў восем з лішнім.

— Ну, як-небудзь дацягнеш. Калі прайшоў падафіцэрскую школу, то ўсё астатняе — трын-трава,— глянуўшы на плячо Андрэя, дзе чырванела адна нашыўка, усміхнуўся Санкоўскі.— За восем месяцаў яшчэ адну заслужыш... Будзеш пан капрал.

— Што ж... Няхай... Думаеш, не спатрэбіцца?

Санкоўскі, відаць, спачатку не зразумеў Андрэя. А потым кіўнуў галавою:

— А-а... Ты пра гэта... Правільна.

Потым махнуў рукою і дадаў:

— Збіралі мы сілы, збіралі для жаданага бою. Сарвалася. Гэта было зусім нядаўна. Прыязджаў тады да мяне Паддубны. Заданне было пастаўлена баявое.

— Пачакай,— шапнуў Андрэй,— разміНёмся з людзьмі, тады раскажаш...

Ішлі па беразе, аддавалі чэсць афіцэрам — сухапутным і марскім. Сустрэлі двух ксяндзоў у ватыканскіх капелюшах. Яны, як сапраўдныя схаласты-казуісты, асабліва гар-

маніравалі з наваколлем на фоне сярэдневяковай надбярэжнай сцяны з чырвонай цэглы і выглядалі злавесна.

Дайшлі да парку і спыніліся. Можна было зайсці ў парк, але не хацелася расставацца з Віслай. Пачалі павольна хадзіць па беразе. Сонца ўжо зусім схілілася к заходу, і ў цёплым паветры застыла цішыня. У ёй тануў мерны гул горада.

— Дык вось... — пачаў Санкоўскі,— прыехаў Паддубны. Пайшлі мы з ім па беразе Буга. Ідзём вось так, як і цяпер з табою. І раптам ён гаворыць: «Справа важная вельмі, і я хачу быць упэўненым, што ты яе выканаеш». Я яму кажу, што значыць «быць упэўненым»? Трэба верыць мне, кажу, інакш крыўдна будзе. Не вецер жа гуляе ў маёй галаве... Не на дудцы я тут іграю над Бугам. Ён усміхнуўся і сказаў: «Ну, ну, прабач... Ты ж дасканала ведаеш, як я да цябе стаўлюся. Вось што, Санкоўскі, трэба ўзарваць мост над Бугам. І з гэтага пачнецца наша паўстанне. Трэба апярэдзіць Пілсудскага. Ён збірае войска для перавароту...»

— Значыць, ужо гутарка ішла пра паўстанне, пра сапраўднае паўстанне? — павышаючы голас, спытаўся Андрэй.— Я крыху здагадваўся. Адна дзяўчына намякала ў пісьме. Дык, значыць, вось як было...

— Так, было... — уздыхнуў Санкоўскі і дадаў: — Было і сплыло.

— Чаму сплыло?

Санкоўскі паціснуў плячыма.

— Чаму? Прыйшоў загад ад таго ж Паддубнага — адмяніць. Перадаў толькі, што такое рашэнне ЦК КПП і што там узніклі нейкія разыходжанні па пытанню аб намерах Пілсудскага. Вось як... А ўжо ўсё было гатова для ўзрыву, і раптам — адмяніць.

— Штосьці незразумела, Санкоўскі. Падобна на тое, што ўпусцілі момант.

— Упусцілі,— з горыччу надхаціў Санкоўскі.— Упусцілі. Не ведаю, як цяпер. А што тады быў момант — гэта факт. Дый цяпер яшчэ не позна. Хто іх ведае, што яны там думаюць — нашы кіраўнікі.

Андрэй расказаў пра тое, што бачыў сягоння рана, пра парад, пра генерала Галера, пра «галерчыкаў».

— Як бачыш, твае здагадкі правільныя. Пілсудскі сапраўды рыхтуецца да ўрадавага перавароту. Без бою паміж Галерам і Пілсудскім тут не абыдзецца. Хоць яны

і аднаго поля ягады, але барацьба ў іх ідзе за першынство — хто павінен кіраваць Польшчай...

— Галер — ён жа эндэк, прадстаўнік буйных памешчыкаў, польскіх юнкераў... А Пілсудскі?

— Гэты здабывае папулярнасць, лае эндэкаў, а куды ён гне? Не інакш, як да ашуканства.

— Зразумела, што да ашуканства. Але хто за ім стаіць? Не будзе ж ён бараніць інтарэсы пралетарыяту...

Санкоўскі глыбей нацягнуў пілотку на галаву.

— Ну, што ж, будзем жыць, Андрэй, пабачым. Закончу гэтае «паўтарэнне», паеду ў Беласток да Барвіны, бліжэй да рабочых.

— А я да сваіх палёў, да вёсак. Ты толькі не забывай мяне, Вацлаў...

Вісла на ўсю шырыню несла ўспененыя хвалі ўсё ўдаль і ўдаль. Размераны гул горада тануў ў цёплай вячэрняй цішыні. Сябры заглядзеліся на Віслу, на барвовы небасхіл, дзе Вісла, мінаваўшы парк-бор, здаецца, ужо дасягнула прастораў мора...

— Ведаеш, Вацлаў, калі сустрэнемся тут у наступны раз, павяду цябе да аднаго помніка.

— Да якога?

— На месцы даведаешся. Там мы ўбачым сапраўдную Польшчу, Польшчу народную...

## АПОШНІЯ ЗАЛПЫ

Добра спаць у гумне на сене. Прыемна шамаціць вецер па страсе. Доўга чуваць песні дзяўчат і хлопцаў на вуліцы. Калі ўжо нават пойдуць спаць па хатах, па гумнах, песні ўсё яшчэ звіняць у вушах, навяваюць дрымоту. Забрэша недзе адзінокі сабака і хутка сціхне. Вёска засынае.

Іван Падаляка ляжыць па сене, накрыўшыся коўдраю, і думае, думае... Справы набываюць нейкі іншы паварот. У тугутаўскіх рэформах Падаляка адчувае нейкі спад у падзеях. Родзяцца ў яго ілюзіі — а можа, і пойдзе ўсё на лепшы лад? «Чуваць, што ў вёсцы адкрыецца школа,— вось добра было б працаваць у ёй настаўнікам.

Жыць дома, працаваць, карыстацца павагай насельніцтва. Што датычыць камячэйкі, у якой ён сакратар, то гэта адно другому не павінна перашкаджаць. Калі такія рэформы будуць пашырацца, безумоўна, партыя павінна

ўрэшце стаць легальнай. Ды і наогул, ужо ёсць грунт на тое, каб пераходзіць больш на легальныя формы барацьбы. Мець свайго войта[1] на чале воласці, сваю раду. Ну, і што ж,— можна жыць». Няважна, што на ячэйцы ён, Падаляка, грозіць кулаком панам і ўсіх заклікае на бязлітасную барацьбу. «Гэта падабаецца Захару Зубцу,— думае Падаляка,— няўрымсліваму мужычку, які мужычком і застанецца. Ну, а мне, Падаляку, суджаны лёс другі. Маці ўгаворвае жаніцца, узяць дзяўчыну з пасагам. Яно б, зразумела, нядрэнна, але... непісьменная дзяўчына мне не пара. Ёсць адна асоба ў ваколіцы. Не раз бачыў, як яна сціпла стаіць у царкве каля левага кліраса ў цёмным капялюшыку і час ад часу хрысціцца. З багатай інтэлігентнай сям'і. Відаць, чакае жаніха. Жыве з братам, у якога сорак дзесяцін зямлі. Вось бы такую... Ёсць сэнс. Быў бы пасаг і форс. Мала што гаворыць Андрэй, што трэба сваё асабістае жыццё спалучаць з грамадскай працай так, каб адно не пярэчыла другому. Андрэй — залішне ідэаліст. Каб так было ў сапраўднасці, то ўсе павінны былі б парабіцца манахамі».

Але тут у памяці Падалякі ўсплыў той, крыху ссутулены чалавек, агністы прамоўца там, на трыбуне ў лесе, якога ўсе называлі «Стары». Ужо чалавек пажылы, а... нежанаты. Нешта ў гэтым ёсць. Зразумела, ёсць. Ён і з твару выглядае, як быццам аскет.

Падаляка паварочваецца на другі бок. «Трэба заснуць,— зноў думае ён,— бо заўтра чакае праца на гаспадарцы. Павінен прыйсці Захар Зубец пагаварыць аб андываенным дні. Справы, справы... Эх... Калі ж прыйдзе да нас тая часіна, што кожнаму дасць па яго жаданнях і заслугах?» А нехта, стоячы над ім, голасам Андрэя нечакана перапыняў: «Само не прыйдзе, яно здабываецца толькі барацьбой».

Падаляка заснуў і бачыў у сне тую асобу. Яна то расплывалася ў светлым марыве, то стаяла перад ім з застыўшай усмешкай, як быццам пытаючыся: «Ну што ж? Гавары, я слухаю...» А пасля ўсё ахутала густая цемра, у якой рухаліся невыразныя цені і бліскалі гузікі. Бліскалі і знікалі, зноў бліскалі. Пасля пачуўся звон шпораў. Светлая вуліца горада легла перад Падалякам. А, гэта ён сам ідзе і адказвае на прывітанні салдат. І на душы стала прыемна і лёгка.

---

[1] Войт — валасны старшына.

Падаляка расплюшчыў вочы. Праз шчыліны ў гумно пранікалі палоскі праменняў. Над Падалякам стаяў бацька — нізкага росту, хударлявы, са смуглым, чагосьці заклапочаным тварам. Кратаў яго за плячо і ціха паўтараў:

— Іван, Іван, уставай...

Падаляка прыўзняў галаву і запытаўся:

— Ну, чаго?

— Іванка, прыйшла паліцыя... Цябе хочуць бачыць.

Падаляка заварушыўся, скінуў з сябе коўдру, устаў.

— Паліцыя? — перапытаў.— Чаго? Многа іх?

— Чацвёра ў мундзірах, адзін у цывільным. Ну, адкуль жа я ведаю, што ім трэба? Нічога не кажуць.

Калі выйшлі з гумна, Падаляка ля парога хаты ўбачыў гэтых чатырох у мундзірах, а ў пятым, што быў у кепцы і ў плашчы зеленаватага колеру, пазнаў Чарапіцкага. Перад вачыма Падалякі пайшлі цёмныя кругі — гарачы струмень ударыў у галаву. Вось яно як. Напалі на нейкі след урэшце. Паліцыянты і Чарапіцкі здалёк, па меры набліжэння Падалякі, пільна сачылі за ім. Толькі адзін паліцыянт спытаўся ў Чарапіцкага:

— Ён?

— Так, ён,— адказаў Чарапіцкі.

Паліцыянты хутка зрабілі вобыск — спачатку ў Падалякі ў кішэнях, а потым у хаце. Не знайшлі нічога. Далі магчымасць Падаляку паснедаць і сказалі, што ён пойдзе з імі ў пастарунак.

У пастарунку ставілі яго на вочную стаўку з нейкімі незнаёмымі хлопцамі. Потым доўга распытвалі, ці прымаў Падаляка ўдзел у падпале завода бярозаўскай суполкі. Добра для Падалякі было тое, што ўсе хлопцы, якіх яму паказвалі, былі незнаёмыя. Вырашыў усё адмаўляць. На пытанне, хто падпаліў завод, гаварыў, што прыйшлі з лесу нейкія ўзброеныя людзі і падпалілі. Справа, здавалася, была яснай. Тады Чарапіцкі паказаў яму салдацкі мяшок, пакінуты Падалякам тады ў бараку, і спытаўся: «Твой?»

Падаляка і гэта адмовіў. На чацвёртыя суткі Падаляка падпісаў пратакол допыту, у якім значылася, што ён нічога не прызнаў. На пяты дзень Падаляка разам з незнаёмымі хлопцамі быў адпраўлены ў турму.

* * *

Захар Зубец гуляў са сваімі дзвюма дзяўчынкамі ў садочку. Забягаў за куст парэчак і гукаў, прысеўшы: «Ку-

ку, ку-ку...» Дзяўчынкі з пранізлівым дзіцячым смехам беглі яго шукаць. Знаходзілі і абдымалі сваімі ручанятамі.

— Ну, даволі, дзеткі, няма часу, пайду ў дарогу... — сказаў Захар.— Ідзіце да мамы. Вунь яна на агародзе... — паказаў ён пальцам.

Не паспеў апусціць рукі, як над галавой нехта гаркнуў:

— Рукі ўгору!

Захар аж здрыгануўся ад нечаканасці. Кругленькая дзірачка дула вінтоўкі глядзела яму ў грудзі.

— Што вы хочаце ад мяне? — прамовіў Захар.

Два паліцыянты падскочылі і дрыжачымі рукамі абшукалі яго кішэні. Пасля вобыску трэці паліцыянт ускінуў вінтоўку на плячо і дазволіў Захару апусціць рукі. Дзеці Захара аж пасінелі ад плачу і крыку. Тулілі да грудзей сціснутыя кулачкі і тупалі ножкамі. Пачуўшы крык, прыбегла жонка Насця і павяла дзяўчынак у хату. А яны не супіналіся. Ішлі, аглядаліся і клікалі тату.

Захар спахмурнеў, насупіўся.

Непамерная жорсткасць застыла ў вачах. З такім выразам твару пайшоў у хату пад канвоем, а праз нейкі час — у пастарунак. Там не дамагліся ад яго ніводнага слова. Часам у Захара скрыгаталі зубы — яны, здаецца, цяпер маглі б кусаць жалеза. Так і паехаў Захар у турму.

А праз тыдзень прыйшло ў пахіленую хатку Захара другое гора — жонка адвезла на могілкі дзве труначкі — з Ніначкай і Манечкай. Дзеці памерлі ад перапалоху. Гэтую вестку атрымаў Захар у турме праз месяц. Хадзіў згорблены па камеры. Таварышы суцяшалі яго. Суцяшаў і Падаляка. Крыху супакоіўшыся, Захар сеў пісаць ліст сваёй дарагой Насцечцы, якая, застаўшыся ў хаце адна, відаць, білася аб сцяну галавою ў роспачы. Супакойваў Захар сваю Насцечку, прасіў, каб не сумавала, казаў, што жыццё ўсё вылечыць, направіць, што ён хутка вернецца дахаты.

На гора Захара і Насці адгукнуліся і таварышы на волі. Прыйшлі камсамольцы памагчы ў гаспадарцы — насячы дроў, вывезці гной у поле, узараць якую палоску поля...

Наведаў Насцю Паддубны. Дазнаўшыся падрабязна аб прычынах арышту Падалякі і Зубца, кінуўся арганізаваць для іх судовую абарону. Неўзабаве прыехалі з Варшавы два адвакаты ў турму на гутарку з хлопцамі. Справа Падалякі, Зубца і іншых павінна была разглядацца надзвы-

чайным судом. А гэта значыла, што можна чакаць кары смерцю.

На судзе адвакатам удалося «збіць» справу на звычайны суд. У выніку гэтага Падаляка атрымаў дзевяць год турмы, а іншыя па шэсць, пяць, тры гады. Некалькі было апраўдана. Сярод іх быў і Захар Зубец.

Іван Паддубны сам нават пабыў на працэсе. Выйшаў пасля прысуду на вуліцу, правёў разам з натоўпам скаваных хлопцаў да варот турмы і тады вырашыў сустрэцца са Сцяпанам Кавалём, а потым заглянуць у Навасады.

Падаляка і Зубец пазналі Паддубнага, здалёк усміхаліся яму (Падаляка ўсміхаўся крыва), і ён ім адказваў тым жа,— час ад часу памахваючы рукою на развітанне.

* * *

Сцяпан Каваль пачаў пазбягаць адкрытых баёў з карнікамі. Лясныя вёскі ў ваколіцы Дзядоў і далей былі заняты не толькі паліцэйскімі атрадамі, але і рэгулярным войскам. Цэлая рота пяхоты размясцілася і на заводзе Пшэборскага. Панскі ўрад вельмі ўжо, відаць, непакоіла партызанская зона. Нічога дзіўнага... Чатыры гады гуляў па акрузе Сцяпан Каваль, шмат разграміў пастарункаў. Паліцыянты і чыноўнікі баяліся і нос паказаць у вёскі, дзе зусім перасталі плаціць падаткі, больш таго, аралі панскую зямлю, выганялі статак на панскую пашу. Не раз зарыва пажараў барвовіла неба. Гэта сялянскія рукі распраўляліся з панскімі маёнткамі. І людзі чакалі, што вось-вось загінуць паны і над палацам староства зардзее чырвоны сцяг.

Так было да нядаўняга часу. Але вось мінула паўгода, як Сцяпану трэба было ўжо манеўраваць. У партызанскія зоны пачалі пранікаць рэгулярныя вайсковыя часці. Асабліва перашкаджаў Кавалю дзейнічаць атрад, які размясціўся на лесапільні Пшэборскага. Каваль вырашыў звярнуцца за дапамогай у другія партызанскія атрады. Камандзір суседняй зоны абяцаў дапамогу, сказаў час і месца, калі і дзе яе сустракаць.

І вось Сцяпан стаў са сваім атрадам на паляне, недалёка ад завода, паслаўшы двух партызан для сустрэчы падмацавання. Час ішоў, а яго не было. Пасланыя партызаны вярнуліся ўстрывожаныя: на галоўнай лясной дарозе паказаўся конны атрад рэгулярных войск. Сцяпан вымушаны быў адмовіцца ад свайго плана. Рушылі «гусь-

ком» па сцежцы ўздоўж дарогі нізінаю да вёскі. Сцяпан быў упэўнены, што ў гэтую нізіну салдаты не адважацца пайсці. Але калі партызаны падышлі да вёскі, яны былі абстраляны з засады, вёска была ўжо занята варожай пяхотай. Партызаны папаўзлі, агінаючы малады сасоннік.

Усё было б добра. Былі б не толькі трафеі, але і палонныя, калі б не наляцелі коннікі. Бой быў люты. Няроўны бой... Усё ж такі коннікі былі рассеяны. Яны страцілі нямала забітых і параненых. Але і Сцяпан Каваль недалічыўся сваіх пяці байцоў.

Атрад перайшоў тую глухую балотную нізіну, якую ў свой час праходзіў паручык Ельскі, і спыніўся ў непрыступным месцы.

Седзячы, як заўсёды, на пні, Сцяпан абдумваў план далейшага дзеяння. Не ведаў Сцяпан, што яго сусед ледзь выйшаў з акружэння, таму і не змог выканаць свайго абяцання.

Хоць Сцяпан і адчуваў, што справы не ладзяцца, што недзе нешта рвецца, але не ў яго характары было паддавацца паніцы.

І зусім павесялеў Сцяпан, калі партызаны прывялі ў лагер Хведара Дудзько.

Як ён ні прыслужваў панам, не змаглі яны яго ўсцерагчы ад партызанскіх рук. І вось ён стаіць перад Кавалём і дрыжыць як асінавы ліст.

— Не дрыжы. Чаго дрыжыш? Будзь такім спакойным, як тады, калі піў з паручыкам каньяк і еў Данілавых курэй. Зараз хлопцы і нам прынясуць партызанскую ежу... Вось будзем есці і гутарыць...

Дудзько чэрпаў суп з кацялка, глытаў яго цераз сілу, спалохана-панурымі вачыма паводзіў навокал, але больш усё глядзеў у кацялок. Урэшце сказаў:

— Адпусці, Сцяпан. Зямлю тваю, што я купіў, аддам табе назад задарма.

Сцяпан усміхнуўся і адказаў:

— Гэ... што выдумаў! Ты, брат, такое выдумаў, што сам цар Гвідон таго не выдумае... А хіба народ цябе адпусціць? Як ты думаеш? — спытаўся Сцяпан.

Хведар маўчаў.

— Маўчыш. Не любіш народ... Ну, то гневайся сам на сябе... Зараз зробім над табою суд...

Так разлічыўся Сцяпан з Хведарам Дудзько.



Піліп Пестрак з былым камандзірам
Вілейскага партызанскага злучэння П. Маркавым
на возеры Нарач.
*1954 г.*



Піліп Пестрак і Лідзія Абухава.
*Ялта, 1959 г.*

...Нягледзячы на балотную дрыгву, насельніцтва прыносіла партызанам яду. Прыносіла раз сама Мар'яна. Яна перадала Сцяпану, што з ім хоча бачыцца будачнік Пятрусь і пагаварыць па нейкай вельмі важнай справе.

Мар'яна пастарэла ад гора, ад усякіх страхаў і турбот. Цёмныя вочы былі зацягнуты тугою. Але, як прыйшла ў лагер, неяк выпрасталася, павесялела, усміхнулася Сцяпану, які ішоў да яе насустрач.

Выкладваючы з мяшка хлеб, сала, пыталася ў Сцяпана:

— Ну, а як вы не пераможаце, што тады будзе з намі?

Сцяпан адказаў:

— Дзівачка... Не пераможам мы, пераможуць другія... Ты, Мар'яна, знайдзі сабе чалавека ў хату, але харошага, свайго чалавека. Не так будзе маркотна жыць...

— Не так лёгка забыць Данілу... — адказала Мар'яна і на хвіліну задумалася.

Мар'яна пайшла. А ўвечары Сцяпан паслаў двух партызан да будачніка Петруся.

Будачнік прыйшоў і перадаў, што выдадзен загад моцна ахоўваць чыгунку, бо па ёй будзе ехаць сам ваявода.

— Нейкі новы ваявода... назначаецца... — дадаў ён.

Сцяпан падзякаваў будачніку і сказаў:

— Ідзі дахаты і сядзі ціха... Аглядай чыгунку, усё як трэба... Мы крыху ўжо чулі аб гэтым. Добра, што сказаў.

Назаўтра рана Сцяпан узяў з сабою шаснаццаць партызан і падышоў да чыгункі.

...Пан Даўнаровіч, назначаны ваяводам на Палессе, ехаў спецыяльным поездам. Усіх вагонаў у поездзе было пяць, разам з вагон-салонам. Паны настолькі баяліся крэсаў, што ваяводу суправаджала дзвесце... не салдат, а афіцэраў. Паны не давяралі нават сваім радавым салдатам.

Сам Даўнаровіч сядзеў у вагон-салоне ў акружэнні афіцэраў і частаваўся адмысловай выпіўкай і закускай. Калі мінулі будку Петруся і праехалі пару кіламетраў, служба поезда далажыла, што наперадзе нехта махае чырвоным сцяжком. Усе ўсхапіліся з месцаў. На паголеным да глянцу смуглаватым твары пана Даўнаровіча з'явілася бледнасць. Але ён, разгладзіўшы вусы, спакойна агледзеў афіцэраў, якія стаялі навокал стала, і сказаў:

— Трэба загадаць, каб спынілі поезд, бо можа быць папсавана чыгунка...

Затым запрасіў усіх сесці і сеў сам. Глянуў у акно.

Над ляснымі прасторамі свяціла сонца. Насустрач поезду бегла суцэльная паласа лесу, потым паплылі хмызнякі, а недалёка зноў набліжаўся лес. Там вось і віднеўся чырвоны сцяжок.

Поезд спыніўся, і тут жа грымнуў выбух перад паравозам. Усе ўздрыгнулі і кінуліся да выхаду, але ім насустрач па вагоннаму праходу ішоў ужо Сцяпан Каваль з кольтам напагатове. За ім крочылі чатыры партызаны. Ваявода і афіцэры, убачыўшы магутную постаць Каваля, кінуліся назад у вагон. А Сцяпан ішоў і загадваў:

— Здаць зброю! Хто не здасць, будзе на месцы расстраляны... — Астатнія дванаццаць партызан рабілі тое самае ў іншых вагонах.

Ваявода шэптам перадаў загад: «Здаць зброю!» Афіцэры з шумам пачалі здаваць вінтоўкі і рэвальверы. Партызаны вымалі замкі з вінтовак і разам з рэвальверамі кідалі за вокны. Так ішлі па вагонах, пакуль не раззброілі недзвесце афіцэраў. І дзіўна, усе былі так ашаломлены нечаканасцю нападу, што анямелі, ніхто не прамовіў ні слова. Бледныя, дрыжачыя, яны здавалі зброю і стаялі як аслупянелыя. За шаснаццаццю партызанамі і семнаццатым камандзірам ім уяўляўся цэлы атрад, які, невідочны, сочыць, глядзіць з гэтага вось таямнічага лесу. Ім здавалася, што даволі аднаго руху супраціўлення, і залпы пахаваюць усіх.

Сцяпан Каваль увайшоў у салон і акінуў усіх позіркам.

— Бачу, што ўсе тут ваенныя. А хто ж з вас ваявода? Напэўна, вы? — сказаў Сцяпан і ткнуў дулам кольта ў Даўнаровіча, які адзін быў у шэрым цывільным касцюме. Зрэдку пасівелыя валасы пана Даўнаровіча крыху ўздыбіліся, твар раптам неяк схудзеў.

Вочы з-пад брывей глядзелі на Сцяпана, як на прывід.

— Так, я ваявода... — адказаў пан Даўнаровіч,— што пану патрэбна? Чым магу служыць?

— Прашу ісці з намі,— загадаў Сцяпан і, саступіўшы ўбок, даў дарогу збянтэжанаму ваяводу... Бліскалі і мякка рыпелі лакіраваныя гамашы, мільгалі белыя шкарпэткі з-пад штанін, калі ваявода ішоў па калідоры вагона.

Як толькі ваявода стаў на невялічкай палянцы, парослай сакавітай травою, Сцяпан агледзеў яго з галавы да ног.

— Ваявода быў бы з цябе нішто сабе — і вусы і бруха так, як ва ўсёй панскай пароды. Але... ваяводам ты не будзеш.

— Хамы, бандыты! — адважыўся прамовіць пан Даўнаровіч.

— Распранайся! І нагола! — сурова загадаў Сцяпан.— Мы табе на прыкладзе пакажам, як ваш брат вякамі лупцаваў нашага брата. Больш нам нічога не трэба... Як бачыш, на бандытызм у нас няма ахвоты. Мы бандытызмам не займаемся, вёсак не палім, як вы.

Пан Даўнаровіч стаяў, апусціўшы галаву.

Сцяпан узяў кольт і прыцэліўся. Даўнаровіч слізгануў спадылба вачыма і пачаў распранацца.

Так на сакавітай мураве партызаны адлупцавалі ганарыстага ваяводу, вернага стаўленіка Пілсудскага, які ехаў з «гістарычнай місіяй» паланіць, паланізаваць і акаталічваць беларускі край.

Але гэтага было мала. Калі, па загаду Сцяпана, пан Даўнаровіч устаў, ледзь трымаючыся на дрыжачых нагах, Сцяпан запытаўся:

— Ну, як — смачна? Не думаю, каб было смачна. А ты, напэўна, ведаеш, як нашага брата вы прымушалі некалі танцаваць з вучонымі мядзведзямі? Ну, пакажы нам гэтую штуку.

Ваявода быў вымушаны выканаць і гэта. Афіцэры глядзелі з вокнаў вагонаў і закрывалі рукамі твары.

Ваявода танцаваў...

* * *

Камуністы разумелі, што адкрытая ўзброеная барацьба ўжо можа прывесці толькі да дарэмнай страты лепшых сіл народа. У пісьме ЦК, разасланым ва ўсе партызанскія атрады і ячэйкі, тлумачылася, чаму трэба спыніць узброеную барацьбу. ЦК заклікаў камуністаў аддаць усю ўвагу арганізацыйна-масавай рабоце сярод рабочых і сялян. Трэба было няспынна выкрываць сапраўднае значэнне пілсудчыны, як агентуры міжнароднага імперыялізму.

Рэвалюцыйна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі, як і ва ўсёй Польшчы, уступаў у новы, складаны і адказны перыяд.

З гэтым і пайшоў Паддубны да Сцяпана Каваля.

Нялёгка было яму прабірацца. Раз'езды карнікаў на лясных ускраінах, частыя налёты паліцыі на сёлы і хутары прымусілі Паддубнага ісці вакольнай дарогай да вёскі Дзяды.

Усё гаварыла аб тым, што метады барацьбы трэба мя-

вяць. Але як сказаць пра гэта людзям, каб яны правільна зразумелі становішча і не апусцілі рук?

Сосны перапляталіся галінамі з цёмнымі елкамі, асінамі. Лес цягнуўся вузкай паласою, ці, як тут гавораць мясцовыя людзі, «вострава́м» сярод багністага балота.

На ўскраіне Паддубнага спыніў вартавы партызан. Ён свіснуў, і адразу ж з гушчару выйшаў другі партызан з вінтоўкай. Гэта быў Макар Краўчук.

— Завядзі да камандзіра,— кіўнуў па Паддубнага вартавы.

На ўскраіне доўгая лясная трава, як ліяны, абвівала непралазныя кусты лазняку. Далей кустоў было менш, лес сям-там нават праглядаўся далёка.

Макар вёў Паддубнага і думаў: «Нездарма, відаць, прыйшоў сюды наш кіраўнік».

— Чаго ты такі задумены? — спытаўся Паддубны.

— Ды няма чаго весяліцца. Усё хаваемся. Калі гэта скончыцца?

Паддубны дапытліва глянуў на Макара і нічога не адказаў.

Наперадзе віднеўся агонь, навокал якога папаўляжалі партызаны. Ім, можа, хацелася заспяваць якую-небудзь разудалую, але... нельга. Такі строгі загад камандзіра. Некалькі чалавек галіліся. Адны прымацавалі асколкі люстэрка на галінках маладых сасёнак, другія глядзеліся ў звычайнае шкло, прыстаўленае да чорных кепак.

А вось і «штаб» Каваля — наспех зроблены з чароту невялікі шалаш.

Стомлены і крыху нібы задуманы, Паддубны прывітаўся са Сцяпанам і моўчкі цяжка сеў на пень. Сцяпан пільна разглядаў яго, не спяшаўся з гутаркай. Толькі запытаўся:

— Можа, хочаш есці?

Паддубны глянуў Сцяпану ў вочы, і тонкая ўсмешка прабегла па твары. Адказаў жартаўлівым тонам:

— Хачу. Што ты думаеш, я — дух святы?

Тады Сцяпан яшчэ пільней прыгледзеўся да Паддубнага, і сапраўднае спачуванне засвяцілася ў вачах.

— Бачу, што цяжка не толькі нам...— сказаў ён.

— Не бойся,— адказаў Паддубны,— цяжкасці яшчэ наперадзе.

Паддубны еў хлеб з салам і гаварыў:

— Расстаў добра варту навокал, каб нам ніхто не перашкодзіў. Буду мець з табою вялікую гутарку.

— За варту не бядуй. Стаіць. І з гутаркай не спяшайся. Адпачні. Скора павінен прыйсці Сава...

— А дзе ён? — спытаўся Паддубны.

Сцяпан абыякава адказаў:

— Ат... Пайшоў з хлопцамі ў адно месца... Аб'явіўся недалёка нейкі прапаведнік — баптыст ён там ці які чорт?.. Чмуціць народ, нас называе антыхрыстамі і — чым хочаш... Вось хочам уставіць яму мазгі...

Паддубны задумаўся. А потым сказаў:

— Розная халера падымае галаву... Яшчэ чаго не хапала — баптыстаў... Баптысты... гэта — рэч шкодная... Яны з Амерыкі фінансуюцца, Сцяпан... І ўсё на нашу галаву... Буржуі ведаюць, што робяць. Грошай на гэта не шкадуюць... Раз папы разбіты, ксяндзы послуху не маюць,— давай што іншае, абы было... Давай баптыстаў...

— Нічога... Як мы яго тут крыху памацаем, то ён палепшае...

— Асцярожна...

— А што, цацкацца з ім? — адказаў Сцяпан нахмурыўшыся.— Мы яго прымусім, каб на тым жа сходзе адмовіўся ад сваіх слоў. І ўсё...

— Гэта, можа, і правільна,— сказаў Паддубны, даядаючы хлеб з салам.

Пасля ён разлёгся на траве пад сасною і, падклаўшы рукі пад галаву, некаторы час глядзеў у неба. Там плыла невялічкая беласнежная хмарка. Нейкай лёгкасцю павеяла ў душы Паддубнага, калі ён сачыў за хмаркай. І як ён дагэтуль не заўважаў, што так лёгка, прыемна глядзець на воблачкі? Розныя хмары плылі над яго галавою ў розныя часы, але, каб адчуць у сабе такую лёгкасць, яшчэ, здаецца, не даводзілася. Хіба толькі, можа, калі-небудзь у дзяцінстве. І не ўсведамляючы, адкуль гэта прыйшло, Паддубны пачаў дэкламаваць:

Ночевала тучка золотая
На груди утеса-великана...

Не дакончыўшы страфы, падняўся.

— І што гэта за чуласці плывуць у душу, Сцяпан? — спытаўся паўжартам.— Як ты скажаш?

— Можа, якая ахмістрыня табе ўпадабалася? — адказаў Сцяпан і патузаў Паддубнага за плячо.

— Не, брат, не гэта... Не меў такога шчасця... Слухай уважліва, што я табе буду гаварыць...

Паддубны крыху памаўчаў і потым прамовіў:

— Пара, Сцяпан, канчаць партызаніць...

Сказаўшы так, насцярожана пачаў слухаць шум лесу — ці не крыкне адтуль хто-небудзь: «Не згодзімся!» Але адтуль, апрача шуму, нічога не было чуваць. Толькі Сцяпан, які ляжаў побач, заварушыўся. Ён сеў і, падаўшыся наперад да Паддубнага, запытаў:

— Паўтары яшчэ раз, што ты сказаў?

— Пара, Сцяпан, канчаць партызаніць,— паўтарыў Паддубны.

— Гм... што гэта азначае?

— Гэта азначае, што на свеце нешта змянілася не ў нашу карысць,— ужо сур'ёзна сказаў Паддубны.

— То бо ж бачу, што ты ўсё пад'язджаеш з нечым... Чуласці нейкія... Не, Іван, гэтага мы не зробім. Будзем ваяваць далей... Можаш сабе жартаваць колькі ўлезе...

Паддубны ведаў, што цяжка будзе пераканаць Сцяпана ў неабходнасці спыніць партызанскую барацьбу. Выняў з кішэні і прачытаў яму адозву КПЗБ. Па меры таго як Сцяпан слухаў, панурым ценем пакрываўся яго твар. Здавалася, што ён зараз усхопіцца з месца і ад гневу і пратэсту вырве сасну... Але Сцяпан, закусіўшы губу, толькі прыўстаў на адно калена і, ссунуўшы пасівелыя бровы, запытаўся:

— То як-то? Столькі паклалі сіл... І паноў выпусціць на волю, каб і далей пасвіліся на нашых палях?

— Трэба ўжо інакш брацца за паноў, Сцяпан... А так — можам загубіць усю справу... Войска табе назаляе?

— Назаляе... Думаю заўтра мяняць стаянку,— адказаў Сцяпан.

— Ну, вось бачыш... На войска ворага нам трэба мець такое ж войска... Ты думаеш, Сцяпан, мне не цяжка? Яшчэ як...— сказаў Паддубны і дастаў з кішэні польскую газету. Гэта быў орган польскіх юнкераў-эндэкаў «Газета Варшавска».— А цяпер паслухай другое,— працягваў Паддубны і пачаў чытаць:

«Тыя абставіны, што ў XX веку можа існаваць у культурнай дзяржаве прастора, якая з'яўляецца нейкімі джунглямі, спакойнай базай для ўсякіх банд, якія шукаюць там укрыцця і насміхаюцца з усіх старанняў паліцыі, прымушаюць нас моцна непакоіцца аб нашай уладзе. Дзесяткі людзей, якія хаваюцца ў пушчах, у сваіх адозвах заяўляюць, што яны вядуць палітычную барацьбу, каб знішчыць польскую акупацыю ў Беларускім краі, раскід-

ваюць праклмацыі ў гэтым духу, бабы носяць ім харчы ў лес... З усяго гэтага відаць, што паліцыя не спраўляецца з гэтым рухам. Адзін выхад — заняць гэтыя пушчы войскамі» [1].

Паддубны скончыў чытаць, а Сцяпан прамовіў:

— Усё ведаюць, каб іх выпатрашыла... Вось узлезлі на нашу шыю...

— Пачакай, яшчэ не ўсё. Тут ёсць больш нахабнае...— адказаў Паддубны і дастаў з кішэні другую газету.

— Ну, чытай, чытай... Будзем слухаць.

Паддубны чытаў:

«Калі на працягу некалькіх год не будзе перамены, то мы будзем мець там (на ўсходніх крэсах) усеагульнае ўзброенае паўстанне. Калі не патопім яго ў крыві, яно адарве ад нас некалькі правінцый... Зараз жа трэба вылавіць усе банды, трэба прасачыць, дзе ім памагае мясцовае насельніцтва, і з усім гэтым гультайствам расправіцца коратка і без пардону. На паўстанне — ёсць шыбеніца і больш нічога. На ўсё тубыльчае (беларускае) насельніцтва з верху да нізу павінна ўпасці жудасць, ад якой у яго жылах застыне кроў» [2].

Паддубны, скончыўшы чытаць, паглядзеў моўчкі на Сцяпана. Той кракнуў і сказаў:

— Запалі іх агонь!.. То ж яны нават добра кажуць — «можа быць агульнае паўстанне»... Правільна, можа быць і будзе... Хай яны не страшаць — «застыне кроў...» Кроў народная не застыне...

Паддубны сумна ўсміхнуўся. Потым сказаў:

— Трэба падумаць, Сцяпан, што рабіць з людзьмі... Дахаты пакуль што яны вяртацца не могуць... Калі не шыбеніца, то турма іх сустрэне...

— То ты і сапраўды думаеш гэта рабіць? — ускіпеў Каваль.— Хіба мы не можам яшчэ спаліць некалькіх асаднікаў або адлупцаваць яшчэ хоць аднаго ваяводу? Га?

— Усё гэта можна, але што з таго? Без агульнага паўстання — гэта кропля ў моры... А паўстанне зараз ужо немагчыма.

— Цьфу! — сплюнуў Сцяпан.— Нарабілі работы, кашы намяшалі, а дакончыць... Эх...

Каваль устаў, выняў нагайку з-за пояса, паглядзеў на свой лагер, дзе партызаны адпачывалі групкамі, павёў вачыма па лесе навокал і сказаў:

---

[1] «Газета Варшавска», 1925, № 155.

[2] «Жэч Паспаліта», 1925 г.

— Няўжо трэба будзе развітацца са сваімі малойцамі, з лесам? Запалі яго агонь! Невясёлую вестку ты прынёс, Іван...

І, можа, як ніколі, упершыню заныла сэрца Сцяпана. Ён звесіў галаву з пасівелым чубам і задумаўся. Перад вачыма бачыў толькі паходы, маршы... Сібір, Урал, Чэлябінск... Волга, Царыцын...

— Вось табе і старана родная... Цярпі пакуль...— сказаў сам сабе Сцяпан, а потым, пакруціўшы галавою, дадаў:

— Не, не расстануся я са сваімі малойцамі... Прайдзісвет яшчэ пойдзе ў свет! Устань, Іван, збяром хлопцаў і пагаворым, як нам заўтра сустрэць усход сонца, як нам ясна яго ўбачыць. Ён будзе нашым компасам, Іван...

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## Раздзел першы

### ТУМАН

Амаль вобмацкам ішоў Андрэй па дашчанаму тратуарчыку галоўнай вуліцы мястэчка Глушэц, кіруючыся на шлях — дахаты. З цёмных хмар церусіла імжа. Яна вадзяністым пылам зіхацела ў агнях, якія палосамі падалі ўпоперак вуліцы з вокнаў местачковых дамоў і хат і асляплялі Андрэю вочы. Бліскала час ад часу вада ў рыштках і ў ямінах-вырвах пасярэдзіне брукаванай вуліцы. Ужо не чуваць ні стуку колаў, ні гоману. Усё пахавалася пад гонтавымі дахамі. Толькі цені сям-там прабягаюць у вокнах. Няроўна свецяць агні — дзе святлей, дзе цямней. У Ісэра Цукермана, напрыклад, вялікія чатыры акны, поўныя святла. Ісэр Цукерман — сын мануфактурнага купчыка, але выдае сябе за марксіста. Уздыбленая кучма кучаравых валасоў над выпуклым ілбом і маленькім гарбаценькім носам. Шэры касцюм у палоску, з камізэлькай, з-пад якой выпірае круглы жывоцік, хоць Цукерман яшчэ малады. Кароткія ногі, абутыя ў чорныя, варшаўскай моды бацінкі, з вострымі насамі, чамусьці заўсёды загнутымі ўверх амаль пад простым кутом. Гэта няйначай ад хады Цукермана, бо ён так хутка перабірае ножкамі, што атрымліваецца адзін гук — чык-чык, чык-чык. І скрып ад бацінкаў проста музыкальны. Цукерман, умільна ўсміхаючыся, дае гэтаму скрыпу нават палітычнае параўнанне — бацінкі ў яго не скрыпяць, а дыскуціруюць.

Цукерман амаль заўсёды ходзіць без шапкі і адзін раз на заўвагу Андрэя аб гэтым матнуў галавою, бліснуўшы шэрымі вачыма, і сказаў:

— Навошта мне шапка? Навошта мне шапка?

Потым Цукерман прыгладзіў валасы рукою, сплюнуў па прывычцы ўбок і працягваў:

— А ведаеш?.. У нас у мястэчку кажуць, што я падобны... на Карла Маркса...

І ногі Цукермана патупалі яшчэ часцей.

— Няма, брат, тут паблізу курэй, а то і яны смеху нарабілі б,— адказаў Андрэй.

Ён нават спыніўся на момант супроць дома Цукермана, паглядзеў на вокны. Цені паважліва праходзілі за фіранкамі. Уявіў сабе Цукермана — стаіць ён, адставіўшы правую нагу ў бацінку з задзёртым носам, і, адхіліўшы крысо касцюма, з паважнасцю купчыка сунуў руку ў кішэню. «Эх ты, дзеяч,— падумаў Андрэй уздыхнуўшы.— Ды адна бяда, што на лбе нічога не напісана, адна муць». За час адсутнасці Андрэя Цукерман быў прыняты ў члены партыі. Андрэй пасля знаёмства з ім меў гутарку з Грышам — пратэставаў супроць такога нядбалага стаўлення да адбору людзей. Грыша, пачырванеўшы, развозіў рукамі і казаў, што на гэтым настаяў Якаў, сын Міхала. Грыша, бліскаючы праз акуляры вінаватымі вачыма, казаў:

— Пакуль што нічога... Кожны месяц дае на МОПР і дае нават добра...

Гэтым ён хацеў хоць трохі чым-небудзь сябе апраўдаць.

Андрэю нават шкада стала Грышу: «Як ён перажывае, небарака...»

...У доме каваля Міхала, наадварот, вокны амаль цёмныя — скупое святло даходзіць аднекуль з глыбіні памяшкання, нібы з-за перагародкі. Андрэй уяўляе сабе, як гэта ён ужо не раз бачыў: Якаў цяпер, напэўна, схіліўся над «Людвігам Феербахам» Энгельса. Нядаўна яму трапіла ў рукі гэтая кніжка. Пачытаўшы яе, ён не вытрымлівае і перадае думкі Энгельса свайму брату Хаіму, найлепшаму кавалю Міхала, які ўсё больш і больш пачынае прымаць удзел у палітычных гутарках. Ён, напэўна, цяпер п'е трэцюю ці чацвёртую шклянку чаю і час ад часу пакрыквае на дзяцей, якія шумяць за другім канцом стала. А на стале — непарадак. Наплёскана, стаяць талеркі з недаедзеным супам, раскіданы лыжкі, відэльцы... Стары Міхал, абхапіўшы шклянку чаю рукамі, як быццам грэючы іх, жартуе з дзецьмі і часам заходзіцца трапяткім смехам.

Заўвага Хаіма датычыцца не толькі дзяцей, але і бацькі. У адказ бацька дробна замахае рукою і скажа:

— Ну, ну, ужо не будзем...

Меншыя сыны нахіліліся над кніжкамі. А два малодшыя кавалі сядзяць, стомленыя пасля працы, над пустымі талеркамі і маўчаць. Яны хутка пойдуць на адпачынак.

З кухні выйдзе гаспадыня, маці,— пасівелая, стомле-

ная і нервовая. Накінецца з крыкам па малых, чаму не даелі супу. Пачне збіраць пасуду. На яе дакоры адкажа жонка Хаіма, якая сядзіць на абабітай чорнай скурай парванай канапе, з якой там-сям праз дзіркі павывальвалася клочча ваты. Яна корміць грудзьмі дзіця. Гэта ўжо трэцяе — дзяўчынка. Два хлопчыкі — аднаму пяць, другому тры гады — бавяцца з дзедам. Жонка Хаіма, шчуплая, русавалосая, прамовіць:

— Я сама зараз збяру пасуду...

Але старая не слухае — нясе пасуду на кухню і, аглядаючыся ідучы, усё дакарае дзяцей за непаслухмянасць.

...Але ж і туман... Здаецца, такога яшчэ ніколі не было. Мястэчка ўжо засталося за плячыма. Аглянешся — яго не відаць. Патанула ў імжы. Толькі зарыва ад агнёў нагадвае аб ім. А наперадзе — цёмна і мутна. За крок не відаць нічога. Здаецца, што хмары апусціліся і клубяцца, плывуць па зямлі. Плывуць павольна, прыпадаючы да палеткаў, асядаюць у далінах, над балотамі, над рэчкамі. Ахутваюць незлічоныя вёскі з краю ў край...

Андрэй ідзе па гразкім гасцінцы абочынай,— то спаткнецца, то ступіць нагою ў лужыну. Стане, прыслухаецца. Недзе глуха цурчыць вада па разоры і яшчэ больш падкрэслівае цішыню і глуш. Навокал дыхае нават цеплынёй, толькі слата халодная прасочваецца праз куртку Андрэя. І часам холад прабягае па спіне. Пахне прамоклай зямлёю, а ў балотных нізінах пахне мохам. Шмат грыбоў вырасце за гэтую ноч у лясах...

А ў незлічоных вёсках, абвітых імглою, пэўна, многа за гэтую ноч вырасце ў душах людзей новага, светлага. У душах людзей вырастуць надзеі. Кожная хата будзе гаманіць аж за поўнач аб зямлі, аб правах, аб тым, што мяжа, якая аддзяляе краіну ад Усходу, хутка знікне.

Андрэй ідзе і думае аб гэтым. Ідзе ён з павятовага з'езда Грамады, дзе і яго выбралі членам камітэта. Улады адкрыта не рабілі перашкод, але куды ні зварталіся ініцыятары, нідзе не знайшлі памяшкання для правядзення з'езда. Урэшце, пасля доўгіх турбот, з'езд сабраўся ў невялічкай пачатковай школе.

На з'ездзе выступалі два беларускія паслы сейма, якія прыехалі з Вільні. Школа была перапоўнена людзьмі рознага ўзросту, у сярмягах, у куртках. Шамацелі газеты. Усе чыталі ў іх апавяданне Цёткі — «Прысяга над крывавымі разорамі». Ды што,— баявога настрою ў людзей хапала даволі.

Людзі слухалі паслоў і штосьці не адчувалі той праўды, якой яны чакалі. Ну, вядома, на тое паслы пісьменныя, асвечаныя людзі, каб гаварыць усё больш па-кніжнаму. Слова «адраджэнне» змянялася словам «рэнесанс». Андрэй чуў, седзячы ў чацвёртым радзе, як шэпт прабег па зале,— што гэта такое «рэнесанс»? Так людзі пыталіся адзін у другога, робячы з «рэнесансу» — «ранісанс». Кожнаму хацелася пачуць больш дакладна: а як будзе з зямлёю для сялян? Калі пазбудземся асаднікаў? Як спыніць знішчэнне лесу рознымі купцамі-прамыслоўцамі? Праўда, сёе-тое гаварылася аб зямлі і аб асадніках. Але паслы найбольш гаварылі аб адраджэнні, сягаючы ў мінулае — да Магдэбургскага права ў Полацку, да св. Ефрасінні... Слухалі сяляне-дэлегаты і чакалі, што ж будзе далей? А далей так нічога і не было. Далей пачалі складаць рэзалюцыю.

І тут атрымалася нечаканасць — не для дэлегатаў, а для паслоў, а можа, і для каго яшчэ. Бо Андрэй бачыў, як зморшчыўся старшыня з'езда Кананец, малады чалавек з мясістым кірпатым носам. Кананец у мінулым — сакратар адваката. Яго на з'ездзе выбралі сакратаром Глушэцкага павятовага камітэта Грамады. Кананец зачытаў пункты рэзалюцыі: аб змаганні за ўдзел беларусаў у гміннай радзе, аб змаганні за беларускую школу, аб змаганні супроць шарваркаў, супроць асаднікаў. Быў пункт і аб свабодзе слова, друку на роднай мове.

Калі тэкст рэзалюцыі быў зачытаны, старшыня Кананец запытаўся:

— Хто, можа, мае што-небудзь дадаць?

Настала мінутная цішыня. Здавалася, што дадаць не хоча ніхто, але адначасова кожны тоіць у сабе шмат чаго... Момант чакання,— і зараз будуць галасаваць. На тварах паслоў і Кананца з'явілася ўпэўненасць, што дадаткаў ужо не будзе ніякіх. Аж з самых задніх радоў падымаецца нізенькі сухарлявы селянін у абшарпаным кажушку і кажа:

— Я прашу ўнесці ў рэзалюцыю яшчэ тое, каб нашых сыноў не пасылалі служыць ваенную службу ў Познань, на другі край Польшчы, бо дзе да чаго тут прыйдзецца, дык паны нас пазапорваюць. Не будзе нас каму бараніць... Хай нашы сыны служаць тут, на Беларусі. Бо, бачыце, на нашых палях старых акопаў не даюць заворваць... Ім нейкі плацдарм патрэбен. Адмяніць усё гэта!..

Зала ўскалыхнулася і зашумела... Усе азірнуліся, агля-

далі нізенькага сухарлявага селяніна. Кананец, крыху ўстрывожаны, зморшчыўся. Паглядзеў на пасла з запытаннем — што рабіць? Пасол — высокі, смуглявы, з чорнымі валасамі — смактаў папяросу. Усхапіўся з месца і, узняўшы руку, сказаў:

— Добра, дзядзька, з вашай прапановы сёе-тое будзе ўнесена ў рэзалюцыю. Толькі паменш палітыкі, паменш палітыкі...

Пярэчыць адкрыта супроць гэтага пункта азначала б для пасла скампраметаваць сябе перад з'ездам. Апанаса Хмеля на з'ездзе не было. Да яго прыехаў таварыш Васіль, і яны абодва ў вёсцы Забалоцце чакалі Паддубнага. Аб гэтым расказаў Андрэю Аляксей Верас, аднавясковец Хмеля, той, які ў свой час па пастанове тройкі — Паддубнага, Андрэя і Вольгі — быў прызначаны правяраць паводзіны Апанаса. Гэта быў спакойны, разважлівы юнак з тыпова палескім тварам. На шэрых вачах мігцеў налёт колеру балотнай руды. Тое самае на бледнаватым, як вымачаным, твары. Шэрасць твару злівалася з шэрай падпошанай курткай, у якой ён і сядзеў побач з Андрэем на з'ездзе. Шэптам казаў на вуха Андрэю:

— Васіль перадаваў, каб ты заўтра прыйшоў у Забалоцце...

...Андрэй, пераступаючы з нагі на нагу па гразкаму шляху, перабіраў усё ў галаве і, успомніўшы наказ Васіля, нават сказаў сам сабе:

— Ну што ж, пойдзем...

На душы было радасна, але чамусьці не да канца. Сам сабе яшчэ не ўсведамляў прычыны такога настрою. Здаецца, усё ішло нядрэнна,— адчуваў, як пад сховамі туманнай ночы бурліць уся Заходняя Беларусь — ад Пінска да Гродна. Можа, з-за Апанаса Хмеля?

Апанас Хмель, як казаў Аляксей Верас, аратарствуе адкрыта на вуліцах вёсак перад сялянамі. Адкрыта гаворыць нават аб паўстанні.

Вядома, што нейкая доля ценю ўпала і ад гэтага Хмеля. Але галоўнае, відаць, у тым, што няма з кім ад душы пагаварыць пра гэта. Калі б нават убачыў Паддубнага, той сказаў бы, як ужо не раз казаў: «Не час цяпер пра гэта...» Зразумела, Паддубны заняты іншымі справамі, можа, больш важнымі.

Праўда, Андрэю здаецца крыху дзіўным, чаму тое, што трывожыць яго, знаходзіцца недзе ўбаку, хоць, па яго думку, усё гэта немалаважна. «Хто сказаў бы таксама?» Анд-

рэй нават міжволі спыніўся і ўсміхнуўся некуды ў даль цёмнай ночы. «Зразумела, яна... Вольга...»

Два гады мінула з таго дня, як яны развіталіся вось на гэтай дарозе. Тады толькі што пачыналася залатая восень. Яму і ёй было сумна, але яны баяліся сказаць пра гэта, нават намякнуць... Гаварылі пра тое, што яны маюць рабіць, гаварылі пра Савецкі Саюз, дзе таксама пачынаецца восень, але не такая, як тут,— тужлівая, забітая. Хацелася той восені, другой, дзе не трэба было б развітвацца...

Так і развіталіся на дарозе — проста, па-таварыску, змоўчалі аб галоўным... Толькі крыху сарамліва глянулі адно другому ў вочы.

— Ну, ідзі,— сказала Вольга на развітанне,— да барыкад вернешся...

Разышліся. Вольга пайшла ў Запалянку, да Дзям'яна Гарагляда, а Андрэй з клункам за плячыма — у Глушэц, на зборны пункт навабранцаў.

Сягоння Андрэй атрымаў ад яе першае пісьмо пасля звароту з ваеннай службы. Пісьмо вясёлае, нават задорна-вясёлае. Смяецца з яго адзіноцтва.

Андрэй памацаў бакавую кішэню курткі, дзе разам з яе пісьмом ляжала і кніга Леніна — «Нужды деревни». Прыслала таксама яна. «Чытай, мой друг, і лячыся ад сузіральнасці». Андрэй засмяяўся.

Наперадзе пачулася хлюпанне. Андрэй насцярожыўся. Неўзабаве проста перад носам выраслі дзве постаці. Андрэй не паспеў угледзецца ў іх, як два ліхтарыкі бліснулі праменнямі ў твар.

— Хто ідзе? — пачуўся голас з цемры.

— Іду з Глушца, з кірмашу...— адказаў Андрэй, здагадаўшыся, што гэта паліцыянты.

— А-а-а... гэта, напэўна, шябра... З'езд у іх быў сягоння...— сказаў адзін, звяртаючыся да другога, тонам насмешкі.

Яны кпілі са слова «сябра», вымаўляючы яго на свой лад «шябра».

— Запозна ходзіце... шябра...

Асвяцілі яшчэ раз з галавы да ног і дазволілі — ідзі. Пачуццё крыўды на момант агарнула Андрэя. Ішоў і пляваўся, як быццам гэтым хацеў пазбыцца гаркаты, што асела ў душы.

Так... Зямля кожны дзень і нават ноч адчувае нагу акупанта. І здаецца, што ўвесь народ у напружанні — цераз сілу церпіць іх — іх, у падкаваных ботах, з вінтоўка-

мі, з рэвальверамі, з ліхтарыкамі... з абрыдлымі, акаванымі казыркамі. Але цяпер, улічваючы масавасць Грамады, яны, як-ніяк, дзейнічалі больш асцярожна... Больш таго, паліцыя баіцца сялянства.

Па вёсках сяляне нават перасталі плаціць падаткі. Андрэй нават засмяяўся, успомніўшы здарэнне з Дзям'янам Гараглядам.

— Доўга будуць яны помніць тыя мокрыя шальпакі...— заходзіўся ад смеху Дзям'ян, расказваючы, як ён адзін выгнаў з Запалянкі чатырох паліцыянтаў і двух секвестратараў, якія прыйшлі збіраць падаткі.

«Стратэгія і тактыка» Дзям'яна сапраўды былі незвычайнымі. Ён выбег з хаты з крыкам: «А вы чаго тут?»

Абгарэлую качаргу ў яго руках, відаць, паліцыянты палічылі за вінтоўку. Гэта і вырашыла канец «баталіі». Паліцыянты кінуліся ўцякаць. А Дзям'ян адкінуў убок качаргу і, нагнуўшыся, свіснуў. Паліцыянты агледзеліся і ўбачылі — Дзям'ян трымае поўную жменю каровінага калу... Паліцыянты пабеглі з усіх ног. Дзям'ян прымяніў дасціпную выдумку: калі паліцыянты беглі, ён ішоў сярэднім крокам, а калі яны спыняліся, зноў пачынаў крычаць і бегчы, ад чаго паліцыянты зноў кідаліся наўцёкі. Вось гэта і былі тыя «мокрыя шальпакі»...

З дня таго памятнага здарэння мінуў год, а паліцыя ні разу не заглядвала ў вёску за падаткамі.

— Вось, паны, якога страху нагнаў на вас народ. Многа турботы з ім у вас. А будзе яшчэ больш. Мы ўжо аб гэтым патурбуемся...

Андрэй не заўважыў, як апошнія словы вымавіў уголас. «Але мы будзем змагацца не толькі з вамі, паны, а і з такімі, як Апанас Хмель. Не адзін ён захоча пагрэць рукі, бліснуць слоўцам для сваёй кар'еркі...»

Цемра ўсё гусцей і гусцей засцілала дарогу.

«Спазніўся я крыху...— думаў Андрэй.— Сумна ісці аднаму сярод такой цемры. Каб якія ваўкі зноў не перайшлі дарогу».

І ўсё справы... І справы не абы-якія... Затрымаўся ў камітэце. Размяркоўвалі функцыі. Андрэя абралі скарбнікам — збіраць і насіць камітэцкую казну. Старшынёю камітэта выбралі чалавека год трыццаці па прозвішчу Аляксандр Сучок. Цёмнавалосы і чарнавокі, з зямлістым колерам твару, ён гаварыў крыху нараспеў, амаль жаночым голасам. Калі гаварыў, дык абавязкова закладаў правую руку за пазуху або проста пад руку і чухаўся. Бляск

чорных вачэй і як быццам прытоеная ўсмешка на вуснах гаварылі аб тым, што Аляксандр Сучок любіць марыць. Але ў гэтым была і свая небяспека — Сучок дружыў з Апанасам Хмелем. Напэўна, Апанас расказаў яму пасвойму пра Андрэя, бо Сучок неяк дапытліва, з засцярогай глядзеў на Андрэя, яўна тоячы недавер'е.

Каб як хутчэй пабачыцца з Васілём і Паддубным! Не можа быць, каб яны змянілі свае погляды. Пасля звароту з ваеннай службы Андрэй сустракаўся з Паддубным толькі адзін раз. Паддубны сказаў: «Ну што ж... уключайся ў работу... Тваё месца пры мне. Яно не занята. А адносна Апанаса — пакуль што пачакаем. Награнулі справы больш важныя...»

Гэтыя важныя справы і былі нечым іншым, як стварэнне Грамады.

І вось Грамада ўжо дзейнічае...

...Мінуўшы гразкую даліну, Андрэй адчуў пад нагамі мокры стужэлы пясок і прыбавіў кроку. Туман ахінуў прасторы і застыў. Шлях перасякаў вёску, якая свяціла ў тумане цьмянымі агнямі. Яны зліваліся над стрэхамі ў адно суцэльнае мігатлівае зарыва, якое здалося Андрэю ўрачыстым ззяннем. Па іх прабягалі рухавыя цені. Па гэтых ценях Андрэй зразумеў, што вёска не спіць. А калі мінаў вёску, то пачуў гоман, аддалены смех. Моладзь групкамі перабягала па вуліцы ад хаты да хаты, заглядала ў вокны. Здалёк, з туману, даляталі гукі гармоніка... Там жа, пры крайняй хаце, спрачаліся на ўвесь голас. Нельга было вызначыць, колькі стаяла чалавек, толькі папяросы час ад часу ўспыхвалі ў зубах. Нехта рэзкім голасам гаварыў:

— Ну, няхай ранісанс,— абы паноў не было. Вось галоўнае.

А другі голас адказваў:

— Каб не завёў нас гэты ранісанс пад дурнога хату. Дзейнічаць трэба... Бачыш, як лясы пустошаць... А асаднікі ўсё плывуць і плывуць сюды, як плойма... Вось гэта ранісанс, а не тое што ён там крычыць, што мы былі некалі разумнымі, а потым сталі дурнямі... Агледзеліся...

— Ну, вось гэта і ёсць самы ранісанс...

Умяшаліся ў гутарку яшчэ некалькі галасоў, але Андрэй ужо не мог разабраць іх слоў. Ідучы, усміхаўся і думаў: «Асеў людзям на зубах гэты «ранісанс». Недарэчы здалося яму гэтае слова, так няздарма кінутае дэпутатам

у сялянскую гушчу. А сяляне дабіраюцца да толку і, здаецца, ужо дабраліся».

І Андрэю радасна стала за сялян, за пільнасць народу. Стаў пад старой адзінокай бярозай пры абочыне шляху і закурыў. Глянуў навокал. Цішыня і туман. Толькі чуваць, як кроплі сцаты адна за другой падаюць з бярозы на пясок. Неўзабаве будзе лес, мінецца спалены двор графа Ельскага, а потым ужо хутка свая вёска. Так бы і стаяў у цішыні і слухаў свае ўласныя думкі. А думкі плывуць таксама да гэтага «рэнісанса», рамантыку якога хацеў прышчапіць дэлегатам з'езда незадачлівы дэпутат.

І з прастораў, што хаваліся пад туманам, з таго мігатлівага зарыва, якое прамяністым вянком ззяе цяпер над кожнай вёскай, да Андрэя прыйшлі словы: «Змагацца трэба не за мінулае, а за будучае».

Аб гэтым трывожыцца народ. Ён хоча ісці наперад і асцерагаецца, каб хто не павёў яго назад. Так, а не інакш...

...Сосны на гары прывіталі Андрэя ціхім шумам. Гэты шум, здавалася Андрэю, ласкавай хваляй плыў з гары над вёскай Запалянкай, якая, закінутая ў даліну, зусім схавалася ў тумане. Толькі такое самае зарыва, што і над папярэдняй вёскай, зіхацела над стрэхамі. І такія ж самыя цені рухава адбіваліся ў ім.

Андрэй, як толькі ўвайшоў у вёску, адчуў яе рух. Сямтам нехта бразгаў дзвярыма, некуды спяшаючыся. Міма яго з шумам, смехам прабегла група хлопцаў і дзяўчат. Адна з дзяўчат паслізнулася і ледзь не ўпала, спалохана войкнула. На адным з падворкаў з-пад навіслай страхі чуўся хлапечы голас: «Ну, хадзем...» А ў адказ дзявочы: «Іван... Пачакай, пайду іншую хустку завяжу...»

У кожнай хаце адбываўся нейкі незвычайны рух, як быццам усе рыхтаваліся да якога свята ці вяселля. Толькі ў адной хаце Андрэй, на здзіўленне самому, не заўважыў руху. На доўгім дроце вісела лямпа амаль пасярэдзіне хаты. Яна была відаць з вуліцы як на далоні. І навокал яе ні душы — пуста і ціха. Андрэй падышоў да плота і прыгледзеўся бліжэй. Цень засланіў лямпу — значыць, нехта ёсць. Андрэй заглянуў у акно з другога боку і ўбачыў: на лаве сядзеў стары Нічыпар, гаспадар хаты. Акуляры ў драцянай апраўе сядзелі на доўгім пераносці. У руках дрыжала газета, звешаная загалоўкам уніз. Андрэй прачытаў: «Наша праўда». Дзядзька Нічыпар варушыў губамі — чытаў, час ад часу пагладжваў далонню свае доўгія сівыя вусы, над якімі звісаў востры кончык носа, асядла-

нага акулярамі. Блішчала вялікая лысіна, акаймаваная на скронях пасівелымі валасамі. Часам ён пакручваў галавою, то раптам чухаў патыліцу і ўсміхаўся. Відаць, што ўся сям'я недзе выйшла, і застаўся ў хаце толькі ён — Нічыпар Байдак. Агарнулі старога думы. І вось ён не прапускае ніводнай газеты. Усё чытае і гаворыць людзям, што граніца Беларусі з Польшчай ляжыць над Бугам і што ўсё ж такі яны — паны — павінны ўцячы адгэтуль за Буг.

Андрэй адышоў ад плота з усмешкай уцехі. З такім пачуццём развітваецца чалавек з дзіцем, якое нашчабятала яму многа прыгожа-наіўнага. Праўда, стары Нічыпар не дзіця, але ў яго палітычных поглядах шмат наіўнага. Гэта датычыць не толькі Нічыпара.

А вось і тое самае нізкае месца ў вёсцы, запоўненае гразёю, якая блішчыць ад агнёў, што з вокнаў падаюць палосамі на яе. І тут жа стаіць хата з высокаю прызбай, нават без агародчыка, бо на гразі яго не зробіш. З хаты чулася песня. Андрэй глянуў у акно. Замігцелі прасніцы з кудзелямі, а пры іх дзяўчаты. На лавах сядзелі хлопцы і сярод іх чорнавалосы прыгожы юнак, з гітарай на каленях. Ён няйначай прыйшоў з другой вёскі. Андрэй яго ўжо недзе бачыў, але так і не прыпомніў дзе. Прыемным, мяккім барытонам ён спяваў, перабіраючы пальцамі па струнах гітары. Да слыху Андрэя даляцелі словы:

...Глянь, мая рыбанька, срэбнаю хваляю
Сцелецца долам тума-а-ан...

Андрэй вобмацкам прабіраўся праз нізіну, пераступаючы з каменя на камень. Была, як заўсёды, небяспека ў такой цемры саслізнуць з каменя і загразнуць амаль па калені. Але неяк абышлося без гэтага. Над нізінай — цішыня. Толькі там, за ёю, чуваць галасы, смех. Войкнуў гармонік і заціх. Гэта няйначай Пятрусь Хадыка. Ля яго хаты тоўпіцца шмат людзей — маладых і дарослых. Дзверы ўвесь час скрыпяць і бразгаюць — людзі ўваходзяць і выходзяць. Праз вокны відаць спіны ў кажухах, куртках, дзявочыя хусткі. У хаце бабыля Петруся Хадыкі размяшчаецца канцылярыя гуртка Грамады, старшынёю якога выбраны Дзям'ян Гарагляд.

Нехта з хлопцаў пазнаў Андрэя і крыкнуў:

— Андрэй, заходзь!

Андрэй адказаў, што спачатку зойдзе дахаты, павячэрае і тады... А потым ён падышоў да акна, перш за ўсё яму кінулася ў вочы тое, як Дзям'ян Гарагляд, задраўшы

галаву, стаяў пасярэдзіне хаты ў доўгім кажусе з цыгаркай у руцэ. А ля стала пры лямпе стаяў Пеця Ціханчук і нахіляў да святла невялічкую брашуру.

— Ну, ціха,— звярнуўся Дзям'ян да ўсіх,— чытай, Пеця, далей...

Пеця выбраны сакратаром гуртка і вось выконвае сваю функцыю — чытае праграму Грамады. «...Зямля павінна перайсці ад памешчыкаў сялянам без выкупу»,— голасна чытаў Пеця.

Мужчыны заварушыліся. Адзін дзядзька ў падранай куртцы нават усхапіўся з месца і сказаў:

— Гэта ж, як у Расіі...

— А як ты думаў? — перабіў яго Дзям'ян Гарагляд.— Рэвалюцыя табе не хаханькі... Рэвалюцыя ідзе сюды да нас... І плот панскі, што згарадзілі вунь за Стоўбцамі... не дапаможа. Чытай, Пеця, далей...

А нехта яшчэ не вытрымаў і дадаў:

— Што значыць гэты плот — усё да часу...

Усе пачалі слухаць Пецю. Сярод мужчын сядзеў на лаве і гаспадар хаты — Пятрусь Хадыка, выставіўшы наперад сваю нагу-драўляшку. На каленях у яго ляжаў гармонік. А побач з Петрусём сядзеў з бубнам Лявон у шапцы, надзетай набакір.

...Андрэй, спешна павячэраўшы, прыйшоў на гэты імправізаваны сход. Усе расступіліся і далі яму дарогу, а потым прыціхлі, пазіраючы на Андрэя дапытлівымі вачыма. Брашура была ўжо дачытана. На лаве побач з Дзям'янам Гараглядам Андрэй заўважыў і свайго бацьку. Усе пасунуліся і далі месца Андрэю ля стала, на якім ляжалі брашуры і газеты. Андрэй глянуў на ўсіх і спытаўся:

— Чыталі гэтыя брашуры?

— Чыталі,— адказала некалькі галасоў.

— Ну, і як — усё зразумела? З усім згодны?

Пачаў Дзям'ян.

— Напісана тут, брат, здаецца, усё добра... Толькі ў адным мы не разабраліся...— І Дзям'ян кіўнуў на Пецю, сказаўшы: — Пакажы, Пеця...

Справа датычыла пункта аб самавызначэнні народаў.

— Ага, вось гэтае самавызначэнне... Растлумач нам, Андрэй,— падхапіў Дзям'ян.

Андрэй пачаў тлумачыць. Ведаў, што гэтае пытанне не так лёгка данесці да кожнага. І таму стараўся выкладаць як найпрасцей, больш канкрэтна. Усе слухалі ўважліва. У хаце стала ціха, хоць мак сей. Калі хто дзе варушыўся,

Дзям'ян Гарагляд адным позіркам прымушаў сціхнуць. Ён сам наморшчыў лоб, слухаючы так, каб не прапусціць ніводнага слова. А потым, калі Андрэй скончыў, Дзям'ян устаў з лавы і, як быццам спяшаючыся, каб не згубіць злоўленай думкі, сказаў адным духам:

— Ага... значыць, так... Народ — гаспадар на сваёй зямлі... Абараніць зямлю — гэта значыць заключыць саюз рабочага народа для сумеснай барацьбы супроць паноў — буржуазіі, значыць...

І Дзям'ян памахаў пальцам на ўзроўні галавы, гаворачы далей:

— Эге-ге-ге... Вось як... Без гэтых саюзаў дык і сваёй зямлі над нагамі не ўтрымаеш. Значыць, і польскі рабочы і селянін нам не вораг. І яны ў бядзе жывуць, як і мы, прыгнятаюцца памешчыкамі і капіталістамі...

Нехта сказаў:

— Ну, вядома, што так...

А Дзям'ян Гарагляд працягваў:

— І ўкраінскі рабочы і селянін нам прыяцелі, і літоўскі... Ну, а рускі...— тут Дзям'ян яшчэ вышэй узняў галаву,— рускі наш брат ужо вызвалены і думае аб нас...

Тут ужо некалькі галасоў сказалі, проста, як гукнулі:

— А як жа! А як жа!

І вочы ва ўсіх заблісказі жывымі агеньчыкамі.

— Так, братцы,— працягваў Дзям'ян,— як нам растлумачыў Андрэй, тут справа вялікая... справа, можна сказаць, на ўвесь свет... Кажучы па-простаму, рабочыя людзі ўсіх краін толькі тады пераможуць паноў, значыць, гэтую буржуазію, калі будуць у моцным саюзе паміж сабою. Правільна я кажу, Андрэй? — скончыў Дзям'ян.

— Правільна,— адказаў Андрэй,— толькі трэба дадаць, што кірунак гэтаму саюзу дае рускі рабочы клас...

— Во! Кірунак... правільна, правільна...— зачасціў Дзям'ян.

Пятрусь Хадыка, бліскаючы адным вокам з-пад пасмы русых валасоў, сказаў:

— Мы б не перамаглі ў грамадзянскай вайне, калі б не было гэтага саюза, які збудавала партыя, Ленін.

— Твая праўда... Ага, вось яшчэ адно,— узняўся Дзям'ян,— чаму ў гэтай праграме нічога не гаворыцца пра Савецкую Беларусь? У нас жа тут таксама Беларусь, ну, дык трэба было б...

— Відаць, асцярожнасць, дзядзька Дзям'ян, бо паны ўсё роўна не прапусцілі б...

— Накінулі нам пятлю гэтыя паны... Таўчыся тут, як у ступе... Але ўжо, дзякаваць богу, год падаткаў не плоцім. Можа, і зусім не будзем плаціць...— Дзям'ян засмяяўся. Відаць, успомніў пра «шалыпакі»...

Усе змоўклі. Адчувалася, што на гэты раз вычарпана было ўсё. Адчуў гэта і Пятрусь Хадыка, бо гармонік у яго руках агаласіў хату агністым гукам і ўзняў моладзь на ногі. Шуганула імклівая полька. Завіхрыліся пары. Бубен у руках Лявона бомкаў, выбіваў пошчак, зліваўся з гармонікам у адно...

Хата Петруся Хадыкі, нягледзячы на прысутнасць такой колькасці людзей, усё ж такі змагла даць месца для танцаў шасці парам.

Андрэй сядзеў, апёршыся на край стала, і дапытліва пазіраў на людзей — на моладзь і старых. З апошніх ніхто і не думаў ісці дахаты, хоць сход ужо быў скончаны. У качарэжніку тулілася група старэйшых жанчын. На тварах усіх застыла цікаўнасць і весялосць, вядзецца жвавая гутарка, мільгаюць усмешкі. Непадалёку ля печы ў групе дзяўчат стаіць Люба, дачка Дзям'яна Гарагляда. Андрэй заўважыў, што яна час ад часу ўскідвае вокам па яго і хутчэй, як быццам знарок, звяртаецца да дзяўчат з гутаркай. Вусны самі расплываюцца ва ўсмешцы, пунсавеюць бялявыя шчокі. Тонкія бровы, як сярпы, акаймоўваюць прыгожыя шэрыя вочы, якія заўсёды поўныя ціхай задумы. Цяпер яны жвава пабліскваюць, смяюцца. З-пад цёмнага шаля выбіліся на скронях пасмачкі цёмных хвалістых валасоў. Яны над ілбом леглі прычасаныя па-святочнаму. Статная Люба, са сціплымі, стрыманымі рухамі! Яна — сакратар мопраўскай ячэйкі — атрымала ў свой час першае благаславенне ад Вольгі. Дома, у хатніх абставінах, Люба — працавітая, сур'ёзная не па гадах. Здаецца, яна ўсё разумее, але больш маўчыць, як быццам носіць у сабе затоеную жальбу і крыўду на кагосьці, вядомага толькі ёй.

Андрэй перакідваўся словамі з Пецем, які сядзеў побач, і думаў пра моладзь, пра маладосць. Зашумела яна цяпер, гэтая моладзь, і спадзяецца на тых, хто стаў наперадзе руху. Яна хоча верыць у іх, хоча бачыць іх на вышыні задач. Андрэю стала няёмка. З аднаго боку, баяўся, каб не быць суха сур'ёзным, афіцыяльным з людзьмі, бо тады будзеш чужым. А з другога боку, каб не апусціцца да непатрэбнага панібрацтва. І Андрэй пасля кароткага

роздуму, калі Пятрусь Хадыка зайграў вальс, ажывіўся і звярнуўся да Пеці:

— Ну што, Пеця, патанцуем?

Скінуў куртку, застаўся ў чорным пінжаку. Машынальна, прывычным рухам рукі прыгладзіў валасы і падышоў да Любы. Лёгка і прыемна было кружыцца ў танцы з Любай. Але гэтая прыемнасць змяншалася тым адчуваннем, што, здавалася, усе, хто быў у хаце, глядзяць толькі на іх — на Андрэя і Любу. І якіх тут толькі думак няма ў людзей... Адны сапраўды любуюцца, другія зайздросцяць, а трэція ўжо разводзяць здагадкі... Відаць, адчувала гэта і Люба, бо апусціла свае вочы і злёгку сарамліва заружавелася. Але ўсё прайшло добра.

Гармонік захлібнуўся апошні раз і змоўк. Андрэй апрануўся, надзеў шапку, закурыў і, маргнуўшы Пецю, каб ішоў за ім, выйшаў з хаты.

— Пеця, заўтра пойдзеш у староства за дазволам паставіць спектакль. Возьмеш з сабою п'еску «Змагары» і кнігу Янкі Купалы «Шляхам жыцця». Яны гэтага патрабуюць для разгляду.

— Добра, пайду,— зацягваючыся папяросай, адказаў Пеця.

— У каго тут у нас найбольшая хата, там і зробім спектакль.

— Ды ў каго? Толькі ў Мікіты Лазуна. Ды ён не пусціць...

— Да яго і не трэба звяртацца... Пашукаем другую...

— Знаеш, Андрэй, сын Мікіты Ілья просіцца ў гурток. Што з ім рабіць?

— Не трэба спяшацца. А як дзядзька Дзям'ян глядзіць на гэта?

— Дзям'ян кажа...— і тут Пеця засмяяўся,— Дзям'ян кажа, няхай ён снапы людзям пааддае, што накраў улетку на полі, тады, можа, і падумаем...

— Ну і правільна... Давай, Пеця, моладзі кніжкі, няхай чытаюць. Хутка выпішам яшчэ. І сачы за тымі, хто можа шкодзіць...

— Добра было б сабраць нам хор...

— Ды гэта наш Пятрусь можа...

— Ну, раз можа, дык пачынайце... Я яшчэ сам пагавару з Петрусём... Ну, Пеця, я пайду дахаты... Заўтра збераце гурток, і я раскажу аб з'ездзе... Бывай...

...Ціха і ўтульна ў хаце. Светла толькі ля стала, дзе вісіць лямпа, а па кутках — ля дзвярэй, ля печы — сутоннямі аселі змрокі. Хата здаецца заваленай рознымі рэчамі. На жэрдцы над ложкамі вісіць розная адзежа, пасцілкі, і тут жа над самай печчу вісяць дзве вязкі цыбулі. Дзеці ўжо спяць на самаробных ложках. Там, дзе гаршкі стаяць у рад, у самым цёмным кутку, вісіць ля акна сталярская пілка. Пад столлю за бэльку пазатырканы долата, шыла, брусок і яшчэ нешта. У пярэднім кутку — на покуце — паблісквае «пазалотай» невялічкая ікона Хрыста, прыбраная вышываным ручніком. Перад ёю моліцца толькі маці — Кацярына, а сам Сцяпан Касцевіч на папрокі Кацярыны толькі адмахваецца рукою, кажучы: «Ат... пустое ўсё гэта... Колькі бедны чалавек гаруе ўсё жыццё,— каб гэта быў той бог, то хіба ж ён не дапамог бы людзям? Выдумка гэта — сядзі, маўчы і цярпі... Выдумка хітрая... А тут, наадварот, не сядзець трэба, а жыццё браць наступам...» І абавязкова раскажа пры гэтым якое-небудзь здарэнне са свайго багатага жыцця. Але ў тым жа самым кутку, ніжэй іконы, на сцяне ад вуліцы, Андрэй павесіў невялікі партрэт Радзішчава з кнігі Пляханава «Гісторыя рускай грамадскай думкі». Часам той-сёй з прыйшоўшых сялян пытаецца: «Хто гэта?» А Дзям'ян Гарагляд, як толькі ўбачыў, зараз жа запытаўся: «Хто ж гэта, Андрэй, такі геройскі?»

— Гэта першы рускі рэвалюцыянер...

— Ах, вось як... Першы? Гм...

І Дзям'ян доўга ўглядаўся ў Радзішчава і пакручваў галавою.

— За народ, значыць, першы пайшоў? Правільна, тут яму і месца, у пачэсным кутку... Няхай людзі з ім пазнаёмяцца.

Андрэй прасіў бацьку зрабіць рамку для партрэта. Бацька адказваў, што зробіць, але калі — невядома. А Дзям'ян Гарагляд падхапіў:

— Можа, не маеш часу, дык я зраблю...

Сцяпан Касцевіч зразумеў, што адкладваць нельга. Зараз жа прынёс у хату дошку. Дзям'ян увішна распрануўся, скінуў шапку. І абодва сябры ўзяліся майстраваць. Знайшліся ў Сцяпана Касцевіча і фарба і алмаз. А Дзям'ян пабег дахаты і прынёс кавалак шкла. Так у адно імгненне быў аздоблены партрэт першага рускага рэвалюцыянера.

Ціха і ўтульна ў хаце. Чуваць, як за цёмным акном са

страхі час ад часу падаюць кроплі. Задумалася маці за кудзеляй. Бацька прысеў па калодцы, шчапае лучыну і таксама маўчыць. Аб чым яны думаюць? Думаюць аб сваім быце. Вось ён, гэты быт, з яго абстаноўкай, са змрокамі па кутках. Бацькі хочуць бачыць Андрэя багатым і шчаслівым. Пару раз ужо нібы жартам намякалі яму на жаніцьбу. Андрэй збываў гэтыя намёкі маўчаннем. А цяпер бацька, Сцяпан Паўлавіч, вярнуўшыся са сходу, сядзіць на калодцы і шчапае лучыну, сцішыўся. У яго перад вачыма Андрэй і Люба. На яго думку, харошая была б з іх пара. Цяпер стала вось гэтая Грамада... Даб'ёмся зямлі... І можна будзе жыць... А там далей... Можа, і граніца гэтая знікне... Яшчэ лепш будзе...

Туга па ціхім быце... Вось ён, гэты ціхі быт, ахутаны змрокамі. Яму бадай няма справы да таго, што на свеце наспяваюць вялікія буры. Ён цягне ў сваю завадзь.

Андрэй на момант адарваўся ад чытання, глянуў на хату, узяў у кутку са стоса кніг і газет кнігу Янкі Купалы «Шляхам жыцця» і разгарнуў наўздагад. Прабег вачыма:

Горы ды каменне,
Вузкія палоскі:
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі.

Старонкай далей:

...Кабылка не хоча падбегчы,
Кароўка не хоча ўставаці.

І загарнуў кнігу. Заныла тое пачуццё, якое можна выказаць словамі: шкада народа ў прыгнечанасці, уніжэнні, абяздоленасці. Жыць па-старому, так, як жылі бацькі, значыць, не шкадаваць народа, не любіць яго.

Бацька скончыў работу, устаў, сабраў лучыну і кінуў за комін на печ. Пасля стаў сярод хаты, пацягнуўся і сказаў:

— Пара класціся спаць...

Маці адказала:

— А ўжо ж...

Для Андрэя гэта быў нібы загад. Так было ўжо не раз. Многа, бачыце, выгарыць газы ў лямпе — лішнія выдаткі, а за ноч усё роўна ўсяго не прачытаеш. Так часам асцярожна намякаў бацька, а часцей і маці. Непрыемнае пачуццё прабегла па сэрцы, і Андрэй улавіў схаваную пад надзённымі словамі спрэчку між ім і бацькамі.

І ён сказаў:

— Я яшчэ крыху пасяджу...

— Ой, чаго сядзець? Ужо ўсе пакладіся спаць,— адказала маці.

— Каб жанатым быў, нябось, клапаціўся б інакш,— сказаў у сваю чаргу бацька.

— На тое і нежанаты,— усміхнуўся Андрэй.

— А пара ўжо было б, сыне...— прамовіў бацька, і хітры агеньчык бліснуў у вачах.

— Скажу так, як герой у адной украінскай аповесці: ще та дівчына, на котрій я буду жэнытысь, не родылась...— жартаваў Андрэй.

— Ёсць такая дзяўчына, абы толькі ты захацеў,— працягнуў бацька.

— Хто? — спытаўся Андрэй.

— А чым Люба не дзяўчына? Га?

Андрэй нахмурыўся. Крыўдай кальнула ў сэрца. Значыць, бацька не жартуе...

Андрэй вытрымаў паўзу і адказаў:

— Супроць Любы я нічога не маю, але жаніцца... не...— і закруціў галавою. Праз хвіліну працягваў: — Мне ажаніцца цяпер,— значыць, паставіць крыж над усім, што я люблю і чаму я адданы.

Бацька замаўчаў і пачухаў патыліцу. Маці ўздыхнула, наматала на ручайку апошнюю нітку і ўстала з-за прасніцы.

Бацька, ужо мастакуючыся на ложку да сну, прамовіў упаўголаса, як быццам працягваючы ніць сваёй думкі:

— Усё людзям аддасі, а сабе што?..

— Сабе? Нічога...— адказаў Андрэй сур'ёзна.

— Вось жа і яно, што нічога... А кожнаму чалавеку нешта трэба ад жыцця...

— Мне, тата, трэба толькі адно, каб наш народ перамог паноў...

— Ды я не супроць гэтага... Але... не трэба лішне лезці наперад...

Андрэй разумеў трывогу бацькі.

— Нехта ж павінен быць наперадзе.

Бацька не меў што адказаць і махнуў рукою.

— Рабі, як знаеш... Каб толькі потым не гневаўся на нас.

— От, ужо сціхні,— сказала маці.— Кладзіся, Андрэй.

Сядзець і чытаць далей было ўжо немагчыма. Бацькі выбілі з раўнавагі.

Маці прынесла з сенцаў халодны сяннік з падушкай і посцілкай і пачала сцяліць на лаве ў покуць галавою — проста пад партрэтам Радзішчава.

Андрэй сам патушыў лямпу, раздзеўся і лёг.

Але спаць не хацелася. Нейкае нездаволенне грызла — не то хто яго не зразумеў, не то ён сам вінаваты перад кімсьці.

А ўсё гэты быт. Маці часта гаворыць, каб хутчэй паставіць кросны і выткаць сукна на куртку. Андрэй унутрана пратэстуе супраць гэтага. Ён не хоча сабою абцяжарваць сям'ю.

Ды вось яна, рэчаіснасць. Паспрабуй жыць як набяжыць. І Андрэй адчуў у гэтым быце небяспеку для сябе.

Не спіцца. Андрэй ляжыць з расплюшчанымі вачыма, адчувае, што з уражанняў на сходзе нешта яго кранае, прымушае прыпомніць... Але — што? Ніяк не прыходзіць на памяць. За акном нешта з шоргатам абцёрлася аб сцяну, а потым зноў стала ціха. І раптам — стук у перадпечнае акно. Андрэй насцярожыўся, нават прыўзняўся, глянуў у цёмныя шыбіны. Нічога не пачуў і не ўбачыў. Лёг.

«...Ах, вось яно што... Замуціла ў галаве ад развражанняў». Перад вачыма стаў ва ўсёй сваёй выразнасці Дзям'ян Гарагляд. Ён гаворыць, паўтараючы словы Андрэя аб самавызначэнні народаў: «Значыць, і польскі рабочы і селянін нам не вораг...» І Дзям'яна ніхто не падтрымаў. Вось яно што! Усе панура маўчалі, апусціўшы вочы. Уеліся паны ў душу так, што ўсё сабою засланілі...

Мм... так... выказванні ёсць розныя. Солтыс Барсук, напрыклад, кажа, што паноў не пераможаш, што ў іх сіла, права, у іх зброя. А кулак Мікіта Лазун гаворыць, што супроць дзяржавы выступаць грэх, бо дзяржаву паставіў бог, і таму трэба маліцца, каб ён добрае палажыў на душу, а не хуліганіць. І няма чаго гневацца, калі садзяць у турмы. Заслужылі. Сядзі ціха — цябе ніхто не кране. А самы бяднейшы з бедных Рыгор Малахай ходзіць, жабрує па вёсках, заходзіць і ў панскія двары і, зняўшы шапку, становіцца на калені перад ганкам і спявае свае літанні. А калі яму вынесе падачку якая-небудзь пані, Рыгор ловіць яе рукі, каб пацалаваць, прыніжана падае да ног. У Андрэя перакрыўляецца твар у нясцерпную балючую грымасу.

Андрэй сустрэў яго не так даўно на шляху. Абвешаны торбамі, Рыгор ішоў, апіраючыся на кій. Дзве суконныя сярмяжкі на адных дзірках надзеты на ім. Ногі ў лапцях,

з тоўстымі навояміануч. Вялікі памерклы твар са слязлівымі вачыма і льняной бародкай выклікаў уражанне, што Рыгор не то іконнік, не то пілігрым.

— Куды ж вы, дзядзька, ідзяце? — спытаўся Андрэй.

— А іду, Андрэйка, па людзях пахадзіць... Можа, бог міленькі злітуецца, яго матка найсвенша...

І моргае шэрымі вачыма Рыгор і сухаватай далоняй выцірае вочы ад слёз.

— Вось каб мне коніка, то лягчэй было б, а то ўжо ногі баляць хадзіць, Андрэйка... Што зробіш, так ужо, мусіць, бог напісаў...

У вачах Рыгора паблісквае нібы нейкая здзяцінеласць, тое самае чуваць у тонкім збедненым, сірочым голасе.

— Дзе ж вашыя сыны, дзядзька Рыгор? — спытаўся Андрэй.

Нешта сур'ёзнае бліснула ў вачах Рыгора. Ён нават выпрастаўся крыху. На імгненне павёў вачыма па краявіду і потым абыякава махнуў рукою.

— Бог іх ведае, дзе яны... Адзін быў на Урале, а другі... Ой, забыўся... Ага... у Акцюбінску. Два гады назад прыслалі па пісьму і грошай трошкі, і з таго часу ні гуку... Мусіць, пісьмаў цяпер праз граніцу не прапускаюць?

І задумаўся Рыгор, апёршыся на кій.

— Нічога, дзядзька, хутка прыйдзе час, што знікне гэтая граніца. Народ змагаецца за гэта...

Рыгор насцярожана слухаў, патупіўшы вочы ў зямлю, а потым паківаў галавою і сказаў:

— Каб тваё слаўцо, Андрэйка, ды богу ў вушы... але... як ты яе зруйнуеш, гэтую граніцу?

І, ківаючы галавой, усё паўтараў:

— Ой, цяжка, цяжка... Ой, цяжка, цяжка... Бачыш, усё ходзяць са стрэльбамі, у гузіках... Я ж трохі па свеце хаджу, бачу. Няма той дарогі, дзе б іх не сустрэў... Людцоў бяруць, арыштоўваюць... Глядзі, Андрэйка, саколік, каб ты не папаўся...

Андрэй развітаўся з Рыгорам з нездаволенасцю ў душы ад яго лішняй ласкавасці, ад яго ліслівых слоўцаў, за якімі недзе далёка хавалася ўжо няшчырасць, хавалася прывычная хітрасць жабрака. Зброяй жабракоў сталі ласкавыя, ліслівыя слоўцы. Ну чым жа яму падзейнічаць на чалавека? Толькі гэтым.

У пагоні за кавалкам хлеба руйнуецца душа, годнасць чалавека...

...Нешта зноў з шоргатам абцёрлася аб сцяну. А потым

пачуўся стук у тое самае акно. «Што за ліха? Няўжо сапраўды хто стукае? Можа, выйсці на двор?» — падумаў Андрэй, але пасля адкінуў гэты намер. Чакаў.

Да вушэй здалёк даляцела песня, як быццам з-за гары. Нехта спяваў у канцы вёскі. Неўзабаве затупалі конскія капыты за акном і пачулася: тпррру. І чалавек закрычаў:

— Касцевіч! Ты спіш?

Андрэй пазнаў дзядзьку Анупрэя Чарняка, старога ўдаўца, які прыязджаў са свайго хутара няйначай у адведзіны да ўдавы Антолі. Відаць, падвыпіўшы, едзе верхам на кані, галёкае на ўсю вуліцу. Дзядзька Анупрэй, не пачуўшы адказу, крычаў далей:

— Касцевіч! Сцяпан Паўлавіч! Ты — мне друг... Помніш, як было за Мінскам на чыгунцы?

Андрэй па такой гутарцы зразумеў, што дзядзька Анупрэй мацнавата п'яны. Ён рагатаў сам сабе, аж захліпаўся, відаць, штосьці ўспамінаючы:

— Ха-ха-ха... Помніш, як мы дзесятніка Міхася Лазатага ледзь не ўтапілі ў балоце? Помніш? Ха-ха-ха... Адно вусы тарчалі з канавы... Ха-ха-ха...

Сцяпан Паўлавіч прачнуўся ад крыку Анупрэя і, прыўзняўшы галаву, глянуў у акно.

— Анупрэй... Мусіць, ад Антолі вяртаецца... П'яны, каб яго халера. Яшчэ дзе зваліцца ў гразь... Можа, паклікаць у хату?

— Ой, навошта ён табе? — запярэчыла жонка.— Няхай едзе пад кадукі...

А Анупрэй, не пачуўшы адказу, заспяваў на ўвесь п'яны голас сваю любімую песню на матыў «Ухарь-купец»...

Траўка-мураўка, дзяцеліна —
Харошая дзяўчына, ды не мацерына.
Траўку-мураўку цяляткі ядуць,
Харошую дзяўчыну пад ручкі вядуць.

А потым вывеў на розныя тоны: «Э-э-э-х-х-х...», крыкнуў: «Но, гняды...» Капыты пацопалі па гразі ў даль вуліцы. А праз нейкі час здалёк даляцела зноў тое самае:

Траўка-мураўка, дзяцеліна...

Анупрэй — мастак-расказчык. Багаты ў мінулым, ён прагуляў большую палавіну свайго хутара. Пачаў з лесу. Гэта было яшчэ пры цару, калі ў вёсцы Запалянка стаяла старая, з седлаватай гонтавай страхою карчма. У ёй Анупрэй быў сталы бывалец, субяседнік. Прыходзіў заўсёды

з дубальтоўкай за плячыма і расказваў людзям пра свае паляўнічыя прыгоды. Чарнявы, з тонкімі правільнымі рысамі твару, з падкручанымі вусамі, паголены, заўсёды ў ботах, ён рабіў уражанне свойскага мужыцкага шляхціца. Зухаватасці яшчэ дадавала люлька ў зубах з прамым цыбуком. Калі прыйшло збядненне, пайшоў Анупрэй у свет на заработкі, на чыгуначныя работы. І адтуль прыносіў розныя гісторыі. Хоць, вядома, пастарэў, але не страціў гумару, не страціў маладосці. Прыняў да дачкі прымака, а сам, дапамагаючы ў гаспадарцы, дазваляў сабе «вольнасці». Заляцаўся да ўдавы Антолі, бабы моцнай, увішнай. Калі было сухое надвор'е, прыходзіў пешкі, а ў макрату прыязджаў верхам на кані. Пісьменныя хлопцы ў вёсцы празвалі яго рыцарам. Анупрэй не зважаў на насмешкі людзей. Толькі буркне часам сабе пад нос у адказ бабамнасмешніцам і скажа:

— Гм... Сёння нават і гаварыць не далася...— І, паціснуўшы плячыма, дадаваў: — Што ж, мухі ў носе...— І, як нічога не было, пыхкаў люлькай. А бабы аж канчаліся ад смеху. Яшчэ любіў Анупрэй займацца судовымі справамі, раіць людзям, як паводзіць сябе на судзе, як наймацца за сведку.

Анупрэй часта заходзіў да Сцяпана Касцевіча пагутарыць, выкурыць некалькі люлек. А часам прыносіў у кішэні бутэльку гарэлкі.

На запытанне Андрэя, ці ўступіць ён, Анупрэй, у гурток Грамады, адказаў сарамліва, закруціўшы галавою:

— Мм... хе. Нічога з гэтага, хлопча, не будзе. Хто? Гэтыя жэўжыкі чаго даб'юцца?

Анупрэй ківаў на моладзь.

Тут заступаўся ўжо стары Касцевіч:

— Ты дарма, Анупрэй. А хто ж даб'ецца? Яны. Я ж вось запісаўся... і другія мужчыны.

— Хто? Гэты цвыркун Агацін, што смаркачы пад носам,— ён нечага даб'ецца... Што ён разумее?

Анупрэй не лічыў для сябе за гонар належаць да адной Грамады са «смаркачамі». Ён прызнаваў толькі начальнікаў і наогул адукаваных, пісьменных людзей. Да Андрэя ставіўся з пашанай, бо Андрэй можа напісаць прашэнне да любога начальніка і чытае тоўстыя кнігі. З ім можна чагосьці дабіцца. Анупрэй застаўся старасвецкім у многіх сваіх уяўленнях. Верыў у забабоны, сам загаварваў, каб спынілася кроў пры парэзе, верыў, што пры маланцы ў час навальніцы бог пускае на зямлю стрэлы, верыў у чар-

цей, пра якіх часам па-мастацку расказваў. Але вера гэтая была больш уяўная, паэтычная, чым рэальная.

Знік у тумане ночы «рыцар» Анупрэй з песняй сваёй даўняй маладосці, песняй, якая некалі часта разлягалася за залітым гарэлкай карчомным сталом.

Андрэй думае і пра Анупрэя, і пра жабрака Рыгора, пра Нічыпара Байдака, пра бацьку свайго, пра Апанаса Хмеля, пра Любу, пра старшыню камітэта Сучка, пра сакратара Кананца і заключае:

— Усё гэта пакуль што яшчэ ў тумане...

## НЕЧАКАНАЯ ПЕРАСЦЯРОГА

Падмёў сваю хату Пятрусь Хадыка. Нават дзверы адчыніў, каб выпусціць увесь табачны дым, які густа сабраўся пад столлю. Падмёў з глінянай падлогі ў качарэжнік кучу недакуркаў. Тады глянуў навокал па хаце і вырашыў, што ўсё, здаецца, у парадку. Зняў са стала гармонік і паставіў у куток на покуць. Трэба ж крыху павячэраць. За засланкай у печы стаіць гаршчок з недаедзенай засмяглай капустай, рэдзенька заскваранай. Акрайчык хлеба ляжыць на паліцы за фіранкай, выразанай з газеты, побач стаіць соль у гліняным збаночку і тут жа заткнута адна-адзіная драўляная лыжка. Вось і ўсё багацце ўдалага музыкі-бабыля. Праўда, у хлеўчуку скігоча адзін парсючок, якога дбала даглядае Пятрусь, і сядзяць дзве курыцы на седале. І больш нічога. Свае дзве дзесяціны зямлі аддаў абрабляць на трэці сноп Мікіту Лазуну. Прыйшлося аддаць яму — нікуды не дзенешся. У Мікіты добрыя коні, плугі, вазы. Два снапы з поля Мікіту, а трэці — Петрусю. Пры заключэнні ўмовы Мікіта аспрэчваў, каб даць толькі чацвёрты сноп, але Пятрусь катэгарычна з гэтым не згадзіўся. Мікіта змоўк і падпісаў умову на трэці сноп. Ужо канчаецца другі год, як Мікіта абрабляе зямлю Петруся. І за гэты час згінула з хлеўчука кадушачка і бярозавы целеш. За хлявом шуміць бяроза. Нядаўна Мікіта Лазун прасіў Петруся:

— Аддай гэтую бярозу. Усё роўна яна ўжо старая. Я з яе параблю ўтулкі для колаў...

Гэта навяло Петруся на здагадку, што кадушачка і бярозавы целеш не мінулі рук Мікіты. А гэта тым больш таму, што хляўчук знаходзіцца ў гумне — направа ад то-

ку. А налева — ляжаць снопікі, крыху сена, якое Пятрусь беражэ да вясны. Вясною ён яго прадасць.

— Не, трэба адмовіцца ад Мікіты. Бо іначай ён мяне абярэ да ніткі.

З'еўшы халоднай капусты, Пятрусь пагасіў лямпу, прысеў на лавачцы ля печы і адвязаў ад нагі драўляшку. Потым палез на печ і лёг, выцягнуўшыся нагамі ў куток. Печ была толькі злёгку цеплаватая, і таму Пятрусь накрыўся посцілкай. Можна ўжо спакойна заснуць. На дварэ цемра і цышыня. Усе людзі пакладіся спаць. Толькі ў вокны хат заглядае бялёсы туман, сівой павалокаю застывае перад шыбамі.

...Спіць Пятрусь. Сняцца яму бяскрайнія данецкія стэпы ў зімовую завіруху. Вецер імчыць перад сабою хмары снегу, мяце, вые, прысыпае байцоў, якія ланцугом прыляглі, каб пасля перайсці ў атаку на станіцу, дзе размясціліся дзянікінцы. Шчыльна прыпадае ён да гурбы снегу і ўпарта глядзіць на абрысы казацкіх хат, якія ледзь прыкметны ў завірусе. Мерзнуць рукі, сціскаючы вінтоўку, і холад пачынае прабірацца пад шынель да спіны...

Пятрусь заварушыўся, нацягнуў посцілку на схаладнелыя плечы і заснуў глыбокім сном. Ён ужо не бачыў данецкіх стэпаў, а толькі невыразна адчуваў навакольную цішыню і жорсткую печ пад бокам.

Так, сапраўды ў вёсцы была цішыня. Аднак, калі б хто прыслухаўся, ідучы, то пачуў бы ледзь чутнае шлапанне. Яно чулася на самай сярэдзіне вуліцы, у самым яе карыце, куды з бакоў сцякла ўся вада, уся гразь. Шлап... шлап... і зноў ціха. Потым зноў — шлап... шлап. Недзе зарыпелі дзверы, і шлапанне сціхла надоўга. А затым пачалося нанава — павольна, асцярожна, крадком. Ясна, што нехта ішоў, нехта баяўся ісці ля платоў, абочынай, дзе сушэй, дзе пратаптана сцежка, баяўся, каб з кім не сустрэцца.

Аднак шлапанне пачуў Пеця Ціханчук. Ён выходзіў на двор і, вяртаючыся ў хату, пастаяў ля дзвярэй, па звычцы паслухаў,— можа, дзе што пачуе ў вёсцы. І вось пачуў: шлап... шлап... Недалёка ад яго хаты... Ціхенька каля сцяны наблізіўся ён да гародчыка і прытуліўся да плота. Шлапанне аддалялася. Нехта, відаць, спыніўся насупраць хаты Пеці і, пачуўшы рыпенне дзвярэй, падаўся далей.

Пеця, доўга не думаючы, выйшаў на вуліцу і паціху пайшоў следам, абочынай, часам ступаў нават на пальчыках. Заўважыў сілуэты двух чалавек. Але што гэта былі за

людзі? Яны ступалі так ціха, баяліся, каб не хлюпацела гразь у іх пад нагамі. Вось дайшлі да хаты Петруся Хадыкі і тут спыніліся. Стаў і Пеця, прытуліўшыся да плота. Углядаўся ў цёмныя постаці, якія стаялі ад яго крокаў за дзесяць. Постаці павярнуліся да хаты Петруся, пачалі глядзець на яе цёмныя вокны. Пеця ціхенька зрабіў яшчэ два крокі. І тады ўбачыў гэтыя гузікі на грудзях у тых двух, што стаялі ціха-ціха і глядзелі на хату Петруся Хадыкі. Пеця аж прыгнуўся, думаючы, што знізу можна ясней разгледзець таямнічых гасцей і ўпэўніцца да канца, што гэта яны, а не хто іншы,— паліцыянты. Адна постаць скранулася з месца і, асцярожна ступаючы, увайшла на падворак Петруся. Яна прасунулася за тры крокі ад Пеці, які прытуліўся да плота. Не было ўжо сумнення, што гэта — паліцыянты. Пеця разгледзеў усё — і гузікі на шынялі, лічбы, кукарды, пеўнічка на шапцы і вінтоўку за плячыма. Паліцыянт падышоў да акна, глянуў у яго, потым прыклаў вуха да шыбіны і слухаў... Другі паліцыянт, як прывід які, нерухома стаяў пасярэдзіне вуліцы і ў вачах Пеці часам расплываўся ў навакольнай цемры, губляючы свае абрысы.

Паліцыянт, прыпаўшы вухам да акна, слухаў мінут пяць, а потым гэтак жа асцярожна вярнуўся да свайго сябра на самую сярэдзіну вуліцы, і тады яны разам пашлапалі далей.

Ідучы, падслухач шапнуў свайму напарніку:

— Спіць д'ябал аднавокі... Толькі храп чуваць...

Паліцыя ведала Петруся Хадыку ўжо даўно. Ведала, што ён інвалід грамадзянскай вайны, што ён гарманіст і скрыпач. Але ведала і другое, што Пятрусь ненавідзеў, высмейваў паноў, што, ходзячы па вёсках з гармонікам, пакідаў дзе-нідзе і камуністычныя лістоўкі.

А калі два гады назад быў паліцэйскі налёт на вёску Запалянку для вобыску, тры паліцыянты пабывалі і ў Петруся Хадыкі. Адзін з іх казаў:

— Ты, халера, на адной назе, а паспяваеш быць з гармонікам у некалькіх вёсках адначасова...

— Хочаце, то і вам зайграю,— адказаў Пятрусь,— я ж з гэтага і жыву. Вось заплоціце, то і вам зайграю.

— Ха-ха! За-пло-ці-це... Чаго захацеў? Маеш камуністычныя лістоўкі — давай...

— Маю, чаму не?

— Ну, то давай...

Пятрусь палез на покуць, засунуў руку за ікону. Між



*Злева направа:* Піліп Пестрак, Мікола Хведаровіч, Янка Скрыган і Іван Навуменка ў г. Віцебску. *1964 г.*




У час семінара пісьменнікаў
Гродзенскай вобласці.
*Гродна, 1965 г.*

іншым, прыгледзеўшыся добра да гэтай іконы, апраўленай у сасновую рамку сваёй работы, можна было ўбачыць, што гэта зусім не ікона, а каляровы малюнак з кніжкі «Хаціна дзядзі Тома» — амерыканскі плантатар у шыракаполым капелюшы ўзняў бізун над Томам, які ляжыць, уткнуўшыся тварам у зямлю.

Пятрусь, прачытаўшы кнігу Бічэр Стоу, перажываў пакуты Тома і павесіў гэты малюнак там, дзе было пуста, дзе заўсёды ў хатах вісяць іконы,— павесіў на покуце пад самай амаль столлю.

— Вось хто сапраўдны пакутнік,— як і мы,— гаварыў Пятрусь,— я яго тут і павесіў замест бога.

І вось адтуль, з-пад гэтай «іконы», Пятрусь дастаў звязак папераў і перадаў паліцыянту, а сам стаў крыху воддаль ад стала. Паліцыянты з цікавасцю, заінтрыгаваныя, нахіліліся над запыленымі паперамі. Адзін з іх разарваў нітку — яны і рассыпаліся па стале. Паліцыянты, як быццам навыперадкі, адзін перад адным пачалі іх хапаць. Няўжо гэты аднавокі д'ябал так раптам палепшаў? А можа. Чаго не бывае на свеце! І раптам кожны з іх пачаў пляваццa: «Цьфу, пся крэў! О, мой божа, што сабе думае гэты куртапогі? Замест лістовак адны позвы на падаткі. Гэта ж канфуз, пся крэў!..» Затое позваў было дастаткова: за зямлю, за тыя вось пясчаныя крыжавыя дарогі ў полі, за дым, што ранкамі і вечарамі валіць з коміна, за сабаку, якога, дарэчы, у Петруся і няма, за дзве курыцы, за аднаго парсючка, за памершых бацьку і матку, што ляжаць вунь ля шляху ў сасновым ляску пад бярозай, за халасцяцтва Петруся...

— Ты што, халера, надумаў кпіць з нас?! — гаркнуў старшы паліцыянт, а тыя, што стаялі ззаду, пераглянуліся паміж сабою і ўсміхнуліся — больш вачыма, чым губамі.

— Ну, а дзе ж я вам вазьму камуністычныя лістоўкі? Што, я іх раблю? Што маю, тое і даю,— нявінна адказваў Пятрусь.

— Ты яшчэ ў нас дастанеш, пся крэў,— пагразіў старшы, павярнуўшыся да выхаду. Потым азірнуўся і глянуў уверх на покуць. Сказаў з пагардай:

— А яшчэ богу моліцца...

— А як жа...— спахапіўся Пятрусь.— Вось жа бачыце ікону. Яна ў мяне тут нездарма вісіць... Ікона важная...— І Пятрусь сказануў нават з евангелля: «Усекновение главы Иоанна Крестителя». Калі прыгледзецца здалёк да гэ-

тай «іконы», то сапраўды яна нагадвала гэтае «усекновение».

Адзін паліцыянт, не ведаючы добра па-руску, запытаў у другога, што азначаюць апошнія словы Петруся.

Той адказаў: «Сценце гловы Яна Хшціцеля».

— А-а-а...— працягнуў паліцыянт у адказ і на момант спаважнеў.

А старшы ўсё працягваў дакараць:

— Ого, пся крэў, гаворыць, што богу моліцца, а з нас кпіны строіць.

А Пятрусь паводзіў адзіным вокам, над якім касячком звесілася пасма русых валасоў, і гатоў быў пачаставаць паноў новай нечаканасцю.

І вось гэтыя паны пасля двух год так незвычайна завіталі ў вёску, каб паслухаць праз акно, як смачна храпе на печы той самы Пятрусь. Не той ужо імпэт у паноў, калі вымушаны па начах падкрадацца да сялянскіх хат.

Паліцыянты, параўняўшыся з хатай Касцевіча, таксама спыніліся, і таксама адзін падышоў да акна і паслухаў. А Пеця Ціханчук усё ішоў следам і следам за імі... Трэба ж прасачыць, куды пойдуць далей.

* * *

Андрэй ужо спаў, калі пачуў асцярожны, але настойлівы стук у акно. Расплюшчыў вочы і прыслухаўся. Стук паўтарыўся проста над ім. Прыўзняўся і глянуў на падворак. Нешта цёмнае заварушылася там. Андрэй устаў, абуў на босыя ногі боты, накінуў на плечы куртку і выйшаў на двор.

— Хто тут? — запытаўся ён упаўголаса.

Перад ім стаяў чалавек з кіем у руцэ.

— Андрэй, гэта я...— сказаў ён.

— Хто?

— Я... Захар...

Андрэй, не адказваючы, хутка ўцягнуў Захара ў сенцы і зачыніў дзверы на засаўку.

Так, гэта быў Захар Зубец. Запэцканы, мокры па калені, ён затупаў у сенцах нагамі, каб абабіць гразь, што наліпла на боты.

Увайшоўшы ў хату, сказаў:

— Але ж і цемра на свеце, хоць вока выкалі...

— Ай, Захар, як ты дайшоў так далёка? — паспачуваў Андрэй.

— Дайшоў, брат...

— Ну, сядай... Напэўна, есці хочаш?

— Ну... з ядой пасля... Спачатку пагаворым... Важная справа...

— Не, будзеш есці і расказваць... Пачакай...— Андрэй прынёс з паліцы кавалак хлеба з салам.

— Еш і расказвай...

— Ну, добра,— сказаў Захар паўшэптам,— прыехаў да нас з Вільні нейкі чалавек. Кажа, што ён з ЦК.

— З ЦК? — перапытаў шэптам Андрэй.

— Ага, з ЦК.

— Што ён, у вас яўку меў?

— То-та і яно, брат... Прыйшоў ён проста ў хату Івана Падалякі... Відаць, яны раней сустракаліся, яшчэ да арышту... Ну, а то як жа іначай?

— Цікава,— адказаў Андрэй,— ну, і што ён хоча?

— Гмм... што хоча? Кажа, натужваць усе сілы на ўзброенае паўстанне. Грамада, кажа, для таго і створана, каб узняць узброенае паўстанне...

— Гэта, брат, цікава...

— Бацька Івана прывёў яго да мяне... Ну, даў я яму павячэраць. Ён і пачаў... Не думайце, кажа, Заходняя Беларусь скора вызваліцца, абы толькі ўзнялася... Будзе і дапамога, усё будзе...

Захар змоўк. Маўчаў і Андрэй. Толькі чуваць было, як Захар частаваўся ежай.

— Што ты думаеш, Захар, аб гэтым? — спытаўся Андрэй.

— А чорт яго, брат, ведае... Неяк ён мне не падабаецца — гэты цакіст... Вельмі ён нейкі неасцярожны. Кажу яму, каб не садзіўся ля акна, а ён махае рукою і кажа: «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць». І курыць пахучыя папяросы. Мужчына, брат, здаравенны, адзеты папанску.

— А як гаворыць — па руску, па-беларуску ці папольску?

— Гаворыць па-беларуску і гаворыць добра. Відаць, што беларус.

— Чаго ж ты ішоў такой непагаддзю? Мог бы прыйсці заўтра ўдзень...

— Выслаў, брат... Чакаць, кажа, нельга. Рэвалюцыя, кажа, не чакае... Хоча бачыць каго-небудзь з членаў акругкома... Кажа, канферэнцыю раённую трэба склікаць.

Я і адмаўляўся, адкладаў на заўтра. Ён, брат, настояў, і вось я прыйшоў...

І зноў запанавала маўчанне.

Андрэй яшчэ не мог асвоіць таго, што пачуў ад Захара. Час ад часу, нібы вобмацкам, задаваў пытанні Захару і зноў задумваўся.

І што гэта натварыла сягоння адна гэтая цёмная туманная ноч!

— Марцін Шапко ведае аб ім? — спытаўся Андрэй.

— Вось іменна... Я яго адвёў да Марціна і адтуль прыйшоў сюды.

— Многа ж ты дарогі зрабіў, Захар...— зноў паспачуваў Андрэй.

— Нешта ля дзесяці вёрст... Гэта нічога, каб не так гразка і цёмна.

Адчувалася, што Захар быў унутрана ўстрывожаны. Не было таго гумару і дробнага смеху, з якім ён заўсёды што-небудзь расказваў. Глядзеў на Андрэя ў цемры, праз якую ледзь мігцела ў вачах яго белая кашуля, і чакаў. Задача была нялёгкая.

Андрэй паглядзеў у акно, дзе нічога не ўбачыў, і спытаўся:

— Што ж будзем рабіць, Захар?

— Ён казаў, каб зараз жа ішлі да яго, бо ён спяшаецца...

— Зараз жа?

— Ага, зараз...

Андрэя ахапіла падазрэнне. Што за ліха, таварыш Васіль таксама цакіст, прыбыў у раён Глушца да Паддубнага і наказваў яму, Андрэю, заўтра прыйсці ў Забалоцце. І тут гэты таксама... Праўда, гэта раён не глушэцкі, але павінна ж быць там нейкая дамоўленасць. На адну акругу два... нешта не так...

І Андрэй зноў пачаў задаваць пытанні Захару, прыняўшы рашэнне — не ісці.

— А як ён выглядае з твару?

— Твар шырокі, белы, валасы русыя...

— А вочы?

— Шэрыя, невялікія... Не любіць сядзець, усё больш ходзіць, думае і часам скрывіцца сам сабе...

— Нос які — гарбаты, курносы?

— Не, нос невялікі, просты і востры.

— Мгу...— мармытнуў Андрэй і пасля паўзы катэгарычна сказаў:

— Не пойдзем мы, Захар, з табою сягоння.

— Чаму? Што ж я яму скажу?

— І ты нікуды зараз не пойдзеш... Пераначуеш і пойдзеш заўтра ўдзень.

— Можа, гэта не так добра, Андрэй?

— Цікава было б, вядома, на яго паглядзець, але я заўтра павінен ісці ў іншае месца... Ведаеш, хто прыехаў? Ты яго бачыў разам са мною...

— Дзе? Калі?

Захар на момант задумаўся, успамінаючы, а потым адказаў, як падскочыўшы:

— А-а-а... помню, помню... Дык гэта ён? Вось навіна.

І невядома ад чаго раптам стала радасна Захару, палягчэла на сэрцы.

— І вось цяпер мяркуй, Захар, удвух з ЦК прыехалі ў адну акругу... І адзін кліча і другі... Паколькі аднаго я ўжо крыху ведаю і ведаю з добрага боку, пайду да яго і там спытаюся, чаму так робіцца... Высвятляецца адно — добра, што ты прыйшоў і расказаў...

Захар памаўчаў, а потым, уздыхнуўшы з палёгкай, прамовіў:

— Правільна. Цяпер і я табе сказаў бы — не ідзі... Я сёе-тое пачынаю разумець...

Андрэю даўно хацелася закурыць. Ён нават адзін раз працягнуў руку да стала, каб дастаць партабак, але спыніўся. Закурваць было небяспечна. Андрэй пачаў думаць, дзе пакласці спаць Захара, як нешта зашамацела за акном, пасля чаго два разы пачуўся стук у шыбіну. Сябры змоўклі, насцярожыліся. Што за ноч сягоння? Здаецца, што ўсё патанула ў цемры і тумане, аднак...

Андрэй устаў, сказаўшы:

— Пойдзем, Захар, завяду цябе ў камору. А то невядома, хто стукае...

Зачыніўшы Захара ў каморцы, Андрэй выйшаў на двор. Да парога ўжо цёпкаў па вязкай зямлі Пеця Ціханчук.

— Гэта я, Андрэй...

— Пеця? Ах ты... Толькі напалохаў... Заходзь...

Пеця расказаў Андрэю і Захару аб паліцэйскай разведцы.

— Куды яны пайшлі?

— Пайшлі за сяло... па дарозе на Выжары.

Калі б Андрэй з Захарам і вырашылі сустрэцца з ці-

кавым госцем, існі па гэтай дарозе цяпер было б небяспечна...

Пеця адвёў Захара начаваць да Петруся Хадыкі.

Бацькі Андрэя спалі. Але праз сон ім часам здавалася, што ў хаце нехта ёсць, асабліва калі прыйшоў Пеця і пачаліся «ярасныя» шэпты.

Пасля таго як Захар з Пецем выйшлі з хаты, бацька ўсё ж такі прачнуўся і спытаў:

— Андрэй, ты не спіш?

Але не атрымаў адказу. Андрэй прыкінуўся, што спіць. Адказала маці:

— Табе нешта прыснілася, ці што? Навошта ты будзіш яго?

— Мне здалося, што нехта чужы быў у хаце,— адказаў бацька і, пазяхнуўшы, лёг.

А Андрэй усміхнуўся ў цемру і падумаў: «А хутка ж світанне! Вось гэта ночка!»

## Раздзел другі

## У ЗАБАЛОЦЦІ

За перагародкай у хаце Аляксея Вераса ўтульна. Адзінае акно ў шэсць шыбінак глядзіць цераз вуліцу на прагаліну, дзе за паласою куп'істага тарфянога балота цямнее лес.

Таварыш Васіль толькі што ўстаў і, апрануты па белай кашулі ў чорную камізэльку, стаяў і глядзеў у акно, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў. Пасвяжэлы пасля сну, з прычасанымі русымі, крыху хвалістымі, валасамі, таварыш Васіль выглядаў, як падарожны. За акном ляталі вераб'і, часам той-сёй з іх садзіўся на раму акна. Таварыш Васіль усміхаўся. Чуў, як за сценамі хаты прачыналася жыццё вёскі — скрыпелі калодзежныя асверы, спявалі пеўні, мыкалі каровы, бачыў, як прабягалі па вуліцы маладзіцы, дзяўчаты і як павольна праходзілі за акном мужчыны-гаспадары. Старая маці Аляксея, стоячы ля печы, упаўголаса, які часта пераходзіць у шэпт, гаворыць малітву...

«Слава табе, божа наш, слава табе...» — далятае да ву-

шэй, і тут жа ў малітвенную манатоннасць урываецца звон патэльні аб прыпек. Пахне смажаным салам, блінамі. Сонечныя праменні павольна, не спяшаючыся, разганяюць ранішнюю туманную смугу і па-асенняму скупа падаюць на сырую зямлю.

Таварыш Васіль усміхаецца ўсім гэтым гукам, усміхаецца і таму, як уляцела ў хату з падворка сястра Аляксея і ўпаўголаса сказала, што выгнала карову на агарод. Сказала асцярожна, думаючы, што таварыш Васіль яшчэ спіць. Гэтак жа ўпаўголаса адказвала і маці.

Свежыя, кучаравыя дымы плылі з комінаў і шырокім веерам расплываліся пад ціхім асеннім небам. Лёгка і радасна на душы таварыша Васіля. Пазіраючы ў акно і слухаючы навакольныя «гукі жыцця», ён, непрыкметна для сябе, адпачывае душою. Думае аб цішыні, якая авалодвае ім, павольна ўцягвае ў сваю прывабную плынь. І дзіўным на момант уяўляецца таварышу Васілю гарадскі шум, з якім, здаецца, ён расстаўся ўжо даўно. А расстаўся ён з ім якраз нядаўна. Паязды, перасадкі, манеўраванні перад вокам паліцыі, заўсёды прыўзняты каўнер паліто, каб хоць крыху прыкрыць свой твар, і ўрэшце лясная палеская дарога, па якой ён ішоў, каб прыбыць сюды. І вось у той паласе тарфянога, куп'істага балота, у цёмным лесе, застылым у мяккіх асенніх тонах, у навакольных «гуках жыцця» таварыш Васіль адчувае, якая вялікая розніца паміж горадам і вёскай.

І раптам прыйшлі аднекуль з мінулага словы палескіх мужыкоў, поўныя горкага дакору: «Што яно дасць — гэтае балота? Адну хваробу ў жывот».

Успомнілася дзяцінства, вёска, Пінск... У вёсцы плошча, а на ёй — царква. Ад плошчы пачыналася і цягнулася ўдалеч такое ж балота. Стаіць таварыш Васіль і ўсміхаецца, успамінаючы, як набожная маці цягнула яго, малога, за руку кожны тыдзень у царкву...

І яму захацелася парушыць гэтую благаславёную цішыню, захацелася рухацца, нешта рабіць для людзей гэтых сумных балот, дзе спрадвеку гняздзілася ліхадзейка-галота, як той прыдарожны калючы чартапалох.

І таварыш Васіль, нават неяк ліхаманкава, адвярнуўся і з бакавой кішэні касцюма, што вісеў на сцяне, выняў невялікі блакнот з пакладзеным у яго алоўкам. Закінуў нагу на нагу і разгарнуў блакнот на калене. Пачаў пісаць. «Грамада...» Напісаўшы, падкрэсліў. Пункт першы. Пачаткі класавай дыферэнцыяцыі ўнутры Грама-

ды. І тут жа ў дужках прыпісаў фразу, якая стала ўжо хадзячай: «Грамада ўжо мае свае рогі».

Пункт другі. Барацьба з тэорыяй адзінай плыні («Беларускі народ не мае класаў»,— кажуць апартуністы. «Беларусь, кажуць, уся лапцюжная»). Пункт трэці. Прымірэнцтва да тэорыі адзінай плыні ў КПЗБ. Парушэнне дысцыпліны... Пункт чацвёрты. Барацьба з лявацтвам, авантурызмам (сэцэсія), барацьба з партызанскімі настроямі. У дужках — што трэба разумець пад партызанскімі настроямі цяпер. Небяспека правакацый. Пункт пяты. Укараненне ў сялянства метадаў барацьбы рабочага класа (дэманстрацыі, забастоўкі, байкот і іншыя масавыя кампаніі). Шарваркі — перажытак феадалізму, адна з форм акупацыйнага рэжыму цяпер (у цэнтральнай Польшчы шарваркаў няма). Барацьба. Пункт шосты. Масавая кампанія за беларускую школу і іншыя дэмакратычныя патрабаванні: кніга, прэса, самаўрад і г. д. Забяспечыць уплыў у ТБШ [1]. Выхоўваць кадры.

Пункт сёмы. Забеспячэнне кіраўніцтва ў камітэтах гурткоў, павятовых і валасных камітэтах Грамады, а таксама ў ТБШ камуністычнымі кадрамі.

Таварыш Васіль паставіў кропку і задумаўся. Пачухаў скронь, глянуў у акно, адкуль чулася ўвесь час чырыканне вераб'ёў. Пункт апошні прасіўся на паперу, пункт, які здаваўся Васілю цяжкім. Масавы, кіпучы рост Грамады пагражае наплывам людзей непадрыхтаваных... І наогул такая масавасць... тоіць у сябе вялікую небяспеку. Гэта ўжо заўважаецца. Ва ўмовах падполля гэта асабліва небяспечна. Рэнегацтва непазбежна...

І таварыш Васіль запісвае ў блакнот восьмы пункт, за які трэба будзе вытрымаць жорсткую барацьбу нават тут — з гэтым бязладным Апанасам Хмелем.

Пачуліся крокі. Фіранка адхілілася, і ў бакоўку глянула гаспадыня. Ветліва ўсміхнулася, прывіталася кіўком галавы.

— Добра вам спалася? Мусіць, ужо есці захацелі? Нешта доўга няма Аляксея...

— Нічога, маці, пачакаем, не турбуйцеся...— адказаў, устаўшы з тапчана, Васіль.

— Прыходзіў даведвацца пра вас — ці вы ўжо ўсталі — Аляксандр Сучок...

---

[1] Масавая культурна-асветная арганізацыя пад назвай «Таварыства беларускай школы».

— Хто гэта такі?

— Тутэйшы, наш чалавек, выбраны старшынёю камітэта ў Глушцы...

— Ага-а-а... Ну, як ён — добры хлопец? Малады?

— Яшчэ малады, ажаніўся... Ну, ужо, мусіць, два гады будзе. Разам жаніліся з нашым Апанасам...

Васіль злёгку ўсміхнуўся.

— Дык вось наш Апанас нешта з жонкаю не ладзіць... Усё сварацца... Яна — маладзіца добрая... Ну, ён, вядома, задаецца... граматны. Ну, а яна, вядома, як у вёсцы... Вельмі ж такі гарачы без толку Апанас, проста, як агонь. Усё растуды тваю... ды растуды тваю... Мой Аляксей яго недалюблівае...

Нешта зашыпела ў печы. Старая войкнула, спахапілася і пайшла.

Васіль ужо не па жарты пачаў непакоіцца, чаму так доўга няма Аляксея. Ён жа ўстаў яшчэ зацемна і пайшоў кіламетраў за дванаццаць за чыгунку, у адну з вёсак, каб прывесці адтуль на нараду новааб'яўленага актывіста партыі Мірона Вадалея. Гэта — па рэкамендацыі Апанаса Хмеля. У чым сапраўды заключалася актыўнасць гэтага Вадалея — невядома. Хіба ў тым, што расказваў сялянам аб сваім «гераізме» ў час рэвалюцыі.

— От, галава... Трэба ж гэта аднаму чалавеку ды столькі... Ай-яй-яй,— гаварылі сяляне.

Сяляне нібы захапляліся, а ў душы ўсё ж такі не верылі да канца расказам Вадалея. Вельмі язык лёгка ходзіць. Відаць, нешта не ў парадку. А потым высветлілася, што Мірон Вадалей перад рэвалюцыяй служыў афіцыянтам на караблі. Сяляне яшчэ не ведалі, як Мірон трапіў з карабля на сушу ўжо ў час рэвалюцыі. Сам Мірон казаў, што яго паслаў рэўком матросаў у Севастопаль для арганізацыі баявых груп у дапамогу ваеннаму камісару. Ён выдаваў сябе за вялікага начальніка. І вось трэба было яму прыехаць у сваю вёску, на разбураную бацькоўскую гаспадарку, у хату з перавязістай аблупленай страхою. Адвык ад гаспадаркі Мірон, хоць і вырас на ёй. Брыдзіўся. А ўсё гэтая жонка, незвычайная для сына простага селяніна,— дачка марскога капітана з таго карабля, на якім Мірон служыў афіцыянтам. Статным, прыгожым хлопцам быў Мірон, і Нюся, любімая дачка ў бацькі, спакусілася ім. Бацька яе быў чалавекам ліберальным, доўга не супрацівіўляўся жаніцьбе Нюсі і Мірона. Думаў у далейшым выцягнуць зяця ў афіцэры, каб ён быў вартым яго дачкі...

І вось Мірон дома, у бацькоўскай, напалавіну растрэсенай хаце, з жонкаю, якая не ўмее ні варыць, ні шыць, а ўжо аб тым, каб пайсці ў поле з сярпом або падаіць карову, то і гаварыць няма чаго. Яна прымусіла Мірона перагарадзіць хату ўздоўж і за загарадкай зрабіла для сябе ўтульны куток, развесіўшы над ложкам, на сцяне, свае рэліквіі — фатаграфіі, малюначкі з краявідамі ўзбярэжжа Чорнага мора. Яна часта плакала і дамагалася ад Мірона выехаць куды-небудзь з гэтай, як яна казала, «дзічы». У такія мінуты не хацела глядзець і на дзіця — хлопца пяці год — Усевалада, які лез да мамы, пытаўся, чаго яна плача. Мірон, пачуўшы ўсхліпванні, кідаўся за перагародку і пачынаў суцяшаць. Рабіў ён гэта ўмела. І пры гэтым адчуваў няёмкасць перад жонкай за суровы, нямілы быт у бацькоўскай хаце. Жонка сціхала. Прыходзіла тады суседка і вучыла Нюсю, як паліць у печы, як ставіць вілкамі гаршкі, памагала абіраць бульбу, даіла карову. Рухава памагаючы, суседка вяла дыпламатычную гутарку. Суседку нават забаўляла бездапаможнасць Нюсі і ўнутрана цешыла, што вось ёй, простай сялянцы, даводзіцца вучыць такую выпешчаную пані ды такой рабоце, якая век пагарджалася ўсімі. Адначасова ў душы нараджалася звычайная чалавечая літасць, шкадаванне да гэтай кволай істоты.

— Ого, галубка, у нашай рабоце трэба мець сілу, увішнасць, іначай нічога не будзе. Я, дзякаваць богу, гадую трое дзяцей, і ўсюды трэба паспець, хоць ты разарвіся...— гаварыла суседка Нюсі. А Нюся не разумела некаторых слоў па-беларуску і потым пыталася ў Мірона, што такое, напрыклад, «андарак», «прорва» або нават «разора». Суседка больш разумела Нюсю, чым яна яе.

Часта Мірон прасіў:

— Прыйдзі, Мар'я, увечары, рашчыніш хлеб, а твой Хвядос няхай каня бярэ заўтра...

Мірон, як толькі прыехаў, зараз жа купіў каня і карову. Мала каму з тых, хто вярнуўся з бежанцаў, удавалася гэта. Людзі думалі-гадалі, за што Мірон мог купіць адразу каня і карову ды яшчэ калёсы ў дадатак. І ўрэшце дадумаліся, што няйначай за золата, бо нічога не прадаваў з рэчаў, а папяровыя грошы былі не ў цане.

Чутка пра Мірона і яго жонку пайшла па навакольных вёсках. Аб тым, што ў вёсцы Адрыны жыве вось такі «герой», даведаўся і Апанас Хмель. Апанас вырашыў яго адшукаць і ўвесці ў свой «камсастаў», што і зрабіў. Апа-

нас і Мірон зразумелі адзін аднаго, здаецца, з першага слова, з першага позірку. Яны адзін перад другім выхваляліся сваім удалым «рэвалюцыйным» мінулым. Мірон стварыў ячэйку ў вёсцы, з якою амаль што не канспіраваўся, на нарадах шмат гаварыў і прарочыў хуткую міжнародную рэвалюцыю. Такія словы былі па душы членам ячэйкі, і хлопцы гатовы былі бачыць у асобе Мірона Вадалея сапраўднага салдата рэвалюцыі, хоць часам адчувалі, што залішне пустасловіць, гаворыць аб тым, чаго не было. Але прабачалі яму. Што ж... Мала што бывае... Усё ж такі ён робіць тое, што трэба... арганізуе людзей на барацьбу з панамі.

Але чутка аб «славе» Мірона дайшла не толькі да навакольных вёсак, дайшла яна і да пастарунка, да дэфензівы. Пару раз заходзілі да Мірона паліцыянты — проста для цікавасці, для разведкі, весела гутарылі, жартавалі. Аддаючы пашану жонцы Мірона, спачувалі яе такому незвычайнаму становішчу. Для адводу вачэй запісалі, каб «пан Вадалей» паправіў свой комін, бо ён ледзь відаць над страхою, што можа прывесці да пажару.

Часам Мірон ставіў на стол і бутэльку гарэлкі, якою сквапна частаваліся паліцыянты. Не хаваўся з гэтым ад людзей і казаў хлопцам-камуністам, што пачастунак не шкодзіць для замыльвання вачэй ворагу, каб прытупіць яго пільнасць. Хлопцы задумваліся, але... урэшце згаджаліся. А можа, тут і ёсць свая нейкая рацыя? А з сялян сёй-той толькі ўсміхаўся ў вус, думаючы: «Спрытны... няма чаго... умее жыць... Каб яму ды яшчэ жонка акуратная, далёка пайшоў бы... Барацьба з панамі — гэта толькі для слова».

* * *

Аляксей Верас, апіраючыся на кій, шырокімі крокамі ішоў па вуліцы вёскі Адрыны, шукаючы вачыма хату Мірона. Вось яна ўжо відаць — перавязістая, сям-там аблупленая. Аляксей Верас зойдзе ў яе і выканае даручэнне. Бо таварыш Васіль, а з ім і Паддубны чакаюць у Забалоцці. А ім доўга чакаць нельга. Але па дарозе сустрэў знаёмага хлопца, які спытаўся, абмінаючы:

— Да Мірона? Не заходзь...

— Чаму?

— Там сядзіць паліцыя...

Сказаўшы так, пайшоў сваёй дарогай. А потым, азірнуўшыся, дадаў:

— Зайдзі да мяне, пачакаеш...

Аляксей пастаяў з момант, крыху збянтэжаны, і паволька накіраваўся ўслед за знаёмым хлопцам.

Чакаць прыйшлося пядоўга. Хлопцы хутка ўбачылі праз акно, як ад Мірона выйшлі два паліцыянты і пасунуліся ў канец вёскі. Тады выйшаў з хаты і Аляксей.

Узышоўшы на падворак Мірона, ён пачуў яго голас у хляве, куды і зайшоў. Мірон трымаў левай рукою каня за аброць, а праваю з усяго размаху біў яго па пысе. Мірон і не заўважыў, як у дзвярах спыніўся Аляксей.

— Ах ты, скаціна бязрогая, так тваю!..— крычаў Мірон са злосцю і кулаком — удар за ўдарам — частаваў па храпе беднага каня.

— Што ты робіш? Пакінь,— сказаў за спіною ў Мірона Аляксей.

Мірон агляпуўся і выпусціў аброць з рукі.

Крыху засаромеўшыся, прывітаўся з Аляксеем. Выцер пот з ілба і сказаў:

— Хадзем у хату...

— Здымі аброць або падвяжы павадкі, а то конь заблытаецца...

— Разумееш... зламаў перагародку, хацеў дабрацца да каровінага цэбра...

— Ты ж яму пысу проста расквасіў... Кулачок у цябе...

— Чорт яго не возьме,— адказаў Мірон і заскрыгатаў зубамі, рыкнуў...

Конь утуліў вушы і прыпаў да сцяны, палахліва маргаючы сваімі чыстымі, сумленнымі вачыма.

Увайшлі ў хату. На стале ляжалі недаедзеныя скібкі хлеба, цыбуля і кавалак сыру на талерцы. У сонечных праменнях, што падалі праз акно на стол, свяцілася бляскам пустая бутэлька ад гарэлкі. Адна чарка стаяла ў цяню. Мірон з ходу сказаў: «Не прыбралі...» — і пачаў усё здымаць і пераносіць на паліцу. Несучы талерку з сырам і хлеб, на паўдарозе спыніўся і сказаў:

— Можа, хочаш есці, то закусі...

— Не, не хачу,— адказаў Аляксей, седзячы на лаве, прытоены. Не выцерпеў, спытаўся:

— Што, можа, госці якія былі?..

— Ат... былі тут...— замяўся Мірон,— госці, брат, няважныя...

Выціраючы рукі аб ручнік і пазіраючы ў сцяну, дадаў:

— Паліцыя была... Вось якія госці... Што ты, брат, зробіш? — І Мірон паціснуў плячыма.

Быў момант, калі Аляксею хацелася сказаць не тое, па што прыйшоў, каб потым устаць і развітацца з Міронам. Але падумаў, што гэтага аднаго факта, можа, мала, каб з ім абысціся. Не заводзячы больш ніякай гутаркі, сказаў:

— Збірайся, пойдзем...

— Куды?

— Да нас, у Забалоцце... Апанас патрабуе...

## ДЫСКУСІЯ

А ў хаце Апанаса адбывалася, мала сказаць, жвавая, але проста ўжо крыклівая гутарка. Здавалася часам, што вокны вось-вось затрашчаць, асабліва ад ускрыкаў Апанаса. Тады не вытрымлівала яго жонка. Адвярнуўшыся ад печы, казала:

— Якая табе нагла? Ці ты не можаш спакайней?

Апанас мог бы і прамаўчаць, але не... Ён ускідваў на жонку раз'юшаныя вочы і сыкаў праз зубы:

— Ты глядзі там... Не твая справа...

Паддубны паволі хадзіў па хаце, часам прыкурваў ад вугалька, які выгортвала яму з печы жонка Апанаса, і больш маўчаў. На грымучыя довады Апанаса ціха сам сабе ўсміхаўся і павольна пераводзіў позірк на яго. Былі моманты, што Паддубны, здавалася, і не чуў, што гаворыць Апанас, падыходзіў да калыскі і забаўляўся з дзіцем,— пстрыкаў пальцамі яму перад носікам. Хлопчык узнімаў вочы на незнаёмага, здаецца, суровага дзядзьку, доўга глядзеў, як быццам пазнаваў, а потым заліваўся смехам і ўжо лавіў вачыма пальцы Паддубнага. Сачыла за гэтым жонка Апанаса, апёршыся на качаргу. Усмешка застывала ў яе на вуснах, а твар зусім перайначваўся — з заклапочанага, журботнага рабіўся ясным, радасным. Яна ў момант падбягала да калыскі, выцірала хлопчыку носік, папраўляла навокал яго пасцельку. У такія моманты Апанас звяртаўся да Паддубнага, каб адарваць яго ад такога мілага занятку.

— Чуеш ты ці не?.. Усё нашае Палессе ўжо ўлілося ў Грамаду. Калі мы прапусцім гэты момант...

Паддубны зацягваўся цыгаркай, адыходзіў аж да качарэжніка, каб абтрэсці попел і, вяртаючыся, казаў:

— Брацца за паўстанне цяпер трэба асцярожна, як ніколі. Так дыктуе агульнае становішча ў Польшчы. Кракаўскае паўстанне разбіта, у польскім рабочым класе ўмацаваліся ўплывы ППС. Гэта — свайго роду рэакцыя...

Паддубны падступаў бліжэй да Апанаса і ўжо махаў кулаком. Працягваў:

— Рэвалюцыйнымі настроямі ахоплена цяпер польскае сялянства... Яны — гэтыя настроі — як бачыш, прыйшлі ў сялянства пазней за кракаўскае паўстанне, бо Пілсудскі напахаваў закон аб зямельнай рэформе, якім дражніліся з народам урад і сейм, калі гэта ім трэба было. А цяпер пераварот Пілсудскага расчысціў дарогу фашызму...

— Яшчэ невядома,— уздыхнуўшы, сказаў Апанас.

— Вось у тым жа і справа, для адных гэта вядома, а для другіх — невядома. Для меншасці ЦК КПП гэта вядома, а для большасці — невядома. Большасць ЦК трапіла ў палон ППС.

— Тым часам дазволена вось Грамада, у Заходняй Украіне Сялянска-работнічае аб'яднанне — Сельроб, у Польшчы — Незалежная партыя хлопска — НПХ. Гэтыя арганізацыі тое самае, што і наша Грамада,— сказаў Апанас.— Так што яшчэ невядома...

— Правільна! — павысіў голас Паддубны.— І Сельроб і НПХ — тое самае, што і Грамада ў нас. Значыць, патвойму, выходзіць, што Пілсудскі дэмакрат, што мы вяртаемся да лепшых часоў буржуазнай дэмакратыі... Не, брат, тут не тое... Тут трымай вуха востра... Нам, камуністам, трэба забяспечыць свой уплыў у Грамадзе, хоць сама Грамада яшчэ мае твар невыразны. Нам трэба даць гэтаму твару выразнасць.

— Як невыразны? Якая невыразнасць? — перабіў Апанас Паддубнага.— А чым ты растлумачыш такі буйны рост Грамады? Хіба гэта не дае нам выразнасці?

— Чым растлумачыць? Перш за ўсё тым, што беларускі народ не жадае быць у межах польскай дзяржаўнасці. Там, на ўсходзе, за мяжой,— і Паддубны паказаў пальцам у дзверы,— ёсць Беларуская Савецкая Рэспубліка, ёсць свая дзяржава. Туды імкнецца народ, да ўз'яднання... Існаванне і росквіт БССР мацуе нацыянальную свядомасць тут...

— А хіба я не тое самае кажу? — падхапіў Апанас.— Хіба гэта не грунт для паўстання і далучэння да БССР?

Паддубны горка ўсміхнуўся і сказаў:

— Так, правільна, гэта — грунт. Пытанне стаіць — як і калі? Зразумей, што паўстанне ёсць найвышэйшая форма барацьбы...

Паддубны пачаў круціць цыгарку. У цёмна-карычневай кашулі-касаваротцы пад сіняватым падношаным касцюмам, у юхтовых ботах, якія пры хадзе крыху парыпвалі, Паддубны выглядаў не то як настаўнік-прапагандыст у вёсцы, не то як рабочы якога-небудзь завода. На скронях ужо серабрыліся валасы і паглыбіліся маршчынкі ля вачэй, якія, як і раней, захавалі свой сталёвы колер і сваю напорыстасць.

Круціў цыгарку і Апанас. Панавала маўчанне. Чуб Апанаса звісаў на правую скронь. Каўнер шэрай вязанай кашулі-світра шчыльна абдымаў яго шыю. Ён нават выглядаў крыху па-святочнаму. Як жа інакш — у яго, Апанаса Хмеля, у вёсцы такія незвычайныя госці. Ды інакш і не можа быць — ён, Апанас Хмель, цар свайго Палесся. Па вуліцы праходзяць людзі — мужчыны і жанчыны — і абавязкова кідаюць доўгі цікаўны позірк на хату Апанаса.

Апанас зацягнуўся, пусціў дым праз нос і, закінуўшы нагу на нагу, сказаў пасля доўгага маўчання, як быццам выносячы прысуд:

— Не, брат, ты...— набраў духу і закончыў: — Ты — не ленінец...

Паддубны горка засмяяўся.

— Можа, я слабы лекар на тваю галаву, Апанас, але факт застаецца фактам, што тваю галаву трэба лячыць...

— Вось жа і я тое самае кажу,— падхапіла жонка.

Паддубны яшчэ раз засмяяўся.

Апанас фыркнуў у нос, ноздры захадзілі, і востры агеньчык бліснуў у вачах. Заварушыўся. Накінуўся на жонку:

— Я табе колькі разоў казаў!..

Недзе нешта застапарылася ў яго думках, і ён, засопшыся, спыніўся, асеў. Ускінуў раптам пацямнелы позірк на Паддубнага і сказаў:

— Яшчэ паглядзім, хто каго будзе лячыць...

Паддубны спыніўся ля акна, глядзеў у гародчык на павялыя ад расы асеннія кветкі вяргіні. Вішнёвыя і жоўтыя, яны чакалі ў цяньку, калі да іх загляне сонца. На момант чамусьці прыйшла на думку Паддубнаму Ганна Каравай — як яна там цяпер, бедная? Даўнавата не быў у яе. Трэба

будзе гэтым разам адведаць. Не адварочваючыся ад акна, нейк суха, абыякава адказаў Апанасу:

— Гутарка наша яшчэ не скончана. Яшчэ не ўсё высветлена... Прыйдзе час, ты зразумееш свае памылкі...

Змоўк і падумаў пра Апанаса: дзёрзкі і ломкі... бяда...

Апанас нічога не адказаў на апошнія словы Паддубнага.

Апёрся на стол і задумаўся з трагічным выразам на твары. Ці было ў гэтым нешта напускное ці сапраўднае — невядома. Магчыма, крыху таго і другога.

— Трэба было б даведацца, як там Васіль,— сказаў, адвярнуўшыся ад акна, Паддубны.

Але тут скрыпнулі дзверы, і ў хату ўвайшоў Аляксандр Сучок. У цёмна-сіняй кепцы з пупком, сцягнутай на патыліцу, у такога ж колеру касцюме, у аброшаных ботах, ён унёс у хату свежасць ранку і адвярнуў думкі Паддубнага і Апанаса ад спрэчак.

Прывітаўся з усімі і перадаў жонцы Апанаса пакунак, закручаны ў белую палатніну:

— На, Агата, вазьмі...

А пасля шапнуў ёй нешта на вуха.

Апанас таварыскім жэстам рукі запрасіў Сучка сесці. Сучок сеў і скінуў кепку, машынальна прыгладжваючы чорныя як смоль блішчастыя валасы. Нясмела паглядаў на Паддубнага. Маргаў вачыма, таячы штосьці сваё, якое нібы гаварыла: «Не толькі вы, але і я не зломак... Вы мяне яшчэ не знаеце...»

Паддубны спытаўся, ці ў кожнай вёсцы ў павеце ўжо ёсць гурток Грамады.

— Не, яшчэ ў некаторых няма... Будзем арганізоўваць...— паслухмяна сказаў Сучок.

— А тымі гурткамі, якія ёсць, кіруюць нашы людзі?

— Па-мойму, нашы... Але гэта яшчэ трэба праверыць,— прамовіў Сучок, не разумеючы, да чаго кіруюцца пытанні Паддубнага.

— Правільна, трэба праверыць,— адказаў Паддубны як быццам сам сабе, а потым запытаўся зноў:

— Там у вас... гм... у павятовы камітэт прайшоў нейкі Капанец. Ён цяпер сакратаром у вас. Хто яго рэкамендаваў у камітэт?

Сучок адчуў сябе на момант збітым з тропу.

— Хто? — адказаў ён.— Ды яны — паслы...

— Ага... паслы...— буркнуў у нос Паддубны і сеў за

другім канцом стала насупраць Апанаса.— Ну, добра...— дадаў і змоўк.

— Кандыдатура Кананца ўзгаднялася і са мною,— падхапіў пасля паўзы Апанас,— гэта мясцовы хлопец, усім вядомы.

— Ну, добра, я ж не пярэчу,— сказаў Паддубны і пачаў крэсліць пальцам па стале.

Запанавала кароткае маўчанне. Сучок думаў і здзіўляўся, што гэтаму, крыху ссутуленаму чалавеку, якога ўсе называюць «Стары», усё вядома.

Паддубны ўстаў, накіраваўся да печы, каб прыкурыць цыгарку, але Сучок зашастаў запалкамі ў кішэні і, запаліўшы адну, паднёс Паддубнаму. Паддубны прыкурыў і шматзначна сказаў, махаючы пальцам:

— Глядзіце, хлопцы, вучыцеся камунізму, чытайце больш нашай літаратуры.

Тут Апанас сказаў Сучку ўпаўголаса, як быццам наперакор Паддубнаму:

— Скокні да Аляксея, паглядзі, ці ўстаў Васіль.

Сучок выйшаў, а за ім подбегам і Апанас. Спыніў Сучка ў сенцах і, як змоўшчык, упаўголаса пачаў настаўляць:

— Аляксандр... Ты шмат балбочаш перад гэтым Старым. Помні, што канспірацыя і тут павінна быць.

— Ды нічога тут такога... Я ж яму ўсяго не сказаў.

— Яшчэ гэтага не хапала, каб ты ўсё сказаў... Ён, брат, загібае ў апартунізм, гэта ясна,— катэгарычна адсек Апанас, і ноздры яго зноў захадзілі.

Сучок ужо хацеў ісці, але Апанас, хвалюючыся, палічыў патрэбным дадаць:

— Ведаеш... Калі што будзе не так, мы самі з'ездзім у Вільню. Сувязі ў нас ёсць... Ну, ідзі...

Сучок, адыходзячы, кінуў:

— Я там... Агаце перадаў трошкі... на снеданне...

— Добра,— буркнуў Апанас і ўзяўся за клямку дзвярэй, каб увайсці ў хату.

А Паддубны гэтым часам думаў... іменна пра Сучка. Хлопец, здаецца, нішто сабе,— свой... Але яго прабыванне ў Вільні насцярожвае... Яго кандыдатура на старшыню павятовага камітэта Грамады таксама... пасольская... Гм...

І Паддубны хутка захадзіў па хаце, поўны трывогі ад невядомага, яшчэ не высветленага, што мроіцца наперадзе па шляху складанай барацьбы на гэтай паласе зямлі, якая завецца цяпер Заходняй Беларуссю...

## ЦЫРКУЛЯР

Узнімаюцца хвалі народнага руху па неабсяжных прасторах зямлі... Заходняя Беларусь, Заходняя Украіна, Літва, Польшча... Па зарослых шляхах, дзе адбываліся гістарычныя бітвы, едуць новыя дзяржаўнікі. За плячыма тарчаць вінтоўкі, у кабурах — пісталеты навейшых сістэм, у скураных службовых сумках разам з паперамі ляжаць кайданы з замкамі, гатовыя ў любы момант сціснуць чалавечыя рукі...

А ўдалечыню, направа і налева, цягнуцца вузкія палоскі — камяністыя, разорыстыя. Там можна заўсёды пачуць, як з-за гары плыве загублены ў палях, тужлівы спеў сялянкі, поўны жальбы і любві да гэтай запушчанай, абяздоленай зямлі. Ад яго пачынаюць свае песні сялянскія паэты. Клічуць расквітацца з няволяй і нядоляй. Няхай сабе едуць дзяржаўнікі ў польскіх мундзірах. Гэта — пасланцы Пілсудскага, які наважыўся ўставіць і сваю палку ў кола гісторыі. Палавіна Беларусі, палавіна Украіны — ужо ёсць. Гэта першы этап. Потым павінен быць другі — па Смаленск і Чорнае мора. Зрабіўшы свой узброены пераварот, каб закілзаць, як ён казаў, «разбэшчаную стыхію», што азначала абяззброіць рабочых і сялян, Пілсудскі пачаў сеяць атрутныя ілюзіі. Шляхціц Пілсудскі пачаў сыпаць самадурнымі анекдотамі, нахабнымі афарызмамі. Афіцэры-пілсудчыкі, чокаючыся чаркамі на сваіх гулянках, паўтаралі «мудрасці» маршала і ржалі ад задаволення, як коні. Мяшчане жмурылі вочы ад захаплення. Гімназісты і студэнцкая моладзь часта нарасхват чыталі каламбуры Пілсудскага, якія насаджалі цынізм, разбэшчанасць, парнаграфію, салдафонства. Сярод польскай моладзі пачалі з'яўляцца ўжо і песенькі такога характару:

Травка зялёна —  
Раз, два, тшы —  
Трохэн згнецона —  
Раз, два, тшы,  
Люлі, люлі, люлі, сыну муй,  
Млоды легіоніста ойцец твуй.

Разгуляўся Пілсудскі. Уварваўся з узброенымі афіцэрамі ў сейм, назваў маршала сейма Дашынскага дурнем і разагнаў сейм. Паслоў — пэпээсаўцаў, людоўцаў — хацеў тут жа на падворку сейма адлупцаваць бізунамі. Але ўспомніў, што цяпер XX стагоддзе і таму не абярэшся смеху на ўвесь свет. Загадаў адвезці ўсіх у Брэст, замкнуць у крэпасць і там прарабіць з імі экзекуцыю, што і

было дакладна выканана. Буржуазныя халопы атрымалі па заслугах ад свайго «пана дзедзіца» за тое, што не зусім у такт ударалі па струнах. Пасля «Брэста» Пілсудскі прыняў рэдактара органа ППС «Работнік» Мечыслава Недзялкоўскага. Недзялкоўскі — увасабленне бяспрыкладнай пустаты, тупасці, халопскага прыслужніцтва — доўга гаварыў Пілсудскаму нават нешта і аб марксізме. Адначасова, стукаючы сябе ў грудзі, кляўся, што і ён шляхецкага паходжання. Пілсудскі, як казалі, увесь час маўчаў, потым знарок шырока пазяхнуў, глянуў на гадзіннік і сказаў:

«Пара ўжо, Мечысь, спаць... Ідзі, праспіся трошкі...» І на гэтым аўдыенцыя скончылася. Выйшаўшы на трыбуну новага сейма, напханага пілсудчыкамі, ці, афіцыйна, прадстаўнікамі «Блоку спаўпрацы з урадам» (выбарчы ліст — 1), Пілсудскі даў волю свайму цынізму. Кідаўся нецэнзурнымі словамі па адрасу «няздарных і някемлівых» пэпээсаўцаў і людоўцаў, шкадаваў, што не адлупцаваў іх тады пры разгоне сейма, разлажыўшы на ўслонах на падворку. Урадавыя газеты дакладненька друкавалі прамовы і артыкулы «дзядка», нават не ставячы кропак замест нецэнзурных слоў. Усё, што выходзіла з вуснаў маршала, лічылася святым, недатыкальным.

Калі ж камуністычныя паслы пры з'яўленні Пілсудскага ў зале сейма пачалі крычаць: «Прэч фашысцкі ўрад Пілсудскага! Няхай жыве рабоча-сялянскі ўрад! Далоў белы тэрор!», Пілсудскі тыцнуў пальцам на камуністаў і сказаў:

— Забраць тых!..

І сеймавая стража гвалтам выкідвала камуністычных паслоў.

І эндэцкая «Газета Варшавска» ў бяссільнай злосці крытыкавала паводзіны Пілсудскага, помсціла за генерала Загурскага, якога Пілсудскі ў час свайго фашысцкага перавароту назваў хамам. Генерал Загурскі не вытрымаў і з размаху ўдарыў Пілсудскага па шчацэ ў прысутнасці ўсяго штаба, які кіраваў ваеннымі дзеяннямі перавароту. Тады Пілсудскі выняў з кабуры рэвальвер і на месцы застрэліў генерала Загурскага. Труп яго, зашыты ў мяшок, знайшоў сабе магілу цёмнай ноччу на дне Віслы. Эндэцкія генералы, афіцэры, якія на чале падкамандных ім войск выступалі супроць часцей Пілсудскага, былі палонены ў Кракаве, пад дамашнім арыштам. Генерал Галер хутка пайшоў у адстаўку.

Аднак урадавая прэса друкавала і далей самадурныя анекдоты Пілсудскага, яго шляхецка-сентыментальныя ўспаміны з дзяцінства, з маладосці, імпрэсіі аб Вільні. У апошніх Пілсудскі пісаў аб квітнеючым бэзе, аб звоне струн гітары, аб першым каханні ў Вільні, аб пераліве касцёльных звонаў і ўрэшце заключыў, што Вільня — найпрыгажэйшы горад на свеце. Бо як жа іначай? Чаму ж яму, гэтаму гораду, не быць найпрыгажэйшым? Там гняздо магнатаў, крэсавых зуброў, гняздо езуітаў. Там кують захопніцкія планы для наступлення на ўсход і для захопу Літвы, для рабавання культурных багаццяў беларускага народа.

На тое ж і створаны «Інстытут усходніх зямель» у гэтай самай Вільні.

Вось чым найпрыгажэйшы гэты горад для Пілсудскага. Вось чаму Пілсудскі зайграў на гітары, ударыў у раманс тон. Няхай літоўцы не думаюць аб Вільні. Сама Літва павінна ўрэшце апынуцца ў межах Рэчы Паспалітай. Так хоча Пілсудскі, які ўжо бесцырымонна выкрыкваў: «Польшча — гэта я!»

Не ведаў Пілсудскі ды і не хацеў ведаць, што ўжо нават і ў яго лагеры людзі трацяць веру ў перспектыву. У адным з рэстаранаў Варшавы сядзеў за асушанай ужо бутэлькай гарэлкі польскі паэт Ян Лабадоўскі — бард пілсудчыкаў. Яго раздзіралі супярэчнасці, ён гутарыў з дэманам ночы, паўтараў свой верш пад назвай «Пілсудскі», кажучы: «Добра ўсё гэта... і бэз, і гітара, і рамансы ў ценю ліп»... і раптам, сціскаючы кулакі, ускрыкваў:

А цуж зробіш, гды чарны
Жырардув
Руне клодон барыкады под ногі?
(А што зробіш, калі чорны
Жырардаў
Рухне калодай барыкады пад ногі?)

І, апускаючы галаву на стол, заціхаў.

Нават паэт-пілсудчык адчуў, што не задаволіць Пілсудскаму патрэб чорнага горада Жырардава, увасаблення рабочай, жабрацкай беднаты, хоць пах бэзу, звон гітары лашчаць слых і хочуць адвесці ад балячак Польшчы, якія ператвараліся ў гангрэну, якую нельга не ўбачыць і не задумацца над ёю.

А на ўскрык паэта падлятаў стары, вусаты кельнер і, услужліва сагнуўшыся ў крук, пытаўся:

— Цо пан собе жычы?

Паэт узнімаў галаву, глядзеў асалавелымі вачыма на кельнера і, махаючы кулаком, крычаў словы са свайго другога верша:

На стшасканых квадрыгах
Салютуемы цен, трагічна пшэшлосці...
(На разбітых калясніцах
Салютуем табе, трагічная прошласць...)

Страх заглядае ў душу. Перад вачыма цёмная, бяздонная яма.

Кельнер не адыходзіў ад стала і ўсміхаўся, пазіраючы на паэта. Чакаў канца. Калі ж паэт змоўк, сказаў:

— Вясёлы сягоння пан... Можа, пану падаць каньяку з кавай?..

Паэт, утарошыўшыся ў бездань цёмнай ямы, не чуў слоў кельнера і гарачым шэптам вымавіў:

— Гарэлкі яшчэ... гарэлкі...

* * *

А ў Вільні ў гэты час кіпела, як у катле. Аб гэтым і гаварыў на нарадзе таварыш Васіль. Усе, хто прыйшоў, сядзелі ў хаце Аляксея Вераса. На вуліцы была пастаўлена варта і дагаворана, на выпадак чаго, кудою ўцякаць з хаты.

Таварыш Васіль сустрэў людзей ветліва, нават з гумарам, што настройвала ўсіх на добры лад. Селі на ўслоне, які паставіў Аляксей, а насупраць на тапчане сеў таварыш Васіль. Аляксею было даручана таксама вартаваць, быць нібы развадзяшчым.

— Дык вось, таварышы,— сказаў Васіль,— я хацеў бы паслухаць вас... Раскажыце аб становішчы, аб настроях мас, што зроблена вамі, што вы заўважылі характэрнага ў сваім асяроддзі? — Таварыш Васіль сказаў і акінуў усіх позіркам. Ніхто не хацеў гаварыць першы.

Ананас Хмель нервова заварушыўся на месцы і штурхнуў локцем Сучка:

— Гавары ты...

Сучок пачаў:

— У нас становішча нядрэннае... З кожным днём растуць гурткі...

Сучок паглядзеў раздумліва ў акно, пачухаў пад левай пахай і працягваў:

— Чарговая наша задача цяпер — правесці масавую

падачу дэкларацый з дамаганнем беларускай школы... Пачаткі ўжо зроблены. Нам трэба весці больш агітацыю ў вёсках, трэба стварыць групу агітатараў пры павятовым камітэце Грамады...

Сучок змоўк, думаў, што б яшчэ сказаць. Тут дапамог яму таварыш Васіль:

— Ну, а як настроі мас?

— Настроі... Ды настроі такія,— пачуліся галасы,— выгнаць лесапрамыслоўцаў з лясоў і зусім не плаціць падаткаў... Ды, можна сказаць, што ў многіх вёсках яны і не плоцяцца... Сяляне выганяюць паліцыю з вёсак... «Дэталі важныя»,— падумаў таварыш Васіль і нешта занатаваў сабе ў блакнот. Па твары Апанаса Хмеля прабег цень задавальнення. «Наша бярэ»,— падумаў ён і, крыху прыгнуўшыся, нават шматзначна глянуў на Паддубнага і Андрэя, што сядзелі на другім канцы ўслона. Мірон Вадалей, які сядзеў між Апанасам і Паддубным, меў такі выраз на твары, нібы ўвесь час хацеў нешта сказаць, спыніць Сучка, але стрымліваўся. Толькі неспакойна зыркаў вачыма, не спускаючы позірку з Васіля. Васіль усё гэта бачыў, і нешта непрыемнае варушылася ў душы пры сустрэчы вачыма з Вадалеем. «Падхалім нейкі»,— падумаў ён і чакаў, што яшчэ скажа Сучок. А Сучок ужо не меў што сказаць. Не будзе ж ён гаварыць таго, што з Апанасам Хмелем рыхтавалі сваю акругу да ўзброенага паўстання, што масава арганізоўвалі камячэйкі на вёсках і што Апанас Хмель хоча правесці яго, Сучка, членам акруговага камітэта партыі.

Сучок змоўк. Маўчалі ўсе. Апанас дапытліва глядзеў на таварыша Васіля, а Вадалей не вытрымаў і падхапіў:

— Гэта выдатныя радыкальныя настроі...

Васіль імгненна змераў Вадалея вачыма і тут жа, адвярнуўшыся, запытаўся:

— Ну, хто яшчэ скажа што-небудзь?

— Ну, што ж... я магу сказаць,— прамовіў Апанас як мага больш сціпла і пачаў:

— Мы працягваем весці ваенную работу... Гэтага вымагае імкненне беларускага народа адарвацца ад Польшчы і далучыцца да БССР. Мы ўжо многа зрабілі ў гэтым напрамку. У нас ёсць не толькі групы, але і цэлыя сёлы, ужо... ну... ужо... як сказаць...

Апанас шукаў адпаведнага слова, зморшчыўшы лоб:

— Ну... ужо як бы адмабілізаваныя... вось, правільна — адмабілізаваныя...

Апанас узняў галаву і неяк хутка пачаў гаварыць проста ў твар таварышу Васілю:

— Гатовыя на першы кліч...

Васіль нешта запісваў у блакнот.

Паддубны абыякава адносіўся да справаздач Сучка і Апанаса, сядзеў ціха, толькі часам нешта шаптаў на вуха Андрэю, а той або ківаў галавою ў адказ, або ўсміхаўся. Нарада, здаецца, не абяцала нічога надзвычайнага.

А Апанас усё гаварыў і нават дайшоў да Карла Маркса, успомніўшы словы: «Гвалт ёсць павівальная бабка старога ладу, цяжарнага новым».

Таму будзе злачынства з нашага боку, калі мы занядбаем партызанскія настроі мас, — закончыў Апанас.

Андрэй, член павятовага камітэта Грамады, слухаючы дакладчыкаў, адчуваў сябе няёмка. Нейкая фальшывінка гучыць у іх словах. Цяжка будзе яму працаваць з Сучком. З яго кандыдатурай у павятовы камітэт згадзіліся паслы толькі таму, што Андрэй — інтэлігент. Бо, бачыце, ім невядома было, хто вылучыў Андрэя ў спіс кандыдатаў. А вылучыў раённы камітэт партыі. Такую ўстаноўку даў Паддубны. Непасрэдна заявіў аб гэтым Сучку Аляксей Верас, член райкома. Ну што ж, здавалася, усё ў парадку, аднак Сучок доўга чмокаў губамі, моршчыўся, глядзеў убок, пазбягаў сустракацца вачыма з Аляксеем. Урэшце спытаўся:

— Ці падыдзе ён?

— А чаму ж не падыдзе? Хлопец свой, адукаваны, добра паставіў гурток у сваёй вёсцы.

— Ну, няхай...— адказаў Сучок і махнуў рукою.

Андрэй хацеў узяць слова, але яго апярэдзіў Вадалей. Таварыш Васіль толькі буркнуў:

— Ну? Вы хочаце?

— Так, Грамада, як секцыя Камінтэрна...

— Ніякая яна там не секцыя Камінтэрна,— абарваў Вадалея таварыш Васіль,— гэта няправільна...

Вадалей сумеўся, пачырванеў, вочы забегалі, і ён на момант не ведаў, што гаварыць.

Потым адкашляўся, авалодаў сабою і працягваў:

— Яна, безумоўна, адыграе гістарычную ролю ў барацьбе за вызваленне беларускага народа. Настроі мас вельмі вострыя. Нам проста трэба было б звязацца з усходам і дзейнічаць разам. Што нам трэба? Нам трэба зараз зброя. Больш зброі, каб не набіваць стрэльбы тады, як убачым

качак. Стрэльбы павінны быць пабіты загадзя. Трэба ўжо мець усё пры сабе... І тады — раз...

І Вадалей зрабіў рукою такі рух, як быццам павярнуў ключ у замку.

Таварыш Васіль круціў аловак у руках, слухаючы Вадалея. Нарэшце, калі Вадалей пачаў гаварыць аб слабасці варожага лагера, таварыш Васіль падумаў: «Гэты чалавек любіць гучныя фразы... Тут канца не будзе...» І перапыніў Вадалея:

— Пачакайце... А што вы зрабілі ў сваёй вёсцы?

— У вёсцы? Стварыў шэсць ячэек... Звязаўся з другімі вёскамі і там арганізаваў ячэйкі... Гэта ўсё па даручэнню вось... таварыша...

І Вадалей кіўнуў галавою ўбок і паказаў вачыма на Апанаса...

Апанас заварушыў ноздрамі. Сказаў голасам чалавека, які быццам бы перамог шмат цяжкасцей:

— Мы гэтага таварыша рыхтуем сакратаром раённага камітэта партыі...

— Ага...— адказаў таварыш Васіль і запытаўся.

— Па колькі чалавек у ячэйках, створаных вамі?

— Не менш чым па шаснаццаць...

— А больш ёсць?

— Ёсць... ёсць нават такія ячэйкі, што да трыццаці даходзіць...

У таварыша Васіля на твары з'явілася здзіўленне. Ён раптам неяк выпрастаўся седзячы.

— Так... гм...

І ўсмешка мільганула ў яго на вуснах, а потым твар спахмурнеў, стаў суровы, як быццам чужы. Паддубны сапраўды бліскаў за таварышам Васілём, вочы яго блішчалі такім бляскам, нібы ён хацеў не то засмяяцца, не то вылаяцца. Андрэй апёрся шчокамі на далоні і локцямі на калені, прыкрываў вочы мезенцамі. Яму стала сорамна за штосьці і страшнавата. На вочы насоўвалася нешта невыразнае, чорнае, бліскалі зубы ў цемры...

— Слова мне...— сказаў Паддубны. Ён устаў і звярнуўся да Вадалея:

— Хто вам даваў такія ўстаноўкі — па шэсць ячэек ствараць у адной вёсцы і групаваць па шаснаццаць чалавек у ячэйку? Ды яшчэ нават па трыццаць?

Вадалей зразумеў, што яму пагражае небяспека. Зірнуў на Апанаса, як быццам прасіў дапамогі, і пачаў гаварыць, збіваючыся на кожным слове:

— Дык гэта... разумееце... гэта ж само сабою зразумела... цяпер камуністычны рух... так сказаць, авалодаў усімі... так што... гэта проста... Не будзем жа мы адгаварваць людзей ад уступлення ў партыю... Наша святая справа...

Паддубны перапытаў:

— Я вас пытаюся, хто вам даваў такія ўстаноўкі? Вы не адказалі на пытанне...

Адказаць адважыўся Апанас. Ён ушчаперыўся рукамі за дошку ўслона, крыху пабялеўшы тварам, павярнуўся да Паддубнага і кінуў:

— Я даваў...

— Ты? А ты ад каго атрымаў такія ўстаноўкі?

— Ад ЦК! — дзёрзка кінуў Апанас, задраўшы галаву і выгінаючы шыю, як певень.

— Ад ЦК? — працягнуў здзіўлена Паддубны.— Якім чынам?

— Цыркулярным... Атрымаў цыркуляр... Ты яго яшчэ не чытаў...

— Цыркуляр? Гэта нешта новае... Цікава... Можаш нам паказаць гэты цыркуляр?

— Чаму ж не? Магу... Толькі пры мне яго няма... Ён дома... Я зараз пашлю Аляксея...

І Апанас выйшаў.

Таварышу Васілю стала не па сабе. Ён прыехаў з ЦК. А тут — невядомы цыркуляр. Адкуль ён мог быць?

Тое самае амаль думаў і Андрэй, хоць па-свойму. Прыход Захара Зубца ўначы... яго расказ... Магчыма, што гэта і будзе яно...

Таварыш Васіль папрасіў, каб менш курылі, а то ў гэтым закутку ўжо не было чым дыхаць ад дыму. Пасля такой заўвагі Сучок зараз жа патушыў цыгарку. Таварыш Васіль глянуў на яго і ўсміхнуўся. Пра Сучка ён ужо меў некаторыя весткі ад гаспадыні. Васілю здавалася, што хлопец нішто сабе, не выскаквае, ад яго павявае сціпласцю, адчуваецца паслухмянасць. А вось гэты таварыш Гуляйноч... Справа ў тым, што Апанас не так даўно змяніў свой партыйны псеўданім. Усе ведалі яго пад клічкаю «Воўк», а цяпер пры Грамадзе, калі масавы рух ахопліваў усё Палессе, Апанас вырашыў узмацніць канспірацыю. Зрабіў ён гэта не па свайму жаданню, а пад напорам Сучка.

— Цябе ж усе ведаюць пад гэтай клічкай як аблупленага. Калі ідзеш па вуліцы ў Глушцы, нават вясковыя

хлопцы тыцкаюць у цябе пальцам і кажуць: «Вунь Воўк пайшоў...» Гэта можа прывесці да правалу...

— Ты так думаеш? — спытаўся Апанас.

— Ну, зразумела,— адказаў Сучок,— ты ж сам павінен гэта зразумець.

— Дык ты кажаш змяніць? — не сказаў, а выгукнуў Апанас. Потым, уздыхнуўшы, дадаў:

— Ну што ж, зменім... калі так...

І момант думаў, утаропіўшы позірк у зямлю (сябры сядзелі на прызбе хаты Апанаса), моршчыў лоб і раптам, ляпнуўшы Сучка па плячы, зноў выгукнуў:

— Ведаеш, як я сябе назаву?

— Ну, як?

— Гуляйноч... Хвацкі псеўданім, праўда?

— Хвацкі-то ён хвацкі,— смеючыся, сказаў Сучок,— але ўжо вельмі хвацкі...

— Ну што ж, так і трэба... Не, брат, няхай будзе Гуляйноч...

— Няхай будзе,— працягнуў Сучок, хоць у душы не вельмі згаджаўся.

Такім чынам Апанас з «Воўка» ператварыўся ў «Гуляйноч».

...Апанас уляцеў у бакоўку засопшыся і на хаду сказаў:

— Зараз прынясе...— І сеў на старое месца. Таварыш Васіль маўчаў. Мог бы распачаць гутарку з Апанасам, але маўчаў.

Маўчаў і Паддубны. Андрэй пазіраў на таварыша Васіля і думаў: «Гэта чалавек... з розумам... Увесь яго склад, падыход да людзей, яго разумны такт выклікаюць сімпатыю. Не, не можа быць, каб ён быў няшчырым...»

Аляксея штосьці доўга не было. Хоць Апанас казаў яму, дзе ляжыць гэты, невядомы ні Паддубнаму, ні таварышу Васілю, цыркуляр.

Таварыш Васіль, пачакаўшы, сказаў крыху жорстка:

— Ну, што... Я думаю, пакуль прыйдзе Аляксей, можам прадоўжыць нашу гутарку.

Слова папрасіў Андрэй. Ён адкашляўся, крыху падумаў. Адчуваў, што бярэ сабе на плечы цяжкую ношку.

— Мне крыху незразумелы, таварыш Васіль, выказванні папярэдніх таварышаў... Падрыхтоўка да паўстання, мне здаецца, павінна цяпер адбывацца іншым шляхам... Стаўка толькі на Заходнюю Беларусь ужо сябе перажыла... Само жыццё падказвае, што без уліку ўсяго пралетарыяту Польшчы мы не зможам будаваць свае планы.

— Такія выказванні могуць толькі раззброіць...— кінуў рэпліку Апанас.

— Пачакай, таварыш Гуляйноч...— перабіў Апанаса таварыш Васіль.

Андрэй працягваў:

— Ясна мне, напрыклад, што пасля спынення партызанскай барацьбы адбылося пэўнае класавае расшластаванне ў вёсцы. Падняло галаву кулацтва. Чый гэта, напрыклад, орган «Сялянская ніва»? Па-мойму, орган кулацкі, які ўзяў курс на апрацоўку серадняцтва. Стаіць яўна на грунце нацыяналістычным. А вось у Глушцы на вітрынах вісіць плакат — па полі ідзе Пілсудскі, сее з сявенькі. Унізе напісана: «Добры гаспадар!» Часта бачыш, як кулакі ў вырабленых кажушках тоўпяцца каля гэтага плаката і адыходзяць з усмешкамі.

Твар таварыша Васіля павесялеў, агеньчыкі задавальнення бліскалі ў вачах. А Андрэй увайшоў у ахвоту і гаварыў ужо свабадней:

— Што нам трэба на першым этапе? Трэба выкарыстаць Грамаду, як легальную арганізацыю, для змагання за дэмакратычныя свабоды, павысіць палітычную свядомасць мас, бо актыўнасці цяпер у народзе хоць адбаўляй... Ну, хіба не так?

Апанас слухаў, звесіўшы галаву, і, калі Андрэй сказаў: «Ну, хіба не так?», буркнуў злосна:

— Што мова беларуская ў самаўрадзе — табе, відаць, самае галоўнае? Школа беларуская? Гэтым свабоды не здабудзеш. Мова — гэта дробязь!

— Мова — гэта не дробязь, таварыш Гуляйноч! Мы ведаем, што адна мова гэта яшчэ не свабода, але гэта ўжо вялікі сродак па шляху да здабыцця свабоды. Ігнараваць мову — гэта значыць ігнараваць народ, нацыю.

— Кулак таксама не адмовіцца ад мовы беларускай,— кінуў Вадалей.

— Правільна, не адмовіцца, ён ёю і цяпер гаворыць. Але, як паны захочуць адабраць гэтую мову, ці стане кулак грудзьмі за яе? Па-мойму, не стане. Гэтай жа беларускай мовай будзе адгаварваць і другіх ад барацьбы...

Таварыш Васіль заварушыўся, усміхнуўшыся. Паддубны хацеў падтрымаць, але стрымаўся. Яшчэ не час. Апанас з Вадалеем, здаецца, не мелі што сказаць. Аляксандр Сучок чмокнуў губамі. Бліснуў вачыма, як быццам што зразумеў, і сказаў:

— Тут многа правільнага, я так думаю...

— Што — правільна? — агрызнуўся на яго Хмель.— Хвігу табе дадуць паны, а не мову... Гэта буржуазна-інтэлігенцкія разважанні... Не гэта галоўнае... А раз не дадуць,— значыць, збірай зброю і штурмуй.

Андрэй крыва ўсміхнуўся, пачырванеў. Хацеў спрачацца далей, але надумаў, што гутарка будзе доўгая, да таго ж яшчэ не ўсе выказаліся.

Зразумеў гэта і таварыш Васіль і таму ўзняў руку і звярнуўся да Андрэя з пытаннем:

— А колькі ячэек у вашай вёсцы?

— Дзве ячэйкі... Адна партыйная, другая камсамольская. У партыйнай — пяць чалавек, у камсамольскай — сем.

— Гэта — яўная недаацэнка руху,— зноў грымнуў Апанас,— хіба можа столькі чалавек справіцца з заданнямі?

— Таварыш Гуляйноч, вы пачакайце, яшчэ пагаворым аб гэтым,— перапыніў Хмеля таварыш Васіль.

Апанас знізіў тон і горача зашаптаў нешта Вадалею і Сучку.

А Аляксея з цыркулярам усё не было.

Таварыш Васіль нават напомніў аб гэтым. Апанас пачухаў патыліцу і прамовіў:

— Я ж сказаў, дзе ляжыць. Няўжо там жонка... Можа, самому схадзіць?

Але ў дзвярах бразнула клямка. Усе павярнулі галовы да фіранкі, якой быў завешаны ўваход у бакоўку, і застылі ў чаканні. Рыпнулі дзверы, пачуліся борздыя, таропкія крокі.

Увайшоў Аляксей. Спацелы, усхваляваны, ён накінуўся на Апанаса:

— Ты, брат, не помніш, дзе што кладзеш!

— А што? — замаргаў Апанас.

— Ты казаў, што ляжыць у сенцах у страсе над чацвёртай латай. Я перапароў усю страху — не знайшоў. Жонка перабрала ўсе паліцы, кішэні тваіх куртак — нідзе няма.

— Дык дзе ж ты знайшоў?

— У кніжках на покуце...

— Знайшоў схованку...— буркнуў Паддубны.

— Ах, чорт набяры, я і... забыўся... Знаёміў гэтымі днямі хлопцаў з цыркулярам... І паклаў, відаць, там...

— Якіх ты хлопцаў знаёміў? — спытаўся Паддубны.

— Сваіх... Ячэйкі...

Паддубны не вытрымаў і сказаў:

— Ты ералашы вырабляеш!.. — і перасмыкнуў плячыма, абураны.

А таварыш Васіль чытаў цыркуляр, хмурыў бровы. Прачытаўшы, прабег вачыма зверху ўніз па паперы яшчэ раз. Не мог, здаецца, дакапацца да сэнсу. Потым глянуў у левы зверху куточак паперы, і твар пасвятлеў. Усё стала зразумелым. А ў гэтым левым куточку чарнеў штамп:

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ
ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
*(Сэцэсія)*

Вось гэтае ў дужках слова «сэцэсія» праясніла ўсё. Таварыш Васіль перадаў цыркуляр Паддубнаму, сказаўшы:

— Прачытай...

Паддубны, глянуўшы на штамп, раптоўна кінуў:

— А-а-а... Зразумела...

Цыркуляр ад Паддубнага перайшоў да Андрэя. Потым таварыш Васіль спытаўся ў Вадалея і Сучка:

— Вы знаёмы з цыркулярам?

— Так, знаёмы... — адказалі яны ў адзін голас.

Таварыш Васіль абвёў усіх вачыма і спытаўся:

— Ну, як? Усім зразумела?

Потым, глянуўшы на Аляксея Вераса, які ціха стаяў у кутку, сказаў:

— Сядайце і вы...

Аляксей сеў на самым краёчку ўслона, побач з Андрэем.

— Так, таварышы... — шматзначна прамовіў таварыш Васіль, сабраўшыся з думкамі,— пачнём трошкі з гісторыі... Вось тут, як бачылі на цыркуляры, пад штампам у дужках падрукавана слова «сэцэсія». Само гэтае слова лацінскае — азначае раскол. Як вам, напэўна, вядома, у КПЗБ адбыўся раскол. Апазіцыя дамагалася, ні на што не зважаючы, рыхтаваць народ да ўзброенага паўстання.

— Гэтага патрабаваў і патрабуе ўвесь народ!..

— Так, яны спекулявалі на настроях народа і хацелі падставіць яго пад удар ворага.

— Гэта хлусня!

— Хлусня? Зараз пабачым. Хто абвясціў польскае

сялянства і польскі пралетарыят ворагам беларускага народа? Хто?

Апанас маўчаў.

— Хто адмаўляў існаванне класаў, класавай барацьбы ў Беларусі, прыкрываючыся дэмагагічнай фразай: «У Беларусі ўсе ходзяць у лапцях»? Сэцэсія. Народ выкрыў іх, але засталіся яшчэ недабіткі, якія каламуцяць ваду і цяпер.

— Гэта няпраўда! — вырвалася ў Апанаса.

— Ну што ж, таварыш Гуляйноч. Вольнаму воля. Можа, каму-небудзь падабаецца ружовенькая эсэраўская шуміха. Толькі ўжо давайце адкрыта, начысціню.

Апанас, здаецца, прырос да лаўкі, зрэдку ўздыхаючы. У Вадалея чамусьці пачырванелі злёгку азызлыя, маладжавыя шчокі. Сучок, наадварот, павесялеў. Твар яго, які звычайна выяўляў нудную абыякавасць, ажывіўся.

Андрэй не ведаў гісторыі сэцэсіі і таму прагна лавіў кожнае слова таварыша Васіля. Паддубны ледзь стрымліваўся, каб не ўмяшацца ў гэты паядынак паміж Васілём і Хмелем.

А Васіль гаварыў далей — аб узнікненні Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады яшчэ ў 1902 годзе, аб тым, як напярэдадні рэвалюцыі 1905 года яна перафарбавалася ў «Беларускую Сацыялістычную Грамаду», не мяняючы эсэраўскай сутнасці. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі эсэраўшчына была разбіта. Частка беларускіх эсэраў уцякла ў Заходнюю Беларусь і цалкам улілася ў КПЗБ. Кампартыя Польшчы пры стварэнні КПЗБ зрабіла памылку, дапусціўшы групавы прыём у партыю...

— Вось дзе карэнні сэцэсіі...

Апанас ачнуўся ад прымусовай задумы. Ускінуўшы спадылба вочы на таварыша Васіля, панура кінуў:

— А хіба Беларусь не мае сваёй спецыфікі?

— Мае, чаму не? Іменна, мае... Але яна павінна разглядацца па лініі класавай барацьбы, а не па лініі затушоўвання існавання класаў, як гэта робяць сэцэсіяністы.

Апанас змоўк.

— Сэцэсія,— працягваў таварыш Васіль,— выкрыта, яна знаходзіцца па-за партыяй. Але гэта не азначае, што яна перастала дзейнічаць. Доказам з'яўляецца вось хоць бы гэты цыркуляр. Настроі мас вострыя, ваяўнічыя. Яны гэта ведаюць і хочуць накіраваць іх у сваё нацыяналістычнае рэчышча, пе-ра-ха-піць настроі,— з расстаноў-

кай сказаў таварыш Васіль. Потым, штосьці ўспомніўшы, дакрануўся далоняй да лба і звярнуўся да Паддубнага:

— Ага... так... у свой час быў спецыяльны цыркуляр ЦК — змяніць яўкі і паролі па ўсёй Заходняй Беларусі. Ты правёў у жыццё гэты цыркуляр па акрузе?

— Правёў, яўкі і паролі ЦК і АК усюды зменены.

— Зменены? Ну, добра, пойдзем далей. Пяройдзем да сучаснай Грамады. Яна, безумоўна, адышла ад той мінулай Грамады. Але тая не была масавай. У цяперашнюю ж Грамаду пайшоў народ. І гэта адбылося не без нашага ўдзелу. Таварыш Анатоль, па-мойму, правільна ўяўляе сабе бліжэйшыя задачы камуністаў у Грамадзе. Не круціце галавой, таварыш Гуляйноч. Мы, камуністы, будзем падтрымліваць Грамаду ў дамаганнях адкрыць школы на беларускай мове...

Вадалей паціснуў плячыма і няўпэўнена ўсміхнуўся.

— Калі так будзем працаваць,— сказаў катэгарычным тонам Апанас,— то ногі выцягнеш, пакуль чаго даб'ешся...

— Ног мы, вядома, не выцягнем. Гэта ўжо істэрыя...

Паддубны і Андрэй аднačасова адказалі:

— Зусім правільна!

Кіўнуў Сучок, сказаў упаўголаса: «Правільна». Вадалей глянуў на Апанаса, замітусіўся, падумаў: «Прыпірае да сцяны». Апанас пацісну́ў плячыма, развёў рукамі:

— Правільна-то яно правільна, але... — і не дагаварыў...

Таварыш Васіль пачаў разбіраць гэты правакацыйны цыркуляр, які так спадабаўся Апанасу. У ім гаварылася, што ў Заходняй Беларусі наспявае рэвалюцыйная сітуацыя, аб чым сведчыць буйны рост Грамады, што не трэба траціць моманту, а скарыстаць яго для ўзброенага паўстання, што варта толькі падняцца ўсім, як прыйдзе дапамога з усходу, з БССР, і тады будзе скончана з акупацыяй, што на рабочы клас Польшчы няма чаго спадзявацца,— ён цяпер пасіўны, знаходзіцца пад уплывам ППС, разлічваць трэба толькі на свае сілы, разлічваць на раптоўны ўдар на акупантах.

— Усё ясна. У мяне такое ўражанне, што гэты цыркуляр складаўся ў змове з дэфензівай. Што значыць узняць цяпер узброенае паўстанне? — паставіў пытанне таварыш Васіль.

Вытрымаўшы паўзу, працягваў:

— Гэта не што іншае, як падставіць пад абух рэвалюцыйныя сілы народа.

...Гэта ўжо не тыя часы — 1920—1926 гады, калі поль-

ская буржуазія была яшчэ слабая, калі рабочыя масы Польшчы, абуджаныя Кастрычніцкай рэвалюцыяй, хапаліся за зброю,— тады мы клікалі да ўзброенага паўстання... А цяпер... не... цяпер, наадварот,— трэба змагацца з такімі настроямі. Яны, гэтыя настроі, будуць расцэньвацца, як парушэнне дысцыпліны, як авантурызм. Гэта не азначае, што мы адмаўляемся ад узброенага паўстання. Рыхтавацца да рашучых баёў трэба пад гегемоніяй польскага пралетарыяту, як пралетарыяту, старэйшага ў краіне.

— Ой... — ускрыкнуў Апанас,— нічога не будзе... — і махнуў рукою. Хацеў устаць і выйсці, але стрымаўся.

— Не махайце, таварыш Гуляйноч, на вашым мясцовым сепаратызме далёка не паедзеш... тым больш што перад табой згуртаваныя сілы буржуазіі цэлай Заходняй Еўропы, якая ўсякімі мерамі імкнецца навязаць вайну СССР. Тактыка, як бачыце, мяняецца, і мяняецца правільна.

Андрэю ўспомнілася, як расказваў Санкоўскі пра падрыхтоўку да ўзрыву моста над Бугам...

— Таварыш... А перад пераваротам Пілсудскага рыхтаваліся да паўстання?

— Так, быў такі момант... Калі б тады ўзнялі паўстанне па ўсёй Польшчы, Пілсудскі ва ўладзе не быў бы. Ніколі не быў бы! Тады была сапраўдная рэвалюцыйная сітуацыя.

— Чаму ж не адбылося паўстанне?

— Гэта была тады вялікая памылка. Некаторыя з ЦК няправільна расцэньвалі Пілсудскага і пераканалі большасць... Але з таго часу становішча, вядома, змянілася. І цяпер усякі заклік да паўстання — авантурызм. Тактыка, як бачыце, павінна быць іншая.

— Тактыка... тактыка... А дзе ўдар па ворагу? — не сунімаўся Апанас.

— Ды сціхні ты ўжо,— абарваў Хмеля нахмураны Аляксандр Сучок.

— Кожная наша кампанія,— умяшаўся Паддубны,— ці то за самаўрад, ці за беларускую школу, ці супроць шарваркаў, ці падаткаў,— усё гэта ёсць згуртаванне мас супроць акупантаў, усё гэта — удар па ворагу... Гэта ж ясна.

Доўга яшчэ гаварыў таварыш Васіль. Ён гаварыў аб правым і левым ухілах, аб тым, што ў нашай канкрэтнай абстаноўцы небяспечны яны абодва, але ўсё ж такі большай небяспекай для нас з'яўляецца ўхіл правы. Не дапу-

сціць, каб Грамадой аваподалі буржуазныя лібералы. Калі б так сталася, Грамада была б выкарыстана фашызмам. Гаварыў, што Грамада ўжо мае «свае рогі», што вылазяць наверх згодніцкія тэндэнцыі. Яны далей барацьбы за самаўрад не ідуць. А што датычыць надзелу сялян зямлёю без выкупу, яны аб гэтым маўчаць. Людзі з такімі імкненнямі кажуць, што пытанне пераходу зямлі ад памешчыкаў сялянству без выкупу — пустая фраза, што гэта немагчыма здзейсніць. Спрыяць такім імкненням — гэта азначае спаўзаць на пазіцыі кулацтва, якое хоча запраўляць у павятовых валасных і нават гуртковых камітэтах. Трэба ўжо зараз гэтыя рогі збіваць, і збіваць бязлітасна. Ясна, што гэта пракулацкія настроі. Кулак уплывае на членаў Грамады з серадняцкіх слаёў.

Таварыш Васіль скончыў заклікам да пільнасці, вытрымкі і веры ў народныя масы...

Выцер хустачкай спацелы твар, усміхнуўся, глянуўшы па ўсіх, як чалавек, які выканаў свой абавязак.

— Можа, зробім перапынак? — прапанаваў Апанас.

Паддубны запярэчыў.

— Перапынку, я думаю, рабіць не варта,— сказаў ён,— тут нам ужо нямнога засталося. Я хачу сказаць пару слоў.

Таварыш Васіль кіўнуў з прыхільнасцю і, апёршыся спіною да сцяны, падрыхтаваўся слухаць.

— Таварышы,— пачаў Паддубны,— справа не так проста выглядае, як уяўляе сабе таварыш Гуляйноч. Ён сваімі намерамі хоча падарваць рэвалюцыйныя настроі мас. А нам трэба іх берагчы і выкарыстоўваць умела, каб яны прынеслі карысць народу. Чаму? Бо супроць нас групуюцца сілы контррэвалюцыі, якія ўсякімі мерамі хочуць падрэзаць рэвалюцыйны рух. І адна з такіх мер — выклікаць, значыць, справакаваць цяпер узброенае паўстанне. Трэба быць сляпым, каб гэтага не бачыць. Я думаю, што пасля выступлення таварыша Васіля ўсім ясна палітыка нашай партыі. Гэта павінен запомніць таварыш Гуляйноч і праверыць свае пазіцыі. Рэвалюцыя не жарты, каб можна было з ёю так бавіцца,— скончыў Паддубны і сеў.

Усе маўчалі. Апанас сядзеў, апусціўшы галаву, нахмураны, збянтэжаны. Логіка рэчаў вымагала, каб ён узяў слова. Але амбіцыя не дазваляла яму зрабіць гэта. І ён маўчаў. Ён разумеў, што ад яго чакаюць слова. Але маўчаў. Урэшце, яшчэ больш нахмурыўшы бровы, ён з натугаю працадзіў праз зубы, заікаючыся:

— Я... я... таварышы, зараз выказацца не магу. Я павінен падумаць...

— Добра, падумайце,— сказаў таварыш Васіль.

— Што зробім з гэтым цыркулярам? — запытаўся Паддубны.

— Я яго забяру з сабою,— адказаў таварыш Васіль,— гэта будзе для нас харошым дакументам для выкрыцця сэцэсіяністаў.— І, звярнуўшыся да ўсіх, запытаўся: — Можа, якія пытанні будуць да мяне?

Руку падняў Андрэй.

— У чыёй кампетэнцыі справа каапатацыі членаў у акругком? — запытаўся ён.

— У кампетэнцыі сакратара акругкома. Потым каапатацыя павінна быць пацверджана або не пацверджана на пленуме акругкома, у залежнасці ад таго, ці апраўдаў сябе каапатаваны таварыш на практыцы.

— Ясна,— адказаў Андрэй.

Пасля гэтага Паддубны прапанаваў зрабіць кароткую закрытую нараду ў складзе трох членаў акругкома на чале з таварышам Васілём.

Вадалей, Сучок і Аляксей Верас выйшлі пакурыць.

Паддубны перайшоў да справы. Запытаўся ў Апанаса:

— Ад каго ты атрымаў гэты цыркуляр?

— Ад аднаго чалавека па старой яўцы.

— Хто гэты чалавек?

— Знаю, што ён працуе па лініі камсамольскай недзе пад Брэстам, з клічкай «Слізень».

— Як выглядае?

— Русавалосы... вочы шэрыя... сярэдняга росту... трымаецца крыху развязна, свабодна, з усмешкай... Курыць... Так, здаецца, баявы хлопец...

— Ты нічога не ўтойваеш? — спыніўшы позірк на Апанасе, спытаўся Паддубны.

— Ну, што ты?.. За каго ты мяне маеш?

— Глядзі, Гуляйноч... Каб ты не прагуляў чаго...

— Ты свае штучкі кінь! — успыхнуў Апанас.

— Ты ж ведаеш, што па старых яўках нельга прымаць нікога... Адкуль ён з камсамола мог ведаць партыйную яўку? Камсамол мае яўкі свае...

— А чорт яго ведае! Я пайшоў на яўку проста з цікавасці... Ну, а ты на маім месцы не пайшоў бы?

Допыт спыніўся. Усе маўчалі, апусціўшы галовы ў задуме.

— Добра,— сказаў Паддубны.— Гэта табе папярэ-

джанне. А цяпер на хвілінку выйдзі. Ёсць справы канспірацыйнага парадку.

Апанас змераў Паддубнага з галавы да ног. А Паддубны стаяў нерухома, не зважаючы на тое, што такія «прапановы» не падабаюцца Хмелю. А Хмель нейкі момант таксама стаяў нерухома, бліскаючы вачыма, а потым ледзь чутна кінуў Паддубнаму: «Ну, добра» і ў момант знік за фіранкай.

Паддубны звярнуўся да Андрэя:

— Ты хацеў нешта сказаць, Анатоль?

Андрэй расказаў аб прыходзе Захара Зубца ўначы і аб тым нейкім цакісту, які патрабаваў членаў акругкома і гаварыў аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання.

Таварыш Васіль ажывіўся. Выпытваў аб знешнім выглядзе гэтага госця і сам сабе нешта пацвярджаў. Усміхнуўся да Паддубнага і сказаў:

— Потым... Узмацніць пільнасць на яўках, Стары. Ён няйначай прыехаў на старую яўку таксама.

Паддубны паклікаў Аляксея.

— Скажы, браток,— звярнуўся ён,— у Гуляя ніхто не быў нядаўна?

— Быў. Малады, русавалосы... начаваў у Гуляя...

— Начаваў?

— Так. Я яго праводзіў на станцыю...

— Можа, ён табе што казаў?

— Хваліў Гуляя і казаў, што з такімі людзьмі можна рабіць баявыя справы.

— Можаш ісці,— усміхнуўся Паддубны,— пакліч сюды Гуляя.

Апанас увайшоў і адразу запытаўся:

— Ну, што?

— Скажы, Гуляйноч, хто гэты, што сядзеў з табою побач?

— Гэта... член раённага камітэта... каптаваны мною... Таварыш энергічны... Я яго хачу прапанаваць сакратаром раённага камітэта.

— Ты добра прыгледзеўся да гэтага чалавека? Праверыў? — наступаў Паддубны.— Мы знаем, што ў Глушцы патрэбен новы сакратар. Хлопец там, праўда, добры, але нявопытны, яму не па сіле. І трэба яго выратаваць. Але з выбарам людзей трэба падыходзіць... ведаеш... па-партыйнаму. Каго ты выбраў? Гэта ж нейкі легкадумны, балбатун, не відаць у ім пачуцця адказнасці... Хто па яго хадзіў на сённяшнюю нараду?

— Аляксей... член раённага камітэта, кааптаваны табою.

— Паклічам Аляксея,— сказаў Паддубны.

— Слухай,— звярнуўся ён да Аляксея, калі той увайшоў,— ты сягоння хадзіў па гэтага, што тут сядзеў?

І Паддубны паказаў на ўслон.

— Я...

— Як жыве гэты чалавек? Што наогул можна сказаць пра яго?

— Жыве ён няважна... Хата развальваецца. Жонка ў яго — дачка нейкага марскога афіцэра... Прывёз аднекуль. Такая... паненка... Але... як я прыйшоў туды, то пачуў, што ў яго была паліцыя. Мяне папярэдзіў на вуліцы адзін знаёмы хлопец.

— І ты ў хаце не быў!

— Не, быў... Пасля таго, як выйшла паліцыя... На стале стаяла выпітая бутэлька ад гарэлкі і недаедзеная закуска...

— Ты лжэш, Аляксей! — выкрыкнуў Апанас.— Гэтага не можа быць, каб ён паліцыю частаваў.

— Іменна частаваў... Ты не крычы... Сам прызнаўся мне, калі я запытаў.

— Нашто ж ты тады яго прывёў сюды? — крычаў Апанас.

— Я і хацеў спачатку не весці яго сюды... Але трэба ж было выканаць загад.

— Чаму ж ты адразу не сказаў мне, як прыйшоў? — задзёрыста пытаўся Апанас.

— Вось гэта... так... тут я, можа, і памыліўся, што не сказаў. Але ж, па-мойму, табе вядома, што да яго не раз заходзіла паліцыя...

— Ну і што ж з гэтага? Мала да каго можа зайсці паліцыя...

— Не, па-мойму, табе вядома і тое, што ён частуе паліцыю гарэлкай,— не ўступаў Аляксей.

— Не, мне гэта невядома.

Апанас тыцнуў пальцам у Аляксея і, глянуўшы на ўсіх, сказаў:

— Прапаную завесіць [1] яго ў правах члена партыі і вывесці з раённага камітэта... За страту пільнасці...

— Ты пачакай з завешваннем,— перапыніў Паддуб-

---

[1] Завесіць — часова выключыць з партыі, парваць з ім усялякія сувязі.

ны,— мы лічым Алёшу сумленным хлопцам, і здаецца, што ён праў... Мы прапануем іншае. Завесіць гэтага... што частуе паліцыю... А там паглядзім. Так?

І Паддубны нахіліўся да Андрэя і Аляксея. Тыя адказалі:

— Зусім правільна.

А Аляксей дадаў:

— Даўно трэба было гэта зрабіць.

Апанас пранізаў Аляксея гнеўным позіркам і прашыпеў:

— Ух ты...

А Паддубны зноў папрасіў Апанаса і Аляксея выйсці.

Тройка — Васіль, Паддубны і Андрэй — задумалася. Перад усімі стала пытанне: што рабіць з Апанасам Хмелем?

Паддубны, засунуўшы рукі ў кішэні, нават прайшоўся, а затым сеў ля таварыша Васіля і сказаў Андрэю:

— Сядай...

Андрэй сеў на ўслон.

— Трэба завесіць яго ў правах члена акругкома да пленума. На пленуме няхай раскрытыкуе свае памылкі. Як ты на гэта? — звярнуўся да таварыша Васіля Паддубны.

Таварыш Васіль кіўнуў у бок Андрэя:

— Як ты?

— Я думаю і даўно думаю, што яго трэба выключыць з партыі...— адказаў Андрэй.

— Гэта яно было б лепш за ўсё,— сказаў Паддубны,— але... наш абавязак ужыць усе сродкі, каб яго перайначыць... Дзёрзкі і ломкі — вось бяда...

— Я думаю,— сказаў таварыш Васіль,— з завешваннем пачакаць. Пасля нашай нарады ён павінен многае прадумаць і дастасавацца да тактыкі партыі. Абмежавацца папярэджаннем, грунтоўнай самакрытыкай. Пабачым на пленуме.

Згадзіліся на гэтым.

Паддубны кракнуў, ударыў сябе далонямі па каленях і неахвотна ўстаў, каб паклікаць Апанаса. Апанас увайшоў і мітусліва азірнуў усіх. Ён разумеў, што тут яму рыхтуецца прысуд. Толькі які? Самае страшнае, каб не абвясцілі... правакатарам. Апанас адчуваў у глыбіні сваёй дзёрзкай і разам з тым хісткай душы, што не схавацца яму з вока партыі. Эге, каб не дысцыпліна! Нарабіў бы ён спраў цяпер такіх, што было б аб чым гаварыць усяму

Палессю. Эх, дысцыпліна, дысцыпліна... Мала славы, гонару, амбіцыі... А тут бы віхрам...

Паддубны паказаў пальцам на ўслон і неяк панура сказаў:

— Сядай...

Апанас сеў, апёршыся далонямі на дошку ўслона, і з выразам прымірэння, нават пакоры на твары, чакаў.

Паддубны ўзняў на Апанаса свой няўмольны позірк і з момант не спускаў яго. Апанасу нават стала няёмка пад такім позіркам. Ён закруціў галавою туды-сюды, запад такім позіркам. Ён закруціў галавою туды-сюды, заморгаў вачыма і, сапнуўшы ў нос, пачаў даставаць табаку з кішэні, каб закурыць.

— Адарві мне паперкі на цыгарку,— абыякава папрасіў Паддубны.

Васіль з Андрэем пераглянуліся пры гэтым і ўсміхнуліся.

Апанас адарваў кавалачак газеціны і моўчкі працягнуў Паддубнаму, апусціўшы галаву. Перадаў і капшук з табакай. Капшук з чорнага шоўку, вышыты зялёнымі кветкамі, шнурочкі з калматымі бамболкамі на канцах. Апанас круціў цыгарку, як быццам што думаючы, але пальцы прыкметна дрыжалі. Потым ён прапанаваў закурыць таварышу Васілю і Андрэю, але тыя адмовіліся.

Паддубны з Апанасам пыхнулі з цыгарак адначасова, і дымы іх скрыжаваліся, так што на момант засланілі твары аднаго і другога.

Паддубны выплюнуў абгрызены кончык цыгаркі і пачаў гутарку:

— Вось што, таварыш Гуляйноч... Паклікалі мы цябе, каб перадаць наша апошняе рашэнне адносна тваёй асобы...

— Рашэнне адбылося без майго ўдзелу... Без мяне мяне ажанілі, выходзіць...

— Часам так трэба, ты сам ведаеш... А ты не перабівай, а спярша выслухай... Ты ўжо даўно заслужыў, каб быць па-за радамі партыі за тваю недысцыплінаванасць, за твой яўны авантурызм. Гэта ўжо ясна для ўсіх. Другая справа — твая няшчырасць... Гэта ўжо насцярожвае... Хаваеш ад нас сёе-тое...

— Што, напрыклад? — злосна спытаўся Апанас, і твар яго пачырванеў.

— А вось хоць бы тое... Той, хто прыносіў табе цыркуляр, начаваў у цябе?

— Ну, і што з таго?

— А тое, што ты аб гэтым не сказаў. А мы лічым гэты момант важным... для тваёй характарыстыкі.
— Усё гэты Шэры набрахаў...
— Ты думаеш пра Аляксея?
— А пра каго ж...
— Ён кіраваўся адданасцю партыі. Хлопец разумны.
— Смаркач!
— Ты не гарачыся...
Апанас змоўк, насцярожыўся — што ж будзе далей?
— Даецца табе апошняе папярэджанне з паведамленнем аб усёй справе ў ЦК. Патрабуем ад цябе грунтоўнай самакрытыкі на пленуме акругкома. Трэцяе, выправіць памылкі арганізацыйнага парадку. Даецца табе два тыдні тэрміну на гэта. У раёнах, дзе створаны мнагалюдныя ячэйкі, выбраць з іх найлепшых людзей і стварыць ячэйкі нанава — не больш як па пяць чалавек у ячэйцы. Менш ячэек і менш людзей у кожнай ячэйцы, разумееш? Такім чынам мы абаронім сябе ад вялікіх правалаў і захаваем канспірацыю... Чацвёртае, мы завешваем у правах члена партыі гэтага, як яго псеўданім... Ну, што сядзеў з табою, з «полькай»?
— Дзяцел...
— Вось гэтага Дзятла мы выключаем з работы да раённай канферэнцыі. Мы яе скора зробім...
— А хто будзе сакратаром раёна?
— Ёсць у нас на прыкмеце іншыя...
— Можа, думаеш таго мешчанчука з Глушца? Гэта ж слабізна. Што ён зробіць?
— Аб гэтым пасля...— адмахнуўся Паддубны.
Апанас захістаўся і цяжка ўздыхнуў.
— Вось што ты павінен выканаць,— спакойна сказаў Паддубны.
— На гэта нам напляваць... Не тое рабілі... Гм... два тыдні... Мы гэта за два дні зробім... Але які будзе з гэтага толк,— пабачым.
— На правах члена акругкома перадай Дзятлу аб яго часовым выключэнні. Калі Дзяцел сакратар ячэйкі, замяніць другім. Сачыць за выкананнем...
Пры апошніх словах Паддубнага Апанас крыху павесялеў. Зніклі, здаецца, усе страхі. Апанас застаўся з правамі. Ён яшчэ паваюе.
— А што ты кажаш «не тое рабілі», гэтага партыя не забывае, чаму і прынята іменна такое рашэнне ў надзеі, што ты паправішся...

Апошнія словы кальнулі Апанаса, не спадабаліся. Ён скрывіўся, падумаў: «Гаворыць, як з дзіцем...»

Зірнуў у вочы Паддубнаму і прамовіў:

— Добра, добра, даволі ўжо... Зараз мяне азбуцы пачнеш вучыць...

— Усе мы павінны вучыцца, без гэтага ні кроку... Не спяшайся хапаць зоры з неба, да іх яшчэ трэба дапяць...— працягваў Паддубны, не павышаючы і не зніжаючы тону.

— А ты не шкадуй зор... Гаворыш, як некалі гаварыў Сцяпан Каваль — Прайдзісвет: «Ты гарачун, чорт віхраваты з лазы...» Я вось яшчэ жыву, а ён прагарэў... Невядома дзе...

— Правільна ён казаў, нічога, брат, не скажаш... Мужык разумны... Ён не прагарыць...— адказаў Паддубны, потым памаўчаў крыху і спытаўся:

— Ну, што,— табе ўсё ясна? Маеш якія пытанні да нас?

— Я хачу, каб у мяне не адбіралі права пісаць у ЦК.

— Гэта будзе залежаць ад тваёй самакрытыкі. І як ты выканаеш пастаўленыя перад табою задачы,— сказаў Паддубны і, звярнуўшыся да таварыша Васіля, спытаўся: — Так ці не?

— Так,— адказаў таварыш Васіль і ўстаў. За ім усталі ўсе.

Таварыш Васіль пачаў апранацца. Дзень хіліўся к вечару. За акном па той бок вуліцы рассцілалася залітае сонцам тарфяное балота, за якім кучаравіўся лес. У Васіля балела галава. Хацелася на паветра, на дарогі.

— Нам час у дарогу,— сказаў таварыш Васіль, ужо апрануты.

— Чаму ў дарогу? — з ноткай крыўды спытаўся Апанас.— Пойдзем паабедаем, можна адпачыць, нават пераначаваць...

— Дзякую, таварыш Гуляйноч... Усё гэта было б можна, каб дазваляў час. Скончылі справу і пойдзем далей. Паабедаем па дарозе... Вось што, таварыш Гуляйноч, я хачу, каб у наступны раз мы сустрэліся некалькі ў іншых абставінах, каб тут у вас быў рэвалюцыйны парадак, такі, аб якім мы гаварылі... Хутка атрымаеце літаратуру. Апрача лістовак будуць брашуры і часопісы. Звярніце ўвагу на часопіс «За бальшавізацыю КПП». Ну, жадаю... каб было як найлепш...

І таварыш Васіль паціснуў руку Апанасу, які зрабіўся

нейкім услужлівым, мітуслівым і разам з тым сумнаватым.

— А праведніка ж вам трэба...

— Вось сябры ідуць па той жа дарозе,— паказаў Васіль на Паддубнага і Андрэя.

Выйшлі з бакоўкі. Васіль падзякаваў гаспадыні, якая прасіла яго застацца паабедаць, развітаўся з Сучком, з Вадалеем, з Аляксеем і ўзяўся за клямку дзвярэй, каб выйсці. Гаспадыня кіўнула Аляксею — правядзі. Аляксей выйшаў за імі ўслед.

Зайшлі далёка за вёску. Ззаду засталася шырокая балотная даліна, на якой, як вокам глянуць, усё маячылі стагі і стагі. Даліну перасякала шырокая з глыбокімі ямамі дарога, абсаджаная абапал старымі, трухлявымі вербамі. Дарога нагадвала грэблю. У двух ці трох месцах на ёй накіданы масткі, пад кожным сачылася ручаінка. Даліна выглядала чыстай, выкашанай так, як быццам падмеценай. І таму выразна выглядалі на ёй кучаравыя кусты лазняку, зрэдку тарчалі адзінокія маладыя бярозы. А далей ва ўсе бакі засцілала небасхіл паласа лесу. Асенняя ўтульнасць! Аднекуль пахла дымам, відаць, ад агню, раскладзенага пастухамі. Глуха здалёк далятала мыканне каровы. Яно здавалася сумным, загубленым недзе ў гушчарах. Дарога з грэблі памкнулася ўверх, на гару, ужо вузкая, пясчаная, парослая на абочынах травою-паўзуном, і знікла ў сасновым лесе. Лясное ўзвышша пацягнулася ўздоўж балотнай даліны, здаецца, у бесканечнасць. Яго тутэйшыя людзі называюць градою. Сябры ішлі гэтым лясным узвышшам і больш маўчалі. Лёгка і сцішна было ісці пад ценем разгалістых соснаў, якія галінамі навісалі над дарогай.

— Ну, Шэры, правёў ты нас ужо далёка, час табе вяртацца. Хадзі, я табе яшчэ нешта скажу,— прамовіў Паддубны.

Яны зайшлі ў кусты, а Васіль з Андрэем сцішылі крокі, пайшлі павольна.

— Хораша ў лесе,— сказаў Васіль, а потым праспяваў сабе пад нос:

Гэй ты, гэй, бор, шумі,
Аб свабодзе грымі...

А затым махнуў рукою, і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Не маю голасу... Як рыба...

І спытаўся ў Андрэя:

— Купалу, Коласа чытаеш?

— Чытаю...

— Гэта важна... Гэта — паэты народныя. Яны глыбока ўвайшлі ў народ. Добра беларускаму народу, што мае такіх паэтаў, якія сваімі творамі вось з гэтых балотных нізін дапамаглі ўзняць, узварушыць народ, ударылі па струнах яго душы... Трэба берагчы гэты скарб...

— Многа ўжо маладых друкуецца ў газетах...— сказаў Андрэй.

— Так... Гэта зразумела... Барацьба... Актыўнасць мас... браджэнне ідэй свабоды... рэвалюцыі... Народ не спіць... Як гэта хораша.

І таварыш Васіль, забыўшыся, што не мае голасу, зноў зацягнуў у задуме:

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю...

Але тут падхапіў ужо і Андрэй:

І ў агонь і ў ваду
Я за ёю пайду.

Андрэй не даў спыніцца песні. Павысіўшы крыху голас, працягваў далей:

Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
Чым свабоду хаваць,
Злыбядзе аддаваць.

Таварыш Васіль, ступіўшы пару крокаў з дарогі ўбок, апусціўся на траву пад разложыстай сасною.

— Пачакаем яго... Кладзіся... Адпачнём...

Андрэй таксама прылёг.

— Ведаеш, хто мяне навучыў гэтай песні? — спытаўся таварыш Васіль.— Вольга. Бачыў яе ў Вільні, як ад'язджаў сюды. Між іншым, прасіла перадаць табе прывітанне, калі ўбачу.

Андрэй спакойна адказаў: «Дзякую», хоць у самога раптоўна закалацілася сэрца. Нават сам не чакаў, што ўспамін аб Вользе выкліча такое хваляванне.

А таварыш Васіль працягваў:

— Яна расказвала пра вашы подзвігі ў Дзядах.

Таварыш Васіль лагодна ўсміхнуўся, нешта ўспамінаючы...

І сказаў:

— Даўно ўжо гэта было... Лесапільны завод... Дзяды...

Гэты камандзір Каваль... цікавы мужык.

— Волат, які вырас у пушчы,— уставіў Андрэй.

— Ага,— працягнуў Васіль і дадаў: — Цяпер цяжэй, чым тады было...

Прыўзняўся і абняў калені рукамі, паглядзеў у зялёны гушчар лесу, дзе па лісцях арэшніку таямніча пераліваліся праменні сонца, прабіваючыся праз верхавіны соснаў.

— Лес настройвае на лірыку...— вёў ніць сваіх думак таварыш Васіль,— а той польскі рабочы, які быў пасланы сакратаром акругкома на Буг, цяпер працуе пад Беластокам...

— Я яго бачыў, як служыў у войску... Сустрэўся выпадкова...

— Так?

— Ён быў на перападрыхтоўцы.

Прыйшоў Паддубны і з ходу апусціўся побач на траву.

— Ух, стаміўся... Добра паляжаць... Ведаеце што, адыдземся мы ў лес, падзакусім.

— Што ты падзакусіш?

— Ёсць. Алёша пастараўся. Выходзячы за намі, захапіў кавалак хлеба і сала.

І Паддубны выняў з бакавой кішэні доўгую лусту хлеба і такі ж доўгі кавалак сала, загорнутыя ў белую палатнінку.

Адышліся, выбралі чыстае месца і селі.

Гаспадарыў Паддубны. За ежай упаўголаса расказваў:

— Растлумачыў Шэраму, як змагацца з Гуляем... Ты, Анатоль, будучы тут на месцы, таксама глядзі ў абодва вокі. Калі ён, гэты Гуляйноч, не выканае нашых рашэнняў, ну, тады...

І Паддубны махнуў кулаком.

— І трэба ж сабе выдумаць пейкі гайдамацкі псеўданім... От фантазія...

Сябры дружна зарагаталі.

— Я хацеў яшчэ, каб мы заняліся на нарадзе і яго псеўданімам... Упрыгожвае сябе, як важак якога племені...

Сябры зноў засмяяліся.

— Пасмешышча цэлае,— не сунімаўся Паддубны,— але гэта адложым на другі раз. Яму цяпер і так добра ў косці дасталося. Будзе жаваць, як конь цуглі.

Таварыш Васіль ад смеху перайшоў да сур'ёзнага.

— Вось што, таварышы, нам тут трэба загадзя дагаварыцца. Калі гэты Гуляйноч не выканае нашых рашэн-

няў, трэба будзе яго выкрыць у акрузе. Гэта значыць, выключыць з партыі, парваць з ім усялякія сувязі...

— Кінецца ва ўгалоўшчыну... Я табе гавару...— сказаў Паддубны.

— Чорт з ім...

— Пацягне за сабою другіх,— уставіў Андрэй.

— Так, іменна, пацягне,— падтрымаў Паддубны.— На Палессі для гэтага грунт ёсць. Арганізуе шайкі зладзеяў і будзе нападаць на купцоў... Скліча на Палессе ўсё: дэфензіву, паліцыю, жандармерыю... Адным словам, тэрор. Будуць усім камуністам фабрыкаваць крымінальныя справы.

— Гэта... правільна...— раздумліва сказаў таварыш Васіль,— небяспека немалая... Тады для дабра партыі і народа застаецца, у выпадку чаго, толькі адно...

І ўсе трое ў адзін голас сказалі:

— Знішчыць!

## Раздзел трэці

# У БОГАБАЯЗНЫМ ГЛУШЦЫ

Кравец Абрам па прозвішчу называўся Плотка. Адкуль узялося такое прозвішча ў родзе Абрама, ведае толькі мінулае, поўнае вандровак з аднаго месца на другое. Праўда, перш чым асталявацца ў вёсцы, бацька Абрама знайшоў часовы прытулак у графа Ельскага, бацькі цяперашняга графа Браніслава. Жыў у адным з чваракоў [1] разам з парабкамі.

Год пражыў кравец Янкель Плотка ў графа, а потым стаў непатрэбны. Тады пасяліўся ў вёсцы, купіў старую хату ў селяніна, які ад'язджаў на насяленне ў Сібір, і замест фракаў, касцюмаў пачаў шыць сялянскія курткі, кажухі.

Абрам, малады хлопец, ужо тады, у маёнтку графа, вучыўся кравецкаму майстэрству ў бацькі. Там і набыў ён гэтую кравецкую універсальнасць, што роўнага яму і не было цяпер у мястэчку Глушэц.

---

[1] Будынкі для парабкаў.

Вось недзе ў час вандровак і прывілося роду Абрама прозвішча Плотка.

Уздыхалі прадзед, дзед, бацька. Уздыхае цяпер і Абрам. Нічога, здаецца, не змянілася пад сонцам. Вось толькі што выйшла з яго дому паліцыя: два паліцыянты ў мундзірах, а два ў цывільным. Абшукалі ўвесь дом, усё перавярнулі, злазілі і на гару, заглянулі і ў хляўчук. Не знайшлі нічога. Напісалі пратакол, далі падпісацца Абраму, як гаспадару дома, і запыталіся ў Грышы:

— Да Грамады належыш?

— Не,— адказаў Грыша.

— А сувязі з Грамадою, з камітэтам маеш?

— Не...

— А адкуль ведаеш Андрэя Касцевіча з Запалянкі? — запытаўся старшы паліцыянт.

Тут умяшаўся Абрам.

— Прошэ пана,— загаварыў ён.— Я даўно знаёмы з Касцевічам, ужо дваццаць год... Ну, ён прыносіць да мяне шыць...

— Я вас не пытаюся! — вызверыўся паліцыянт і звярнуўся зноў да Грышы:

— Ну... адкуль ведаеш Андрэя Касцевіча?

— Вось бацька ўжо сказаў... ён прыносіць шыць... І ўсё...

— Ага, шыць... Ну, добра... Да пабачэння! — Паліцыянты ўсталі і выйшлі.

З імі разам выйшаў з дому і страх, ад якога цямнела ў вачах і дрыжала сэрца. З падворка зараз жа ўбеглі ў хату старая Рахіль, хлопцы, дачка-дзяўчына і акружылі Грышу.

Грыша стаяў збялелы, заклапочаны, з насупленымі бровамі. Вочы пад акулярамі гарэлі гневам, крыўдай.

— Нічога не знайшлі, Гірш? — спыталася сястра.

Маці, гняўлівая, насцярожаная, прыкрыкнула на яе:

— Ты ўсё хочаш ведаць... Няхай ён супакоіцца... прыстаеш з пытаннямі... Ідзі, Гірш, ляж і нікуды не хадзі...

А Грыша маўчаў.

Абрам увесь час пыхкаў папяросай, хадзіў паволі па пакоі. Спыняўся перад акном, глядзеў на крамы, што прытуліліся адна да другой, як гнёзды, і ўздыхаў.

А па ўсёй вуліцы як глянуць высыпалі местачкоўцы — старыя і маладыя — і пазіралі ў бок дома Абрама. Але даволі было паліцыянту з'явіцца на вуліцы, як усе хаваліся на падворкі за брамы і адтуль сачылі за кожным

рухам на вуліцы. Твары выглядалі з вокнаў. І не дзіва,— гэта ўжо другі вобыск у Абрама.

Цяжка Абраму, цяжка ўсёй сям'і, толькі адна маці найбольш стрыманая. Яна ходзіць па пакоі выпрастаўшыся, павольная ў рухах, і ў чорных засмучаных вачах можна заўважыць нават іскаркі ледзь улоўнай усмешкі, схаванай недзе глыбока ў душы. Гэта — гордасць. А можа, і надышоў час, калі накоплены праз жыццё пратэст супроць усяго, што прыгнятала і болем, невыказным смуткам асядала ў душы, цяпер можа знайсці сабе выхад? За недалёкай мяжой на ўсходзе новая Расія — савецкая, дзе ўжо няма цара-душыцеля, няма жандараў, стражнікаў.

Дзеці пайшлі ў майстэрню і моўчкі селі за кравецкім сталом. Апусцілі галовы і маўчалі, як быццам да чаго прыслухоўваючыся. Яшчэ перажывалі вобыск. А Грыша тым часам выбег на двор.

Абрам са старою былі ў пярэдняй. Рахіль засцілала раскіданую паліцыяй пасцель, узбівала падушкі, ставіла на месца крэслы, кветкі.

— Трэба сказаць Гіршу, каб ён не лез нікуды, каб не займаўся палітыкай,— сказаў Абрам.

Рахіль спынілася і доўгім позіркам агледзела Абрама, як быццам здзіўляючыся, адкуль яму прыйшло такое вось у галаву.

— А што, ты за яго будзеш займацца? — адказала Рахіль тонам, у якім чуліся злосныя ноткі. Абрам прамаўчаў, зноў глядзеў у акно. Пацiснуў плячыма і ўздыхнуў. Нешта на свеце перавярнулася. Быў у сям'і спакой, лад, а тут — на́ табе.

Рахіль прыбірала ў пакоі і маўчала. Потым, азірнуўшыся па пакоі, ускрыкнула:

— Прынёс бы шчотку з майстэрні, а то стаіш, як... як скамянелы...

— О божа...— трагічна шапнуў, уздыхнуўшы, Абрам і паплёўся з пакоя.

Неўзабаве прынёс шчотку і моўчкі перадаў у рукі Рахілі...

— Гірша няма ўжо дома...— тонам дакору сказаў Абрам. Відаць было, што сказаць гэта каштавала яму адвагі. Але ўсё ж такі адважыўся.

— Як няма? — спытала і перастала мясці Рахіль.

— Ну, няма...— развёў рукамі Абрам.

Рахіль кінула шчотку, якая бразнула аб падлогу, і выбегла з пакоя.

Хутка вярнулася і, пляснуўшы ў далоні, сказала: «Ой, гвалт!» Накінулася на Абрама са словамі:

— Ідзі, шукай... Ён, напэўна, у Міхала або ў Рунды. Хіба ж можна цяпер хадзіць... пасля вобыску?..

— Добра, добра, я пайду...

І Абрам выйшаў.

Ішоў павольна па дашчатым тратуарчыку, нават з узнятай галавой.

Папяроса ўвесь час дымілася ў руцэ паміж двума пальцамі, пракапцелымі нікацінам. Ён гэтую руку трымаў перад сабою прытуленай да грудзей і час ад часу падносіў да губ, каб зацягнуцца дымам. На парогах крам стаялі гандляры — дзе па два, дзе больш — і гутарылі. Усе праводзілі Абрама адным і тым жа пытаннем:

— Гірш арыштаваны?

— Не...— кожны раз адказваў Абрам, не спыняючыся і не паварочваючы галавы. Ішоў роўнай, павольнай хадою, цяжка ступаючы на дошчачкі тратуарчыка, зносячы і пытанні і позіркі, якімі моўчкі праводзілі яго. Прыжмурана глядзеў у даль вуліцы, а каля вачэй кlаліся свежыя маршчыны. «Няхай пытаюць... Ім нічога... У іх няма Гірша, такога Гірша, як мой...» — думаў Абрам ідучы.

І крывёю аблівалася сэрца Абрама. Над домам, над сям'ёй навісла небяспека. Гэта адчувае цяпер Абрам нават у цьмяных блясках заходзячага сонца, якое праменнямі ціха застыла на бляшаных і гонтавых стрэхах, на вокнах дамоў і хат. Адчувае і ў ціхім мяккім паветры, і ў тых высокіх таполях і бярозах, што маячаць у канцы вуліцы, направа, на старых яўрэйскіх могілках.

Вось ужо апошняя крама, крама мучная, а далей пойдуць хаты земляробаў. Сярод іх стаіць хата Міхала. Абрам падумаў, што тут не будзе гэтых надакучлівых пытанняў і позіркаў. Але на парозе мучной крамы стаяў яе гаспадар, худзенькі, зморшчаны, у акулярах, запыленых мукою, у праедзеным мучным пылам адзенні — пацёртым каптаніку і штанах. Прапацелая кепка, як скамечаны блін, сядзела на галаве, абапал носа шчокі нагадвалі ямы. Гэтага гандляра мукою можна было часта бачыць, як ён цягае з воза на сагнутай спіне мяхі з мукою ў сваю краму. Тады здавалася, што гэта мурашка ўзваліла на сябе глыбу, бо пад мехам амаль не відаць было сагнутага чалавека. Цяпер ён стаяў на парозе сваёй адчыненай крамы, прыпёршыся спіною да вушака, і саломінкаю калупаўся ў зубах. Чырвоныя праменні сонца адбіваліся ў шкельцах яго аку-

ляраў. Так часам можна прастаяць і цэлы дзень, калі няма пакупнікоў.

Калі Абрам мінаў яго краму, мучнік, пачуўшы крокі, хутка азірнуўся. Забегалі пад акулярамі вочы, і спіна адарвалася ад вушака. Мучны гандляр, заўсёды маўклівы, схаваўся ў краму, і адтуль да вушэй Абрама даляцеў тоненькі, сіплы галасок, поўны насцярожанасці:

— Абрам... Гірш у Міхала...

Абрам толькі скасавурыў вочы ў бок крамы, не паварочваючы галавы. На хаду працадзіў праз зубы:

— Добра...— і падумаў: «Хоць адзін знайшоўся...»

Але Грышы ў Міхала не было. Пайшоў нядаўна, і ніхто не ведае — куды.

А Грыша зараз жа пасля вобыску падаўся ў сваю дрывотню. Схаваная там літаратура ляжала некранутай, хоць паліцыянты заходзілі і туды. Пабег да Якава, потым да Максіма Рунды. Больш за ўсё баяўся за Ісэра Цукермана. І ў яго ёсць сякія-такія брашуркі. Трэба папярэдзіць усіх. Да Цукермана паслаў Якава. Вобыск можа паўтарыцца і быць не толькі ў яго, Грышы Плоткі, але і ва ўсіх. Вырашылі з Максімам Рундам, каб літаратураю загадваў адзін чалавек і каб толькі ён ведаў, дзе яна схавана. Гэты абавязак узяў на сябе Рунда...

Абрам вярнуўся дахаты, нідзе не знайшоўшы Грышы. Запалілі лямпу ў майстэрні, і Абрам крыкнуў на дзяцей, каб селі за работу. Дзеці паслухаліся, хоць рукі не хацелі брацца ні за што. Хацеў ісці ў пярэднюю да старой Рахілі, але тут убег Грыша. Абрам накінуўся на яго з дакорамі. Грыша не пярэчыў бацьку, маўчаў і ўсміхаўся. Толькі адзін раз сказаў:

— Тата, ну, даволі ўжо...

Бацька пайшоў у пярэднюю, а браты і сястра, сагнуўшыся над працай, спадылба сачылі за кожным рухам Грышы. А Грыша распрануўся, кінуў касцюм і кепку на нары, момант пастаяў у задуме, як быццам што прыпамінаючы, потым правёў далоняй па сваіх віхрастых валасах і накіраваўся да рукамыйніка. Забыўся зняць акуляры, адвярнуўся, зняў іх і паклаў на кепку. Нейк заўзята пырскаў вадою. Памыўшыся, схапіў анучку, якая вісела на цвіку ля ракавіны, і кінуў пад ногі, потым зняў ручнік. І так — ручнікам выціраў твар, а нагою — падлогу. Сястра не вытрымала, вылезла з-за стала і вырвала ў яго анучу з-пад нагі.

— Ну, вось і дзякую...— жартаваў Грыша,— даўно б так... Нічога, Хана, усё будзе суха...

Грыша некуды спяшаўся. Успомніў, што трэба выпрасаваць адзін пашыты касцюм, але адкінуў гэты намер. Глянуў у вокны. Цёмна. Ноч. Трэба было б зачыніць аканіцы. Зараз жа выйшаў і зачыніў. Вярнуўшыся, прайшоў да маці. Там глянуў на гадзіннік, выслухаў дакоры. Маці ўрэшце сказала, каб змяніў кашулю, якую яна і выняла са старамоднай цёмна-карычневай шафы, паточанай ужо шашалем. Грыша схапіў кашулю і подскакам вылецеў з пакоя. У майстэрні пераадзеўся. Здаецца, зроблена ўсё, засталося толькі павячэраць.

Сястра як быццам адгадала яго думку, сказала:

— Ты не здумай куды ісці... Зараз будзем вячэраць...

Грыша пайшоў на кухню, там дастаў з-пад печы невялічкі блакнот і, сеўшы воддаль ад акна, ля сцяны, пачаў нешта пісаць.

Трэба ж сягоння ісці на пасяджэнне ячэйкі, якую стварыў сам Грыша. Гэта цікавая ячэйка. Яна складаецца з шаўцоў і балаголаў. Цудоўныя там людзі. Адзін, напрыклад, шавец з густымі чорнымі бровамі — вышэй за Грышу можа ў тры разы. Гэта — волат. Калі надзене пажарніцкі шлем у час практыкаванняў, ну, тады перад вамі сапраўдны егіпецкі воін з часоў нейкай там дынастыі Рамзеса. Але пры ўсёй сваёй сіле, высокім росце ён з лагоднай усмешкай слухае Грышу на пасяджэннях ячэйкі. У гэтым, здавалася б, суровым чалавеку білася простае сэрца — без фальшу, шчыра. Другому шаўцу, наадварот, нізкаму і тоўстаму, яшчэ маладому, таксама падабаюцца выказванні Грышы, і ён нават забываецца пра ўсё, слухаючы. І павольна, непрыкметна адкрываецца яго рот і так застаецца адкрытым да канца гутаркі. Але пасля ўсяго, калі пачынаецца абмен думкамі, ён разводзіць рукамі, заўзята пакручвае галавою і кажа, уздыхаючы:

— Ой, цяжка... Як ты іх возьмеш? У іх зброя, у іх улада... Ух...

У ім адчувалася вечная запалоханасць, забітасць, якая спадарожнічала ўсяму яго жыццю, калі нельга было галавы падняць,— усё глядзі ўніз, глядзі ў падэшву, якую падбіваеш да бота. Можаш глянуць толькі ў мутнае акенца сваёй майстэрні, заседжанае мухамі, дзе часам у праменнях сонца чырыкне верабей.

Нельга насіць галаву высока,— гэта ўбачыць паліцыянт, гэта ўбачыць цырульнік Ёшка, які часта, расцягнуў-

шыся на лаўцы ў сваёй цырульні, грэецца на сонцы, як кот. Дый сам ён падобны да ката — маленькі, тоўсценькі, і твар, як месяц.

На сцяне ў яго вісіць кларнет, на якім Ёшка, маршыруючы на чале пажарнікаў, іграе гімн пілсудчыкаў «Перршая брыгада». Але галоўнае ў тым, што ў Ёшкі голяцца ўсе паліцыянты мястэчка і шпікі — тайная паліцыя...

І тоўсты Эфроім таямніча ўзнімае палец і гаворыць такім тонам, як быццам тут мелася зараз узарвацца бомба:

— Цыц... Сам староста з ім адзін раз гаварыў... Ого... Сам староста... Ух...

А волат-шавец з чорным няголеным тварам хмурыў бровы, слухаючы, і кідаў нядбала:

— Я не ведаю, чаго ты тады сюды прыйшоў? Нашто ты ўступіў у ячэйку? Табе толькі купцу Абрамовічу ваду насіць...

Балаголы рагаталі. Гэтыя людзі, абветраныя падарожжамі, смяшлівыя, але жыццёва мудрыя, здаецца, ведалі, што будзе заўтра. Аб гэтым гаварылі іх упэўненыя позіркі, калі на твары наплывала і злосць, і заклапочанасць. Гэтыя не дадуць напляваць сабе ў душу.

Адзін з іх працягваў думку «волата»:

— Калі не хочаш ваду насіць Абрамовічу, то млынар Моўша шукае няньку для дзяцей... Дык, можа...

І тоўсты Эфроім, пачырванелы да вушэй, у роспачы махае рукамі і заікаецца:

— Ай, ай... Я пагляджу, якія вы героі... Я зраблю, што трэба будзе... Няхай Моўшу дзяцей калыша чорт...

Грыша, як заўсёды, пачынае супакойваць, пачынае гаварыць:

— Наш палахлівы Эфроім павінен паказаць сябе. І ён... сябе пакажа...

Усе сціхалі і слухалі словы Грышы, як малітву. А Грыша працягваў:

— Сіла рабочага класа павінна нарастаць з кожным днём... Не ўсё адразу...

Узрадаваны Эфроімківаў носам так, што, здавалася, ківае толькі адзін казырок заношанай кепкі, які ценем прыкрываў яго цёмныя вочы. Ён з выразам пераможцы глядзеў на «волата» і кідаў словы:

— Ну, што, Довыд? Ты прайграў, Довыд...

А Давыд нядбала ўсміхаўся, абыякава махаў рукою, як быццам меў дачыненне не да чалавека, ды яшчэ такога

тоўстага, як Эфроім, а да нейкай мухі. І з-пад чорных вусоў вырывалася нядбала:

— Хо-хо... Хо-хо...

Нешта смяшлівае мармыталі і балаголы...

І вось цяпер трэба Грышу ісці на пасяджэнне гэтай ячэйкі. Парадак дня вельмі сур'ёзны. Пры апошняй сустрэчы з Андрэем паўсталі важныя пытанні: растлумачэнне ролі Грамады ў нацыянальна-вызваленчым руху беларускага народа і другое пытанне — выкрыццё рэакцыйнасці сіянісцкага руху і здрадніцтва Бунда. Ясна было для абодвух, што апошняе пытанне будзе цвёрдым арэхам для местачкоўцаў, якія жылі ў атмасферы рабінаўскіх прапаведзяў. А рабін даводзіў, што не трэба займацца рэвалюцыямі, трэба чакаць волі бога, якая ўжо здзяйсняецца.

З ціхім гоманам вярталіся яўрэі з сінагогі. Наперадзе ішлі багатыя — купцы і прамыслоўцы ў доўгіх чорных паліто, у капелюшах-кацялках. Пад пахамі неслі тоўстыя, быццам закураныя дымам, кнігі ў скураных карычневых вокладках — збор мудрасці пракрокаў і талмудыстаў. За імі ішлі дробныя гандляры — хто таксама ў паліто, а хто ў касцюме. Калі першыя гаварылі павольна, другія спяшаліся. Ззаду ўсіх ішла бедната. І дзіўна, бедната ў мястэчку найбольш, а з сінагогі ішло яе найменш. Мусіць, не ўсім аднолькава да густу настаўленні рабіна, і кожны з беднаты быў рад выкарыстаць суботу, каб адпачыць пасля цяжкай працы.

Апускаўся вечар, а потым надыходзіла ноч з белым, крыху цьмяным месяцам, які, здавалася, прыплыў сюды з далёкай пустыні і спыніўся над ціхім мястэчкам, каб пасеяць у душах людзей надзеі і мары.

Ах, ах... «Шма, Ісроэль, адонаі, элегейну хот...» [1] З гэтай малітвай багатыя ездзяць аж у Варшаву да цадыка, каб вымаліць у яго цуд для сваіх інтарэсаў. Вязуць цадыку вялікія грошы і просяць. Лясны прамысловец кажа: «Рэбэ, памаліся богу, каб быў мароз, бо мне трэба вазіць альху з лесу...», а другі лясны прамысловец, наадварот, просіць памаліцца, каб хутчэй растаў лёд на рацэ, бо яму трэба сплаўляць лес. Каму будзе лепш спрыяць бог,— гэта невядома, мусіць, таму, хто даў цадыку больш грошай. Ай, грошы, грошы...

...Ну, а дзе возьме грошы бедны яўрэй паехаць да цадыка і вымаліць у яго хоць такое звычайнае цуда, каб дзеці хоць раз у тыдзень з'елі булку з маслам?

[1] Слухай, Ізраіль, бог вялікі, бог літасцівы...

Багатыя кажуць, што яўрэям цяпер ужо не трэба прасоўвацца на ўсход, бо блізка граніца, бо там, у Саветах, талмудысты не ў пашане, што там нельга нажыць капіталу. А якое ж гэта жыццё без капіталу, без яго ж няма ніякага гешэфту.

Так мяркуюць багатыя, а вось бедныя думаюць і гавораць інакш. Яны прагна слухаюць весткі аб СССР, з захапленнем прытакваюць, пакручваюць галовамі, агеньчыкамі загараюцца іх вочы, якія, здаецца, ніколі не бачылі радасці. Там можна зарабіць працоўнаму чалавеку, аддаць дзяцей у вялікую навуку. Го, навука! Яна дае багацце чалавеку. Толькі на ўсход, толькі на ўсход. Няхай згарыць гэты захад. На ім неба чорнае і крывавае... А на ўсходзе сонца заўсёды яснае і неба чыстае.

Але багатыя маюць сілу, уладу,— асцярожней з імі, іх падтрымлівае рабін. І калі што, дык назавуць адшчапенцам, напусціць рабін на цябе ўвесь кагал. І што тады? Адна пакута. І дзе ўзяць тую цудадзейную сілу, якая б пазбавіла сілы багатых?

Грыша адказвае ў такіх выпадках:

— На ўсходзе, бачыце, знайшлі такую сілу... Бедныя прагналі багатых і кіруюць жыццём справядліва. Ніхто нікога не крыўдзіць, усе роўныя... А калі хто што зробіць несправядліва, таго караюць...

— Караюць?

— Так, караюць...

— О, о... гэта...

І пераглянуцца між сабою, слухаючы, зварухнуцца, усмешкамі асвецяцца іх твары.

— Дык там усё гэта зрабіў рускі рабочы народ, а мы тут што зробім?

— І мы не адны...— адказвае Грыша,— ёсць народ беларускі, у Польшчы — польскі, а ўсе мы разам маем надзею і апору на народ рускі...

Змоўкнуць слухачы, задумаюцца. Аб панскай Польшчы ў душы няма прыемных думак, бо перад вачыма снуюць па вуліцы паліцыянты з нагайкамі, чыноўнікі. Ад іх толькі і даводзіцца слухаць польскую мову. Ды якая тут мова! Адна лаянка.

Але... Грыша гаворыць праўду — усё на ўсходзе.

Часта па начах Грыша праводзіў Андрэя на гасцінец.

Нідзе ні агеньчыка за акном. Усё заснула, не чуваць нават і брэху сабак. Толькі ў аддаленні глухім рэхам чу-

юцца крокі вартавога паліцыянта па дашчаным тратуарчыку. Ды не спіць яшчэ другі вартавы — месяц. Заціхла жыццё, замкнутае, як птушка ў клетцы.

Грыша ўсміхаецца. Яго твар — белы, белы — у святле месяца здаецца патхнёным. Якая ж прыгожая рэч — ідэі свабоды, ідэі брацтва народаў. Ужо іншымі вачыма глядзіць ён на вуліцу, на дамы, на крамы. Відаць, ён бачыць іх недаўгавечнасць.

Андрэй не раз казаў Грышу, што сіла яўрэйскай рэакцыі — гэта містыка і гешэфт.

А гешэфт кліча да нажывы, да накаплення. А тое і другое разам — да адасаблення ад іншых народаў і да ўласнага раздрабнення. Толькі рабочаму люду чужыя гэтыя якасці. Ён услухоўваецца ў іншую праўду, у тую, якая плыве з усходу, з СССР. Ніякія граніцы, ні межы не могуць стрымаць гэтай праўды. Яна даходзіць у самыя глухія куткі і пакідае след — пакідае надзею на збаўленне ад паноў, ад жандараў і ад рабінаў.

Грыша, як толькі павячэраў, для адводу вачэй бацькоў усё ж такі выпрасаваў касцюм. Бацькі супакоіліся і хутка пайшлі адпачываць. Гэтага толькі і трэба было Грышу. Ён апрануўся і выйшаў. Браты і сястра моўчкі, з цікавасцю правялі яго вачыма. Сястра хацела нават штосьці сказаць, але не паспела. Дзверы зачыніліся, і Грыша знік. Пасяджэнне ячэйкі мелася адбыцца ў хаце Давыда.

Ноч была свежая і зорная. Месяц яшчэ не ўзышоў. На вуліцы яшчэ не ўтаймаваўся рух. Хадзілі парачкі па вузкім тратуарчыку, размаўлялі ўпаўголаса.

Грыша спыніўся ля сваёй каліткі ў цяньку, каб разгледзецца навокал.

Ніхто з прахожых не заўважаў яго. Вось ідзе аптэкар Бурштэйн і махае блішчастай палачкай. Малады, прыгожы, у капелюшы і пенснэ, заглядае ў твар сваёй спадарожніцы і нешта з усмешкай гаворыць. Гэта бундавец. Часта вядзе дыскусіі — ды з кім? — з паліцыянтамі аб паляпшэнні жыцця ў мястэчку, што нядрэнна было б забрукаваць вуліцу, аб сапраўдных тратуарах, аб самадзейнай пажарнай камандзе, але ніколі не заікнецца ён аб прафсаюзе.

А калі яўрэі ўсім мястэчкам неслі ў сінагогу новую тору, спісаную па далёкай традыцыі на валовай скуры, Бурштэйн ішоў з гэтай самай блішчастай палачкай у першых радах. Як жа не несці, калі нават сам пан староста ішоў і нават перад сінагогай сказаў прамову. Выляталі

словы: «польская дэмакратыя»... «рэлігійная тэляранцыя, якою можа пахваліцца Польшча»... У заключэнне староста накіраваў удар супроць камуністаў і СССР і заклікаў да змагання з камунізмам. Але, гаворачы аб рэлігійнай «тэляранцыі», пан староста Наўроцкі, вядома, не ўспомніў, што нядаўна ксяндзы нацкавалі асаднікаў і мясцовую шляхту, каб адабраць царкву пад касцёл у адной вёсцы, не так далёка ад Глушца, што сам пан староста паслаў групу паліцыянтаў для дапамогі ксяндзам. Ды шмат аб чым не ўспомніў пан староста.

Бурштэйн слухаў прамову і захапляўся разам з гандлярамі. Вельмі хацелася далучыцца да Бурштэйна і Ісэру Цукерману, але ён баяўся Максіма Рунды, які заўсёды пільна прыглядаўся да яго.

Цукерман тады быў дома, стаяў воддаль ад акна і хціва праводзіў вачыма працэсію з торай. Калі ж працэсія скончылася, Цукерман хутка адскочыў ад акна і глядзеў услед, аж пакуль не знік з вачэй апошні чалавек.

Усё гэта прамільгнула ў галаве Грышы. Ён правёў доўгім позіркам Бурштэйна і, выйшаўшы з ценю, перабег на другі бок вуліцы і знік паміж крам.

Гэтым часам пасяджэнне другой ячэйкі праводзіў Максім Рунда. Ячэйка складалася з яго, Максіма, Якава, Цукермана і меланхалічнага інтэлігента Ігната Вярэні.

## КАРЧМА ШЧЫГЕЛЬЧЫКА

Яна нічым не адрознівалася ад іншых падобных устаноў, якіх у мястэчку было нямала. Карчма Шчыгельчыка была мураванай, пабеленай, з вялікімі халоднымі вокнамі без фіранак, ад чаго мела выгляд сурова-абыякавы. Той, хто будаваў яе, не лічыўся ні з якімі густамі. Каробка з цэглы, а на ёй дах з гонтаў — што можа быць больш простым? Ніякіх слупоў ля ганка. Суцэльная сцяна франтона, пабудаваная з цэглы, разам са шчытом упіраецца ў тонкі гонтавы дах. У сцяне два акны, а паміж імі дзверы цёмна-карычневага колеру. А ганак? Ёсць і ганак. Ён зроблены з дошак у тры прыступкі і як быццам прыстаўлены да дзвярэй. Гэтая будыніна, пазбаўленая ўсякай утульнасці, не нагадвала чалавечага жылля. Гэта была іменна карчма. Людзі заходзяць туды на пэўны час, каб потым яе пакінуць.

У карчме амаль на самай сярэдзіне стаіць вялізная,

нязграбная печка. Здаецца, яна займае сабою ўсю карчму, хоць навокал яе стаяць сталы і крэслы. На печцы, на вышыні росту чалавека, цёмныя тлустыя плямы. Гэта ад тлустых валасоў самога гаспадара карчмы Антона Шчыгельчыка, які часта любіць стаяць ля печкі, заклаўшы рукі за спіну, і абціраццa галавою. Антон Шчыгельчык — чалавек год пад пяцьдзесят, высокі, грузны. Саладжавая, некалькі тупая наіўнасць застыла на пульхных мяккіх шчоках, цёмных вачах, якія глядзяць часам ліслівa-ласкава. Са Шчыгельчыка можна маляваць ікону якога-небудзь святога. Просты радок блішчастых ад тлушчу валасоў, падстрыжаных «пад гаршчок», прамы нос, крыху гарбаты, і характэрная купецкая бародка клінам даюць падставу для гэтага.

Антон Шчыгельчык — новаспечаны буржуй. Родам з гэтых месц, ён маладосць сваю правёў у Севастопалі і Адэсе, дзе пакаштаваў розных прафесій, пачынаючы ад грузчыка і канчаючы прыказчыкам. Не пашанцавала — паехаў у глыб Расіі і ў горадзе Туле паступіў у манастыр,— стаў манахам. Гэта было ўжо ў 1914 годзе. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі ўцёк з манастыра і пачаў прабірацца дамоў. Заспеў запусцелую гаспадарку брата, які загінуў у час вайны. Тады Антон Шчыгельчык прадаў зямлю і купіў у Глушцы вось гэтую камяніцу-карчму. Для афармлення куплі хадзіў пехатою аж за шэсцьдзесят кіламетраў у скарбовае ўпраўленне, але свайго дабіўся.

І вось Антон Шчыгельчык — буржуй. Жыве ў гэтай камяніцы толькі з жонкай, бо дзяцей няма. Ходзіць між сталоў і крэслаў, грузны, непаваротлівы, і ўсё запрашае з салодкай, тупа-наіўнай мінай:

— Калі ласка... Калі ласка... Сядайце, галубчыкі, сядайце... Вось за гэты стол... Вось...

Няспрытна хадзілі яго рукі, нязграбна. Калі рэзаў хлеб, закуску, здавалася, вось-вось парэжа сабе палец. А калі нёс усё гэта на стол, чапляўся нагамі за крэслы і, чырванеючы, злаваўся на сябе.

Ну, але ўсё ж такі як-ніяк — буржуй. Усе ўсміхаліся з яго нязграбнасці і прабачалі: яшчэ не набіў рукі.

Карчма Шчыгельчыка стала прыпынкам больш за ўсё сялян, а таксама мястэчковых саматужнікаў — цесляроў, муляроў і іншых. У Антона можна сядзець вечарамі колькі хочаш і гаварыць аб розных справах, нават пагуляць у карты, бо да іх быў ахвотны і сам гаспадар. Нямала асушаць бутэлек піва, з'ядуць каўбасы з сітным хлебам, а часам і горкай нажлукцяцца і пачнуць сілу паказваць — хто

па стале кулаком, а хто і загрудкі. Няма чым плаціць — Антон пачакае. Ён пойдзе за прылавак, там возьме аловак з-за вуха, асядлае нос акулярамі, пашукае чыстую старонку ў сваёй універсальнай кнізе і запіша так, што літары выглядаюць, як нейкі клінапіс.

— Гмм...— гнусавіць сабе ў нос Шчыгельчык.— Як цябе, Пятрусь? Верабей?..

— Верабей...

Скажа «Верабей», а запіша «па-граматычнаму» — «Пётр Арабей — 3 злоты».

Пярэднія вокны карчмы глядзяць на базарную плошчу — проста на царкву. Увесь рух на плошчы відаць як на далоні, і гэтым часта цешыцца Антон. Калі няма нікога, Антон Шчыгельчык пройдзецца па сваёй карчме і спыніцца ля акна, заклаўшы рукі назад. Глядзіць доўга — на плошчу, на царкву, схаваную ў клёнах і бярозах, і тады сама сабою прарываецца знаёмая яму мелодыя: «Благослов-и-и-и... душе моя господа, благословен еси, господ-и-и-и...» З гэтай песняй пойдзе за прылавак і пачне корпацца ў сваіх няхітрых запісах. За прылаўкам дзверы ў кватэру — там недзе сядзіць жонка, якая рэдка паказваецца ў карчме. Яе ўладанні — кухня і хлеў. За домам — невялічкі падворак з дрывотняй, за яе сцэнамі — спуск уніз да балота, дзе пачынаюцца мястэчковыя сенажаці.

Ведае Антон Шчыгельчык сваю карчму, бачыць, што робіцца на плошчы, але не здагадваецца, што дзеецца ў яго дрывотні.

Бо калі гаснуць агні ў хатах крамнікаў, мяшчан, а ў карчме Шчыгельчыка яшчэ свеціцца агонь, Максім Рунда хавае ў дрывотні лістоўкі. З задняга боку, ад сенажаці, сцяна з падвойных дошак. Між дошкамі насыпана пілавінне. Яно асела амаль на даўжыню рукі. Добрая схованка. Хто можа падумаць, што тут, у дрывотні іканапіснага Шчыгельчыка, хаваецца крамола? Ды і сам Максім Рунда ў добрых адносінах са Шчыгельчыкам. Не так даўно нават ладзіў печ яму, і гаспадар застаўся задаволены працай Максіма...

У той час, калі Грыша Плотка праводзіў пасяджэнне сваёй ячэйкі, Максім у сваёй ячэйцы гаварыў аб распаўсюджанні лістовак. Упершыню такое заданне атрымліваў і Цукерман. Ніхто не пярэчыў супроць такой прапагандысцкай работы, усе лічылі яе законнай, натуральнай. Якаў сказаў, што ён раскідае лістоўкі пры выхадзе

з мястэчка на шлях, пад крыжам; Вярэня — аж за староствам, дзе скрыжоўваюцца шляхі; сам Рунда браў на сябе самае далёкае месца — аж пад чыгунку. Ісэру Цукерману прапанавалі пляц ля млына Моўшы, куды з'язджаецца шмат сялян на памол, да таго ж побач лесапільня над рэчкай. Адным словам, два аб'екты. Цукерман запратэставаў, чаму іменна яму даручаюцца гэтыя месцы. У яго ўяўленні паўставалі калёсы з узнятымі аглоблямі, пах конскага поту і гною, сяляне ў сярмягах і лапцях, а побач брудная тарфяная рэчка, занесеная гусіным пухам... Фі... Не, ён не пойдзе туды. Гэта работа Рунды, гэтага мужлана... Гэта ён знарок... «Не, я не пайду туды раскідаць лістоўкі...» — запярэчыў Цукерман, а потым пачаў так хутка гаварыць, што яго словы спляталіся ў клубок і па барадзе пацякла сліна.

— Значыць, ты не хочаш выконваць пастанову ячэйкі? — строга запытаўся ў Цукермана Рунда.

— Я... Я не для раскідання лістовак,— выпаліў Цукерман.— Няхай гэта робяць такія хлопчыкі, як ты...

— А для чаго ж ты? Для таго, каб кланяцца ледзь не кожнаму паліцыянту? Хто цябе пхае ў карак гнуць спіну ў паклоне гэтым, з нагайкамі? Ты што, наперад прыдабрыцца хочаш? Гэта не па-нашаму... Мы табе пра гэта не казалі, а цяпер зоймемся гэтымі справамі на ячэйцы.

Цукерман заёрзаў на месцы, пачаў мітусліва біць рукамі па каленях, усхапіўся з месца як укушаны. Вочы вылезлі, кучма валасоў уздыбілася.

— Ты паклёпнік!.. Ты адкажаш за гэта! Ты антысеміт!

— Лягчэй, лягчэй... не баімся...— адказаў Рунда. Не вытрымаў і Якаў.

— Дык ты пойдзеш раскідаць лістоўкі ці не? — запытаўся ён нахмурыўшыся.

— Добра, я... я пайду... раскідаю... Але я хачу прыцягнуць Рунду да адказнасці.

І Цукерман ад бяссілля ўкусіў сябе за руку і, бліснуўшы вачыма, змоўк.

Пасля пасяджэння ячэйкі Рунда ўжо глыбокай поўначчу з мяшком літаратуры за плячыма ішоў цямнейшымі месцамі ў напрамку да карчмы Шчыгельчыка.

Праз два дні ў Глушцы здарылася такая падзея, якой ніколі ў ім не было.

Людзі прачнуліся рана і перш за ўсё ўбачылі, што цырульня маленькага, тоўстага Ёшкі змяніла свой знешні

выгляд, дакладней кажучы, колер. Была сабе цырульня як цырульня — невялічкая, з новых габляваных дошак, тулілася ў радзе гэткіх жа крам, і раптам за адну ноч яна зжоўтай стала белай. Вось гэта дык дзіва! Людзі прыходзілі паглядзець на гэты цуд — адны спыняліся, другія чамусьці хутка адыходзілі, а некаторыя, замахаўшы рукамі, проста ўцякалі. Адбегшыся, асцярожна азіраліся навокал. Што гэта такое? Выдумаў нехта штуку на дзіва ўсяму Глушцу.

А зрабіў гэта штукар, тоўсты Эфроім. Нездарма ён казаў на пасяджэнні ячэйкі: «Я зраблю, што трэба будзе...» Ну і зрабіў. Абклеіў цырульню Ёшкі камуністычнымі лістоўкамі... Ды так шчыльна, дбала абклеіў, як у свой час абклеіў шпалерамі сцены ў сваёй хаце. Здалёк здавалася, што цырульня Ёшкі, якая і так падобна на картачны домік, злеплена з белай паперы. Ніводнай лістоўкі нельга адарваць пальцамі, іх хіба толькі нажом можна саскрэбці. Тут былі лістоўкі розныя — па памерах і па зместу ды да таго ж яшчэ на розных мовах. Наперадзе, ад вуліцы, Эфроім наклеіў лістоўкі на яўрэйскай мове. Зрабіў ён гэта знарок ці так здарылася — невядома. Але гандляры, глянуўшы на іх, адразу ж уцякалі. На бакавой сцяне былі наклеены лістоўкі на рускай, беларускай і польскай мовах,— лістовачкі з тоненькай, эластычнай паперы. Штукар Эфроім! Здаецца, даведалася аб гэтым і сонца, бо яно, ледзь узняўшыся пад наваколлем, як быццам знарок, застыла праменнямі на сцяне цырульні Ёшкі,— сонца яснае, спакойнае.

Пагудка данесла Ёшку аб такім незвычайным здарэнні з яго цырульняй. Нават перададзена было, што напісана ў тых лістоўках. «Хавэйрым, хавэртэс!» [1] — пачыналася кожная з іх. А затым былі заклікі да барацьбы з буржуазіяй, з Бундам, заклікі да салідарнасці працоўных усіх нацыянальнасцей, каб сумеснымі сіламі дабіцца... савецкай улады. Ну, каб так было, як у Расіі. Гэта ж трэба адважыцца на штосьці такое, каб у белы, ясны дзень людзі чыталі такія словы. Быць у Глушцы бядзе... Што скажа камендант паліцыі, што скажа пан староста?

Калі на вуліцы стала людней, усе, хто набліжаўся да цырульні Ёшкі, пераходзілі на другі бок вуліцы, каб абысці яе. Усе ведалі, што стала з цырульняй Ёшкі за адну ноч.

---

[1] Таварышы, таварышкі.

Адны ў мястэчку цешыліся, што з Ёшкам адбылося такое здарэнне, казалі: «Добра... Гэта яму за тое, што нюхаецца з паліцыяй...» А другія — купцы і дробныя гандляры — палохалі: «Будзе бяда цяпер усім... Праз Ёшку можна было прыдабрываць паноў...»

А Ёшка прыляцеў і, як толькі глянуў на сваю цырульню, нарабіў крыку:

— Згубіцелі! Згубіцелі! Ім зайздросна на маю цырульню... Я ведаю, чыя гэта работа! Я ведаю...

І трос кулачкамі ў паветры.

Ёшка не на жарты быў устрывожаны. Кінуўся быў адчыняць цырульню, але апамятаўся — спыніўся. Азірнуўся навокал. Убачыў паліцыянта, які набліжаўся да скрыжавання вуліц, і накіраваўся да яго.

Паліцыянт падышоў разам з Ёшкам да цырульні, агледзеў усё, агледзеў падазроным позіркам і Ёшку з галавы да ног і тады свіснуў у свісток. Прыбеглі яшчэ два паліцыянты. Той, што свіснуў, пакінуў сваіх калег каля цырульні, а сам падаўся ў камендатуру, каб далажыць аб незвычайным здарэнні. Неўзабаве з'явіліся яшчэ трое на чале з маладым афіцэрам. Аглядалі цырульню Ёшкі з усіх бакоў, нават мацалі пальцамі. Афіцэр толькі запытаўся ў аднаго:

— У чым гэта абходзе?

Той, крыху спалоханы, сквапна адказаў на пытанне.

Цырульні не адмыкалі. Патрэбны былі два сведкі. Тады можна пачаць следства і пісаць пратакол.

Ёшка па загаду афіцэра зараз жа пабег і прывёў аптэкара Бурштэйна, які, бліскаючы шкельцамі пенснэ, з падкрэсленай ветлівасцю зняў капялюш і пакланіўся паліцыянтам. Адзін сведка ёсць, каго ж узяць другога? Вуліца, як на няшчасце, зусім апусцела, нават і дзяцей не відаць. Паліцыянты паглядалі ўздоўж вуліцы ў абодва канцы і ўрэшце заўважылі, што нехта набліжаецца.

— Пачакаем,— сказаў афіцэр і выняў бліскучы партсігар, каб закурыць.

Той «нехта» ішоў без шапкі, цупаў дробнымі крокамі, трымаў правую руку ў кішэні штаноў, адвярнуўшы крысо касцюма. Наблізіўся да скрыжавання вуліц, спыніўся, паглядзеў з момант на паліцыянтаў і хацеў звярнуць убок, але тут яго паклікалі. Бурштэйн і Ёшка пазналі ў ім Ісэра Цукермана. Так, гэта быў ён. На вокліч Цукерман спыніўся, а затым усё ж такі хацеў павярнуць убок. Але грубы голас спыніў яго зноў. Ісэр Цукерман дробна засту-

каў па тратуарчыку сваімі варшаўскімі чаравікамі і неўзабаве, збялелы, стаў перад паліцыянтамі.

— У чым справа, прошэ пана? — звярнуўся ён з умільнай усмешкай да афіцэра.

Афіцэр агледзеў і Цукермана з галавы да ног і сказаў:

— Будзеш сведкай пры вобыску ў цырульні пана Ёшкі... Вось вы і пан Бурштэйн.

— Прошэ пана... Які з мяне сведка? Я тут нічога не ведаю і не хачу ведаць. Я вось захварэў нешта на жывот і ішоў да доктара...

Афіцэр паківаў галавой, глянуўшы на жывот Цукермана:

— Так ужо раптам і захварэў? Фу, пся крэў... Нічога пану не станецца... Тут нядоўга... Бачыш, пан, што тут наклеена? Можа, ты сваю руку прылажыў?

Ісэр Цукерман затросся, як у ліхаманцы.

— Прошэ пана... Прашу мяне звольніць... Я нічога не ведаю... Я нічога не ведаю... Я ішоў да доктара... Прошэ пана...

— Нічога, жывы будзеш... — буркнуў афіцэр і кіўнуў Ёшку: — Адчыняй...

Грукнула жалезная завала. Дзверы адчыніліся. Пачаўся вобыск. У цырульні было адно люстэрка, адно крэсла, прылады для галення, столік, адзін услончык для кліентаў, па якім часам вылежваўся сам Ёшка, грэючыся на сонцы, як кот на акне. Праўда, на сцяне вісеў яшчэ кларнет. Пры вобыску адзін паліцыянт са скрыўленымі ад верхавой язды нагамі зняў і кларнет, агледзеў, нават падзьмуў у яго і, насміхаючыся з Ёшкі, сказаў:

— То ты такі, пся крэў, прыяцель? Баю, баю, і абляпіўся камуністычнымі лістоўкамі, пся крэў...

— Хто? Я абляпіўся? Нехта наляпіў... Я знаю, чыя гэта работа,— петушыўся Ёшка.

— Добра, добра, нас не ашукаеш... Пан Цукерман, напэўна, ведае, чыя гэта работа,— гаварыў паліцыянт, ужо мацаючы пальцамі сцены, абклееныя шпалерамі.

— Прошэ пана, адкуль жа я магу ведаць? — не змаўчаў Цукерман і далей працягваў грызці пазногці на пальцах.

Вобыск быў скончаны, напісаны і падпісаны пратакол, што нічога ў цырульні не знойдзена. Але для доказу трэба было далучыць да пратакола хоць некалькі лістовак. Афіцэр загадаў сарваць іх. Але гэта аказалася немагчымым.

Эфроім зварыў такога клею, што лістоўкі як быццам прыраслі да дошак.

Усе зайшлі ў тупік — што рабіць?

Пан Бурштэйн — правізар, хімік, ён ведае нямала хімічных сакрэтаў, ну як жа яму не падзяліцца імі з панамі? Гэта ж павысіць яго ў вачах усеўладнай паліцыі. Бурштэйн паспеў прачытаць у лістоўках заклік да барацьбы з Бундам, дзе той называўся зборышчам сацыял-здраднікаў.

— Прошэ пана... — звярнуўся ён па-ўгодніцку да афіцэра.

Бурштэйн умее трымаць сябе, нездарма ўсе купцы і гандляры ў мястэчку лічаць яго самым адукаваным чалавекам.

— Прошэ пана,— паўтарыў Бурштэйн,— гэтаму можна дапамагчы. Калі дазволіце, я падыду ў аптэку.

— Няхай пан будзе ласкавы... — адказаў узрадаваны афіцэр.

Разам з паліцыянтам Бурштэйн пайшоў і неўзабаве вярнуўся. Лістоўкі былі адклеены, хоць і не ўсе. На ўсе не хапіла сілы і магічнага сродку пана бундаўца. Пасля гэтага сведкі былі адпушчаны, а паліцыя з Ёшкам накіравалася ў пастарунак. Лістоўкі, якія нельга было адклеіць, Ёшка падрапаў нажом.

— Я пасля змыю... шчоткай,— паабяцаў афіцэру.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увечары таго ж дня быў арыштаваны Грыша Плотка.

* * *

Калі Андрэй увайшоў у карчму Шчыгельчыка, там сядзеў толькі адзін наведвальнік, усім вядомы мешчанін мястэчка Глушца сальнік Карнікевіч. Яшчэ малады, гладкі з твару, у чорным касцюме пад гальштукам, у шэрай падношанай кепцы, ён пераваліваўся на крэсле сваім тулавам і выдаваў гукі, падобныя да гукаў адкормленага парсюка. Аказваецца, гэты Карнікевіч быў п'яны ў дым. Навальваўся грудзьмі на стол — стол рыпеў, рыпела і крэсла. Фарфоравыя крошкі ад пабітай талеркі бялелі на падлозе ля ножак стала (вялікія кавалкі гаспадар падабраў). Лямпа, якая вісела на дроце пасярэдзіне карчмы, свяціла цьмяна. У вялікія беспрытульныя вокны глядзела цёмная ноч.

Андрэй сеў у аддаленым кутку і папрасіў чаю.

І раптам стук кулака па стале разлёгся, як рэха, у бязлюднай карчме, а за ім гарлавы крык:

— Так, Шчыгельчык, ці не? Кажы!..

— Так, так, пане Карнікевіч,— падтакваў Шчыгельчык і тупаў за прылаўкам, неспакойна пазіраючы на п'янага госця.

— Хто цэрквы пабудаваў у Расіі?! Га? — крычаў сальнік. І, б'ючы ў грудзі кулаком, адказваў: — Пабудавалі мы — купцы! — і потым нахіляўся ў бок Шчыгельчыка і пытаўся: — Так ці не?

— Так, так, вядома, што так... А хто ж? У каго грошы, той і будаваў... — гаварыў Шчыгельчык, а сам думаў, чым супакоіць гэтага раз'юшанага вепрука. Урэшце падышоў і паклаў руку Карнікевічу на плячо. Лагодна сказаў, схіліўшыся:

— Можа, кваску даць? Хлебнага? У мяне ёсць...

— Што-о-о? — раўнуў сальнік.— Ты за каго мяне лічыш? Гарэлкі давай, гуляю сёння...

— Гарэлкі ўжо няма...

— Як няма? Які ж з цябе купец? А яшчэ па манастырах хадзіў... Богу маліўся...

Шчыгельчык паціснуў плячыма і адышоў.

А сальнік Карнікевіч працягваў сваё, стукаючы мясістым кулаком па стале:

— Мм... Я гэтую хэўру... Я яе... вось так... — і сальнік зрабіў такі рух, як быццам што ламаў.— Купцы цэрквы будавалі, а яны... Мм... — мармытаў сальнік.

Шчыгельчыкківаў галавою і ўсё прыгаварваў упаўголаса: «Ах, госпадзі, госпадзі...»

Сальнік нешта раптам успомніў і крыкнуў:

— Шчыгельчык! А скажы, чаму Плотку выпусцілі з пастарунка! Га? Краўцовага сына. Га?

Андрэй кінуў піць чай, насцярожыўся...

— Чаму выпусцілі? — адазваўся Шчыгельчык.— А таму, відаць, што віны за ім не было...

— Дурны ты, Шчыгельчык! Віны не было... Яны ўсё зробяць... усё... Хто абклеіў цырульню Ёшкі камуністычнымі паперкамі? Га? — пытаўся, як быццам налазіў на каго, Карнікевіч. І сам сабе адказваў: — Ён, толькі ён... А яго, бач, выпусцілі... Гэ... вось штука.

І сальнік Карнікевіч захістаўся на месцы так, што ледзь не перавярнуў стол.

— Яны рэвалюцыю хочуць зрабіць ва ўсім свеце... На-

род абдурваюць... Камітэтчыкі ў нас аб'явіліся... Яшчэ будзе перцу гэтым камітэтчыкам... — і сальнік памахаў кулаком у паветры.

Пры апошніх словах Шчыгельчык насцярожана зірнуў спадылба ў той куток, дзе сядзеў Андрэй, і ўсмешка прабегла па яго твары. Палічыў патрэбным сказаць сальніку:

— Пане Карнікевіч, можа, пара дахаты, праспацца трохі?

— Што — выганяеш? — гаркнуў пан Карнікевіч.— Мяне, патомственнага мешчаніна горада Глушца, выганяць? Ды ты ведаеш...

Але тут перапыніў яго Шчыгельчык.

— То, можа, піва бутэлечку?

— Гааа... раздабрэў... давай піва...

Андрэю было ясна, што ў карчме сядзеў самы сапраўдны чарнасоценец.

Слухаючы яго выкрыкванні, Андрэй яшчэ раз пераканаўся, што зрабіў правільна, калі адправіў Грышу Плотку ў падполле. Вось толькі нядаўна, перад прыходам сюды ў карчму, развітаўся з ім. Чатыры дні трымалі Грышу ў дэфензіве і ўсе чатыры дні білі. Гоман абурэння пракаціўся па мястэчку. Ва ўсіх на вуснах было імя Грышы Плоткі. Адчула гэтыя настроі паліцыя. Нічога не дабіўшыся ад Грышы, яна вырашыла выпусціць яго пад залог — пяцьсот злотых.

Андрэй паставіў на ногі ўвесь раённы МОПР, і на пяты дзень Люба, дачка Дзям'яна Гарагляда, прынесла Абраму 500 злотых. Абрам жа думаў ужо што-небудзь прадаць з адзежы. Але тут...

Увесь Глушэц, здавалася, быў у напружанні. Такога ж здарэння яшчэ не было сярод летуценнікаў мястэчка за ўсе часы панавання Польскай Рэчы Паспалітай.

Праводзілі Грышу Андрэй, Рунда і Якаў. Развітваючыся з Рундам і Якавам, Грыша, схуднелы з твару, з павязкай на левым воку, сказаў:

— Ісэра Цукермана трэба выключыць з партыі... абавязкова... Фальшывы... Мая памылка, таварышы, што я згадзіўся тады прыняць яго. Нявопытнасць... Цяпер я ўсё разумею... Глядзіце, зрабіце гэта, выключыце...

Андрэй і Грыша пайшлі далей толькі ўдвух. Ноч насоўвалася на пясчаны шлях цёмная, крыху ветраная. Мінулі каталіцкія могілкі ў полі і ўрэшце спыніліся пад прыдарожнай грушай. Андрэй сказаў паўшэптам:

— Паедзеш на адну з явак Паддубнага ў Баранавічы,

там атрымаеш прызначэнне, куды і што... — І передаў адрас і пароль.

— Помні, Грыша, ты ўжо атрымаў баявое хрышчэнне. Глядзі, ідзі чэсна да канца. Будзь горды тым, што мы, многа нас, працуем для вялікай справы вызвалення... Вось так...

Грыша стаяў перад Андрэем усхваляваны, моргаў адным вокам, хацелася многа сказаць, але не мог.

— Я... Я цяпер усё ведаю, Андрэй, і я рад, што ўведаў... Гэтага ў мяне ніхто не выб'е... Не... ніхто... Я ведаю, што я ў гэтай барацьбе не апошні, а роўны з усімі... І гэта мне дало і дасць сілы ўсюды... Зайдзі калі-небудзь да маіх бацькоў, пацеш іх, я цябе прашу.

— Добра,— адказаў Андрэй,— усё зраблю.— Ён глянуў навокал і працягнуў руку на развітанне: — Давай развітаемся... А то яшчэ які злыдзень знянацку нападзе на нас.

Яны абняліся па-таварыску.

Андрэй стаяў пад грушай, аж пакуль не заціхлі крокі Грышы, а затым накіраваўся да мястэчка. У карчме Шчыгельчыка ён павінен сустрэцца з Апанасам Хмелем.

Але вось мінае гадзіна, а Апанаса няма. Сам назначыў сустрэчу, а няма. Зараз будзе месяц пасля нарады ў Забалоцці, а што за гэты час зрабіў Апанас — невядома. Паддубны няйначай паехаў у Варшаву. Няма вестак і ад Васіля. Вольга таксама маўчыць. У камітэце Грамады ідзе арганізацыйная праца. Аляксандр Сучок пайшоў некуды ў бок Дзядоў арганізоўваць валасны камітэт Грамады. Пакінулі Андрэя праводзіць усе справы ў камітэце. Ну і, вядома, яшчэ сакратара Кананца. Дрэнна з Кананцом. Ён, відаць, уявіў сабе, што камітэт — гэта адвакацкае бюро. Акругком партыі прыняў пастанову, каб пры камітэце было створана бюро прашэнняў і каб прашэнні пісаліся сялянам бясплатна. Кананец, відаць, забыўся, што ён член партыі, але не забыўся, што ён быў некалі сакратаром у адваката, і пачаў употай браць плату за прашэнні, ды яшчэ якую! Часта заходзіў у карчму і кожны раз прыходзіў п'яны. Андрэй гэта заўважаў ужо некалькі разоў. Вырашыў пасля прыезду Паддубнага паставіць гэтае пытанне на абмеркаванне.

І цяпер, прыйшоўшы ў карчму Шчыгельчыка, Андрэй пакінуў Кананца ў камітэце ў вясёлым настроі.

Кананец хацеў здзівіць і задобрыць Андрэя нейкай ка-

фэшантаннай цацкай. Стаўшы ў позу спевака і падняўшы свой азызлы твар, ён заспяваў:

Ох, поет сердце, болит печенка,
Ох, что наделала девчонка...

Андрэй зрабіў выгляд, што быццам не чуе гэтай песні, а потым так глянуў на Кананца, што той неяк адразу асёкся, заціх і, не ведаючы, што рабіць, пачаў скручваць тоўстую цыгарку. А Андрэй, крута павярнуўшыся, выйшаў, стукнуўшы дзвярыма.

Вось вам і рогі Грамады. Растуць, растуць,— няма чаго... Андрэй думае аб неабходнасці праверкі, аб тым, што варта правесці чыстку ў павеце. Вернецца Паддубны — тады. Але дзе ж той Апанас? Гуляйноч недзе загуляўся. Андрэй глянуў па карчме. Шчыгельчык у драцяных акулярах, як прадавец свечак у царкве, стаяў за прылаўкам і корпаўся ў сваёй бухгалтэрыі. Сальнік Карнікевіч, паклаўшы галаву на стол, хроп, як знясілены конь. Кепка звалілася з галавы... Сальніку, напэўна, сніліся цэрквы, пабудаваныя купцамі.

Андрэй страціў надзею дачакацца Апанаса і хацеў ужо ісці. Але тут пачуўся тупат ног на ганку. Скрыпнулі дзверы, і ў карчму не ўвайшоў, а неяк цішком, прыгнуўшыся, усунуўся Апанас Хмель. Каўнер яго чорнай курткі быў прыўзняты, кепка, сцягнутая на патыліцу, сядзела на галаве па самыя вушы. Вочы бліскалі па-мышынаму. За ім следам увайшоў малады чалавек, незнаёмы Андрэю. Апанас акінуў позіркам карчму, на момант расчаравана скрывіўся, але, глянуўшы направа, павесялеў.

— А, ты тут? — сказаў ён і падышоў да Андрэя вітацца. Павітаўся з Андрэем і незнаёмы. Апанас не сеў, а шпаркім крокам падышоў да Шчыгельчыка.

— Здароў, Антон,— жвава гукнуў Апанас, падаючы руку Шчыгельчыку.

— Здаровенькі, здаровенькі,— саладжава адказаў Шчыгельчык.

— Ну, як жывём?

— А, нічога, дзякаваць богу... як вы? Як жонка, дзеткі?

— Аб гэтым не пытайся,— адмахнуўся рукой Апанас.

Шчыгельчык зняў акуляры і працёр вочы.

— Бедна жывеш, Антон,— карчма пустая...

— Што рабіць? Не ў мяне аднаго карчма, карчмароў многа ў мястэчку,— крыху са скрухай адказваў Шчыгельчык.

Апанас азірнуўся і ціха запытаў, паказваючы на сальніка:

— А гэта хто?

Шчыгельчык адказаў шэптам:

— Гэта сальнік Карнікевіч. Каб яго халера ўзяла... Прыйшоў, напіўся, буяніў тут, а цяпер спіць.

— Няхай спіць,— махнуў рукою Апанас.

— Ага, можа, праспіцца...

— Чым пачастуеш? — з усмешкай спытаўся Апанас.

— Чым? Вось каўбаска ёсць, сальцісончык, сальца харошае, паляндвічка, кумпячок, сырок, селядзец, нават рыбка смажаная.

— Ну, рыбку сам еш,— кінуў Апанас.

Шчыгельчык заморгаў вачыма са шматзначнай усмешкай і дадаў:

— Гарэлачкі можна...

— Ну, Антон... збяры там чаго-небудзь... сам ведаеш... на тры чалавекі. Я галодны, як чорт. Пачастуй добра... Бо пасля будзем гаварыць аб іншым... Маю інтэрас...

Пры апошніх словах Шчыгельчык на хвілінку ўтаропіўся вачыма ў Апанаса. Затым яго ікапапісны твар асвяціўся нейкай здагадкай, і Шчыгельчык жвава пачаў увіхацца, узброіўшыся доўгім нажом.

— Зараз, галубчыкі, зараз, от, дзе галава ў каго...— прыгаварваў Шчыгельчык, хваліў галаву Апанаса і сам пакручваў сваёю.

Андрэя здзівіла такое сваяцтва Апанаса з карчмаром. Які можа быць у яго інтэрас да Шчыгельчыка? Гм... Дзіўныя рэчы вытварае гэты Хмель,— усё нейкія таямніцы і таямніцы...

Калі Апанас вярнуўся да стала, Андрэй заўважыў, што на нагах у яго новыя боты, толькі з калодкі. Што ж — боты рэч звычайная. Аднак штосьці насцярожвае...

— Ты, аказваецца, маеш добрае знаёмства з гэтым Антонам... Нейкія інтарэсы? — запытаўся Андрэй.

— Ат... Глупства... так сабе,— адказаў Апанас і сапнуў носам. А потым перавёў гутарку на другое, паказваючы на незнаёмага.— Ты ведаеш гэтага чалавека?

— Не, не ведаю.

— Гэта Арцём Світка — наш чалавек.

Андрэй паглядзеў у шырокі скуласты твар Світкі чырванаватага колеру і ў цёмных вачах яго заўважыў блукаючыя іскаркі.

Світка час ад часу хмурыў бровы. У гэтым маладым

чалавеку адчувалася натура моцная, валявая. Здавалася, што для гэтага малайца не цяжка ўстаць, выбіць акно і выскачыць.

— Я ж вас ведаю, таварыш Касцевіч,— сказаў Світка. І голас загучаў грубавата, напорыста...

Цікавы хлопец. Паклаў на стол левую вялікую далонь, а правую ўвесь час трымае апушчанай. Глядзіць нерухома, часам непрыкметна аглядаецца на акно.

— Закурым,— сказаў ён, і на стол лёг кісет з махоркай.

...Пасля вячэры, калі зайшлі на падворак камітэта, Апанас паклікаў Андрэя да плота і шэптам сказаў:

— Хочаш мець боты?

— Боты? Што гэта значыць?

— А тое значыць, што ты, бачу, ходзіш у падраных ботах, і я хачу надзяліць цябе ботамі.

— Адкуль яны ў цябе?

— Гэта не твая справа... ну, як?

— Не, не вазьму...

— Дзівак, дзівак...

Падышоў Світка і папрасіў:

— Таварыш Касцевіч, не адмаўляйцеся. Калі не хочаце ботаў, мы можам даць грошай на боты...

Андрэй зразумеў, што гэтыя людзі зрабілі нейкую нячыстую справу.

Памаўчаўшы, адказаў:

— Я хутка буду мець боты... Дзякую...

— Нашто вам траціцца, таварыш Касцевіч,— зноў умяшаўся Світка.— Чорт з ёю, з буржуазіяй. Хутка паны будуць уцякаць адгэтуль... Мы ўжо робім ваенныя рэпетыцыі...

— Ну, не тут аб гэтым,— сыкнуў Апанас,— распусціў губу. Дакуль ты не павучышся? Эх!

Андрэй маўчаў, зразумеў нешта небяспечнае, а думкі ўжо выстуквалі, як быццам неслі тэлеграму кудысьці — да самых верных, самых чулых: «Хутчэй спяшайцеся, трэба ратаваць нашу святую справу».

## ЛЕТАПІСЫ

Эх ты, нядоля бяздонная!..

Куплены бык хадзіў усё лета, дзе яму хацелася — па яравых, азімых, і быў названы «царскім». Гэта ж міласць

царская, — зміласцівіўся над беднымі,— міласць вечная, непарушная!..

Цяпер ужо няма цара ў Расіі, але старыя кажуць, што маён яшчэ кашы наварыць. Маладыя не вераць старым, маладыя хочуць жыць без цара, без паноў. Але як дабіцца такога жыцця? Трэба, відаць, узяцца за вінтоўкі, прагнаць паноў і зажыць па-людску... Вось Грамада... Яна паможа...

У воласці кожны дзень стаіць доўгая чарга людзей у суконных світках, у лапцях. У кожнага торба цераз плячо, напханая петыцыямі. Сяляне-лапцюжнікі прыйшлі да войта дамагацца беларускай школы. Войт доўга трымае людзей, усё корміць «пачакаем», а людзі не разыходзяцца — стаяць, церпяць. Урэшце падымаюць гоман, і тады толькі адчыняюцца дзверы кабінета войта. Нешта будзе з гэтага, ой, будзе... Рыхтуйце зброю, вастрыце яе,— хутка нешта будзе.

На сходах гурткоў не шкадуюць праклёнаў для паноў, удалых насмешак, і вочы ва ўсіх вясёлыя.

Але што гэта за нечаканасць? Граф Ельскі, той самы Ельскі, які арганізаваў пабоішча сялян у лесе, а сын якога камандаваў карным атрадам — вешаў, паліў,— гэты самы Ельскі ахвяруе запалянскаму гуртку Грамады дрэва на пабудову народнага дома. Вось гэта штука! Людзі так здзівіліся, аж не ведалі, што казаць. А пагалоска паляцела птушкай па вёсках, далёка. Гоман пайшоў,— значыць, паны паддаюцца, чуюць свой канец. Няма чаго паноў баяцца,— яны ўжо слабыя.

Эх, нядоля, не ведаеш ты, што яшчэ ў даўніх, далёкіх грэкаў быў выдуманы траянскі конь. Ён яшчэ жыве і яшчэ не хутка здохне. Але гоман паплыў па вёсках — пан дае — трэба браць. І трыста падвод з навакольных вёсак выехалі ў лес па дрэва для народнага дома. Так шуганулі, што за тыдзень быў гатовы зруб, а за другі тыдзень і ўвесь дом. Чаго не можа зрабіць народная сіла?! Але... камуністы задумаліся. Адчувалі, што тут нешта не так, нехта перабіў рытм, штосьці ўзяло верх не тое, што трэба.

Хіба не так, Апанасе Хмель? Ты радуешся і кажаш, што пан Ельскі даў дрэва пад напорам мас. Ой, не так...

Эх, чаго не было на палескіх прасторах! Страшным бязлюддзем вее палеская прастора, дзе толькі чароты і асокі шэпчуцца з ветрам аб адзіноцтве і глушы. Ні прыстання, ні спакою няма чалавеку. Мусіць, і канца свету няма — усё так і так,— усё чароты, імхі, лазнякі, над якімі

звісаюць клубкаватыя хмары на небасхіле. Толькі адзінокія сцежкі, пратаптаныя нагою чалавека, хаваюцца ў балотных гушчарах. А там, па ўзвышшах-астравах, красуецца лес, таксама непрыступны. Маўчаць змрочныя елкі, маячаць пад сонцам сосны з бярозамі, а па ўскраінах уладарна ўглядаюцца ў бязлюдныя прасторы цары-дубы. Там, распластаўшы крылы пад блакітным небам, застыў каршун. Тут сваё царства, не пакоранае чалавекам. Бо там, дзе раскінуліся закураныя вёскі, над сыпучымі пяскамі, на тонкіх чэзлых сцяблінах, звісаюць жытнія каласкі, як слёзы. Каласкі настолькі маленькія, што здаюцца слязьмі. Як жа цяжка тут чалавеку!

І які ж ты бездапаможны, чалавек, сярод бязлюдных балот і абжытых пяскоў! І ці не таму твае думкі часам такія злосныя, недаверлівыя, помслівыя? Не дасаджай, падарожны, сэрцу чалавека, ты бачыш, колькі ў ім крыўды...

Эх, Апанас, Апанас... ці не помніш ты, як некалі зімою вёз чалавек воз сена на добрым грывастым кані? Калі ён пад'ехаў да шырокай балотнай пізіны, прыкрытай ільдом, там стаяў пануры чалавек у карычневай світцы і аўчыннай шапцы. Чалавек спытаўся ў панурага, дзе можна праехаць. А пануры чалавек не мог адарваць вачэй ад каня — такі дужы, такі прыгожы конь. І ўрэшце сказаў: «А вунь бачыш той гладкі лядок, вось там праедзеш». Сказаў і адышоўся за куст. Чалавек паехаў з сенам, узрадаваны. А пануры ў карычневай світцы, стоячы за кустом, глядзеў спадылба ўслед. Вось ужо і лядок гладкі, бліщчасты. Чалавек пагнаў каня і сам прыбавіў кроку. Адзін міг, як мара,— лёгкі трэск, і схаваўся навекі ў бездань і воз з канём, і гаспадар. Толькі чорныя тарфяністыя хвалі шуганулі ўверх і закруціліся вірам. Потым усё сціхла, толькі водная гладзь адбівала ў сабе пахмурнае зімовае неба.

Можа гэта быў твой бацька, Апанас Хмель, у якога злодзеі ўкралі каня? Дык — «няма ў мяне, няхай не будзе ні ў кога». А ці помніш... Напэўна, ты быў тады яшчэ малы, як у валасць прыйшоў плячысты селянін, апрануты ў кажух і ў суконную, тарфянога колеру куртку зверху яго. Доўгія валасы спадалі на каўнер. Можна было падумаць, што гэта прыйшоў шаман з лясных нетраў. Энергічны твар з носам і вачыма каршуна. Праз рэдкую бародку прасвечваў раздвоены падбародак. Скінуў аўчынную шапку, пугу паставіў у куток. Яму насустрач выйшаў старшыня,— гэткі ж самы, нелюдзімы і суровы. Толькі кіўнуў галавою і сказаў: «А... зараз...» і дадаў: «Коні — добрыя?»

«Шаман» пакруціўся пару мінут на месцы, пахукаў у рукі і выйшаў. На дварэ насоўваўся зімовы, вільготны вечар. Ехаць трэба было далёка, у гушчыню лясоў, да трэцяга супольніка — лесніка.

Старшыня апранаўся адзін у пакоі, надзяваў на сябе кажух, а наверх світку тарфянога колеру і чагосьці трывожна азіраўся. Каб хоць была ўдача... Апрануўшыся, яшчэ пастаяў. А за ім увесь час сачыў з партрэта, стоячы на ўвесь рост, цар Аляксандр Трэці і, здавалася, падбадзёрваў: «Не робей!»

...Коні імчаліся, як віхор, па праезджанай саннай дарозе праз шырокія, замерзлыя балоты ў чаротах і асоках, праз хмызнякі і гушчары карлікавых бярозак, праз цёмныя, аснежаныя лясы. Толькі вецер гнаў услед кудлатыя хмары і свістаў ля вушэй.

...І ў глыбокую поўнач прынеслі сябры ў мяшку ў хату лесніка дзве адсечаныя чалавечыя галавы. А ў кішэнях... здабыча...

Эх, эх, усякае было... І цяпер яшчэ ёсць. Хіба адзін з трох не быў тваім дзядзькам, Апанас?

* * *

Андрэй сядзеў у камітэце адзін. Дзяжурыў. Кананец паехаў у сваю вёску. За акном павольна калматымі сняжынкамі падаў вільготны снег. Людзей сягоння прыходзіла мала. Андрэй сядзеў над стосам пратаколаў, рэзалюцый гурткоў, разбіраў розныя почыркі розных сакратароў. А разам з гэтым напплывала задума, ціхая і трывожная. Вось яшчэ не астыў ад уражання, пакінутага нядаўна адным з наведвальнікаў. Гэты селянін, як далёкі падарожнік, увайшоў у камітэт з кіем, з кужэльнай торбаю ў руцэ. Калі пераступаў парог, прыгнуўся, каб не зачапіцца галавою за вяршнік. Стаўшы ля парога, ветліва і неяк паважна сказаў: «Добры дзень». Потым паставіў кій у куток, зняў бараповую шапку, абтрос ад снегу, скінуў башлык, абцёр цёмныя вусы і такую ж бародку. На Андрэя глянулі шэрыя, крыху панурыя, сялянскія вочы. У доўгай падношанай світцы, падпяразанай саматканым шырокім поясам, ён, здалося Андрэю, прыйшоў з нейкай далёкай патрыярхальнай мінуўшчыны. Павольна, не спяшаючыся, падышоў да стала. На твары не было і ценю пясмеласці ці затоенай хітрасці або няпэўнасці. Наадварот, гэты чалавек гадоў за сорак, з крыху хвалістымі

цёмнымі валасамі, адчуваў сябе, як у сваёй хаце, хоць у яго руках, у выглядзе праглядала затоеная пашана да ўстановы, куды ён зайшоў. Андрэй са здзіўленнем сачыў за ім. Селянін па-гаспадарску, з павагай, размашыста адкінуў крысо світкі і з кішэні суконных даматканых штаноў выняў штосьці накшталт вялікага скуранога капшука, завязанага скураным шнурком-засмаргай. Загрубелымі пальцамі пацягнуў за шнурок і высыпаў на стол перад Андрэем кучку сярэбраных грошай.

— Што гэта такое? — спытаўся Андрэй.

— Я — скарбнік гуртка Грамады. Вось прынёс вам членскія ўзносы.

— А-а...— сказаў Андрэй,— ну, лічыце...

І селянін лічыў. Раскладваў асобна дваццаціграшоўкі, пятнаццаці, дзесяці, пяцідзесяці. Сабралася немалая сума. Андрэй ужо хацеў пісаць квітанцыю, аж убачыў, што селянін усё яшчэ лічыць. Ён адсунуў невялікую кучку ўбок і сказаў:

— Вось гэта маё, а гэта вам... Я бяру чацвёртую частку, як належыць...

Андрэй непрыкметна ўсміхаўся. За час існавання камітэта такой практыкі яшчэ не было. Хто прыносіў узносы, аддаваў усе. Разлікі рабіліся потым. А тут... такая дакладнасць.

— А-а... ну, добра, добра,— сказаў Андрэй,— правільна, дзядзька...

І дзядзька згроб назад у капшук сваю частку, потым туды ж паклаў і квітанцыю. Палагаднеў яго твар. Ён выпрастаўся, выканаўшы абавязак, і запытаў:

— Можа, кніжачак якіх можна ў вас?

— Дамо, дамо кніжачак,— адказаў Андрэй і надзяліў дзядзьку рознай літаратурай — і палітычнай і мастацкай.

Дзядзька зараз жа не спяшаючыся надзеў шапку, памацаў рукою, ці добра сядзіць на галаве, завязаў башлык і, агледзеўшыся, ці ўсё ў парадку, узяўся за кій. Стаў ля парога, дакрануўся да шапкі рукою і сказаў:

— Бывайце здаровы!..

Андрэй адказаў і тут жа ўбачыў падэшву лапця, падплеценага анучай, калі гэты паважны дзядзька перакідаў нагу за парог. Дзверы зачыніліся, і стала ціха.

Андрэй падумаў: «Ідэі барацьбы з акупантамі праніклі ў самыя глухія куткі...»

Андрэй схіліўся над пратаколамі, рэзалюцыямі гурт-

коў. Чаго там толькі не было? Нават сваркі паасобных гурткоўцаў і тыя знайшлі свой адбітак у пратаколах. Вось пратакол, напісаны прыгожым почыркам з канцылярскай дакладнасцю. Відаць, пісар працаваў недзе ў канцылярыі і цяпер здзіўляе дзядзькоў сваёй «вучонасцю». Напэўна, ходзіць з папкай пад пахай, як гэта ўжо здаралася бачыць Андрэю ў вёсках. А большасць пратаколаў напісана малапісьменным почыркам, сваёю хатняй мовай, з імкненнем упрыгожыць сказы газетнымі слоўцамі. Амаль кожны пратакол пачынаецца такімі словамі: «...сход гуртка адкрыўся гучнымі воплескамі...» або «пры гучных воплесках»... праспявалі песню «Годзе, мы доўга цярпелі». На парадку дня — «змаганне з панам або з паняй такой-та за сервітут[1], або за дарогу, або за «абчэсцвенную» зямлю, якую самавольна заараў кулак такі-та — ён жа панскі падлізнік». Бічаванне паноў і панскіх падлізнікаў знаходзіў у кожным з пратаколаў, і больш за ўсё ўвагу народа займаюць лес, асаднікі, зямля. Адносна рабунку лесу акупантамі плывуць цэлыя пасланні. Ёсць і канкрэтныя, жорсткія — забараніць панам знішчаць лес. Гэтыя рэзалюцыі Андрэй адкладае асобна — іх трэба паслаць у Вільню ў рэдакцыю сваёй газеты «Наша праўда» для надрукавання. А што датычыцца асаднікаў, то пратаколы поўныя абурэння, праклёнаў. Андрэй чытае і занатоўвае сёе-тое ў блакнот.

...«Пасяліўся год таму назад у нас сусед,— пішацца ў адным пратаколе.— Гэты сусед — пракляты асаднік Стэцкі. У нас няма зямелькі, а яму далі аж 30 гектараў ды ў нас пад носам... Людзі кажуць — культурай нам хваліцца... каб табе рукі паадсыхалі, хіба капуста можа расці на гары ў пяску?» І ў канцы сказа стаіць знак запытання, як дуга.

І далей: «Хіба ж можна так здзекавацца з зямелькі? Гэты вораг працоўнага народу мае два ружжы і кулямёт, і ліварвер пры баку. Хлопца красцянкі нашага сяла Макрыны Рудак счарніў бізуном за тое, што карова ўбегла ў яго канюшыну, а на трох гаспадароў падаў на суд. І права на яго няма ніякага, што хоча, тое робіць, п'янюга гэты, грабіцель. Усё верхам ездзіць па полі ў сядле, хваліцца, што служыў у легіёнах Пілсудскага. А нам напляваць на гэтыя легіёны, пападралі скуры з нашых людзей. Ведаем мы гэтыя легіёны. Але цяпер прыціх пан, бо ба-

---

[1] Права сялян пасвіць жывёлу ў панскім лесе.

чыць, што Грамада паднялася, нават вітаецца, калі сустрэне. Падагнуў хвост. Але нам не патрэбна яго вітанне. Мы хутка паўстанем. І таму пастанаўляем, каб выгнаць асадніка Стэцкага, як і ўсіх асаднікаў, з нашай зямлі...

Сход закончыўся гучнымі воплескамі і песняй «Слязамі заліт мір бязбрэжны»...»

Андрэй скончыў чытаць гэты шчыры пратакол, і цяжкая маршчына легла між броваў. У гэтай кроплі адбіта цярпенне ўсяго народа. Наіўна — гэта так. Але — непасрэдна, ад душы. У гэтым і ёсць сіла.

Пачаў перагортваць далей. Натрапіў на такое пытанне, якое дагэтуль не сустракалася ў пратаколах. Справа ішла аб барацьбе за... царкву. У пратаколе пісалася: «Ксяндзы з мястэчка і шляхецкага засценку разам з паліцыяй хочуць перарабіць нашую цэркаў на касцёл. Увесь народ усхваляваўся. І мы пастанаўляем: не даць панам цэрквы, так як яна пабудавана мазольнымі рукамі працоўнага народу...»

Андрэй усміхнуўся над такім аргументам і зразумеў цяжкасці складальнікаў пастановы. Непапулярна змагацца за царкву, калі шмат людзей цяпер у бога не верыць. Але ўсё ж такі шкада аддаваць царкву пад касцёл.

А як абгрунтаваць гэта? А вось як: яна, бачыце, пабудавана мазольнымі рукамі працоўнага народу. Думалі сакратары і выдумалі, бо шкада і царквы, калі вораг ірвецца да рабунку. Проста і ясна. Гэта, а не што іншае кіравала людзьмі перад абліччам навалы ксяндзоў і паліцыі, і таму пытанне стала на сходзе гуртка.

Андрэй спецыяльна адлажыў гэты пратакол, каб потым абмеркаваць яго на пасяджэнні камітэта.

Прад вачыма Андрэя ўзнікла тая цэркаўка ў глухім лясным зацішшы ля Дзядоў — жывая сведка наступаў папскага Рыма на ўсход, на Беларусь. Пры гэтым на хвіліну прамільгнулі ў душы тыя часы партызанскай барацьбы — Сцяпан Каваль, Сава Супрун, Макар Краўчук, яна — Вольга... Зноў паўстаў перад вачыма той крыж пры царкве і на ім... павешаны Даніла. Здавалася, што ўсё гэта было ўжо даўно, хоць у душы засталася незагоеная рана. Дзе ж тыя хлопцы-малойцы са Сцяпанам? На момант пачуццё адзіноцтва авалодала Андрэем, ён адчуў недахоп чагосьці вялікага. Глянуў у акно. Снег усё падаў і падаў вялікімі калматымі сняжынкамі.

Хілілася к вечару, і зімовыя непрытульныя змрокі павольна, непрыкметна асядалі ў пакоі, ад чаго яшчэ цяжэй

рабілася на сэрцы. Па вёсках цяпер шмат слаты, гразі і гэтыя непрытульныя змрокі па хатах, калі ўсё застывае ў цяжкай, як камень, задуме.

Пасінелыя дзеці і маці...

Холадна, холадна на нашай зямлі...

Гінуць лепшыя парыванні, гінуць таленты народа...

Яшчэ нямала цяжкіх выпрабаванняў на шляху.

У турмах ужо дзесяць тысяч палітзняволеных. Пілсудскі ўсё больш і больш пераймае ад фашызму метады барацьбы з рэвалюцыянерамі.

Уся надзея народа — Усход, Саветы, Чырвоная Армія, якая перамагла ворагаў на дваццаці шасці франтах. І таму гарады і сёлы не вераць у граніцу, якая легла за Стоўбцамі і замкнула народ, як у склепе.

Андрэй ачуўся ад задумы і стомленым рухам рукі абцёр свой твар, як быццам вызваляючыся ад цяжкіх думак. Нахіліўся зноў над пратаколамі. Але пачалі трапляцца ўсё менш змястоўныя. Прычына зразумелая. Не так даўно ад староства паступіў загад, каб камітэт паведамляў, колькі і дзе адбываецца сходаў гурткоў у той ці іншы дзень. І камендатура высылае на кожны сход па аднаму або па два паліцыянты. Ну, якія ўжо там сходы пры паліцыі! І таму трапляюцца пастановы больш дробнага парадку: то пастанавілі выпісаць газету, то кніжкі, то паправіць вуліцу ў вёсцы, то наладзіць спектакль, то прыняць некалькі чалавек у гурток. Камітэт у адказ на загад староства змяніў тактыку — загадаў гурткам рабіць сходы ў адзін дзень па ўсім павеце. Вядома, што ў камендатуры не хопіць паліцыі. Староста ў адказ на гэта патрабаваў, каб камітэт прысылаў у староства парадак дня сходу ўсіх гурткоў. Далі адказ і на гэта, што парадак дня ўсіх сходаў складаецца толькі з двух пытанняў: арганізацыйныя справы і бягучыя справы.

— Вазьмі нас за руб дваццаць,— сказаў Андрэй у свой час, калі бюро камітэта прыняло такую пастанову.

Але як-ніяк прысутнасць паліцыі адмоўна ўплывала на ўзровень сходаў.

І стала нецікава разглядаць пратаколы далей. Летапісы бурных дзён так ці інакш адыходзяць у падполле.

Націскаюць паны, націскаюць... Паліцыянты на сходах гурткоў умешваюцца ў абмеркаванне спраў. Відаць, маюць на гэта інструкцыі. Відаць, паны хочуць паволі накіраваць ход Грамады ў іншае рэчышча. Напэўна, старосты таксама маюць на гэта інструкцыі. Намер паноў

зразумелы — адвесці Грамаду ад палітыкі, ад барацьбы супроць акупацыі, зрабіць з Грамады згодніцкую арганізацыю пад кіраўніцтвам кулацкіх элементаў.

Не, паны, дарэмныя намаганні! Гэтага ніяк, аніяк не ўдасца вам зрабіць.

Цень прамільгнуў за вокнамі — нехта ідзе. Неўзабаве ўвайшоў паштальён і перадаў пошту. Уся пошта была з Вільні — газеты, часопісы і адзін ліст. Андрэй распячатаў. Ліст быў ад Цэнтральнага Камітэта Грамады, з загалоўкам: «Да ўсіх павятовых камітэтаў і гурткоў беларускай сялянска-работніцкай Грамады». У ім пісалася, каб выконваліся загады староставаў. Гэта для таго, каб не паддавацца правакацыям. Таксама пісалася, што хутка будуць перавыбары павятовых камітэтаў і камітэтаў гурткоў. Але аб гэтым будзе паведамлена асобна.

Андрэй прачытаў ліст раз і яшчэ раз. Думаў. Ліст яму адразу не спадабаўся. Што асцерагацца правакацый трэба — гэта правільна, але, каб дакладна выконваць загады старостава,— гэта не... Не тое... Нешта не па-нашаму. Або — перавыбары. Чым яны выкліканы? Хоць ён там і Цэнтральны Камітэт, але, відаць, абстаноўкі не ведае. Выходзіць так, што ён, гэты камітэт, нібы згаварыўся са старостамі. Але як гэта можа быць — ён жа камітэт Грамады? Праз Грамаду мы павінны на першы пачатак дабіцца дэмакратычных правоў для народа. А тут — дакладна выконваць загады староставаў. Староствы заўтра могуць загадаюць закрыць такі і такі гурток, бо ён, бачыце, бальшавіцкі, як любяць гаварыць паны. Не, з гэтым згадзіцца нельга.

І Андрэй пасля доўгіх развагаў сеў рыхтаваць адказ Цэнтральнаму Камітэту. А потым запісаў у блакнот: «Арганізаваць адказы ва ўсіх гуртках на ліст ЦК Грамады». Закрыў блакнот і энергічна ўстаў з месца, нібы задача была ўжо выканана. Пацягнуўся ад стомленасці, пасля прайшоўся па пакоі. На сцяне партрэт Янкі Купалы ўжо ахутаўся змрокам. Пад ім яшчэ прыкметнай была цытата з яго верша: «І будзе ўнукаў панаванне там, дзе сягоння плача дзед».

...Андрэй і не заўважыў, як у пакой увайшоў старшыня гуртка вялікай вёскі Квасцікі — добры прамоўца і арганізатар, камуніст Антон Ткачук, у кажусе і куртцы, падпяразаны вяроўчынай. Малады, удумлівы і строгі, ён умеў спалучаць канспірацыю камуніста з легальнасцю

грамадаўца, і яго гурток быў у павеце амаль на першым месцы.

Вёска ўжо мела бібліятэку, арганізавала свае курсы для навучання моладзі, мела мастацкі гурток, вёска не хадзіла адбываць шарваркі, не плаціла падаткаў. Паліцыя баялася гэтай вёскі, у якой большая палавіна бацькоў не насіла хрысціць дзяцей да папа. Гэтая вёска ўжо змагла арганізаваць сезонную забастоўку супроць памешчыка ў час жніва і капання бульбы і выйграла яе.

Ткачук, нават не абтрасаючы снегу, загаварыў адразу:

— Касцевіч, бяда...

— Што такое?

— У вёску прыехала аж дзесяць паліцыянтаў з секвестратарам [1] браць падаткі. Сядзяць у старосты. Падаткаў ніхто не нясе, вядома... Пагражаюць, што будуць забіраць кароў і авечак... Што рабіць?

Андрэй як быццам ужо быў падрыхтаваны да адказу (скрабянуў яго за жывое гэты ліст ЦК Грамады).

Ён паклаў руку на аснежанае плячо Ткачука і сказаў усхваляваным голасам:

— Ты ведаеш, Ткачук, наш лозунг: «Ні гроша падаткаў фашысцкаму ўраду Пілсудскага, ураду акупацыі і тэрору». Ведаеш гэты лозунг?

— Ведаю,— адказаў Ткачук,— мы ж яго і выконвалі. Але што рабіць, калі будуць браць скаціну?

— Не даваць, Ткачук, не даваць... Калі будуць выганяць кароў, авечак на вуліцу, пусціце ў ход дзяцей,— няхай заганяюць у хлявы назад... Але будзьце напагатове і самі. Калі пачнуць біць дзяцей, атакуйце паліцыю, атакуйце смела — крыкам, каменнем, палешнямі... Не дапускайцеся да рукапашнай. Але я думаю, хопіць аднаго крыку... Пабаяцца... Потым аб усім напішаш, прынясеш нам, падрукуем у газеце...

Андрэй спыніўся на момант і, зморшчыўшы лоб, дадаў:

— Ага... з камсамольцаў арганізуйце начную варту, бо могуць награнуць ноччу... Гэта ўжо было ў Навагрудскім павеце. Вось так, Ткачук, ідзі і дзейнічай.

Ткачук тут жа надзеў шапку і подбегам падаўся з хаты. Потым за акном пачулася «но» і ляск пугі. Ткачук з месца пагнаў каня рыссю.

---

[1] Урадавы чыноўнік, які спаганяе падаткі.

Андрэй хадзіў па пакоі напружаны.

«Гмм! Значыць, хочуць зламаць самую моцную вёску для пачатку. Мацаюць... Вось з чаго пачынаюць паны... характэрна... Ці не пачатак чаго большага?»

Раздзел чацвёрты

## ПАЧАТАК КАНЦА

Весткі прыйшлі пасля, як яны наогул часта прыходзяць глухімі, падпольнымі дарожкамі і сцежкамі. Носяць іх з сяла да сяла маладыя хлопцы і дзяўчаты — ганцы падполля. Дзень ці ноч, лета ці зіма — яны ўсё нястомна ідуць і ідуць з радасцю і думкай, што кожны іх крок набліжае канец няволі. А з горада ў горад весткі імчацца ў паяздах. Разносяць іх тыя ж падпольныя сувязісты і сувязісткі. Хто далучыцца да групы рабочых, хто прастаіць усю дарогу ў цёмным кутку ля акна, назіраючы за кожным новым чалавекам, а хто і на прыступках вагона. Едуць не з пустымі рукамі — едуць з цяжкою, але дарагою ношай. Чамадан... гэты славуты чамадан, пра які так многа расказваюць нават анекдотаў, заўсёды спадарожнічае ім. Чамадан скураны, часам ужо і абшарпаны, але трывалы, як стары служака, які зведаў «воды і медныя трубы». Чамадан носіць у сабе, хавае ад вока паліцыянта, шпіка толькі... словы і словы. Падпольшчыкі вязуць у чамаданах літаратуру, вялікія ідэі вялікай партыі — ідэі Маркса — Энгельса — Леніна, вязуць у народ і для народа, у самыя далёкія куткі краіны. Няважна, як ехаць,— ці стоячы, ці часам трэба схавацца і пад лаўку, ці прастаяць на буферах,— трэба, чаго б гэта ні каштавала, даносіць гэтыя ідэі да народа, набліжаць дзень свабоды. Прыблізна так і ехаў тады таварыш Васіль, калі развітваўся з Паддубным і Андрэем. Здаецца, усё было ў парадку. Поезд ішоў па асенніх ціхіх прасторах, дзе ў сіняй дымцы бабінага лета дагарала апошняя краса прыроды. За акном мільгалі бярозы ў жаўталісці — паніклыя, задуменныя. Кучаравыя сосны чырванелі стваламі на сонцы. Міналі шэрыя вёскі, дзе гронкамі рдзелі навіслыя над платамі рабіны. Каровы, рассыпаўшыся, здаецца, застылі на полі, прыпаўшы да травы.

І тыя адзінокія старыя грушы, узгадаваныя сонцам і вятрамі, як вартавыя, стаяць разложыстыя, дрэмлюць над палеткам. Мілая, знаёмая прырода, колькі радасных надзей ты ўзнімаеш у душы!

Таварыш Васіль адвярнуўся ад акна. Пасажыры ў бакоўцы сядзелі тыя самыя — сяляне. Вагон быў нават і не трэцяга класа, а нейкага апошняга, з абшарпанымі сценкамі, скрыпучы, стары вагон, яшчэ, відаць, Аляксандраўскай чыгункі, бо не ўсюды паны ўправіліся замяніць рускія літары і словы польскімі.

Таварыш Васіль нават паразмаўляў крыху з сялянамі, якія ехалі працаваць на лесапільню. Пабойваліся сяляне таварыша Васіля, бо ўсе яны былі ў шэрых саматканых куртках, а ён, таварыш Васіль, у чорным гарадскім паліто і ў чорнай кепцы. Хто яго ведае, можа, які шпік? Гавары ды не загаварвайся. І сяляне з аглядкай звярталіся да таварыша Васіля — «пане». Таварыш Васіль разумеў такія паводзіны сялян, нават хваліў іх пільнасць і, усміхаючыся ў каўнер паліто, надоўга змаўкаў. Яго вялікія блакітныя вочы рабіліся сур'ёзнымі, а ў галаве зноў плылі насцяроржаныя думкі. Прыхіліўшыся плячыма да сцяны, ён пакалыхваўся ў такт перастуку колаў. Хутчэй, хутчэй ляці, поезд, бо шмат работы, яшчэ трэба адведаць другую акругу, а там — справаздачы, цыркуляры, адозвы, лістоўкі, весткі з СССР.

Пачынала ўжо цямнець. Поезд набліжаўся да нейкай станцыі. Па калідоры вагона пачуліся крокі — пасажыры рыхтаваліся да выхаду. Гэта заўсёды трывожная мінута. Таварыш Васіль яшчэ вышэй падняў каўнер паліто і насунуў кепку на вочы. Чуйным вухам сярод мітуслівых крокаў ён пачуў мерную, павольную хаду. Ішоў, відаць, кандуктар або хто іншы са службістаў. Таварыш Васіль адным вокам зірнуў направа і адразу пазнаў у чорным капелюшы, у шараватым паліто з замшавым каўняром таго, аб якім дакладваў яму Андрэй, а Андрэю — Захар Зубец. Прамільгнуў той самы нос, паголены твар. У яго руцэ бліснуў саквояжык. Таварыш Васіль нават закусіў губу. Сустрэча не зусім прыемная. Не ўдалося прахадзімцу пабачыць ніводнага члена акругкома там, дык ідзе паляваць далей. Едзе на старыя яўкі. Але каб чаго не выйшла з гэтай сустрэчы? Работу сэцэсіі, безумоўна, ухваляе дэфензіва. Сэцэсіяністы сочаць за намі не менш, як шпікі. Ужо сцямнела. Поезд, гукнуўшы ў навакольны змрок, спыніўся ля невялікай станцыі. Таварыш Васіль глянуў у акно

і ўбачыў, што перад прыступкамі вагона стаяць два паліцыянты, на грудзях у іх паблісквалоць ліхтарыкі. «Няўжо цяпер пападуся?» — падумаў таварыш Васіль. Нехта па калідоры сказаў: «Праверка дакументаў...» «Што рабіць: застацца ў вагоне ці выходзіць? Трэба вырашаць зараз жа, бо праз мінуту можа быць позна». Таварыш Васіль на момант не ведаў, што рабіць, а потым раптоўна адвярнуўся ад акна і спакойна ступіў на калідор і стаў у чаргу да выхаду.

Вось зараз ужо і выхад. Ну што ж, пашпарт у кішэні ёсць. Хіба гэтым паліцыянтам пазнаць, што пашпарт ліпавы, на прозвішча Рамана Шумановіча, грамадзяніна горада Пінска? Усё там у парадку, і пячатка з кіпцюрастым арлом, як мае быць,— дакладна. Таварыш Васіль урэшце сходзіць з прыступак і дае паліцыянту шэра-цьмяную кніжачку, пад назвай «Довуд особісты». Паліцыянт разгортвае, глядзіць. З-за яго пляча глядзіць шпік у шапцы-мацяёўцы. Пытаюцца, як прозвішча, імя, імёны бацькоў, месца жыхарства, прафесія. На ўсё адказаў таварыш Васіль. Зараз павінны аддаць яму пашпарт, і ён будзе вольны казак,— зможа сесці ў поезд зноў або пачакаць наступнага. Але штосьці доўга перагортваюць, мярзотнікі. А ззаду напіраюць пасажыры, напіраюць так, што таварыш Васіль ледзь трымаецца на нагах. Другі паліцыянт стрымлівае, але нічога зрабіць не можа.

Той, хто правяраў, прасвечвае лісцікі пашпарта на святло ліхтарыка, мацае пальцамі. Урэшце натоўп пасажыраў сарваўся з прыступак і саштурхнуў таварыша Васіля. Ён непрыкметна, зірнуўшы з-пад казырка, зрабіў у цемру адзін крок і знік.

Праверка дакументаў ішла па ўсіх вагонах. Паліцыянт і шпік, думаючы, што таварыш Васіль усё яшчэ стаіць перад імі, запыталіся амаль адначасова:

— А куды едзеце і чаго?

Але адказу яны не пачулі.

— Шумановіч, чаму не адказваеце?

Паліцыянт адвёў вочы ад пашпарта, апусціў ліхтарык і ўбачыў перад сабою толькі запыханага другога паліцыянта.

— Дзе пасажыр?

— Які?

— Што стаяў тут. Вось яго пашпарт...

Паліцыянт глянуў навокал, нават ступіў крок ад поезда. Пасажыра Шумановіча не было.

— Пся крэў, разява! Што ты зрабіў? — крыкнуў той, хто правяраў.— Выпусцілі птушку. Ідзі, лаві...

Пачакаўшы, злосна дадаў:

— Давай свісток, пся крэў!..

Гарошынка заклекатала ў свістку напорыста, трывожна. Такія ж свісткі адклікнуліся ўздоўж поезда.

Шпік выняў з кішэні рэвальвер і даў тры стрэлы ў паветра.

Праверка дакументаў была спынена. Уся паліцыя па загаду афіцэра хлынула на вакзал.

А таварыш Васіль тым часам шпаркімі крокамі ішоў па дарозе ўздоўж чыгункі. Пасёлак ці мястэчка — невядома — засталіся ўжо далёка ззаду. Ужо ў глухім полі, ахутаным начным змрокам, таварыш Васіль пачуў свісткі і стрэлы. «Значыць, можа быць пагоня»,— падумаў. І нібы ў адказ на яго думку, гулі тэлеграфныя правады: «Пагоня... пагоня...» Спяшайся, таварыш Васіль, бо яна і сапраўды можа быць. Праўда, дарогі не відаць пад нагамі, але горш тое, што яна няроўная,ямістая, у калдобінах, не дае разгону нагам. Але ўсё ж такі ідзецца хутка. Можа, шчаслівы выпадак здарыцца на дарозе і выратуе. Абы дабрацца да Баранавіч, а там... будзе ўсё, што трэба. На поезд садзіцца цяпер ужо нельга. Хоць бы лес які быў па дарозе, а то ўсё поле і поле. Таварыш Васіль спыніўся, паслухаў. Здаецца, не чуваць нічога, толькі тэлеграфныя правады гудуць крыху ў аддаленні.

Таварыш Васіль успомніў пра гэтага ў капелюшы. Яшчэ будзе, відаць, не такая сустрэча, ой, будзе. Рука рэвалюцыянера насцігне злачынцу... Але стой... Сапраўды нешта чуваць. Таварыш Васіль спыніўся і прыслухаўся. Так, чуваць. Ён лёг на дарогу і прыклаў вуха. Зараз жа ўсхапіўся на ногі і подбегам падаўся ў поле. Набліжаўся тупат конскіх капытоў.

Таварыш Васіль ляжаў у разоры метраў за трыста ад дарогі, калі тры паліцыянты прамчаліся на конях. Час ад часу яны паблісквалі па абочынах ліхтарамі, якія давалі доўгі прамень. Таварышу Васілю нават здалося на адзін момант, што прамень слізгануў і па ім.

Тупат капытоў заціх. Таварыш Васіль устаў і пайшоў далей полем. Як жа можна доўга ісці па гарбатых загонах — з разоры на горб, з гарба ў разору, але... трэба. У аддаленні свецяць агні нейкай вёскі. Можа, накіравацца туды? Таварыш Васіль пастаяў, падумаў і адкінуў гэты

намер. Нельга. Без сувязі, без дакументаў. А можа, і там валочыцца паліцыя? І пайшоў далей.

...Здаецца, дарога. Так, ногі намацалі дарогу. Таварыш Васіль спыніўся і зноў прыслухаўся. Здалёк з цемры даляtaў скрып. Таварыш Васіль пачакаў, паслухаў і здагадаўся, што едуць падводы. Сеў і вырашыў чакаць. Пачуліся глухія галасы паганятых.

Таварыш Васіль, не заўважаны падводчыкамі, сядзеў і лічыў падводы. Налічыў іх нешта з дзесяць і пачаў чакаць апошняй. А апошняя адстала — ехала воддаль, адна. Таварыш Васіль прапусціў і яе. Потым устаў і пайшоў даганяць.

— Куды едзеце?

— Да Баранавіч, цэглу вязём... Пану-калтыжніку грошы зарабляем.

— А сабе? — запытаўся таварыш Васіль.

— Гм... сабе? Сабе пяць фунтаў жыта... Вось і ўвесь заработак. Каб яму пяць скул за ноч села...

— А далёка да Баранавіч?

— Пятнаццаць вёрст,— адказаў барадаты дзядзька, а затым спытаўся: — А вы адкуль і куды ідзяце ноччу ды яшчэ адзін?

— Я здалёк... Няшчасце са мною здарылася... Вось і іду.

— Няшчасце? Якое? — запытаўся дзядзька.

Таварыш Васіль прамаўчаў мінуту і адчуў — яму можна сказаць, што ён уцёк ад паліцыі.

Дзядзька матнуў барадою ў бок таварыша Васіля і змераў яго доўгім позіркам.

— Ад паліцыі, кажаш,— прамовіў,— скону няма на яе, душыць яна людцоў па днях і па начах.

Таварыш Васіль папрасіў завезці яго ў Баранавічы, схаваўшы на возе, бо на дарогах шнырыць паліцыя.

— Я табе добра заплачу, дзядзька...

Барадаты дзядзька ўсё ж такі доўга маўчаў, а затым, нічога не кажучы, спыніў каня. Выбраў цэглу пасярэдзіне воза, паскуб з дна саломы і ціха сказаў:

— Лезь, кладзіся, накрыю цябе, дзе цэглай, дзе саломай... Што ты зробіш з нашай бядой? Добра, што ўцёк, яшчэ пажывеш трохі на волі. Бо вось мой сын ужо год, як у турме...

«Здагадаўся дзядзька»,— падумаў, усміхаючыся, таварыш Васіль і пачаў мосціцца на дне воза, каб выгадней легчы.

На душу наплыло пачуццё шчасця. «Мы і народ — гэта адно цэлае на баявым шляху»,— падумаў, гледзячы ў цёмнае неба, адкуль дзе-нідзе пазіралі халодныя зоркі. Праз нейкі час абоз быў спынены выкрыкам: «Стуй!» Таварыш Васіль пачуў тупат конскіх капытоў. «Пільнуюць дарогу, нягоднікі»,— падумаў ён.

Дзядзька пачаў мацаць рукамі па возе, правяраць, каб не было дзе якой прарэхі. Вось едуць яны ў гузіках і кожны воз асвятляюць нейкім пранізлівым святлом. І яны абышлі ўвесь абоз, адзін паліцыянт спытаўся, ці не бачылі якога-небудзь прахожага. Словы дуднілі проста ў вушах таварыша Васіля, бо паліцыянт стаяў ля воза, конь яго грыз цуглі, здаецца, над галавою.

Усе падводчыкі адказалі, што не бачылі. Паліцыянт абяцаў нават плату, але ўсё роўна нічога не дабіўся. Тады паліцыянты павярнулі коней і шырокай рыссю падаліся туды, дзе далёка свяцілі агні вёскі.

А абоз паплыў у цемру па дарозе са скрыпам. Барадаты дзядзька перагнуўся цераз біла воза, разгарнуў саломy над тварам таварыша Васіля і шапнуў:

— Хай шукаюць ветру ў полі, хай яны ногі паломяць.

І гукнуў на каня.

* * *

Не зусім добра, што поезд прыходзіць на станцыю ранкам. Але нічога іншага нельга прыдумаць,— трэба было ехаць у горад Г. Абавязкова. Там набірае сілы выразна меншавіцкі ўхіл. Трэба ўзброіць гарадскую арганізацыю, развянчаць «тэарэтыка» Замерштэйна. Асоба ён цікавая, але не для барацьбы. Якое тонкае ўменне шукаць шчылінак у цэлым, каб праз іх прапусціць свае згодніцкія ідэйкі. Няма чаго казаць,— удалая ігра на псіхалогіі адсталай масы, умее з агульных падзей вырваць тое, што яму трэба, але падрывае рост арганізацыі. Ісак Замерштэйн, сакратар прафсаюза пекараў, хутка паспеў стаць рабочым арыстакратам. Нездарма яго празвалі «Макданальчыкам». Англійскі Макданальд выглядае на фота ў кракаўскай газеце «Ілюстраваны кур'ер цодзенны» высокім, плячыстым, пяўклюдным. Ну, а Замерштэйн — маленькі, тоненькі, сухарлявы. Адным словам, Макданальчык. Няма ўжо цяпер сілы, якая б яго асаджвала, выкрывала, як гэта было раней. Сур'ёзны, паважны Веніямін Бапікоўскі ўжо ў турме. Калі прывялі яго ў дэфензіву, то шпікі доўга разглядалі моцную постаць гэтага токара, быццам урослую ў зямлю,

і ўсё думалі, як прыступіцца да яе з кулакамі. Башкоўскі — сіла, любімец рабочых, моладзі. Кім жа замяніць яго? Вылез на паверхню вось гэты Замерштэйн, якога Башкоўскі трымаў, як ката ў мяшку. Замерштэйн сарваў прапагандысцкую кампанію ў гонар дзевятнаццатай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Доказ усё адзін — «мы падставім арганізацыю пад удар». Ну, а што ўжо думаць аб такой адкрытай масавай барацьбе, як забастоўка?.. Кім жа замяніць?

Таварыш Васіль яшчэ глыбей утуліўся ў змрочны куток вагона і думаў, думаў, прыкрыўшы вочы. Няйначай прыйдзецца вылучыць яе, Соню Качаноўскую. Непадрыхтаваная, праўда, гарачая, але верная, разумная. Прыеду — пагаворым.

Ранняе сонца асвятляла горад, які, здаецца, яшчэ лашчыўся ў тонкай імгле, калі таварыш Васіль сышоў з поезда. З-за вакзала далятаў грукат колаў па бруку, ляскат капытоў і той мерны, несціханы гарадскі гул, у якім тонуць усе галасы і гукі. Бакавыя праходы ў горад зачынены — ісці трэба толькі праз вакзал. Дакументаў не правяраюць. Значыць, можа, пашанцуе. З натоўпам пасажыраў таварыш Васіль вырваўся з вакзала і шпаркай хадою закрочыў па бруку. Вось ужо мінуў прывакзальны скверык, і вуліца прадстала прад вачыма. Яна вабіць, кліча таварыша Васіля — «прайдзі толькі адзін квартал, звярні налева ў вузенькі, глухі завулак — там жыве работніца швейнай фабрыкі Соня Качаноўская. Яна ж цябе павінна сустрэць на павароце...»

У пачатку вуліцы, на рагу, стаіць асоба, апёршыся на сукаваты кій. Касцюм на гэтай асобе зеленаватага колеру, такая ж кепка. Гэты суб'ект стаіць і нават пазяхае. Не выспаўся, мусіць, гэты пан. Таварыш Васіль прайшоў міма. Асоба, здаецца, і не глянула на яго.

Пачало прыходзіць супакаенне. Але нехта ззаду затупаў нагамі дробна, дробна, як быццам імкнуўся перагнаць. Затым пачуўся голас: «Прошэ пана...» Таварыш Васіль ішоў, не сцішаючы хады. Трывога прабегла ў душы: «Можа, гэта да мяне?» І таварыш Васіль адчуў лёгкі дотык да рукава, і голас прагучаў проста ўжо ў вуха: «Прошэ пана...» Таварыш Васіль азірнуўся, і вочы ўбачылі раскіслы, нявыспаны твар у жоўтай шчаціне няголенай барады.

— Што пану трэба? — запытаўся таварыш Васіль.

— Я хачу праверыць у пана дакументы.

— А хто пан?

Асоба адвярнула левую кляпу касцюма і паказала шпікаўскі значок.

— Чаму не правяраеце ва ўсіх, а толькі ў мяне? — пратэставаў таварыш Васіль.

— Гэта ўжо мая справа,— крыху павысіў голас шпік,— маю права.

Таварыш Васіль, гаворачы, пазіраў скоса ў бакі, ці нельга шмыгануць на які-небудзь падворак. Але наўкол суцэльныя сцены дамоў, крам. Няма ратунку. І таварыш Васіль пачаў шукаць у бакавой кішэні касцюма дакументы. Гэтага толькі і трэба было. У момант з процілеглага боку вуліцы падляцелі яшчэ двое ў шэрых кепках і сталі побач.

Таварыш Васіль зразумеў усё — канец.

— Як прозвішча? — пытаўся шпік, трымаючы пашпарт у руках.

— Іван Бараноўскі.

Шпік глумліва ўсміхнуўся.

— Ты — Бараноўскі? Мы табе так дамо, што збаранееш... Пашпарт я затрымліваю... Пойдзем у камендатуру.

— Гэта гвалт,— запратэставаў таварыш Васіль,— пашпарт адбіраць вы не маеце права.

— Яшчэ права шукаеш, пся крэў... Марш наперад! Будзеш уцякаць — прыстрэлім.

...Так і павялі таварыша Васіля — адзін шпік ішоў наперадзе, а двое ззаду. Надзяваць наручнікі не адважыліся, каб не выклікаць цікаўнасці людзей. А людзі ўсё роўна цікавіліся, ішлі насустрач, апускалі вочы і сціскалі зубы. Як свежа і шумна ў парку — у кронах ліп і клёнаў наперабой гамоняць гракі. Памятны гэты парк для таварыша Васіля — ён у свой час уцёк тут ад паліцэйскай аблавы і схаваўся ў гэтай самай Соні Качаноўскай, якая недзе чакае цяпер па рагу свайго цёмнага завулачка. Добра, што дзень, а не ноч, убачаць свае, будуць ведаць, прымуць меры перасцярогі, перададуць вестку далей. Сэрца паволі начало камянець... А людзі ўсё ідуць і ідуць насустрач і з нейкай ціхай павагай абмінаюць таварыша Васіля. Часам хто гляне яму проста ў вочы і абдорыць усмешкай спачування і жалю. Таварыш Васіль пазнае ў гэтых людзях рабочых, работніц, бедных чыноўнікаў. А тыя, што прахо-дзяць у кацялках, капелюшах, паважна апіраючыся на палкі, з пагардай аглядаюць таварыша Васіля. Іх твары гавораць: «Ага, папаўся, птах... Ну, і добра».

Сэрца заварушылася, на момант закалацілася моцна...

На рагу ў клятчастай хустцы-канаплянцы стаіць знаёмая постаць, стаіць яна — Соня. У апушчанай руцэ трымае кошык. Нельга ж стаяць з голымі рукамі, гэта можа заўважыць які-небудзь шпік.

Вочы іх сустрэліся. На момант чырвань заліла белыя шчокі Соні, з чорных вачэй, здавалася, сыпнулі іскры. Мільганула перад таварышам Васілём балючая маршчынка паміж сціснутымі бровамі. Так і засталася яна ў памяці, здаецца, навекі. Таварыш Васіль ціхенька кіўнуў ёй галавою і злёгку ўсміхнуўся. А яна ўпівалася ў яго гарачымі вачыма, гатовая кінуцца, каб вызваліць. Мілая Соня, ужо без мяне разаб'еш Макданальчыка. Глядзі, рабі гэта. А суп, які ты зварыла, як заўсёды, каб мяне сустрэць, з'ясі адна. Глядзі, з'еш, будзь спакойнаю і нязломнай. За мяне не бойся. Так і пакінуў таварыш Васіль на рагу зграбную, моцную постаць Соні, абвітую тугою. А Соня яшчэ стаяла з момант нерухома, як у забыцці, нічога не бачыла перад сабою, глядзела, як праз туман. Пасля раптам схамянулася. Прыйшла яна — пільнасць. Паправіла хустку, зірнула туды-сюды і шпаркім крокам пайшла па сваім цёмным завулачку. Соня зноў была сама сабою, хоць пякучы боль яшчэ не астыў у гарачым сэрцы.

...Другі допыт пачаўся ўначы. Прывялі таварыша Васіля ў пакой з бруднымі сценамі, з непадмеценай падлогай. Дзве электрычныя лямпачкі, апушчаныя са столі на правадах, свяцілі ржавым святлом. Яно здавалася таварышу Васілю крывавым. У гэтым сырым пакоі з вокнамі, зачыненымі наглуха аканіцамі, стаяў толькі адзін стол з тэлефонам. За яго і сеў намеснік начальніка дэфензівы ў фрэнчы. Твар, як вымачаны, касцісты, з надламанай пераносіцай, спацелы. Шмат працы з гэтымі камуністамі. Вочы невыразнага колеру, у крывавых жылках, хаваліся напалавіну пад павекамі. Нешта драпежнае было ў касцістых вялікіх руках. Два шпікі моўчкі стаялі побач і час ад часу з-пад казыркоў кепак падазрона пазіралі на высокую постаць таварыша Васіля. Намеснік разгарнуў папку і выняў спісаны ліст паперы — «пратакол».

— Ну, што? Будзеш гаварыць ці не? — звярнуўся ён да таварыша Васіля.

— Я не маю чаго гаварыць,— адказаў таварыш Васіль.

— Ага, не маеш...— намеснік кіўнуў на шпікаў і коратка сказаў: — Скаваць.

Тыя схапілі таварыша Васіля за рукі, бразгат ланцугоў павіс у сырым паветры пакоя.

Сесці не запрашалі. Таварыш Васіль стаяў над сталом, над рыжаватай галавою намесніка, апусціўшы перад сабою скаваныя рукі. Нервы напружыліся, звязаліся ў моцны вузел. А сэрца білася глуха, недзе глыбока, глыбока.

— Слухай, што я табе прачытаю,— сказаў кат. І пачаў чытаць: «Я, Павел Шахновіч, сын Івана і Ганны, 32 год, жыхар горада Пінска, па прафесіі слесар, з'яўляюся інструктарам ЦК КПЗБ. Абслугоўваю дзве акругі...»

«Ну што ж, трохі ведаюць,— падумаў таварыш Васіль,— але далёка не да канца... Чытай, чытай, панскі найміт, гэта не дапаможа...»

Тонкія губы дэфензіўшчыка ледзь варушыліся: «...Мэтай маёй паездкі па акругах было — дапамагчы камуністам авалодаць Беларускай Грамадой, каб арганізаваць масы да антыдзяржаўных выступленняў, адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы і далучыць да СССР...»

«Гаворыць мовай сэцэсіі...» — сам сабе заўважыў таварыш Васіль.

Дэфензіўшчык чытаў далей: «...У Глушэцкім павеце, Баранавіцкай акругі, звязаўся з членам павятовага камітэта Грамады Андрэем Касцевічам, камуністам, і з камуністамі — Апанасам Хмелем і Міронам Вадалеем. Яны атрымалі ад мяне інструктаж, як арганізаваць антыдзяржаўныя выступленні, путчы...»

«У Глушэцкім раёне ёсць правакатар,— зноў адзначыў таварыш Васіль,— так хутка плывуць даносы... Мы гэтым зоймемся, хоць бы і ў турме...»

Дэфензіўшчык чытаў яшчэ аб дзейнасці таварыша Васіля ў другой акрузе і скончыў:

«Усё сцвярджаю сваім уласнаручным подпісам».

Прачытаўшы гэта, падсунуў паперу таварышу Васілю і сказаў: «Падпішыся».

— Я падпісваць не буду, тут справа ідзе аб нейкім Шахновічу, а маё прозвішча Бараноўскі.

— Бараноўскі? — запытаў шпік і прыўстаў, апёршыся рукамі на стол.— Мы ведаем, які ты Бараноўскі. Я з цябе душу выматаю, пракляты камуніст!

І вочы дэфензіўшчыка вырачыліся і ўпіліся ў таварыша Васіля. Дыхнула перагарам гарэлкі.

— Раскаваць,— сказаў шпік. Таварыша Васіля раскавалі.

— Падпішыся...

— Я сказаў, што не падпішуся...

Касцістая рука апусцілася на скронь, як жалезная пальчатка. Таварыш Васіль стаяў непахісна, толькі заморгаў вачыма. Шпікі пераглянуліся паміж сабою.

— Скаваць! — Шпікі ліхаманкава надзявалі кайданкі, а той, каторы трымаў ключ, доўга не мог патрапіць у дзірачку замка.

— Падпішашся?

— Не!

І пачалося раптам і разам. Удары трох шпікаў падалі на галаву, грудзі, нехта з іх ударыў нагою ў жывот. Таварыш Васіль узняў скаваныя рукі і размахнуўся. Шпікі адскочылі, як сабакі, і сталі, запыханыя.

— Падпішашся ці не? — паўтараў сваё дэфензіўшчык.

— Не! — адказаў таварыш Васіль, стоячы ля сцяны.

— Далей! — кінуў намеснік.

Два шпікі падышлі і хацелі адарваць таварыша Васіля ад сцяны, але гэта не ўдалося. Тады падышоў сам галоўны кат.

— Не ўмееце рабіць! За ногі!.. Пся крэў...

Усе ўтрох нагнуліся, рванулі за ногі таварыша Васіля. І ён асунуўся на падлогу.

Павалілі на бок, згіналі ногі, нацягвалі на іх скаваныя рукі. Шпік з каленямі лез на плечы, шырокія моцныя плечы таварыша Васіля, каб сагнуць, каб рукі маглі абвіць ногі. Урэшце даканалі. Кій, засунуты пад калені, ляжаў на руках, урэзваўся ў іх, згінаў спіну, ламаў косці. Можна ўжо ўсё рабіць над камуністам. Але катам недаступна, што нельга яго скарыць.

Неяк ціха, крадучыся, падышоў галоўны кат і стаў над таварышам Васілём.

— Ну як — смачна? — запытаўся глумліва.

Таварыш Васіль сядзеў сагнуты ў крук і маўчаў. Церплі рукі, ныла спіна, увесь час нешта цягнула жылы.

— Цяпер падпішашся?

— Не!

Схапілі за кій і, крэкчучы, паднялі таварыша Васіля. Паднялі і кінулі. Балючае ныццё разлілося па ўсім целе.

Галоўны кат зняў трубку з тэлефона і паклікаў яшчэ аднаго на дапамогу. Шпік прыйшоў — высокі, у галіфэ, у крагах. Глянуў на таварыша Васіля і прамармытаў:

— А-а-а...

— Падпішашся ці не?

— Гэта ён такі ўпарты? — запытаўся новы кат са смуг-

лявым бандыцкім тварам. А потым кінуў да таварыша Васіля: — У нас, хаме, і сцены гавораць... не толькі людзі... Падпішашся не раз, а некалькі разоў...

— Узяць! — скамандаваў галоўны кат.

Падымалі ўжо ўчатырох. Гайдалі і кідалі на падлогу, білі аб сцяну. За дзесятым разам галоўны кат паўтарыў зноў:

— Прызнаешся? Падпішашся?

Але адказу не дачакаўся. Таварыш Васіль скурчаны ляжаў на баку і маўчаў. Ён страціў прытомнасць.

— Што — прыкідваецца?!

Усе ўчатырох нахіліліся над таварышам Васілём, пачалі штурхаць. Але таварыш Васіль ляжаў, заплюшчыўшы вочы. Недзе з галавы з-пад валасоў па скроні струменьчыкам сцякала кроў. Шпікі пераглянуліся, выпрасталіся і сталі збянтэжаныя. Галоўны кат буркнуў:

— Вады.

Адзін з катаў прынёс вады і бух — проста з вядра ў твар таварышу Васілю. Вочы моргнулі раз і расплюшчыліся. Уздых вырваўся з грудзей разам са словам «каты!». А каты стаялі ўжо ля стала, курылі, зацягваліся нервова і думалі, што рабіць далей з гэтым камуністам. Нарэшце вырашылі пайсці зноў піць гарэлку, вярнуцца назад і працягваць катаванне.

Таварыш Васіль застаўся адзін. Ціха пазіраў, лежачы ў гэтай катоўні. Няйначай падвал. Спрабаваў падняцца, але так занылі ўсе мускулы, што лёг зноў. Прыціх у здранцвенні, заплюшчыў вочы. Жоўтыя кругі плылі перад вачыма, нейкія цені праходзілі і праходзілі... Няйначай людзі ідуць па вуліцы. Усё ідуць і ідуць, а яна стаіць, чакае... Соня... Соня... Харошая ты, Соня... Нахіліся бліжэй, я табе скажу нешта на вуха... Ты прыгожая, свая... Дай дакрануцца да тваіх цёмных валасоў... Беражыце друкарню... Гэта наша вялікае дасягненне... І Макданальчыка трэба выкрыць... Возьмешся ты... Бо я не бачу іншай замены Башкоўскаму... Ах, як баліць галава, нешта коле, цягне і цягне...

Прагрукаталі крокі за дзвярыма. У пакой увайшоў вусаты паліцыянт з вінтоўкай.

— Ляжыш? — спытаў ён.— Ляжы, а я буду цябе пільнаваць, каб ты не ўцёк.— І сеў за стол. Здалёк прыглядаўся да таварыша Васіля. Потым адкашляўся і сказаў:

— Калі можаш устаць, то ўстань. Пасядзі. Лягчэй табе будзе. Камуна табе ў галаву залезла? Ну, то цярпі...

І пазяхнуў на ўвесь свой вусаты рот.

Таварыш Васіль маўчаў. Намагаўся, каб не страціць прытомнасці, бо гарэла галава, нылі косці і жылы.

Ведаў, што на гэтым не канец.

...Таварыша Васіля пратрымалі ў дэфензіве шэсць сутак. Прыводзілі нейкіх людзей на вочную стаўку. Яны прызнавалі, што бачылі таварыша Васіля там і там,— то на вуліцы, то ў парку. Таварыш Васіль разумеў, што гэта нанятыя людзі, што на яго фабрыкуецца справа. Не дамагліся подпісу,— заходзяць з другога боку.

Калі ж надыходзіла ноч — зноў той жа самы падвал і катаванні. Яшчэ два разы траціў таварыш Васіль прытомнасць. Апошні раз, калі калолі іголкамі ў шыю, начальнік дэфензівы адправіў таварыша Васіля да следчага. Там таварыш Васіль скінуў сарочку, паказаў сінякі і раны. А следчы моргаў вачыма і гаварыў: «Я нічога не бачу, я нічога не бачу...» І хутчэй адправіў яго ў турму.

Цёмным вечарам скаванага таварыша Васіля, пабітага, паліцыянты высаджвалі з машыны перад турэмнымі варотамі. Перамога здабыта. А колькі бітваў яшчэ наперадзе!

А ў гэты час Соня і Вольга ішлі па вуліцы на вакзал. Вольга прабыла ў горадзе тры дні і цяпер з цяжкаю весткай спяшалася паехаць на сустрэчу з Андрэем.

* * *

Ажаніўся ўсё ж такі Марцін Шапко і ажаніўся з такім шумам, славай, што моладзь усёй вёскі так ці іначай прымала ўдзел у яго вяселлі. Марцін Шапко — сын патрыярхальнай сялянскай сям'і. Усіх, разам з бацькамі, было дванаццаць душ у хаце. Дзевяцера дзяцей, і ўсе засталіся жывыя, як на ўдачу. Марцін сёмае дзіця ў бацькоў, а самы апошні яго брацік яшчэ на руках у маці. Аж людзі дзівяцца — што за ўраджайная сям'я! Бацька хмурыцца часам, што большасць нарадзілася не сыноў, а дочак. Сыны толькі тры. Пятае дзіця — сын Лукаш пару год ужо як жанаты і яшчэ не аддзяліўся, жыве разам з бацькам. А чатыры дачкі, што нарадзіліся адна за другой першымі, ужо выйшлі замуж. Але сям'я зменшылася толькі на аднаго чалавека, бо ў брата Лукаша ўжо двое дзяцей. Ну, да таго яшчэ і яго жонка. А тут і Марцін прыдбаў сабе жоначку. І стала зноў у сям'і дванаццаць чалавек. Самы старэйшы сем'янін — дванаццаты,— а дакладней самы

першы — гэта сівы дзед Марціна. Ён заўсёды сядзіць ля печы ў белай саматканай сарочцы і ў такіх жа штанах, босы або абуты ў лапці. Выглядае, як апостал. Сівыя валасы расчасаны на просты радок. Сядзіць стары і думае свае старэчыя думы. Як тое памерклае сонца, што хаваецца за лес, так глядзяць яго вочы з-пад сівых броваў. Ранкам і ўвечары кожны дзень стары, не зважаючы ні на што, на ўвесь голас доўга гаворыць малітвы, доўга хрысціцца сваёй шорсткай далоняй у сухіх мазалях. Шмат бачылі ў жыцці гэтыя вочы, шмат папрацавалі рукі, пачынаючы яшчэ з часоў далёкай паншчыны. Дзед вельмі любіць унука Марціна, лічыць яго дужым і разумным. Бачыць газеты, кнігі ў руках моладзі, што часам шумна ўрываецца ў хату, і нешта сам сабе мяркуе. Мусіць, нейкае новае права выйшла для народа, а можа, палепшае жыццё для маладых. Часам спытаецца ў Марціна: «А што чуваць у воласці, унучак? Хто старшынёю?»

— У воласці паны кіруюць, дзеду. А старшынёю асаднік Кавэцкі,— крычыць у вушы дзеду Марцін.

— А-а-а... не свой... Ну, та што ты тут будзеш гаварыць? — разводзіць рукамі дзед, а потым дадае: — Свайго трэба... свайго... На чужым кані не паедзеш...— і панікне стары галавою і змоўкне. А калі жаніўся Марцін, дзед усё ж такі дамогся таго, каб благаславіць унука іконай. Хоць у вясельным распарадку і не было гэтай цырымоніі, усё ж такі ўступілі старому. Ён іконаю, абвітаю ў ручнік, трымаючы яе дрыжачымі рукамі, клаў крыжы над галавою Марціна, і з яго вока па маршчыністай шчацэ аж да сівога вуса цякла старэчая сляза.

Уся сям'я і радня Марціна і яго маладой настаялі на тым, каб павянчацца ў царкве. Марцін доўга ўпіраўся, не хацеў. Памагла яму тут нямала тая кніжка «Рэлігійная язва», якою ў свой час ён так захапіўся. Але ўсё ж такі здаўся, каб не дражніць паліцыю.

І паехаў Марцін у царкву цэлым абозам — з гармонікам, скрыпкамі, з бубнам-шалестуном. Заліваліся званочкі пад дугамі, чырванелі кветкі, стужкі на збруі закілзаных коней. Не надта добра адчуваў сябе Марцін. Але ж людзі паглядзяць на яго, на маладую, на коней, на вазы, на ўвесь дастатак. Гэта едзе сын гаспадара, едзе гонар сям'і. І сам Марцін не абы-які работнік — адзін за траіх працуе ў гаспадарцы. Заляцаўся ён таксама адменна. Ціха, як употай, хадзіў да сваёй дзяўчыны ў другую вёску. Там паважна выседжваў з ёю гадзіны. Калі трапляў на

вечарынку, таксама прастойваў з ёю ў цёмным кутку ў сенцах. Так і квітнела яго каханне без шуму, без танцаў, без песень. Толькі і гутаркі было пра сяўбу, пра поле, пра коней, кароў і ў дадатак пра камупу.

— Хіба не можна згаварыцца ўсім або некалькім гаспадарам — сагнаць усю зямлю ў адно і разам абрабляць? — гаварыў ён сваёй каханай.

— Ой, мусіць, цяжка гэта зрабіць,— адказвала дзяўчына і тулілася да пляча Марціна.

Перад жаніцьбай Марцін прыехаў у Глушэц, каб пабачыцца з Андрэем і паклікаць яго на вяселле. Зайшлі ў карчму Шчыгельчыка, і там Марцін расказаў пра сваё каханне.

— Прыйдзеш да яе ў нядзелю... да яе ў хату,— гаварыў ён,— а яна прыбраная ўжо сядзіць, як царыца... Бацькі яе ходзяць ля мяне з пашанай, садзяць за стол, частуюць... Ды такая, брат, прыемнасць нейкая...

— А дзяўчына дзе сядзела, калі ты быў за сталом? — пытаўся Андрэй.

— Ну, вядома, сядзела ля печы... А я, брат, настояў, каб села са мною, за стол...

— Ну, і што — села?

— А як жа... Праўда, упіралася трошкі... але села. Аж, брат, сэрца маё неяк пахаладзела... Бацькі глядзяць на нас не наглядзяцца. Па чарачцы выпіваем, гутарым. Маці яе называе мяне «Марцінка»... Прашу цябе, Андрэй, на вяселле...

— Дзякую, Марцін, але не магу. Заўтра пайду далёка, аж за кіламетраў сорак ад Глушца — па партыйнай лініі. Трэба пашукаць людзей для валаснога камітэта Грамады. Будзем арганізоўваць камітэт у вашай воласці... Так што, Марцін, справы... Жаніся на здароўе, пабачымся пасля вяселля.

Марцін нават засумаваў. Доўга і не прасіў. Ведаў, што гэта дарэмна. Паклаў у торбачку недаедзенае сала і хлеб, якімі частаваліся сябры, і ўстаў. Дыхнула ад Марціна заўзятым гаспадаром. Насуплены, маўклівы, хацеў ужо развітацца, але Андрэй спыніў яго:

— Пачакай... скажы, як там у вас з падаткамі? Не чапляецца паліцыя?

— Прыходзіла два разы, але толькі напамінала старосту, каб неслі ў воласць. Насіла ўсяго пяць гаспадароў.

— Як з МОПРам?

— Патроху... ідзе...

— Што значыць патроху? Налягай, брат, каб МОПР працаваў добра. І выкуп за сваю маладую адашлеце ў турму. Пара кідаць гэты вар'яцкі звычай — апівацца гарэлкай. Трэба выкарыстаць звычай выкупу маладой у нашых мэтах, у мэтах дапамогі зняволеным.

Марцін крыху задумаўся.

— Паспрабуем,— сказаў ён не зусім з ахвотай.

— Пастаў пра гэта па ячэйцы... І наогул будзьце асцярожны на вяселлі... Каб не было балбатні... Канспірацыя, Марцін...— памахаў пальцам Андрэй.

Марціну на хвіліну здалося, што вяселле не такая ўжо лёгкая справа, як думалася. А потым заківаў галавою, усміхнуўся на ўвесь свой шырокі смуглявы твар. Зразумеў важнасць справы.

— Добра, добра, Андрэй,— зачасціў ён,— а як жа... усё зробім.

— Ну, бывай, Марцін. Перадай прывітанне Захару. Марцін ішоў да сваіх саней і думаў: «Але ж і строгі... Ну, што зробіш? Мусіць, так і трэба...»

* * *

Калі балагол прывёз Вольгу са станцыі ў Глушэц, яна не пайшла шукаць камітэт Грамады, а адразу накіравалася на гасцінец. Добра, што дарога ўжо знаёмая. Адтуль, з вёскі, пойдзе хто-небудзь у Глушэц і прывядзе Андрэя. Каб хутчэй толькі ў вёску да дзядзькі Гарагляда, на печ. Паўночны вецер дзьмуў проста ў твар. Дарога была мерзлая, таркачаватая. Першыя вільготныя снягі расталі, і цяпер голую, набрынялую вадой зямлю сціснуў мароз. І там у горадзе, адкуль яна прыехала, стаяла такая пагода. Можа, і цяпер там ужо холадна? Холадна... Не будзе выступаць ужо таварыш Васіль на падпольных нарадах і сходах.

З клуначкам у руцэ ішла Вольга ў сялянскай вопратцы. Спадніца-андарак з дробнымі складкамі, з малінавымі і жоўтымі палоскамі, цёмная суконная хустка з зялёна-жоўтымі кветкамі на залаціста-русых валасах і ватняя чорная куртка — усё было да твару, як быццам яна даўно зрадніласяз гэтым уборам. А ў клуначку — вопратка гарадская — усё чорнае, суконнае і нават капялюш з вуаллю. Вуаль яе і выратавала ў Вільні, калі Вольга збіралася ехаць у горад Г. Учапіўся шпік на вуліцы і доўга не адставаў. Так можна было ісці ў бесканечнасць, а шпік усё ішоў бы за ёю. Яна знарок заходзіла ў крамы, у магазіны, хацела нават спыніць рамізніка, але падумала, што гэта

будзе яшчэ горш. Спынялася ля гандлярак на вуліцы, купляла яблыкі, знарок даўжэй гутарыла, але заўважала, што шпік па-ранейшаму сочыць за ёю. І толькі, калі дайшла да рынку, загубілася ў натоўпе, хутка насунула на твар вуаль і пайшла назад, насустрач шпіку. А той, утаропіўшыся вачыма ў натоўп, прапусціў Вольгу, не пазнаў. Выратавала вуаль. А цяпер ідзе сабе па шляху зграбная сялянпачка. Ужо змрокі ахутваюць яе. А яна ўсё ідзе і ідзе. І маляўнічы андарак шуршыць ля ног. Шэрыя вочы ў адзіноце робяцца прасветленымі, глядзяць шырока, адкрыта на гэтае вячэрняе наваколле. Змрокі ўсё гусцеюць і гусцеюць, хаваюць замерзлыя палі, быццам цяжарам апускаюцца на саламяныя стрэхі хат шэрых вёсак. А яна ўсё ідзе і ідзе. І часам губляецца ў змроку. Плыве за ёю ўслед задума — шэрая, цяжкая, як гэтае наваколле. А наперадзе — мэта, наперадзе — агні. Няхай сабе гнуцца ад ветру прыдарожныя бярозы і сосны — наперадзе ўсё роўна агні. А калі ўвайшла ў хату Дзям'яна Гарагляда, прынесла туды радасць. На стале была добрая вячэра: смачная сопкая бульба, квашаная капуста з расолам, кубак малака. Лілася жвавая гамонка Дзям'яна. Было ласкавае запрашэнне Маланні: «Еш, Волечка, еш...» А пасля ціхія, насцярожаныя гутаркі з Любай аб сур'ёзных справах і сваіх дзявочых. І Міця стаў каля яе з кніжкаю «Родны край», чытаў і дэкламаваў ёй вершы. Соладка хіліла да сну пасля марознага ветру. Шчокі гарэлі, салавелі вочы. І Вольга сядзела сярод сялянскай сям'і,— шчаслівая, як свая. І ўрэшце прытуліла яе печ, цёплая печ, дзе можна выспацца, не накрываючыся, пад завыванне ветру ў коміне...

А Андрэй у гэты час вяртаўся са свайго далёкага падарожжа разам з Захарам Зубцом. Стварыў валасны камітэт Грамады, старшынёю якога быў выбраны Захар Зубец. Пасля выбараў ён выступіў перад сходам дэлегатаў і сказаў:

— Хто гэта выдумаў, што ў нас няма класаў? Нешта не падабаецца мне тое, што я чытаў нядаўна ў газеце. Выходзіць так, што раз ёсць Грамада, сто тысяч членаў, то і класаў няма. Не, сябры, не так...— Захар пастукаў кулаком па стале, сашчаміўшы зубы, і працягваў: — Я гэтыя класы на сваёй скуры неражыў. Магу скінуць сарочку, паказаць. Мяне ледзь не засеклі дзянікінцы шаблямі, рубцы чырванеюць яшчэ і цяпер на спіне. За які ж гэта клас я ваяваў? За што мяне насеклі дзянікінцы? Га? А насеклі за тое, што ваяваў я за рабочы клас, за працоўны народ.

Хай сабе пішуць пісакі, а мы сваё ведаем, сваё будзем весці.

Захар набраў паветра, прыціх, а потым грымнуў:

— Усё роўна кулакоў не пусцім у Грамаду! Пусці іх... Яны табе... наробяць так, што і не расхлёбаеш...

Андрэй, седзячы побач, пачаў тузаць знізу Захара за куртку. Ведаў, што Захар у сваёй непасрэднасці можа нагаварыць лішняга. Захар выцер спацелы твар рукавом і сказаў: — Вось як... Хто не з намі — той супроць нас!..

— Правільна! — гукнулі дэлегаты.

— Дык вось які буду старшыня,— закончыў Захар.

— Добры старшыня! — зноў гукнулі дэлегаты.

Захар ужо ўсміхаўся, пазіраючы на людзей, і дадаў:

— Калі добры, дык хадзем дахаты,— канец сходу...

А дарогаю гаварыў Андрэю: — Цяпер, Андрэйка, трэба выбраць другога сакратара раёна партыі.

— Ай, як ты нягладка гаворыш,— жартаваў Андрэй,— не раёна партыі, а раённага камітэта партыі...

— Цьфу! Заўсёды саб'ешся... Ну, добра, няхай так...

— Я пра тое, што не змагу ж я адзін рабіць дзве работы.

— Добра,— вось дойдзем дахаты, падумаем...

— Зойдзем да мяне, пераначуеш, пасля адведаем Марціна. Пабачыш яго жонку...

— Ну, як жонка — нічога?

— Нічога дзяўчо... Такая ціхая, як авечачка... Сядзіць, кудзельку смокча... Танклявенькая такая... Так што маці Марціна выглядае перад ёю, як стог. Ой, здаровая ж баба...

— Здаволены Марцін?

— Яшчэ як... Увіхаецца ля яе... І нават толькі паціху гаворыць з ёю, паціху, нібы баіцца, каб яна не спалохалася чаго.

— От — Марцін, апостал...— усміхнуўся Андрэй.

— Перамяніўся да лепшага,— так мне здаецца... Наша літаратура яму многа памагла. Усё прачытвае да рэшты. Пра пленумы нам гаворыць, пра з'езды. Нават пра Камінтэрн нядаўна гаварыў. Здольны ён хлопец, няма чаго казаць...

Андрэй слухаў і думаў: «Здольны, здольны... Але ці пацягне ён па-сапраўднаму? Вельмі глыбока сядзіць у зямлі Марцін, яна яму дыктуе законы. Але ж чалавек у руху, і таму наш абавязак зрабіць з яго свайго чалавека, зрабіць камуніста».

— Каня другога яны купілі,— працягваў Захар,— дык Марцін кожны дзень яго аб'язджае... Конь малады... Адзін раз пацягаў ён яго па полі. Панёс галопам, перакуліў воз, ледзь не забіў самога Марціна, а ён усё роўна лейцаў з рук не выпусціў. Валокся з паўкіламетра па зямлі і ўсё ж такі каня скруціў убок, спыніў. І такі рады, як быццам хацеў, каб конь яго яшчэ пацягаў... ха-ха-ха... Праўда, пабіўся ён здорава... І цяпер яшчэ сінякі не сышлі з твару...

Сябры змоўклі. Думалі, здаецца, адно і тое ж, добры чалавек Марцін. Здаецца, благога нікому не жадае, а на чым канчаецца яго дабро?

Гэтага яшчэ не відаць.

— Ведаеш што, Захар, можа зробім Марціна сакратаром раёна?

— Хто яго знае?.. На прыкмеце-то іншага няма, каб быў такі пісьменны... У сяле карыстаецца павагай. Давай паспрабуем... Як будзе што не так рабіць, то спынім.

— Як ты думаеш, Захар, калі пападзе ён у дэфу, вытрымае ці не?

— Вось жа і я тое самае думаю... Ён-та чалавек верны, уцягнуўся, прывык да нас... Але вось у дэфе... не ведаю... Плечы-то ў яго шырокія...

— Справа не ў плячах, Захар... Справа ў сіле перакanання, у вернасці сваім сябрам. Гэта — аснова.

— За справядлівасць-та ён вельмі гарачы...

— Справядлівасць, Захар, — гэта гума. Для адных справядліва тое, для другіх іншае...

— Не, ён усё, каб роўнасць была, гаворыць. Каб усе людзі былі роўныя.

— Гэта яшчэ нічога... Так думае большасць сялян... Важна, каб ён змог пастаяць за гэта грудзьмі... А там далей і больш зразумее.

І зноў змоўклі сябры. Захар чамусьці ўсміхаўся, а затым засмяяўся.

— Чаго ты? — спытаўся Андрэй.

— Ты кажаш — гума... Правільна, брат, кожны сваё адстайвае. Гэта ўсё роўна, каб каптан сказаў: я хачу быць ватоўкай, а ватоўка сказала б: я хачу быць футрам. Дзіўна гэта ўсё на свеце.

— Так.

— З усім разбяромся, Андрэй, з усім, каб толькі нам гэтых паноў скінуць з карку, каб нам чырвоная зорачка засвяціла. Ах, ах... уздыхнуў бы народ, уздыхнуў бы...

Захар закруціў галавою.

Ужо сцямнела. Пачаў падаць пушысты, марозны снег.

— Калі не перастане, саннік будзе харошы,— сказаў Захар, і сябры прыбавілі кроку.

...Утульна сядзелі сябры за сталом у хаце Марціна. Уся рэшта сям'і спала ў першай палавіне. У пярэдняй палавіне спалі толькі маладыя. Андрэя пасадзілі на покуць, пад абразы, у канцы стала сеў Марцін са сваёй жонкай, а з другога боку — Захар са сваёй Насцечкай, курносенькай, сціплай маладзіцай з разумнымі, шэрымі вачыма. Гэтыя вочы глядзелі і як быццам гаварылі: «Я зазнала гарката жыцця, нічым вы мяне, людзі, ужо не здзівіце...» І ў меру смелая, гутарыла з Андрэем так, як быццам яны былі ўжо даўно знаёмыя. У невялічкай хаце з глінянаю падлогай было цёпла і чыста. На сцяне над акном віселі побач два невялічкія партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. А крыху далей, бліжэй да покуця, было прыклеена выразанае з газеты фота. Андрэй пазнаў у ім Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага.

— Люблю, брат, гэтага чалавека...— сказаў Захар.

На лаве, за сталом, ляжала некалькі кніжак і газет. А сам покуць быў пусты. Жонка ўсміхнулася:

— Кажу, каб хоць для віду, для людзей, павесіць іконку, то ніяк не хоча.

— Бо не хачу,— адказаў Захар і ціха з усмешкай паклікаў Андрэя да печы і паказаў: — Бачыш, нанава пачынаем жыць... Надарыла мяне доля сынам.

— Не доля, а жонка,— жартаваў Андрэй.

Ля печы спаў, раскінуўшы ручаняты, двухгадовы хлопчык. Падышла і Насця. Усе моўчкі стаялі над дзіцем. У гэтым маўчанні, здавалася, нанава перажывалі бацькі цяжкі ўспамін аб сваіх маленькіх дочках, якія так незвычайна памерлі. Нібы ў адказ камусьці, Захар сказаў:

— Нічога, будзем жыць.... Адзявайся, Насця, пойдзем. Я пайду паклічу суседку, каб папільнавала хату.

...І цяпер вось сядзелі за сталом у Марціна. А на стале стаяла вялікая міска халадцу, у талерках — халоднае сала, каўбаса, яечня. Марцін з салодкаю ўсмешкаю гаспадара наліваў чаркі, запрашаў, сам піў за здароўе гасцей, прымушаў піць і сваю жоначку. Андрэй успомніў параўнанне Захара — «авечачка» і прызнаў, што яно трапнае. А Марцін падымаў чарку і гаварыў:

— Не быў ты ў мяне на вяселлі, Андрэй, дык пабудзь хоць сягоння. Пражылі мы разам нямала ў тых цёмных бараках — помніш? І справы рабілі, ды яшчэ якія... Будзь

здароў, Андрэй, каб твае ногі лёгка хадзілі, каб твае думкі людзям дабро неслі. Ты ў нас чалавек, можна сказаць, на ўвесь павет...

— Ну, ну, Марцін, толькі без гэтага...— спыняў яго Андрэй.

А Захар усё гаварыў:

— Вось мы з жонкамі, Андрэй, а ты — халасцяк... Можа, варта было б ачапіцца?

— Вы — гаспадары,— адказваў Андрэй,— а я вечны падарожны. Уцячэ ад мяне жонка, не вытрымае...

— Каб толькі ажаніліся, не ўцякла б,— у адзін голас запярэчылі жанчыны.

А Марцін нахіліўся да жонкі і доўга глядзеў з усмешкай у яе пачырванелы твар:

— Мгу.. Бач, ты якая... Ну, ну...

— Чаму? Усе людзі жэняцца... Сягоння бацька быў у мястэчку, вазіў падаткі ў воласць, дык казаў, што аж тры вяселлі ля царквы было...

Андрэй з Захарам у адно імгненне пераглянуліся. Марцін, ужо трохі выпіўшы, неяк упарта, панура змоўк і махнуў рукою. А потым прапанаваў:

— Нальём яшчэ па чарачцы...

Гаворка ішла далей, але ўжо адчувалася, што нешта пачало замінаць ёй. Бацька Марціна вазіў падаткі ў воласць, бацька камуніста, сакратара ячэйкі. Гэтага нельга даравацъ.

Не плоціць падаткаў уся вёска, калі не лічыць пяцьшэсць гаспадароў, не плоцяць падаткаў усе вёскі, усе выконваюць заклік партыі: «Ні граша падаткаў фашысцкаму ўраду Пілсудскага, ураду акупацыі і тэрору», а тут...

Андрэй з Захарам хацелі ўжо развітвацца, як нехта пастукаў у акно. Марцін прыклаў вуха да шыбіны і слухаў. Малады хлапечы голас крычаў:

— Паліцыя ў сяле! Прыйшла браць падаткі!..

— А многа?..— запытаўся Марцін.

— Многа! Чалавек пятнаццаць!

Усе паглядзелі адзін на аднаго і ўсталі. Захар надзяваў куртку і шапку. Рабіў тое самае і Андрэй.

— Марцін,— сказаў ён,— апранайся, трэба, каб увесь народ шугануў на вуліцу — і старыя і дзеці.

Выйшлі на двор. На вуліцы стаяла невялікая група людзей, ішла трывожная гутарка. Паліцыя пайшла па хлявах.

Ноч была цёмная. Падаў снег. І толькі дзякуючы снегу можна было заўважыць, як з падворкаў пачалі выбя-

гаць на вуліцу авечкі. За імі бегалі, прыгнуўшыся, паліцыянты і нагайкамі зганялі ў гурт. Паліцыя заняла ўжо амаль палавіну сяла.

— Марцін, бяжы па хатах, няхай выходзяць. Ты, Захар, прабярыся туды, дзе паліцыя, і збірай людзей. Трэба адабраць авечак і пагнаць у поле,— сказаў Андрэй.

Так і зрабілі. Андрэй стаў пад страхою і назіраў. Авечак прыбывала ўсё больш і больш. Паліцыя ўсім гуртам хадзіла па падворках, адчыняла хлявы, свяціла ліхтарыкамі... Рабіла яна гэта ціха, без шуму. У многіх хатах ужо не было агнёў, так што гаспадары і не ведалі, што рабілася ў іх на падворках. Заўважыла гэта моладзь, якая вярталася з вячорак.

Прыбег аднекуль з агародаў Захар якраз тады, калі некалькі паліцыянтаў выйшлі на вуліцу, каб гнаць авечак у канец вёскі.

— Я сабраў людзей,— сказаў Захар.

— Многа?

— Хопіць.

Пачалі выходзіць людзі з той палавіны вёскі, куды пайшоў Марцін.

— Забірай і гэтых,— сказаў Андрэй,— аддзялі некалькі чалавек, няхай авечак гоняць у поле. Калі паліцыя будзе супраціўляцца — атакаваць каламі, каменнямі. Зараз трэба ўзняць крык. Людзі са сну не ведаюць, што рабіць...

Прыйшоў Марцін. Андрэй і яму сказаў:

— Бяры людзей, ідзі на дапамогу Захару, трэба адбіць авечак і выгнаць паліцыю з вёскі.

Марцін пацісnуў плячыма.

— Нялоўка мне...— сказаў ён,— хаджу, як сам не свой... Раз мой бацька заплаціў падаткі, як жа я... буду клікаць людзей выганяць паліцыю?

— Аб гэтым пагаворым потым. Цяпер трэба дзейнічаць. Ідзі. Рабіце крык, каб усё жывое стала на ногі.

Андрэй праз нейкі час пачуў, як нешта затрашчала, як быццам ламаліся платы, а затым пранізлівы крык многіх галасоў уварваўся ў цёмную ноч:

— Злодзеі прыйшлі! Людзі! Крадуць авечкі. Лаві, лаві злодзеяў!

У адно імгненне ўся вуліца запоўнілася старымі і малымі. Гоман паплыў па вёсцы. Вылучаліся жаночыя галасы: «Ой, божа ж мой, хлявы адчынены, няма авечак!»

Паліцыя пакінула падворкі і з нагайкамі накінулася

на людзей. Пачуліся ўдары па людзях, потым крыкі. Усё змяшалася ў адзін гамалівы вір. Натоўп перабягаў то на адзін бок вуліцы, то на другі. Урэшце Андрэй пачуў голас Захара: «Прагнаць рабаўнікоў!» І цяпер затрашчалі платы па ўсёй вёсцы. Кожны бег з калом у руках. Усе згрупаваліся ў адной палавіне вёскі. Другая была пустая. Андрэй выйшаў з-пад страхі і падышоў бліжэй да натоўпу, які крычаў: «Прэч, каты! Прэч!» Паліцыя бегла насустрач Андрэю, бо адтуль прагнаў яе Захар са сваёю групай.

Андрэй зайшоў на чыйсьці падворак і стаў ля плота. Паліцыя бегла і аглядалася. Адзін паліцыянт стрэліў уверх. А за ім, як бура, несліся людзі, найбольш моладзь і дзеці, з крыкамі: «Лаві злодзеяў», кідалі, хто чым мог. Вуліца зусім апусцела. Сяляне гналіся за паліцыяй яшчэ далёка за вёскай.

Вярталіся з вясёлым шумам. Захар паставіў вартавых у абодвух канцах вёскі і паслаў групу падлеткаў на выган — дапамагчы прыгнаць назад авечак. Потым падышоў да Андрэя.

— Цяжка даводзіцца панам, калі яны пускаюцца на такія штучкі,— сказаў Андрэй.

Захар не мог утрымацца ад смеху:

— Калі б мы захацелі, маглі б іх у палон забраць... Але ж і ўцякалі... Каб ты бачыў... Там, за вёскай. Паднялі крыссе шынялёў і давай бог ногі. А ім услед: «Трымай іх! Трымай!» Ну, як ім не сорамна? Гэта ж грабеж! Вось табе і панская дзяржава — проста ў кішэню лезе...

Андрэй гаварыў з Захарам пра «бой», а ўжо думаў пра другое.

— Што ж мы зробім з Марцінам? — спытаўся ён.

— Агонь яго знае, што з ім рабіць! — злосна сказаў Захар.— Кулацкай ён закваскі...

...Снег усё падаў і падаў — ціха, павольна, як быццам хіліў вёску да сну, да забыцця.

Урэшце і сапраўды ўсё заснула. Толькі не спала камсамольская варта. І не спаў Марцін — ляжаў і глядзеў расплюшчанымі вачыма ў цемру хаты.

## ПАМЯТНЫЯ НОЧЫ

Свежы, іскрысты снег бліскаў пад сонцам па неабсяжных балотах і хмызняках, калі Андрэй з Вольгай вярталіся з Палесся. Ноч правялі ў вялікай палескай вёсцы

Дубы. Прыехалі яны туды ўпотай. Аляксей Верас паведаміў Андрэю, што Апанас Хмель робіць ваенныя рэпетыцыі. Прызначае месцы для збораў узброеных людзей — у «стратэгічных пунктах», як любіў шумець сам Апанас. У вёсцы Дубы было больш васьмідзесяці членаў партыі, значыць Апанас Хмель не выкапаў пастановы. Наадварот, вёску Дубы ён зрабіў месцам свайго штаба. Месца было сапраўды выгаднае. Вёска стаяла сярод бяскрайніх балот на ўзвышшы, далёка ад чыгункі. Адзіная дарога даходзіла да яе і ішла то праз лес, то праз імшары, то праз карлікавыя бярозавыя і сасновыя ляскі.

Была ўжо цёмная ноч, калі Андрэй з Вольгай і Верасам заехалі на падворак нізкай хаты з саламяным прычолкам. Адзінае акно цьмяна свяцілася на вуліцу.

— Куды прыехалі? — спытаўся Андрэй у Вераса.

— Да Арцёма Світкі. Хлопец добры, і сям'я невялікая — маці і ён.

Андрэй успомніў гэтага Арцёма, калі ён яго ўпершыню ўбачыў у карчме Шчыгельчыка. Не хацелася б начаваць у яго. Ён сказаў аб гэтым Аляксею. Той пачаў пераконваць, што тут будзе найлепш.

— Ён член партыі? — спытаўся Андрэй.

— Не, не член і не хоча ім быць. Ён толькі спачуваючы. Але зробіць для партыі ўсё, што захочаш.

Нешта прамільгнула ў памяці Андрэя, як прыемнае. Праўда, нешта накшталт сімпатыі да гэтага хлопца ў яго засталося і тады, пры першай сустрэчы.

— Ну, так і быць,— пойдзем. Вылазь, Оля...

Вольга вылезла з саней, і яны ўсе ўтраіх вобмацкам праз сенцы ўвайшлі ў хату.

Арцём Світка сустрэў гасцей ветліва, з пашанай. Пачаў сцягваць кажух з Вольгі ды так заўзята, што тая аж запратэставала, смеючыся:

— Ты што, мяне без рук хочаш пакінуць? — прамовіла яна і глянула ў яго скуласты твар. Арцём шырока ўсміхнуўся, хоць павольна і асцярожна. Сказаў знарок грубавата:

— Нічога, дзяўчына, гэта ў нас такая хватка... Хочаце, то і на печ пасаджу...

— Няма часу грэцца...

Вольга падышла і пачала папраўляць валасы.

Павячэраўшы, Андрэй з Вольгай загадалі Аляксею сабраць некалькі самых актыўных камсамольцаў, прывесці

іх у хату, а лепш за ўсё непрыкметна прайсціся па вёсцы. Пачалі апранацца.

— Вы Апанаса не бачылі? — спытаўся Арцём.

— Не,— адказаў Андрэй.

— Ён жа тут. У яго тут пастаянная хата, куды ён заходзіць заўсёды. Там збірае сходы.

— Дык ідзі і скажы яму, што прыехаў я. Няхай прыходзіць сюды. А мы выйдзем крыху прайсціся... Паглядзім вашу вёску. Небяспекі няма ніякай?

Андрэй з Вольгай выйшлі на вуліцу. Глухая ноч вісела над вёскай. Непрагляднае неба, здаецца, апусцілася на стрэхі хат. Лёгкай вільгаццю патыхала ў паветры. Няйначай хутка пойдзе снег. Вёска яшчэ не спала, хоць агні ў вокнах былі настолькі цьмянымі, што здалёк нельга было б пазнаць, ёсць яны ці не. У многіх вокнах агонь свяціў няроўна — то палыхаў, то знікаў. Гэта гарэлі смалякі на камінках.

Андрэй з Вольгай усё ішлі і ішлі — маўклівыя, сур'ёзныя. Размінаціся з хлопцамі, якія нібы кудысьці спяшаліся. Двое прайшло з вінтоўкамі за плячыма, аб чымсьці ціха гутарылі. Андрэй з Вольгай спыніліся і паглядзелі ім услед. Потым прабегла яшчэ двое з вінтоўкамі.

Хлопцы час ад часу ўсё ішлі і ішлі.

— Кудысьці ідуць,— зазначыў Андрэй.

— Няйначай на сход Хмеля,— адказала Вольга,— густа тут гэтага ўсяго, расцярэбліваць будзе цяжка.

— Та-ак... сталіца Хмеля,— працягнуў Андрэй,— недзе мы ў чымсьці памыліліся.

— І памыліліся здорава... Прыспаў вас Апанас Хмель...— гаварыла Вольга.

— Думаў я аб гэтым многа, Оля... Паддубны, таварыш Васіль зрабілі апошнюю спробу — даць магчымасць Хмелю выправіцца... Я не быў згодны з гэтым. Згадзіўся таму, што падумаў, можа я не разумею да канца?

— У прынцыпе яно, вядома, правільна. Але трэба было правяраць,— адказала Вольга. Памаўчаўшы, дадала: — Над Палессем навісла вялікая небяспека...

— Аляксей жа паведаміў... Вось мы і прыехалі...

— Уступчывы ты, Андрэй. Калі ты моцна перакананы ў праваце сваёй, трэба адстайваць свой погляд.

— Адстайваў, Оля...

— Значыць, мала адстайваў, калі з табою не згадзіліся...

— Тсс...— шапнуў Андрэй, схапіўшы Вольгу за руку.

Яны спыніліся. Недалёка стаялі два чалавекі — нос у нос — і жвава гутарылі. Андрэю здалося, што ён пачуў голас Хмеля. Прыслухаўся. Так, гэта быў ён. А хто другі? У другім Андрэй пазнаў па галасе Мірона Вадалея. Гэта зусім неспадзявана.

— Вось табе наган,— гаварыў Апанас Хмель,— і назначаю цябе камандзірам атрада.

— Варта было б яшчэ пачакаць,— адмаўляўся Вадалей,— знаеш, паспяшыш, людзей...

— Не гавары глупства... Знаеш... рэвалюцыя не чакае... Заўтра ў дзевяць збор... Няма чаго трымацца за спадніцу жонкі...

— Ох ты, брат... атаман з цябе,— засмяяўся Вадалей і жартаўліва штурхнуў Хмеля ў бок.

— Ідзі, ідзі, адпачывай, а мне яшчэ трэба папрацаваць над планам. Старайся не сустракацца з гэтым, што прыехаў.

— А-а-а, з гэтым маладзёнам... Хаця б ён нам не пашкодзіў...

— Не бойся... Мы знаем, што робім,— гаварыў Апанас.

— Ну, то бывай.

— Бывай...

Яны паціснулі адзін аднаму рукі і развіталіся. Апанас вярнуўся ў хату. «Нават не стараюцца гаварыць цішэй»,— падумаў Андрэй.

Вадалей шарахнуўся каля іх, абмінаючы. Нешта мурлыкаў сабе пад нос.

— Чула? — спытаўся Андрэй у Вольгі.

— Чула, усё зразумела...

Падышлі да хаты, куды зайшоў Апанас, і заглянулі ў акно. Апанас сядзеў за сталом, клаў лінейку на паперу і нешта крэсліў. Спыняўся, чухаў нос, глядзеў з момант некуды ўдалечыню. Пасярэдзіне хаты сядзела жанчына і прала кудзелю. Апанас нешта ёй сказаў. Жанчына ўстала, паставіла прасніцу і пайшла да дзвярэй. Адтуль прынесла кубак вады і падала Апанасу. Ён напіўся і, аддаючы кубак, кіўнуў носам у знак падзякі. Ну ж і заняты Апанас, што нават не мае часу ўстаць вады напіцца.

Андрэй назіраў і, нягледзячы на сур'ёзнасць становішча наогул, дзе было не да смеху, усім нутром смяяўся над пазёрствам Апанаса. Што за акрылены выраз твару! Андрэй з Вольгай адышлі ад акна.

— Пара нам вяртацца,— сказаў Андрэй.

І яны пайшлі назад.

Апанас Хмель, калі да яго прыйшоў Арцём Світка і сказаў, што яго, Апанаса, хоча пабачыць Андрэй і нейкая дзяўчына, адказаў:

— Знаю, што гэта за дзяўчына. Няхай яны прыходзяць да мяне. Начальнікі мне з'явіліся.

— Ну, дык як сказаць? — дапытваўся Арцём.

— Так і скажы. А калі не хочуць, няхай вымятаюцца адгэтуль, інакш я іх арыштую.

— Ого! Ты, Апанас, зашыбаеш здорава...

— Ідзі, ідзі... не перашкаджай... Мне трэба хутка ісці на збор.

Тым часам дзесяць камсамольцаў, сабраныя Аляксеем, ужо чакалі Андрэя і Вольгу ў хаце Арцёма.

— Добры вечар, таварышы! — сказала, увайшоўшы, Вольга.

— Добры вечар! — гукнулі ў адзін голас камсамольцы.

Вольга з кожным прывіталася за руку. Калі ж яна скінула кажух і засталася ў шэрай вязанай кофце, што шчыльна абдымала яе стан, хлопцы ўбачылі перад сабой сялянскую дзяўчыну ў андараку, свабодную ў рухах, са смелым позіркам шэрых вачэй. Яна паправіла хустку, падгарнуўшы пад яе пасмачкі валасоў, непрыкметна трасянула галавой. Тады ўзялася ў бокі і момант азірала прысутных.

Калі ў свой час яна была на раённай канферэнцыі камсамола ў вёсцы Андрэя, то сярод хлопцаў ішлі шэпты: Оля... Оля... Оля... Там яе ўжо ведалі. А тут хлопцы толькі прабівалі яе вачыма. Пазіралі спадылба, як дзе з кустоў на прыгожую птушку на галіне, баючыся яе спалохаць. Вольга паставіла невялічкі ўслончык сярод хаты і села насупраць хлопцаў.

— Хто сакратар? — спыталася.

Ніхто не адказаў.

Вольга зірнула па ўсіх спакойна і спыталася зноў:

— Ну, чаго маўчыце? Мы людзі свае, прыехалі пагаварыць з вамі аб нашай барацьбе з панамі, паслухаць, як вы тут змагаецеся.

Лёгкае ажыўленне прабегла сярод хлопцаў, яны пераглянуліся нават паміж сабой. Але маўчалі.

Андрэй сядзеў, апёршыся на стол, і з-пад рукі наглядаў за хлопцамі, якія ціснуліся адзін да аднаго і маўчалі.

Умяшаўся Арцём:

— Чаго ж ты, Іван, маўчыш? Ты ж сакратар. Гавары. Я знаю гэтых людзей. Гэта таварышы з цэнтра.

Хлопец у карычневай суконнай куртцы з пуцалаватым тварам заварушыўся, заморгаў шэрымі вачыма...

Вольга звярнулася да сакратара:

— Чаму ў вас ходзяць па вуліцы з вінтоўкамі?

— Мы на ячэйцы былі,— урэшце адазваўся сакратар,— у нас ёсць ячэйка.

— Значыць, у вас быў сход ячэйкі? Што ж вы рашылі?

— Выступаць...

— Выступаць? Супроць каго?

— Ну, вядома, супроць паноў...

— Калі?

— На заўтра назначылі збор...

— Хто назначыў?

Хлопец стрымаўся, крыху падумаў, а потым адказаў:

— Апанас...

— Ага... А Апанас вам тлумачыў, што мы яшчэ не гатовы да ўзброенай барацьбы?

— Не, не казаў нічога...

Вольга на хвіліну сціснула бровы і прыкрыла вочы... Страсянула галавой, насунула хустку крыху на лоб і зацягнула цясней вузел пад падбародкам.

— Дык вось што, дарагія таварышы,— пачала яна,— харошыя вы хлопцы, як бачу, скажу вам, што трэба рабіць. Мяне паслаў сюды да вас Цэнтральны Камітэт камсамола расказаць праўду аб нашай барацьбе.

І Вольга пачала гаварыць — проста, спакойна, задушэўна. У голасе ўвесь час гучала нотка цярпення, пераживання за тое становішча, якое стварылася. Глыбокай сур'ёзнасцю, трывогай веяла ад яе слоў. Хлопцы ўсё больш і больш спынялі на ёй свае позіркі са здзіўленнем і сімпатыяй. Словы рабілі сваё... Нават Арцём Світка пасур'ёзнеў, задумаўся.

У хату ўвайшоў Аляксей Верас. Сеўшы ля Андрэя, пачаў шэптам нешта гаварыць яму.

Андрэй трывожна нахмурыўся, тут жа ўстаў і пачаў апранацца. Вольга азірнулася і спытала:

— Ты куды?

Андрэй паклікаў яе да сябе і ціха сказаў:

— Апанас праводзіць сход узброеных людзей. Трэба ісці на гэты сход...

Вольга апусціла галаву, задумалася.

— Ведаеш... будзь асцярожны... разумееш? — сказала яна і глянула ў вочы Андрэю. Позіркі іх сустрэліся і на нейкі момант застылі... Андрэй хутка насунуў шапку на вушы і выйшаў разам з Верасам.

...Вольга сядзела на пасцеленым сенніку на лаве ў цемры хаты і глядзела ў акно. Яно здавалася белым-белым, як той снег, што ціхай дрымотай рассцілаўся па вуліцы, плыў за вёску ў шырокую бязмежную глуш балот і лясоў. За снегам плылі і думкі Вольгі,— туды далёка-далёка, таксама ў Палессе, але па другі бок мяжы, да радзімага кутка. Перад вачыма паўстала шырокая Прыпяць з дубамі, лугавымі палянамі, лозамі. Маленства... Андрэй яшчэ нічога не ведае. Ну, зразумела... Так трэба і так будзе. Загартаваўся ўжо юнак, цікавы юнак, носіць у сабе зерне рэвалюцыянера, і яно чыстае... У вачах — далёкая мара... Ён ідзе да яе і ўжо не спыніцца, не пагразне ў твані жыцця.... Ужо не спыніш. З бацькамі ў яго нелады... Ну, што ж,— гэта характэрна... Справа народа даражэй за хатнія інтарэсы бацькоў... Але штосьці доўга яго няма. Каб там чаго не здарылася. Хіба ёсць што сур'ёзнага ў Апанасе Хмелю? — задала сабе пытанне Вольга. Сур'ёзнае нешта ёсць, але толькі для сябе... Але штосьці доўга няма Андрэя... І гэты Арцём пайшоў. Моцны хлопец, але без работы...

Вольга прылегла на пасцель, але сон не ішоў да яе. На печы спала маці Арцёма, ціхая, маўклівая жанчына, крыху нясмелая...

Раптам недзе пачуўся стрэл. Вольга саскочыла з пасцелі і прыпала тварам да шыбы акна. Адарвалася, ступіла пару крокаў у напрамку дзвярэй, потым вярнулася, схапіла кажух, нервова, спяшаючыся абулася і без хусткі выбегла на вуліцу. Ну, чаму ж я не пайшла туды? Гэты Арцём адгаварыў. А на вуліцы чуўся гоман, як быццам адкульсці ішоў натоўп. Вольга пачакала крыху і пайшла насустрач гоману. Хутка сустрэла Андрэя і Арцёма. Арцём вёў Андрэя пад руку. Вольга, падыходзячы, пачула толькі словы: «Нягоднік, ах, нягоднік!» А ў адказ голас Арцёма: «Не хвалюйся, таварыш Андрэй, усё ўладзіцца...»

Вольга амаль крыкнула:

— Што там адбылося? Адкуль стрэл?

— Хадзем, потым раскажу...

Арцём вярнуўся назад.

Вольга зноў сядзела ля акна, а Андрэй, усхваляваны, хадзіў у цемры па хаце і гаварыў:

— Разумееш... вёска плоціць падаткі, няма бібліятэкі, няма гуртка самадзейнасці, на сходах гуртка Грамады толькі адна гутарка — аб узброеным паўстанні... Адным словам, ніякай масавай палітычнай работы. Моладзь забаўляецца зброяй. Гэта ж адкрытая правакацыя. Ну, на сходзе я гэта ўсё сказаў. Хмель хацеў мяне выгнаць са сходу, проста паказаў пальцам на дзверы і загадаў: «Вымятайся, пакуль цэлы...»

— Ідзі сядзь тут, ля мяне,— папрасіла Вольга,— і не хвалюйся.

Андрэй сеў і расказваў далей:

— Я сказаў, калі сход загадае выйсці, я выйду. Тут выступіў Аляксей Верас у абарону мяне, а потым Арцём. Пачуліся галасы, каб я гаварыў далей. Хмель асеў, але, па меры таго як я яго бічаваў, усё падхопліваўся і крычаў: «Ілжэш!» Урэшце, калі я сказаў, што работа Хмеля контррэвалюцыйная, ён ускочыў і выхапіў з кішэні рэвальвер. Арцём схапіў яго за руку. Апанас вырываўся. Пачалася валтузня. Некалькі чалавек ужо трымала Хмеля за руку. А тым часам Арцём падхапіў мяне пад локаць і выцягнуў у сенцы. На гэтым і скончыўся сход... Хмель выскачыў на вуліцу і стрэліў.

— Куды стрэліў? — спыталася Вольга.

— Чорт яго ведае... Напэўна, у паветра... На сходзе выкладаў стратэгію першага ўдару...— Пасля кароткага маўчання Андрэй сказаў:

— Нам трэба напісаць нешта,— растлумачыць навакольнаму сялянству, што робіць Хмель... Надрукаваць на шапірографе і распаўсюдзіць...

— І я гэта думала,— адказала Вольга.

Андрэй дакурваў цыгарку і маўчаў. Паплылі ціхія хвіліны. Андрэй сядзеў, звесіўшы галаву, і ўслухоўваўся ў цішыню, у самога сябе. Побач сядзела яна — верны таварыш, сядзела нерухома, паклаўшы рукі на калені, і глядзела на Андрэя, на абрысы яго галавы, якую хацелася ў гэты час прытуліць да сваіх грудзей.

Андрэй ачуўся ад задумы і глянуў на Вольгу.

— Я думаў, што ты спала,— сказаў ён,— а ты вартавала...

— Не, я не магла заснуць. Хацела ісці туды адразу, але Арцём адгаварыў...

— Ах ты, вартаўніца,— лёгка ўздыхнуўшы, сказаў Андрэй. А потым ціха абвіў яе шыю рукою і прытуліў да сябе прыгожую, хвалістую галаву дзяўчыны — вернага

таварыша на баявым шляху. Гладзіў рукою па яе шаўковых валасах, такіх ужо знаёмых, і ціха паўтараў: «Вартаўніца... вартаўніца...» А яна слухала, як б'ецца яго сэрца...

Тры цені, адзін за адным, прамільгнулі за белым акном. І хутка ў хату ўвайшлі Арцём, Аляксей і Апанас. Апошні, каб ведалі, што гэта ён, загаварыў:

— Цёмна, хоць вока выкалі. Запальвай лямпу, Арцём.

Для Андрэя і Вольгі было нечаканым і дзіўным з'яўленне тут Апанаса. Відаць, прывёў яго сюды Арцём, каб памірыць іх. Якое ж тут можа быць прымірэнне?

Андрэй ужо сядзеў за сталом на другой лаве, калі Арцём запаліў лямпу. Апанас вешаў сваю шапку на драўляны крук і, відаць было, стараўся схаваць сваё хваляванне. Андрэй спадылба змераў яго позіркам і пераглянуўся з Вольгай. У Вольгі застыла маршчынка паміж бровамі. Усе селі і некаторы час маўчалі. Круцілі цыгаркі. Маўчанне парушыў Аляксей:

— Трэба было б варту паставіць у сяле... А то невядома, што можа быць.

Апанас махнуў рукою.

— Які чорт уначы пойдзе сюды,— сказаў ён.

— То ты, Арцём, хоць вокны завесіў бы, каб цікаўныя не заглядвалі. Я выйду на двор, пагляджу...

Вокны ўрэшце былі завешаны. Аляксей час ад часу ўсё выходзіў на падворак, на вуліцу для праверкі.

Арцём устаў з лавы, падышоў да стала, глянуў на Андрэя і Апанаса і пачаў:

— Трэба, каб вы памірыліся.

— На якой жа падставе мірыцца? — запытаўся Андрэй.— Тое, што робіць Апанас, гэта ашуканства партыі і народа.

— Ашуканства гэта ці не,— аб гэтым не будзем гаварыць,— падхапіў Апанас,— я пагарачыўся сягоння, гэта факт, і за гэта прашу прабачыць...

— Я табе, дапусцім, прабачу, а ці прабачыць табе народ? Справа не датычыць мяне аднаго...

— Ну, з народам то мы ўладзім...

— Здаецца мне, што табе не прыйдзецца ўладжваць з народам...

Апанас насцярожыўся, і чырвань раптам заліла яго шчокі.

— Ты павінен быць зараз жа завешаны ў правах члена партыі і адхілены ад работы,— працягваў Андрэй.

— Ну, дапусцім, ты гэтага зрабіць не маеш права,— стараючыся гаварыць як мага спакайней, сказаў Апанас.

— Вырашае сутнасць справы,— умяшалася Вольга,— а не фармальнасць.

— Калі ты лічыш сябе сумленным камуністам,— гаварыў Андрэй,— то павінен зараз жа скласці зброю, гэта значыць зняць з сябе абавязкі члена партыі і члена акругкома. Прыедзе Паддубны, будзем разбірацца. На тваё месца мы назначым сюды другога чалавека. Такое наша няўмольнае рашэнне. Калі не захочаш яго выканаць, будзеш пасля гневацца сам на сябе... На фармальнасцях няма чаго іграць, Апанас... У падполлі ўсё трымаецца на сумленнасці камуністаў, на сумленным слове. Канцылярыяў партыйных няма. Цыркуляры з цэнтра плывуць, ведаеш як, і па дарозе часта трапляюць у дэфу. Застаецца вуснае слова — перадача пастаноў, рашэнняў, і яно, гэтае слова, мае для нас сілу закону...

Апанас абмяк. Сапнуў у нос і затараторыў:

— Я падумаю... я падумаю... Так, здаецца, я зайшоў залішне далёка... Я зараз не магу яшчэ сказаць... Я падумаю... Перадам сваё рашэнне праз Аляксея...

— А пакуль ты будзеш думаць, абавязкі члена акругкома будзе выконваць другі.

— Хто? — спытаўся Апанас.

— Аб гэтым табе не абавязкова ведаць!

Вольга з удзячнасцю глянула на Андрэя.

— Ты вось прыняў тут у партыю замнога людзей — больш васьмідзесяці чалавек. Я пытаюся: правакатара тут няма? — працягваў Андрэй.— Вы прабавалі праверыць людзей?

— Ну, гэтага ты нам не закінеш,— запярэчыў Апанас.

— А я табе кажу, што пры такой масавасці, як у вас, правакатару лёгка хавацца і наогул невядома, што робяць ячэйкі... Як відаць, забаўляюцца толькі з вінтоўкамі. Хіба дэфа, паліцыя аб гэтым не ведае, як думаеш? Па-мойму, ведае, і калі маўчыць, значыць, мае тутэйшага інфарматара і чакае моманту, каб сюды награнуць...

— Ты памыляешся,— каб так было, то мы нешта ведалі б.

— Буду рады, калі памыляюся, але мне здаецца, што пільнасці ў вас тут зусім няма. Забаўка са зброяй закрыла вочы на ўсё...

— Што ж, па-твойму, мы не павінны выкарыстоўваць настрой мас?

— Павінны, але ўмела... не ўдавацца ў авантурызм... Уцягваць масы ў барацьбу за штодзённыя патрэбы, якіх ёсць без ліку,— ад малога ісці да большага. А ад такіх авантур, як ты робіш, расчараванні мас немінучы.

— Так, задалёка, задалёка зайшлі... Гэта бывае,— нагадняльна гаварыў Апанас,— ну, што ж...— Ён паціснуў плячыма і дадаў: — Як відаць па ўсім, трэба мне зброю здаць... Няхай папрацуюць другія, пабачым...

Андрэй адказаў:

— Гэта азначае, што ў цябе яшчэ не згасла да канца пачуццё дысцыпліны, і гэта к лепшаму, гэта будзе ўлічана...— затым звярнуўся да Аляксея: — Хоць ноч на свеце, аднак запрагай, брат, каня, і мы паедзем.

Арцём усхапіўся.

— Не, я вас не пушчу... Куды зараз ехаць?

Пачаліся спрэчкі. Вольга паклікала Андрэя і нешта шапнула яму на вуха. Андрэй адказаў: «Ну, добра...», тады згадзіўся застацца.

Гутарка была скончана. Апанас, а за ім Аляксей пайшлі начаваць у другія хаты.

Калі Апанас з Аляксеем выйшлі, Арцём пачухаў патыліцу і з жалем сказаў:

— Ах, чэрці вы... чаму было не мірыцца? Ён хлопец хвацкі... Але...

— Нарабіў шкоды многа, Арцём, нельга інакш,— сказаў Андрэй.

— Ну, што ж, няхай пачухаецца трохі... Можа, пойдзе на лепшае... А то сапраўды ўсё ў адкрытую пачало рабіцца...

— Чаму ты не член партыі, Арцём?

Арцём усміхнуўся ў адказ і сказаў:

— З паперамі важдацца — гэта для мяне малая работа. Мне каб штурмануць што-небудзь... Мне пяць мінут страху — і ўсё.

Андрэй з Вольгай засмяяліся.

— Для партыі то я ўсё зраблю, але... такое... пабольш...

— Добра, Арцём, калі так... Што зробіш? Будзем мець на ўвазе... А цяпер выйдзі, паглядзі на вуліцу, потым замкнеш дзверы і ляжам спаць. На світанні, прыцемкам, нам трэба выехаць.

...Уся вёска ўжо спала. А паўз хаты прабіраўся невя-

лічкі хударлявы хлапец. Звалі яго Казючок. Ён, сагнуўшыся, нёс на спіне паўмяшка лістовак. Нёс іх не для таго, каб раскідаць па дарогах. Не, ён нёс іх у валасны пастарунак. Няма нічога дзіўнага, што сюды не заглядае паліцыя. Навошта ёй гэта рабіць, калі яна мае інфарматара ды яшчэ ў асобе раённага сувязнога, разносчыка літаратуры?

* * *

Па дарозе назад, у Глушцы, заехалі ў камітэт Грамады. Добра, што быў кірмаш, і таму можна было лёгка гэта зрабіць. Ля камітэта стаяла шмат падвод, і ў самой хаце поўна людзей. За сталом сядзеў адзін Аляксандр Сучок. Кананца пазаўчора знялі з пасады з суровай вымовай. Андрэй, разгледзеўшыся, заўважыў у кутку, ля акна, Паддубнага. Ён стаяў, прытуліўшыся да сцяны, і чытаў газету. Андрэй зразумеў: прыехаў і навёў парадак. Андрэй сустрэўся з Паддубным вачыма, і яны адзін аднаму злёгку кіўнулі. Адбылася кароткая гутарка з Сучком — патрэбен чалавек на пасаду сакратара, і яго павінен знайсці Андрэй. Вольга, захутаная ў цёплы шаль, непрыкметна села на крэсла ля дзвярэй. Андрэй глянуў на яе і падумаў, што заставацца тут доўга нельга. Кіўнуў Паддубнаму, каб выйшаў за ім.

— Вяртаюся ад Апанаса...

— Ведаю... Ну, як?

— У двух словах не скажаш. Усё ж такі, здаецца, уламалі звера... Завесілі... І ён сам згадзіўся на гэта. Часова прызначылі Аляксея...

— Сам згадзіўся? Не веру...— сказаў Паддубны, і вочы яго бліснулі злосцю.— Расправімся мы з ім іначай...

— Ведаеш, Стары, хіліцца к вечару. Паедзем да мяне ў вёску. Там у нас сягоння павінен быць спектакль. Пагаворым падрабязна.

Паддубны маўчаў. У апошні час ён стаў нейкі маўклівы. Нешта тоіць у сабе.

— Добра, паедзем. Саграшым адзін раз...

— Што за грэх? — здзівіўся Андрэй.

— Які? Адпачнём крыху,— адказаў Паддубны.

Андрэй вярнуўся ў камітэт, сказаў Сучку, што знойдзе чалавека на пасаду сакратара, паклікаў Вольгу, і яны выйшлі. Вольга села ў сані, а Андрэй з Паддубным пайшлі пехатой аж за мястэчка і ўжо там далучыліся да яе.

У вёсцы пачалі ўжо запальваць агні, калі яны прыехалі. Адразу зайшлі да Петруся Хадыкі.

Потым Андрэй запрасіў Паддубнага і Вольгу да сябе на вячэру. Пасля вячэры наведалі Дзям'яна Гарагляда і ўрэшце пайшлі ў клуб.

Там ужо было поўна моладзі і старых не толькі з Запалянкі, але і з суседніх вёсак. Пакалыхвалася, закрываючы сцэну, заслона з каляровых саматканых посцілак. У зале на другім радзе сядзелі Дзям'ян Гарагляд з Маланняй, Сцяпан Касцевіч з Кацярынай, Анупрэй Чарняк і маці Пеці Ціханчука Тацяна. Прыйшоў нават і Мікіта Лазун, сеў здалёк. Дзве лямпы гарэлі перад заслонай. Андрэй, Паддубны, Вольга і Люба селі ў трэцім радзе. Андрэй, пасядзеўшы, пайшоў за сцэну. Потым пайшла і Люба. Ёй сёння трэба выступаць не толькі ў п'есе, але і з песняй.

Рэжысёрам і грымёрам быў школьны друг Андрэя, друг дзяцінства — Ілья Рамановіч, высокі светла-русы юнак з блакітнымі вачыма, камуніст. Яго і хоча ўзяць Андрэй на пасаду сакратара ў камітэт. Ён пайшоў пагаварыць аб гэтым. Увіхаўся тут і Пятрусь Хадыка, дапамагаў рэжысёру. Усе артысты ўжо былі загрыміраваны, толькі Люба канчала свой «туалет». Яна будзе іграць дзяўчыну, каханую маладога змагара. Андрэй пагаварыў з Пецем адносна варты на ўсякі выпадак. Той адказаў, што ўсё зроблена. Настрой ва ўсіх быў прыўзняты, бадзёры. Усе радаваліся спектаклю, хваляваліся, каб добра ўсё выйшла.

Андрэй вярнуўся на сваё месца і сеў побач з Вольгай. З-за заслоны выйшаў Пеця Ціханчук і абвясціў, што збор ад спектакля паступіць на карысць палітычных зняволеных.

Урэшце заслона адкрылася. П'еска-двухактоўка пачалася. На сцэне сядзела Люба і шыла. За акном жахала маланка. Хутка будзе дождж. Яна чакае свайго каханага, які пайшоў па партыйнаму даручэнню. Каб дзе не затрымала яго царская паліцыя. Люба паглядае ў акно. Ломіць рукі: «Я ж казала яму, што цяпер небяспечна...» Уваходзіць брат — гэта Пеця Ціханчук — і пытаецца, дзе Сымон, нешта доўга яго няма... А Сымон — гэта Ілья Рамановіч. Уваходзіць маці Любы — гэта Ліза — малодшая дачка дзядзькі Анупрэя Чарняка — і кажа, што да суседзяў пайшла паліцыя. Пачынаецца хаванне кніжак, газет... Але вось уваходзіць і паліцыя...

Па зале пайшлі шэпты: «Прыйшла паліцыя...»

Андрэй агледзеўся. Так, у залу таксама ўвайшлі тры

паліцыянты і, пашукаўшы месца, селі з вінтоўкамі ў руках. Андрэй падумаў і сказаў Вользе: «Паміж сцэнай і жыццём няма розніцы...» Але як-ніяк госці не зусім прыемныя. Што ж, няхай пасядзяць, гурток жа мае дазвол на спектакль ад староства. Мікіта Лазун падняўся і выйшаў. Ну, туды яму і дарога. А ў зале ціха — нідзе ні шэпту, ні руху. Усе загледзеліся на сцэну і забыліся аб прысутнасці паліцыі. Таццяна Ціханчук выцірае слязінку, бо яе Пецю — артыста — ужо арыштоўвае паліцыя, а ён клянецца быць верным народу да канца. Апошнюю арыштоўваюць Любу. І Маланння схамянулася, прыклала фартух да твару, а ў дзядзькі Дзям'яна аж нос прыгінаецца ад шчаслівай усмешкі. Спадылба, застыўшы ўвесь, глядзіць на сцэну дзядзька Анупрэй. Цёмныя вочы поўныя прытоенага захаплення — ён перажывае ўвесь ход дзеі і, непрыкметна для сябе, уздыхае. А Сцяпан Касцевіч лагодна ўсміхаецца, як бацька, пазіраючы на добрую работу сваіх дзяцей. Яго Кацярына схілілася да пляча мужа і глядзіць, глядзіць здзіўленая — што ж гэта далей будзе? А далей — турма. Канвой. Вядуць скаваных. Зал узварухнуўся... Але скаваныя ўжо спяваюць песню перамогі... На ёй і закрываецца заслона.

Доўга грымелі воплескі.

У час перапынку паліцыя пайшла за кулісы, праверыла дазвол... Потым накіравалася да солтыса. Вольга шапнула Андрэю: «Ідзі скажы, каб не бавіліся доўга, бо можа быць што-небудзь нечаканае». Вольга гэтак жа, як і ўсе, гледзячы на сцэну, забылася, здаецца, аб усім, адпачывала душою. Адным вокам пазірала на Паддубнага, які таксама ўсміхаўся, але ўсё роўна быў чагосьці задуманы. Гэта крыху трывожыла Вольгу і Андрэя. Думае нешта Стары, нешта прадчувае. Зразумела, ёсць аб чым думаць, але сярод сваіх можна быць весялейшым. Вядома, ён раскажа, Стары, аб сваіх думках.

Вярнуўся Андрэй, і зараз жа адкрылася заслона. На сцэне стаяла Люба, камечачы ў руках хустачку. Стаяла, як сапраўдная артыстка, з бялявым прыемным тварам, з прыгожай, багатай прычоскай, у белай кофце і чорнай спадніцы. Здавалася, што яна стаіць недзе на дарозе сярод поля і ўглядаецца ўдалячынь. Перачакала хвіліну і пачала спяваць чыстым голасам.

Песня раставала ў зале, замірала ў душах слухачоў, як тая мелодыя, што льецца па-над нівай. І соладка, і сумна, і хочацца шчасця, прасторы. Аж Паддубны абцёр твар

хустачкай і ціха крэкнуў. Слухаў з замілаваннем. А Андрэй ціха, з пачуццём, глянуў у твар Вольгі. Яна толькі бліснула на яго, здавалася, гарачымі вачыма і стрымала ўсмешку.

Пасля Любы выступіў хор. Пятрусь Хадыка, з нейкім нібы святочным тварам, з усмешкай чыкілдаў, стукаў сваёй драўляшкай па памосце. Стаў і абвясціў: «Песня «Дуброва». Адвярнуўся ад залы і махнуў рукамі. Хор грымнуў:

Ой, дуброва, дуброва,
Гэй, гэй, дуброва.
Ад чаго ты зялёна?
Гэй, гэй, зялёна...

Хор скончыў. Выступілі дэкламатары. Першым Міця дзядзькі Дзям'яна з вершам Купалы:

За праўду, за шчасце, за светлую долю
Вазьміся, мой дружа, пастой,
У крыўду не дайся, свайго дабівайся,
Адвага хай будзе з табой!

— Вось гэта разануў! — пранеслася па зале.

А Пеця Ціханчук выступіў з вершам Коласа:

Мы ходзім, спатыкаемся,
Бадзяемся, як п'яныя,
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя...—

гучаў яго задзёрысты голас і з націскам канчаў:

...А ўсё ж такі, хоць некалі,
А праўды дачакаемся!

Воплескі шуганулі па зале. Вельмі ж такі ўдала.

Выйшаў на сцэну і сам рэжысёр Ілья Рамановіч, прыгладзіў рукою свае русыя валасы і пачаў чытаць Някрасава — «Чыгунка». Андрэй усміхнуўся: «Так, Ілья, некалі ў школе задаваў нам вучыць гэты верш наш добры стары настаўнік-народалюбец». А Ілья грымеў:

....Волосом рус.
Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорус:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;
Ямою грудь, что...

Але тут у дзвярах пачулася мітусня. Усе азірнуліся. Вартавыя не пускалі кагосьці, а тыя хацелі прабіцца. Не-

хта брыдка лаяўся. Дэкламатар спыніўся. Урэшце ў залу ўварвалася чалавек дзесяць незнаёмых з каламі. На чале іх Андрэй пазнаў сальніка Карнікевіча і адразу зразумеў, што гэта значыць.

— Закрывайце заслону! — крыкнуў Андрэй.

Уся банда была п'яная. Сальнік крычаў асіплай глоткай: «Бальшавізмам займаецеся! Бязбожнікі!» І з размаху ўдарыў па лямпе. Людзі памкнуліся да выхаду. Моладзь кінулася ў бойку і некалькі бандытаў збіла з ног. Бандыты пусцілі ў ход палкі, прабіваліся да сцэны. Андрэй крычаў: «Перастаньце біцца! Выходзьце!» Але тут увайшлі, праціскаючыся, паліцыянты і адразу затрымалі пяць хлопцаў. Наручнікі бліснулі ў руках паліцыі. А ля сцэны клубілася, як у катле. Сальнік Карнікевіч рыкаў, размахваў кіем, клікаў на дапамогу паліцыю, з носа яго цякла кроў. «Перастаць біцца!» — крычаў Андрэй. Але стрымаць бойку было ўжо немагчыма. Андрэй пацягнуў Вольгу і Паддубнага за сабою, за сцэну, каб вывесці закулісным ходам. Думаў вярнуцца. Але нехта з бандытаў, размахваючы, пабіў другую лямпу. І бойка спынілася. Паліцыянты пусцілі ў ход свае ліхтарыкі, лавілі каго папала з моладзі. Удалося арыштаваць толькі шэсць чалавек. А тых, якіх затрымалі ў цемры, не змаглі скаваць, і яны ўцяклі.

Паліцыянты вывелі хлопцаў у суправаджэнні бандытаў.

— Я вам дам, як бойкі заводзіць! — пагражаў паліцыянт.— Вы чаму іх не пускалі на спектакль?

— Яны ж не мелі білетаў і былі п'яныя,— адказаў адзін з арыштаваных.

— Хто сказаў, што мы п'яныя?! — рыкнуў сальнік і ўдарыў скаванага хлопца па шчацэ.— Камітэтчыкі, так вашу... Будуць вам камітэты, будуць!..

— Глядзі, каб табе не было,— агрызнуўся хлопец,— што ты б'еш скаванага чалавека, гэта кожны дурань зробіць, свіння ты глушэцкая, п'янюга, хто цябе не ведае, сабаку такога...

Сальнік падляцеў і хацеў ударыць яшчэ раз, але паліцыянт не дапусціў.

— Дай мне вольныя рукі, я табе пакажу,— дарма, што ты салам абжыраешся...

Паліцыянты пасміхаліся і крычалі: «Даволі, даволі!» Так і павезлі хлопцаў на дзвюх падводах разам з бандытамі ў Глушэц, у пастарунак. Там для віду дапросяць і

бандытаў і потым іх вызваляць, а хлопцаў затрымаюць. Такая ўжо камедыя фашыстаў. Пасля ад'езду паліцыі Паддубны, Вольга, Андрэй і Рамановіч імчаліся рыссю на падводзе прасёлкавай дарогай у вёску Зарэчча. Вячэралі ў Ільі. Паддубны расказаў пра палітычнае становішча ў краі і заключыў, што гэта — пачатак канца. Фашысты ўдараць па Грамадзе. Кіраўніцтва Грамады аказалася не на вышыні. Прадалі...

А ў хаце Сцяпана Касцевіча ў гэты час сабралася шмат людзей. Сядзелі без агню. Абмяркоўвалі ўсё здарэнне, ахалі, клялі. Нават дзядзька Анупрэй узбунтаваўся:

— Халера б іх пабрала... От поскудзь... Што ім гэта перашкаджала? Душаць народ, дыхнуць не даюць...

— Ну, некалі ж будзе на іх скон,— гаварыў Гарагляд.

— І я скажу тое самае, што будзе,— пацвердзіў Анупрэй.

## «ШЧЫЛЬНЕЙ РАДЫ!»

Вольга паехала, і на сэрцы Андрэя зрабілася цяжка. Агарнула на момант пачуццё адзіноцтва. Усё, здаецца, адышло некуды ўдаль, адплыло за лясныя небасхілы. У сэрцы глуха варушылася ўстрывожаная птушка — туга... Такое ж пачуццё авалодала ім і тады, калі ад яе ж, ад Вольгі, атрымаў вестку аб арышце таварыша Васіля. Пакінуўшы Вольгу ў Дзям'яна Гарагляда, вярнуўся ў сваю хату і доўга хадзіў ад стала да парога і ад парога да стала. А то садзіўся за стол і глядзеў некуды ў адну кропку і нічога не бачыў перад сабою. І, здаецца, ціха назіраў тады за ім Радзішчаў з высакародным, сумленным тварам, ціхенька ўсміхаліся яго вочы і гаварылі: «Так, так... Чудище обло, озорно, огромно, стозевно и лаяй...» Так, «чудище» варушыцца, яно ўжо выйшла з лесу...

Памерклі снягі...

А цяпер паехала яна, Вольга, і паехала, здаецца, назаўсёды. Абдала цяплом і, трасянуўшы па звычцы галавою, села ў сані. І цяпер чагосьці не хапае... Гэй ты, птушка, сціхні, сціхні!.. Захад у крывавых бляcках над лесам.

Памерклі снягі...

Арышты адбыліся не толькі ў Дубах і іншых раёнах

павета, але па ўсёй Заходняй Беларусі... Адну ноч выбралі фашысты, каб ударыць па Грамадзе з краю ў край. Таварыш Васіль арыштаваны... «Можа, вярнуцца назад, не ісці сягоння ў Глушэц?» Андрэй спыніўся на шляху пасярод поля, на горцы, глянуў на памерклыя прасторы, на Глушэц — знаёмы і чужы, замкнуты ў нізіне, дзе фашызм з людскіх падонкаў вярбуе сабе дубіншчыкаў. Іменна трэба ісці ў гэтае логава сальнікаў карнікевічаў, бундаўцаў бурштэйнаў, трэба ісці туды, дзе вораг, трэба ведаць яго павароты. Там жыве пільны Рунда і нямала такіх, як ён. Паддубны там, напэўна, ужо чакае.

* * *

Усё зрабіў Максім Рунда, каб пасяджэнне адбывалася ў бяспецы. Узняў на ногі ячэйкі, расставіў людзей у розных месцах, каб глядзелі і ў выпадку чаго — сігналізавалі. Раз-пораз прыбягаў у бакоўку да Паддубнага і, крыху заікаючыся, дакладваў. Паддубны толькі моўчкі ківаў галавою і паглядаў на гадзіннік.

— Людзі будуць заходзіць не з вуліцы, а з агарода,— я там паставіў чалавека. Далей — адзін стаіць аж за касцёлам пры ўваходзе ў мястэчка, другі вось тут на шляху, за крыжам...

— Ага... Добра, добра, Максім... Паліцыі многа на вуліцы?

— Можна сказаць, уся на нагах, нават коннікі праязджаюць... Ну, я пайду...

Паддубны кіўнуў галавою — ідзі. Маўклівым стаў Паддубны за апошнія часы, нават нейкім жорстка-маўклівым. Выглядае так, нібы глядзіць у самога сябе — вочы застыглыя, як быццам нічога не бачаць. Не то падачы зрэнні якія трывожаць яго душу, а можа, роздум і над памылкамі, што вось недзе, на нейкім этапе, не разлічылі тэмпу. Калі б разлічылі ў пару, усё магло б быць інакш. Захады ворага былі б папярэджаны. А цяпер трэба ўжо выступаць супроць ворага лоб у лоб. Да гэтага прывялі падзеі. Цёмныя сілы шныраць і ў нашым падполлі і, зразумела, знаходзяць сабе апору. Аб пагоні за таварышам Васілём у час яго падарожжа ў Баранавічы, аб яго арышце ў горадзе Г. ужо было вядома Паддубнаму. І аб тым, што таварыш Васіль вытрымаў катаванні, што нікога і нічога не выдаў, таксама было вядома. Але разам з гэтым атрымаў Паддубны з турмы ад таварыша Васіля і такі

наказ: «Шукай правакатара ў той мясцовасці, дзе мы былі...» У дужках было дададзена: Гуляйноч. Усе гэтыя весткі прывезла яму ў Баранавічы Соня Качаноўская.

І вось цяпер Паддубны сядзіць у змроку ў бакоўцы Рунды і думае, думае... Ёсць чуткі, што з пяцідзесяці чалавек, арыштаваных у вёсцы Дубы, адзін выдае. Нейкі Казючок — сувязіст. Але гэта яшчэ не тое. Нехта ёсць большы, той, які ім кіраваў. Але — хто? Арышты адбываюцца кожную ноч у розных месцах павета. У Навагрудчыне і Слонімшчыне ўжо адбыліся дэманстрацыі пратэсту супроць разгрому Грамады. Трэба рыхтавацца і тут. Штосьці не чапаюць яшчэ камітэта Грамады — ну, вядома, тактыка... Спачатку па нізах, а потым... Трэба спяшацца з масавымі выступленнямі, інакш яны выльюцца стыхійна — без нас, без кіраўніцтва.

Прыйшоў Аляксей Верас. Увайшоў ціха, нясмела, нібы крыху баючыся. Гэты сціплы, непаказны хлопец, звычайна маўклівы, здаецца, разумеў многае з таго, што робіцца навокал, але... трэба прыслухоўвацца да старэйшых. Так і ідзе ён праз падполле неяк павольна, ні з кім не дзеліцца сваімі назіраннямі. Беражэ іх толькі для старэйшых.

— Ну, што, Алёша, чуваць, расказвай,— звярнуўся да яго Паддубны.

Аляксей крыху адкашляўся і пачаў:

— Апанас нічога не робіць. Вылежваецца на печы... Нават насячы дроў дома не хоча. Часта прыходзіць да яго Мірон Вадалей. Вядзецца між імі гутарка, каб уцячы — туды, за мяжу... Так перадавала мне жонка Апанаса.

— А як паставіўся да арыштаў?

— Кажа, што гэта работа Казючка...

— Адкуль ён ведае? — схамянуўся Паддубны.

— Чуваць, што Казючок сыпле ў дэфензіве... Але... вось...— Аляксей спыніўся, адкашляўся і працягваў:

— Як былі Андрэй з Вольгай у нас, начавалі, то тады ў Дубах разам з Апанасам быў і Вадалей і, як высветлілася, начаваў у гэтага самага Казючка... Ходзіць чутка, што Казючка бачылі, як ён нёс тады ў мяшку літаратуру кудысьці... Нёс позна ўжо... калі ў вёсцы не было агнёў. Ну, куды ж ён яе мог несці?

— Куды, па-твойму? — спытаў Паддубны.

— Па-мойму... у пастарунак... няйначай... Цяпер ужо многія так гавораць...

— Мм... так...— вырвалася ў Паддубнага,— дзякую, Алёша, за навіны... Гэта — важна...

Увайшоў Рунда і сказаў: «Хадзем...» Паддубны апрануўся, і ўсе выйшлі на падворак. Упоцемку сышлі па ступеньках у бульбяны склеп пад хатай-мураванкай Рунды. Запалілі ліхтар. Там ужо сядзелі Андрэй, Сучок, новы сакратар камітэта Рамановіч, Якаў. Паддубны прывітаўся з усімі. Рунда адкрыў пасяджэнне, сказаў, што на парадку дня толькі адно пытанне: арганізацыя дэманстрацыі ў Глушцы супроць разгрому Грамады... і даў слова Паддубнаму.

Усе слухалі Паддубнага з прытоеным дыханнем, усе адчувалі важнасць моманту, які перажывае краіна. Сучок глядзеў на Паддубнага спалоханымі вачыма, моргаў імі павольна і пазіраў на іншых. А іншыя нахіліліся да Паддубнага, як загіпнатызаваныя. Было вырашана правесці дэманстрацыю ў кірмашовы дзень. Вызначылі і дату.

Вырашылі таксама і другое — вывесці на дэманстрацыю сто пяцьдзесят камуністаў. Тут жа размеркавалі, хто што павінен рабіць і на выпадак арыштаў хто каго павінен замяніць.

Разышліся ў бадзёрым, нейкім суровым настроі. Ва ўсіх губы былі сцятыя, гарачыя позіркі... Ад душы кожны паціскаў руку Паддубнаму на развітанне. А ён толькі і казаў: «Трымайцеся, хлопцы...»

Андрэй з Сучком пайшлі ў камітэт, а Ілья Рамановіч падаўся ў вёску, але не ў сваю. Наладзіўся Ілья ўчашчаць да Любы Дзям'яна Гарагляда. Заказытала хлопцу пад сэрцам і вось пайшоў. Ляцеў, як на крылах, апіраючыся на кій. Што ж, хлопец таварыскі, вясёлы і адукаваны. Бацькі Любы рады яму. Люба сядзіць недзе на вячорках за кудзеляй, і ён прабавіць з ёю некалькі прыемных гадзін. Раскажа ёй тое-сёе, а калі будуць музыкі, то і патанцуе. А заўтра рана ён прыйдзе ў Глушэц, у камітэт, і будзе сакратарыць. Люба хіліцца да Ільі. Бо чаму ж не хіліцца? Хлопец прыгожы, статны, як серабрыстая таполя. Шмат у яго размаху, бадзёрасці, добрай усмешкі. Любіць літаратуру, чытае гісторыю. Андрэй дае яму і марксісцкія кніжкі, і ў Ільі ўзнікае столькі пытанняў, што часам Андрэй аж стамляецца ў гутарцы з ім. Ілья пачынае разумець законы развіцця грамадства і робіцца такім шчаслівым, як быццам адкрыў даўно шуканыя скарбы.

— Вось яно як...— скажа часам,— ай-яй-яй... Гэта ж так усё зразумела... Не, брат, не ўседзіш на месцы... Гэта падмывае... дае крылы... Давай выпішам з Варшавы «Капітал» Маркса...

Ілья Рамановіч — сын бедняка. Узімку ходзіць з цэпам да багацеяў малаціць, а то займаецца бандаркай. Бацькі яго сціплыя, працавітыя людзі, такія ціхія і прыемныя. Ды бяда — няма куды дзецца дзецям — зямлі ўсяго дзве дзесяціны. Маці кажа, што трэба сыну ісці куды-небудзь у прымы, да багатай дзеўкі, а бацька пярэчыць: «Прымачы хлеб сабачы...» Так і ходзіць Ілья па заробках, працуе ў падполлі, чакае чырвонай пяцікутнай зорачкі. Упадабаў Любу. Але яна таксама бедная. Ілья не глядзіць на гэта. Ён верыць у свае сілы. Калі ў яго начавала Вольга, Ілья, слухаючы яе выказванні, гледзячы на яе паводзіны, зразумеў, што для такой работы, якую вядзе гэтая дзяўчына, можна і варта аддаць жыццё. У гэтай рабоце крыецца вялікая любоў да народа.

Дык хутчэй да Любы...

* * *

Не ведала Вольга, што ў Глушцы адбудзецца такое важнае пасяджэнне, інакш, можа, і засталася б яшчэ, каб прыняць удзел у нарадзе. Паехала яна, не сказаўшы Андрэю куды,— паехала на сустрэчу з сакратаром акругкома камсамола палескага ваяводства нейкім Карэльчуком, які насіў падпольную клічку «Слізень». Паддубны ведаў гэтага Карэльчука, але пад клічкай іншай, таксама, як і ў Апанаса Хмеля,— вар'яцкай — «Буралом». Сігналы, якія мела Вольга, гаварылі, што гэты Слізень праводзіць лінію масавага прыёму моладзі ў камсамол і не захоўвае канспірацыі. Чуваць, што арышты адбыліся і там. Калі Вольга, прыехаўшы ў вёску, зайшла ў явачную хату, назвала пароль і спытала, ці можна бачыць Буралома,— ёй адказала чырванашчокая прылізаная дзяўчына, што яго няма, што ён у горадзе і што мае прыйсці ўвечары. Тады Вольга папрасіла, каб прывялі ёй сакратара мясцовай камсамольскай ячэйкі. Дзяўчына маўчала, доўга глядзела на Вольгу, а потым неяк таямніча сказала:

— Няма яго... Няма ўсіх...

— А дзе яны? — спыталася Вольга.

— Усе пайшлі ў лес... Пабралі стрэльбы і пайшлі... У нас тут неспакойна... Ідуць арышты...

— Калі такая справа, чаго ж Буралом пайшоў у горад?

— Не ведаю,— адказала дзяўчына,— яго выклікалі...

Вольга на момант адчула, што яе высачылі, што трапіла ў пастку. У вёсцы пуста і трывожна. А сам сакратар акругі ў горадзе. Паколькі ўжо моладзь пайшла ў лес, яму трэба быць там.

Вольга нават азірнулася, глянула ў акно і змерала вачыма гэтую чырванашчокую дзяўчыну.

— Вы добра і даўно ведаеце Буралома? — спыталася яна.

— А ўжо...

— Добры ён хлопец?

— Добры... Хітры...

— Ваша хата не расканспіравана як месца яўкі? Паліцыя не ведае аб гэтым?

— А хто яе ведае? Не была ў нас ні разу. У нас сям'я невялікая — маці, брат і я...

— А дзе брат?

— Таксама пайшоў у лес...

Вольгу ахапіла трывога. Трэба абавязкова ўбачыць гэтага Буралома, але... тут можна трапіць у пастку.

— Я магу ў вас пачакаць да вечара? — спыталася Вольга.

— Я думаю, што можна...

Дзяўчына схамянулася, як быццам ачулася ад задумы, і запрасіла:

— Распранайцеся...

Вольга распранулася. Падышла да дзяўчыны, спыталася, як яе завуць.

— Мяне завуць Шура...

— Дык вось, Шура, калі хто прыйдзе з вяскоўцаў і спытаецца пра мяне, будзеш гаварыць, што я ваша сваячка...

— Добра, скажу, што вы жонка брата, які жыве ў Гродні...

— Ну, вось і добра... Дай мне прасніцу з кудзеляй, буду сядзець і прасці...

...Увечары прыйшоў Буралом. Гэта быў сярэдняга росту малады чалавек, русавалосы, гладка прычэсаны. Шэрыя, амаль бескаляровыя, вочы глядзелі вастраватанасцярожана, часам з палахлівым агеньчыкам, які раптам успыхваў і тут жа згасаў. У хуткай нервовай хадзе адчувалася паспешлівасць. Здавалася, разбегся хлопец

і вось зараз аб што-небудзь спатыкнецца або ўдарыцца. Апрануты быў у цёмна-сіні бастонавы пінжак з гальштукам, у картовыя штаны-галіфэ. На нагах — бліпчастыя скрыпучыя боты. Але твар нейкі мутны, памяты, невыразны. Хацелася сказаць гэтаму нервова-рухаваму хлопцу: «Ідзі памыйся, бо ты, здаецца, не мыўся».

Буралом сядзеў з Вольгай за печкай і курыў папяросу за папяросай. Вольга ў яго паставе, у гутарцы, у тоне голасу не адчула таго звычайнага настрою ў падполлі, настрою, у якім крыецца сур'ёзнае перажыванне моманту, хваляванне за становішча, якое стварылася, і гатоўнасць да самаахвярнасці. Наадварот, Буралом выдаваў сябе за такога «героя», які нібы стаіць вышэй усіх цяжкасцей, затушоўваў гэтыя цяжкасці і, махаючы рукою, казаў: «Нічога... усё будзе добра...»

— Што значыць — добра? — напірала Вольга.— Нам трэба аналізаваць становішча, разабрацца з усім, каб дапамагчы народу ў яго барацьбе.

Трымаючы папяросу між пальцаў, Буралом праходжваўся перад Вольгай сваёй развалістай хадою і, адставіўшы руку ўбок, паціскаў плячыма, як быццам гэтым хацеў сказаць:

— Так... правільна, трэба дапамагаць... На тое мы ёсць...

— Ты зусім бестурботна выглядаеш, Буралом... Моладзь з вінтоўкамі ў лесе, а ты... як быццам і не дбаеш аб гэтым.

Буралом спыніўся і нахмурыўся.

— Ну, ты мне гэтага не кажы... Там ёсць камандзіры, робяць, што трэба...

Вольга заўважыла, што на лбе Буралома выступілі кроплі поту. Ён выняў хустачку і абцёрся. Закурыў яшчэ папяросу.

Нешта не падабаліся Вользе гэтыя бліпчастыя боты і галіфэ, пахучыя папяросы. Рознае праносілася ў думках.

— А паліцыя не робіць аблавы на тых, што ў лесе? — спыталася Вольга.

— Яшчэ не... Але трэба думаць, што будзе рабіць...

— Вось іменна,— трэба думаць... Арыштавана многа ў вас?

Буралом замяўся і, зморшчыўшы лоб, адказаў, як быццам што прыпамінаючы:

— Мм... не, не так многа... Чалавек так каля шасцідзесяці.

— Гэта, па-твойму, нямнога? А ў гэтай вёсцы многа арыштавана?

— Тут ні аднаго... Усе пайшлі ў лес...

— Па твайму загаду?

— Хоць бы і так...

— Што значыць — хоць бы і так? Правакатар хоць адзін выкрыты тут? — Вольга павысіла голас.

Буралом прайшоўся, памаўчаў і, спыніўшыся перад Вольгай, сказаў неяк з выклікам:

— Хто выкрыты, таго ўжо няма...

— Тое, што ты кажаш, ужо вядома... Гэта было яшчэ перад Грамадою... Я пытаюся пра цяперашні час...

— Цяпер, бачыш, арышты...

— І ты не змог намацаць правакатараў?

— Гэта не так лёгка...

Вольга страсянула галавой, правяла рукою па сваіх валасах і сказала:

— Ведаеш, трэба моладзь вярнуць з лесу. Яна пайшла на верную згубу...

Буралом сеў і, пазіраючы ў профіль Вольгі, пачаў гаварыць такім упэўненым голасам, што Вольга аж глянула на яго. Позіркі іх скрыжаваліся, і на адзін момант Вольга заўважыла, што ў гэтых, амаль белых, вачах кальнула яе... насмешка.

А Буралом гаварыў з расстаноўкай:

— Гэта ўжо немагчыма... Вернуцца з лесу,— будуць арыштаваны, іх будуць судзіць палявым судом.

— А дэманстрацый ты не арганізуеш? Хіба народ не стане ў абарону іх? Стане...

Вольга паднялася. Была ўсхваляваная. Яна ледзь стрымлівала сябе, каб не разразіцца, як бура, супроць гэтага лакіраванага сакратара, якому даручана кіраваць моладдзю акругі. Не, ён сакратаром не будзе...

— Вядзі мяне ў лес,— патрабавала рашуча.

— Гэта не дапаможа... Там цябе могуць прыстрэліць... Палічаць за правакатара.

— Няхай страляюць, няхай лічаць, чым хочаш... Толькі вядзі... Ты павінен сам там быць, паколькі так склалася.

І Вольга памахала перад Бураломам рукою:

— Ну, які ж ты сакратар? А яшчэ называеш сябе Бураломам...

Буралом усміхнуўся, пусціў струмень дыму пад столь і сказаў:

— Паўтараю... гэта немагчыма... Можам натрапіць нават на паліцэйскую аблаву.

Вольга сціснула бровы і глядзела некалькі хвілін, апусціўшы галаву, у адну кропку. Нешта новае прамільгнула ў галаве. А... можа быць і так... Асцярожна, асцярожна... Трэба вяртацца да Паддубнага, да Андрэя і вырашыць...

— Не хочаш весці сам, дай хлопца з вёскі...

— Такога няма...

— Ну, няма дык няма... Можаш сабраць па заўтра акругком камсамола?

— Чатыры члены акругкома арыштаваны... Засталося толькі тры. Трэба давыбіраць людзей...

Вользе здалося на момант, што яна ахутана імглою, стаіць у ёй і выбірае дарогу, куды ісці.

— Дай мне падводу — і я паеду... Праз пару дзён будзеш мець дырэктывы, што трэба рабіць.

...У той жа вечар Вольга села на поезд. Усё ішло добра, гладка. Хутка яна сустрэнецца з Паддубным і Андрэем. Усё пойдзе на лад.

На світанні сышла з поезда. А за ёю ў натоўпе ішоў таўставаты ягомасць у чорнай кепцы з прамым, як быццам абсечаным, носам. Андрэй прызнаў бы ў ім пана Чарапіцкага. Ён спыніў Вольгу на вакзале, праверыў дакументы і сказаў з нахабнай ветлівасцю:

— Пані арыштавана... Прашу сюды, налева, у пастарунак.

Праз гадзіну Вольга ехала пад канвоем двух паліцыянтаў у напрамку Баранавіч. Глядзела ў акно на знаёмыя дарогі, краявіды і сама сабе казала:

— Бывай, Андрэй, бывай, мой друг... Сустрэнемся там, дзе ты казаў. А пра Буралома я табе дам знаць. Гэта правакатар. Такое маё цвёрдае перакананне. Я яго ахвяра... Бывайце, дарогі, лясы і хаты, я яшчэ да вас вярнуся... Цяпер трэба перамагчы ворага там... з вока на вока... Вось еду і паўтараю, Андрэй, тваё радзішчаўскае, чую твой голас: «Чудище, обло, озорно, огромно, стозевно і лаяй...» Баіцца нас яно, баіцца...

А поезд імчаў праз ціхія аснежаныя прасторы, і Вользе здавалася, што ён вязе толькі яе адну.

* * *

На дрэвах застыў свежы, пушысты іней. Дымы з комінаў віліся, расплываючыся ў шэрым мяккім небе. На-

ват і вароны не садзяцца на дрэвы, і царква на глушэцкай базарнай плошчы выглядае як быццам у адмысловым ляску — сярод клёнаў і бяроз, прыбраных у серабрыстыя шаты.

Людзі не памятаюць такога торгу, такога кірмашу, які быў у той памятны дзень. Не толькі базарная плошча, але і суседнія вуліцы і завулкі былі запоўнены санямі і коньмі. Пара дыміла з конскіх ноздраў, і, як глянуць, усё спавілося тонкаю шызаю дымкай, у якой глушыўся людскі гоман, фырканне коней...

Абозы ўсё больш і больш заязджалі з гасцінцаў у розныя канцы Глушца, імкнуліся да аднаго месца — бліжэй да плошчы. Нейкая сіла гнала такую незвычайную кольkасць людзей не толькі з Глушэцкага павета, але і з іншых паветаў, суседніх. Скрытым струменем прасачылася навіна, якая зрабілася сілай, што «ў Глушцы нешта будзе». А затым навіна стала крылатай, як бястралётная птушка... Камуністы везлі ў санях пад саломай пачкі лістовак, чырвоныя сцягі з заклікамі, а ў душы — адвагу і рашучасць.

Усё было падрыхтавана... У камітэце Грамады шумна і цесна. За сталом увіхаецца Ілья Рамановіч — раздае людзям у іх загрубелыя змерзлыя рукі брашуры, кніжкі, прымае членскія ўзносы, бо Андрэю няма часу. Ён ужо абышоў базарную плошчу, сказаў Петрусю Хадыку, калі зайграць на гармоніку. Выбралі месца, там, на самым скрыжаванні цэнтральных вуліц. А цяпер Андрэй стаіць у сенцах з Антонам Ткачуком, старшынёй гуртка Грамады вёскі Кваснікі, і правярае, ці добра ён вывучыў прамову. Антон Ткачук будзе гаварыць сягоння перад незлічоным натоўпам. У Глушцы таксама і Паддубны. Ён у Рунды. А Рунда забягае ў камітэт і пытаецца ў Андрэя: «Ну, як?» І, атрымаўшы інфармацыю, бяжыць да Паддубнага. Але вось ён зноў прыбег і гаворыць Андрэю: «Стары кажа, што праз гадзіну, сама больш паўтары трэба пачынаць». І пайшоў. Андрэй сказаў Ткачуку: «Збор у карчме Шчыгельчыка. Ідзі...» А сам зайшоў у камітэт, глянуў на людзей. Добра, што іх ужо стала менш. Маргнуў Ілью — пара... Той замкнуў шафу, шуфляду ў стале, прайшоў за сцяну да гаспадыні хаты і сказаў, каб падмяла пакой камітэта. Калі гаспадыня выйшла з венікам, усе пачалі выходзіць. Гэта і трэба было.

...У карчме Шчыгельчыка ад табачнага дыму аж лю-

дзей не відаць. Сам Шчыгельчык бегае між сталоў, спатыкаецца, ледзь не падае і ўсё запрашае:

— Сядайце, галубчыкі, вось тут... вось тут... Калі ласка... калі ласка...

І бяжыць за прылавак, кроіць, рэжа, спяшаецца і час ад часу выцірае рукавом пот з ілба.

— Але ж і народу сёння... Госпадзі, госпадзі... Торг будзе, торг... Ну, і слава богу...

І раптам крычыць, кліча жонку:

— Тацяна! Нясі піва!..

З другой палавіны выходзіць жонка — пажылая сялянка ў саматканым андараку і не praміне, каб не адказаць свайму прававерному:

— Чаго ты верашчыш як апантаны?..

І зноў увіхаецца цяжкаваты Шчыгельчык, аж задыхаецца. Крутнецца туды-сюды, скажа: «Зараз, галубчыкі, зараз...» А затым крыкне:

— Тацяна, дзе ты дзелася? Ах, госпадзі, што гэта робіцца?..

За адным са сталоў сядзелі Захар Зубец, Марцін Шапко. За другім Андрэй убачыў Дзям'яна Гарагляда са сваёй Любай і Пецем Ціханчуком, а ля самай сцяны пры дзвярах сядзелі Арцём Світка і Аляксей Верас у кампаніі палескіх хлопцаў. Аляксандра Сучка няма. Меўся прыйсці ўчора ўвечары, але і дагэтуль няма. Можа, дзе арыштаваны, а можа, і не. Адным словам, штосьці загадкавае. «Ну, што ж, для яго асобнай абедні служыць не будзем»,— падумаў Андрэй і сеў за стол Зубца і Шапко, Ілья размясціўся ля Любы.

Праходзілі хвіліны... Бадзёрая, крыху крыклівая, гутарка прысутных зліваласяў неразборлівы гоман. Вокны ў карчме адталі, а за імі відаць было, як застыў на дрэвах пушысты некрануты іней.

Раптам у кутку падняўся цёмнавалосы, кучаравы хлопец і без ніякага папярэджання заспяваў:

За станки, гражданин, на заводы
Мы солдат и рабочих зовем
И во имя спасенья свободы
Добивать мы буржуев идем...

Заскрыгаталі ножкі крэслаў аб падлогу — усе агледзіліся на хлопца. Гэта — вядомы вясковы спявак-самародак. Андрэй зморшчыў лоб і думае, думае... дзе ён яго бачыў? Праўда, бачыў яго раз з гітарай у руках праз акно. І тут вось успомніў. Вязьма, Смаленск... адчынены

таварны вагон у тупіку... на парозе стаіць хлопец і спявае. Вагон натоўпам абступілі чырвонаармейцы, слухаюць і ўсміхаюцца... А хлопец скончыў, зняў шапку і пачаў прасіць... Сыпнуліся медзякі і паперкі ў шапку хлопцу. «Хадзем да нас у часць!» — крычалі байцы.

І Андрэй яшчэ раз акінуў позіркам гэтага маладога вандроўніка-спевака.

А спявак, натхнёны ўвагаю прысутных, задушэўным, мяккім барытонам заканчваў:

За станки, гражданин, на заводы,
Будет мир, как врагов победим,
И не вырвут буржуи свободы,—
Мы умрем, но ее не дадим.

Запляскалі далоні, затупалі ногі... Антон Шчыгельчык стаяў з талеркамі ў руках, разявіўшы рот, крыху спалоханы, і не ведаў, што рабіць. Потым падышоў да спевака і, нахіліўшыся да вуха, сказаў:

— Мне-та, галубчык, нічога... Спявай на здароўе... Але каб чаго з гэтага... разумееце?

І паляпаў спевака па плячы.

Здавалася, што ўсе ведаюць, што мае сёння быць... З вуліцы, недзе здалёк, час ад часу далятаюць ужо гукі гармоніка. Пятрусь дзейнічае. Ён сядзіць на скрыжаванні вуліц на тратуарчыку, як на парозе хаты, і расцягвае свой гармонік. Побач, пры ім, ляжыць шапка-вушанка дагары дном. Русыя прыгладжаныя валасы і бровы прыбраліся ў іней, і Пятрусь выглядае, як прывід зімою на лясной дарозе. Ён нахіліў свой натхнёны аднавокі твар над гармонікам, з якога льюцца лірычныя гукі, даходзяць да кожнага сэрца на гэтай шумлівай плошчы, апавітай шызаю смугой. І ўся плошча сягоння яму, Петрусю, падуладнае мора... Яно калышацца, бурліць, клякоча... Незлічоныя світкі, кажухі, лапці, шапкі, хусткі... Пятрусь ведае, чаму іх так многа сягоння, і яго сэрца цераз край поўна радасці і адвагі. І душой прыпадае Пятрусь да свайго гармоніка. А яго ўжо абступіла многа, многа... Стаяць, слухаюць, кідаюць яму грошы ў шапку і разыходзіцца не хочуць. Ладна іграе аднавокі, выставіўшы сваю нагу-драўляшку, і людзей усё больш і больш збіраецца вакол Петруся. А Пятрусь не толькі іграе, але і спявае. І нейкая песня харошая, бярэ за душу. Звесіўшы сваю галаву з заінявелым касячком валасоў на лбе, Пятрусь натхнёна кідае словы сваёй песні ў натоўп:

...Солдаты в снегах замерзали
В широкой донецкой стране...

І на поўныя грудзі ўзвышае голас Пятрусь:

Отвагой врагов побеждали
В великой гражданской войне...

Гарачыя кроплі падаюць на сэрца Петрусю, інваліду грамадзянскай вайны. Пятрусь не жартуе песняй. Засталася слава ўдалая далёка-далёка, там, дзе імчыць свае шырокія воды Волга, вялікая руская рака... Хай жа слухае людское мора песню Петруся...

И с громом царицынской славы
Пути пролегли храбрецов...

І зноў натхнёна ўзвышае голас Пятрусь, прыпадаючы да гармоніка:

От Волги до польской Варшавы
Походами красных бойцов...

Не збылося, Пятрусь, не збылося... Але засталася песня. Кідай жа яе ў гэты натоўп сярмяг, каб збылося. Сэрцы б'юцца пад сярмягамі, слухаючы цябе. Яны прагнуць песні, ловяць яе на ляту, ціснуцца да цябе, працягваюць рукі, каб аддзякаваць мастаку-паэту,— кідаюць падзяку ў тваю шапку-вушанку. Вось нават стары Міхал, каваль, прабіраецца да цябе, здаецца, сваёй сівой барадою расчышчае сабе дарогу, усміхаецца і гаворыць ідучы:

— Ах... каб ты скіс... каб ты скіс, Пятрусь... як ты добра...

І сярэбраная залатоўка падае ў шапку з рукі старога Міхала.

Але зараз трэба будзе канчаць. На процілеглым баку, на рагу стаў паліцыянт з вінтоўкай і штосьці паводзіць вачыма над натоўпам, як быццам каго шукае. Можа б і знайшоў, але Пятрусь раптам пачуў над сваёй галавою ўскрык: «Таварышы!» І людскі гоман пачаў заціхаць, як далёкі рокат марскіх хваль...

«Таварышы!» — паўтарыў яшчэ раз Антон Ткачук. І ў гэты ж момант у руках Дзям'яна Гарагляда над натоўпам узвіўся чырвоны сцяг, а на ім зазіхацелі залатымі літарамі словы: «Няхай жыве Савецкі Саюз — бацькаўшчына працоўных! Няхай жыве Савецкая Беларусь, Савецкая Украіна і Савецкая Польшча!» І стала ціха, як быццам усё замерла на свеце...

Узвіўся другі сцяг у руках Аляксея Вераса і на ім: «Прэч фашысцкі ўрад Пілсудскага! Няхай жыве рабоча-сялянскі ўрад! Далоў белы тэрор! Вызваліць арыштаваных палітзняволеных з турмаў!

Няхай жыве камуністычная партыя!»

Ціха... Толькі пакалыхваюцца шырокія палотнішчы сцягоў, іх чырвань адбіваецца на тварах. Як вокам глянуць мора шапак, хустак перамяшалася, застыла ў цішыні... Усе прагна ўпіваюцца вачыма ў сцягі, у словы... і слухаюць... Нехта гаворыць зычным голасам: «...Савецкі Саюз — бацькаўшчына працоўных усяго свету... Савецкі Саюз — сонца народаў...»

Паліцыянт, што стаяў на процілеглым рагу, збялеў... А словы Ткачука разлягаліся: «Мы адкажам на разгром Грамады паходам да староства, мы патрабуем вызвалення арыштаваных... вызвалення з турмаў нашых братоў і сясцёр, нашых барацьбітоў за народную справу...» А потым заклік за заклікам кідаліся ў натоўп. Кідаў іх не адзін Ткачук, кідаў яшчэ і яшчэ нехта... І тады грамавое «ўра» напоўніла наваколле... З дрэваў за царкоўнай агарожай пасыпаўся іней... Грымнуў «Інтэрнацыянал»... Андрэй даў знак — у паход! Але тут перагарадзілі дарогу чалавек дваццаць паліцыянтаў на чале з павятовым камендантам. Камендант узняў руку і крыкнуў: «Чаго крычыце? Чаго хочаце? Разыдзіся!» З натоўпу адказалі: «Хочам хлеба, зямлі!.. Прэч асаднікаў! Прэч акупантаў!» Камендант ткнуў пальцам на сцягі і загадаў: «Забраць гэтыя анучы!» — і ў суправаджэнні некалькіх паліцыянтаў пайшоў у камендатуру.. Натоўп стаяў шчыльнай, самкнутай сцяною. А аднекуль, як з-пад зямлі, чуліся словы: «Шчыльней рады!.. Шчыльней рады!..» Камендант пастарунка, тонкі, сухаваты, са смуглым тварам, стрэліў і прабіў адзін сцяг. Некаторыя, як па камандзе, імгненна прыселі і тут жа выпрасталіся, а Дзям'ян Гарагляд узняў прастрэлены сцяг яшчэ вышэй. Натоўп стаяў цеснай, самкнутай, нерухомай сцяною. Камендант наважыўся ўласнаручна адабраць сцягі і пачаў праціскацца праз натоўп, але магутны ўдар Арцёма Світкі некуды пад казырок каменданту засляпіў яму вочы, і ён, трымаючыся за лоб, памкнуўся як мага хутчэй назад, а ўслед грымнуў крык сотняў галасоў: «Прэч, каты!» А голас як з-пад зямлі ўсё заклікаў: «Шчыльней рады!.. Шчыльней рады!..» Яшчэ два стрэлы прагучалі над натоўпам... Але ўжо іх ніхто не спалохаўся...

Ускалыхнуліся сцягі. Дэманстрацыя пачалася. Але тут усе ўбачылі, як адзін з паліцыянтаў, выйшаўшы насустрач натоўпу, лёг брухам на брук. Перад сабою паклаў ручны кулямёт. Дэманстранты ішлі. Ужо і песня ўзвілася аж пад неба, на матыў «Смело, товарищи, в ногу»:

Годзе, мы доўга цярпелі,
Доўга хадзілі ў ярме,
Кроўю зямлю палівалі,
Сотнямі гнілі ў турме...

Кулямёт застракатаў... А нехта ўсё паўтараў: «Шчыльней рады!.. Шчыльней рады!..» Дэманстранты ішлі далей. Кулямёт застракатаў другі раз, і ў першых радах зрабілася замяшанне. Нехта ўпаў... Дзе хто пачаў уцякаць у бакавую вуліцу. Людзі спыніліся.

«Шчыльней рады!» — яшчэ раз заклікаў голас. Андрэй зразумеў, што зараз паліцыя можа адабраць сцягі, і крыкнуў: «Авангард! Не даць сцягоў!» І сто пяцьдзесят камуністаў цесна акружылі сцягі... Андрэй толькі пачуў стракатанне кулямёта і паспеў убачыць, як упаў Ілья Рамановіч, а за ім Антон Ткачук, раскінуўшы рукі... А потым хваля людская рванула яго некуды ўбок і панесла, і панесла... Не аддаць ужо сцягоў, Арцём Світка цяжка дыхае над Андрэем і падымае яго з зямлі. Чуўся аддалены цокат капытоў — гэта конная паліцыя пайшла ў атаку з шаблямі нагала...

— Некалькі забітых,— кажа Світка.

— Ведаю,— панура адказвае Андрэй.

* * *

Пастарунак. Штохвілінна звініць тэлефон. На падлозе супроць дзвярэй покатам ляжаць арыштаваныя. Сярод іх Андрэй. Побач сядзіць Дзям'ян Гарагляд... Пракляты конь... Каб не конь, то можа ўцёк бы і Дзям'ян. Яго конь спалохаўся стрэлаў, адарваўся ад саней і пабег па вуліцы, а за ім з дугою ў руцэ бег Дзям'ян. І тут затрымаў яго той жа пан Чарапіцкі, напхаў яму сілком лістовак у кішэню і павёў у пастарунак. Ах, добра, што хоць сцяг, той прастрэлены сцяг, удалося перадаць Любе. Чорт з імі, што наклалі ў бакі каты. Абы сцяг... Дзяжурны паліцыянт, не ваяўнічага выгляду, разбірае на стале вялікую кучу пакамечаных лістовак, раскладае іх па мовах — на рускай, беларускай, яўрэйскай, польскай — кожную паасобку. Шмат лістовак акрываўленых. Паліцыянт выняў недзе з

самага дна невялікую кіпу нераскіданых лістовак, усю залітую крывёю, і сам сумеўся... Глянуў на арыштаваных і сказаў:

— Бачыце,— гэта кроў беларуская... Зямлі хочаце... Паўстанне... Зарана вы гэта пачалі...

Усе арыштаваныя панура паглядзелі на гэтую кіпу і апусцілі вочы. Толькі Дзям'ян Гарагляд зашаптаў сам сабе: «Каб вы падавіліся ёю...»

Дзверы адчыніліся са скрыпам, і паліцыянт з крывымі нагамі ад верхавой язды ўпхнуў у пакой маладую жанчыну ў доўгім кажусе і паказаў на куток ля дзвярэй: «Стой тут...» Вось гэты паліцыянт страляў з кулямёта. Трэба яго добра запомніць... Андрэй прыгледзеўся да жанчыны і пазнаў у ёй... Ганну Каравай з Навасадаў, у якой у свой час спыняўся Паддубны і бываў Андрэй з Савам Супруном і Вацлавам Санкоўскім. Як жа здалёк прыехалі людзі!

Ганна праз некаторы час пазнала Андрэя. Усміхнулася і заплакала.

Увайшоў староста Наўроцкі ў суправаджэнні павятовага каменданта і паліцыянтаў. Прыняў рапарт ад дзяжурнага і пачаў разглядаць арыштаваных, а затым пытацца: «Адкуль?.. Адкуль?.. Адкуль?..»

Дайшоўшы да Андрэя, змераў яго вачыма і сказаў:

— А-а-а... Запалянка... Камуністычнае гняздо...

І раптам, зірнуўшы налева ў куток, амаль ускрыкнуў:

— А кабета чаго тут?

Ганна пачала тлумачыць, што яна прыехала купіць парася...

— А крычала — ура?

— Я думала, што ловяць злодзея і крычаць. Ну, і я крычала: «Вара́!» — схітрыла Ганна.

Староста аж пырснуў смехам.

Праз гадзіну Ганна была вызвалена.

...Трое сутак пакут у пастарунку... Вобыскі, допыты... І на трэція суткі ўвечары зазвінелі кайданы. Андрэя скавалі з Дзям'янам Гараглядам.

Аўтобус з арыштаванымі імчаў шасейнаю дарогай на станцыю, мінаў пералескі, паляны. Ціха церусіў снег...

Поезд на маленькай станцыі ўжо стаяў падрыхтаваны. Паравоз ціхенька сіпеў, нібы адпачываючы. Цьмяна леглі на перон праменні ліхтароў. А там за поездам, як за сцяною, у мутнай завейцы чуўся густы шум лесу.

Скаваныя пара за парай праходзілі праз пусты ва-

зал і садзіліся ў вагоны. Аказваецца, поезд ужо быў поўны арыштаванымі.

Андрэй праходзіў пад канвоем амаль праз увесь вагон і вітаў таварышаў тымі самымі словамі, якія разлягаліся над дэманстрантамі: «Шчыльней рады!.. Шчыльней рады!..»

Больш трохсот арыштаваных імчаў поезд на захад і на захад, а разам з ім урывалася ў ноч, у завіруху песня, якую нельга забіць:

Мы — кузнецы, и дух наш молод,
Куем мы счастия ключи-и-и...

А колы поезда нібы выстуквалі ўслед: «Шчыльней рады!.. Шчыльней рады!..»

# КАМЕНТАРЫІ

У другі том Збору твораў Піліпа Пестрака ўваходзіць першая кніга гісторыка-рэвалюцыйнага рамана «Сустрэнемся на барыкадах». Другая кніга змяшчаецца ў трэцім томе. Раман «Сустрэнемся на барыкадах» быў напісаны Піліпам Пестракам на працягу 1948—1952 гг.

Друкуецца па тэксту апошняга прыжыццёвага выдання (Зб. тв. у 4-х тамах. Мінск. «Беларусь», 1970. Т. 2. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Кніга першая) з наступнымі праўкамі па час. «Полымя», 1949, №№ 9, 10.

С. 13, радок 1: «крывавых» *замест* «крывых»
С. 21, радок 1: «— Не рушыць з месца!» *замест* «— Не рушаць з месца!»
С. 39, радок 19: «З ім» *замест* «з імі»
С. 199, радок 13: «друга» *замест* «другога»
С. 230, радок 5: «крыкі» *замест* «крокі»
С. 272, радок 44: «няздарма» *замест* «няздарна»
С. 387, радок 9: «сваёю» *замест* «сваю»
С. 410, радок 31: «разразіцца» *замест* «разгразіцца»

Упершыню апублікавана ў час. «Полымя», 1949, №№ 9, 10.

Першае асобнае выданне кнігі — у 1951 годзе: Піліп Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Кніга першая. Мінск. Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

У 1954 годзе выйшлі першая і другая кнігі рамана: Піліп Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

Разам абедзве кнігі рамана друкаваліся ў 1961 годзе: Піліп Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Кнігі першая і другая. Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

Гэтыя прыжыццёвыя выданні з'явіліся адзінымі крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту.

Пры чарговым перавыданні першай кнігі рамана тэкст яго амаль не змяняўся аўтарам.

У архіве сям'і Піліпа Пестрака рукапісы і машынапісы рамана не захаваліся, апрача наступных матэрыялаў:
I. Машынапіс на беларускай мове з адзінкавымі праўкамі фіялетавым чарнілам. На тытульным лісце надпіс: «Частка другая. г. Мінск, 1950 г.». У канцы напісана: канец першай кнігі. Пачынаецца машынапіс з 103 старонкі. Усяго 203 старонкі.
II. 1) Машынапіс рамана «Сустрэнемся на барыкадах» на рускай мове, са значнымі праўкамі аўтара. Аўтарызаваны пераклад з беларускага Паўла Кабзарэўскага. У пачатку машынапісу дата: 1953 год, якая закрэслена Піліпам Пестракам. Пяць частак, кожная падзелена на главы. У канцы дата: 1948—1952 гг.
2) Чыставы машынапіс, перадрукаваны з машынапісу з праўкамі аўтара. У канцы дата: 1948—1952 гг. Пяць частак, падзелены на главы.
III. 1) Рукапіс на рускай мове, напісаны рукою Піліпа Пестрака.
«Киносценарий «Встретимся на баррикадах» по одноименному роману Филиппа Пестрака. 1-я серия и 2-я серия (181 с.) (161 с.). Автор сценария Филипп Пестрак».
2) Машынапіс на рускай мове, перадрукаваны з рукапісу. «Авторы сценария: I серии Ф. Пестрак
II серии Подорожный»
IV. 1) Рукапіс п'есы «Пад зорамі» (на беларускай мове). На першай старонцы напісана: «Карціны народнай барацьбы ў 3-х дзеях, 5-ці карцінах. Падзеі адбываюцца ў былой Заходняй Беларусі пад акупацыяй буржуазна-памешчыцкай Польшчы ў часы партызанскага руху — у гады 1924—1925».
П'еса напісана па матывах кнігі аўтара гэтай п'есы «Сустрэнемся на барыкадах». 1967—1969 гг. (109 с.)
2) Машынапіс п'есы «Пад зорамі» на беларускай мове (83 с.).
3) Рускі тэкст машынапісу п'есы «Под звездами» з нязначнымі праўкамі, пераклад аўтара. На першай старонцы надпіс: «Картины народной борьбы в 3-х действиях 10 картинах». Прысвечана п'еса пяцідзесяцігоддзю Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (пяць экземпляраў).

* * *

С. 48. *...праззалі пана пляцовага «Глюгам».* Глюга — дзюба ў драпежных птушак. Тут ужыта ў пераносным сэнсе.
С. 50. *Прапаршчык* — ніжэйшы афіцэрскі чын у царскай арміі.
С. 55. *ППС* — Буржуазна-нацыяналістычная «Партыя польскіх сацыялістаў».
С. 58. *Пелюсць* — уступ, уваход у печ, чэлюсці.
С. 125. *Солтыс* — сельскі стараста.
С. 235. *«Стралец»* — ваенна-фашысцкая арганізацыя ўзброенай моладзі.
С. 266. *МОПР* — Міжнародная арганізацыя дапамогі змагарам рэвалюцыі. Створана ў канцы 1922 года на аснове рашэння 4-га кангрэса Камінтэрна для абароны працоўных ад белага тэрору і дапамогі яго ахвярам. Аказвала матэрыяльную, юрыдычную, маральную падтрымку палітычным вязням і іх сем'ям, сем'ям загінуўшых рэвалюцыянераў — незалежна ад іх партыйнай прыналежнасці. З пачатку другой сусветнай вайны 1939—1945 гг. дзейнасць МОПРа ў міжнародным маштабе спынілася.
С. 268. *Адраджэнне, або Рэнесанс* (франц. *Renaissance),* назва

эпохі ранняга буржуазнага грамадства ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы 14—16 ст., якая характарызуецца высокім уздымам навукі, літаратуры і мастацтва. Назва ўмоўная, звязаная з уяўленнем пра застой грамадства ў перыяд сярэдневякоўя і адраджэнне потым антычнай культурнай спадчыны. На самай справе ў эпоху Адраджэння пачалося стварэнне новай буржуазнай культуры, якая адрознівалася ад старажытнай і ад феадальнай культуры.

С. 268. *Гмінная рада.* Гмінны — які мае адносіны да гміны. Гміна — самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы. Рада — сумеснае абмеркаванне, савет.

С. 295. *«Грамада»* — масавая дэмакратычная рабоча-сялянская арганізацыя ў Заходняй Беларусі.

С. 305. *Апартунізм* (франц. *opportunisme* — прыстасавальніцтва, згодніцтва; ад лац. *opportunus* — зручны), варожая марксізму-ленінізму плынь у рабочым руху, якая сваёй палітыкай і ідэалогіяй імкнецца падпарадкаваць буржуазіі інтарэсы рабочага класа шляхам расколу пралетарскіх партый знутры.

С. 315. *«Сялянская ніва»* — орган Беларускага сялянскага саюза. Буржуазна-нацыяналістычная газета. Выдавалася ў Вільні ў 1925—1930 гг.

С. 339. *Цадык* — рэлігійны кіраўнік яўрэйскай секты (хасыдызм), якога часта лічылі цудатворцам і акружалі павагай.

С. 341. *Бундавец* — прадстаўнік Бунда. Бунд (ад яўр. *Bund* — саюз) — нацыяналістычная дробнабуржуазная апартуністычная арганізацыя, якая аб'ядноўвала паўпралетарскія слаі яўрэйскіх рамеснікаў заходніх абласцей Расіі. Заснаваны ў верасні 1897 года ў Вільні. Бунд быў носьбітам нацыяналізму і сепаратызму ў рабочым руху, імкнуўся сумясціць ідэі сіянізму з сацыял-дэмакратыяй. На ўсіх этапах дзейнасці змагаўся супраць бальшавізму. У Заходняй Беларусі, як і ва ўсёй буржуазнай Польшчы, бундаўцы раскалвалі адзінства рабочага руху, супрацоўнічалі з ППС, змагаліся супраць КПЗБ.

*Тора* (старажытнаяўрэйскае «вучэнне», «закон»), або Пяцікніжжа Маісея. У цэнтры Торы — канцэпцыя «богавыбранасці» яўрэяў.

С. 351. *Чарнасоценец* — у царскай Расіі член адной з рэакцыйных арганізацый «Саюз рускага народа», «Саюз Міхаіла Архангела» і інш., пагромшчык-рэакцыянер.

С. 361. *Асаднік* — у перыяд з 1920 па 1939 г. польскі ўрадавы пасяленец-каланіст на заходнебеларускіх, пераважна пагранічных, землях.

С. 366, *Дэфензіва* — у панскай Польшчы орган тайнага паліцэйскага нагляду.

С. 367. *«Довуд особісты»* — пашпарт.

С. 375. *Крагі* — накладныя халявы са скуры.

С. 417. *Пастарунак* — паліцэйскі ўчастак у буржуазнай Польшчы.

*К. В. Піліповіч*

* * *

Раман «Сустрэнемся на барыкадах» займае цэнтральнае месца ў творчасці Піліпа Пестрака, з'яўляецца прыкметнай з'явай у бе-

ларускай савецкай літаратуры. Гэта шырока эпічны твор пра заходнебеларускую рэчаіснасць, пра рэвалюцыйнае змаганне народных мас за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Беларуская літаратура мае значныя традыцыі ў адлюстраванні жыцця былой Заходняй Беларусі. Яшчэ рэвалюцыйная і дэмакратычная заходнебеларуская паэзія (М. Танк, В. Таўлай, У. Жылка, М. Васілёк, М. Машара, А. Салагуб, М. Засім і інш.) выявіла дух свайго часу, імкненні і мары прыгнечанага люду. Вострай патрэбай адлюстраваць гераічнае і цяжкае жыццё беларускага народа пад уладай польскіх паноў, неабходнасцю асэнсаваць яго лёс у адзін з пераломных, складаных і няпростых момантаў гісторыі былі народжаны ў пасляваенны час паэма «Рыбакова хата» Я. Коласа, празаічныя творы Я. Брыля (шматлікія апавяданні і такія буйныя творы, як раман «Птушкі і гнёзды», незакончаны раман «Граніца», аповесць «Ніжнія Байдуны»), раманы «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі», «Лукішкі» М. Машары, «Падвышанае неба» В. Каваленкі, «Чужая бацькаўшчына» і «Год нулявы» В. Адамчыка, «Крык на хутары» Г. Марчука і інш. Кожны з пісьменнікаў выявіў уласны падыход пры раскрыцці гэтай тэмы, сказаў сваё слова пра жыццё ў былой Заходняй Беларусі.

Якуб Колас у лісце да Піліпа Пестрака пісаў: «Раман «Сустрэнемся на барыкадах», бясспрэчна, здабытак нашай нацыянальнай беларускай літаратуры. Напісаўшы гэты раман, аўтар здабыў права думаць аб сабе, як аб пісьменніку, у якога ёсць *свой*, асаблівы стыль, *свая* пісьменніцкая манера, *свой* пісьменніцкі голас. Гэта — удача пісьменніка. Шмат мясцін рамана прычароўваюць чытача *сваею* свежасцю, *сваім* успрыяццем жыцця і мнагалучнай рэчаіснасці» [1].

Характэрную асаблівасць гэтай кнігі адзначыў Максім Танк: «Але і тады, калі больш з'явіцца такіх твораў, напісаных, можа, з большым майстэрствам, раман Піліпа Пестрака будзе вылучацца, як заўсёды вылучаецца апавяданне непасрэднага ўдзельніка падзей ад апавядання з другіх вуснаў ці з нечых успамінаў. У першым выпадку заўсёды ёсць нешта больш пераканаўчае ў кожным слове, нешта больш глыбокае і непаўторнае ў гучанні ўсяго твора» [2].

Раман П. Пестрака ў свой час добразычліва і прыхільна быў сустрэты Аляксандрам Фадзеевым. Ён пісаў, што «ў цэлым гэта вельмі ясны, чысты твор вялікай выхаваўчай і пазнавальнай сілы», звярнуў увагу на форму рамана і на яго вобразы. «А галоўная вартасць рамана ў тым,— заўважыў А. Фадзееў,— што ў ім дадзены цудоўныя вобразы людзей з народа» [3].

Высокую ацэнку атрымаў раман у беларускай крытыцы. Асобным выданнем выйшла кніга К. Р. Хромчанкі «Піліп Пестрак. Жыццё і творчасць» (1960), дзе шмат месца адведзена аналізу гэтага твора. У 50-я гады на раман П. Пестрака з'явіліся ў перыядычным друку добразычлівыя рэцэнзіі і артыкулы А. Есакова [4], А. Крайко [5],

---

[1] Літаратурны музей Якуба Коласа. Рукапісны фонд, Р—267, КП 383.

[2] Танк М. Зб. тв.: У 6-ці т. Мн.: Маст. літ., 1981, т. 6, с. 431.

[3] Фадеев А. Собр. соч.: В 7-ми т. М.: Худож. лит., 1971, т. 7, с. 475.

[4] Гродзенская праўда, 1952, 17 лют.; Полымя, 1952, № 5.

[5] Звязда, 1952, 16 крас.

Д. Палітыкі [1], А. Мальдзіса [2], Я. Герцовіча [3] і інш. Я. Міско, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў былой Заходняй Беларусі, пісаў: «Сіла і значэнне рамана Піліпа Пестрака заключаецца перш за ўсё ў тым, што аўтар глыбока раскрыў унутраныя законы класавай барацьбы, паказаў духоўнае аблічча людзей з народа — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху, іх маральную перавагу над ворагамі свабоды» [4]. Я. Казека зазначыў: «Несумненнай заслугай П. Пестрака з'яўляецца тое, што ён упершыню ў беларускай літаратуры з дастатковай мастацкай пераканальнасцю і абгрунтаванасцю паказаў цяжкі шлях выпрабаванняў, пакут і перамог, які прайшлі працоўныя Заходняй Беларусі, змагаючыся за ўз'яднанне ў адзінай Савецкай дзяржаве,— паказаў гісторыю жыцця і барацьбы народа за дваццаць год белапольскай акупацыі» [5]. Артыкулы пра творчасць П. Пестрака, дзе разглядаўся раман «Сустрэнемся на барыкадах», з'явіліся ў перыядычным друку і ў навуковых выданнях 60—70-х гадоў [6].

Шчыра, глыбока і пранікнёна сказаў пра творчасць П. Пестрака Міхась Стральцоў. Падкрэсліваючы, што пісьменнік ніколі не быў сузіральнікам, што ў пестракаўскім захапленні заўсёды адчувальна праглядвала здаровая, народная аснова этыкі і прыгажосці, М. Стральцоў пісаў: «Кампазіцыйныя пралікі, нарысавасць можна знайсці ў Пестрака, а вось ужо ў схільнасці да паўзучага эмпірызму яго не абвінавоціш. Пестрак умеў без усялякай натугі апаэтызаваць побыт, адчуць у рэчы прысутнасць чалавека. Мне падабаецца такі рэалізм, бо ён шырокага дыхання, ён ад цэльнасці погляду на свет» [7].

Шэраг цікавых і слушных думак было выказана пры абмеркаванні рамана ў час Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве (1955) У. Іванавым, З. Кедрынай, І. Сярэбраным, П. Шабуніным, А. Мар'ямавым, М. Златагоравым. У іх выступленнях падкрэслівалася, што вялікай удачай пісьменніка быў створаны ў кнізе калектыўны партрэт народа. Адначасова адзначалася кампазіцыйная рыхласць твора і злоўжыванне публіцыстычнымі ўстаўкамі, ілюстрацыйнае апісанне ўчынкаў герояў, а не іх індывідуальных пачуццяў і роздуму. В. Ажаеў у заключным слове адзначыў, што «гэта — кніга вялікай эмацыянальнай сілы, поўная горычы, гневу, любові да народа і гонару за яго» [8].

---

[1] Звязда, 1954, 7 ліп.; Літ. і мастацтва, 1954, 30 кастр.

[2] Літ. і мастацтва, 1954, 11 верас.

[3] Полымя, 1955, № 6.

[4] Калгасная праўда, 1952, 9 ліп.

[5] Літ. і мастацтва, 1954, 8 мая.

[6] Куляшоў Ф. Піліп Пестрак як раманіст. У яго кн.: Эцюды аб прозе. Мн.: Беларусь, 1964, с. 60—102. Гурэвіч Э. С. Раман і аповесць перыяду Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага часу. У кн.: Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць. Мн.: Навука і тэхніка, 1971, с. 272—276; Майсейчык А. А. Рэгіянальны каларыт рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». У кн.: Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Гомель, 1973, с. 100—102; Юрэвіч Уладзімір. Будуць новыя сустрэчы. Полымя, 1973, № 10 і інш.

[7] Літ. і мастацтва, 1978, 17 лістап.

[8] Декада белорусского искусства и литературы в Москве. Мн.: Гос. изд.-во БССР, 1955, с. 338.

Створаны ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў, раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» шмат у чым блізкі напісаным у пасляваенныя гады такім раманам, як «Векапомныя дні» М. Лынькова і «Мінскі напрамак» І. Мележа, якія таксама вызначаюцца панарамнасцю, эпічнасцю, шырынёй ахопу падзей, багаццем жыццёвага матэрыялу, вялікай колькасцю персанажаў. «Больш таго, сёння,— як слушна заўважае С. А. Андраюк у пасляслоўі да рамана «Мінскі напрамак» І. Мележа,— ужо зусім выразна акрэсліліся і пэўныя агульныя недахопы, уласцівыя гэтым творам: захапленне падзеямі, недастатковая псіхалагічная распрацаванасць характараў, сюжэтна-кампазіцыйная нескампанаванасць, значная апісальнасць» [1].

Нягледзячы на асобныя недахопы, гэтыя творы сталі прыкметным набыткам беларускай савецкай літаратуры, што, бясспрэчна, абумоўлена шмат у чым таксама і актыўнасцю грамадзянскай пазіцыі іх аўтараў.

Вызначаючы форму твора, А. Фадзееў пісаў: «Такія раманы, як Ваш, звычайна называюць «раманам-хронікай», паколькі гістарычныя падзеі ў ім падаюцца ў паслядоўнасці таго, як яны адбываліся (гэта не выключае, вядома, мастацкай выдумкі),— падзеі не аб'яднаныя якой-небудзь спецыяльнай фабулай. З другога боку, гэта «раман-біяграфія», паколькі ў цэнтры яго знаходзіцца, так сказаць, скразны «лірычны» герой, якога мы не павінны атаясамліваць з аўтарам, але ўсё ж павінны памятаць, што праз яго і людзей, якія яго акружаюць, выказана нямала перажытага самім аўтарам. Такім чынам, гэта адначасова раман-хроніка і раман-біяграфія» [2].

Па-за ўвагай аўтара, здаецца, не засталася ніводная значная падзея з жыцця міжваеннай Польшчы: партызанская барацьба ў першай палове 20-х гадоў, грамадоўскі рух, фашысцкі пераварот Пілсудскага ў 1926 годзе, Косаўская дэманстрацыя, забастоўка лясных возчыкаў Слонімшчыны, Кобрынскае паўстанне, рэвалюцыйныя выступленні рабочых Львова, Кракава і Беластока, народнафрантавы рух і г. д.

П. Пестрак выявіў каларыт і характэрныя адзнакі таго часу. Пра што б ён ні пісаў (пра вясковае жыццё ці турэмны побыт), у цэнтры ўвагі заўсёды застаюцца лёс прыгнечанага роднага краю і рэвалюцыйная барацьба працоўных. З горыччу і болем расказвае пісьменнік пра тое, як рабавалася і прадавалася замежным фірмам багацце зямлі беларускай — лес. Значна таннейшымі за прамысловыя вырабы былі сельскагаспадарчыя прадукты. Не хапала солі, запалак, тытуню. Цяжкасці эканамічнага крызісу з асаблівай сілай адбіваліся на простым людзе. Селянін быў абкладзены шматлікімі падаткамі, яго штрафавалі за самую нязначную, а часам і недарэчную дробязь. Аднаго вясковага дзядзьку аштрафавалі толькі за тое, што ў гутарцы з паліцыянтам слова «трава» ён вымавіў на псеўдапольскі манер — «тшáва». Штрафы сыпаліся на бедную галаву працаўніка «то за комін, то за сметнік, то за сабаку, то за дзіравы плот, то за тое, што няма дошчачкі на сцяне хаты з прозвішчам гаспадара».

Каб раз'яднаць сялян у палітычнай барацьбе і ўзмацніць у іх

[1] Мележ І. Зб. тв.: У 10-ці т. Мн.: Маст. літ., 1981, т. 4, с. 523.
[2] Фадеев А. Собр. соч.: В 7-ми т. М.: Худож. лит., 1971, т. 7, с. 475—476.

пачуццё ўласніка, на заходнебеларускіх землях гвалтоўна праводзілася хутарызацыя. Народ выступаў супраць каланізатарскай палітыкі буржуазнага ўрада на так званых «крэсах усходніх», адстойваў сваю мову і культуру. У вёсцы Запалянка дзейнічае падпольная беларуская школа. Сяляне спальваюць клуб, які польская ўлада выкарыстоўвала для паланізацыі мясцовага насельніцтва. Галоўны герой Андрэй Касцевіч адмаўляецца працаваць у дзяржаўнай установе, што значыла для яго здрадзіць радзіме, людзям, тым ідэалам, за якія ён змагаўся. А былі і такія (Падаляка, Кананец), што супрацоўнічалі з уладай.

Раман ахоплівае вялікі прамежак часу: ад пачатку 20-х гадоў да канца 1939 года. У ім каля двухсот дзеючых асоб. Прозвішчы некаторых з іх (Пілсудскі, Славой-Складкоўскі, ваявода Даўнаровіч, дырэктар віленскай беларускай гімназіі Астроўскі, адвакат Дурач і інш.) пісьменнік падае без змянення. Большасць герояў мае рэальных прататыпаў: Саша Грынявіцкі — С. О. Прытыцкі, Сцяпан Каваль — Кірыла Арлоўскі, Іван Паддубны — камуніст з Пружаншчыны Дубовік, Карэльчук — правакатар Стральчук, Шчурын — здраднік Гурын-Маразоўскі і інш. Мелі сваіх прататыпаў Дзям'ян Гарагляд, Анупрэй Чарняк, Нічыпар Байдак, попік Чадзюк, Апанас Хмель, Віктар Кухта. Асновай для многіх эпізодаў паслужылі канкрэтныя гістарычныя факты. Пазнаецца таксама месца дзеяння рамана: мястэчка Глушэц і яго ваколіцы — Косава і вёскі Пружаншчыны, родныя мясціны пісьменніка; турмы — Пружанская, Гродзенская і віленскія Лукішкі. Вобраз галоўнага героя Андрэя Касцевіча шмат у чым аўтабіяграфічны. Пісьменнік прызнаваўся: «Гэты вобраз «из дальних и близких странствий»... Нешта я браў ад рускага студэнцкага рэвалюцыйнага руху, нешта ад сваіх сяброў, нешта ад сябе» [1].

А. Фадзееў пісаў, што форма твора мае сваю спецыфіку. Трэба пры гэтым асцерагацца таксама штучнай «белетрызацыі» і апісальнасці. Ён заўважыў, што П. Пестрак не адразу для сябе вызначыў жанрава-кампазіцыйную структуру твора. Раман набывае сваю форму толькі ў другой частцы. І таму другая частка, піша А. Фадзееў, атрымалася лепшай і цікавейшай, хоць і ў ёй часам ёсць празмерная расцягнутасць ці дэталізацыя.

У аснову сюжэта рамана пакладзены жыццёвы шлях галоўнага героя Андрэя Касцевіча. Гэта мужны, мэтанакіраваны і самаадданы змагар за народнае шчасце. Але, думаецца, крытыка не без падстаў гаварыла і пра статычнасць вобраза Андрэя Касцевіча, яго недастатковую псіхалагічную індывідуалізацыю. Безумоўна, Андрэй Касцевіч быў народжаны сваім суровым і неспакойным часам. У ім увасобілася аўтарскае разуменне рэвалюцыянера як чалавека рэдкага, незвычайнага, ахутанага нават рамантычнай таямнічасцю. Андрэй увесь час жыве думкай аб еднасці з народам. Ён, адукаваны, інтэлігент, асцерагаецца ўзвышэння над простымі людзьмі, каб не быць ім чужым, адначасова не прымае і панібрацтва, якое можа яго прынізіць у вачах тых жа вясковых хлопцаў і дзяўчат.

Андрэй часам бывае пафасны і рытарычны. Але яго вобраз, асабліва ў пятай і шостай заключных частках кнігі, становіцца ўсё больш праўдзівым і жыццёвым, набывае ўсё большую індывідуалізацыю і псіхалагізацыю. У першай кнізе часцей за ўсё паказваліся дзеянні і ўчынкі Андрэя, у другой жа ў большай ступені пад-

---

[1] Полымя, 1972, № 11, с. 225.

ключаюцца яго думкі, перажыванні. Пісьменнік знаходзіць і новыя сродкі для раскрыцця вобраза галоўнага героя.

Удалым уяўляецца прыём, калі П. Пестрак увёў у кнігу дзённікавыя запісы Андрэя. У дадзеным выпадку ўзмацніўся лірычны, асабісты пачатак, а праз гэта паглыбілася і выяўленне жыцця.

Наўрад ці можна лічыць творчай удачай вобраз Івана Паддубнага. Паводле заўвагі А. Фадзеева, Паддубны ўспрымаецца толькі як выразнік палітычнага светапогляду, а не як жывы чалавек. Яго пісьменнік не столькі паказвае, колькі расказвае аб ім. Некалькі схематычнымі і просталінейнымі з'яўляюцца адмоўныя персанажы, праўда, асобныя з іх (Мікіта Лазун, сальнік Карнікевіч) атрымаліся цікавымі і запамінальнымі.

У свой час крытыка папракала П. Пестрака за пэўную сюжэтна-кампазіцыйную нескампанаванасць твора. Сапраўды, пісьменніку не заўсёды ўдавалася абагульніць вялікі жыццёвы матэрыял, вылучыць у ім істотнае, важнае, што працавала б на ідэю твора.

У рамане прыкладна аднолькавы памер адведзены паказу жыцця 20-х і 30-х гадоў, хоць, думаецца, апошнія гады белапольскай акупацыі і першыя дні пасля вызвалення пададзены некалькі інфармацыйна. Праўда, пры чарговых перавыданнях ён скарачаў апісальныя, празмерна публіцыстычныя мясціны. Твор шмат у чым выйграваў.

Сінанімічна разнастайная і багатая мова твора. Калі ў першадруку часам траплялася моўныя хібы, то ў апошнім прыжыццёвым выданні іх няма. Аднак яшчэ Колас заўважыў, што раман «прапушчан праз нядбайныя рукі рэдактара» [1]. І тады мова, якая з'яўляецца адзнакай творчага стылю мастака, яго манеры пісьма, якая выяўляе асаблівасці, уласцівыя гаворцы заходніх раёнаў Беларусі, становіцца раптам бязлікай, падагнанай да нейкага сярэдняга ўзроўню — стэрэатыпу. У выніку слова «брама» ўсюды замяняецца на «вароты», «прамовіў», «сказаў» — амаль заўсёды на «сказаў», «закратаванае акно» на «акно ў краты», «лекарскі агляд» на «медыцынскі агляд» і г. д.

У рамане П. Пестрак раскрыўся як праніклёны лірык і велічны эпік, узвышаны рамантык і строгі рэаліст, страсны публіцыст і з'едлівы сатырык ці лагодны гумарыст. Ён імкнуўся паказаць жыццё шматгранна і ўсебакова.

Надзвычай разнастайная мастацкая палітра пісьменніка. Узнёсла і пафасна гучаць словы Паддубнага, часта ў гумарыстычна-жартаўлівым плане апісваюцца ўчынкі Апанаса Хмеля, з'едліва сатырычнае ці гумарыстычнае адценне прысутнічае ў паказе Ісэра Цукермана, сына мануфактурнага купчыка, які выдае сябе за марксіста.

Пісьменнік ахвотна звяртаецца да алегорый, сімвалаў. Праўда, частае паўтарэнне асобных з іх, напрыклад, неаднаразовыя ўспаміны пра партрэт Радзішчава ў хаце Андрэя, аслабляе мастацкую змястоўнасць гэтага цікавага вобраза-сімвала.

Раман «Сустрэнемся на барыкадах» — твор эпічны. Аднак у ім моцна выяўлены лірычны пачатак, які адчуваецца, напрыклад, у звароце Сцяпана Каваля да хлопцаў-малойцаў ці ў звароце аўтара да беларускіх лясоў, ва ўзвышана-рамантычным узнаўленні ігры Петруся Хадыкі на скрыпцы. Тут, безумоўна, выявіўся ўплыў

---

[1] Літаратурны музей Якуба Коласа. Рукапісны фонд, Р-267, КП 383.

Пестрака-паэта. Пісьменнік вельмі часта прыводзіць у рамане вершы і песні. Дарэчы, надзвычай змястоўнай атрымалася сцэна, калі вязні пачулі з рэпрадуктара знаёмую з дзяцінства народную песню, якую нечакана абарваў дазорца. Своеасаблівы суровы каларыт стварае рэвалюцыйная песня «Наперад, Брэстчына, на бой, КПЗБ!». Гавораць, песня — душа народа. Яна выяўляе яго радасці, боль, горыч, надзеі, спадзяванні і мары. Песні і вершы ў рамане раскрылі дадатковыя грані ліра-эпічнага таленту Пестрака.

Пісьменнік надзвычай праўдзівы пры паказе жыцця простых людзей. Ён добра ведаў і па-мастацку дасканала перадаў іх побыт, працу. І гэтыя старонкі лепшыя ў кнізе. У іх з незвычайнай сілай праявіўся талент П. Пестрака. У раскрыцці народнай душы, у паказе драматычных і гумарыстычных бакоў жыцця, ва ўменні ствараць жывыя і праўдзівыя малюнкі людскіх узаемаадносін, урэшце, шырынёй ахопу рэчаіснасці, спалучэннем лірычнага і эпічнага пачаткаў, дакладнасцю пейзажных апісанняў П. Пестрак шмат у чым блізкі да Якуба Коласа. Сам жа пісьменнік прызнаваўся, што пры напісанні гэтага твора яму блізкімі былі таксама Гогаль, Горкі, Жаромскі, Ажэшка.

Хоць апавяданне ў рамане і аб'ектывізаванае, але аўтар глядзіць на народ не збоку. Глыбокім і змястоўным атрымаўся вобраз Сцяпана Касцевіча, бацькі Андрэя, па-народнаму мудрага, гордага, мужнага і сціплага чалавека. Лепшыя рысы народнага характару ўвасобіліся і ў вобразе Дзям'яна Гарагляда. Прываблівае Анупрэй Чарняк з яго вясёлым характарам. Ярка індывідуалізаваны жабрак Рыгор Малахай са сваімі ліслівымі і няшчырымі словамі.

У кнізе створаны праўдзівыя малюнкі народнага жыцця, выяўлены арыгінальныя і самабытныя народныя характары. Нагадаем хоць бы апісанні сенакосу, а таксама сходу, калі мясцовая ўлада агітуе сялян за хутарызацыю. Колькі тут цёплага лірызму і ўзрушэння, народнай дасціпнасці і гумару. Пры ўсіх нягодах народ не страчвае здольнасці смяяцца. А калі народ смяецца, то такі народ жыве. Ніякія сілы яго не зломяць.

Асабліва ўдалыя ў кнізе жаночыя вобразы: Надзя Харашэвіч, Гана Каравай, Таццяна Ціханчук, Мар'яна Перагуд. Жанчыны ў кнізе прыгожыя, рослыя, маюць густыя, доўгія косы (адзнакі народнага, нават ідэалізаванага ці фальклорнага разумення жаночай красы).

П. Пестрак піша пра жанчын з любоўю, павагай і пяшчотай. Паказвае, якое вялікае гора і нялюдскія выпрабаванні вынеслі яны на сваіх жаночых плячах. Узяць, напрыклад, Мар'яну, жонку Данілы Перагуда, якога павесілі карнікі. Яна сама арэ поле, гадуе дзяцей. Здзіўленая і захопленая яе жыццём, Надзя гаворыць: «Цяжка табе, Мар'яна. А ты ўсё роўна дзяцей родзіш, гадуеш. Непераможная ты, Мар'яна...» Сапраўды, непераможная, як і сам народ і яго лепшыя прадстаўнікі, што змагаліся за яго шчаслівую будучыню.

Раман «Сустрэнемся на барыкадах» з'яўляецца значным набыткам беларускай савецкай літаратуры, сведчыць пра несумненны талент Пестрака-раманіста, які сказаў пранікнёнае і шчырае слова пра свой народ, паказаў яго складаныя і цяжкія шляхі да шчасця і волі.

*А. Л. Верабей*

## ЗМЕСТ

### Частка першая



### Частка другая

## Частка трэцяя

**Пестрак П.**

П 28 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 2. Сустрэнемся на барыкадах. Раман. Кніга першая.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 430 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 90 к.

Другі том складае першая кніга вядомага рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».

П $\frac{4702120200-130}{М 302(05)-84}$ падпіснoе — ББК 84Бел7 Бел2

*Филипп Семенович Пестрак*

Собрание сочинений в пяти томах

ТОМ 2

ВСТРЕТИМСЯ
НА БАРРИКАДАХ

*Роман*

Книга первая

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар А. А. Сляпцова*
*Мастак Г. Р. Малышаў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Т. В. Трубач*

ІБ № 1918

Здадзена ў набор 06.01.84. Падп. да друку 06.08.84. АТ 06607. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 23,10. Ул.-выд. арк. 25,35. Тыраж 10 000 экз. Зак. 49. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.